# ПЕРАД ЯЕ КРАСОЙ

## *Круглы год — з многіх гадоў*

Іду гасцінцам, які градой узвышаецца над заліўнымі, укрытымі лёдам лугамі.

Лёд пры дарозе пухкае, трашчыць, як быццам гэта хтосьці ходзіць, то асцярожна крадучыся, то вясёлым подбегам, ажно я час ад часу і міжволі азіраюся...

Злева, па рэйках на другім насыпе, толькі што прайшоў цягнік. Дым белымі клубамі расплываецца на фоне павесялелага неба неяк вельмі нерашуча.

Спяваюць, грэючыся песняй, жаваранкі. І штосьці коласаўскае, наша адчуваецца мне тут, на сцежцы каля белых слупочкаў.

* * *

Жаўна — як трашчотка начнога вартаўніка, толькі мякчэй, глушэй... З лесу выходжу на дарогу. Мёртвае поле, мёртвы бярозавы гаёк, летні пыл на дарозе. Сонца і подыхі холаду. Пакутніца вясна. А жаўранкі — свае!..

За дваццаць ранішніх і паўдзённых праходак так мяне і «не сподобил господь» убачыць лася. Толькі бобка ў адным месцы на просецы і некалькі разоў падмарожаныя адбіткі ўчарашніх — пазаўчарашніх слядоў.

* * *

Рэчка мутная. Мільгнулі дзве-тры плоткі. Каля берага мармычуць жабы, збіраючыся нераставаць. З абалоння ў раку булькоча ручаёк.

Над лугам енчаць кнігаўкі, жаўранкі ўзлятаюць з песняй, гусі ляцяць высока.

Сям-там прабіваюцца парасткі травы. Падсохлі на сонцы і час ад часу скочваюцца з крутога, чорнага

берага тарфяныя купінкі. Адзін, як дурань, вылецеў вадзяны жук.

Лес воддаль пацягнуты смугой, вось-вось павінен прачнуцца. Ноччу, нібы штуршок для гэтага, быў ціхі, цёплы дождж, ад якога лепш прасыхае зямля.

* * *

Над зямлёй — красавіцкае неба: ахапкі белых воблакаў, халаднаватая просінь і жаўранкі.

Зямля то светла-шэрая, дзе не хадзіў яшчэ сёлета плуг, то сакавіта-цёмная — і там, дзе ўлонне яе толькі што раскрыта для новых зярнят, і там, дзе ўжо затоена грэецца безліч аўсяных парасткаў.

Сёння ўранку ўжо значна смялей, як учора, ажывае зяляніна руні. Лагодныя шэрыя ўзгоркі ўдалечыні пацягнуты смугой. Паміж вёскамі, на лугавой даліне, цячэ апетая ў сардэчнай песні рэчанька...

На шэрых коціках вербаў гаспадарліва завіхаюцца пчолы. На бярозах над стрэхамі хат ад радасці разводзяць крыламі шпакі.

За ўзгоркам з ночы грукоча трактар. Араты.

Іду на гэты гул. Па чыстай, маладзенькай пасля снегу сцежцы.

* * *

На фоне заўсёды шчодра зялёных ялін святлеюць асіны, яшчэ ўсё голыя, ды ўжо, як кажуць, вось-вось на выданні. Стаяць яны навокал бруднай, а ўсё ж люстранай вады азярца, над якім я пішу.

Спявае салавей:

«Людзі, людзі! Ідзём! Ідзём! Віцязь, віцязь! Па-лі-кліні-ка!..»

Адзін, другі. І добра, молада — так расшыфроўваць іх перасвіст.

Думаў: каму ж ён спявае? А я — каму пішу? Сабе?.. Такі павінен быць настрой, такая шчырасць. А чытача, вядома, трэба бачыць.

Халаднавата пахне прэллю. Снег — плямамі, чэрства хрумсціць пад нагамі. На арэшніку — коцікі; днём, калі пацяплее, і пад вечар на іх ажыве пылок; кранеш галінку — успыхнуць, як бенгальскія агні, клубочкі-выбухі зеленавата-жоўтага колеру.

Птушыны гоман... Ужо другую ноч мяне праз адчыненую фортачку будзіць пугач — зусім, здаецца, блізка ад акна і неяк па-фальклорнаму вусцішна. Цяпер недзе за лесам, з хутара, чувацЬ па-хатняму празаічна-дзярлівае, а ўжо таксама вясновае, іншае кукарэку.

І радыё бубніць адтуль. Таксама ўжо даўно і вельмі звычайны... здаецца нават — голас прыроды.

Дубы, азімыя дубкі стаяць у леташнім лісці, арэхава-жоўтым і лішнім. Падсада малюсенькіх, пяшчотных, як у казцы, елачак і непакорны бруснічнік, нібы барвінак у дзявочым гародчыку.

* * *

Пад раніцу быў дождж. Бубніў па блясе даху, шамацеў па зямлі...

І вось — арэшына пусціла, дзеля свята, белы цвет; лаза прыкметна, весела пазелянела; бярозкі і асінкі шчодра акроплены расой і чыстыя ды цёплыя — хоць ты скажы ім:

— З лёгкай парай!

* * *

З сямі да дзевяці хадзіў па просеках ды сцяжынах, шукаў фіялак, ірваў пралескі.

Ранішні перасвіст берасцянак і салаўёў. Разгублены, ці што, зязюлін сум. Высока над лесам — стрымана-радасны гул самалёта. Трактар — бліжэй, нібы нават вось-вось за дрэвамі. Здалёку, ад жылля — сабачы незаядлы брэх.

Як родным дымам, як пахам першых пракосаў, дыханула маленствам, паэзіяй...

І няўжо я пайду, не апісаўшы ўсё гэта як след, не пасіляўшы на радкі ўсе тыя пачуцці, што былі маёй радасцю, маім зліццём з прыродай, маёй малітвай яе красе?..

* * *

Калісьці і наша Зямля паляціць у бездань, а на нейкай другой планеце закаханыя будуць гадаць, чыя гэта зорачка там паляцела...

* * *

Палажыў свайго нястомнага, загарэлага пестуна, а сам стаю каля веснікаў, гляджу на неба. Лілова-пялістае, ціхае. Павольныя, паралочыстыя хмаркі. Няпоўны месяц. З нашым вымпелам.

Не, сёння неба не проста ціхае, а нейкае па-рафаэлеўску, па-анельску чыстае. Так і нараджалася яна, мара пра вечнасць, пра неба.

Успомніў вельмі выразна, як я стаю на палубе — недзе, здаецца, у Міжземным,— гляджу вось таксама і адчуваю, які я маленькі, які нікчэмны, і гарнуся душой да чысціні, паэзіі, мудрасці. Каб жыць.

* * *

Мокры, халодны чэрвень.

Каля поўдня выглянула сонца, мацней запахла летняй гразёю і зялёнай вільгаццю. Іду ў сваю вёску. За грэбляй — сухая сценка, абапал якое яшчэ няраслае, але ўжо каласістае, сіва-зялёнае жыта. З яго ўгару, у нізкае хмарнае неба расце, як калоссе, бясконца, здаецца, шматлікая песня жаўранкаў.

Паехалі на рэчку. Гразь. Матор грузавіка ідзе на суцэльным рыданні. Нёман, як і заўсёды, быстры, прыгожы, жывы. У лазняку на тым беразе б'юць салаўі.

Думаў, пакуль сядзелі над паплаўкамі:

«Так усё проста гэта, здаецца, і так глыбока, вечна, неразгадана. І добра! Хоць і журботна думаць пра смерць, неўміручасць. Колькі іх, гэтых салаўёў, мінулася, а ўсё, здаецца, тыя самыя яны — пяюць, нясуць жыццё!.. Што ж, так і мы».

* * *

Даўней, у самым пачатку, глядзеў на сонечнае, белавоблачнае неба знізу ўверх, і гэтак добра было, шчасліва!

А цяпер вось успамінаю, што нядаўна быў на цэлых дзесяць кіламетраў угары, зверху глядзеў на аблокі і... што ж — нічога, як быццам нават менш цікава было, менш хвалявала.

Можа, таму, што тады, у пастушным далёкім маленстве, усё і для мяне было — толькі наперадзе?..

* * *

Голуб лятае. Голуб таксама ходзіць, сядзіць...

А вось ён стаіць на мокрай ад нядаўняга дажджу пліце панелі, на самым яе краёчку, і з толкам клюе-шчыкае мокрую траўку, штосьці патрэбнае ў ёй. Элегантны чорны голуб на чырвоных ножках.

Ён зусім не баіцца мяне, і я яму ўдзячны за гэта. Тым больш што і сонца на нас засвяціла.

* * *

Багатая зяляніна маладога бульбяніку, якога так шмат за светлымі вокнамі хаты, дзе я чытаю за сталом, зноў нагадала даўнюю ўжо раніцу ў шэсцьдзесят трэцім годзе, калі мы ўтрох падарожнічалі на машыне па Гродзеншчыне і ў Лідзе заходзілі да чалавека, што сябраваў з Таўлаем.

Калеснік пайшоў у той дамок на ўскраіне, а мы з Караткевічам пакуль што засталіся на двары, шырока зялёным ад буйнай, расквечанай бульбы, і зводдаль любаваліся тым, як на адкрытай верандзе бабуля штосьці вязала, а з пласцінкі ёй... як жа хораша, як сардэчна спяваў італьянскі хлапчук Ларэці. Цудоўную «Ave Maria».

* * *

Яно ўсё паўтараецца — чаргаванне суровых, белых зім і шматфарбных, таямніча прыгожых летаў, яно ідзе сваім, не намі прыдуманым і не нам падпарадкаваным ладам. А мы або любуемся, або ўспамінаем. А то і не заўважаем усёй красы прыроды, як быццам у нас у запасе вечнасць.

Калі мы вярталіся з возера — з уловам, вудамі і гумавай лодкай,— на ўзмежку паміж маладым бярэзнікам і сівеючым аўсом, за якім у зялёнай лясной сцяне асабліва хвалююча вылучаліся карычневаствольныя сосны, мне з асаблівай жывасцю ўспомніўся пяцьдзесят восьмы год. Тут, над Svіцяззю.

Малы наш яшчэ валяўся, заблытаўшыся ў рамонку, лавіў ручанятамі маленькіх жабак. Я лячыўся чароўнай, амаль самотнай прыродай ад жудаснай усё-такі

немагчымасці працаваць, быць разумна спакойным... Чытаў, а галоўнае — як здалося цяпер, на аўсяна-бярозавым узмежку — любаваўся цудоўным, такім блізкім і, адначасна, бясконца загадкавым светам.

Ці гэта важна толькі для мяне? Ці і я аддаю яго для радасці другім?.. Таемная музыка, якую не ўлавіць, не перадаць да канца, да ўсёй глыбіні не аднаму, а мільёнам Міцкевічаў. І якое гэта шчасце, ні з чым не параўнанае,— быць і прыёмнікам і перадатчыкам гэтай музыкі.

* * *

Стаю над паплаўком.

Навокал — над ракой, над кустамі і лугам — нястрымныя, утрапёныя жаўранкі і салаўі. Таямнічае, поўнае глыбокага сэнсу пагрукванне грому.

Цымбальныя скокі дажджу на вадзе. І тады — нарэшце! — вялікая, першая плотка...

А маланка ўсё хрысціцца. І сапраўды — як спалоханая маладзіца.

* * *

Наша цудоўнае лета. Багатае жыта, у якім заўсёды хочацца паляжаць. Трава — у густой, раскошнай квецені купалля, рамонкаў, вогнікаў — небывала добрая, ледзь не да пояса. Лён дацвітае сваім блакітнадробненькім цветам, што пры дарозе шчодра асыпаўся на пясок.

Рэдка бываю апошнім часам у родных мясцінах, і таму, здаецца, магу ў нейкай меры свежым вокам глядзець на іх простую і вельмі няпростую красу.

А «свежае вока», па-журналісцку кажучы, вельмі патрэбна. І ў творчасці — каб azірацца на зробленае як мага больш аб'ектыўна, і ў сузіранні красы прыроды — каб бачыць, знаходзіць у ёй кожны раз новае.

* * *

Пальчыкі рэдкага дажджу гарэзліва абмацваюць шыбу акна, перад якім я працую, седзячы за вясковым сталом.

Адкуль ён узяўся, свавольнік,— з чыстага неба, пасля такое сонечнай раніцы?

* * *

Іду ўздоўж грады сасняку, па расе. Справа — сонца. Нядаўна ўзышло. Яно — праз дрэвы — мільгае па твары, і я адчуваю сябе пастушком, што ідзе каля плота. Дадому, паснедаць. Хоць тарахці па соснах кійком — як па штакецінах.

* * *

Старэнькая лазня ў гонкім, густым бярэзніку, у якой звычайна цэлы тыдзень гаспадараць чэрці, у суботу напалена прышлымі цеслямі, што рубяць хату на ўскраіне вёскі.

Запрасілі памыцца. Пасля страшэннай пары — сцюдзёная вада з крыніцы. Па пяць-шэсць вёдраў — з галавы да ног. Нават бярозкі сталі прыгажэйшыя, і ўсё навокал пачысцела!

* * *

Румяны ранак над возерам. Пад соснамі, у кустах ядлоўцу, выбегшы з вады, выціраецца маладзенькая, стройная, загарэлая студэнтачка. Ажно спыніўся я на сцежцы, каб не спалохаць...

Пасля, пад вечар, убачыў яе — не такая прыгожая.

* * *

Хлебна-сасновая цішыня. Над цішынёй — ад возера — ляціць варона. Пчаліным гудам гудзе вялікая паляна грэчкі. У белай, духмянай кашы — высокая, самотная сасна і нізкі, каржакаваты дуб, здалёк — нібыта груша-дзічка.

Здымаў гэта, стоячы на каленях у роснай, высокай грэчцы.

* * *

Нарач.

Сонца на захадзе. Зірнула з-пад хмары, як спадылба, і хвалі, неспакойныя ад халоднага ветру, неяк адразу сцюдзёна, нявесела заблішчалі пад чорнай столлю нізкага неба.

Дажджавая хмара раздзялілася на два крылы. Левае — цяжкае, навальнічнае — пайшло на поўдзень, дзе балоты над Нарачанкай і Гатаўскі бор. А правае — рэдкае, прасвечанае сонцам,— пацягнулася сеткай дажджу па драбналессі, дачах і хутарах.

На ўсходзе — дзве вясёлкі: ніжэй — ярчэйшая, вышэй — слабая. Калі пагусцеў дождж, ніжэйшая вясёлка, з хмарай, якую яна абдымае, наблізілася да нашай утлодкі, а вышэйшая засталася на месцы, з канцамі, утопленымі ў возеры далёка, каля самых яго, паўднёвага і паўночнага, берагоў. Калі правае крыло хмары працягнулася, прайшло дажджом па драбналессі, дачах і хутарах, вясёлкі раскалоліся папалам,— левая палавіна іх паблякла і знікла, а правая, на фоне густой хмары, нібы надзейна ўбітая канцом у паўднёвы бераг, дагтлявае паволі...

Бліжэй да берага хваля паменшала, нас перастала залівацъ, і матор наш заварушыўся весялей.

Каля дач нас выйшлі сустракаць. Прапала ўся наша грозная паэзія: мы засталіся проста няўдалымі, мокрымі рыбакамі, якіх, пад кепікі, адагравалі чаем.

* * *

Ідучы ў залітую сонцам, радасна неспакойную, да светлага пяску празрыстую ваду, падумаў:

Напісаць трэба і пра тое, колькі я за жыццё спажыў хараства прыроды. На зямлі, на вадзе, у небе. Над ціхай рачулкай у родных мясцінах, гледзячы на гусіны паплавок. Паміж каўказскімі магутнымі букамі над зялёнай цяснінай. У бязмежжы данской ці вінніцкай пшаніцы. Над акіянам. Над белымі аблокамі. На белым беларускім полі, пад нізкім сонцам адвячорка, калі так хораша, так чыста на душы пасля працавітага дня.

Дый тут, над Нараччу, многа спажыў. Пад соснамі, на імклівым і шумным маторным кацеры, у ціхай работніцы-лодцы.

* * *

Не памятаю, але здаецца, што не запісаў нідзе, як улетку трыццаць другога года, у касавіцу, мяне пасля некалькіх дзён цяжкага, горкага роздуму пра жыццё,

пра маё ў ім месца, пра маю — ужо тады — нікчэмнасць... мяне, падлетка, вярнула да жыцця, да разумення яго сэнсу прыгажосць навакольнага свету.

Найбольш запомніліся чорныя, бліскучыя, сыта гарластыя гракі над пакошай і на пакошы. Яны — праз трыццаць чатыры гады! — помняцца мне як нейкі светлы сон, як нейкі сімвал той выратавальнай прыгажосці.

* * *

Пішу над ракою, на ўжо адрослай пакошы (хай мой блакнот прапахне травяною свежасцю!..), у лагодным і час ад часу прыглушаным хмаркай сонцы позняга адвячорка.

Само неяк леглася на траву. Нібы ва мне сабралася нямала прагі да спакою, да адпачынку, да цішыні — так неабходнай для нашай працы.

Сюды ішоў летнім лесам, па сцежцы ў гушчары, добра знаёмай, а цяпер зарослай, заваленай голлем і цэлымі дрэвамі, што пападалі наўпоперак і ляжаць, нібы наўмысныя завалы.

Ідучы, слухаў вурчанне туркачоў,— то як мурлыканне ката, то як журботнае кумканне жабаў, то нават часамі як хорканне нездаволеных парасятак.

Цяпер, над Свіслаччу, пачуў жабіна кумканне з ціхіх завоін, і падумалася, што ў іх гэта — не проста нейкая там фізіялагічная неабходнасць, а ціхая музыка, вельмі ж паэтычна сумная. Сваёй таямнічасцю ды незвычайнасцю гэтая музыка непакоіла мяне і ў маленстве, калі я менш за ўсё думаў пра асэнсаванне прыгажосці, а проста браў яе — заслуханы, загледжаны, зачараваны.

Ці не адтуль, ад той зачараванасці, узнікла цяпер жаданне легчы на траву, заціхнуць?..

Пакуль пісаў гэта, зашчабяталі за кустамі ластаўкі. Густа, дружна і міла. Таксама спадарожніцы майго далёкага пачатку.

* * *

Паўгадзіны ў мокрым лесе.

Дождж разбудзіў мяне шумам за вокнамі. А можа гэта я сам прачнуўся, насустрач ягонаму шуму?.. Па-

думалася, гледзячы на зялёную сцяну: шум дажджу ўзмацняецца ад таго, што сеецца ён на працьму лістоты і іголіцы. Падумаеш — адкрыццё! А вось жа прыемна было, нібыта ўпершыню такое ўсвядоміўшы.

У гушчары, калі я пайшоў туды, спачатку па асфальтавай дарожцы, над якой ледзь прыкметна ўздымалася пара, а потым па роснай сцяжыне, прыемна было глядзець на мокрае, крамянае дубовае лісце, успамінаючы таксама моцны і сыты капусны ліст. Сонца спачатку было за павалокай і не спяшалася выходзіць з-за яе. Распешчана і аднастайна прасіў піць юрок. Амаль незаўважны ветрык паварушваў сям-там лістоту, раз-поразу ціхенька пашумвалі, ападалі долу маленькія мясцовыя дожджыкі. Абапал сцежкі — бурачкова-ружовыя кветкі канюшыны. Сімвал спакойнага, лагоднага, няпрагнага дастатку,— калі ўспомніш гэтыя кветкі ў вялікай масе, густую, ружовую канюшынную кашу. У канюшыне абапал сцежкі зрэдку стаяла мілая, сціплая кашка. У мокрым гушчары сыта мурлыкаў туркач. Дзіўна паводзіў сябе дождж — памаўчыць, памаўчыць і зноў шуміць па лістоце, ідзе. Нібыта чалавек, што думае, а потым — плача зноў...

Сонца ўзяло сваё. Калі я з мокрых сцяжын выйшаў зноў на асфальт, лісцё з паўднёва-ўсходняга боку было ўжо амаль сухое.

Зноў успомніў тое, што думалася днямі пра апісанні прыроды. Нешта не вельмі выразнае, але прыемнае, светлае. Нібыта ў Канапніцкай ці ў іншай з польскіх жанчын чытаў пра гэта. Адчуванне красы, удзячнасць за радасць гэтага адчування, думка пра векавечную тугу чалавецтва: ах, як бы нам пачаць нарэшце жыць разумна, згодна, шчасліва!.. Падумалася сёння, што толькі ў гэтым, у такім адчуванні красы прыроды, і ёсць адзіны сэнс яе апісвання.

* * *

У зялёным, рэдкім жыце, пасеяным на скос,— густая, сытная віка. З далікатнымі кветачкамі, якія ўчора, у першы мой наднёманскі дзень, не проста спынілі ўвагу, а хораша нагадалі маленства. Рамонак, які сямтам высокім гуртам, нібы пальмай, выбіваецца з віка-

вай гушчыні ў яшчэ пустое, сівае калоссе. Валошкі, васількі, якіх найбольш на ўзмежку. Цішыня і ранняе сонца — пасля ўчарашняй нуднай золкасці. З лесу чуваць грудное вуркатанне туркача і, нібы вельмі далёкае, кукаванне зязюлі.

Над Нёманам — магутныя вербы, тоўста налітыя здароўем алешыны і дубы, што моўчкі, надзейна трымаюцца на сваім.

Як даўняе, згадалася адна наша сваяцка-партызанская рыбалка тут, дзе мы пасля юшкі па чарзе намагаліся пераплысці гарлавіну — хто найпрасцей. Дарма,— кожнага зносіла на стрыжні ўбок. Але ж і весела было. Ужо семнаццаць год таму назад...

І Коласава прыгадалася:

Не ведаю, каму сказаць мне «дзякуй»,
За тое, што ізноў сустрэў вясну,
Пражыўшы семдзесят гадоў без гаку.
Сустрэць бы, божухна, яшчэ адну.

Чатыры радкі сапраўднай паэзіі, уздых душы, стомленай і яшчэ ўсё нястомнай...

Думалася і пра толькі што, учора, прачытанае, японскае,— Кандзабура Оэ, «Абхапілі мяне воды да душы маёй». Пра невялікі квадрат жывое зямлі ў бетоннай падлозе фантастычнага атамнага сховішча. Ад тое зямлі чалавек час ад часу набіраўся сілы жыцця — нагамі, як карэннем.

* * *

Сёння маё калоссе ў шчодрым сонцы і ад ветрыку пагойдваецца бязгучна.

Шмат я пісаў не за сталом, і гэта ўспамінаецца прыемна.

Васількі пнуцца ўверх, да калосся. Прыгадваецца Багдановіч. У сувязі яшчэ і з нядаўнім артыкулам Адамовіча, дзе той слушна называе нашага мілага, трагічнага Максіма першым сапраўдным беларускім крытыкам.

Понізу з гудам таўчэцца розная мошка, а над калоссем шыбуюць пяшчотныя ластаўкі.

Хлеб і краса, краса і хлеб — з нялёгкай працы.

* * *

Па дарозе ў вёску дождж дагнаў-такі мяне і добра нахвастаў па калошынах ніжэй плашч-палаткі. А потым распагодзілася і так ацíхла, што аж спыняцца раз-пораз хацелася, нібы *сумеўшыся ад цішыні*, якая спыняла мяне, і тады чуваць былі песні жаўранкаў — над сонечнай, мокрай зелянінай — песні заўсёды і ўсюды радасна захопленыя.

* * *

Сонца праз хмары падперлася косамі. Вечар ціхі і цёплы.

Да моста — берагам, пад дубовым ды ліпавым голлем, назад — сцежкаю ў жыце. Калоссе — на ўзроўні вачэй, буйна, салодка налітае. Колас да коласа такія падобныя і такія розныя, як лістота. І такое мноства іх,— спакойнае адчуванне бясконцасці, безлічы, дабрабыту. Спакойнае, нават цёплае, нібы мудрае па-старэчы, без той халоднай жудасці, з якой калісьці, падлеткам, думалася пра бясконцасць, вечнасць сусвету, жыцця.

* * *

Другі дзень без дажджу.

Хадзілі па лесе, бралі чарніцы, трошкі суніц, буякоў і лісічак.

Добра так — растлумачваць вясёлай, кемнай васьмігадовай дзяўчынцы, што да чаго, разам з ёю любавацца матылямі на кветках, мурашнікам пад кустам бузіны, з якое на мурашнік ападаюць ягады, маленечкімі дубкамі, на пяць, на тры лісточкі, як добра разам знайсці баравік, а потым ісці па пыльнай, нарэшце, дарозе, з аднаго боку якое толькі што пакінуты намі лес, а з другога — поле, калоссе, далёка над якім — наднёманскія дрэвы і спраўныя хаты, у адной з якіх мы жывем...

А ўчора позным вечарам, халодным і ясным, я затрымаўся на ганку, убачыўшы, як злева ад мяне, больш на ўсход, стаяў амаль поўны месяц, а больш на захад, над яшчэ не згаслай зарой і над лесам, ярка мігцела буйная зорка.

* * *

На паўднёвым схіле гары за нашай вёскай былі калісьці ляскі, якія потым чамусьці высеклі, і паміж шэрых, высмажаных маразамі, слатою і сонцам пянькоў буяла трава з духмянасцю кветак і звонам пчол, чмялёў і рознай заедзі ды машкары.

З тых дзён мне з асаблівай выразнасцю помняцца маленькія блакітныя матылі, якіх мы лавілі сачкамі. Для школьнай калекцыі. А яшчэ больш — для радасці. Як аказалася — на ўсё жыццё.

* * *

Колькі гэта каштуе — стаіўшыся ў ранішняй цішыні падлеска, дзе столькі сонца, зеляніны, бярозавай ды сасновай стракатасці, дзе ад раскошы лена пераклікаецца птушыная драбяза,— колькі гэта каштуе — раптам здалёк, ад вёскі пачуць бусліны дамавіты клёкат?..

* * *

Вернісаж у кустах ялаўцу — павуцінне. У сонцы і расе. Скрозь павуцінне, дзе толькі можна яго начапіць. Добра думаць пра мікрасветы, якія мінаеш, пра маэстра, што іх ствараюць.

Пераход цераз латачыну, дзе канчаецца старыца. Салодкі пах прэлага алешніку, кінутага на гэтую сцежку.

Туман над лесам, на вяршалінах. А на рацэ ён — ад крутога берага.

Зусім не шкада, што дарма праляпаў раніцу спінінгам. Паляванне з блакнотам. На красу і здароўе.

* * *

Голы, сухі бераг быстрай, шырокай Шчары. Адно кусціцца ялавец, а то дык і яго няма. Некалькі маладых дубоў. Нізкіх і стройных, як баравікі.

Адзін такі «баравік» — на самым краёчку крутога берага. Засох. Здалёк сівеецца, як штосьці незвычайнае.

Бабры яго абгрызлі, мяркуючы спусціць на ваду. Аднак чамусьці не дагрызлі тоўстай ножкі, і «баравік» стаіць.

Кожны, відаць, пашкадуе спачатку. А потым, убачыўшы, хто вінаваты, палае бброў. Не лішне злосна, бо і работнікі і майстры. А струмант які! На каменнай драўніне — сляды іх разцоў.

* * *

Каля бярозак трохі верасу. Расцвіў у сонцы.

Зірнуў угару. Багатая лістота і пярэстыя ствалы пошумам ціха пяюць у блакіт.

Краса прыроды кліча да чысціні душы.

Гэта не думка, а такое адчуванне.

* * *

«Зялёнка», якое многа абапал сцежкі, стракатажоўтая ад свірэпы. Гудзе пчоламі, мякка паблісквае ўзлётамі капусных матылёў. Гэта — ніжняя радасць зямлі.

А ў кронах ліпаў — на цвінтары, узбоч якога іду на Нёман, воддаль ад цвінтара, на дарозе, яшчэ далей, на хутары,— усюды шчодра клякочуць, пераклікаюцца нябачныя ў лісці буслы. Радасць — верхняя, у чыстае, нарэшце, неба.

* * *

У спёку горы на даляглядзе, дзе Феадосія, выходзяць з мора — лёгкія, як прывіды нейкай невыказнай раскошы, як нешта казачна нерэальнае, створанае толькі для прыгажосці.

Маладзенькая пасаромелася б, а яна — ужо сталая, разумная, але яшчэ маладая — увайшла ў ваду, папрасіла сяброўку адшпіліць ёй бюстгальтар, пайшла наперад, тварам да мора, ад позіркаў мужчын, і паплыла, падставіўшы грудзі пяшчотам бадзёрых і ласкавых хваль.

* * *

На сцежцы паміж пакошай і полем, гледзячы на безнадзейна, халодна мокры аўсяна-вікавы падсеў нечакана і ярка ўявіў, успомніў маці вялікай і працавітай

сям'і, з якое нядаўна, унукам, выйшаў у свет адзін з маіх юных, таленавітых сяброў. Яго бабуля была нястомная руплівіца, дзеля дзяцей з-за беднасці кідалася на ўсё. Работа — работай, а яшчэ ж і качалася цётка ў купальскую ноч, ужо на самым досвітку, па халоднай расе. «На доўгі лён», каб ён ім добра ўрадзіў. І кашулю нацельную скінуўшы, адна ў тым полі — аж вусцішна, як на апошняй малітве...

* * *

Бусліны падлетак, стаміўшыся лятаць, асеў на сухую галіну сасны, якая відаць мне за белым полем грэчкі. Доўга на ёй угрунтоўваўся, не складваючы крылаў, а потым — хто тут паверыць? — упаў і паміж голля ападаў да самае зямлі. Там пастаяў спачатку, падумаў, а потым пайшоў паміж дрэвамі пехатою: чорт яго з гэтым лятаннем!..

* * *

Едучы з Бережна ў Мір, каля старога млына на Міранцы з наіўнай прыемнасцю падумалася, што вось і адкрываю гэтыя мясціны... Прылукі, Міранка (не сама рачулка, а млын на ёй), Лужа, Ініца... У маленстве і раннім юнацтве я толькі чуў, што яны там ёсць,— на ўсход ад нашай вёскі, за пашай, лугамі, ракой, зноў за лугамі, у лесе на даляглядзе... А цяпер,— як быццам упершыню, як быццам не бываў тут партызанам, не быў адразу пасля вайны,— убачыў усё гэта і прыемна, ледзь не па-малечы наіўна прыгадаў, як Месяц быў сфатаграфаваны з адваротнага боку, таксама доўга загадкавага...

* * *

Над ракою, на захадзе сонца.

Вечнае дзіва, бясконцая разнастайнасць, нічога не паўтараецца.

Успамінаю наш, Куляшова і мой, красавік шэсцьдзесят другога года, у Каралішчавічах. Штораніцы, сустракаючыся ў лесе на праходцы, мы на хаду віталіся лозунгам: «Пі цішыню!» і не спыняліся, ішлі кожны ў свой бок. У яго тады была на стале і ў душы незавершаная «Новая кніга», у мяне — «Птушкі і гнёзды».

Зноў вось п'ю цішыню...

Раптам — далёкі строкат трактара і, трохі бліжэйшы, клёкат буслоў. Не — толькі клёкат. Вясёлым гуртам.

Іду па скошаным лузе. Нібы на велічны дуб, нібы на той несціханы клёкат.

Сонца барвова садзіцца ў туманны небакрай. Чуваць натужнае гудзенне, хорканне грузавіка. І паказаўся ў пералеску — з сенам. А за гэтым гудзеннем ды хорканнем — зноў і зноў той бусліны, далёкі і радасны клёкат.

* * *

Пасля ўчарашняга дажджу, які шчадрыўся спачатку пад дальнія грымоты, а пасля ў адвячоркавым сонцы, цяпер — імглістая ціхая раніца.

Сонца за Нёманам — як праз закапцелае шкло. А калоссе — амаль зусім аціхлае, толькі прыгледзеўшыся відно, як там адзін, а потым другі гайданецца ў сваім цяжары, з жамчужынкамі расы, на кожным вусіку па два-тры-чатыры малюсенькія шарыкі.

Ад вёскі, што як і ўсё навокал, у імгле, чуваць гаспадарскае кукарэканне, а з лесу за жытам — заўсёды нястомнае, чулліваe буркаванне туркача.

І раптам — штосьці як крык далёкага жорава!.. Ажно не верыцца, што гэта можа быць ён...

Дажджу няшмат было пасля тыдня спякоты, але грыбы ўжо, відаць, заварушацца.

Зноў курлыканне... Так, гэта жораў! Там недзе ён, за надрэчным клінам лесу, дзе пачынаецца імшар.

Нёман быстры, а сёння і ён як быццам аціх, запаволіўся. І кожнаму сваё,— за ракой на старэнькай вартаўніковай хатцы-будцы сядзіць варона і штосьці ўсё каркае раз-пораз, з вялікімі паўзамі, а ў аеры каля моста-плывуна не менш змястоўна вякае жаба.

* * *

Пачатак жніўня.

Зранку цярушыць дождж. На пожні — росная, дробненькая канюшына. Ад мэндляў — жытні пах. Дацвітае бульба. У градах яна, пасаджаная раней, пачынае жаўцець, смачна пахне. Каноплі — таксама. Сытыя галасы варон і перапёлак.

Усю ноч гула за вёскай малатарня. Цяпер ад калгаснага свірна пайшла на станцыю машына з новым жытам, прыкрытая брызентавым палотнішчам. І фурманкі, на якіх, нібыта ўкормленыя парсюкі, мяхі пад свежаю саломай.

У гародзе сінія вуллі хаваюцца ў ягадніку і кветках — знізу, а ў зяляніне голля, цяжкага ад яблыкаў,— зверху.

Маладая, сопкая бульба. Густое, з пограба, кіслае малако. Маласольныя агурочкі. Процьма садавіны.

Апоўначы — ціхі месяц на ўсходзе.

Поўня.

* * *

Адчуць бы мне той цудоўны сум, тую высокую, недасягальную паэзію, якая наведвала мяне ў раннім юнацтве, калі я ішоў самотны месячнай ноччу па полі або ад кнігі ці ад паперы выходзіў з хаты на двор, акунаўся ў белую, снежную ноч і доўга глядзеў на месяц.

Вярнуць бы мне тое, і я, відаць, адчуў бы па-сапраўднаму, што гэта азначае — перадаць нам з Месяца яго фота!..

* * *

Дарога каля зялёнай сцяны пераважна сасновага лесу. Ціхага, мокрага. Узбоч дарогі — многа камення, што, як лішняе, выкачана сюды за шмат гадоў арацьбы. Жыта — радаснае мноства хлеба, узнятае над зямлёй у не даспелых яшчэ каласах. Мокры рамонак, хоць дажджу ўжо даўнавата няма, паапускаў пялёсткі абапал жоўтых лысін. Многа яго — і на ўзмежку, і ў жыце, радчэйшым каля дарогі.

У такой адзіноце, такой цішыні — проста малітвенны настрой душы. Жыццё бачыцца нібы наскрозь ад пачатку і наперад, што было і што яшчэ трэба паспець завяршыць.

* * *

Гэта ў мяне сялянскае — есці сухі, як гаворыцца, хлеб не проста са смакам, але і з душэўнай радасцю, з паэтычным, амаль дзіцячым бачаннем і поля, і жыта, і сонца.

* * *

На ўзбоччах яраў, на ўзмежках палеткаў чырванеюць буйныя ягады шыпшыны, густа чарнее ажына, якую няма каму абіраць, па-дзіцячы міла вабяць вока ружовыя цацачкі — ягады брызгліны.

Палавіна верасня, а ў садзе яшчэ ўсё лена перасвістваюцца шпакі.

Яблыні выпростваюць замлелае пад яблыкамі голле, а яблыкі, на дзіва сёлета ўрадлівыя, ружовымі, духмянымі сонцамі кладуцца ў скрыні са свежай дранкі, на свежую салому.

* * *

Да ўсходу сонца здавалася, што свет — гэты кавалачак зямлі, дзе стаіць наша вёска, наша поле і нашы могілкі — увесь накрыты шкляным матавым каўпаком. Потым сонца прабілася праз росную муць, зайграла на пазалочаных вяршалінах клёнаў, ліп і бяроз, на гронках спелых рабін, прыгалубіла сумныя, ужо безгаловыя сланечнікі, ружовыя кветкі насеннага тытуню, жорсткія касачы кукурузы, апошнія кветкі ў гародчыках і капусту на градах.

У галубятніках пад капяжамі прачнуліся ды ўстрапянуліся галубяняты. З цікаўнасцю і бояззю пачалі глядзець на двор, тоўхаючыся ўперад мілымі галоўкамі.

Увішна тэпаючы трохкутнымі лапкамі па густой, нізка пагрызенай траве, стракатыя, сытыя качкі подбегам паківаліся на выган, да рэчкі. За імі — гусі. Гэтыя не спяшаюцца. Пра штосьці дружна гамонячы, пайшлі памалу па абочынах ды па самой дарозе, разварушваючы асаджаны расою пыл.

Стары калека-кравец, што выгнаў іх са двара, стаіць ды ўсміхаецца сам сабе, відаць, разумеючы іхнюю гутарку.

На ўскраінах неба, ужо ніяк не могучы засланіць далягляд, стаяць занавескі празрыстай смугі.

Якая раніца для засевак! Так і хочацца стаць на калені — з сявенькай, каля меха зярнят — у пухкай, цёплай раллі, што добра падышла, як падыходзіць удала рашчынены і замешаны хлеб.

* * *

Калі я апісваю прыроду — гэта не капіраванне, а радасць, што жыву, што бачу.

Успомніў гэта, чытаючы добрую аповесць В. Распуціна «Последний срок», тое месца, дзе бабуля ачуняла ад смяротнага забыцця і села на ложку. Радая, што дзень — пагодлівы, вераснёўскі — пачаўся.

Успомніў я і свой даўні, адразу ж пасляваенны запіс пра восеньскія засеўкі, успомніў іншыя замалёўкі прыроды і падумаў радасна, што за іх мне брыдка не было ніколі.

* * *

Любуюся раллёй.

Люблю яе, асабліва як свежая. Ці веснавая, ці вераснёвая, як цяпер, калі мы бачым яе праз вокны аўтобуса.

Калі ж яна ў адным месцы — старанна, хораша заараная — лагодна спадала ў міжлессі з узгорка ў даліну — захацелася нават пагладзіць яе.

І падумаў адразу, што гэта добра было б зрабіць мазолістай рукой.

* * *

...И равнодушная природа
Красою вечною сиять.

Уранні сядзеў у працэдурным пакоі, чакаючы свае чаргі і, як гаворыцца па-народнаму, маючы час, глядзеў у акно.

Магутная лістоўніца, праз ажурныя лапы якое на цёмна-карычневым шалушыстым ствале цёпла глядзеліся сонечныя прасветліны.

Якія хочаш праблемы, а гэта — вечнае.

І чаму яна, прырода, «раўнадушная», калі так вось цёпла ад яе красы?..

* * *

Дождж шуміць і шуміць. Масавая вытворчасць кропель наладжана ўгары выдатна. У адной і той жа хмары. Зрэшты, хмары асобнай няма — суцэльна шэ-

рае, нізкае, мокрае неба. Здаецца нават, што мора — недзе там далей, у дажджы — павінна сёння значна пабольшаць.

Адзін толькі раз па-летняму загрымела, і гэта здалося пачаткам цікавай гутаркі, а потым — зноў восень і нуда, якой не баіцца толькі цікавая кніга ў зацішнай утульнасці.

* * *

У ранніх сонцы рабіна рдзее цёмна-аранжавымі шышкамі церпкіх, аскомістых ягад.

А ўвечары, калі на захадзе сонца сцяной устануць хмары,— палахліва шуміць магутны явар, пабліскваючы сівай падкладкай лісця.

* * *

Над маладзіком, які чырванеецца рожкамі ўгару, невысока блішчыць Венера.

Месяц — нібы вісіць на цвічку. Проста малюнак у дзіцячую кніжку.

* * *

Кастрычнік.

Пагодлівая раніца. Пахне марозікам. На ўсходзе — сінь, хмары фіялетавыя або шэрыя. І агнявая, распаленая чырвань сонца, якое ўзыходзіць.

Туманнае ранне на ўзлессі. Лес мяшаны. Гледзячы на жоўты вяршняк бярэзніку, здаецца, што гэта з-за туману ўзыходзіць сонца.

Сыры, халодны ранак. Рунь — хоць выціскай яе ад вільгаці. На ржышчы — прыхоплены марозікам асот, а на дарозе — адна пушыстая, апырсканая расой галоўка дзьмухаўца.

* * *

Над позняй раллёй у акуратна завораным садочку — маладыя яблынькі, голыя перад зімой. Ужо не такія, каб іх абвязваць саломай.

Чырванаватая, як быццам кволая кара. Голле — таўсцейшае, тонкае і тоненькае — расце, куды хоча і

як сабе хоча. І ў гэтай свабодзе, якая не паўтараецца, іменна тая краса, якую мне хочацца назваць бясформеннай.

Так і на іншых дрэвах — процьма такой жа бясформеннасці. І ў гэтай непаўтаральнасці яе, нідзе і ніколі, ёсць нейкая і таямнічая, і вельмі простая, строгая заканамернасць.

* * *

Нёман збіраецца пад лёд. Па ціхай ртуці вады ідуць крыгі — вялікімі кругамі з акантоўкай, як экзатычныя лісты вікторыі-рэгіі. І труцца, і шумяць, і хочацца стаяць ды слухаць...

Доўга я жыў, але далёка ад ракі, не чуў такога.

Паглядзеў яшчэ і на светлае неба праз сосны. Ад душы, ад горычы і трывог нашай працы сказаў сябру, сааўтару па цяжкай калектыўнай кнізе:

— Можа, лепш музыку будзем пісаць? Такую добрую, сардэчную, для ўсіх на свеце і надоўга, назаўсёды зразумелую...

І не дадаў: як гэты вось зялёны пошум угары і серабрысты шоргат на плыні...

* * *

Самотная сцежка ў аснежаным лесе, уздоўж Нёмана.

На гліцы сёння кропелькі. А памацаў адну — ільдзінка. Гатовая і замерзнуць, і капнуць на снег.

Як непаўторна свежа, як здорава ўсё тое простае, звычайнае, што акружала нас, малых, у вясковым жыцці, гучала тады ў паэзіі, якую мы бралі з кніжных старонак. Я — з польскіх і беларускіх у школе, а дома яшчэ і з рускіх. Бралі і носім дагэтуль. Міцкевічавы дзічкі на межах, Купалава лета квяцістае, зоркі, што меркнуць і гаснуць у Нікіціна...

Толькі пра кропелькі-ільдзінкі, здаецца, не было.

* * *

Малады, густы сасоннік, які яшчэ хочацца называць не лесам, а зараснікам, пакрыўся пыльнай шэранню. Здаецца, так яму цяплей.

На ўзлеску, куды я выйшаў просекай, на самай вершаліне старой, ужо рэдкай сасны працуе дзяцел. Рана снедае. Бо сонца толькі яшчэ ярыцца, узыходзячы, зара аж прышчыцца на марозе.

І пра гэта запісваю?.. А што ж, калі мне нават здаецца, што я — спяваю ад добрай працы, ад шчасця жыцця.

* * *

Пасля адлігі — мароз і вецер. Снег прыкарэў на ялінах і соснах, і вецер яго не абтрэсвае.

І неяк дзіўна, ледзь не да лёгкай сцішнаты, што яліны і сосны бездапаможна гайдаюцца. Такія моцныя, непарушныя, калі ціха.

* * *

Раніца ў лесе. Мароз. Снег проста скварыцца пад валёнкамі, рыпіць нават ад тыкання кіёчкам на хаду.

Над азярцом спыніўся. Няма ніякага азярца. Замест яго — белая, паміж елак і алешын,— паляна.

Цішыня. Чым ніжэй асядаеш у гэтую цішыню, тым яна робіцца цішэйшая.

Прыпадняўшы вуха трусінай шапкі, я спакваля настроіўся на калыханку ціхенькага пошуму ў вершняку.

Больш галасоў няма, не чуваць іх ні з неба, ні з шашы. Нядзеля.

Можа дазволю і сабе выхадны?

* * *

Святло ідзе заўсёды зверху. А вось праз хмары раптам выглянула сонца, і святло заззяла знізу, адбіўшыся ад зямлі, засланай першым снегам.

Усмешка нечаканасці.

* * *

Ялова-сасновы гушчар. Многа снегу трымаецца ў цяньку на елках і елачках. Ад сонца, якое ўжо не пазімоваму прыгравае. З падсонечных вяршалін і галін час ад часу ападаюць жмені і жменькі снегу. А потым

ён яшчэ і цярушыцца, а ў промнях — іскрацца сняжынкі.

Ад натуральнай блытаніны ліній у голлі ды вецці пацягнула, нібы падсвядома, накрэсліць кіёчкам на снезе правільны паўкруг. Прыгадалася сонца на ўсходзе, напалавіну з зямлі. Усе мае вясёлкі прыгадаліся...

Калі сказаў такое таварышу, з якім забрыў у гушчар, ён мне пачаў растлумачваць усё па Пляханаву, а я ўжо ведаў, што, як дадому прыйдзем, запішу. Сваё, пра адчуванне.

* * *

Як гэта здорава — чытаць жывую карту роднай зямлі, напейзажвацца ў запас, зараджаць сябе жывой, вобразнай любоўю да гэтай зямлі,— каб потым пісаць, не выдумваючы пейзаж, а ўспамінаючы яго з запасу знятых памяццю кадраў.

* * *

Ад вёскі, што засталася ў даліне, белае поле ўздымаецца на захад спакваля вышэй, вышэй — аж да самых Балканаў.

Такую гучную назву далі гэтым узгоркам. Відаць, у мінулым стагоддзі, калі нашы дзяды вярнуліся з-пад Плеўны...

Думаю пра гэта, ідучы па іскрыстым, хрусткім снежным цаліку.

Сям-там, вельмі ўжо рэдка, стаяць старыя, спрадвеку цярплівыя дзікія грушы.

Кусты шыпшыны трапляюцца на схілах яраў ды на ўзлобках, ніколі не араных, падобных на агромністыя боханы. У калючым сярэбраным голлі яшчэ ўсё трымаюцца, таксама заінелыя, аранжавыя зморшчаныя ягады.

Як светлы сон, успамінаецца тут, каля іх, матылiная ружовасць пялёсткаў, пчаліны звон і ласкавае сонца... Успамінаюцца радкі:

О Беларусь, мая шыпшына!..

Ваўчыны след. Шэры прайшоў над абрывам і, выбраўшы месца, спусціўся ў яр, грузнучы на глыбейшым незаскарынелым снезе.

На дне яра зеленавата-сінімі плямамі пракідаецца зусім свежы, яшчэ не пераможаны снегам лядок неўтаймаванай крыніцы.

Высока на поўдні — пакуль што няспелы, бледны акраец месяца. Спачатку, пакуль ідзеш, толькі як быццам адчуваеш яго прысутнасць над сабой, а потым так і не вытрываеш — азірнешся ўгару. З нейкай дзіцячай прыемнасцю.

* * *

На гары за вёскай, любуючыся родным, даўно знаёмым і ўсё яшчэ новым светам — белым, чысценькім у вячэрнім святле,— міжволі, жыва і радасна ўявіў сябе мурашачкай на неабдымна агромністым гарбузе Зямлі... Успомніў, як бачыў яе пад крылом высокага самалёта. Уявіў, як бачылі яе, у ціхім ззянні, нашы касманаўты...

Цяпер у вёсцы ноч. Выйшаў на двор і зноў падумаў, што прыеду, буду тут добра, многа працаваць. Каб святло маіх акон так вось лажылася на новы снег...

*1947—1979*

# ПРА ГАЛОЎНАЕ

Ноч каля вогнішча над ракой. Камары, холад, птушыны канцэрт. Гутарка з сябрам. А потым — роздум...

Ох, недарма чалавек даўно ўжо назваў сябе толькі госцем на гэтай зямлі, і не соладка было яму прыйсці да гэтай думкі!..

Успамінаецца адзін з нядаўніх вершаў Маршака, дзе ёсць мудрыя і, відаць, таксама ж у пакутах народжаныя радкі (не памятаю даслоўна): «Калі мне было чатыры гады, *калі я быў яшчэ несмяротны...*»

Майму малому пяць. Зімой, калі ў суседнім доме памёр дзядок, хлопец не даваў мне спакою доўга: а што, а як, а чаму?.. Аднак для яго гэта — самы першы пачатак пакутлівага роздуму над тым, што жыццё чалавека — ой, як далёка і як бязлітасна, жорстка не вечнае. Малы будзе яшчэ вельмі доўга думаць, што людзі *паміраюць*, а потым прыйдзе час на думкі, што і *я таксама памру...*

А я ўжо думаю і за сябе, і за яго, і наогул за чалавека. І думаць так пад зоркамі, у адзіноце — бывае ўсё ж такі цяжка.

Упадак сіл? Можа. Што — гнаць такія думкі працай? Добра гэта...

А ўсё ж і тады, калі чалавек будзе нарэшце жыць, як трэба жыць чалавеку, думкі такія яго не пакінуць. Яны і павінны былі б падказаць нам наймудрэйшую з думак — пра мір, у якім найбольш разумна было б пражыць тыя лічаныя гады, што адведзены кожнаму з нас прыродай.

* * *

Страшна бывае ад думкі, што родныя, сябры, што твой цудоўны сынок — толькі сустрэчныя на бязмеж-

най дарозе часу, паміж небыццём, што было, і небыццём, што будзе. Што мы не бачыліся з сынам, з другам мільёны год, і хутка зноў не будзем бачыцца — ніколі!..

Якія жудасна шчаслівыя гады і дні нашай любві, дружбы, і як жа часта мы марнуем іх на пустое!..

* * *

Вось праблема — ведаць, што ты жывеш толькі сёння, што няма чаго адкладваць многае на заўтра, няма чаго кудысьці ўсё спяшацца... А чаго? Каб потым азірнуцца і заплакаць? Што бег ды не дабег, а многае мінуў...

* * *

Вецер будзе кудысьці гнаць аблокі, месяц — хавацца за соснамі, калі і мяне ўжо не будзе. І нехта іншы стане думаць-прадумаць, што так і суджана, мусіць, яму сумнявацца, горка тужыць і плакаць без слёз, і часта шукаць апоры, і горача любіць — жыццё, дабро, людзей, паэзію!..

Так думаецца ў полі за лясною вёсачкай, над Віллёй, дзе ў пятнаццатым годзе была перадавая — кроў, туга і акопныя вошы... Акопы не зацерліся, хоць параслі сасоннікам.

Тут і пішу, стоячы на пясчанай дарозе, перад вячэрняй зарой, што яшчэ ўсё ніяк не патухне, пад гулам высока-высокага самалёта. Пішу ў паўцемры, наўздагад, каб не адкладаць і гэтых думак-пачуццяў, як многае, што я чамусьці ўсё адкладаю...

* * *

За паўстагоддзя з гакам многа і пражыта, і пераа жыта, і сёе-тое зроблена. Але яшчэ больш — змарнавана часу...

Што ж, чалавек — не механізм з гарантаванай дакладнасцю, і калі ён не заўсёды мог трымаць сябе ў руках — ёсць, відаць, у гэтым нейкая заканамернасць. Трэба ж яму і *проста жыць*, не толькі тварыць ды змагацца.

І ўсё ж пра гэтую процьму змарнаванага часу я думаю не ўпершыню. Шкада. І сумна.

* * *

Чакаючы свае чаргі ў цырульні, пераглядаў старыя «Кракодилы». Сярод «афарызмаў», да якіх не ставішся сур'ёзна, раптам наткнуўся на такі:

«Памылкі мінулага можна выпраўляць толькі мемуарамі».

Успомніліся дзве кнігі. За сотню то больш, то менш змястоўных, то больш, то менш цікава напісаных пісьменніцкіх аўтабіяграфій. Але ніхто — і сам я ў тым ліку — нават і блізка не падняўся да пушкінскага:

И, с отвращением читая жизнь мою...

Характэрна гэта, адзнака нейкая — такая праведнасць, адсутнасць, як гаворыцца, самакапання?

* * *

Сцішнавата часамі, падумаўшы: а як жа я выглядаю збоку, у вачах іншых людзей?..

І сцішнаватасць гэтая заключаецца ў тым, што тут я і сам пачынаю глядзець на сябе — і знешняга, і ўнутранага — збоку. Што я такое? Адкуль? І куды?.. І прозвішча нейкае носіш... Іменна носіш, нібы ўзяўшы яго напракат...

Адчуваў гэта ўжо неаднойчы, а вось схапіць і на паперы замацаваць гэтае адчуванне — не ўдаецца. Прынамсі, цяпер не ўдалося.

* * *

Мой найбліжэйшы друг памёр. А я, яго другая частка, амаль адно з ім, здзіўлена бачу, што навокал усё — як было, так і ёсць. Як пасля ўсіх тых, што памiралі на нашай з маім другам памяці. Нібыта ён — гэта я; я і памёр, я і гляджу, правяраю, што ж тут змянілася, *калі нас няма...*

Дзіўнае, горкае і... шчаслівае адчуванне.

* * *

Гледзячы на партрэты тых, што жылі даўно.

Яны не толькі жылі, але ж і адчувалі сябе *без нас*

зусім нармальна, і нават не здагадваліся, што мы, іменна такія, як мы ёсць, персанальна калісьці будзем.

* * *

Сумна стала, пераглядаючы стары фотаальбом. Пісалі людзі калісьці адзін аднаму: «На доўгую... на вечную памяць...» І ўжо даўно іх няма, і памятаць іх — няма каму...

* * *

Каб не было ў цябе свядомасці — не сумаваў бы ты, не ўпадаў бы ў адчай, не думаў бы пра смерць, а цвіў бы сабе, як кветка, або, як шпак, спяваў бы, колькі табе належыць, або памахваў бы хвастом на поплаве, як бык.

* * *

Ясны поўдзень. Усхваляваны натоўп.

Школьнік трапіў пад машыну. Аўтобус,— хоць і затармазіў рэзка, аж ткнуўся ў канаву,— стукнуў малога моцна. Каля самай школы, пры ўездзе ў зялёны, поўны майскай квецені гарадок.

Было гэта ўчора. Цяпер я прачнуўся ў адзіночным, сцішнавата ціхім нумары гасцініцы раней, чым дома, і — адразу з думкай пра ўчарашняе. Як быццам думка тая і не спынялася, не спачывала...

Лепш бы я, хлопчык, не ведаў цябе, не ведаў, што ты ёсць, лепш бы я думаў, што і ты — проста адзін з тых нястомных, звонкагалосых, у белай кашульцы, з чырвоным гальштукам, якія ўчора канчалі свой трэці, чацвёрты, пяты, святкавалі пачатак канікул.

Я і так не ведаю цябе, нават не бачыў, які ты — ні да таго, ні пасля. Бачыў толькі тваю, пралітую пад ногі, сутнасць — жменьку крыві на гарачым, убітым жвіры, бо цябе ўжо забралі.

Ды вось здаецца мне, што я ўжо ведаю цябе, і горка, што ты з тых назаўсёды. Такі самы, як мільёны іншых, а ўсё ж адзіны, тая часцінка, грань жыцця, што ў тым самым адценні, відаць, не паўторыцца.

А для бацькоў, для блізкіх?..

* * *

Убачыў у беластоцкай «Ніве» партрэт маладзенькага хлопца, «энтузіяста роднай справы», і цёпла, ледзь не расчулена падумаў пра яго,— збоку, з дыстанцыі ўзросту, успомніўшы, што я быў амаль такі самы — *калісьці*.

Раней так думалася пра маленства. Цяпер я ўжо думаю так і пра маладосць.

І гэта не сумна, што ўжо і яна — таксама *калісьці*. Не вельмі сумна, калі з любоўю думаеш вось пра такіх, як гэты — юнак [illegible] харошай, чыстай усмешкай.

* * *

У газеце, дзе вы надрукуеце мой некралог, няхай таксама будзе недзе побач жывы, таленавіты артыкул пра несмяротнасць сапраўднай паэзіі.

* * *

Страшныя рэчы адбываюцца з блізкімі або знаёмымі людзьмі, не адбываюцца са мною, а вельмі проста могуць адбыцца.

І ў гэтым шчасце, жудасна-часовае шчасце, якім трэба жыць.

У добрага, сціплага чалавека памёр адзіны сын, адзінае дзіця. І сын быў харошы, я яго ведаў. Думалася тады, што я... ну разарваўся б ад болю, ці што...

А ён нядаўна зноў надрукаваў артыкул. Добры. Зноў жыве.

* * *

У цяжкія хвіліны ён думаў, што нядрэнна яму — ой, нядрэнна! — мець недзе далёка бацьку, брата ці друга, каб да кагосьці з іх паехаць і паскардзіцца. Тады, калі яны ў яго былі. Амаль што побач.

А што ўжо гаварыць цяпер, калі іх — і найдалей — няма?..

* * *

Пачынаю ўжо лічыць свае гады, нібы рублі пад канец камандзіроўкі...

Няўжо ў народным, старэчым «ужо і дахаты трэба збірацца» ёсць нешта ад рэлігіі?

Ці гэта проста вялікая, сапраўдная мудрасць — ад зямлі, ад працы, ад жыцця,— мудрасць, якая яшчэ не мае імя, але вышэй за якую няма нічога?

«Дахаты» — зліцца з прыродай, стаць часткай яе, пабыўшы трохі ў шчасці і ў горычы свядомага існавання.

* * *

Жыццё чалавечае — як агонь. Быў і няма. Зноў загарэлася і патухла. Зноў гарыць. І так — бясконца. Тая самая вечная, таямнічая і цудоўная з'ява.

Так думаў я ўчора, у Гомелі, неяк па-новаму не толькі зразумеўшы, але і адчуўшы гэта.

Апоўначы, калі мы з Дзімам [1] вярталіся ад яго старэнькай мамы і спыніліся каля помніка героям вайны, каб паглядзець на вечны агонь, адчуванне тое вярнулася. Здалося нават, што калі б пасядзеў там адзін, хоць да дня,— адчуў бы па-сапраўднаму яго паэзію — паэзію вечнай работы гарэння.

...Скромніца, работніца, так хораша спявала за святочным сталом, а потым — знікла трагічна, сама пажадаўшы гэтага, знікла — як патушаны агонь.

А я — праз дзевяць год, богведама дзе, на Палессі, вяртаючыся ў горад з далёкай пасекі ў рэдкіх бярозках і клёнах,— я ўспамінаю яе, як жывую, за тым сямейным сталом, з тою вясёлаю песняй...

Што, мала было на свеце агню? Мала ёсць яго? Мала будзе?

Тут, з чалавекам,— не проста агонь. Больш чагосьці. Больш непаўторнага.

* * *

Людзі цяжкай працы, якія жывуць у прыродзе, гавораць не толькі «хочацца жыць», але ж і «трэба жыць».

Не плач, не гаруй па сваім, па сваёй, каго ты страціў ці страціла,— табе трэба жыць.

[1] Кавалёў Дзмітрый Міхайлавіч (1915—1977) — рускі паэт.

Ёсць і ў мяне такое адчуванне. Відаць, не дарма я пражыў у прыродзе, у цяжкай фізічнай працы маленства і маладосць. Адтуль яны, гэтыя думкі. Хоць і шмат у мяне, як Прышвін кажа, было адхіленняў ад правільных чалавечых паводзін.

Падумаў гэта, гледзячы на сыта-зялёны, паліты адвячоркавым сонцам агарод, на яблыні, мужнага ўзросту каштан каля хаты, а за гародам-садам — на сцяну лісцянога лесу.

Мы сюды з сябрам прыехалі ў хату ягоных бацькоў, пасля вялікай, нялёгкай у спёку дарогі нам тут добра адчуць халадок, цішыню, апусціцца ў самога сябе, супакоіцца.

Свеце родны! Маіх ужо многіх няма, а мне яшчэ ўсё трэба жыць, трэба рабіць сваё.

* * *

Хадзілі па аціхлай ноччу шашы, паміж дзвюх сценак лесу, пад зорным, бязмесячным небам, па мяккім, злёгку рыплівым снезе.

І думалася з даўнім, яшчэ хлапечым захапленнем і з лёгкім сумам позняй сталасці пра веліч сусвету і і нашу, маю чалавечую нязначнасць.

Успомнілася бабуля, адна з вялікіх пакутніц, што гарэла — не дагарэла ў вайну, а сёння кажа: «Жыць ужо можна было б, а тут у ямачку трэба».

Шлях і малых і вялікіх. Туга, якой не пазбыцца, якая павінна клікаць або да адчаю, або да таго, каб свае паводзіны звяраць па вечнасці.

Так было ўчора.

А цяпер, хоць і сонца ўзыходзіць, і хвойнік ды голае вецце злёгку сярэбрана заінелі, хоць і ціха яшчэ на той самай шашы,— усё-такі ноч, зорная ноч застаецца больш урачыстай, глыбейшай, чым дзень. Яна далучае да мудрасці, вечнай паэзіі сусвету, а дзень замыкае ў нашай будзённасці.

* * *

Задрамаў у крэсле, прачнуўся і — не ўпершыню — падумаў:

«Няўжо ўсё гэта — я? Гэтыя рукі, ногі, твар? Гэтыя думкі пра самога сябе?..»

Як быццам ёсць яшчэ нейкі іншы я, які вось можа назіраць мяне такога, як я ёсць, збоку...

* * *

Старыя запісы ў блакноце, зробленыя дваццаць дзевяць год таму назад. Перачытваю іх — і раптам дзіўна стала, што гэта іменна я, а не хто іншы пражыў так многа. Многіх сучаснікаў, сёння ўжо сталых, у той час яшчэ не было, многія былі дзецьмі, а я ўжо тады адчуваў сябе бывалым, ужо азіраўся назад і баяўся, што не паспею зрабіць таго, што павінен.

Дзіўнае, сціпнаватае яно — адчуванне прасторы за табой, прасторы пержытага...

І тое яшчэ, як ты тады — даўно, у розны час — упіраўся лбом у сваё невядомае, якое цяпер так проста бачыцца, а сёння — упіраешся зноў, у тое невядомае, што будзе...

* * *

Зусім не хістаюцца толькі слупы, асабліва — глыбока ўкапаныя.

* * *

Мой старэнькі, нямоглы дзядзька, чыгуначнік на пенсіі, якому я трохі памагаў, сяк-так пісаў мне калісьці з Адэсы, што як памрэ ды пабачыць Антося, майго бацьку,— усё раскажа яму... Смешна было, сумна, прыемна. А сёння вось успомнілася зноў, праз дваццаць год.

Чаму ж яно жыве ў нас — жаданне пагаварыць з тымі, каго ўжо няма і не будзе, расказаць ім, як мы любілі іх, як гаварылі пра іх пасля з роднымі і сябрамі, як нас усіх яшчэ больш зблізіла гэтая страта?..

Сваёй чаргою і мы ўжо, услед за старэйшымі, набліжаемся да рубяжа. Успамінаю пахаванне брата, найбліжэйшага мне [redacted] чатырох, зноў бачу тое прадвясенняе золкае разводдзе, калі адзін наш сябар, самотны ў машыне, за рулём, дабіраўся праз ноч і ранне сваіх чатырохсот кіламетраў, калі другі ўсе клопаты ўзяў на сябе, каб быць у горы зусім побач, калі трэці не змог

ад плачу гаварыць над труной... Восем гадоў прайшло, ужо і ў памяці сёе-тое блытаецца, скажам, рэальнасць і паслядоўнасць фактаў, а пачуцці — застаюцца такімі ж...

Вось мне якраз і расказаць бы пра гэта самому брату, а яго — няма. І гаварыць з ім можна цяпер, калі не пад чаркай ды не верачы, як наш старэнькі дзядзька, у «той свет», толькі з думкай пра несмяротнасць нашых блізкіх у нас саміх, у нашых думках, у нашай памяці.

А гаварыць з імі парой так хочацца! Бо іх ужо так шмат на тым баку.

* * *

Такая простая алгебра:

Сябры нашых сяброў — нашы сябры. А ворагі нашых сяброў? У кожным выпадку — не сябры. І так балюча бывае, калі сябры пра гэта не памятаюць.

* * *

Сястры ці брату не скажаш, што каб ведаў, дык узяў бы лепшую ці лепшага. А жонцы ці мужу можна такое сказаць.

І тады, вось якраз і дыхне халоднай чужасцю, стане цёмна, балюча... Ды так балюча, як бывае мужу ці жонцы, хоць ёсць і тое, што павінна было б назаўсёды раднiць — іхнія дзеці.

* * *

Час бяжыць, бяжыць, а потым я спынюся, а ён пабяжыць далей...

А я ўсё збіраюся азірнуцца, каб убачыць, нарэшце, найлепш, што я павінен зрабіць, каб належна наладзіць тое, што я павінен пакінуць, аддаць, адыходзячы.

* * *

«Колькі таго жыцця!..»

Часовасць гэтую разумеюць па-свойму і мудрасць і дурнота. Адна стараецца насыціць яе, часовасць, мудрым зместам, а другая — схапіць хоць што.

* * *

«Так вось мы і марнуем самі сябе»,— сказаў ён. Але з усмешкай. Відаць, не вельмі ўсведамляючы тое, што ён і сапраўды марнуецца, растрачваецца на пустое. Жыццё яшчэ ўсё не бачыцца яму дадзеным *адзін толькі раз*. Жыве — як на вакзале: «Абы той час прайшоў хутчэй». А да якога ж цягніка?..

* * *

Падумаў: «А ўсё-такі старэю...» І пастарэў яшчэ на некалькі хвілін.

Ну, дык ці варта ж думаць пра гэта?

* * *

Каб толькі жыць як найдаўжэй, дык гэта вельмі цікава было б: як яно ўсё праходзіла — так многа і так доўга!..

Часта яна ў мяне паўтараецца, гэтая думка. Нават не думка, а вясёлае здзіўленне.

*1960—1975*

# «...МОЖНА РАСКАЗВАЦЬ БЯСКОНЦА»

Старэнькай маці, калгасніцы, адняло мову. Прыляцеў самалётам вучоны сын, два дні сядзеў над ёю, і толькі на трэці яна апрытомнела. I першае, што сказала — спыталася:

— А ці абедаў жа, сынок?

Колькі яму — пажылому мужчыне, былому ваяку — каштавала, каб не заплакаць!..

* * *

У глухой вёсачцы на беларускім Палессі спыніліся каўпакоўцы. Адзін з іх зайшоў у крайнюю хату і папрасіў бабулю памыць яму запасную пару бялізны.

А потым раптам — трывога. Пайшлі — як прыйшлі.

На трэці дзень адзін з атрадаў, што адпачываў у лесе пасля бою, затрымаў старую. З клуначкам бывалай бялізны, і памытай, і пакачанай, і палапленай рукою маці. Два дні шукала яна ў бліжэйшым і далёкім лесе, пад музыку далёкіх і блізкіх выбухаў, таго «прыгожага ды вясёлага, што камандуе цэлым атрадам, а называецца — дай божа памяць,— здаецца, Платон...»

I вось знайшла, аддала і пайшла дахаты. З адным толькі пачуццём, з адной радасцю: «Няхай здаровенькі носіць!..»

Слаўны хлопец, добры паэт, адзін з маіх украінскіх сяброў, ён мне расказваў пра гэта ў часіну харошай сустрэчы.

* * *

Як толькі дарогай міма яе самотнага хутара праязджала разведка, старая выходзіла за брамку і ўжо здалёк пазнавала, што сёння да чаго.

Калі партызаны гамоняць, пяюць ці смяюцца — маршчыны яе распагоджвала ўсмешка:

— Хлопчыкі, няхай бы да мяне! На клёцкі! Цёпленькія, з малаком!

Калі ж хлопчыкі ехалі моўчкі, без песень і жартаў, сэрца яе разумела, што тут не да клёцак.

Кіўнуўшы на іх «добры дзень», яна праводзіла коннікаў позіркам, без слоў і — пакуль што — без слёз...

* * *

Ідзём па хлюпкім ды хрусткім снезе. Каб гэта не ў горадзе, дык і жаваранкаў, мусіць, пачулі б.

Бывалы журналіст і добры, сур'ёзны хлопец расказвае:

— А самае, брат, страшнае, што я за ўсю вайну ўбачыў, дык гэта ў першы дзень, калі мы адступалі з-пад Беластока. У вагоне адна маладзічка звар'яцела са страху. Маладая, прыгожая, з сыночкам. Ён плача: «Мама, мамка, гэта я, твой Віця! Я!..» А тая б'е яго і гоніць ад сябе. А ён усё плача...

* * *

Вясёлы лётчык, які выдатна папрацаваў для нашай перамогі над фашызмам, расказвае, па-хлапечы радасна смеючыся, як ён вяртаўся сюды, у роднае данское сяло, на трафейным «опелі»:

— Узяў, зараза, ды заглух. За тры кіламетры ад бацькавай мазанкі! Дзед Афоня мяне дацягнуў на быках. Часта цяпер хто скажа: а гэта ж тады было, у той год, як дзед Афоня Міколу прывёз. Гісторыя!..

Пасля вайны камандаваў палком. Уранні, перад вучэбнымі палётамі, сам вылятаў раней — «нюхаць паветра». І не мог устрымацца, каб не праляцець над роднай Папоўкай, не памахаць крылом.

А маці, старэнькая бабка Нюся, абы заўважыла, што самалёт крылом махае:

— Цэ мій падлюка!

Не для экзотыкі запісваю, а ловячы здаровае адчуванне сувязі з родным, з мудрай народнасцю.



Шаснаццаць год прайшло, а я вось зноў успомніў гарачае лета сорак пятага і бабулю,— салдацкую ці партызанскую маці,— якая, прыйшоўшы ў горад з калгаса, купіла ў піўным ларку кухаль рэдкага, несалодкага морсу і прысела каля плота, на зямлі, запіваючы гэтым морсам сухі кавалак чорнага хлеба...



Мноства астрыжаных галоў, дапытлівых вачэй... Фабзайцы.

Жанчына, з выгляду падобная на старую настаўніцу, гаворыць з трыбуны:

— Мая дзяўчынка закрыла сваімі грудзьмі амбразуру варожага дота...

Колькі яна непакоілася калісьці пра здароўе тых кволых дзіцячых грудзей!..

А цяпер вось гаворыць спакойна:

— Яна зрабіла так, як зрабіў бы кожны савецкі чалавек. Вучыцеся, дзеці, будзьце сапраўднымі патрыётамі.

Пасля выступлення жанчына надзела паліто, ветліва развіталася з арганізатарамі сустрэчы і пайшла. Каб зноў дзесьці думаць пра сваю дзяўчынку, якая...

«Вось ён — сапраўдны гераізм!» — падумаў я.

Потым, за нейкі год ці трохі больш, яшчэ і яшчэ раз убачыў яе на трыбуне, пачуў яе ціхія, роўныя словы і... стала балюча...

Захацелася падысці да яе і, каб не чулі, сказаць:

— Хадзем дахаты, матуля! Не трэба. Мы самі раскажам пра гэта.



Старая ішла па абочыне. Сцежкай пад вербамі. Радая, што халадок.

Мы стаялі на паваротцы з гасцінца ў вёску, каля саўгасных майстэрняў. Ужо напіліся вады, пагаварылі са знаёмым, і можна было ехаць. Ды я заўважыў старую, пазнаў.

Я добра ведаю яе. Добра ведаў і сына, што не вярнуўся з вайны. Можа, і цяпер яна якраз ідзе з мястэч-

ка, атрымаўшы чарговую долю пенсіі за яго? Рублі, якія кожны месяц, год за годам, напамінаюць ёй, што сынок быў адзін... Дачок было тры. Адна памерла таксама ў вайну. Уцякала ад паліцаяў, што рабілі аблаву на моладзь — вывозіць яе ў Нямеччыну. Паўцякалі амаль усе, але цётчына Маня прастудзілася недзе ў раўку, восень была, а яны павылятаці толькі ў сукенках,— пагарэла потым дзён некалькі і памерла. Другая дачка... Пра гэта гаварыла нядаўна ўся ваколіца. Страшна падумаць — дзявочая шыя і... брытва... Сама сабе. І невядома чаго. Муж старое памёр так даўно, што боль адбалеў і забыўся. Прытупіўся ўжо боль і па Мані, нават — па сыне. Сілы таксама стала менш. А тут — такое ў хату!..

Што мне сказаць старой? Я не бачыўся з ёю пасля апошняй бяды. Няўжо хопіць адно павітацца, узяць падвязці?

Ад глыбіні сваіх пакут, ад роздуму горкага яна магла б, здаецца, яна павінна была б сказаць нам штосьці незвычайнае, вельмі патрэбнае...

А яна папрасіла мяне «хвіліначку пачакаць», зайшла ў сельмаг, развязала памалу вузельчык хусткі, дастала капейкі і папрасіла крамніцу адважыць ёй дзвесце грамаў вунь тых падушачак.

— Бо як жа ж гэта я, старое заткала, ішла, ішла ды забылася ўзяць у мястэчку?

Бо дома ж ёсць недзе ўнучак і ўнучка, дзеці наймешай, замужняй дачкі.

Калі мы пад'едзем да іхняй хаты, малыя заўважаць бабулю і закрычаць і пабягуць ад радасці да ўжо нямоглых, а такіх ласкавых рук.

Ну, дык як жа тады без цукеркі?..

* * *

Ці гэта той стары славуты вясковы ідыятызм, ці гэта ўжо так у чалавечай натуры?..

Хаваюць дзяўчыну, што страшна і загадкава наладжыла на сябе рукі. Свеціць сонца пасля дажджу, душу дзярэ калгасны духавы аркестр, родныя плачуць, хто яшчэ не змогся з плачу. Старую маці вядуць пад рукі. Якраз яна і змаглася. Добра, што так паволі ідзе ўсё шэсце па коўзкай вясновай гразі. Старая толькі зрэд-

ку, нібы прачнуўшыся, ціха гаворыць: «Дачушка мая, а навошта ж ты так?..» Людзі, уся вялікая вёска, маўчаць і плачуць у разумным чалавечым спачуванні, ва ўладзе высокага, урачыстага моманту.

А потым, як толькі закапалі нябожчыцу і вярталіся з мокрых зялёных могілкаў, я пачуў у натоўпе:

— На нас сукенак ірваць не будуць. Мы самі іх будзем насіць!..

Азірнуўшыся на гэты ціха-зларадны голас, я ўлавіў-заўважыў, хто гэта сказаў. Пажылая дзеўка ў новай, святочнай сукенцы.

Мне сказалі трохі пазней, што словы яе — намёк на тое, што нябожчыцу ўскрывалі. А гаварыла суседка, сястра таго хлопца, за якога толькі што пахаваная не захацела калісьці, гадоў са два таму назад, выйсці замуж.

Сказаны былі тыя нялюдскія словы не так сабе, а каб пачулі. Каму па галаве, а маці — па сэрцы.

Хіба што не пачула, уся ў сваім горы.

* * *

З нашай партызанскай друкарні выходзіла пяць падпольных газет, для пяці навакольных раёнаў.

Сярод таварышаў — мужчын, жанчын і падлеткаў, якія пісалі, рэдагавалі, набіралі і друкавалі тыя газеты на цяжка здабытых кавалках паперы,— мне часта ўспамінаецца адна жанчына-рэдактар.

Пажылая настаўніца, яна накульгвала на карацейшую нагу, а за гузік яе шэрай самаробнай кофты была прывязана прылада журналісцкай вытворчасці — агрызак алоўка на звітым з нітак шнурочку. Калі жанчына ішла, аловачак матляўся ад накульгвання, як маятнік. Але — не смешна...

У настаўніцы была маладзенькая дачка. Яна расла, прыгажэла. І рос матчын клопат, трывога.

Аднойчы хлопцы — не нашы, не з друкарні, а з атрада, у якім жылі маці з дачкой,— зноў «пажартавалі» з рэдактара — сказалі, што яе Валю разведчыкі павялі на заставу... Вунь у той бок!..

Быў пагодлівы чэрвеньскі поўдзень. Хлопцы толькі што паабедалі, ляжалі сабе ды сядзелі на траве, да вечара свабодныя.

Як яна, маці, пабегла туды, куды ёй паказалі! Як яна засаплася, хоць і прабегла няшмат!.. Бо дагналі крыкам, прызналіся, што няпраўда.

Дагэтуль чую іх здаровы, грубы і наіўны смех.

Бачу бледны жаночы твар.

* * *

Мама была вінавата. Яна, відаць, не думала, што тата вернецца, не думала і пра маленькую дачку: што яна скажа, як вырасце.

Гуляла сабе, глядзела, каб не сумаваць, пакуль жыццё маладое праходзіць.

Вярнуўшыся з вайны, тата маму пакінуў. Дачкі яна яму не аддала. Ці з любві, ці ад злосці — не разбярэшся.

Цяпер у дачкі ўжо свая сям'я, дачка ўжо можа ва ўсім сама разабрацца. Цяпер яна свайго тату, які даўно паехаў з новай сям'ёй у далёкі горад, не проста любіць шчымлівай, горкай сірочай любоўю,— цяпер яна ганарыцца ім, харошым чалавекам, які і памагаў ёй заўсёды, і пісьмы пісаў, і любіць не толькі яе, але і яе мужа, і ўнучку, іхнюю дачку.

Вось яна, маладзіца з далёкае вёскі, госціць у таты са сваёй дачушкай.

Расказала нарэшце, што маці яе — чалавек вельмі цяжкі, рабіць не хоча, толькі сварыцца і можа яшчэ, крый бог, разбіць ёй сям'ю...

Расказвае і ціха плача.

Тата маўчыць. А татава радня асуджае яе маму, калісьці гуляшчую, а сёння гультайку і звягу. Тата шкадуе дачку. Ён пачынае нарэшце, хоць стрымана, неахвотна, а ўсё ж асуджаць яе маму. Усе сходзяцца на тым, што маладым трэба пакінуць яе, адысці.

Госця маўчыць.

Яе дакараюць, з яе здзіўляюцца, паціскаюць плячыма, непрыкметна ківаюць-маргаюць адно аднаму: што вы хочаце, вёска...

— Ну чаму, чаму ты губіш сваё маладое жыццё? Вось як пакіне муж — тады паглядзіш!

Госця маўчыць, апусціўшы сумныя вочы. А потым ціха кажа:

— Трэба ж каму-небудзь і яе пашкадаваць.

* * *

Маладзічка ў белым халаце санаторнай санітаркі весела расказвае, як яна днямі была ў сваёй вёсцы каля Любчы, на хрысцінах.

— Сястра мая, Ліда, звенавая па ілну. Ішла ў дэкрэт, дык далі ёй на чатэры месяцы трыста восемдзесят шэсць рублёў. А мама нашая кажа: «Божа мой, божачка, я дзевяцёра дзяцей прывяла і каб хто калі даў мне за тое хоць рубель...»

* * *

Паляшуцкая хата. З вышытымі ручнікамі на сцяне, з прыёмнікам на століку.

Шасцігадовая дзяўчынка вельмі любіць мачаху,— як маму.

Мачаха — маладзіца і праўда вельмі прыемная, але ж...

Малая памятае сваю матулю ў труне і лічыць, колькі год ужо лічыць, што мачаха — мама яе, якая вярнулася...

Як яно будзе далей?

* * *

У яўрэйскай сям'і, дзе я затрымаўся ў Маскве, старэнькая маці інжынера паказвае мне пусты «дзяржаўны» канверт ад міністэрскага пісьма і з гордасцю нібы за першую сынаву пяцёрку, кажа:

— Вось якіх пакетаў прысылаюць майму Мішу!..

А Мішу — пяцьдзесят другі.

* * *

У міжгароднім аўтобусе. Адстаўны палкоўнік вяртаецца з пахавання маці і, пад добраю мухай, слёзна плявузгае:

— Мать — это миллион слов, миллион мыслей, а папа — это лицо соприкасающее...

Слёзы прасохлі хутчэй, чым прайшоў хмель. Праз нейкія паўгадзіны таварыш расказваў мне, любуючыся

сам сабой, больш агідныя, чым цікавыя пошласці пра свае ваенныя прыгоды з жанчынамі, сярод якіх... таксама былі маці.

* * *

Стоячы ў тралейбусе, любаваўся, як з дажджлівай вуліцы, цераз пярэднія дзверы дастойна і, здаецца, яшчэ непрывычна, можа, нават і сарамліва карыстаючыся гэтым правам, увайшлі адразу дзве маладзенькія мамы — з малымі на руках.

Потым адна з іх сядзела тварам да нас, хто падсоўваўся да выхаду, гутарыла з жанчынамі, відаць, незнаёмымі, і румянілася красуня ад шчасця, якое сядзела ў яе на каленях і буркала румянай ніжняй губкай.

* * *

Ідуць салдаты, і дзіўна, прыемна падумаць, што кожны з іх быў маленькі, што кожны з іх абцалаваны мамай.

* * *

«Лепш ужо нечага хаваць у пеляночках, чым у вяночках...»

Бабуля прыехала дамоў з далёкай вёскі, дзе пахавала дарослую ўнучку. І там змаглася ад плачу, і тут яшчэ плача, але ж і расказвае:

— Прывезлі фатографа, каб зняць нябожчыцу Ганначку. От сабе нейкі лахмач. Як убіўся ў нейкую рыжую торбу, дык калупаўся, калупаўся — ажно агоркла, чакаючы...

* * *

Старая яўрэйка, маці вялікай, многаступенчатай сям'і, сядзіць у толькі што атрыманай кватэры свае старэйшае дачкі, удавы, што добра-такі напакутавалася і ў вайну, у партызанскім лагеры з малымі дзецьмі, і пасля вайны, у нейкім падвале. Сядзіць старая, і слёзы самі коцяцца:

— Няўжо гэта, каб зайсці да мае Гітачкі, трэба спачатку пазваніць?..

* * *

У гарадскім тэатры — вечар па запрашальных білетах. У першым радзе сядзіць вясковая бабуля, у валёнках без галёшаў, у хустачцы «пад бараду». Сядзіць — не паварушыцца, не азірнецца,— хаця ж каб сыну сораму не нарабіць, ці што?.. Сядзіць і ў час дзеяння, і ў антракце, калі велікапышны сын выходзіць з жонкай у фае.

Ды вось на трэцім перапынку бабка раптам чхнула, як мыш, і — божа мой! — спалохана азірнулася.

* * *

— Толькі і радасці з дзяцей, калі іх водзіш за ручку,— кажа заўчасна пастарэлая і стомленая маці.

Дзеці пакідаюць бацькоў (часамі вельмі няўдзячна), а потым вяртаюцца да іх у выглядзе ўнукаў. І таму, кажуць, бабулі любяць унукаў больш, чым калісьці любілі дзяцей.

Трымаць за ручку жыццё, якое вось і прайшло, і ўцякае!..

* * *

Званок міжгародняга тэлефона. Пачатак гутаркі. І адразу ўспамін...

...Супрацоўнік газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну», я жыў тады ў драўляным доміку на ўскраіне зруйнаванага Мінска. Мы з жонкай займалі маленькі пакойчык, а за сцяной у двух пустых, яшчэ без мэблі, пакоях жыла гаспадыня, адзінокая жанчына, што нядаўна вярнулася з эвакуацыі.

За вайну яна і аўдавела — муж загінуў на фронце, і асірацела — старых бацькоў і ўсіх родных пабілі тут, у Мінску, гітлераўцы. Яна засталася толькі з сынам, чарнавокім, не на свае сем год спакойным хлопчыкам.

2 мая, калі быў узяты Берлін, па галоўнай магістралі нашага горада, што была калісьці вуліцай, а стала праездам паміж бясконцымі руінамі, трыумфальна прагрымеў першы пасляваенны трамвай. Густа абвешаны і крыклівай малечай, і дарослымі, нават саліднымі людзьмі. Увечары быў салют, ужо далёка не першы за дзесяць месяцаў свабоды.

Пасля цягнуліся дні, гадзіны, мінуты, здаецца, зусім ужо невыноснага чакання...

І вось ён, наш дзень, нарэшце настаў!

На досвітку ў сцяну майго пакойчыка адчайна забарабанілі дзве рукі, пачуўся крык:

— Пе-ра-мога!..

За гэтым словам — плач.

Калі мы ўбеглі туды, гаспадыня, прыпаўшы тварам і рукамі да сцяны, уздрыгвала ад рыданняў і ўсё паўтарала:

— А мне?.. Што мне?..

Хлопчык, разбуджаны крыкам і плачам, сядзеў у ложку, глядзеў дарослымі вачыма, ужо гатовы быў штосьці сказаць, але не паспеў.

Маці нібы толькі цяпер зразумела, што ён, што сын яе — ёсць! Яна падбегла і ўпала побач з ложкам на калені, парывіста абхапіла малога і ўжо гаварыла праз слёзы — многа, пяшчотна, радасна...

...Не ведаю — дзіўна гэта ці не, што, як толькі мне пазванілі з далёкай рэдакцыі і я пачуў ды зразумеў: просяць некалькі слоў пра дваццатае свята нашай вялікай, гістарычнай перамогі — першае, што прыйшло ў маю памяць, быў плач за сцяной...

* * *

Спыніўся вулічны рух, і старшына міліцыі, які спыніў яго — малады, румяны, спраўны хлапчына,— «пад ручку» павёў цераз вуліцу старэнькую бабку з кіёчкам.

Трохі няёмка яму, і хораша, і ўрачыста. Не ён яе пад руку ўзяў, а яна яго.

Старшынова рука, сагнутая ў локці, прыціснутая далонню да жывата, напомніла мне штосьці бальнае, генеральскае.

Звычайна гэта? Нават вельмі.

А прыгожа.

* * *

Дваццаць гадоў таму назад я рэдагаваў беларускае выданне ўспамінаў Кажадуба. Усё, здаецца, забылася, толькі адно памятаю — як ён, вяртаючыся з баявога вылету, у імгле ледзь не ўрэзаўся ў ферму чыгуначнага

моста, як ірвануў крута ўгару і крыкнуў — афіцэр, герой — міжволі па-дзіцячы і на роднай украінскай:

— Ма-мо!..

* * *

Іду па цёмнай пад вечар алеі асенняга парку.

Маленькую дзяўчынку, што бяжыць па асфальце, маладая, шчаслівая мама страшыць воўкам, які вось выйдзе з-за дрэва, які ўжо ідзе, каб забраць яе, непаслухмяную... А потым маці хапае малую на рукі, многа цалуе, а тая ажно захлёбваецца смехам.

Каб у маленстве мы маглі думаць па-сталаму, якія ж мы былі б шчаслівыя ад любві нашых мам — у сто разоў шчаслівейшыя, як былі!

Бо так, як было, як будзе заўсёды — маленства бярэ сваё шчасце, нібы паветра, неўпрыцям.

*1960—1971*

# АДКУЛЬ ПАЭЗІЯ

Усякую — непазбежную, зразумелую, а часта і непатрэбную — заклапочанасць і сумоту старэйшых здорава разбівае — як лёд на вадзе, як акно з духаты — звонкі дзіцячы смех.

За сцяной хлапчукі глядзяць па тэлевізары мультфільм і час ад часу рагочуць. Смех іхні — вельмі канкрэтны. А мне яго, як заўсёды, так добра, радасна чуць. Ажно сам засмяешся. Міжвольна, соладка, нібы праз сон.

* * *

Вушаты, з мілай мордачкай, трохгадовы ваяка зусім сур'ёзна пытаецца ў мамы:

— Паедзем да дзеда Сцёпы і разап'ём бутэлечку вінца?

Мама паблажліва смяецца: што вы хочаце — малое.

І я смяюся. Успомніўшы, як гэтая самая мама, дваццаць гадоў таму назад, зрабіла аднойчы вялікае адкрыццё. Знайшла старую пальчатку і, успомніўшы Падласку, узняла тую пальчатку ў левай руцэ, а правай пачала пацёгваць за пальцы:

— Дой-дой, дой-дой!..

І не змагла ад радасці стрываць — ажно зайшлася ад мілага звонкага смеху.

* * *

У хаце — першы сынок, першы ўнучак. Ён увайшоў у жыццё ўсёй сям'і паўнаўладна, як рэфарматар. Нават граматыку сваю ўвёў. Пра сябе ён, напрыклад, гаворыць звычайна так:

«Валодзя хочаш спаць». «Валодзя не хочаш есці». «Валодзя пойдзеш на двор».

І ўсё гэта важна ў яго, неабвержна. І ўсё гэта міла.

* * *

Паснедаўшы, маленькая Алеся ішла ў абход сваіх цётак, якіх у вёсцы было ажно тры. Прыйдзе, сядзе хорашанька на лаве і, пачакаўшы:

— А мы дык сёння нічога не варылі.

— Ах, мая долечка! Вось дзе хіба маці ў цябе! Я табе зараз...

Алесю кармілі, робячы выгляд, што так ёй, беднай, і паверылі. Пад'еўшы ды пагуляўшы тут трохі, нібы для адводу вачэй, госця ішла да наступнае цёткі. І там паўтараўся гора і шкадаванне.

Цяпер — здаровая, весела-грубаватая дзесяцікласніца — яна сама смяецца з гэтага, калі ёй напамінаюць. І апетыт яшчэ ўсё нішто сабе, служыць.

* * *

Калі ён уранні прачнецца, а мама яшчэ не ўстала ды нікуды не пайшла, трохгадовы малы бяжыць да яе пагрэцца і пагаварыць.

Апошнім часам ён мнагавата гаворыць пра Дзіну, двухгадовую дзяўчынку, якая нядаўна з'явілася на іхнім двары. Гаворыць так неабыякава, што мама нарэшце пытаецца:

— Ты яе любіш?

— Люблю.

— Такую малую, смаркатую плаксу, зусім непрыгожую?

Малы на нейкі момант задумваецца, а потым гаворыць такое...

Наіўная і, мусіць, падсвядомая дзіцячая мудрасць, нібы па натхненню, што ў перадачы нашай, дарослых, гучыць не так нечакана, кантрасна і верагодна:

— Яна прыгожая, бо я яе люблю!

* * *

Верачка дапытваецца ў мамы, як гэта родзяцца дзеці. Сяк-так, з мамінага педагагічнага расказу, уцяміўшы, яна заключае:

— А як зусім не будуць нараджацца дзеці, дык астанецца, мамачка, адзін асфальт?



Расказвае вясковая суседачка: пяць з палавінай гадоў і хустачка завязана «пад бараду».

— Мама паліла ў печы, і каб трошачкі, дык загарэлася б у нашым коміне. І мы вельмі спалохаліся. А таты не было. Ён самагонку гнаў. Тады ён прыносіць яе ў мяшку і кажа: «Давай зробім па чарцы. Дзякуй богу, што так абышлося». І мама таксама піла. А я не ўзяла ні грама.



Пяцігадовы ўнучак адгуляў сваё лета ў вёсцы, у бабы з дзедам, і паслязаўтра, як толькі мама прыедзе і дзянёк пабудзе, паедзе з ёю зноў у свой горад.

Баба лепшая. Яна хоць і пакрычыць часамі, што з ім работы ніякай не зробіш, але і шкадуе Геніка, і сырадою яму, і цукерачку, і спяць яны разам, амаль штовечара засынаючы пасля казкі.

А дзеду ўсё часу няма, дзед усё на рабоце. І калючы ён, і пястотаў не любіць, разоў са два нават страшыў сваволька рэменем.

Ды вось прыехаў дзед з мястэчка і прывёз унуку падарунак. А які!..

Генік узяў чаравічкі аберуч — блішчастыя, чорныя — ткнуўся сваім пацешным курноссем у адзін, у другі.

— Бабка,— сказаў,— яны мне пахнуць лепш, як усе твае кветкі!

Рот ад радасці — да вушэй.

А кветак у бабы — поўны гародчык.



Зіначка ледзь не трапіла пад машыну. Чула сігнал з-за паваротк і, але ж ніяк не спыніла веласіпед. Ездзіць яна яшчэ не на сядле, а «ногу пад раму», і так не вельмі зручна тармазіць.

Шафёр разгубіўся, ірвануў улева, зламаў плот і па-

ехаў у бульбу. Ужо і спыніцца не мог,— сябар, што побач з ім сядзеў у кабіне, націснуў на тормаз.

Бываюць цуды! — і дзяўчынка жывая, кудысьці ўцякла, і веласіпед цэлы, і машына — потым убачылі — цэлая. Плот паставілі — проста ў момант. І плакаць хацелася дзядзьку-шафёру, а ён усміхаўся...

Толькі Зіначку не адразу знайшлі. Дый не знайшлі б — сама яна прыйшла аж з трэцяга гарода. Калі ўжо і тая машына даўна паехала, калі ўжо і баба крычала, крычала ды сціхла. Баялася, распусніца, што баба будзе біцца. За тое самае, што «лётае на гэтым лісапедзе, як шалёнае».

Зіначка есць малако з хлебам і ўжо расказвае:

— А я, бабка, у Сымонавай бульбе ляжу і ножкі свае гладжу, а яны ўсё дрыжаць!.. А яны ўсё дрыжаць!..

* * *

Мароз і сонца. У клетках гараць вясёлай чырванню снегіры, таўкуцца шэрыя чачоткі, як сонечныя зайчыкі, скачуць па пруціках шчыглы. Шмат галубоў. Непаэтычна неяк, груба гавораць пра іх галубятнікі,— нібы гэта ў іх сапраўды толькі гандаль, а не паэзія.

Самае незвычайнае, што я ўбачыў там, на птушыным рынку, за ўсе гады:

Хлопчык доўга стаяў, любаваўся, прыцэньваўся, пасля купіў чачотку — па грашах,— адышоўся трохі з натоўпу, і выпусціў яе з рукі. Глядзеў услед. Нават пасля таго, як знікла...

* * *

Можна прыехаць кудысьці далёка, скажам, з Мінска ды ў Гданьск, як мы цяпер, можна бачыць і чуць штосьці важнае, значнае, на міжнароднай антываеннай сустрэчы, а потым...

Потым, седзячы ў чужой, сяброўскай кватэры, толькі з малымі, бо гаспадыня выбегла «на хвілінку», можна пачуць ад малой, разгулянай дзяўчынкі... Гэта нічога, што вы чужая, ажно замежная цёця, што дома вы маці дарослых дзяцей, што вы педагог, па-свойму салідны і паважаны... Можна пачуць і такое, зрэшты, зусім дзелавое, сур'ёзнае:

— Проша пані, а пані можа стаць на галаве, як я?
Можна пачуць. І яшчэ раз — іменна добра, што так далёка ад дому — сардэчна, молада засмяяцца. Дзеці!..

* * *

У піянерскай газеце надрукавана анкета КЦС — «клуба цікавых сустрэч».

Праглядаю дзіцячыя пісьмы, адказы на анкетныя пытанні.

Пытанне:

«З кім са слаўных людзей нашай рэспублікі ты хацеў бы сустрэцца ў новым навучальным годзе на пасяджэннях нашага клуба? Чым цябе зацікавіў гэты герой?»

Адказ вясковага сямікласніка:

«З таварышам І. А. Грыбовічам. Ён не адказаў на два мае пісьмы».

Таварыш Грыбовіч — салідны, заакуляраны супрацоўнік рэдакцыі, адзін з арганізатараў таго КЦС.

* * *

Госця. Разумна, весела шчабятлівая першакласніца. Ва ўсім чырвоным. І шчокі — з марозу — чырвоныя. Памагаю ёй распрануцца і гавару:

— Ты разумееш, што было б, калі б цябе ўбачыў індык?

— А бык? — усцешана пытаецца яна.

Нам весела.

* * *

Дзесяцігадовы, пацешна сур'ёзны Жэнька прыйшоў адведаць хворага сябрука. Цукеркі, якімі яго пачаставалі, з'еў, а апельсін усё не пачынае.

— Чаму? — спыталіся.

— Я тату занясу. Ён хворы.

Здорава!.. Успомніўся ягоны, вельмі мала знаёмы мне бацька, з выгляду — малады, нават і пуставаты. Усё знешняе, што мне ўяўлялася, раптам адпала, перакрэсленае гэтай дзіцячай чысцінёй,— мне стала ясна, што Жэнька мілы, разумны, ветлівы — не так сабе:

што нехта ж яго так выхоўвае, што некага ж ён за штосьці так любіць.

А ў Жэнькі, пры ўсёй яго сур'ёзнасці, тырчаць ружовыя вушы. Гэта — таксама здорава: смешна і міла. І вельмі істотна для паўнаты яго вобраза.

* * *

Жнівеньская раніца.

У рэдкім лесе — заліты сонцам папаратнік.

Пад адным такім парасонам хітра схаваўся вялікі падасінавік.

Дзяўчынка хадзіла, хадзіла па лесе і надарэмна толькі стамілася. Прылегла адпачыць, пасля расплюшчыла вочы — ён!.. Прыгожы, любы, як казачны прынц!..

* * *

Малец з чацвёртага класа піша ў піянерскую газету пра непаладкі ў іхняй школе.

— Здольнасці ёсць, але ж залішне ён нейкі сур'ёзны, не па гадах,— кажа сваім супрацоўнікам цёця рэдактар, поўная строгая дама. І яна вырашае заняцца гэтым талентам сама.

«Напішы нам, Валодзя, як вы святкавалі ёлку».

У адказ апісана ёлка ў вясковай школе, а потым — прыпіска:

«Наш дырэктар, Мікалай Пятровіч Чыжык, купіў на сабраныя вучнямі грошы цукерак і большую палавіну забраў сабе...»

Цёця рэдактар піша яшчэ больш педагагічны ліст:

«Напішы нам, Валодзя, пра вясну — як яна прыйшла ў ваш калгас, колькі радасці яна прынесла рабятам вашай школы. Паспрабуй апісаць гэта вершам».

Вершык прысланы доўгі, грунтоўны і... з празаічнай прыпіскай:

«А наш дырэктар усё ж такі злодзей».

* * *

Скульптар паказвае школьнікам сваю майстэрню, ахвотна і цікава расказвае амаль пра кожную групу, пра кожны бюст,— як гэта робіцца, як працавалася.

Жывыя, дапытлівыя пяцікласнікі слухаюць на дзіва ціха.

Ды вось гаспадар, чалавек ужо сівы, стаміўся.

— Задавайце мне, дзеці, пытанні. Ну,— паўтарыў ён пасля невялікай паўзы,— хто з вас хацеў бы пра штосьці спытацца?

Здаровы, трохі перакормлены, але вясёлы, хоць часамі і недарэчы, Сёмка ўздымае руку.

— Скажыце, дзядзя, а што гэта там за генерал? Вунь, у кутку! Вусаты, у шапцы!..

— Гэта, хлопчык, не генерал...— ледзь не ўздыхае скульптар. Ён называе імя, імя па бацьку і прозвішча «негенерала» — са смакам, з сумам, урачыста.

Ды на малых ні тэкст гэты, ні ўздыхлівы падтэкст не робяць ніякага ўражання.

Яны нарадзіліся ў другой палавіне стагоддзя.

* * *

Цудоўная музыка — «Танец маленькіх лебедзяў»!.. Асабліва тады, калі прамінула вялікая небяспека, бяда, калі хочацца ціха заплакаць ад шчасця.

Відаць, таму ў мяне такое адчуванне, што я яе, здаецца, упершыню пачуў і назаўсёды палюбіў улетку сорак пятага года, на праглядзе мастацкай самадзейнасці беларускіх дзіцячых дамоў.

Танцавалі маленькія дзяўчаткі-сіраты, дужай народнай рукою ўратаваныя ад фашысцкага знішчэння.

* * *

Успомніў свайго цыбатага загарэлага хлопчыка і шэрае вякала-кацяня, з якім ён там, у вёсцы, дружыць.

Яно занудлівае, лезе пад рукі, на стол, на падаконнік — колькі яго ні скідай, і ўсё кавэнчыць, скрабе па душы.

Ён абураецца, калі коціка крыўдзяць — скідаюць, кешкаюць, гоняць,— бярэ яго на рукі, гладзіць, нясе з хаты і здзіўлена глядзіць на ўсіх, асабліва, здаецца, на бацьку...

Не праваронь ты, бацька, чагосьці ў яго выхаванні, не разбурай таго, што сам узводзіш — чытаннем, гутаркай, прыкладам.



Дзяўчынка так і пільнуе, калі той тата зноў будзе закурваць. Яна тады тушыць запалку. Пацешна і тое, як яна хукае, не могучы сагнаць з канца танюсенькай палачкі пушынку полымя і, яшчэ больш — яе ўпэўненасць, зусім сур'ёзная, у тым, што яна — памагае.

Уранні, як толькі ён, малады паэт,— калі з прыемнасцю, калі бязлітасна памыўшыся да пояса халоднай вадой,— заходзіў у свой рабочы пакойчык (яшчэ ўсё смешна называць гэты закутак кабінетам), адразу яго сустракала дачка. Партрэт на акне за пісьмовым сталом.

Падперла кулачкамі твар і зажурылася. Такія сур'ёзныя вочы. А губкі ўмеюць так пацешна надзімацца. Не злосна, ад клопату.

І подпіс пад фота: «Памагаю тату думаць».

У кіслым настроі ён нават фыркаў: «Сентыментальнасць, бабскія штучкі...»

Часцей, аднак, вітаўся з «сааўтаркай», і працавалася весялей.



З пісьма:

«...Майго малога без усякае віны дзіка пабілі днямі два васьмікласнікі. Нейкімі «спартыўнымі прыёмамі», а як упаў — нагамі. І дома ён перамагаў свой плач значна старэйшай крыўдай: «Як яны маглі мяне біць — ляжачага?!»

Пачуў я гэта ад жонкі, як ездзіў дахаты, але асабліва балюча стала ўчора, тут, у нашай лясной адзіноце. І ноччу думаў, і ўранні з гэтым прачнуўся. Боль бацькі і боль чалавека: якая моладзь расце!..

Супакойваў сябе тым, што горш будзе, калі і мой стане пасля такім малойчыкам са спартыўнымі прыёмамі.

Але і гэта, браце, не супакойвае...»



Ён пакрыўдзіў яе, сваю дзяўчынку, і горка думаў, што цяпер трэба будзе знайсці нейкі ход, каб памірыцца.

А яна паплакала трохі і ўвечар, вяртаючыся са школы, купіла там, у школьным кіёску, два аркушы зялёнай паперы. На ягоны і свой пісьмовыя сталы. Чыстай, зялёнай, як маладзенькая рунь.

Што гэта, ад чаго — ад думак яе, васьмігадовага чалавека? Ці «проста любоў»?..

* * *

Бедны чалавек абслугоўвае багатых. А разам з ім прыйшоў сынок — малы, маўклівы сведка, назіральнік ад імя Вялікай Справядлівасці...

Тэма гэта — даўно няновая. Я проста неяк па-новаму, для самога сябе, адчуў гэта, нават убачыў вочы хлопчыка.

* * *

Дарослую, самастойную і, здаецца, непрыступную модніцу знарок ударылі па назе.

Трымалася яна, трымалася, а потым-такі адкульгала да сцяны, прысела на выступе — зусім адна — і ціха заплакала. Як у маленстве.

Але, я гэта... уявіў.

* * *

Худы і вясёлы сабачы падлетак, спушчаны з ланцуга, брэхам ды тузаннем паднімае карову, што спачывала сабе на двары, вярнуўшыся з пашы, турбуе свінню, што абурана рохкае на яго, блазнюка,— скача цюцька, не можа нацешыцца.

Госці з горада, хлопчык і бацька, глядзяць на сабаку, стоячы каля плота. Хлопчык любуецца, звонка смяецца. Бацька панура маўчыць: ці натура такая, ці клопат які ў чалавека.

Вось па двары пайшла кошка. Спаважна і ціха, задумаўшыся пра сваіх кацянят, што спяць на гарышчы.

Сабака скочыў да яе, каб ірвануць. Відаць, не злосна, не па спрадвечнай традыцыі, а зноў жа ад радасці.

Ды кошка абурана пырхнула, сіганула на плот, там наставіла хіб, пачала хулігана адчытваць — сіпеннем ды хорканнем.

Пануры хлопчыкаў бацька нарэшце зарагатаў. Разам з сынам. І ў ім прачнулася маленства.



Адпяваюць старога Навума. У хаце, дзе ўжо спявалі — па радыё — і Робсан, і Казлоўскі, і Ларэці, гудзе старэнькі поп, а дзве пеўчыя цягнуць, калісьці прыгожымі галасамі, пра «житейское море» і «тихое пристанище».

І ўсё гэта гучыць як не з гэтага свету.

А потым — ціхая паўза, і з сяней, таксама забітых людзьмі, чуецца голас малога, з бацькавых рук:

— А дзе мой дзед Аюм?

І па людзях-суседзях, што ведаюць малога Коліка, які вельмі сябраваў з нябожчыкам, пайшоў ціхенькі, толькі ў думках, смяшок.

А то, можа, мне проста здалося?



І дагэтуль люблю пазіраць у вагоннае акно на тое, як цягнік на паваротах выгінаецца вужакай.

Цяпер вось, раніцай другога дарожнага дня, малая, светлая дзяўчынка ўбачыла гэтае дзіва ў акне і закрычала з калідора ў купэ:

— Мама, а нас вязе паравоз!

І мы, хто быў у калідоры, засмяяліся. Якое мілае адкрыццё!



Цудоўны дзень,— з глыбокім снегам, што лёг учора, з марозікам, сонцам, з прыволлем, якім я толькі што любаваўся з гары, з цішынёй, што так добра лажыцца на душу,— цудоўны!..

Зайшоў на котлішча былога прыдарожнага хутара. Стаяў у зарасніку дзядоўніку. Ён — ну, італьянскія пініі: разгалісты і высокі, у рост чалавека.

Думалася пра шчасце пазнавання свету, пра майго хлопчыка з яго бясконцымі, нястомнымі «чаму?».

Як ён глядзеў бы на шматфарбны цуд — шчыгла ці снегіра на гэтых шчодрых шышках!..

Добра, што і мне яшчэ хочацца так пазіраць — яго вачыма, з яго ўсмешкай. Не баючыся, што «брыдка» — калі б хто ўбачыў,— «не салідна» мне лезці сюды цераз глыбокі, завалены снегам меліярацыйны роў.



Дзе б я ні быў, якая б гэта ні была далёкая, цудоўная краіна,— усюды для маці, бабуляў, бацькоў — аднолькава простыя чалавечыя абавязкі і клопаты. І ўсё гэта робіць тую экзотыку так прыемна,— па-чалавечы звычайнай і простай, як маё роднае Загора.



Ранняя, шэрая раніца. Дворнічыха, пажылая, сумна заклапочаная жанчына, лапаціць снег з шырокага тратуара. Мернае, аднастайнае шкрэбанне, якога хопіць надоўга.

Насустрач старой, па начной яшчэ, непрыбранай, чысценькай белі ідуць на першую праходку ясельныя дзеці. Як заўсёды, за ручкі, пацешныя ў сваім мініяцюрным падабенстве да людзей дарослых.

Першы хлопчык, што не трымаецца за руку з сябруком, а ідзе як быццам спераду, спыніўся і сам у сябе спытаўся:

— Што гэта бабуля робіць? — І ўсцешана здагадаўся: — Дарогу для нас!

Дворнічыха перастала лапаціць, выпрасталася і ўжо ўсміхаецца, адно што не кажа: «Праўда, для вас».

Так усміхаюцца толькі дзецям.



Осла. Порт. Да нашага цеплахода прыйшоў пацешным парадам дзіцячы духавы аркестр. У горадзе пачаўся традыцыйны тыдзень музыкі. Канцэрт, які мы слухаем ■ ніжняй палубы.

Дзябёлы, чорны дырыжор аж прысядае, каб быць бліжэй да сваіх малых і маленькіх трубачоў ды барабаншчыкаў, і падпявае ім, размахваючы доўгімі рукамі ў белых пальчатках. Настаўнік!

Добра зблізку глядзець на твары, нібы расшыфроўваючы яшчэ адзін народ.

І неяк па-новаму дзіўна, што вось і нельга прабіцца словамі з тых моў, якія ты ведаеш, у чыстую душу, якой любуешся праз дзіцячыя вочы, дзіцячую ўсмешку.

Космас, галактыка, міжпланетныя сувязі... А на Зямлі яшчэ столькі вялікай работы!..

* * *

Успаміны — як вочкі той сеткі, якую мы пляцём усё жыццё, адзінай сеткі, адзінай справы жыцця.

Уранні зноў мяне наведаў нечаканы ўспамін. Пра тое, як я калісьці вяртаўся зімою з вёскі, дзе многа пісаў у ціхай братавай хаце, і як мяне дома, яшчэ на дварэ, сустрэў мой малы. Не ішоў, а бег перада мною на пяты паверх, сам пазваніў, сам крычаў маме, што я прыехаў, спяшаўся распранацца і — адразу патрабаваў свайго, па чым засумаваў у месячнай разлуцы.

Мы з ім палеглі на дыване, паставілі там, на падлозе, лямпу з зялёным абажурам і чыталі. П'еро, Андэрсена, Талстога, Носава, народныя казкі... Не ўсё за раз, вядома, а штосьці з названага.

Не праходзіць такое бясследна. Ці не таму ён днямі, ужо тым часам юнак, прылёг увачары на тахце, дзе я сядзеў, галаву палажыў на мае калені, нібы так сабе, нібы між іншым, і доўга не вызваляў чупрыну з-пад мае рукі?..

Не круці галавой, калі будзеш гэта чытаць. І мне пісаць такое як быццам няёмка. Як быццам гэта — толькі наша з табою, не больш.

* * *

З намі тут, у вёсцы, маленькая Дануся, якая ўся жыве ў казачным свеце, заражаючы гэтым і нас.

Учора пад вечар удвух з сынам-студэнтам праходзілі каля знаёмай сасны, дзіўна нахіленай над ракою, з грывай галля — толькі ад вады. На апусцелай буслянцы, якая вянчае сасну, марадзёрылі вароны, штосьці там матлошачы. Без буслоў і жабам жывецца вальней ды смялей. Над самым берагам, дзе ён адхонны, многа іх уцякае з-пад ног ці тлуста чмякаецца ў ваду.

І мы смяяліся, як падзяцінеўшы, што ў жабаў, чаго добрага, і свята ёсць такое — «буслiны адлёт».

— У ладкі плешчуць,— кажу, уявіўшы, як яно выглядала б у мультфільме. А фізік мой дадае:

— Яшчэ таму буслу і хустачкамі махаюць.

* * *

Уранні мы з ёю сустрэліся каля сталовай дома адпачынку. Снедаць яшчэ ранавата было, ніхто не ішоў. А яна ўжо сядзела на лаўцы.

— Здарова, Алеся! Ты ўжо, відаць, паснедала?

І вітацца, і адказваць — замнога адразу, і яна толькі адказвае:

— Паснедала.

Мама малое працуе тут на кухні. У Алесі румяныя, поўныя шчокі, а саліднасць — на пятым годзе — як у дарослай. Нават і хустка завязана «пад бараду», як у бабулі-калгасніцы, пры якой малая гадуецца.

Навокал сосны.

— Вунь там вавёрачка. Бачыш?

Вавёрачкі няма, але мне хочацца пагаварыць.

— Я ўчора бачыла. Яна там учора скакала.

— А ты хацела б так, як яна, паскакаць на сасне?

— Што я — дурная па дрэвах скакаць?

Дома, у горадзе, ёсць у мяне такая ж суседачка. Толькі што далікатна, чула выхаваная іншай бабуляй, артысткай на пенсіі.

Аднойчы, у дачным лясочку, тупае па дарожцы толькі ў трусіках, бела-пяшчотная, поўненькая.

— Мурашка мяне ўкусіла. Але ж і я зрабіла ёй непрыемнасць.

— Якую?

— Патрымала за ножку ўніз галавою.

* * *

Гаварыў па міжгароднім тэлефоне з сынам.

У яго вялікі клопат. Заўтра трэба ехаць з мамай у грыбы, бо яго няма з кім пакінуць дома. І трэба вельмі ранейка ўставаць... Голас — амаль праз слёзы.

А прычына, вядома, не ў гэтым. На суседні двор, месца іхніх баталій, прыйшоў экскаватар. І так жа добра глядзець, як ён капае канаву! Глядзець — не так сабе, не як-небудзь, а з даху гаража. Хоць мама і крычыць за гэта, хоць бацька — па тэлефоне цяпер — угаворвае быць асцярожным ды паслухмяным.

Пагаварылі мы з ім пра ўсё гэта, і так мне міла, і смешна, і па-сур'ёзнаму добра было ад нашай дружбы!..

А назаўтра — званок. Мой друг, аказваецца, не вытрымаў саліднасці. Знайшоў адзін баравік, і годзе: «Буду сядзець у машыне». Прыйшлі грыбніцы, глядзяць — яго няма. А потым голас — куды там ужо да геройства! — «Ма-ма!» з самай верхавіны сасны... Страшна, вядома, страшна было, пакуль ён злазіў адтуль, і ручкі дрыжалі, і мама з цёткамі ўмiралі ўнізе, з усёй сілы трымаліся, каб не ахнуць ды не спалохаць яго...

— Ты што ж гэта, стары, экскаватар убачыць хацеў?

Разумею становішча, стараюся пытацца весела. Ды ў трубцы голас — поўны належнай пакоры, і вечнае:

— Я больш не буду.

Будзеш, хлопец! Будзь, хоць і страшна, хоць я і павінен казаць, што не трэба!..

* * *

Хлопчыку пяць гадоў. «Як мужчына мужчыне» — бацька расказаў яму, што такое ў сапраўднасці Дзед Мароз. І малы паверыў. Аднак, калі яму мама вярнула Дзеда — сказала, што тата пажартаваў, што Дзед прыходзіць, прыносіць пад ёлачку падарункі — хлопчык быў рады яшчэ больш.

Дзецям патрэбна казка. Яна не разбураецца сапраўднасцю.

На піянерскую ёлку хлопчыка ўзяла старэйшая сястра. Найбольш уразілі яго вялікі мішка і ліса, што разам з дзецьмі танцавалі вакол ёлкі. У перапынку ён убачыў, як ліса — зняўшы маску — піла ў буфеце піва. Спацелы дзядзя!.. Цягне з кухля, ажно лісіны хвост падрыгвае... А ўсё ж і пасля гэтага малы расказваў пра лісу — як яна з імі весела, пацешна вырабляла ў карагодзе!..

* * *

Слесараў сын, пяцігадовы, даволі распусны хлапчук, не любіць бабулю:

— Яна такая пагнутая, памятая...

* * *

Навокал лістота, кветкі, а на руках у маладога бацькі — яго першае дзіця, дзяўчынка. Яна яшчэ ўсё маў-

чыць, відаць, ніяк не могучы пераступіць той парог, за якім, побач з разуменнем жыццёвых з'яў, будзе яшчэ і магчымасць падзяліцца з кім-небудзь першымі ўражаннямі і зародкамі думак. Яна маўчыць, наглядае ці проста глядзіць, час ад часу захоплена махае ручкай і вымаўляе нейкія дзіўныя, таямнічыя, смешныя падабенствы слоў. А потым, нібыта прагнаўшы ад сэрца шчаслівы, але цяжкаваты зарад уражанняў, зноў пачынае маўчаць...

Таму, што ў кожнай хвіліне нашага існавання бацьку хочацца бачыць няспынны рост яго дзяўчынкі, яму здаецца цяпер, што маўчанне і задуменны позірк яе — гэта першыя, ледзь бачныя адзнакі сталасці. І хлопцу чамусьці хочацца быць больш дзяцінным, чым яна. Ён прысядзе з ёю на руцэ і з роснай травы ў сасновай засені паднімае на сонца фарфорава-белую кветку рамонка. Ручка працягваецца да яе, і смешна маленькія пальчыкі заціскаюць у жменьку зялёнае каліва. Заціскаюць і — так жа пацешна! — падаюць кветку ў рот, на першы, таксама фарфоравы зуб. Што ж,— такі ўжо спосаб праверкі на трэцяй сотні пражытых дзён!..

І вось ізноў яму радасна ад думкі, што яна, яго наступніца, пачынае жыццё ад пачатку, што ён паможа ёй пачаць яго лепш, чым сам пачынаў.

* * *

Стаміўшыся на вуліцы або ныючы дома, хлопчык, чатыры гады, вельмі любіць гартаць перакідны каляндар.

Пасля неяк маці, вярнуўшыся з працы, ласціцца з ім:

— Вось і вясна. І як жа я цябе ў вёску да цёці адпраўлю? А сама буду плакаць?..

— Я без цябе не паеду. І цяпер не паеду, і на другі каляндар не паеду!..

* * *

Чырванашчокі, вочы блішчаць, рукі ўсе падрапаны да крыві. Шчаслівы хваліцца бацьку, як забаўляўся з катом:

— Ён мяне ляпкай, а я яго — люцькай!..

І столькі радасці, смеху!..

* * *

Бабуля расказвае:

— Адзін брат, бяздзетны багацей, хваліўся другому, бедняку, як ён гуляе па сваіх пакоях з «залатымі калясцамі».

А бядняк той пазычыў яшчэ раз міску мукі, зварыў сваім дзецям зацірку — эх, разгулялася тая малеча ад радасці...

«Вось табе,— думае ён,— залатыя калясцы!..»

* * *

Па радыё спявалі дзеці, і вельмі свежа здалося, што гэта — тыя самыя, якіх я слухаў і пяць, і дзесяць, і трыццаць год таму назад...

Такое ж адчуванне бывае, калі слухаеш, а то нават калі назіраеш птушак.

* * *

Званок. Адчыняю. На лесвічнай пляцоўцы чатыры дзяўчынкі. Дагледжаныя, мілыя — усім бы, на ўсім свеце быць такімі. «Добры дзень» і пытаюцца:

— Ці не заходзіла да вас кошачка?

Адказваю, што не, але закончыць на гэтым не хочацца, і я пытаюся:

— А як жа яе зваць?

— Маркіза.

Я не першы, на сваім трэцім паверсе, пошукі будуць працягвацца — да дзевятага, а потым, можа, і ў іншых пад'ездах. Трэба дапамагчы.

— Калі Маркіза зойдзе да нас, дык я скажу, што вы яе шукаеце.

Куды больш сур'ёзна, чым я, яны квартэтам кажуць «дзякуй», «да пабачэння» і кіруюцца да суседніх дзвярэй.

* * *

Слава, якому тры з нечым, вельмі светлавалосы і вельмі замурзаны чалавечак у кароткіх, шырозных портках пасля старэйшага брата, здароўкаецца са мной

заўсёды першы: «Здароў! Куды ты?» Яшчэ сталейшы, сур'ёзнейшы ён, калі забаўляецца. У кагосьці там розныя, і горада, больш ці менш адмысловыя цацкі, а Славе, скажам, зусім хапае выпадковага дубца, каб гойсаць конна ці трашчаць на матацыкле.

Да Нёмана сёння ён прыйшоў адзін, з пустою бутэлькай. Сказаўшы мне сваё «здароў», на гэты раз без «куды ты», чалавечак заняўся справай. Тым больш што тут пакуль ціха, дзяцей чамусьці няма. Спачатку ён набіраў у бутэльку вады, уважліва прыглядаючыся і прыслухоўваючыся да бурбалак, а потым падняў з пяску чыгунок-шчарбун, што даўно валяецца тут, на водмелі каля броду, дзе месца малечых гульняў на беразе і ў вадзе, і пачаў цярпліва, з выглядам вучонага ў лабараторыі, выліваць у шчарбун з бутэлькі, а потым — з яго ў бутэльку...

Вельмі ж гэта цікава. Варта толькі спакойна і надоўга засяродзіцца.

Як і мне ў свой час, пастушком, калі прыпасваў адзін на папары і доўга, нястомна гуляў у карты — сам з сабою, каб не заснуць.

* * *

Яна, нарэшце, разбагацела — ёй узялі кацяня. Нават сама хадзіла з татам па яго, і кошку-маму бачыла, а потым з дому, пры татавай дапамозе, пазваніла свайму найлепшаму другу — дзядзьку: што ў яе ёсць!..

Дзядзька-студэнт назаўтра вярнуўся з заняткаў, трохі паспаў і, перш чым заняцца сваёю матэматыкай, пазваніў трохгадовай сяброўцы... ад імя кошкі-мамы:

— Мяў!.. Як там у вас жыве мая маленькая?..

Пляменніца — паверыла і гаварыла з ім, як з мамай кацяняці.

Калі ўжо трэба растлумачваць гэта прозай,— што ж, у яго ёсць адчуванне смешнага, а яна — уся ў краіне казкі.

Так было. Цяпер ёй ужо сёмы год. Зноў у гасцях у бабулі і дзеда, а галоўнае, па-ранейшаму, у дзядзькі, яна ідзе з ім у магазін. Ідуць міма дома, каля якога нейкія слупы, а на слупах крукі. Яна пытаецца, што гэта, а ён не кажа, што проста прыстасаванне для сушкі бялізны, а як заўсёды сур'ёзна жартуе:

— Тут дзіцячы сад. Такі, як твой. Калі дзеці часамі, гуляючы, прамокнуць на дажджы, а потым сонца, дык іх тут падвешваюць за каршэнь — прасушыць.

І яна ўсміхаецца — з такім выглядам, нібы хоча сказаць: «Ты што, маленькую знайшоў?..»

Яшчэ праз год. Дзядзька дапамагае госці ў арыфметыцы, дыктуе:

— У заапарку жылі два сланы і адзін верабей. У абед адзін слон з'еў вядро кашы, другі слон — два вядры, а верабей — тры. Пытанне: колькі яны з'елі ўтрох?

А яна не смяецца — думае, піша адказ.

Затым ідуць другія прыклады: з зайцамі, на галубцы і моркву, з кошкамі і мышамі... Усюды вясёлыя недарэчнасці, але яна іх як быццам не заўважае.

Яшчэ ўсё казка? Яшчэ ўсё поўны давер да старэйшага, найбліжэйшага друга?..

* * *

Гарадская малеча, дзяўчынка і два хлапчукі, летуюць на лясным хутары ў бабулі. Сырадой, сырадой... Тройчы ў дзень, дзень за днём... І вось яны аднойчы ўвечары акружылі сваю харошую каля студні і просяць — просяць вады. Толькі вады! Ужо і плачуць, і крычаць — калектыўны пратэст.

* * *

Шасцігадовая Груня ўцякла з дзіцячага дома, дзе яе крыўдзілі, аб'ядалі большыя дзеці. Ды не таму яна падалася ў родную вёску,— там конча трэба было (якая, божа мой, сталасць!) апалоць у гародзе бульбу, бо няма каму гэта зрабіць...

Іхні тата памёр раней, чым памерла мама, старэйшы брат, афіцэр, і сястра, санітарка, былі на фронце. Тры меншыя дзяўчынкі — шэсць, восем і дванаццаць год — уладжаны такім чынам: найменшую здалі ў дзіцячы дом, найбольшую ў вучылішча, а сярэдняя недзе дома, але не сядзіць яна ў хаце, па людзях пайшла, і з бульбай на яе няма надзеі.

Маленства — ваеннае...

Пра яго ўспамінае, расказвае нам сусед па бальнічнай палаце. Той брат дзяўчынак, афіцэр, які яшчэ ўсё ніяк не адыдзе ад колішніх ран.

* * *

Светлая, зялёная раніца ў парку. Сустракаю малога з канькамі і торбачкай цераз плячо. Зусім незнаёмы, а ўсміхаецца так, нібы рад мяне бачыць. Вітаемся.

— Дзе быў?

— На трэніроўцы.

У другім канцы парку — дзіцячы спартыўны комплекс.

— Колькі ж табе гадоў?

— Заўтра... Не,— радасна паправіў сам сябе,— сёння шэсць!

— Дзень нараджэння. Што ж, браце, віншую.

Руку нават паціснуў, маленькую, цёплую. Спытаўся, як завуць, хто ў яго дома.

Смеласць, талковасць, спорт — усё гэта сучаснае. А мілая, чыстая ўсмешка яго — гэта вечнае. Як гэты цудоўны сонечны ранак, і зеляніна, і золата верасня. Мне добра. Яму, відаць, таксама. Бо ўжо далей не пайшоў, як дагэтуль, памалу, а пабег са сваімі канькамі і торбачкай.

* * *

Два хлапчукі качаліся ў пыле вясковай вуліцы, весела, сардэчна смеючыся.

Была нядзеля. Па вёсцы хадзіла моладзь — парамі, групамі, з песнямі, так сабе.

Два пажылыя кавалеры, што пабывалі трохі на свеце і мнагавата думалі пра сябе, ішлі асобна, пра штосьці важна гаворачы. У ботах-дудках па модзе, у мяккіх капялюшыках званком. У аднаго за стужку капялюшыка была заткнута хвосцікам вялікая, цёмна-чырвоная вяргіня.

Яны пераступілі цераз вясёлых хлопчыкаў, як пераступаюць цераз лужыну, цераз палена або яшчэ штонебудзь горшае. Хоць і маглі абысці іх або, прынамсі, заўважыць пад ботамі.

Больш за сорак гадоў прайшло з таго летняга адвячорка. Я забыўся, з кім тады радасна смяяўся ў пыле

роднай вуліцы. А крыўду нашу вось памятаю. Яна ўжо неаднойчы ўсплывае ў маёй памяці, жыва і ярка, як тая вялікая, налітая густой крывавай чырваннiю вяргіня. Я ўжо даўно магу з упэўненасцю меркаваць, што не было ў гутарцы тых двух надзьмутых задавакаў такой глыбіні, якая давала б ім права на пагарду да нас, дзяцей пад нагамі. Ды дзе яны, такія думкі, што могуць мець такое права? I я не проста памятаю гэты факт, я не сваю асабістую крыўдачку ўспамінаю,— мне хочацца сказаць:

Не наступайце на дзіцячы смех. Гэтая крыўда не забываецца.

* * *

Васемнаццацігадовая, дробненькая дзяўчына, хатняя работніца:

— У каго я, цётачка, малых ні няньчыла — усюды яны на мяне ўсе падобныя! Люблю я іх, хоць яны мне з самага малку рукі, цётачка, паўрывалі...

* * *

Няньцы чатыры гады, меншай сястрычцы два. Гарадскія госці ў бабулі на хутары. Ідуць па садзе. Большая па прывычцы дае «нашай малой» чарговае настаўленне:

— Днём свеціць сонца, а вечарам лямпа...

Праз дзірку ў плоце вылазяць з саду на выган. Воддаль пасецца кабыла з жарабём. Туды няможна, а вельмі хочацца. I нянька гукае:

— Коська, ідзі сюды! I з *рыжыбяткам!* Толькі не задаўляйце нас...

* * *

Ад новых непрыемнасцей па радыё, ад думак пра пагрозу новай вайны — сон быў цяжкі, кашмарны. Здаецца, я за горадам, у лесе. На Мінск упала атамная бомба, там ужо нікога няма, а мы тут толькі паслеплі. Таўкуся паміж дрэў, крычу. I гэта — горш за смерць!..

Прачнуўшыся, думаў пра сына: што я сказаў бы яму, калі б пачалася вайна, як растлумачыў бы ўсю яе страшную недарэчнасць?..

А потым ён прачнуўся, прыбег да мяне — доўгі, шчарбаты, цёпленькі — і ўперамежку паміж двума сваімі шчаслівымі снамі паведаміў:

— У Ірачкі паслязаўтра дзень нараджэння.

— Ты яе любіш?

— Ага.

— Мы ёй купім з табой шакаладку, і ты занясеш?

— Ага.

Ірачцы, што гуляе з бабуляй на нашым двары,— два гады.

І ўсё гэта, вядома, вельмі важна.

* * *

Гледзячы праз акно вагона на жоўтую безліч лугавых кветачак, падумаў пра якую-небудзь гарадскую дзяўчынку: як яна разгубілася б ад такога багацця красы...

Успомніў тую маленькую казашку, што вынесла на сцэну алма-ацінскага опернага тэатра кветкі для мілай Бібі-Гуль, спявачкі. Падала, абняла цёцю за шыю адной ручкай, тады пабегла назад і... спынілася, разгубіўшыся ад новых бурных воплескаў. Здзіўлена паглядзела ў залу, на безліч людзей,— відаць, не здагадваючыся, што апладзіруюць яны ўжо і ёй,— тады пайшла, а потым зноў пабегла.

* * *

Простыя чалавечыя радасці. Прыехалі рэдкія, далёкія госці — пляменнік з жонкай і сынам. Адзінаццацімесячны смехунок, ён стаў адразу цэнтрам нашай сям'і. Снедаючы, абгаворваем яго прыкметы. Мама мая, напэўна, сказала б: «Правае вока меншае — нашай пароды». А яшчэ ў яго радзімая плямка на светленькай галаве.

І тут мне ўспомніўся мой — ужо з вусамі і хрыплым трынаццацігадовым басам. Ён у школе. Каб ён быў тут, за сталом, пахваліўся б, вядома, таксама радзімкай на галаве...

Чаму, навошта запісваю такую дробязь?

Бо ад таго, што хлопец умяшаўся б у гутарку са сваёю асобай, нібы просячы звярнуць увагу і на яго,

патрымаць і яго, хоць якую хвіліну, у цёплым святле чалавечай увагі,— ад гэтага мне стала і добра на душы, і сумнавата, і захацелася пашкадаваць не толькі яго і не толькі таму, што ён — мой.

Гэтым пачуццём, як сілай жыцця, павінна быць насычана наша слова. І гэтая «дробязь» — не дробязь.

* * *

Люда любіць і ўмее прыдумваць.

Яшчэ калі яна была зусім маленькая, трохі больш за паўтара года, і тата, стоячы на верандзе, трымаў яе на руках, Людачка заўважыла, як пад застрэшкам у павуціне б'ецца і ные муха.

— Пуця! — сказала яна, працягнуўшы заслінены пальчык.— Пуця гута-та!..

А «пуці» было не да гушкалкі.

Потым неяк, гадоў яшчэ праз паўтара, глянула малая раненька ў акно і ўсцешылася:

— Ой, мама, а сняжок які за ноч падрос! Большы яшчэ, як учора!..

Цяпер ужо Людзе пяты год.

Сёння нядзеля, і тата не пайшоў на работу. Люда прачнулася, бачыць — Пампушка, яе меншая сястрычка, яшчэ спіць, мама ўжо кудысьці пайшла, а тата сядзіць ды чытае.

І Люда задумалася, падпёршы кулачком і пасля сну не вельмі румяную шчаку.

— Ну, што? — спытаўся, пачакаўшы, тата.— Што, мая цёця-маркоця?

— Тата, а Маша ж з'ела ўсю пахлёбку!..

— Якая Маша? Якую пахлёбку?

— А там, што мама ўчора нам чытала: пра Машу і пра трох мядзведзяў.

— Ну і што?

— Маша з'ела ўсю пахлёбку, а чым жа мядзведзіха накарміла тады малога Мішутку?

— Та-ак... Тут, брат, і сапраўды задача...

— А я, тата, думала, думала і прыдумала!

— Ну?

— Ты вось паслухай. Маша пайшла тады ў лес па грыбы?

— Ну, скажам, па грыбы.

— І назбірала грыбоў?

— Трэба думаць, што назбірала.

— А потым яна спалохалася мядзведзяў і ўцякла праз акно... А грыбы ж свае яна забылася! Ага!.. І Мішуткава мама падсмажыла іх маленькаму... Праўда?

* * *

У хаце вечарынка. Хлопчыкам — па шэсць, па сем гадоў — дазволена любавацца з печы. Наглядзеліся, насмяяліся, і пацягнула на філасофію. Гавораць пра ікону «Нараджэнне Хрыста», якая на покуце.

— Было!

— Ты ведаеш!..— з пагардаю да меншага.

Той раззадораны:

— Майго бацькі дзедаў дзядзька быў там і сам бачыў!..

Такое — не падслухаеш. Гэта я ўспомніў пра самога сябе.

* * *

Меншай сястрычцы даводзіцца сёе-тое даношваць пасля старэйшай — звычайнае ў многіх сем'ях. Купяць большай што-небудзь, а меншая, трохгадовая Аня, смяецца з адчуваннем перавагі:

— От дзе рада, Галачка! А ўсё роўна ж я буду потым насіць!..

* * *

Са старэйшай бацькі паехалі на курорт, а меншую ўзяла ў вёску бабуля. Там Аня палюбіла Мальву, бабіну карову. Яны з бабуляй удзвюх сустракалі яе з пашы, калі яна мукала яшчэ здалёк, а потым Мальва ціха стаяла, пакуль у даёнку дзюрчаў сырадой. Такі смачны, духмяны, цёпленькі! Бабуля баялася, што тут, у вёсцы, малой, можа, горш, як на тым курорце, і ўсё паіла, паіла малую тым сырадоем — уранні, апоўдні, увечары. І вярнулася Аня дахаты — ну, як пампушка.

Нешта хутка пасля таго, як усе прыехалі зноў дахаты, гаварылі ўвечары, хто кім збіраўся быць, кім стаў. І Аня сказала — зусім сур'ёзна:

— А я вырасту і буду каровай, і буду даваць многа малака.

Пакуль Пампушка была ў бабулі ды пакуль, вярнуўшыся з курорта, тата, мама і Галя прыехалі па яе, у іх акацілася Рыска. У бочцы, што стаяла ў кутку ваннага пакоя, амаль да самага верху поўная ўсякага рыззя. Аню, вядома, адразу павялі паказваць кацянят. Яны ўжо трохі падраслі і цікавалі са свайго гнязда пацешнымі, быстрымі вочкамі. Колькі вочак! А вушкі якія смешныя!..

Аня-Пампушка пасмяялася, тады памаўчала і кажа, уздыхнуўшы па-даросламу:

— От каб не гэтыя транты! Рыска іх поўную бочку вам накаціла б!..

* * *

У кожнага з нас ёсць з самага маленства большы ці меншы запас прыкладаў-успамінаў, што час ад часу прыдаюцца для нейкага сцверджання. Дарослага, разумнейшага, але з цёплай усмешкай журбы.

Паважная масажыстка апрацоўвае маё плячо і расказвае:

— У першым класе я была. Другая дзевачка абмакнула пяро ў маю невылівайку і піша сабе. А я ўзяла ды абмакнула ў яе і хацела тое чарніла здзьмухнуць ў сваю чарніліцу,— як дзьмухнула, дык гэта ў твар сама сабе чарнілам!.. Малое, а ўжо, глядзіце, свайго шкада, ужо якая злосць!..

* * *

Дзед, баба і госця-ўнучка перад тэлевізарам.

Ужо цікавае пачалося, аднак малая саскокнула з канапы, пабегла ў мой пакой, прынесла цёплы халат і палажыла мне на калені.

Потым, калі цікавае закончылася, я паклікаў яе і ціха, у цёплую шчочку, спытаўся, чаму яна так зрабіла.

«А твае ж ногі баляць, і трэба, каб цёпла было».

Восем гадоў. Маленства сутыкаецца з пачаткам сталасці.

* * *

Мама працуе на ферме, занятая з ранняга ранку да позняга вечара. Тату лягчэй — ён вартуе саўгасныя сенакосы. Дарослыя дзеці — сучасная моладзь: пазагараць з транзістарам, парыбачыць, з клуба вярнуцца на досвітку, адаспацца... А маленькая Зося, якой шэсць гадоў, гуляе — па праву маленства. Загарэлая, ціхая, з сарамлівай усмешкай.

З дачніцай, што жыве ў іх, пайшла ў чарніцы. Ідуць дахаты з ягадамі, і цёця пытаецца:

— Каго ж ты, Зося, пачастуеш сваімі ягадамі?

Малая доўга маўчыць, потым кажа:

— Маму.

— А чаму толькі маму?

— Бо яна ўсё робіць.

* * *

Чыстага маленства, зусім без прымесі з пазнейшымі ўспамінамі, і расказамі старэйшых пра мяне,— няма. Я намагаюся яго дастаць і, як дастану, мне вельмі добра.

* * *

Саракатрохгадовая маці, дачка майго даўняга сябра, паказала мне днямі свой... ну, не талісман які, вядома ж, а проста адзін з прыемных успамінаў маленства. Той самаробны альбом з маімі вершамі і братавымі малюнкамі да іх, які мы з братам падаравалі ёй... трыццаць пяць год таму назад. І мне цяпер стала ад гэтай, зусім нечаканай, сустрэчы з тым падарункам вельмі прыемна, можа, не менш, чым ёй калісьці.

І тое прыгадалася, як мы рабілі альбом, як нам здавалася, што праца тая — толькі пачатак таго, што мы будзем рабіць. І сум па брату яшчэ раз вярнуўся: не толькі таму, што яго ўжо даўно няма, але і таму, што ён не здзейсніўся як мастак. І сум толькі мой: што я так мала пісаў для дзяцей, хоць і марыў калісьці быць толькі дзіцячым пісьменнікам. А разам з сумам прыйшло і радасці трохі: ад тых, няхай сабе сціплых, удач, што былі, і ад надзеі, яшчэ ўсё надзеі на ўдачы, што

будуць. І тое, нарэшце, прыйшло, ужо амаль невытлумачальнае, што прасвечвае радасць сустрэчы з альбомам — яшчэ адно пранікненне ў чароўны свет паэзіі маленства.

І таму я так рады бываю, што адзін з маіх маладзейшых сяброў, па адукацыі жывапісец, не графік, стаў добрым ілюстратарам дзіцячых кніжак. У кожнай ягонай удачы я адчуваю і мой нейкі... як быццам удзел, бо гэта ж я заразіў яго гэтым жаданнем.

* * *

Хацеў узяць да чаю яшчэ кавалачак пірага, але падумаў: «Няхай застанецца маломуу». І ўспомніў N., з яго сялянскім розумам, з яго заўсёды бадзёрай, бяскрыўдна-хітраватай усмешкай. Ён напэўна сказаў бы: «Тут нам не ўзяць, не з'есці самому — смачней, чым узяць».

* * *

Прыхварэўшы, добра супакоіцца ад будзённай мітусні, апусціцца да свайго надзейнага грунту, засяродзіцца на галоўным, падумаць, пачытаць, папрацаваць.

Нават прыходзіць, вяртаецца дзіцячая цікаўнасць, вастрыня ўспрымання,— пачынаеш заўважаць тое, чаго раней або даўно не заўважаў.

Задрамаў пасля банек і прачнуўся ўжо цёмначы. Пасля змястоўнага, светлага дня. Ляжаў у сталовай на канапе, глядзеў у змроку на белыя дзверы свайго кабінета, адчыненыя ў сталовую,— дзіўна, нібыта інакш, чым заўсёды, асветленыя адтуль, дзе мой хлапчук чытае або піша за маім сталом, пры маёй настольнай лямпе.

І вось іменна яны, асветленыя белыя дзверы, і напомнілі мне дзіцячую здольнасць ціха, паэтычна засяроджвацца на самым нязначным, самым звычайным.

* * *

У міжгароднім аўтобусе. За маёю спіной малы гаворыць з бабуляй:

— А чаму ў цябе такі ногаць вялікі?.. Бабка, пагладзь маю ручку, пагладзь!..

Якая ж бездань паміж гэтай чыстай душой і нячыстай рукой яго бабы, маёй знаёмай, нядаўна скінутай з пасады старшыніхі калгаса! «За злоўжыванне службовым становішчам...»

Стаім у мястэчку. Піжоністы рыжы сабака сядзіць на асфальце, на самай сярэдзіне шашы. А хлопчык непакоіцца, ледзь не да слёз:

— Цюцьку машына зарэжа!.. Бабка!..

Не адчуеш так поўна і непасрэдна. А шчэбет ягоны — амаль непаўторны, бо ён не паддаецца перадачы словамі дарослага.

Думаў пра абнаўленне душы самай высокай паэзіяй — паэзіяй маленства. Безліч граняў у гэтай паэзіі, як безліч сонечных промняў і пырскаў расы ў гэтых промнях.

*1946—1979*

# АБЫ НА ЗДАРОЎЕ

У лодцы на возеры трое. Спінінгіст-тэарэтык дакучліва павучае госця, як трэба лавіць. Тэорыю падмацоўвае прыкладамі. Найбольш, як водзіцца, з уласнай практыкі.

— Навешаў я раз добры такі кукан шчупачкоў і прычапіў за кармой. Дык што ты думаеш? Усе паўцякалі праз горла найбольшага...

Госць у тон яму дадае:

— А найбольшы, раней чым таксама ўцячы, крыкнуў: «Хадзяін, вазьміце вяровачку!» І тады ўжо нырнуў.

Бяззубы мясцовы рыбак, што сядзіць на вёслах, ажно адкінуўся назад — смяецца ціхім, справядлівым рогатам.

* * *

Адзін сынок, дый той у горадзе. Летам старому бацьку яшчэ сяк-так — на сонцы пасядзіць, карову папасе. А зімой занясло двор снегам — роўна са студняй. Рэдка хто зойдзе, сядзіш адзін, як воўк.

У кухні, дзе цяплей, на стале мармыча рэпрадуктар. Дзед ляжыць на печы і слухае. Перадаюць нейкую казачку для дзяцей. Разышліся ў тым радыё раптам сабакі брахаць, гусі гегаць, куры кудахкаць... Дзед ведае — гэта артысты. Рагоча да слёз:

— А каб на вас нечага, каб на вас!..

І ўсё цяплей на душы.

* * *

Шафёры, чалавек з дзесятак, сумуюць на ганку райвыканкома. Гарачыня. Начальства нікуды не едзе — нарада. Лена перабрэхваюцца, мала рагочуць.

Вось грукоча брукам на матацыкле нейкі дзяцюк або, можа, і дзед... Не пазнаць — даўно не голены, ледзь не да самых вачэй абвязаны хусткай.

Ленае слова самага веселуна:

— Гэты ўжо, хлопцы, лішняга слова не скажа.

І вялыя ўсмешкі.

* * *

— Калісьці маці мая ішла замуж, дык не магла дастаць панчох пад вянец. Анучак накруціла беленькіх у хадакі. Спадніца доўгая — яно і не відаць, як там вышэй. А цяпер у мяне тры дзеўкі модныя. Дальбог, братко, мяхі старым капронам завязваю!

* * *

— Яшчэ пасля вайны, як толькі калгасы арганізоўвалі, быў у нас конік Аршын. Збракавалі яго потым і прадалі на беражэнскія хутары. Аднаасобніку. Дык ён назад уцякаў, у калгас. Дядзька, што купіў,— верхам на суседскага каня і наўздагон. Пёр, пёр наш Аршын, а потым, хлопчыкі,— брык! — і інфаркт! Са страху, што трэба вяртацца на хутар. Саз-на-цяль-ны!..

* * *

Поўненькі, з прыемнай усмешкай ляснічы смяяўся калісьці, што з Масквы яму пішуць: «Колькі ў вас рабчыкаў на адзін гектар лесу?»

— Падумаў за сталом дый напісаў — дваццаць тры. Навука! Учот!

А цяпер вось ён прыехаў да мяне шукаць ратунку,— падрабіў сабе атэстат сталасці, а нехта выдаў... З той самай прыемнай усмешкай раіць мне быць добранькім — памагчы яму схаваць канцы.

А дзе ж навука, «учот»?

* * *

Даволі часта чалавечы дур праяўляе ўласцівасць захоўвацца ў свежым выглядзе да самага паважанага ўзросту.



У перапоўненым вясковым клубе — таварыскі суд. Злавілі самагоншчыка.

Худы, насаты дзядзька, па мянушцы Албанец, сядзіць збоку, у якасці падсуднага. Старшыня суда — брыгадзір; члены суда — сябры падсуднага — участковы і бухгалтар.

— Адказчык, вы давяраеце складу суда?

Ківок галавой і невыразнае:

— Угу.

У зале — выбух рогату.

Пасля бухгалтар просіць:

— Таварыш старшыня суда, можна задаць адказчыку пытанне?

— Можна,— з не меншай важнасцю адказвае брыгадзір.

— Адказчык Піліповіч,— урачыста звяртаецца бухгалтар да Албанца,— скажыце суду, дзе вы ўзялі апарат?

У зале — зноў выбух рогату. Хто чуў, а хто і сам бачыў, як пазаўчора адказчык з членам суда, гэтым самым бухгалтарам, адвозілі на хутар усю самагонную тэхніку.

Прыгавор: Піліповічу — найвышэйшая мера — дзесяць рублёў штрафу.

Суд — па форме.

Абедалі ў Албанца.



Нарачанскі рыбак пад чаркай расказвае пра зяцякрамніка, што ён — баязлівец. Ішоў па лесе з грашыма, запынілі «нейкія смаркачы», напалохалі — аддаў, а сам цяпер захварэў на сухоты.

— Які ж ты пасля гэтага беларус? — абураецца цесць перад выпадковымі слухачамі.— Прасцецтва маю скромнасць і дурату, але, як быўшы ў разведцы мікалаеўскай арміі, я лічу, што беларус павінен быць такі. З куста гавораць: «Я воўк, я цябе з'ем». А ён павінен адказаць: «Калі ты воўк, дык я леў, і я не баюся цябе!» А то што!..

* * *

Бабы з першымі грыбамі лісічкамі падышлі ад лесу да ракі. Крычаць старому, што сядзіць з вудай на тым баку:

— Дядзька Сцяпан, цякай — брод пераходзіць будзем! •

Стары рукой махнуў:

— Пераходзьце, чаго там! Я ўжо лісічкі еў — і вараныя, і параныя — не саромейся!..

* * *

На сямейным застоллі малады гаспадар, вясёлы калгасны шафёр, расказвае гасцям пра свае пчолы:

— Паабсякаюць яны трутням крылы — ляжаць тыя ўхаджоры, як збанкі. А раней як жа іх хораша запрашалі туды!.. От дзе, браточкі, наша мужчынская доля!..

* * *

Бабка з кошыкам. Кошык абвязаны.

Малады зладзяйчук пільнаваў яе на вакзале, сесці ёй памог, а толькі цягнік крануўся — выхапіў кошык і пабег.

Паўза. Потым з акна паказалася бабка:

— Еш, еш на здароўе, сынок!

У кошыку быў хрэн. Не цёрты, карэньчыкі.

* * *

Таўкачаваты дзяцюк з багатай хаты. Гадоў пад сорак, а яшчэ ўсё кавалер. Многа сватаўся, скрозь адмаўлялі. Нарэшце адна згадзілася, але... адмовіўся ён сам.

— Чаму?

— Дурная. Бо за мяне адразу йдзе.

* * *

«Чалавек — гэта цэлы свет», як сказаў...»,— гаворыць важны дакладчык, цытуючы агульнавядомае з прыкметным задавальненнем першаадкрывальніка.

А мне ўспамінаецца, што ў гэтага чалавека — цэлы свет рэферэнтаў. Адзін з іх вось і знайшоў яму гэты банальны афарызм. Каб і яшчэ ў адным непатрэбным наказе было славутае «вобразна кажучы».

* * *

Таварыш, якога ўжо трыццаць год кідаюць то на дзёгаць, то на оперу, усюды разбіраецца аднолькава. Але ж усюды кіруе. Цяпер, кіруючы выхаваннем будучых жывапісцаў ды графікаў, прыехаў праверыць, як паводзяць сябе студэнты-мастакі на летняй практыцы.

— Чаго сядзіце тут, а не рысуеце?

— Натуршчыкаў чакаем, Аляксей Міхайлавіч.

Суровы, важны позірк з-пад капелюша:

— Ну дык пакуль што рысуйце фон!..

* * *

Беларускія турысты ў парыжскім аўтобусе. Як звычайна бывае далёка ад дому, у адпачынку: «Таварышы, давайце будзем пасля прыезду дружыць, сустракацца!..» Згода і захапленне. Старшы групы і тут адчувае сябе адказным.

— Арганізацыю гэтай справы бяру на сябе. Мне гэта проста: вазьму ў БРК прафсаюзаў вашы адрасы, даручу свайму сакратару абзваніць усіх, і збяромся.

Малады, вясёлы скептык:

— Міхаіл Сямёнавіч! І я на гэты час найму сакратара. Каб ён дагаварыўся з вашым.

* * *

Грандыёзная дама, што пабывала ў важнай замежнай камандзіроўцы, дакладвае з трыбуны пра сваё падарожжа. На выдатным узроўні спеласці:

— Пасля, таварышы, мы паехалі глядзець Елісейскія палі. Факт застаецца фактам — яны даволі прыгожыя... А вось амерыканскія цукеркі і торты — зусім, таварышы, не смачныя, і гэта — факт...

* * *

Вельмі любіць праяўляць сваю сціпласць у першых радах высокага прэзідыума.

У далейшых радах, тым больш у заднім, рабіць гэта — цяжэй.

* * *

Хваліцца, што калісьці, у маленстве, краў яблыкі ў багатага суседа.

А што краў і ў другіх — не хваліцца: яны былі небагатыя.

І ўжо зусім маўчыць пра тое, што — на цёплай пасадзе — крадзе і цяпер.

* * *

Бывалая і важная курортніца хадзіла ў шторм па беразе. Адна.

— Мора так шуміць, так шуміць!.. Проста станеш ды думаеш... Ах, ды хіба ж гэта хто-небудзь зразумее!..

* * *

Дзве «святыя сям'і» вельмі дружаць. У адной — сын жаніх, разумненькі, адкормлены, вясёлы здаравяк; у другой — дачка на выданні, мілавідная, з тоўстаю залацістай касой. Дачы побач. Купацца ходзяць павольненька. Там перакусваюць. А пад вечар — таксама ціха і радасна — ідуць з вялікімі гарадскімі сумкамі... у калгасны гарох.

* * *

У вагоне, убачыўшы першую горную рэчку, дзяўчынка ўскрыкнула:

— Ах, мама, Церак!

Дзябёлая мама ў раскошнай піжаме, паблажліва:

— Гэта не Церак. Церак я ведаю: у Цераку я мыла мае ножкі.

* * *

Упасвены пудоў на сем, а на курорт паехаў. Жонка звоніць пасля па аўтамату, хваліцца:

— Лёва не ўзяў ні кілаграма. Толькі вельмі пасвяжэў.

А Лёва, стоячы побач з тэлефоннай будкай, толькі пацее ды аддзімае.

* * *

Стары яўрэй, кравец у майстэрні, заваленай маладымі порткамі, якія хочуць стаць вузейшымі і — як мага хутчэй.

— Вы ведаеце, што такое мода? Вазьміце бочку і кладзіце туды порткі — год, два, тры... А потым, калі яна ўжо будзе поўная, перавярніце бочку і даставайце порткі — год, два, тры...

* * *

Сталічны тэатр на гастролях у глыбінным калгасе.

У час спектакля нейкі дзядзька ўсё ўставаў,— устане, пастаіць, зноў сядзе, пачакаўшы, зноў устае...

Усхваляваны рэжысёр спектакля падышоў на пальчыках і шэптам спытаўся:

— Што, дзядзька, падабаецца?

— Не, проста с... забалела.

* * *

Не бачыліся з ваенных дзён. Хлопец быў ён тады нядрэнны, а цяпер — от сабе ды так сабе, з тых, што «сёння інакш не пражывеш». Расказвае пра свой сад, як ён яго даглядае. Па-сяброўску паведамляе вытворчы сакрэт:

— Сучка ёсць у мяне. Калі яна гандлюе, дык я налаўлю тых сабак, навешаю іх ды назакопваю пад яблынямі — во калі родзяць!..

* * *

«Вяселле Кларачкі было ў тую суботу».
«Ну, і колькі яны выручылі?..»

З падарункаў.

Гэты дыялог дзвюх мінскіх цырульніц успомніўся мне, калі нам паказвалі новыя, зайздросна спланаваныя раёны Ростака. Фройляйн гід, расказаўшы пра многае, прапанавала задаваць пытанні. «Пра горад, пра жыццё ўсёй рэспублікі».

Бывалая, рухавая жоначка велічна маўклівага кампазітара папрасіла з канца аўтобуса перадаць наперад наша першае пытанне:

— А дзе тут, скажыце, можна купіць у вас шчотку для расчэсвання пудзеля?

* * *

Здаравенны, лысы Калодка, не так пісьменны, як хітраваты і ўпарты дзядзька, першы пасляваенны старшыня сельсавета. Апраўдваецца на раённай нарадзе:

— Хто яго, таварышы, так ужо чыста з усім і справіцца. Цяпер жа ў нас, у такім сельсавеце, больш тое пісаніны, чым калі-та было ў мінскім губеранскім упраўленні... Тут вы, таварышы, крытыкуеце нас за падзёж. А які падзёж?! Адна тая цялушка здохла. Дык жа ж мы на месца яе другую купілі!

Пытанне з прэзідыума:

— Купілі? А за што?

Калодка з-за трыбуны:

— Як гэта — за што? Са срэдстваў гэтай самай цялушкі!

У зале рогат. Зноў голас з прэзідыума:

— Калодка, ты вясёлы чалавек. Ды растлумач ты нам, калі ласка, што ж гэта за срэдствы ў той вашай цялушкі.

— Як гэта — што за срэдствы? А мы ж яе скуру прадалі!..

* * *

Растаўсцелая цётка з ордэнскай планкай піша сентыментальныя апавяданнейкі для дзяцей.

А чалавек, што разам з ёю быў у атрадзе, з усмешкай успамінае, як яна,— стоячы ў партызанскіх са-

нях, у галопе махаючы лейцамі,— гнула пры дзецях ультрамужчынскім матам.

Зусім без патрэбы — нібы і гэтым мацуючы абарону краіны.

* * *

Праваслаўныя дзядзькі крытыкуюць баптыстаў:

— Што гэта ў іх за прычасце — хлеба накрышыць у віно... Бацюшка, дык той жа ўсё-такі часціцы з хлеба выразае...

Не менш урачыста гавораць самагоншчыкі:

— Ну, будзем дрожджы ў брагу *апускаць*...

* * *

Самаздаволены пашляк, пакуль што не выкрыты злодзей, прыехаў у сваю вёску на нядаўна купленай «Волзе». Выходзяць з жонкай — абое да ззяння перапоўненыя шчасцем і сваёй перавагай над гэтымі людзьмі, суседзямі...

Стары Паўлюк, які сёе-тое ведае пра іх, які самому богу ў вочы сказаў бы, што думае:

— Ну ж і раз'еўся ты, падла, як тая карова на казённай бразе!..

* * *

Унук:

— А я, дзеду, болей з'ем за цябе!..

Дзед:

— Я ўжо, браце, за век наеўся.

* * *

Пажылы, з залатымі зубамі дзядзька ідзе пад вечар па вуліцы і з кожным весела загаворвае, крычучы на ўсю вёску.

Сядзіць на лаўцы настаўнік.

— На сонейка выйшлі? Добры вам вечар!..

Едзе з поля калгаснік, з ім пад'язджае раённы ўпаўнаважаны.

— А што ж гэта ён вас, таварышок, ды так неганарова пасадзіў? Хоць бы дзяружку якую... А-я-яй!..

Пасе баба козы.

— Здарова, Агата! Каровы пасеш? Кажаш: козы? Нічога, падрастуць козы — каровы будуць!..

І так — ад хаты да хаты.

* * *

У вагоне прыгараднага цягніка фабзаец частуе аднавяскоўца лімонам. Абабралі яго, як апельсін, і смокчуць, жуюць.

— Не магу, брат,— кажа нарэшце аднавясковец.— Кіслоцце нейкае, аж сцепае...

— Трэба прывыкнуць,— сур'ёзна, з пачуццём пераваргі кажа юнец, гараджанін з гадавым стажам.

* * *

Можаш напісаць эпапею, зрабіць незвычайную хірургічную аперацыю, выдумаць звышвадародны цуд — усё адно не будзеш такі задаволены сабою, як дама-мяшчанка, калі яна едзе ў тэатр ці на рынак на ўласнай машыне. Дый на службовай, мужавай.

* * *

Абое сур'ёзныя, тоўстыя, габардзінныя сядзяць у кіно. І раптам яна захіхікала, як дзяўчо. Убачыла на экране — такія во! — «вельмі ж доўгія дудкі»... Трэмбіты закарпацкіх пастухоў.

* * *

У праўленні калгаса, дзе вырашаюцца жыццёва важныя справы, дзе сядзяць у шапках, плююць на падлогу, густа лаюцца самым непрыкрашаным матам,— жыве белы коцік.

Маўклівы дзядзька, рахункавод, штодзень, з гаспадарскай акуратнасцю, корміць коціка малаком, якое прыносіць з дому і ставіць у шафе з паперамі.

Коцік садзіцца да яго на стол і час ад часу падсоўвае лапкай костачкі лічыльнікаў, думаючы, што гаспадар яго, калі лічыць,— таксама гуляе.

* * *

Заслужаны чалавек прыехаў у родную вёску.

Спраўная, хітраватая маладзічка, пляменніца, просіць у яго за малодшага брата. Сяк-так закончыў вячэрнюю школу, валочыцца толькі.

— Каб гэта яго, дзядзька Валодзя, у фельчарскую хоць?..

Вядома, дзядзька — абы захацеў — прапіхне.

Ды ён вось абедае і расказвае прытчу:

— Сабраліся раз яўрэі, мужчыны, і вырашылі добра выпіць на свае кучкі. Каб танней абышлося, надумаліся прыкаціць у сінагогу бочку і кожны раз, прыходзячы маліцца, прыносіць кожны па шклянцы віна. Вось і падумаў адзін бедны Янкель: «А што там вельмі пазначыцца, калі я ўлію адну-другую шкляначку вады?» I стаў прыносіць ваду. Прыйшлі тым часам кучкі, адкрылі хлопцы бочку, а там — адна вада!.. Ты мяне зразумела?

Відаць, зразумела. Маўчыць.

* * *

Пра другога мужа яна нарэшце справілася ў народнага артыста:

— Ці вялікая будучыня ў майго Васіля?

— Не думаю,— адказаў ёй народны.

Яна сабрала мужу чамадан, правяла яго да дзвярэй, абняла і ледзь не заплакала:

— Праводжу цябе, Васілёчак, як на курорт...

Гладкая, энергічная, адна дачушка ў разумненькай мамы, яна цяпер шукае трэцяга.

А Васілёчак, сяк-так таленавіты малады акцёр, вялы вясковы циляпень, пад чаркай бубніць знаёмым пра сваё гора...

* * *

Стары вясковы байдун, што любіць кнігі, расказвае:

— Ішлі раз Пушкін, Лермантаў і яшчэ адзін, каб паглядзець, каб было пра што пісаць. А насустрач ім едзе цар Петр (не Пётр, а Петр) і Сталыпін. Сталыпін кажа: «Давай спытаемся, чаму таўстадумы пехатой

ідуць».— «Лепш ты іх не чапай»,— кажа Петр. А Сталыпін не вытрываў і спытаўся. Дык Пушкін кажа яму: «Бо цар усіх аслоў саноўнікамі парабіў, няма на кім ездзіць». А Петр Сталыпіну: «А што, маць тваю, не казаў — не чапай!..»

* * *

Да майкі прышыта кішэнька, у якой зашпілены партбілет. Так і мыцца выходзіць на агульную кухню камунальнага асабняка, і ў прыбіральню ідзе за дрывотню, і дровы коле так, і на лаўцы сядзіць, калі не на службе.

Усю вайну быў ваенкомам у глухім узбекскім кішлаку. Жонка, настаўніца, хваліцца суседкам, як ім тады цягалі бараноў, ды рыс, ды фрукты ўсякія — за бронь ці хоць за адтэрміноўку...

Цяпер, на другім годзе пасля перамогі, гэты прававерны працуе інструктарам.

Вярнуўся з пасяўной, выйшаў на кухню — у майцы з зашпіленай кішэнькай — уздыхнуў, пазяхнуў і прызнаўся заслужана:

— Ну, адсеяўся!..

Таксама, як і адваяваўся.

* * *

Калі мы хадзілі ў школу, некалькі хлапчукоў і дзяўчынак з Загора, каля Турца пасвіў каровы наняты пастушок, як нам здавалася, вельмі пацешны: мардаты, з бабскім голасам. І часта мы, то хто-небудзь адзін, то ўсе разам, пакеплівалі з яго. І вось аднойчы старэйшы брат таго хлапчука, ужо не пастушок, а парабчук у тым самым Турцы, залёг у прыдарожнай канаве і, як толькі мы зноў пачалі пацяшацца з малога, выскачыў са свае засады і пагнаў нас, «гімназістаў», пугаю перад сабой!..

Успамінаецца гэта даволі часта, і смяюся я — смехам тых парабчукоў.

* * *

У Маскве, на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы, з павільёна ў павільён хадзіў пенсіянер і ўсю-

ды пакідаў у кнізе водгукаў запісы вершам. Накшталт гэтага:

Электротрактор — не кобыла,
Сильней кобылы [redacted] сотни раз.
Наш курс направлен к изобилью,
Исполним родины приказ!..

Далей былі подпіс, прафесія, дакладны адрас, дата.

* * *

Ён не дзівак, як той апостал Пятро,— не будзе чакаць трэцяга пеўня, прадасць цябе трохі раней.

* * *

Дама-ўрач, прыкметна закаханая сама ў сябе, вальсуе ў доме адпачынку, лёгка і важна носячы вакол кавалера свой здаровы, выдатна вядомы ёй арганізм.

Хлопец танцуе не толькі культурна, але і скульптурна — без усякага выразу твару, [redacted] аднастайна і нудна правільнымі рухамі. Так будуць весяліцца робаты?

* * *

Загадчык базы, пакуль папаўся на недастачы, закладваўся з жонкай, хто з іх з'есць больш шакаладных цукерак.

Гаворка пра гэта ідзе на судзе.

* * *

У Пятра і Паўла, двух абібокаў, даўно ўжо цякуць хаты. У дажджлівыя ночы, сплючы, Пятро накрываецца непрамакальным плашчом. А Павел, як менш культурны, лезе ў печ.

* * *

Шырокая дачніца ў шахеразадным халаце велічна праплыла па вёсачцы з трыма лісічкамі ў манерна ўзнятай руцэ. Сама знайшла!..

За ёю — муж. З кошыкам. Сухашчавы, у паласатай піжаме. Як вязень канцлагера.

* * *

Пра прымака, які ўзяў у хаце ўладу:

— Учора купалі яго. Жонка шаруе плечы, цешча грэе каля грубы споднікі, а цётка стаіць каля дзвярэй, каб дзеці холаду не напусцілі...

* * *

Кавалер з другое вёскі, каб паказаць сябе, насыпаў у кішэню портак дробязі. Скача польку са звонам.

А падшыванцы бегаюць, хіхікаюць, крычаць:

— Дзядзька, дай цвік!

* * *

Даўнейшае.

Карчма над Нёманам, на ўскраіне малога заходнебеларускага мястэчка. Карчмар, стары Абрам-Эля, прыехаў са станцыі, прывёз сякі-такі тавар. Нашылася суседскай дзетвары. Просяць, каб расказаў, як ён бачыў цягнік. Расказвае, з добрай усмешкай у барадзе:

— Машынке хап а пружынке, пружынке хап а машынке, машынке хап а паравоз, паравоз хап а калёс, калёс хап а вагон, вагон хап а пасажыр, пасажыр хап а чамадан, чамадан хап а вешч... Кандуктар — грэйсэ пуза, а клайнэ дудочке — фю-ю-ю! І ўшо!..

* * *

Сімпатычны маёр, падвыпіўшы ў гасцях, абураецца, як дрэнна ідзе ў нас змаганне з хуліганствам. Абурэнне — на філасофскай аснове.

— Паколькі дзяржава трымаецца на сіле, дык і трэба гэтую сілу прымяняць. Разумна. А то паставяць міліцыянера з адным лёгкім ды з пустой кабурой — хто яго будзе баяцца? А трэба мужчына — во! — складвае два кулакі ў адзін.— Такі як дасць шпане якой, дык той з першабытнаабшчыннага ладу, мінаючы ўсе стадыі развіцця, адразу шугане ў вышэйшую свядомасць!..

* * *

Калі знялі рэдактара газеты, сакратар — таварыш рухавы ды з паслухмянай усмешкай — тры дні хадзіў на працу ў новым гарнітуры, повен затоенай, хвалюючай надзеі...

Пасля надзеў старэйшы гарнітур і... радасна сустрэў новае начальства.

* * *

Упаўнаважаны:

— Крычым, крычым за план, а ўвечары сяду вячэраць і... масла есці не магу. Здаецца, усё яно нашым матам насычана.

* * *

Калгасны брыгадзір расказвае, пасварыўшыся з гультаём, што вельмі доўга запрагаў:

— Быў такі парабак у папа, што сам ніколі не ўставаў, а поп яго будзіў. А неяк сам устаў. «А мой жа ты Зміцерка!» — узрадаваўся поп. А той: «Нічога, бацюшка, я сваё нацягну абуванейкам!..»

* * *

Гаваркая, прыемная гаспадынька, палячы ранецька ў печы, расказвае праезджаму начлежніку:

— Пляменніца мая, Анюта, сястрына дачка, у вайну была ў Германіі. Вывезлі іх, усю сям'ю... Потым амерыканцы іх аслабанілі. І Анюта ледзь не выйшла, кажа, за аднаго француза. Таксама вывезены быў, толькі што з Францыі... Цяпер ужо Анюта замужам. І чалавек, здаецца, ніштто сабе, і дзеткі харошыя. А яна ўсё шкадуе, што за таго свайго Жана не выйшла. Ніхто, кажа, не ўмее так хораша ўхаджваць, як французы... Можа быць.

* * *

Стары рыбак пад чаркай раіць маладому дачніку:

— Калі, не дай бог, што здарыцца, дык не бяры ты, браток, удавы. Ведае яна, зараза, усе ходы і выхады!.. Бяры лепш зноў маладую.

* * *

Вусаты, салідны дзядзька, калгаснік, хваліцца прыезджаму інжынеру:

— Мой пляменнік таксама ў Мінску вялікі чалавек: іграе ў оперным тэатры на трубе нумар адзін.

* * *

Студэнты праходзяць у клініцы практыку. Хворым не вельмі падабаецца быць аб'ектаміназіранняў. Раз, другі, і нарэшце старому абрыдзела. Разбурчаўся перад урачом:

— Глядзець — няхай сабе глядзяць, а свае гіяграфіі больш расказваць не буду!..

* * *

У маскоўскім кафэ.

Загарэлы, стомлены палкоўнік глядзіць на тоўсты карак і азадак маладога афіцыянта і, уздыхнуўшы, з прыціскам кажа:

— Эх, паганяць бы хоць тыдзень!.. Яны тут — усе сардэчнікі. А пражыве такі трыста гадоў, як крумкач!..

* * *

Малады інструктар райкома па зоне. А зона яму трапілася — проста рай. Возера, лес, леснічоўка, вёска. Знаёмыя настаўнікі, у якіх канікулы,— кампанія. Зойдзе таварыш у ваду, спачатку толькі па калені, і пастаіць сабе даўжэй на сонейку. Здаровы, сыты — на радасць усёй радні. «Як перамыты», кажуць пра такіх.

Ды тут яго райскае лета абтрагедзілася: аднаго з калгасных старшыняў прыйшлося зняць, а на яго месца, не маючы лепшага выбару, прызначылі нашага курортніка. Божа мой — колькі гора!.. Толькі назаўтра душа яго выплыла наверх з прадоння чорных дум і ён сказаў найбліжэйшаму сябру-настаўніку:

— Чорт яго, зрэшты, бяры! Хоць добры дом пабудую!..

* * *

У летнім парку дохленькі мешчанін фатаграфуецца на фоне здаравеннага, страшэннага льва. Ад радасці, што той — каменны.

* * *

«Мараль, браток, ідзе з жывата! Быціе акрэслівае свядомасць!»

«Ды не,— з твайго адкормленага жывата ідзе, вядома, што... Часамі нават здаецца, што не толькі адтуль...»

* * *

Усе мы, відаць, у той ці іншай меры падобныя да Дон Кіхота,— калі не барацьбой з ветракамі, дык тым, што самі сабе прыдумваем ці дадумваем Дульцынеяў.

* * *

Сённяшні магнат вельмі любіць расказваць, як ён бедаваў ды гараваў у маленстве. Колькі яшчэ ў яго апраўдання для раскошы і дармаедства, колькі здаровай спажывецкай прагнасці!..

* * *

Трыццаць дзевяты год. Заходнебеларускі гарадок. Кірмашны дзень. Праезджы бедны яўрэй пытаецца ў тутэйшага багатага:

— Ну, вы ўжо, таварыш Борух, «Кацюшу» навучыліся спяваць?

— Ох, умею! І вывучыў, і запомніў. Умею. Яна мне каштавала ўжо дзве камяніцы і аптэку!..

* * *

Спакойны, целюкаваты дзядзька, які вярнуўся з вайны паранены ды з ордэнам і медалямі, расказвае ў гасцях:

— Перакусіў я ў Міры, еду дахаты лежачы. І здаецца, што гэта Масква, а я з бальніцы выпісаны, іду

сабе па вуліцы, прадукты на дарогу палучаць... Вуліца доўгая, доўгая, доўгая!.. А потым конюх штурхае: «Уставай, завала п'яная, а то з возам у адрыну закачу!..»

* * *

У пуставатым вакзальным рэстаране джазгае аркестр. Барадаты, абшарпаны аматар класікі не вытрываў, крычыць з-за століка:

— Не наганяй на душу таінсцвенны мрак — іграй Чайкоўскага!

* * *

— Начальніка гэтага трэба яшчэ ўмець пачаставаць. Ён табе правай курынай лапкі есці не будзе!..

— Чаму?

— Бо курыца ж сядзіць заўсёды на правай лапцы. Дык левая — мякчэйшая.

* * *

Стары прадавец у кніжна-газетным кіёску ніяк не можа знайсці фота кіназоркі, якое просяць дзве школьніцы.

Пачынае іх далікатненька адгаворваць:

— Яна, вы знаеце, такая шчупленькая... Нічога асаблівага!..

* * *

У міжгароднім аўтобусе — элегантная дамачка з мужам-афіцэрам. Наша, мясцовая моладзь. Ды ўжо толькі па саломінцы на яе паліто можна здагадацца, што на аўтобусны прыпынак бацька са свёкрам прывезлі іх у развалах.

* * *

Амаль усё геніяльна простае ўжо выдумана. Пакуль мы збіраліся выступіць, мудрацы мінулага разабралі ўсе лягчэйшыя, выгаднейшыя тэзісы.



«Таварышаў загінуўшых імёны...»
Сіняўская Слабада, на ўзлессі Налібоцкай пушчы.
*1976 г.*



З сынам у родным Наднямонні.
*1976 г.*

* * *

Дзядзька-малакавоз, у якога на пункце не прынялі пракіслага малака, прыйшоў у райком, да самога першага сакратара.

— Скажыце мне, калі ласка, якім малаком мы будзем план даганяць — толькі салодкім ці і кіслым таксама?

Сакратар быў у вясёлым настроі.

— А гэта як хто любіць. І прастакваша таксама добра.

— Ну, дык пазваніце вы, таварыш сакратар, тым абармотам, каб прынялі маю прастаквашу.

* * *

Артыстка і на пляжы іграе — выконвае ролю прыгожа, пяшчотна адпачываючай. Пачне ў ваду заходзіць — проста танец німфы па каменьчыках!..

Атрымаўшы званне заслужанай, яна пакінула свайго старога мужа, рэжысёра.

Матылёк выпырхнуў, а кокан недзе застаўся.

* * *

Работнікаў культуры прывезлі ў перадавы калгас.

«Охі» ды «ахі» сведчаць больш пра адарванасць высокіх гасцей ад жыцця, чым пра веліч ды выключнасць поспехаў гэтага калгаса.

А ў час абеду, які ім даў калгас, поспехі тыя яшчэ пабольшалі — каму ўдвая, а каму дык і больш...

* * *

Увосень сорак восьмага года я прыехаў у вельмі рэдкі тады — трохі добры, а трохі паказны — калгас на Стаўбцоўшчыне. Сядзіба былога маёнтка. На двары нікога не відно. Толькі дзверы адрыны адчынены. Падыходжу туды. Хтосьці нябачны верне торпа на ток атаву. Потым яна перастала валіцца, а з цёмнага, пыльнага паднябесся пачуўся голас:

— Дай яму, божа, здароўя!

— Каму? — здзівіўся я.

— О, ён яшчэ пытаецца каму! Бацьку Сталіну нашаму!

Дзед Ігнат, авечы пастух і актывіст — на выпадак прыезду карэспандэнтаў. Дух часу дакрануўся і да яго,— трошкі стары сам дакумекаў, больш навучыўся, наслухаўся ад другіх. Былы панскі парабак хваліць правадыра народаў — першая фраза ў карэспандэнцкі блакнот. Большасць журналістаў ці начавала ў старшыні калгаса, ці толькі «перакусвала». І кожны раз старому перападала чарка. Ён паднімаў яе з тым самым «дай яму, божа, здароўя!».

* * *

«Цяпер інакш не пражывеш»,— гавораць некаторыя, апраўдваючы большую або меншую подласць.

Як быццам не цяпер, а калісьці, у любы іншы час, нельга было сказаць і не гаварылася таксама.

* * *

Дзве бабулькі сустрэліся, добра такі пагаварылі, стоячы на дарозе, а потым адна схамянулася:

— Я ж табе, мілая, здаецца, здрастуй не сказала! Ну, то здрастуй.

* * *

Канцылярская пстрычка (зранку нервовая):

— Не дурыце вы мне, бабка, галавы! Я вам не машына!

Бабка (нібы не маючы права нервавацца):

— Была б ты, мая дзевачка, машынай, дык хоць не лаялася б так.

* * *

«Ідзі, каб ты ў Цінева зайшоў!» — клялі ў нашай вёсцы старыя. І нідзе навокал ніякага Цінева не было.

Няўжо гэта ад ціны,— каб цябе цінай у рэчцы якой зацягнула?

Цётка ўсё наракала, войкала: «Ой, гора, гора!..» І пачалі яе зваць Горай. Ну, а мужа — адпаведна — Горам.

Пайшоў аднойчы дзядзька Гор у заработкі з касой, на князева ўрочышча Пісараўшчыну. Махаў, пацеў цэлы дзень, а ідучы дахаты (і сапраўды — «ой, гора, гора!..»), згубіў заробленую саракоўку.

З таго часу і ходзіць па вёсцы свая, мясцовая прыказка, гадоў каля сотні:

«Зарабіў, як Гор на Пісараўшчыне».

Толькі ўсё менш ды менш людзей памятае, адкуль яна з'явілася.

І яшчэ адна: «Спазніўся, як кожаўскі святы».

У недалёкай вёсцы Кожава завялася была калісьці нейкая секта. Дайшлі да таго, што іхні «старэйшы брат», прапаведнік, павёў тых дзядзькоў ды цётак з сем'ямі ў белы свет. Па святому пісанню: «Идите и проповедуйте евангелие». Выйшлі за вёску, і тут адзін дзядзька спыніўся ды кажа:

— Брація і сёстры, забыўся я свіней ■ хлява выпусціць. За што будзе скацінка божая пакутаваць!.. Пайду я выпушчу яе і даганю вас.

Пабег і... не вярнуўся «кожаўскі святы». Так і спазніўся ў царствія нябеснае.

* * *

Мужчыны мыюцца пад душам.

Балбатлівы:

— Усё памыем, усё!..

Маўклівы яму:

— Ты язык свой не забудзься адшараваць.

* * *

Мілыя рэдакцыйныя дамачкі!

Адна з іх наткнулася ў рукапісе на такую фразу:

«Она протянула руку и теми же белыми теплыми пальчиками, что гладили когда-то его волосы и обнимали его шею, ласкала серо-голубой, с розовыми пятнами и щекочущими волосками нежный храп кобылицы».

Наткнулася і — стомленая, з цыгарэтай у пальцах, з выразам незразумела грэблівых пакут на тварыку — напісала на полі адрасаванае аўтару:

«Храп? Может быть, круп? А если круп, то почему же с розовыми пятнами?..»

Другая прачытала ў іншым рукапісе наступнае:

«В штаб отряда, который остановился на дневку, пришел старый крестьянин.

— Сынок,— сказал он командиру,— есть у меня поросенок откормленный: прячу от злыдней в гумне под соломой. Пускай твои хлопцы возьмут. За то, что вы молодцы. До Баранович отсюда — четыре километра, там их, немцев,— гиблота, а вы вот стали у них под боком и стоите!..»

Другая дамачка не выказала аўтару свайго недаўмення, а проста трошкі паправіла тэкст, зрабіла ў ім адзін касметычны мазочак. Дадала адно слова ў самым канцы, пасля чаго апошні сказ загучаў такім патрыятычным чынам:

«...а вы вот стали у них под боком и стоите, сражаясь!..»

Аўтару — прыгадаўшы «Рабіну» — ажно заспяваць захацелася:

Что стоишь, сражаясь...

Прычым «сражаясь» — на днёўцы, нібыта нават так сабе, між іншым. Малы атрадзік — з вялікім, цяжка ўзброеным гарнізонам...

Стой аўтар ды маўчы. Або сядзі, «сражаясь»...

* * *

Трохі начытаны, недавучаны дзядзька, філосаф і сектант, але сумленны чалавек. Я хачу яго паважаць, не хачу, каб ён падумаў, чаго добрага, што я гляджу на яго зверху. А ён, пасля доўгай гутаркі, дзе я больш слухаў, хутчэй з ветлівасці, чым з цікавасці, гаворыць з хітранькай усмешкай перавагі:

— У вас, у вашай суяце, няма калі нават падумаць. А я сабе ў дзярэўні многа мыслю. Многа, спакойна мыслю...

Нібы алей цісну — саматужная вытворчасць думкі. Часамі толькі з меншай карысцю. Як самамэта.

* * *

Толькі ж гадоў са два таму назад гэта быў цуд нашай тэхнікі — ТУ-104. А цяпер ужо бабка,— сам ба-

чыў у Хабараўску,— стаіць у чарзе на пасадку і маракуе:

— Білеты ўзялі на сто чатырнаццаць, столькі чакалі, а вось ляцець давядзецца на гэтай дрэні..

* * *

Пяць год пасля вайны. Да земляка ў горад прыехалі з вёскі суседкі. Прыйшоў з работы, павіталіся, сеў перад імі:

— Нешта ж вы, мусіць, не так сабе?

Здаравенная маладзіца, з усёй прастадушнасцю, як свайму, з кім гулялі і пасвілі разам:

— Мне б, Сашачка, да доктара. Па-жэнскаму.

«Здорава я выглядаў бы — з маладзіцай у гінеколага!..» — думае гаспадар і, тушачы ўсмешку, звяртаецца да старэйшай:

— Ну, а вы?

Яна, ужо даволі бывалая цётка, што і сама калісьці ў горадзе жыла, пачала ледзь не ўстаўшы, так урачыста:

— Саша, мілы і родны! У імя светлай памяці нашага Валодзі, з якім вы так дружылі хараша... Загінуў бедненькі, пад тым праклятым Кенігсбергам... Дзеля Валодзі, Сашачка, памажы ты мне...

«Тут — не да жартаў, відаць, тут ужо гора сапраўднае»,— думае гаспадар.

— ...памажы-раскажы, дзе купіць майму хлопчыку афіцэрскую сумку.

Сыночак ходзіць у шосты клас. Афіцэрская сумка — на кнігі ды сшыткі — вельмі ж патрэбна яму. Ён у мамы адзін. Дый народжаны познім і выпадковым каханнем.

* * *

Імя калгаса — высокае, а на працадзень выдалі па трыста грамаў. Стары пячнік, валачашчы п'янчуга, звоніць туды з сельсавета:

— Скажыце, калі ласачка, гэта калгас «Няпоўны фунт»?..

* * *

Дзядзька прыехаў з суда, дзе яго зноў пакрыўдзілі. Вячэрае і, нібы на пацеху сабе, расказвае бабе:

— Ну ж адвакаты і рэзаліся — як сабакі!..

* * *

— Сустрэўся я ў Кіславодску са школьным сябрам. Калісьці булава быў, булава, а цяпер — начальнік. Хаджу з ім і думаю: як жа гэта магло так здарыцца?.. А тут бабка стаіць, працягнуўшы руку з медзякамі. Пакуль я ў кішэню, дык ён апярэдзіў мяне:

— Прасіце, бабуля, у новенькіх, а мы ўжо ад'язджаем — ані капейчыны!..

А сам жа толькі ўчора прыехаў.

* * *

Вельмі пасрэдны, але зусім дастаткова самаўпэўнены паэт за трыбунай.

— Прачытаю вам свой новы верш. Верш — без назвы.

І ўздыхнуў. Як быццам толькі ў гэтым і бяда.

* * *

— Скажы ты, браце, што гэта робіцца? Чацвёрты год у нас калгас, і насенне далі гатунковае, і хімпраполка пачалася, а асоту скрозь поўна. Так і прэ, так і прэ!..

— А што ты хочаш? Тыя разы, пры адзінаалічастве, як ты на сяўбу выязджаў? Баба табе і хвартух памые беленька, і перахрысцішся ты, укленчыўшы на раллі, набярэш таго жыта... Ну, проста свята ў цябе! А цяпер? Толькі маць ды перамаць адзін перад адным... Вось асот той і прэ!..

Народны толк: мала любасці да зямлі.

* * *

Бяздзетная цётка, пава акадэмічнага выгляду. А пляменніца, яшчэ падлетачак, а ўжо стараецца пераймаць яе хаду, і выгляд, і філасофію.

— Собака, видимо, очень голодная: ест хлеб. Ни одна уважающая себя собака не станет есть хлеба.

* * *

Групу стваральнікаў мастацкіх вартасцей, людзей пераважна пажылых і нямоглых, што ўжо і вартасцей сваіх даўно не ствараюць, зноў шчодра ўзнагародзілі.

Узяць бы ды нетактоўна спытацца ў каторага або і ва ўсіх адразу:

— Ну, надоўга вам гэтага хопіць?

Бо кожны год паважаным трэба пачэсваць пяткі, пры кожнай — і агульнанароднай, і асабістай — нагодзе.

* * *

Успамінаецца аптыміст:

— Баба мая нажала тры капы пшаніцы. Снапы велікаватыя. Казаў ёй: меншыя вяжы. Глядзі ты, што было б не тры, а без малога і чатыры!..

* * *

Сядзім за багатым і шумным вясковым сталом. Кіраўніцтва калгаснае, раённае, абласное. Пісьменнікі свае, беларускія, і госці з іншых рэспублік, дзеля якіх і свята наладжана.

Насупраць мяне, цераз стол — мясцовы лысенькі калялітаратурны старацель. Нібы разгублены, нібы сумнавата яму без работы. Ды вось нехта з раённых таварышаў, цераз тры чалавекі налева, у нейкай незразумелай руплівасці папрасіў старацеля наглядаць, каб «на гэтым участку стала ўсё было добра». Усцешаны і натхнёны даверам, той нахіліўся да мяне над посудам і закрахтаў, перабіваючы нашу вясёлую гаману:

— Іван Антонавіч! Памагайце мне, калі ласка, сачыць за парадкам!

Штат ужо намячаецца.

* * *

Былая красуня, калісьці дробная і быстрая, за дваццаць пяць пасляваенных гадоў трохі залішне распаўнелая, адна з тых мілых і гераічных дзяўчат, што не трапілі ў рукі ворага, як Зоя, а дайшлі з-за лініі фронту ў партызанскі тыл і ваявалі, радысткамі ці падрыўніцамі, пакуль не сталі — некаторыя — жонкамі камандзіраў.

На партызанскім свяце ў прыпушчанскай вёсцы, крыху захмялеўшы, з многімі сустрэўшыся, многім

сказаўшы сваё бравае «здароў, фашыст!», яна прысела на лаўцы перад хатай і прыціхла побач са старэнькай партызанскай маці.

— Цётачка, родная, калі мы з Вялікай зямлі прабіраліся, дык трапілі адзін раз ноччу пад першы агонь. І я адбілася ад групы. Дзевятнаццаты, цётачка, год! Бягу па лесе, плачу адна. Усе малітвы бабчыны паўспамінала. Усе іх уголас пералічыла. Во — камсамолка!..

* * *

...Напрацаваўшыся тыдні за два ў сястры на малацьбе, я вяртаўся ў нядзелю з далёкай вёскі дахаты.

Снег, снег — глыбокі, белы, ціхі снег. Сяджу на лясных санях, на мяху сена, а кабыла ахвотна бяжыць ці руплівa ідзе, і на душы ў мяне так добра. Бо і чытаў я там трохі (найбольш Андэрсена), і перакладаў нейкі добры верш, лічачы тую паэтычную гульню за сур'ёзную работу, у цьмяна радасным прадчуванні будучыні...

Даў дарогу аднаму сустрэчнаму, другому даў, прычым кабыла мая гразла ў снезе да самага чэрава, а потым сустрэўся з брычкай. Брычка ехала хітра — нібы зусім не бачачы мяне, пакуль нашы коні не сутыкнуліся храпа ў храпу. Тады, нарэшце, брычка павярнула з наезджанай дарогі на цалік, конь ўграз і пачаў церабіцца ў аб'езд, а шляхцюкі пачалі мяне дружна лаяць. Усё — як усё, але іхняе «курвель ты!» так рассмяшыла мяне, падлетка, сваёй бяссільнай неадпаведнасцю, што я і смяяўся, і рагатаў у той белай ды ціхай, радаснай дарозе — доўга...

* * *

У доме, дзе трэба пісаць, два маладыя, таленавітыя дзень у дзень частуюцца, то самі толькі, то ў кампаніі са старэйшым калегам. Ён, праўда, менш здольны, але таксама душэўны.

Вось яны зашчапіліся ў пакоі аднаго з маладых, а ля дзвярэй, на посцілцы ляжыць рыжая сучка, з якою гаспадар пакоя, ад шчодрасці пачуццяў, вельмі дружыць.

Ён мне спатрэбіўся, і я спусціўся з другога паверха, пастукаў, пастаяў побач з сучкай, якая ветліва ўстала і ціха, прыязна віляла хвастом. За дзвярыма — маўчанне. А ведаю, што яны там. Пастукаў яшчэ раз. Дарма. Ну што ж, пайду. На сходках — тоўстая дарожка, крокі ў тапачках ім, у пакоі, нячутныя. А ключ у замку, з сярэдзіны, пачуўся мне выразна. Я спыніўся. Дзверы прыадчыніліся — сучка ўвайшла ў пакой — дзверы зноў зачыніліся.

Колькі ж трэба там калектыўна тварыць, каб узяло ды здалося, адразу ўсім тром, што пастукала, папрасілася — сучка?..

* * *

Бабуля, калгасная пенсіянерка:

— Кажуць жа ўсё, што скора ў нас будзе так, што машыны будуць усё-ўсенька самі рабіць. То, можа, хоць машыны піць ужо так не будуць?..

* * *

Сам ад сябе ў бутэльку не ўцячэш.

* * *

Які няўдзячны сон! Ён даў мне службовую машыну, прыехаць сюды, у вёску, а я ўзяў ды сасніў, што ён пашыў сабе — нарэшце! — нейкую вельмі ж адказную літаратурную уніформу, спачатку доўга стаяў у ёй задам да мяне, а потым павярнуўся і бліснуў у вочы ўсімі сваімі галунамі ды эмблемамі.

* * *

Давай лепш без лішняга гонару — абодва будзем у пяхоце, побач. Бо на ліха мне тая кавалерыя, дзе я — найчасцей — за каня!

* * *

Насі сабе доўгія патлы, вусы, бараду, толькі не думай, што гэта так важна, сучасна, рэвалюцыйна... Ку-

пі сабе джынсы за дзвесце дзесяць рублёў, толькі, дарэчы, за ўласныя, запрацаваныя грошы...

Зяць-прымак, нейкі трохі настаўнік ці выхавацель у вячэрняй школе, здаравяк, растаўсцелы на цесцевых халтурных ганарарах. Чырвоная, гладкая маска не тоўпіцца ў багатай барадзе,— хоць ты вазьмі ды падумай, што толькі на дзярме яна, такая пышная, і вырастае. Смачна абедаючы, расказвае госцю:

— Кагда мы, яшчэ студзентамі быўшы, прачыталі сціх NN, што і ён — за бароды, за доўгія валасы, то очань абрадваліся, дажа хацелі ісці ў саюз пісацяляў, паблагадарыць.

Усё — у барадзе...

* * *

Дакладчык цытуе ўрывачак юбіляравай прозы. Самай звычайнай, нават на думку самога юбіляра. Ды вось найважнейшы ў гэтым прэзідыуме павярнуўся да тых, што сядзяць ззаду, кіўнуў галавой і шапнуў: «Добра». І пайшло па службовай лесвіцы: ківанне галовамі і паўтаранне шэптам таго «добра» — аж да апошняга раду, хто чуў, а хто і не чуў той цытаты.

* * *

Гаспадар падмазвае кола старога, растрэсенага воза.

— Добрай раніцы! — вітаюся.— Не падмажаш — не паедзеш?

— Асобенна цяпер,— смяецца ён, не спыняючыся квэцаць восъ.

Успамінаем вазы на драўляным хаду, калі, відаць, і нарадзілася такая прыказка. Тэхніка тая не толькі ўжо састарэла, але ў большасці знікла, а прыказка засталася — у шырокім дастасаванні. Пра што і ён, мой дабрадушны ды вясёлы гаспадар, мог бы сказаць сёе-тое. Бо і яго ж, калгаснага лесніка, сяды-тады даволі-такі прыкметна падмазвалі, і яму, бацьку дарослых дзяцей, прыйшлося сям-там падмазваць, уладжваючы і на вучобу, і на працу, і прапіску ў горадзе...

А ці толькі яму?..

* * *

Дробны зазнайка і паслядоўны, напорысты руцінёр. Садзіцца ў адзін з самых першых радоў і цярпліва перажывае «вялікую несправядлівасць»: і адзнаку з'езда, пяро, далі яму не «залатое», а «сярэбранае», і фатаграфуюць яго не столькі, як іншых...

Ды вось пад вечар зала амаль апусцела ад доўгіх прамоў, фатографы аціхлі. Толькі адзін, найбольшназолісты і найлепш знаёмы з нашай мінскай абстаноўкай, яшчэ усё бушуе. «За неимением гербовой» пачаў апрацоўваць Яго,— з усіх бакоў заходзячы, пільна наводзячы сваю трубу. І вось на твары аб'екта з'явіўся выраз: «Нарэшце!..»

* * *

З партфелем, піжоністы. Чакаючы электрычкі, стаіць на пероне, у сонейку, паміж людзей, і старанна, страсна, доўга абгрызае пазногці. Адзін за адным, адзін за адным...

Падумалася пра вясёлага дзядзьку, які, паўсміхаўшыся моўчкі, сказаў бы яму:

— А ведаеце, таварыш, у нас быў адзін, дык ён мог і на нагах пазногці паабгрызаць. Разуецца і абгрызае сам сабе. Палец за пальцам, палец за пальцам. Шчацельна так, акуратна.

* * *

Трэба думаць, што птушка спявае толькі таму, што захацелася спяваць.

Маладзенькая пасудніца Айстэ, літоўка з яшчэ дзіцячымі коскамі, дзіцячымі вачыма і губамі, з гулллівай усмешкай і сарамлівым выстаўляннем кончыка языка — любіміца ўсяго санаторыя Айстэ — уключыла ў пустым вестыбюлі праігрывальнік і пад гукі моднага танца модна і міла танцуе. І вучыцца, і цешыцца — усё сама сабе.

Я прыпыніўся, ідучы з марозу, і паглядзеў здалёк, і стала хораша на душы, дарма, залішне сур'ёзнай ды пацяжэлай.

* * *

У парку.

П'яны хацеў паказаць малым вельмі смешнае. Схапіў сабачку за хвост, размахаў вакол сябе, каб шпурнуць у раку, але выйшла наадварот,— цюцька на бераг паляцеў, а дурань — у плашчы, без шапкі, пад гальштукам — у неглыбокую і гразкую ваду.

Бурная радасць дзяцей.

* * *

Пра гэтага чалавека гавораць, што ён «суб'ектыўна сумленны». «Каб гэта ж ад аднаго яго залежала... Каб у яго не сям'я... Каб яму не трэба было друкавацца, абараняць дысертацыю, ехаць у замежнае падарожжа...» Можа, ён і сказаў бы тады якое смялейшае, разумнейшае слова. А так сумленне ў яго — «аб'ектыўнае», «на грамадскіх пачатках» — звыш усіх тых названых і не названых «каб».

* * *

Лепей ужо самому піць, чым наліваць паважанаму госцю гарэлку, а сабе — ціхачом, непрыкметна — ваду.

«З маральных меркаванняў».

* * *

«Туды выбраны толькі лепшыя з лепшых...»

Чуючы такое, адразу і міжвольна думаеш пра самога сябе, нявыбранага, і пра іншых, што таксама не «лепшыя», а — выходзіць па простай логіцы — горшыя.

Калі гэта — жарт у мяне, дык зусім ужо прыкра чуць тое «лепшыя з лепшых» ад чалавека, што сам трапіў туды і сам жа пра гэта гаворыць, нават — тым больш абдумана — піша...

* * *

Ад перастаноўкі складаемых сума не мяняецца.

Убачыў у газеце яшчэ адзін здымак таварыша, які апошнім часам вельмі ж прыкметна дбае пра сваю партызанскую славу, і ўспомніў тое, што мне другі тава-

рыш гаварыў пра гэтую славу,— колькі сапраўдных герояў адсунута ў цень...

Гераізм наш быў вялікі, усенародны. Многа герояў займае належнае месца, многіх народ яшчэ не ведае, пра многіх не даведаецца ніколі.

А тою акалічнасцю, што «сума не мяняецца», задаволены асабліва тыя, хто так ці інакш прымасціўся на віднейшым месцы.

* * *

«У рабоце семінара прыняла ўдзел...»

Так будзе заўтра надрукавана ў газеце. І я магу засведчыць, што гэта праўда. Я сам бачыў і чуў, як яна пазваніла алоўкам па графіне, калі адзін з удзельнікаў семінара больш-менш цікава выступаў і ў зале пачулася ажыўленне.

* * *

Госця, блізкага чалавека, папрасілі заспяваць. І ён спявае. Нягучна, але прыемна і шчыра.

Гаспадыня, дама цалкам станоўчая, паслухала разам з усімі, а потым, выбраўшы зручную паўзу, спакойна, салідна сказала бясспрэчную ісціну:

— Калі б вам, Міхаіл Пятровіч, своечасова паставіць голас, вы маглі б добра спяваць.

Госць не вельмі збянтэжыўся: ён яе ведаў даўно. Яму хацелася, у тон гаспадыні, дадаць: «Магчыма, нават і на сцэне». Ды ён маўчаў і думаў:

«А я на сцэну не хачу. І не збіраўся. А хачу проста спяваць, калі бывае весела, і тады, калі плакаць хочацца, і тады, калі з добрымі хлопцамі, хоць і ўяўляючы толькі, што мы спяваем добра...»

Толькі цяпер яму спяваць ужо больш не хацелася.

* * *

Зямляк, былы барытон у славутым ансамблі, хваліцца шчыра, што перайшоў на... мясакамбінат, і там яму жывецца значна лепш.

— Уранні бясплатная шклянка *кофы* і булачка, а ўдзень — тры *блюды* за пятнаццаць капеек...

І трэба ж было так доўга барытоніць!

* * *

З адным работнікам выдавецтва стаялі мы ўдвух каля нейкай гарызантальнай, глыбокай нары. Гаварылі пра штосьці вясёлае, і раптам аднекуль пачуўся несусветны лямант знаёмага графамана, якому толькі што забракавалі рукапіс. Крык набліжаўся, і я, каб схавацца, уцячы ад яго, нырнуў у тую нару. Далёка, глыбока — ажно пачаў задыхацца...

Дзякуй богу — прачнуўся!

* * *

Сустракаючы самыя простыя прозвішчы, бачыш, што любое слова можа быць умоўным, і ганарыцца можна прозвішчам Дзірка, Парцянка, Дубіна...

«Мы, Дубіны, любім есці забелены панцак гарачы...» Чым гэта горш, менш ганарова за «мы, Вішнявецкія», «мы, Сапегі»? Або той «друг человечества граф Безбородько» (ці як там яго), што насмяшыў мяне такою эпітафіяй у някропалі Аляксандра-Неўскай лаўры.

* * *

Ён ганарліва закапыліў губу. Нам гэта смешна, а для яго за гэтай грымасай — дурное шчасце самазадаволенасці.

* * *

Нарцысу не абавязкова быць інтэлігентам.

Быў у нас калісьці адзін такі, цёмны вясковы хлопец, з беднай сям'і, але панічык, вельмі задаволены самім сабой. Хоць і не майстар які, не гарманіст. Толькі гладзенькі. Хлопцы падпільнавалі, як ён купаўся пад вечар у рэчцы, адзін, як паласкаў свой крыж, «падсяваў» ім ва ўсе бакі, паляпваў па клубах далонямі і прыгаворваў:

— Ата-та, мілая! Ата-та!..

Гэта ўвайшло ў мясцовы фальклор.

А мне часамі ўспамінаецца, калі бывае на каго прымерыць. З творчай інтэлігенцыі.

* * *

Дырэктар аднаго з выдавецтваў забракаваў фальклорны зборнік з-за прадмовы, дзе гаварылася, што і да Кастрычніцкай рэвалюцыі нашы фалькларысты мелі пэўныя поспехі.

— Як гэта так! — абурыўся «падкаваны» таварыш.

Калі ж яму падсунулі, як прыклад, Шэйна і Карскага, гэта яму «нічога не сказала». Сваё рашэнне ён абгрунтаваў:

— Талстой, Леў Мікалаевіч,— вялікі пісьменнік? Бясспрэчна, вялікі. Але ж мы гэтага не падкрэсліваем.

* * *

Нарысіст — «для ўзмацнення канфлікту» — зрабіў героя свайго нарыса інвалідам вайны, з пустым рукавом. Сустрэліся потым — герой і кажа:

— Вось як трэсну вам гэтым пустым рукавом!..

І тыцкае пад нос пісаку здаравенны кулачышча.

* * *

Два работнікі Акадэміі навук, суседзі па дачах, сварацца за градкі. Сварка ідзе на высокім інтэлектуальным узроўні. Па дапаможніках.

— У вас, магчыма, ёсць нават Даль?

— А што ж вы думалі — няма?

— Ну, дык ідзіце паглядзіце там на літару «г». Адно слова. Яно вас датычыць! Яно адпавядае вашай гнюснай сутнасці!

* * *

Ён горача пакахаў, але яна адказала:

— Працуй лепш, можа тады я і адкажу табе ўзаемнасцю...

Прачытаўшы гэта ў новым рамане, крытык млява, бяззуба гугніць:

«У каханні яна аддала перавагу грамадскаму над асабістым...»

* * *

«Як мыш пад венікам»...

А калі ўдумацца ў такое становішча, у такі настрой? Каб самому так апынуцца?..

* * *

Рамантык *(крыху захмялелы)*:

— Ён, брат, як заспявае — шыбы звіняць!..

Рэаліст *(цверазейшы)*:

— Вядома, браток, як дрэнна закітаваныя, дык і будуць звінець.

* * *

Пільнае вока спынілася на цьмяным загалоўку.

— «Души священные порывы...» Вы што? Як можна іх душыць, і хто ў нас іх, скажыце, калі ласка, душыць?

* * *

У трылогіі Сянкевіча крымскі хан, слухаючы іншаземных паслоў, жаваў бананы. Потым вялікі меў ласку загаварыць. Ён выплюнуў недажаванае на далонь, падаў яго бліжэйшаму візіру. Той з паклонам прыняў, стаў з глыбокай пашанай дажоўваць...

Калісьці гэта напамінала мне некаторых філосафаў.

* * *

Сядзіць сабе ў любой кампаніі ціхенькі, малапрыкметны таварыш і хітранька ўсміхаецца...

Ты красамоўны, разумны, вясёлы — што ж, смейся, жартуй, разгортвай, як паўлін, свой хвост бліскучасці. Але глядзі — спаткнешся, скажаш ці зробіш якое глупства — малапрыкметны таварыш абавязкова заўважыць. І ты тады зусім інакш зразумееш ягоную ўсмешку — усмешку з надзеяй на гэтае глупства.

Страшны ты чалавек, хітраваты таварыш!

*1946—1979*

# НІБЫТА РОЗНАЕ

Гэта — не зорка Героя, не слава паэта ці касманаўта, а толькі простае слова «дзякуй» ад чалавека, якога ты паважаеш. І тое «дзякуй» — вялікае шчасце, узнагарода за шчырую працу.

Думаю так, лежачы на густой канюшыннай атаўцы, каля чыстай і светлай школы, абсаджанай кветкамі.

За гэтую школу загадчыца, адзінокая жанчына, атрымала днямі падзяку... толькі ад інспектара раяна, пажылога настаўніка. І пра гэтую радасць, пра гэтую славу сваю расказала нават мне, сваяку, сарамліва.

* * *

Вяселле. Усе, хто як можа і ўмее, весяляцца: танцуюць, п'юць, гарланяць, цалуюцца. А ён, ціхі ды працавіты чалавек, маўчыць. Гаспадар непакоіцца:

— Як ты там, браце Юрка?

— Ды вось грушу ем. Усё — вельмі добра.

І харошая ўсмешка.

* * *

У вялізным свеце — сціплы чалавек, які заслужана ганарыцца тым, што ўмее:

— Я навастру брытву — ніхто не паправіць!..

* * *

Сябры едуць дахаты, з далёкай камандзіроўкі. Адзін вязе хваляванне другога. Вялікае. Учора яшчэ даведаўся, жонка пазваніла па міжгароднім, што сяб-

рава дачка папала на вуліцы пад машыну. «Цэлая ўся, але траўма вялікая». І везці гэтую таямніцу — нялёгка. Асабліва бачачы, як ён нічога не ведае і смяецца... Найцяжэй стала ўранні, калі ўжо блізка было. Сябар ідзе, памыўшыся, па калідоры вагона, смяецца, бачачы, як дзяўчынка цікуе ў акно:

— Вось хто, мусіць, хвалюецца найбольш! За ўвесь вагон!

А той, хто сапраўды хвалюецца — відаць, за ўвесь цягнік,— маўчыць,ківае галавой, згаджаецца. Нават з усмешкай...

* * *

Баяцца за другіх — не баязлівасць. Гэта называецца крышку інакш.

* * *

Па прапанове райкома партыі калгаснікі падсявалі ў калгаснае жыта сырадэлю для сваіх кароў.

Гэта, вядома, парушэнне статута сельгасарцелі. Але зробяць так і на наступны год. Сакратар з усмешкай гаворыць, што статут таксама павінен ісці ў ногу з жыццём, дыялектычна развівацца.

Праўда, гэта магчыма пры наяўнасці такой вось разумнай усмешкі.

* * *

Верхняга, знешняга бляску ў гэтага чалавека вельмі нямнога. Затое моцная карнявая сістэма: у народзе, з якога ён выйшаў у вялікі свет — былы рабацяга-бядняк, баявы партызан, добры, шчыры таварыш.

* * *

У злосным настроі праведніка сяджу ў тралейбусе і назіраю, як два маладыя піжоны занялі бліжэйшыя да дзіцячых ды інвалідскіх месцы і гутараць сабе, не заўважаючы нікога і нічога.

Увайшла бабуля, прабіраецца каля іх на свабоднае месца. Ёй нязручна і цяжка — з кіёчкам, ледзь ідзе.

Ды тут адзін з тых піжонаў, не ўстаючы і не спы-

няючы гутаркі з сябрам, неяк міжволі спрытна і асцярожна, як хворую маці, узяў старую пад локаць, трошкі правёў і пасадзіў.

Тады мне і гутарка гэтых... прабачце, хлопцы, што так падумаў,— піжонаў... і гутарка іх, хоць я і не чуў яе добра, здалася куды больш сур'ёзнай, і вось наогул...

Наогул гэта мне ўспамінаецца даволі часта. Як дакор.

* * *

У былым княжацкім парку, на вялікай паляне — шырокая палаca цямнейшай травы.

Як гэта проста і як гэта страшна — чаму яна цямнейшая!.. Тут у сорак другім годзе фашысты закапалі паўтары тысячы нашых людзей.

Днямі я быў падумаў, нават нібыта жыва ўявіў, што вось яны — усталі, жывуць... Ідуць па парку. Усе — са сваімі старэчымі, маладымі, дзіцячымі асаблівасцямі жывых...

Аднак запісаць тады — не запісаў, бо не ўявіў, як здалося, на ўсю глыбіню.

А хіба ж цяпер уяўляю?

* * *

Здраднік, адбыўшы пакаранне, вярнуўся ў родную вёску. Закуткі самыя патаемныя, ціхія, мілыя ў маленстве — і яны цяпер не свае. I там няма яму супакою, спагады. Там — на калодцы або проста на пяску ці на траве — сядзе які-небудзь дзед або дзядзька і скажа:

— Чулі, вярнуўся і Ганнін сабака!..

* * *

Госці, людзі, што называецца, забяспечаныя, успамінаюць, колькі хто страціў на грашовай рэформе сорак сёмага года. I сёння яшчэ некаторыя цмакаюць, шкадуючы леташні снег. Толькі адна, былая партызанка, урач, весела смеючыся, расказвае:

— У нас у інтэрнаце... ну, у нашым пакоі, была такая завядзёнка: хто з дзяўчат скажа грубае слова —

дзесяць, пятнаццаць, дваццаць капеек штрафу. Ступень кары — у залежнасці ад ступені грубасці. А гэтага ў нас часам хапала. Што ж — хто з партызан вярнуўся, хто з фронту, хто з фашысцкага лагера. Штраф апускалі мы ў глінянага ката. Месяц канчаецца, стыпендыю праелі — высыпаем свой штрафны капітал на стол і давай!.. Так і перад рэформай. Перавярнулі мы свайго ката — хапіла на булку хлеба і каструлю журавінавага кісялю. Акружылі яе з лыжкамі і рагочам. Як мама мая гаварыла: «Няхай багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца». Які быў цудоўны, божа мой, час!..

* * *

Маладзенькая, сціплая мама. Красуня. І хлопчык вельмі прыгожы. Стракатая кепачка, смешна-салідны клёшык.

Гляджу і думаю: як яны дружаць, як яны любяць адно аднаго!..

І — грэшнаму — мне хочацца спытаць:

— Скажыце, хто мае шчасце быць бацькам гэтага хлопца?

* * *

«Часта ў сапраўднасці мы бываем лепшыя, чысцейшыя, чым у думках...»

Так думаў ён, успамінаючы ўчарашнюю госцю.

У гасцініцу да яго зайшла студэнтка-зямлячка, у якую ён, значна старэйшы, даўно быў... закаханы. Патаемным, міжвольным, нейкім журботным каханнем. Была яна воддаль, і вось прыйшла, і ён ніяк не здолеў бы пачаць нічога, пра што так часта думаў, пры ёй ён адчуў сябе вельмі далёкім ад гэтага, яму было брыдка нават падумаць, успомніць пра ранейшыя «мары і сны». Адчуў, што проста любіць яе, разумную, душэўную дзяўчынку — любоўю «не для сябе, а для яе», што проста яму хочацца рабіць ёй добрае, глядзець на яе, любавацца — з харошай, чыстай любасцю старэйшага.

«І правільна»,— сказаў ён у думках.

Але... з невясёлай усмешкай.

* * *

Рэйсавы аўтобус спыніўся каля вясковага касцёла. Зайшло многа старых жанчын. Амаль усе яны стаяць.

Барацьба з самім сабой: уступіць каторай месца ці не?

Уступіў. І адразу ж у думках асуджэнне горшых, хто не ўступіў. Тады асуджэнне самога сябе — за асуджванне іншых.

Нарэшце — задаволенасць сабой: што сам сябе асудзіў...

А што найгорш?

* * *

У тралейбус зайшоў інвалід. Яму далі месца. Другі інвалід, што сядзеў цераз праход, паспеў за гэты час заўважыць, што ў калегі няма правай нагі, а паколькі ў самога няма левай — усцешыўся. Спытаўся, які той носіць нумар, даведаўся, што аднолькавы з ім — яшчэ больш усцешыўся. Яны купяць адны чаравікі на двух. У магазіне бачыў. Вось разам сыдуць і купяць!..

Чаму было прыемна слухаць іх размову? Чаму захацелася запісаць гэта — скажаш: вельмі звычайную сцэнку?

* * *

У клініку з глыбіннай партызанскай вёскі прывезлі пасля вызвалення падлетка з прастрэленай дыяфрагмай. Бледны, нямоглы, і рана задаўнена.

Стары прафесар, рухавы сангвінік, зрабіў яму аперацыю. Вельмі складаную і — удала! Гаварылі: «Дзевятую ў свеце, другую ў СССР!..»

Хлопец стогне, трызніць. Бабка не спіць пры ім каторую ноч.

А прафесар, як бог — у белым акружэнні анёлаў-студэнтак,— грыміць радасна каля ложка:

— Дзякую, хлопчык, дзякую, мілы мой, за тое, што ты мне прывёз такую цікавую хваробу!..

* * *

Плывём па Амуры. Гляджу на зялёную сопку. Успамінаюцца лапці — вялізныя, старыя, латаныя-пе-

ралатаныя, падбітыя нават раскляпанымі баначкамі ад ваксы. Лапці старога дзядзькі Івана. І яго расказы пра японскую вайну, якія я, таксама як і лапці, ведаю з маленства.

Цяпер выразна, з нейкай кінанагляднасцю, уявіў сутычку на схіле такое вось сопкі.

Белая кашуля, белая бесказырка, шынельная скатка цераз плячо, даўжэзная вінтоўка з нахабна-неперможным штыхом...

І так далёка ад дому, куды ён, дзядзька Іван, вярнуўся потым з георгіеўскім крыжам і са скрыпучымі да смерці ранамі. У тую самую беднасць, да тых самых лапцей. Так і не ведаючы, за што і навошта ішоў на кулі, штыхі і асколкі, за што і навошта сам забіваў...

* * *

Чорны, цёмны, «пакрыўджаны богам» бабыль доўга і нудна расказвае, як ён быў занядужаў...

Няхай расказвае — трэба ж яму знайсці хоць якую палёгку!

* * *

Дабрадушны, двухжыльны вахлак. На фронт, у мікалаеўскую вайну, ішоў ад дзядзькі з горада. Так разгубіўся, што пачаў, адыходзячы, хрысціцца перад вялікім люстрам у кутку, як перад іконай,— на самога сябе...

Цяпер, пасля другой сусветнай вайны, ужо стары, мнагадзетны ўдавец расказвае мне, як малыя ў іх вёсцы бомбачку нейкую разбіралі, а яна ўзяла ды разарвалася. Суседняга хлопца забіла, а дзядзькаву малую толькі страшна пакалечыла.

— Так яно, браце. Скаціну — дык чалавек або прадаў бы, або дарэзаў бы, а з дзіцем што будзеш рабіць?..

Ад люстра было мне калісьці смешна.

Цяпер — да болю, да жудасці — горка...

* * *

У беднай пасляваеннай вёсцы многа дачнікаў.

Калі па вуліцы праходзіць статак, гарадскія дзеці кормяць коз хлебам і пячэннем.

Пастух, пажылы і падсухі мужчынка, злосна сцёбае коз пугай.

Мамы-дачніцы абураюцца. Ім «соль дастаецца лягчэй»...

* * *

Калісьці ў суседняй вёсцы была чума. З акружанай вёскі вырваўся адзін зачумлены. Мужчыны, вартаўнікі, прыглушылі яго дручкамі і закапалі амаль жывога.

На гэтым месцы стаіць цяпер каменны помнік з крыжам. Ужо і камень у лішаях, і крыж чыгунны парыжэў, а людзі ўсё яшчэ расказваюць пра тую страшную неабходнасць — як быццам просячы прабачэння, ціха і трошкі ўрачыста.

* * *

Учора глядзеў цікавую кінакарціну «У свеце жывёлін».

Міжнародны калектыў яе стваральнікаў з асаблівым майстэрствам і стараннасцю паказаў барацьбу за існаванне — пажыранне зверху ўніз, па лесвіцы сілы, хітрасці, спрыту.

Думалася — і ўчора, і сёння ўранні,— што або свет не так зроблены, або я зусім сапсаваўся: чаму так успрымаю крыўду слабейшага?..

Ці проста я — чалавек, а нам уласціва іншая форма суіснавання?

Калі чалавечы розум падпражэцца да звярыных норм паводзін, да таго «маральнага кодэкса»,— будзе фашызм ва ўсіх яго праявах.

Успомніў расказ аднаго з сяброў.

Два бацькі загінулі на фронце. А жонкі іхнія, дзве маці, былі замардаваны гітлераўцамі. Цудам выжылі толькі дзеці дзвюх сем'яў, хлопчык і дзяўчынка. Пасля яны пакахалі адно аднаго, пажаніліся.

Цяпер іхні сын — ужо тым часам падлетак — глядзіць па тэлевізары міжнародную сустрэчу баксёраў.

Наш баксёр здорава цяў чужаземцу. Той паляцеў, не ўстае...

Падлетак ажно ўсхапіўся:

— Ён несумленна яго! Ён яго не па правілах! Нельга так, не!

І слёзы на вачах.

А госць замежны — немец. Нават з ФРГ.

* * *

Дзесяцікласнік «без дай прычыны» застрэліўся з бацькавай паляўнічай стрэльбы.

Калі маці на стрэл убегла ў ягоны пакой, хлопец паспеў яшчэ сказаць:

— Мама, як мне баліць!..

Сама доктар, яна дала яму ўкол, выклікала «хуткую дапамогу»,— замчалі ў бальніцу, і там ён памёр.

«Мама, як мне баліць!..»

А ў нас жа, на Зямлі, пры вырашэнні канфліктаў у чалавечым сужыцці, дзесяць тысяч забітых за дзень — «нязначныя страты».

І жывём. І смяёмся. І верым.

* * *

Ці ёсць мяжа самалюбаванню?

Бабе ўжо за шэсцьдзесят, баба старая, нудна дэфармаваная лішнім салам, а вось на̀ табе — у лірычным настроі яшчэ любуецца сама сабой. Ды не тым, што было, а тым, што ёсць. Расказвае суседцы, як гэта нядаўна, год таму назад, адзін вучоны ў яе закахаўся. Проста на вуліцы. І ўжо — казалі — сох, сох дый памёр...

* * *

Пенсіянер шпацыруе з жонкай па могільніку і радуецца, што на помніках — «так многа маладзейшых» за яго...

* * *

Адназубая бабка прыстае да ўнука, маладога рабочага-грузчыка, які трымае поўную шклянку гарэлкі і ці баіцца, ці не хоча піць:

— Пі, я сказала! Пі!..

Сынам хваліцца:

— Ого, майго Піліпа ў нашай вёсцы ніхто не перап'е!..

І сама, амаль штодня, нап'ецца ды ляжыць на печы, нешта мармычучы, спяваючы пад нос. Відаць, для душы...

* * *

Восень сорак другога года. Цёмная, мокрая ноч.

А мужчыны стаяць на загуменні і глядзяць, як — за сем кіламетраў адгэтуль — гарыць, дагарае падпаленая партызанская вёска. Глядзяць і сварацца.

Баптыст, гугніла з багатае хаты, даводзіць, што гэта ўсё — ад бога, што «збываецца пісаніе».

— Госпад недарма казаў: я — агонь усёпажыраючы!..

— Ну дык няхай жарэ, калі не нажорся!..

Успамінаюць потым і тое, што рабін, летась, калі ў недалёкім мястэчку стралялі яўрэяў, казаў тое самае. Нават талмудзіў над ямай, чытаў: «Збываецца воля Яговы, нічога не зробіш...»

* * *

Стары парабак, з рыжага сівы дзядзька Кандрат, адзінокі і трохі «блажэнны» чалавек, насіў з сабою — ад пана да пана — мяшок крамянёў, скалачак...

Хто смяяўся, што гэта вярыгі ў яго, хто думаў: «Што ты хочаш — от, проста дурны чалавек!..»

І вельмі нямногія ведалі, што дзядзька марыў пра ўласную хату, ужо збіраў краменьчыкі — каб упрыгожыць, як добрыя людзі, цэментавы высокі падмурак!..

* * *

Чытаю гісторыю, думаючы пра змены фармацый, пра стагоддзі... І раптам яскрава, міжволі ўбачыў нястомную бабку Прузыну або Агату — як яна дробна, мільгаючы чорнымі парэпанымі пяткамі, ідзе, спяшаецца ў поле ці з поля, дзе толькі праца ды праца... Дзеля кавалка яшчэ ўсё не вельмі шчодрага хлеба.

Бабка прайшла, услед за многімі, Зямля ўсё круціцца, ідуць другія бабкі...

* * *

Былы афіцэр-франтавік, пасля студэнт, дырэктар сярэдняй школы, цяпер — старшыня адсталага калгаса. Мужчына энергічны, падцягнуты, як спартсмен. Новы домік, асобны пакой, які ён лічыць сваім кабінетам, хоць сядзець тут яму не даводзіцца. Даволі цікавая бібліятэка, нават з рэдкімі кнігамі.

Лёгка можна падумаць, нават і напісаць:

«Ах, які культурны, які сучасны старшыня калгаса!..»

А гэта — добры настаўнік, які — заядла намагаючыся падняць грунтоўна разваленую гаспадарку — вось ужо чатыры гады, з кожным годам мацней, тужыць па сваёй любімай працы.

* * *

Якім бы пустым, нецікавым ні быў гэты чалавек, я не хачу, не магу забыцца, што ён — той адзіны таварыш, з якім мы зімовым вечарам сорак першага года радасна абняліся на адзіноце, пачуўшы пра разгром фашыстаў пад Масквой.

* * *

Маленькі хлопчык так азірнуўся ўлева і ўправа, пераходзячы вуліцу з бацькам за ручку, столькі страху было ў гэтым позірку, што ў бацькі ажно сэрца забалела... З самага малку чалавеку так хочацца жыць!..

Такое было калісьці з маім трохгадовым сынам. Я ўспомніў гэта, убачыўшы ў «Комсомольской правде» здымак: паўднёва-в'етнамскае хлапчаня, знятае італьянскім карэспандэнтам каля амерыканскіх снарадных гільзаў, што ляжаць пад сцяною, як спраўна наколатыя дровы. На адной з гэтых цацак хлопчык сядзіць, другая стаіць перад ім, а на ёй — яго ручкі з маленькімі пальцамі. А вочы якія сумныя... Колькі матак ва ўсім нашым свеце сказала ці падумала, гледзячы на гэты здымак: «Бедны мой, мілае дзіцяня!..»

Яно ўвайшло ў жыццё, у жахлівую ваенную рэчаіснасць — не ведаючы іншага. Там, у гэтай няшчаснай краіне, на гэтым злачынным палігоне, тым в'етнамцам,

што не памятаюць неваеннай рэчаіснасці, ужо далёка не столькі гадоў, як гэтаму хлопчыку з гільзай,— вельмі і вельмі многія, каму і дзесяць, і дваццаць, жывуць у рэчаіснасці ваеннай, мірнага часу не памятаюць, да мірнага часу ім трэба будзе прывыкаць.

Пачуўшы пра парыжскае пагадненне, успомніў адразу, як я ў 1953 годзе расхваляваўся радасна, калі па радыё перадалі пра мір у Карэі. А ўчора, калі мы пачулі, што мір пачнецца не адразу, толькі праз чатыры дні, а тое, што называецца ваеннымі дзеяннямі, яшчэ ўсё працягваецца — стала горка і страшна...

Як гэта нізка, і як для кагосьці звычайна — якою звычайнасцю!.. І як балюча будзе для родных тых людзей, хто загіне іменна ў гэтыя дні — дні неймавернай подласці...

* * *

У кіеўскім Уладзімірскім саборы я быў ужо неаднойчы. Ды вось нарэшце ўпершыню пашанцавала трапіць туды ў час набажэнства. Да роспісаў Урубеля, Несцерава, Васняцова дадалася ўзвышаная краса — нечай — прыкра, што не ведаю! — не менш класічнай музыкі. Выконваўся «Ойча наш». Цудоўны тэнар з боскай свабодай хадзіў па галасах выдатнага хору...

Якога жалю варта бывае часамі грубае дылетанцкае спаборніцтва з рэлігіяй,— як прымітыўна яно вядзецца.

* * *

— Аркестр, увага — Шапэн!..

Маладыя, вясёлыя хлопцы, салдаты, іграюць. Замкнутая ў нотах музыка зноў ажывае, падключаецца да новага смутку і жалю...

Цябе выносяць. Ідуць пад труною сябры. Сонца свеціць на твой, ужо адсутны, твар.

І ўсім гэта відно — апроч цябе.

* * *

Мужа-камуніста шукалі. Жонцы фашысты прастрэлілі рукі і ногі, каб выдала, дзе ён. Ляжала на двары ўвесь дзень. Назаўтра — зноў пыталіся... Яна не вынес-

ла пакут, сказала. Яе дабілі. Мужа і дзяцей спалілі ў хаце. Хаваць — суседзі сабралі косці ў мех, але поп і з гэтым не пусціў на могілкі...

Цяпер на месцы іхняй хаты вёска паставіла помнік.

* * *

«Адзін матацыкліст, праязджаючы па начным горадзе, прымушае прачнуцца і ўздрыгнуць прыкладна дваццаць тысяч чалавек».

Прачытаўшы гэта, міжволі ўсміхнуўся: і самога не раз абураў той дурны, фанабэрысты грукат.

Цяпер чытаю зноў. На другі дзень, другога аўтара. І вось, па вельмі далёкай асацыяцыі з тым нахабным матацыклістам, успомніў раптам... куляметчыка з эсэсаўскага батальёна карнікаў. Таго худога, нікчэмнага дзядзьку, якім я нядаўна бачыў яго на фотаздымку ў судовай справе. Як быццам без вачэй, толькі кадык ды вушы. А побач з прышпіленым здымкам — адбіткі пальцаў. Вялікіх пальцаў абедзвюх рук. Ім бы не сінімі быць, а чырвонымі — гэтым адбіткам. І не з двух пальцаў, а з лапаў, і усіх чатырох...

Знойдзены праз дваццаць пяць гадоў, асуджаны на смерць, ён яшчэ літасці прасіў. У сваёй каравай касацыйнай скарзе падкрэсліваў, што быў калісьці і бедняком, і актывістам, і толькі два класы закончыў, і галоўнае,— што ён і цяпер яшчэ, у свае шэсцьдзесят тры, хоча «сумленнай працай акупіць сваю віну»...

Чым жа ён быў у гады фашысцкай акупацыі, калі разам з ворагам грукатаў сваім кулямётам па родных вёсках — па дзецях, жанчынах, старых? Колькі тысяч перажыло той жах, у колькіх душах перадсмяротны? Якой гэта «сумленнай працай» можна грукат такі акупіць?..

* * *

Архіў. Чытаю справы пра фашысцкія карныя экспедыцыі. Многа, да жаху многа ахвяр...

А тут чалавек памятае трыццаць гадоў, як ён, тады малы, бачыў такое:

«Немец і паліцай вялі да ямы на ўзлеску жанчыну. Яна плакала. Потым пачуўся стрэл. Адзін».

І ўсё, што ён ведае, што ён можа сказаць. Як гэта многа!..

* * *

У цэнтры мястэчка, на плошчы, стаіць закрытая царква. Аслоненая дрэвамі, на гусценькай траве, за каменнаю агароджай.

Прахожыя, бацька і хлопчык, абышлі яе навокал, а потым малы, як яму і належыць, вельмі ж захацеў паглядзець у акно. Высакавата. А ўсё ж, пры бацькавай дапамозе, паглядзеў.

— Ой, колькі там бутэлек! Колькі скрынак з бутэлькамі! Што гэта?

— Гарэлка, сынок. Бачыў: над дзвярыма шыльда вісіць — склад сяльпа.

— Колькі гарэлкі — ай-яй-яй!

— Раней, сынок, тут быў опіум для народа.

* * *

Якіх толькі людзей няма на свеце! — хочацца сказаць разам з аднавяскоўцамі. Заходзіў малады, здаровы мужчына з торбамі і спяваў «Во Иордане...» Не за так, вядома, а трэба падаць. Хата ёсць, карова, разам з ім маці старая жыве. І кнігі ён чытае, і ў арміі адслужыў. А скажы яму праўду ў вочы — ён зноў... «ненармальны». «Вы самі ...нулі!» — адзін адказ усім, на ўсе пытанні. У каморцы ў яго вісіць нажабраванае сала — кожны кавалачак на асобным матузку.

* * *

Бяда з культурнасцю.

У местачковай чайной, абедаючы з паважанымі гасцямі, былы настаўнік, якога нядаўна скарацілі з-за недахопу адукацыі, грунтоўна і дабрадушна расказвае:

— Прымерна, ведаеце, быў у мяне парсючок. Хварэў тожа паносам. І я пачаў лячыць яго сырымі яечкамі. Упатрабіў і — пачаў папраўляцца!..

І такая ж пры гэтым нявінная ўсмешка!..

* * *

Чарнявая, дужая красуня, дзеўка на ўсю ваколіцу, нарадзілася ад манаха, што будаваў у прыходзе царкву і каплічку пры ўездзе ў мястэчка.

Тыя разы, казалі, маці гэтай дзяўчыны месіць хлеб, а ён — яшчэ калі падлашчваўся — пакратае за руку вышэй локця і ажно вочы заплюшчыць:

— Якое нежнае цельца!..

Мужык бабін быў на мікалаеўскай вайне.

* * *

Ідылія. Назаўтра пасля вяселля яна — румяная, у светлым плацці, басанож — гнала, ужо не са свайго двара, гусей на расу і, ідучы па вёсцы, усіх сустрэчных саромелася.

А ён, звыштэрміновы старшына ў адпачынку, з тоўстым гадзіннікавым ланцужком на поясе, у наглянцаваных ботах, ішоў побач, за гаманлівым статкам, і задаволена, больш дурнавата, чым салідна, усміхаўся.

* * *

Віншуючы з днём нараджэння жанчыну, скромнага, простага чалавека, ён шчыра пацалаваў ёй руку. Апроч усяго іншага — ветлівасці, пашаны — ён успомніў у гэты момант, як яна калісьці наведала яго ў бальніцы. Раней за ўсіх самых шчырых сяброў... Сказаў бы нехта, што наведаць — гэта быў, урэшце, яе службовы абавязак... Дык ён адказаў бы, што вось і схіляецца перад носьбітамі такіх абавязкаў.

* * *

Дзяўчына-ўрач працавала летам у піянерскім лагеры.

Утапіўся хлопчык, сын бальнічнай прыбіральшчыцы. Дзяўчыну, як наймалодшую, паслалі перадаць пра няшчасце маці.

Колькі яна адпакутавала, колькі паездзіла па горадзе на таксі, возячы бедную жанчыну і ніяк не асмельваючыся ёй сказаць!..

Пакуль тая не прыгразіла, што выскачыць на хаду з машыны, урач — баючыся сарвацца, заплакаць — цадзіла патрошку: то захварэў, то руку зламаў...

* * *

Чытаю ўспаміны ўдзельніка грамадзянскай вайны ў Іспаніі.

«...Танкі непашкоджаны, але ў людзях ёсць страты, хоць і невялікія.

— Цярпець не магу такія дамскія выразы,— сказаў Лукач, даведаўшыся пра змест тэлефоннай гутаркі.— Трэба лічбу называць, а то — невялікія. *Для забітых яны вельмі вялікія*».

Падкрэсліўшы гэта, хочацца дадаць:

Для *забітых горам* яны, тыя страты, таксама вялікія.

* * *

У бязмежжы космасу адбываюцца чым далей, то ўсё больш незвычайныя справы. Людзі ўжо абляцелі Месяц. Перад абліччам гэтага бязмежжа, гэтай сусветна-гістарычнай незвычайнасці — ці так гэта ўжо важна, як называюцца тыя тры амерыканцы або як называліся б нашы, калі б мы апярэдзілі ў гэтым Амерыку? Ці так гэта важна ў той час, калі ўжо можна бачыць Зямлю здалёк — як зіхатлівы дыск, як планету *на небе,* калі ўжо можна думаць *адтуль,* з далечыні, што наша чалавечая сям'я, нашы тры з нечым мільярды — можна заціснуць у жмені, як нейкі мікрамурашнік ці мікрарой?

А што ўжо думаць адтуль пра нашу дурасць з бясконцымі войнамі?..

Няўжо і на іншых планетах працэс жыцця ідзе таксама крывава?..

* * *

Чытаю ў дзённіку Льва Талстога:

«Иду по Кремлю, мимо стен кремлевских и бойниц и думаю: было время, когда это было нужно; нужны были пыточные приспособления, и орудия казни, и цензуры, а пришло время, и уже некоторые из этих предметов и для некоторых людей уже представляют только памятники древности. Так же придет время, когда так будут показывать пушки, сабли, крепости, мундиры, ордена...»

Засмяяўся, успомніўшы дзядзьку Алеся, поўнага георгіеўскага кавалера. У «свабоду», пасля Лютаўскай рэвалюцыі, ён убачыў гэтых крыжоў: «Цэлыя, браце ты мой, скрыні стаялі. Чапляй, колькі хочаш!..»

Калі не адразу, не поўнасцю тады, ды і тады, і потым, калі расказваў пра гэта — бедны заходнебеларускі мужык,— ён зразумеў, што здарава яго ашукалі з тым георгіеўскім кавалерствам.

Каментарый рабіць не хочацца, хоць не паленаваўся ж выпісаць доўгую цытату.

* * *

Чаму некаторыя людзі бываюць такія важна-суровыя, нібыта ім не проста трэба жыць, пражыць свой век, а неяк суха, натужна, злосна ісці міма ўсяго вясёлага, а потым усё роўна, як і ўсе, памерці?

Успамінаюцца старыя вясковыя маці, бацькі — з іх нястомнай падзвіжніцкай звягай, з іх бязлітаснай працавітасцю, з аскетызмам...

Лягчэй жывіце, людзі, весялей!..

Тут часамі не толькі змаганне з галечай, адчайная барацьба за жыццё. Куды больш агідна стараннымі бываюць тыя, што ўжо маюць кавалак хлеба, і добры, але хочуць большага.

Старая мяшчанка, бацька якое меў калісьці тры выязныя тройкі, а ў самой — два трохкватэрныя дамы, цэлы пук, як радыскі, ключоў ды ключыкаў ад розных каморак і шафаў... Страшнай зімой сорак першага — сорак другога года яна штодня, а то і па некалькі разоў на дзень — «пад ляжачы камень вада не цячэ» — бегала да гетаўскага дроту, каб «абмяняць» на некалькі бульбін яшчэ адно дарослае або хоць дзіцячае паліто... Нават плакала над лёсам бедных яўрэяў, але ж прыносіла тое паліто і... бегла зноў,— нібы ратуючыся ад галоднай смерці.

* * *

На лаўцы ў парку хлопец і дзяўчына высняюць штосьці вельмі важнае толькі жэстыкуляцыяй і мімікай,— нямыя. Але яна, прыгнуўшыся, плача *звычайнымі* слязьмі.



Саўгас «Навасёлкі» на Петрыкаўшчыне. *Справа налева:* дырэктар саўгаса Аркадзь Парахневіч, Фёдар Янкоўскі, Янка Брыль. *1978 г.*

* * *

Пра Льва Мікалаевіча і нямногіх падобных бывае да болю крыўдна слухаць або чытаць, што яны будуць *доўга*... толькі доўга, а не *вечна*. Цяжка ўявіць такое. І не таму *нявечна* будуць яны, што пра яго ці іх забудуцца, а таму, што планета наша неяк закончыць сваё існаванне.

Не можа гэтага быць!..

* * *

Старэнькая маці, узятая з вёскі ў горад, ніяк не можа зразумець, як гэта так — чалавек хоча да іх зайсці, а яму яшчэ трэба ў дзверы пастукаць або пазваніць?.. Як гэта не пусціць чалавека, калі яму трэба, калі ён хоча зайсці?..

Яшчэ раз пра народную гасціннасць, спагадлівасць да людзей.

* * *

Як лёгка мы асуджаем сваіх папярэднікаў за іх нерашучасць, нясмеласць, непрынцыповасць і як ганебна ціха паводзім сябе, бачачы, чуючы сёння тое, што не так як трэба, далёка не так. Толькі шэпчамся з найбліжэйшымі...

* * *

Гонару ён — цішком, цярпліва — назапасіў. Дайце толькі якую магчымасць, нагоду праявіць яго, хоць якую шчыліну, каб пачаць выпускаць той запас навонкі,— паглядзіце, як ён вам насмуродзіць бязглуздаю пыхай.

Мы ўжо, дарэчы, бачылі такое, і не раз. Ад самых нібыта ціхіх, лагодных і, як здавалася, сціплых і не дурных.

* * *

Нават і лепшыя так зайздросцяць адзін аднаму, так стараюцца шукаць у тым, каму зайздросцяць, недахопы ды памылкі, так засмучаюцца яго поспехам, як быццам народу патрэбен толькі адзін-адзіны добры пісьменнік — не больш!..

* * *

У машыне, едучы ў родную вёску.

Не зазнавайся — ты прыйшоў на ўсё гатовае. І восень — гэтую, што абапал дарогі, у сонцы — назвалі залатой таксама без цябе.

* * *

Прага шчасця настолькі вялікая ў нас, што нават самыя шчаслівыя моманты, дні, тыдні, гады — часцей за ўсё здаюцца... уступам да шчасця.

* * *

Ты пачынаешся тады, калі ты застаешся адзін, калі ніхто і нішто не памагае табе быць добрым ці дрэнным, калі ты робіш выбар сам.

* * *

Каб ведаць усё, што трэба ведаць сапраўднаму чалавеку, не хапіла б і соцень гадоў. А ўсё-такі хочацца ведаць як найбольш, каб як найбольш зрабіць людзям на шчасце.

Пчаліны закон? Мурашыны?

Не, чалавечы.

* * *

Я магу памыляцца шмат у чым, у жыцці маім было нямала меншых і большых памылак, але адно я ведаю цвёрда:

Вышэй за ўсё і перш за ўсё — чалавечнасць.

Я веру ў гэта ўсё сваё жыццё, і толькі гэта засталося б у мяне, калі б прыйшло найбольшае ці апошняе гора.

*1945—1980*

# ПАСЛЯ ЎСЯГО

На выпускных экзаменах у вясковай дзесяцігодцы.

Дзяўчынка слаўна адказвае пра сусветнае значэнне Горкага, пра вобраз Пячорына, пра «Падарожжа» Радзішчава... Стомлены, хвараблівы выгляд, у цяжкіх ботах, цяжка ўздыхае, прыглушвае кашаль. Вялікія цёмныя вочы. Прыгожая. І ўсё збіваецца з рускай на родную мову: «імкненне», «творчасць», «далонь»...

Дзе ты была ў вайну, толькі чатыры маі таму назад,— у беднай, цудам не спаленай хаце ці ў партызанскай зямлянцы?..

Няхай жа ўсё будзе добра!.. Пасля ўсяго, што было.

Хлопец. Бывалыя салдацкія чаравікі, старанна наваксаваныя, лінялая гімнасцёрка і нехлямяжы, больш на куртку падобны, пінжак. Усё, здаецца, бацькава ці старэйшага брата. Хвалюецца, крэсліць наском чаравіка па падлозе.

— Адказвайце, можа, на другое пытанне,— хоча паспагадаць настаўніца.

— Не, чаму ж, я буду адказваць так, як пытанні стаяць у білеце.

Хлопец дужы, палёгкі не хоча.

Уяўляю, як ён раненька ўстаў, чысціў чаравікі, не снедаў ад хвалявання...

Дваццаць іх, юнакоў і дзяўчат, з беларускім вясковым акцэнтам гавораць пра вяршыні рускай літаратуры. Моладзь — вельмі падобная да сваіх бацькоў і матак, але ж — з пячаццю культуры, духа на тварах.

Чым вы былі б і тут, на маляўнічай Слонімшчыне, калі б не Перамога, а перад гэтым — Верасень?..

*1948*

# ДОМА

Знаёмая партызанская кузня. Колькі яна працавала тады на кавалёву сям'ю, а колькі на нас?.. Цяпер абкідана калгасным інвентаром. Гудзе горнам і звоніць кавадлам, як і заўсёды, неяк загадкава хвалюючы...

І каваль, як заўсёды, замурзаны, з усмешкай:

— Няўжо ж гэта, хлопцы, ужо шэсць год прайшло пасля вайны?..

Нёман. Гаючая, родная прыгажосць. Успамінаецца той час, калі яна, гэтая прыгажосць, адчувалася і паколатымі, патрэсканымі нагамі. Маленства з вечнай аскомай ад няспелых яблыкаў, іназіраннем жыцця ў дробязях, знізу, калі многае, чаго не заўважаеш сёння, заўважаў і многае адчуваў мацней, без наўмыснага падыходу, без прывычкі запісваць, хаця б толькі вачыма.

Дзікі дзень на рацэ. Са спінінгамі — уніз па плыні, да краю пушчы. Печаная ў прыску, па-першабытнаму смачная шчупачына. То дождж, то сонца, то вецер, што згортвае хвалі ў баранчыкі. Пясчаная сцежка ў мокрым лазняку. Крыўдна, недаравальна запусцелыя партызанскія могілкі... Халаднаваты, быстры брод.

Ад гэтага броду, ад пушчы хмары гналі нас у другую вёску.

На ўсходзе весела ззяла вясёлка, як сімвал ціхага жыцця, што так па-свойму адчуваецца ў гэтых шматпакутных мясцінах...

Першыя мэндлі. Шпакі пачынаюць лётаць чародамі. На выгане — басаногія пастушкі і дамавіты пах

торфу ад іхняга вогнішча. Заходзіць сонца. Бусел вяртаецца з купінай у дзюбе. Век жыві — век будуйся. З гнязда на загуменным вязе бусліха вітае яго гаспадарлівым клёкатам.

Бязмежныя, як неба, прасторы жыта. Дзе так нядаўна яшчэ стракацелі палоскі. Абозы сена. Навінка тут — трактары, грузавікі...

Ідылія вечнага і сучаснасці.

*1951*

# ХЛЕБАМ І СЛОВАМ

Харошае, можа наогул найлепшае пачуццё — радасць новых ды новых сустрэч з людзьмі!..

Хочацца многа, бясконца доўга жыць, пакуль не пазнаёмішся п усімі, хто разам з табой... не, з кім разам і ты будуеш новае!..

Дзяўчаты ў хатах-чытальнях і ў клубах — прыгожыя і мілыя ў сваім жаданні працаваць на сувязь нашай заходнебеларускай вёскі з вялікай культурай. Басаногая дзетвара, якую савецкая школа навучыла глядзець на свет разумна, смела і даверліва. Вечна занятыя і вечна, здаецца, непаголеныя старшыні маладых калгасаў, па-гаспадарску важныя і хітраватыя. Падлеткі трактарысты і камбайнеры, што горш умеюць трымаць папяросу, чым кола руля. Бабулі і цёткі, што гасцінна сустрэнуць вас хлебам, якога ў многіх раней — так нядаўна яшчэ! — або зусім не было, або бывала ў абрэз.

Хлебам і малаком, а ўвечары — маладой, на двары згатаванай бульбай, з дамавітым, утульным пахам кропу... Хлебам і словам нашай шчырай гасціннасці...

*1951*

# ГОЛЛЕ ЧАПАЕ НАС ЛІСТОТАЙ

Адзін з нашай рыбацкай валачашчай тройкі, навічок у гэтых мясцінах, казаў, што на Свіцязі ён адчувае нейкую незвычайную лёгкасць, як ні на адной іншай вадзе, якіх ён, дарэчы, аплаваў ды «абязрыбіў» нямала. Пад яго кіраўніцтвам і Свіцязь раскрылася для мяне яшчэ адным сваім бокам. З лодкі, заякаранай каля легендарнага трыснягу, мы вылавілі за раніцу мноства бойкіх акунёў. І паплаўкі, жывыя паплаўкі на невыказна лёгкай і светлай вадзе, пойдуць за мною дзіцячымі снамі.

...Узгоркі Наваградчыны, калі глядзець з гары, ледзь не ў шахматным парадку ўкрытыя пералескамі. Дубы і грабы. Жытнія мэндлі. Грэчка ў пахкай красе. Жніўная песня. Руплівa махае рукамі жняярка. На гасцінцы, уздоўж бруку, над расквечаным адхонам — добрая сцежка для нашага брата-веласіпедыста. І цянёк ад прысадаў, і голле трохі зачапаецца лістотай. У цяньку каля хутара, на траве, да чорнага хлеба вельмі добра падыходзіць свежае малако.

...Пасля ўзгоркаў ды пералескаў, ад Карэліч на Любчу пачынаецца лагодная роўнядзь, з часцейшымі мэндлямі, светла-зялёнымі прасторамі слаўнага лёну, усыпанай кветкамі канюшыннай атавы, густых, зярністых аўсоў. Вёскі цягнуцца амаль неразрыўным ланцугом, дружна чапляючыся адна за адну, злучаныя звонка ўкатанымі дарогамі, абапал якіх густа стаяць то нізкія каржакаватыя вербы, то велічныя красуні ліпы, з якіх яшчэ ўсё асыпаецца духмяны пыл. Рэшткі апетага Міцкевічам: «ціхія грушы» на межах... Хаця — межаў няма. Навокал стаіць густое, каласістае жыта, спакойна дыхаючы смачным, гаркаватым пахам. І на

ўсім гэтым фоне — сведчаннем часу — працуе камбайн.

...У Любчы — ужо шырокі пасля нашых Ярэміч, падкормлены водамі некалькіх рэчак Нёман. З яго адвояў — мы бачылі — сетка вымае на сонца шыраказяпых, выпасеных шчупакоў. За ракой, на зялёнай прасторы, што канчаецца на даляглядзе цёмнай сцяною лесу, ходзіць калгасны статак. Ад саламянага будана над Нёманам, дзе збіраюцца нанач каровы і куды прыязджаюць з бітонамі даяркі, увечары чуваць дзявочыя жарты і смех, а бліжэй — дзюрчанне ў звонкія вёдры духмянага сырадою. Блізкасць пушчы адчуваецца не толькі над ракой, берагі якое завалены падрыхтаванай для сплаву драўнінай, але і ў самым гарадку. Новыя домікі стройнымі і шчыльнымі радамі закрылі ваенныя пажарышчы. З вялікіх асветленых акон грыміць радыё, праз белую павалоку фіранак відаць зяляніна вазонаў... Вузкакалейныя рэйкі заўсёды здаюцца яшчэ меншымі, чым яны ёсць у сапраўднасці,— хоць ты вазьмі іх з сабой, каб парадаваць дачок новай забаўкай. Фанабэрысты паравозік цягае свае тры вагончыкі ўздоўж платоў і варотаў, з блазенскім, задзёрыстым свістам, чапляючыся комінам за лісцё вішняку і двойчы на дзень акурваючы яго чорным дымам. Многа пяску, што асабліва адчуваецца ўвечары, калі з-за Нёмана вяртаюцца каровы.

...На ціхай вадзе рэк і рэчак, над якімі сям-там грукочуць бяссонныя млыны,— раскашуюцца сытыя, міластракатыя свойскія качкі, водзячы па люстранай паверхні вады, нібы накрэсленыя цыркулем, кругі.

...Ад Нёмана да Кромані — пяскі, па якіх вельмі цяжка каціць наўючаны веласіпед. Лясная глухмень і раптам — «модрае вока» ў сасновым кальцы!.. Асабліва хораша выглядае светла-зялёная падцянёўка сітнягу — паміж цёмнай сцяною лесу і агромністай шыбай вады. Дно Кромані светла-карычневае. Пройдзеш — доўга відаць вялізныя сляды і падымаюцца наверх бурбалкі. Многа ракаў, якіх мы лавілі «са́каўкай», а пасля оптам пяклі ў прыску вогнішча. Безліч малявак, асабліва відных на захадзе сонца. Шчупакі і акуні палююць зусім нахабна, глытаючы плотак ледзь не ў паветры. Акуні — гарбылі. Добра выглядае такі, узброены пілой калючак, прыгажун, наструнены

на спінінгавай жылцы! Вельмі прыемна адчуць яго першы рывок і супраціўленне, як доказ, што ў сіняй бездані — не пуста. У завадзях, адгароджаных ад берага сітняком, раскашуюцца — тут ужо дзікія — качкі, мноства качак і ўсе без горкага вопыту — лодку яны падпускаюць бліжэй, чым на стрэл. Добра слухаць іх гоман і фуркатанне крылляў пры ўзлётах. І тут матылі залятаюць на самую сярэдзіну возера. А паверхня вады, замест свіцязянскага ліпавага цвету, пацярушана сівым пылком насення сітнягоў.

*1951*

не-не ды пакажацца сонца. На захадзе — рэзка акрэсленая лінія марскога далягляду. На цёмнай вадзе — белыя баранчыкі, на цёмным небе — белыя чайкі.

Свежа, духмяна, прыгожа.

Апоўдні хадзілі ў горы.

У калючым ажынніку — чорныя, спелыя ягады. Назбіраеш жменю, глынеш — нібы глыток вясёлага віна. У засені магутных букаў, на вышыні шасцісот метраў, ляжаць сівыя, папярэшчаныя зялёным мохам камяні...

Добра закурыць над абрывам цясніны. І гутарыць «о временах грядущих...».

Добра гайдацца, учапіўшыся за пругкае голле бука.

Добра знайсці сцюдзёную крыніцу і прыкленчыць каля яе гаваркой вады.

Добра ўспомніць, што ўчора ты стаяў на носе імклівага кацера і — паміж ціхім морам ды спакойным небам — адчуваў сябе вольным, як чайка!..

*1952*



Цясніны з сухімі, камяністымі рэчышчамі. Горная дарога, абапал якой то бамбук, то гранатавыя дрэвы з чырвонымі і пругкімі, як з воску, кветкамі, то дубы і грабы, то кусты ажыны. Каменныя домікі на высокіх падмурках. Дзіўна маленькія вуллі. Ослік стаіць на ўзбочцы гары, ніяк не могучы прыдумаць, дзе б гэта напіцца... Карова звоніць бляшаным іржавым званком. Высвістваюць дразды. Козы пасуцца з мяшэчкамі на вымі, каб казляняты не ссалі іх без ведама гаспадынь. Стары абхазец, пастух у чувяках, падобных на скураныя лапці нашых пастухоў. Босыя хлапчукі ў цюбецейках. Загарэлыя, абавязкова вусатыя мужчыны воламі цягнуць на валах з гары тоўстыя, грымучыя бярвенні...

Радуле Сціійенскі, паэт не толькі за рабочым сталом, расказвае мне пра сваю далёкую Чарнагорыю. Цікавы чалавек — з яго прыемна калечанай рускай мовай, з яго маладосцю ў шэсцьдзесят год, з разумным гумарам і веданнем гор.

Сардэчная паэзія далёкага маленства!.. Як ён, Радуле, калісьці прабіваў браню чарапашкам, звязваў іх, запрагаў у малую сошку і «араў». Як яму пахне адтуль пастушыная яда — авечы сыр, ляпёшка і дзікі часнок...

Мы ідзём па камяністай, вузкай дарозе, апіраючыся на доўгія бамбукавыя посахі.

Далёка ўнізе — мора з каёмкай пены каля берага.

Зялёныя вяршыні гор, абмочаныя знізу ў рэдзенькі студзень сівых воблакаў,— штораз бліжэй да нас, а ўсё ж — высока!..

— Добры дзень! — з натуральнай прыязнасцю вітае мой спадарожнік сустрэчную абхазскую бабулю. Засушаную, лёгкую, усю ў чорным. І зусім сур'ёзна пытаецца ў яе: — Скажыце, а ці далёка яшчэ да Царграда?..



Ноччу была навальніца: гром над морам і стук дажджу па вялікіх лістах смакоўніцы.

Зранку хмары, яшчэ ўсё цёмныя, ішлі з мора на горы. Там, над вяршынямі, неба святлейшае, нават

не-не ды пакажацца сонца. На захадзе — рэзка акрэсленая лінія марскога далягляду. На цёмнай вадзе — белыя баранчыкі, на цёмным небе — белыя чайкі.

Свежа, духмяна, прыгожа.

Апоўдні хадзілі ў горы.

У калючым ажынніку — чорныя, спелыя ягады. Назбіраеш жменю, глынеш — нібы глыток вясёлага віна. У засені магутных букаў, на вышыні шасцісот метраў, ляжаць сівыя, папярэшчаныя зялёным мохам камяні...

Добра закурыць над абрывам цясніны. І гутарыць «о временах грядущих...».

Добра гайдацца, учапіўшыся за пругкае голле бука.

Добра знайсці сцюдзёную крыніцу і прыкленчыць каля яе гаваркой вады.

Добра ўспомніць, што ўчора ты стаяў на носе імклівага кацера і — паміж ціхім морам ды спакойным небам — адчуваў сябе вольным, як чайка!..

*1952*

# ПРА АСАБІСТАЕ

Абедаў у рэстаране гасцініцы за адным сталом з маладой, сціплай парай рабочых.

Ён «выконвае заданне» ў Ліепаі, а яна вось прыехала да яго з трохмесячнай дачушкай у госці. Ён выехаў насустрач, сустрэліся тут, у Рызе, чакаюць ліепайскага цягніка. Зайшлі паабедаць, і з малым яе ў рэстаран не пусцілі... Што ж, палажылі дачушку ў вестыбюлі, на канапе пад фікусамі, даручыўшы яе старэнькаму швейцару, латышу.

Маці — у просценькай сукенцы, бландзінка з далікатнымі рысамі твару і слядамі дзіцячасці ў гэтых рысах. Відаць, вясёлая была, любіла ўзяць ад жыцця, а цяпер — пацяжэла, парыхлела, пабрыдчэла часова, аднак не аддасць свайго новага шчасця за мінулыя радасці.

Бацька — чорны, стомлены, непрыкметнай знешнасці рабацяга, які «души не чает» ад шчасця сустрэчы, знаёмства з дачкой.

Шапталіся яны, шапталіся, і ён узяў усё ж такі сто грам і бутэльку піва.

— Испортился я у тебя,— сказаў з харошай рускай шчырасцю, з усмешкай, пра якую пісалі Талстой і Чэхаў.

Бацька выпіў гарэлку, а маці прыгубіла піва. І пачалі есці — проста, салідна, заслужана, як ядуць людзі працы.

Якой непрыкметнай, звычайнай бывае збоку — на фоне агульнага, грамадскага — гэта прыгожая асабістая радасць, асабістае шчасце!..

*1954*

# ПЕХАТОЙ І ЯК ЗДАРЫЦЦА

Над Відзамі страляе ў неба готыка касцёла. Чырвоная цэгла, шэры бляшаны дах. І легенда,— калісьці туды вунь, аж на саменькі вільчык, пад крыж, залез у кірмашны дзень нейкі вісус, пачаў там выраблянь, як у цырку, людзі раты паразяўлялі і глядзяць, а тут яго сябры тым часам шныраць, ліха іх зладзейскай матары, па вазах!..

На скверыку — помнік вызваліцелям, вялікі і стандартны абеліск. На дошцы прозвішчы салдат і афіцэраў, якіх ваенны лёс зрабіў героямі ў гэтых мясцінах. Наводшыбе, у зялёным, зацішным куточку сквера — магіла з чорнай пірамідкай. Надпіс: «Андрэю ад А. Кудрынскага». У каго ні пытаўся, хто яны, гэтыя людзі, адказ адзін: «Не ведаю. Кажуць, што нейкі палкоўнік...» Сумна.

Пахнуць па-хатняму грады, сакочуць конікі, стаіць вялікі жнівеньскі месяц, яшчэ не яркі, бо ранні вечар. Бабуля, калі я пацікавіўся, што за кветкі ў яе гародчыку:

— Не ведаю. Ірву, палю, сынок, а яны ўсё растуць. А гэта мак.

І дала мне чырвоную кветку з белаю аблямоўкай на кожным пялёстку.

У чайной літоўскае піва і смачная каўбаса. І нудны, ветлівы сусед, няголены здаравіла, які паволі, шчодра расказвае, як у маленстве маці апаіла яго макам, і вось ён цяпер не можа працаваць на адным месцы больш за тыдзень...

Ноччу сядзеў на ганку гасцініцы, слухаў і думаў, што да ўсёй гэтай ідыліі — з прыродным росквітам і маладымі песнямі ды смехам — не хапае сардэчнай ціхай гітары.

І чаму яна «выйшла з моды»?..

Па дарозе на Браслаў — куток свянцянскай Літвы. З кабіны грузавіка, праз нізкія вербы, відаць прымятае дажджамі жыта, бярозавыя, неакораныя жэрдачкі агароджы, жураўлі без вёдзер, мнагавата абдрыпаных хат. А то — ліпы, белыя вокны, за хатамі будынкі ў шнур, з шырознымі, ледзь не да самай зямлі, стрэхамі. Назвы населеных пунктаў: Калянкішкі, Гадуцішкі, Каляндрышкі, а паміж імі раптам — прастадушна нашы, беларускія Пузыры.

У кузаве ў нас чарапіца. Дзве пярэднія машыны, з такім жа грузам, адарваліся далёка наперад. Негаваркі, дабрадушны шафёр даволі часта спыняўся, каб падняць на дарозе згубленую тымі чарапічыну. Цярпліва і спакойна. Гаспадар!..

Браслаў, калі пад'язджаеш з захаду, адкрываецца вельмі маляўніча. Над возерам сосны, дахі, замкавая гара, каля яе касцёл, царква. Гарадок чысты, з прахалоднай, утульнай гасцініцай, з аброслай плюшчам і мальвамі чайной, з трыма азёрамі, якія ўсе відаць навокал гарадка з высокай замкавай гары.

Над замчышчам, над касцёлам і царквой узвышаецца помнік «добраму доктару». Пры панах гэты доктар, ужо тым часам амаль легендарны, бясплатна, як кажуць, лячыў беднату, пабудаваў за свой кошт бальніцу, а мог таксама, лайдак, даць дзядзьку некалькі злотых, каб з'ехаць верхам на ім з гары... Помнік пастаўлены па яго запавету, з громаадводам, з горбай жалеза пад зямлёй, якое, калі ўдарыць гром, толькі «ляскоча над горадам...».

У рэдакцыі хлопцы далі пачытаць «Гісторыю Браслаўскага павета», аўтар якое і выдавец, польскі настаўнік, энтузіяст-краязнаўца, засакрэціўся ініцыяламі О. Н. Кніга даволі тоўстая, а фактаў яркіх няшмат. Усё прыблізна такое: у Відзах калісьці паны бралі з яўрэяў апроч іншага падатку яшчэ і па два кілаграмы перцу, і «вельмі пацяшаліся з гэтага тавару і яго пастаўшчыкоў». У тых жа Відзах гасцяваў калісьці, у свайго дзядзькі, Адам Міцкевіч, студэнт. Мясцовыя «маскалі», барадатыя стараверы, што аж сюды паўцякалі ад царска-царкоўнага прыгнёту, у 1863 годзе вельмі старанна дапамагалі цару распраўляцца з паўстанцамі... А вось яшчэ адна даволі пацешная дробязь.

У браслаўскага калгасніка Сцяпана Рыжага, які — пра што я перад гэтым прачытаў у райгазеце — атрымаў днямі званне лепшага пастуха раёна, калісьці, ажно ў шаснаццатым стагоддзі, быў продак — браслаўскі войт Грэгар Рыжы...

На лузе над возерам садзіцца паштовы самалёт. Увечары стукае недзе маторка. Потым — ноч. Месячная дарожка, на якую так добра глядзець з гары, пад ціхую гутарку з добрымі хлопцамі.

І нечым не нашым, цвілым патыхае ад слоў, што адзін мясцовы дзеяч, калі ў лазні не хапіла дроў, загадаў спусціць на вуліцы дзве ліпы...

*1955*

# НАРАЧАНКІ

На хутары ў лесе — прыгожыя дзеўкі. Ажно напіцца захацелася, калі ўбачыў іх у акне.

Маці:

— Каб хлеба, дык не далі б, бо няма. А вады — чаму ж.

— Ой, мама, ну вас!..— перапыніла малодшая дачка.

Памыла шклянку, узяла вядро і каля студні, пакуль я даставаў ваду і піў, расказала, што скончыла дзесяць класаў, працуе ў недалёкай вёсцы піянерважатай. Косы — уразлёт. Шчырыя чорныя вочы.

І не пасмеў спытацца, ці праўда, што хлеба няма...

* * *

Паўднёвы, балоцісты бераг. Прарвала грэблю. Многа вады.

— Дачка мая перавязе вас,— сказала гаваркая ветлая цётка, у якой мы спыталіся рады.— Вунь, бачыце, у сітняку відаць яе чырвоная хусцінка! Гэлечка! Гані лодку сюды!..

Гэля — мы хутка пераканаліся — гнала лодку не горш за мужчыну. У восьмым класе, а ўжо як дарослая дзеўка. У футболцы і шараварах, а зверху спаднічка. Хусцінка ўсё з'язджала на шыю. Саромелася перавозчыца, пра ўсё трэба было выпытваць. А потым, калі мы з сушы памахалі ёй шапкамі,— і яна памахала нам моцнай рукой, перабіраючы яшчэ дзіцячымі пальцамі, і хораша, на доўгую памяць усміхнулася.

Не можа быць, каб гэта тыя рублі, што мы — амаль сілай — далі ёй, так разварушылі ціхую дзяўчынку. Проста — зноў адна ў лодцы — яна адчула сябе вальней...

*1955*

# СУСТРЭЧА І РАЗЛУКА

Вялікая, брукаваная плошча ў мястэчку. Позняя раніца. Спёка. Рэпрадуктар грыміць са слупа — перадае бясконцы нарыс пра жніво. А слухаць няма каму. Калгаснікі ў полі. Малыя — хто на пашы, хто каля возера. Толькі тры курыцы ходзяць па плошчы ды каля ганка зачыненага сельмага, дзе некалькі разоў на дзень спыняецца аўтобус, проста на санцапёку сядзіць дзядок. Доўга сядзіць, бо спяшацца няма куды...

Потым сюды падыходзіць другі. Таксама з вёскі, ехаць кудысьці сабраўся. Сівы, прыгорблены, з кульбай.

— Здаецца, Тодар Яцына? Здароў, калі так!

Той, што сядзіць, прыгледзеўся.

— Ты, Стасевіч? А бо-о-о!.. Сядай, браток, ды хоць, як людзі, пагаворым...

Старыя вітаюцца за руку, садзяцца побач і пачынаюць высняць, колькі ж гэта гадоў яны не бачыліся. Нешта так будзе — ці ўсе пятнаццаць, ці толькі чатырнаццаць...

Яшчэ і да палавіны гэтай тэмы не дабраліся, калі на плошчу, нібы нечакана, выкаціў і спыніўся гарачы, запылены аўтобус.

— Паставы? Гэта мой!.. А ты, браток, куды?

— Я ў Вільню. Мой гадзіны праз дзве, а то і больш...

— Ну, дык бывай, Яцына! Дасць бог — сустрэнемся, пагаворым.

Гул матора — уцёк. Пыл спакваля аблёг. На плошчы зноў цішыня.

Толькі нарыс па радыё... Ён таксама, здаецца, разлічаны на стагоддзе.

*1956*

## ГАСПАДАРЫ

У клубе добрага калгаса сход. У будзень, але святочны. Больш за сто цётак і дзяўчат атрымліваюць медалі Усесаюзнай выстаўкі — за лён, якім славіцца гэты куток Наднямоння.

Смешнавата-ўзварушлівы шык. Людзі гэтыя лепш умеюць працаваць, чым браць узнагароды. Кожная, каго выклічуць, выходзіць з-паміж радоў на праход, няёмка ўсміхаючыся, ідзе да стала прэзідыума і загадзя трымае руку, каб падаць яе старшыні райсавета, «так, як і ўсе», ківае галавой і кажа «дзякуй». Дзяўчаты не надта прызвычаены пастукваць высокімі абцасікамі святочных туфляў. Медалі ўсе начэпліваюць адразу ж, толькі сеўшы, і радасна, як дзеці, усміхаюцца.

Сухенькая, смяшлівая бабка:

— Ну вось, счас і я ўкрашу сваю грудзь!..

Ідзе, а ўсе дабрадушна смяюцца.

Выступаючы, большасць стараецца гаварыць, як і бабка, культурна: «клімацічаскія ўсловія нам не дазволілі...»

Толькі адна кабеціна — пасля даведаўся: жыве ўдавой, сын, лейтэнант, у арміі, дачка, студэнтка, у Мінску — гаварыла коратка і па-свойму:

— Семсот пукоў абабілі, а пяцьсот яшчэ не. Але абаб'ём і гэты. Што я тут буду болей гаварыць! Стараемся, як толькі можам, бо трэба.

Пасля сходу, вядома, танцы. І льнаводкі, і маладыя настаўніцы мятуць польку — не наглядзішся.

* * *

Старшыня калгаса — тоўсты, рухавы весялун Украінец, тут партызаніў і застаўся.

Вёз летась з роднай Сумшчыны сюды насенне кукурузы. Міліцыя:

— Што ў кузаве?

— Сала.

Праверылі.

— Якое ж гэта сала? Жартачкі!..

— А вы што тут — ужо газет не чытаеце? Не чулі, колькі сала ў адным цэнтнеры каралевы палёў?..

Са старшынёй суседняга калгаса яны сяды-тады сустракаюцца «на мяжы сваіх уладанняў» — на мосціку. Весялун атрымаў ад госця-паэта кнігу з аўтографам. Паглядзеў, пагартаў яе за сталом і смяецца:

— Гэты ваш фельетон пра п'яніцу-старшыню, які вы ўчора ў клубе чыталі, я прачытаю свайму суседу. На нашым мосціку. Скажу, што гэта вы — пра яго!.. Хаця ён, таварышы, і не п'е. Так толькі, трошкі. Трэба ж, бывае, і пра міжнароднае становішча...

* * *

Нарада ў райсавеце. Старшыні, аграномы, заатэхнікі.

У васьмі калгасах раёна добрая зямля, у другіх васьмі — благая. Для раённай выстаўкі трэба розныя паказчыкі дасягненняў. Кукуруза-ўборачны камбайн — паказаць у дзеянні, на полі бліжэйшага ад райцэнтра калгаса. Трымаць выстаўку цэлы тыдзень не варта,— тры дні. У нядзелю паглядзяць калгаснікі, тады школьнікі, і ўсё. Жывёлу пародзістую не будзем выстаўляць: навошта яе мучыць. Хоча хто паглядзець — на ферму.

Пра ўсё тут думаюць самі.

Пацешны дысананс — райвыканкомаўскі «міністр культуры» (так яго тут і называюць). Павольны, гладкі, недарэчна франтаваты. Вяла апраўдваецца, куды падзелася зробленае летась пано:

— З карцінай гэтай, таварышы, случылася следуюшчая сціхія...

Яна, аказваецца, упала і ў многіх месцах папрабівалася. На выстаўку не дасі. А цэлыя кавалкі палатна выкарыстаны «очань рацыянальна» — будуць намаляваны новыя партрэты...

* * *

Яшчэ адзін старшыня. Прыйшоў да першага сакратара райкома з крыўдамі. Гудзе — нібы спакойна і грунтоўна:

— Воўну прымаюць усю за грубую, па трыццаць рублёў, а ў мяне яна танкарунная, па семдзесят трэба. Не хочуць. Млын вадзяны раблю, а дошак няма. На скрыні, бульбу вазіць, таксама няма. Хоць шчыты ў хатах здзірай.

Сакратар адразу звоніць, куды трэба.

Скаргі гудуць далей. Другая серыя.

— За дзвесце тон здадзенай бульбы нам належыцца аўтамашына. Не даюць. Малако мы здалі, а макухі нам не даюць. Нябось Арлоўскаму даюць,— чаму не быць перадавым. Нават авансам бярэ, колькі хоча...

Сакратар паварочваецца да мяне, ківае на старшыню: — Чым не кулак? Машын у калгасе чатыры, а гараж будуе на чатырнаццаць. З вялікае бяды.— Тады да старшыні: — А можа ты мне, Сцяпанавіч, скажаш, чаго ты днямі ездзіў у Бялынічы?

Той скупа рагатнуў.

— Выпіць, Павел Арсеньевіч. Бо ў нас жа гарэлка з эфірам...

А ездзіў ён ажно туды, на Магілёўшчыну, як прызнаецца спакваля, каб адкупіць у адсталым калгасе турбіну.

Былы настаўнік. Акуркі на падлогу не кідае, а кладзе іх на беленькі падваконнік, кучкаю. Хоць на стале ў сакратара попельніца.

Пайшоў.

Сакратар усміхаецца:

— Хлопцы, можна сказаць, залатыя. Кожны гарой за сваё.

*1956*

# КАР'ЕРА

Здаравенны хлапчына, якога з маленства, дзеля смеху, называлі Пётр Пятровіч, пры буржуазнай Польшчы пяць год сядзеў у турме «за камуну», у вайну быў у партызанах, а пасля вызвалення — з вельмі лёгкай рукі мясцовага начальства — узышоў на цярністую сцежку кіраўнічай працы.

Амаль непісьменнага хлопца прызначылі спачатку кіраўніком раённай канторы дзяржбанка, пасля загадчыкам нарыхтоўчай канторы, пасля старшынёй сельсавета і нарэшце старшынёй сельпо.

Кіруючы банкам, Пётр Пятровіч толькі падпісваў паперкі, што яму ні падсоўвалі, вельмі цьмяна ўяўляючы змест пераважнай большасці дакументаў.

— Што ты мне тутака плявузгаеш! — грымеў ён на бухгалтара.— Я падпісаў — усё. А мала табе раз — другі раз падпішу!..

У нарыхтоўчай канторы ён сам, і вельмі ахвотна, быў часамі грузчыкам, памагаў сваім хлопцам.

Як старшыня сельсавета, пабіў аднаго дэпутата. Слухалі на бюро райкома.

— Ну, я ж усё ж такі яго начальнік,— апраўдваўся Пётр Пятровіч.— Усе мы ўжо сабраліся, сядзім, яго чакаем. Раз я паслаў па яго, другі раз — не ідзе. Пайшоў я сам. Сядзіць, гад, ды зацірку мурзае. Ну, узяў я тую міску ды надзеў яму на галаву. Падумаеш — так ужо абрамізіў!..

У сельпо Пётр Пятровіч вельмі хутка замурзаўся сам.

Не так замурзаўся самахоць, як замурзалі розныя памагатыя.

І вось ён памёр недзе ў турме. Падпольшчык, партызан, дый хлопец, урэшце, нядрэнны, калі б яго не ўздымаць без патрэбы і меры...

А маці, якой «бог смерці шкадуе», увесь свой век пакутніца пры такім сыне, ідзе цяпер за дваццаць кіламетраў у райцэнтр, каб, можа, пенсію якую за Пятра далі...

*1956*

# УСМЕШКА

Толькі што адшумела навальніца, і па вуліцы вёскі бягуць вясёлыя мутныя раўчукі.

Я стаю каля варот бацькоўскага двара, і мне вельмі хочацца зняць свае модныя туфлі, прайсціся па быстрай дажджавой вадзе, памясіць нагамі цёплую, пухкую гразь...

Мяркуючы па тым, што я яшчэ не зрабіў гэтага, а толькі раздумваю — я ўжо даўно не малы. Ды я не адчуваю чамусьці ні цяжару гадоў, ні адказнасці за свае паводзіны: я проста рад, можа, нават не менш, чым рады бываюць у такі час малыя.

На захадзе з-за хмар выглянула сонца.

З узгорка ўніз па вуліцы ідзе белы, зусім сухі і чысты бычок, а на бычку сядзіць гадоў пяці-шасці дзяўчынка, што таксама не была пад дажджом.

Бычок ідзе паволі, нават салідна, упарта і горда несучы наперад свой шырокі пародзісты лоб з тупымі шэрымі рожкамі.

Дзяўчынка сядзіць на бычку не так, як хлопцы, а бокам, спіной да мяне, нібы знарок схаваўшы свой твар, напэўна, шчасліва і смешна сур'ёзны, свае, вядома ж, загарэлыя ножкі.

Сонца прасвечвае праз мокрае, бліскучае лісце бяроз, і на мелкай гразі, нядаўна затупанай слядамі каровіных капытоў, на гаманлівай вадзе і на шэрых штакетах за раўчуком ляжыць рухавая сетка ценю. Калі бычок са сваёй амазонкай уваходзіць у гэты цень, па іх гуляюць сонечныя зайчыкі.

На ўсходзе, куды накіравалася, яшчэ не ўсё аддаўшы, цёмна-сіняя хмара, красуецца вясёлка. Пад вялізную арку яе ідзе вясковая вуліца, а па вуліцы, нібы

ў краіну казачнай радасці, едзе светлагаловая дзяўчынка, гулліва пастукваючы пятамі па баку свайго верхавіка.

Трохі воддаль за імі ідзе, таксама босы, бацька дзяўчынкі. Ідзе і ўсміхаецца, бо думае, відаць, што дзіця — заўсёды дзіця, заўсёды радасць, ці хлопец гэта, ці дзеўка.

Але дзяўчынка тым часам праехала міма мяне і там, дзе шумлівы, пеністы раўчук ад плота разліўся на сярэдзіну вуліцы, пачала раптам з'язджаць з хрыбта свайго бычка і, пакуль я сабраўся бегчы ёй на дапамогу, з'ехала і шлёпнулася, села ў мелкую ваду!..

Пакуль мы з бацькам малое падбеглі туды, паспела адбыцца самае цікавае, самае вясёлае ў гэтай гісторыі.

Белы бычок прыгнуў лабастую галаву, наблізіў вільготную казытлівую пысу да твару свае сяброўкі і панюхаў яго, а дзяўчынка працягнула загарэлыя рукі, узялася за рогі бычка, адкінула назад светлавалосую галаву і, смеючыся, устала.

— Ой, татачка! — гаварыла яна і, не могучы дакончыць, звонка смяялася і паўтарала: — Ой, татачка! Ой!..

І мы смяяліся ўтрох,— так весела, так непаўторна молада, што я не вытрымаў больш і... прачнуўся.

*1956*

# ПАРЫЖ, КАФЭ «МАДРЫД»

За шкляною сцяной мноства хвалістых папугайчыкаў. Цалуюцца сабе пры людзях, як сапраўдныя французы. Афіцыянткі ў брэтонскіх нацыянальных касцюмах. Ветлівы малады дырэктар добра гаворыць па-нямецку; скромна хваліўся, што ведае рускую літаратуру, гутарку пра якую пачаў з Дастаеўскага.

Старая, кульгавая, з кіёчкам, у дарагім футры, хоць на дварэ пагодлівы, цёплы кастрычнік, мадам прыходзіць есці вельмі акуратна. Есць доўга, старанна глытаючы процьму вустрыц, старанна фарбуючы губы пасля яды...

Адной з афіцыянтак я падарыў некалькі маляўнічых паштовак з аўтографамі нашай турысцкай групы. Яна знайшла на адвароце паштоўкі серп і молат, паказала на іх пальчыкам, усміхнулася і ўзняла кулак: «Рот фронт!» Пры дапамозе дырэктара расказала нам, што брат яе, рабочы сцэны пры «Камэдзі Франсэз», быў летась у Маскве. Слова «брат» яна сказала па-французску, па-англійску і, за мной, па-нашаму... Мілая, баявая чарнушка.

Тым часам да старой мадам за суседнім сталом падсела другая. Гэтае «брат», «рот фронт!» і ўсё шчабятанне дзяўчыны з намі абурыла абедзвюх мадам. Яны паклікалі афіцыянтку да сябе і доўга, нудна скрыпелі на яе, дакараючы. Пасля паклікалі дырэктара. Злёгку і з годнасцю схіліўшыся, ён слухаў іх з прафесійна ветлівай цярплівасцю: кліенткі, мусіць, даўнія.

Дзяўчына — каля нашага стала — усміхалася, нават і падміргнула мне на тых, а на развітанне дэманстратыўна ўсім нам паціснула рукі і зноў з мілай усмешкай узняла кулачок — «Рот фронт!».

*1956*

# ЗВАЛІЎСЯ ВЫСТУПАК

Дарога Ратэрдам — Амстэрдам.

Раўніна. Багаты лес: дубы, вязы, платаны, клёны, ліпы... Парнікі і адкрытыя грады. Прыгожыя домікі, ветракі, касцёлы, зноў ветракі... На сакавіта-зялёных паплавах чорна-пярэстыя каровы. Вада не ўмяшчаецца ў незлічоных канавах, блішчыць нават на раллі. Раскошная аўтастрада. Абапал — вузкія, простыя палявыя дарогі, таксама асфальт у прысадах. Сонечны дзень...

Сонечны дзень у дажджлівай, пахмурнай Галандыі!.. У сярэднім ён тут бывае адзін раз на тыдзень. Цяпер, у кастрычніку, гэта зусім незвычайна, як дарагі падарунак.

А дзень — адзін, праездам, дзень у краіне, пра якую ты столькі ведаў здалёк і як быццам не ведаў нічога?..

Вось і настрой таму таксама сонечны.

Успамінаю маленства, стары рускі часопіс «Маяк», апавяданне пра падарожжа блізнятак Кіта і Кэт. Першае падарожжа з дзедам да мора.

Малыя сядзелі на нейкім мастку, потым у Кэт зваліўся ў ваду драўляны выступак. А за выступкам — абое блізнят. Дзядуля дастаў іх, засыпаў па шыю ў пясок, каб не змерзлі, пакуль высахне вопратка...

Прайшло больш трыццаці гадоў. А мне — з акна турысцкага аўтобуса — толькі і хочацца глядзець на далягляд, шукаць вачыма паласу, мусіць, недалёкага мора, а на беразе яго — мілыя мордачкі Кіта і Кэт. Яшчэ ўсё над пірамідкамі пяшчотна цёплага пяску...

*1956*

# ПРОЦЬМА ЦУДОЎНЫХ КАДРАЎ

Учора сонца ўзышло над пустыннымі, голымі гарамі Грэцыі. Порт Пірэй.

Упершыню за ўвесь наш шлях убачылі ваенныя караблі. Глядзі ты,— падумалася адразу,— малая, слабая краіна, а вось жа наяршылася гарматамі і кулямётамі кацераў!.. Адзін з іх уранні назойліва, як восеньская муха, кружыў вакол нашай белай красуні «Победы», а ўвечары другі... ці, можа, і той самы, шмарганууся, як дэльфін, аб наш борт.

Засталі тут шэры амерыканскі «Gen. Alexander», які стаяў у Неапалі. Таксама, як і там, ён тут адразу адчаліў. Шмат амерыканскіх ваенных маракоў — белыя, негры, мулаты...

Як толькі нашы аўтобусы спыніліся каля Акропаля, энтэзсаўцы — члены антысавецкай арганізацыі, пераважна з былых гітлераўскіх прыслужнікаў — пачалі раскідаць свае лістоўкі. Адзін так перастараўся, што кінуў у акно аўтобуса пачак лістовак у металічным клямары і падбіў вока нашай турыстцы. Прадстаўнік круіза заявіў пратэст: «Здыму экскурсію! Сто чалавек паліцыі не можа абараніць нас ад хуліганаў». Грэкі, прадстаўнікі турыстычнага бюро, пачалі апраўдвацца, што гэта — «нашы»... Заклапочаны, ветлівы перакладчык пацешна завіхаўся: «Успокойтесь, господа, тех троих хулиганов полиция арестовала, их там будут пороть...»

Пасля наша насцярожанасць рассеялася. Бо нідзе не прымалі нас так гасцінна. Абед у рэстаране «Паля Гітоня» нечакана ператварыўся ў свята грэчаскай і савецкай песні. Рэстаран арыгінальны. Блакітная шкляная столь стварае поўную ілюзію вячэрняга неба, асаб-

ліва калі выключаецца святло старадаўніх вулічных ліхтароў. Сцены вялікай залы размалёваны пад сцены дамоў, што акружаюць квадратную плошчу. Вокны з разнымі аканіцамі асветлены з сярэдзіны. Балкончыкі і вінаград на сценах дамоў яшчэ больш узмацняюць падабенства залы да нейкай сярэдневяковай рыначнай плошчы. Аркестр, трыо спевакоў з гітарамі, саліст і чароўная Майя Малайя. Наогул тут больш, чым у іншых краінах, прыгожых жанчын. Выконваліся народныя «песні гор», «маленькіх стэпаў» і «гарадскія народныя песні», у многім падобныя да грузінскіх. Моцнае, духмянае віно. Над сталаміляталі каляровыя шары і стужкі серпанціну. У адказ на песні гаспадароў наша турысцкая маса даволі ўдала, а галоўнае весела, пад баян, праспявала дзве рускія песні. Цікава выступіў наш пасол, пра якога Катаеў казаў нам з Танкам пасля, што гэта «дыпламат новага тыпу», ходзіць і ездзіць у людзі без усякай аховы, шчыра, жыва і ўмела працуючы для справы міру.

Дарэчы, калі мы ноччу гулялі з Максімам па вуліцах Афінаў, шафёры затрымлівалі нас на стаянках: «Товарищ, Маруську? Товарищ, такси?» А пачуўшы адмоўны адказ: «Миру — мир!» Удзень студэнты, вясёлыя хлопцы і мілыя, прыгожыя дзяўчаты, здымаліся з намі на фоне антычных руінаў, прасілі значкі, аўтографы...

Прыгожа тут вельмі. Кажучы мовай фатографаў (большасць турыстаў на гэтым памешана) — процьма цудоўных кадраў. Велічная краса старадаўняга мармуру, безліч маляўнічай керамікі ў музеях. Непаўторная панарама горных схілаў, пакрытых рознакаляровымі палацамі, дамамі, домікамі, кожны трэці з якіх здаецца творам мастацтва. На скалах (гід: «Якія мы называем узгоркамі») узвышаюцца класічныя руіны, што так красамоўна, так таямніча гавораць пра сілу чалавечага генія.

Уносячы ў гэтую антыку элемент сялянскай шэрай солі, рагаталі з Максімам з таго, якую «страляніну» ўздымалі на гэтых горах старадаўнія грэкі, без дапамогі машын варочаючы і цягаючы мармуровае шматпуддзе. Смешна гэта, але ж і не зусім дарэчы,— усюды столькі гаворкі пра багоў ды герояў, а пра тых, што будавалі, пра тыя хоць бы косці рабочага люду, на якіх

узвышаецца ўся гэтая краса — ніхто ані слова. Гідам гэта, відаць, не прызначана, а мы, у большасці сваёй, запісваем іх траскучую, надаедлівую балбатню, нібы прыехаўшы сюды ліквідаваць сваю непісьменнасць.

...Заўтра Стамбул, пасля якога, як у родны двор, уваходзім у Чорнае мора. Што дзень, то ўсё больш сумую па доме, сню маленькага сына, мару пра цішыню і працу.

Прачнешся, зірнеш у акно — вада... Пішу, узняўся над столікам — вада... Ці не зашмат на свеце вады?..

А найлепш усё-такі ў нас, дзе і трава, і бярозы, і грады пахнуць укропам... Бо тут, на поўдні, асабліва ў Грэцыі, мала дрэў, мала травы, за што мне калісьці, між іншым, не спадабалася кактэбельская распаленая скаварада.

*1956*

# ЗАСЛАНІЎШЫСЯ ЛЁГКАЙ ІМГЛОЙ

Сённяшні дзень учора быў спланаваны так: прачынаюся на Чорным моры і, паснедаўшы, расшыфроўваю блакнотныя іерогліфы, запісваю па свежай памяці турэцкія ўражанні. Але, прачнуўшыся, мы адчулі, што цеплаход стаіць, у вокнах — густая імгла, праз якую ледзь прабівалася бледнае сонца. У імгле рознагалоса, разгублена пераклікаліся гудкі суднаў, якіх там, каля ўваходу з Мармуровага мора ў Залаты рог, мноства. Чуўся бой склянак, стук малатоў...

Праз дзве гадзіны наша «Победа», нарэшце, адчаліла і асцярожна рушыла ў Басфор. Імгла пачала патроху рассейвацца, нечакана блізка і спакваля вырысаваліся сілуэты суднаў і левы, еўрапейскі бераг. Яшчэ больш сонца і подыхаў ветру, і вось — на палубах запстрыкалі фотаапараты. Стамбул яшчэ раз паказаў нам сваю маляўнічасць і раскошу, лёгкай імглой засланіўшы ад нашых вачэй учора ўбачаную беднасць, бруд.

Яшчэ раз прайшлі мы каля авіяносца, відаць, флагмана амерыканскай эскадры, якая прыбыла сюды «з візітам дружбы»... Стамбул, бедная, брудная Турцыя на фоне гэтай эскадры — першае і галоўнае ўражанне, якое сёння паўтарылася, каб замацавацца ў памяці. Шэрая турэцкая паліцыя і чыстыя, адкормленыя амерыканскія маракі здаюцца тут галоўным насельніцтвам горада, асабліва ўвечары. Таварышы з нашага консульства расказвалі, што гэтым гасцям — сотням згаладнелых па жанчыне афіцэраў і матросаў муніцыпалітэт выдае бясплатныя білеты ў «начныя ўстановы».

У выніку такое дружбы горад ператвараецца ў вялізную пляваце́льніцу, а ўсё ж справа застаецца вельмі выгаднай, бо ў рэстаранах, барах, кабарэ асядаюць тысячы долараў.

Калі пакарыстацца шаблонным акрэсленнем, дык яно падыходзіць тут найбольш: Стамбул — горад кантрастаў. З аднаго боку — проста-такі казачная раскоша ў старым і новым султанскіх палацах, цудоўныя помнікі архітэктуры — Айя Сафія і Блакітная мячэць, зусім еўрапейскі цэнтр горада вакол плошчы Таксіма, з другога боку — брудныя вуліцы старога горада, бедна апранутыя людзі, адзінаццаць тысяч «кэмалаў»[1] — насільшчыкаў, якія паспяхова канкурыруюць з грузавым транспартам, небывалых памераў прастытуцыя, плюс — усемагутная палка паліцэйскага...

Пасля чысценькай і халодна-непрыступнай Швецыі, багатай і працавітай гандляркі Галандыі, пасля раскошнага, шумнага Парыжа, дзе найбольш, здаецца, ураўнаважаны сілы ў барацьбе новага са старым, пасля чароўнай Італіі, працавітай, вясёлай і сімпатычнай нам, нягледзячы на сілу Ватыкана, на жывучасць сусветнай рэакцыі, якой яшчэ доўга прыйдзецца дагнівацць, пасля непаўторнай па прыгажосці сваіх помнікаў Грэцыі,— буржуазная Еўропа паказала нам свае басфорскія задворкі.

Не так гэта ўсё проста, не так лёгка ўкладаецца ў схему — іхняе «дагніванне» і наша «недалёкая» перамога!

Многа поту, многа крыві чакае нас на шляху да перамогі святла над цемрай.

Непакояць, хвалююць, трывожаць венгерскія падзеі...

Многа намаганняў патрэбна сёння, круты паварот да Леніна, як першакрыніцы, новыя формы барацьбы і працы, бязлітасная шчырасць у прызнанні сваіх памылак, каб даць народу так неабходны зарад рэвалюцыйнай энергіі, маральнай чысціні, веры ў святое, гордае званне чалавека, які жыве, урэшце, для таго, каб быць шчаслівым сёння, і не шчасцем мешчаніна, не

---

[1] Camel — вярблюд *(англ.)*.

сытым шчасцем адзінак і груп, а светлым, чыстым шчасцем Чалавека.

Няшмат я ведаю, няшмат магу, але рабіць сваё я мушу, буду і хачу, бо толькі ў гэтым увесь той адзіны сэнс жыцця, тое, ні з чым не параўнанае шчасце, якім жылі лепшыя людзі Зямлі, што і мяне непакоіць, радуе, вядзе ўжо цэлых дваццаць пяць год, пачынаючы ад юнацкай тугі і пошукаў, ад першых пакут і першых радасцей.

*1956*

# КАРАВАЙ

Мядзельшчына. Жніво. У ціхай, сонечнай вёсцы над возерам спыніўся «Масквіч». Тры дачныя мужы, што вярнуліся з горада, яшчэ як быццам не нацешыліся сваёй кампаніяй — закурваюць, стоячы каля машыны.

Раптам — з-за ўзгорка пачуўся незвычайны шолам, бабскі гвалт. Курцы хацелі кінуцца туды, як на пажар, але тут з акна хаты, насупраць якое яны стаялі, пачуўся прыглушаны голас:

— Уцякайце, таварышы! Хавайцеся! Будзе бяда!..

Пакуль яны не верылі, з-за ўзгорка паказалася чарада баб і дзевак. Крык, стук качалкаю па вядры, абрыўкі песень, рогат, віск...

Стары, што папярэджваў дачнікаў, знік у акне.

Убачыўшы машыну, жанчыны загалёкалі і рынуліся да яе. Дачныя мужы паспелі ўскочыць у свой «Масквіч» і зачыніцца. Жанкі абляпілі машыну з усіх бакоў, пачалі выманьваць пасажыраў выйсці.

— Тэмпературу пагляджу! — крычала адна, трымаючы, як стэтаскоп, чарку на доўгай ножцы.

— Дабром просім — выходзь! — крычала другая, з намалёванымі вугалем вусамі.

— Бабкі, а ну — перакінем! — прыйшла нарэшце шчаслівая думка.

І бабкі сталі пераварочваць «Масквіч». Магло б, вядома, і такое здарыцца, але ж яны паляпіліся з усіх бакоў, пяліся, галёкалі на ўвесь свет, а машына толькі прыпаднімалася, як жук, які лянуецца ўзлятаць. І бабкі спакваля ашляхлі. Яны пастукалі кулакамі па шыбах, па кузаве — каб ты лопнуў! — «доктарка» пагразіла ў акно:

— Ну, гады, ваша шчасце!..

І вось чарада, зноў з ваяўнічым крыкам, падалася па вуліцы далей.

Зноў адчынілася акно, і дзед, што папярэджваў дачнікаў, растлумачыў:

— Сёння, таварышы, чацвер. Дык гэта бабы каравай сабраліся пячы. Стася Хрыпунова ў нядзелю замуж ідзе. Тая, што ў крайняй ад пошты хаце. Выпілі трохі, халера, бушуюць. Сёння яны маюць права на ўсё. Могуць мужчынам рабіць, што захочуць. І порткі з вас, выбачайце, сцягнулі б, і крапівы туды напхалі б, і пяску насыпалі б!.. Абычай. Банда. Мужчыны нашы ўсе — хто куды!..

*1957*

# ЗАГАДКА

Напярэдадні вайны хлопец з Дона стаяў дазорам на Бугу. Пасля, пад націскам ворага, ён адступаў, ведаў бяздонную горыч разгрому і палону. Уцёк з-за калючага дроту і прыпыніўся ў самай звычайнай беларускай вёсцы. Небагатыя, ціхія людзі, з якіх і ён нядаўна пасмейваўся: «Бульба дробненькая, але многа!..» Яны накармілі яго і прыгрэлі. Разам з імі ён узяў неўзабаве вінтоўку, стаў партызанам. Разам з імі рабіў ён тое, што — збоку відней — і Радзіма, і ўвесь прагрэсіўны свет пачалі пасля называць гераізмам. Тут на гарачую кроў яго раны лягла халаднаватая чысціня палатна. «Кужэльненькага», як гаварыла беларуская маці, нястомная работніца, што плакала над ім. Замест яго-най — богведама, ці жывой? — мамані ў далёкай, так-сама дзесьці зганьбаванай фашыстамі станіцы... Тут ён адчуў каханне — наша дзяўчына палюбіла яго, пайшла з ім з роднае хаты ў сцюдзёную пушчу...

Пасля — перамога! І ён не вярнуўся дахаты, на Дон. Хлопец нібы толькі цяпер заўважыў, як ён прырос да гэтай слаўнай лясной старонкі, як пасябраваў з людзьмі, якія памаглі яму выканаць святы абавязак савецкага чалавека. Вось ужо трынаццаць год узапар ездзіць ён у госці на ўсход, да роднага берага, да родных душ, і вяртаецца адтуль у Беларусь з тым самым дзіўным пачуццём — з дому едзе дадому, з радзімы цягне яго на радзіму...

Дзве іх стала, ці што?..

*1957*

# ЗНОЎ ДОМА

Здаецца, упершыню адчуваў сябе так радасна і лёгка тут... хачу сказаць — дома, бо ў родных мясцінах, пра якія мне хочацца пісаць, пра якія я пачынаю думаць — абы ўзяўся за пяро. Няма ўжо тут таго ныцця, як раней, як быццам ужо цалкам закончыўся працэс сацыялізацыі вёскі, людзі прывыклі да новага, кажучы мовай Талстога — усё перавярнулася і легла на сваё месца. Гавораць землякі адкрыта, калюча, але не варожа. Як быццам закончыўся ўжо, завершаны першы этап барацьбы за хлеб. Цяпер няма тут яго, кажуць, толькі ў гультаёў. Пачынаецца новы, ужо не першы этап барацьбы за культуру. Плануюцца ды будуюцца клубы, школы, дарогі...

Адно, калі ласка, без лакіроўкі! За культуру ў нас трэба нарэшце пачынаць змагацца па-сапраўднаму, трэба нават біць у званы!..

Найбольш, здаецца часамі, актуальная праблема ў многіх — «дзе дастаць дражджэй?». Самагонка, «Сталічная», нават каньяк. П'юць вельмі многа.

У мястэчку перад «забягалаўкай» наглядаў сварку настаўніцкай пары.

Ён, п'яны, яшчэ ўсё рваўся да чаркі і груба лаяўся — прывычна ўжо, нават здаволены сабой.

Яна крычала, як звяглівая баба, выварочваючы «перад усёй грамадскасцю» хатні, сямейны бруд.

А дзве дзяўчынкі, што за чатыры кіламетры прыйшлі сюды па сшыткі, прагна прыглядаліся, прыслухоўваліся да гэтай «педагагічнай дыскусіі»...

Былы падпольшчык, адукаваны, сімпатычны рабацяга, таксама настаўнік, зусім сур'ёзна даводзіў мне, што алкаголь... карысны.

У старшыні калгаса, перадавога, раструбленага на ўвесь свет, нос сіні і ў цяпле. Прыкмета сімвала веры.

Спіс гэты можна прадоўжыць, хапіла б толькі ахвоты.

Трэба штосьці рабіць!.. А я яшчэ думаю: ці варта даць месца гэтай балючай і вельмі сучаснай праблеме ў артыкуле, які мяне прасілі напісаць пра новае ў вёсцы...

Як здорава мы прывучаны загладжваць!..

*1957*

## І ТАКОЕ...

Над Віллёй — салаўіны перасвіст, камары, дарэмнае сцёбанне спінінгам і далёкі гул самалётаў, што рассяваюць угнаенні над палямі калгаса — хораша! — «Партызан».

Звычайным, няновым здаецца гэты гул.

Як і ўспамін пра іншы гул — тых самалётаў, што пятнаццаць год таму назад бамбілі гэтыя вёскі...

Апоўдні сюды сабралася моладзь і дзеці. Падлеткі, што па памяці цытуюць Горкага, называюць імёны шахматных чэмпіёнаў і іншыя прагрэсіўныя рэчы. І лаюцца пры гэтым густа і агідна. Аж страшна за дзяцей, якіх тут многа...

Культура?

Учора дырэктар школы, спакойны, сімпатычны хлопец, былы баявы партызан, хваліўся, як яны з інструктарам райкома, таксама адным з партызанскіх гвардзейцаў, дамовіліся нарэшце са старшынёй калгаса пра будаўніцтва новай школы:

— Пілі трохі ў хаце. Угаворвалі. Ніяк, зараза, не згаджаецца. Папрасілі мы яго з Толем на двор ды як далі — адразу згадзіўся...

Не печанегі?

*1957*

# АСТРАВОК

На хутары, дзе садок і гарод і навокал, як мора, калгаснае жыта, бачыў жывы прататып казачнага Іванькі-прастака.

Дужы, рахманы дзяцюк. З гонарам расказвае, што ён усё-ўсё ўмее рабіць. Хоць і робіць толькі тое, што не патрабуе трохі большай кемлівасці: не косіць, але падае на воз, не коле дроў, але валочыць вёдрамі ваду са студні, якая больш за кіламетр ад хутара, у вёсцы... Малодшы брат, гаспадар, вазіў летась яблыкі прадаваць — з Наваградчыны ў Маскву — і купіў яму шапку, якой вельмі ж хацелася — салдацкую, з чырвоным аколышкам. Яна вісіць на сцяне, любоўна загорнутая ў маміну хусту.

Увечары «дурань» зняў яе са сцяны, разгарнуў і надзеў — як карону.

— Куды ты, Іване? — пытаецца цярплівая і ціхая жанчына — маці.

— У кіно.

— Позна, сынок, яно там недзе ўжо канчаецца.

— А пад канец яшчэ цікавей.

Ды з такой жа дзіцячай усмешкай адказвае!..

— Малому дарогу саступіць,— кажуць пра хлопца сямейнікі.

І шкадуюць яго ўсе — і брат, і братавая, і сястра-школьніца, і дзед.

Дзед — цікавы і сам. Яму ўжо за дзевяноста. Накрыўшыся старой цыратай ад дажджу, пасе ў зялёным яры дзве каровы і жменьку авец. І вельмі рад, што вось ізноў, як людзі, бачыць. Бо толькі нядаўна яму знялі катаракту.

— Як на свет нарадзіўся, сынок! — расказвае ён

мне, неяк на дзіва молада смеючыся.— А тыя разы, сляпым быўшы, дзяржу дзве каровы на павадах, а малыя толькі камандуюць: «Дзеду, лявей! Дзеду, правей!..»

Дзед есць зацірку толькі з хлебам і злуецца на ўнукаву жонку, калі зацірка рэдкая:

— Сама, відаць, хадзіла па ваду!..

Увечары выпіў з намі — цэлую шклянку самагону — і пачаў успамінаць. Ну, спачатку — бліжэйшае. Як ён на ўнукавым вяселлі «ўзяў» трошкі не літар і нават яшчэ барыню паскакаў. Як сын яго, Лёўка, насіў у млыне на другі паверх па два шасціпудовыя мяхі за раз, узяўшы пад пахі, а потым — булава, царства яму нябеснае, напіўшыся п'яны, прастудзіўся за ноч у канаве і памёр... Пасля гэтых успамінаў, цікавых, але звычайных, ідуць такія, ад якіх ажно неяк трошкі вусцішна. Што памятае жывы чалавек!.. У другой палавіне дваццатага веку — успамінае пра турэцкую вайну!.. Праўда, на Шыпцы сам ён не быў — па пашы бегаў яшчэ, але ж палонных туркаў бачыў многа. У графскім маёнтку.

— Шапкі высокія, чырвоныя. Снапоў накладуць у параконныя ка́ры — толькі ў драбіны, не болей, палягуць туды шасцёх і паехалі!.. Яшчэ, кажуць, пазвальваемся! Ха-ха-ха!..— рагоча, аж хіхікае, як малы.

Уранні папрасіў мяне зняць яго на картачку,— пад яблыняй, з маленькім праўнукам на каленях. Табурэтку паставілі ў бульбе, якая цвіце.

*1958*

# НЕ ЗНІКАЙ

Яны не могуць нацешыцца адна адной — дачка і маці.

Не бачыліся тры гады... Не — больш за тысячу дзён і начэй! Роўна столькі, колькі іх горад быў пад ворагам.

Ваенны год на службе лічыцца за тры. Салдату. Дзецям і маці, якія ў той час былі разлучаны, трэба лічыць, прынамсі, яшчэ раз утрая. Час чакання, тугі, невядомасці...

І вось яны разам.

Яшчэ ўсё худыя Зініны ручкі — на маміных плячах, а носік раз-поразу цёпла торкаецца то ў адну, то ў другую маміну шчаку.

Можа, залішне гэтых пястотаў, можа, маці дарэмна штодня адзявае малую сама? Бо Зіна ж вырасла за гэты час на першакласніцу.

— Ой, успомніла я, успомніла, мама!..

— Што? Ды не вісні ты, стой сабе хораша. Што ж ты ўспомніла?

— Яшчэ калі цябе не было, калі ты была ў э-ва-ку-а-цы-і... Бачыш, я ўжо гэтае слова адразу кажу! Калі мы толькі з бабуляй жылі. Калі яшчэ ў Мінску былі фашысты... Мама! Ну, мама!..

— Што? Што, золатка маё?

— А гэта ва ўсіх мам і ўсіх дачок вочы такія самыя?

— Ну, не заўсёды.

— Дык чаму ж у нас з табой такія самыя сінія?

— Гавары ты, дачушка, адно. Ісці ўжо трэба, а ты... І я цябе люблю. Ну добра, хопіць. Дык што ж ты сніла, калі мяне не было?

— Я цябе сніла, мама. Не адзін раз, а многа! Але адзін раз так: здаецца, я цябе бачу... Здалёк, не блізка бачу. Але ведаю, што гэта — ты. Як толькі ты ідзеш — і я іду. Як толькі я пабягу да цябе — і ты бяжыш. А потым я крыкну: «Ма-ма!..» І ты адразу знікаеш... Ой, а слёзы твае так казычуцца,— я зараз чыхну... А можа я не адзін раз так сніла, а многа?.. Ну, мама!..

Яны не бачыліся многа-многа год.

*1960*

# НА ЎСІХ МОВАХ

Ляцім над акіянам. Дзесяць тысяч метраў.

Уверсе — блакіт, унізе — цьмяна-попельныя хмары. Паміж блакітам і хмарамі — ззаду за намі — вячэрняя зара. Чорнае крыло самалёта. Успамінаецца Рэрых.

Ноч. Непраглядная бездань за акном. Толькі нашы адлюстраванні на шыбе.

Пасля — звястунка раніцы — адзінокая зорачка. Зноў рэрыхаўская зара, ужо з усходу. Зноў чорны меч — крыло. Унізе — зноў шэры насціл хмар, пад якімі яшчэ ўсё акіян. Меч, бліжэй ад акна, спакваля пачынае паблiскваць. Зару замурзваюць воблакі.

Светла-попельны колер хмар пад намі нагадвае то густы шарош на вадзе, то нядаўна астрыжаную аўчыну.

Зара разгараецца.

Стала ўтварацца вялізная ракавіна — з неба ўверсе і мармуровых хмар пад намі.

Сонца!

У падвясной калысцы прачнуўся чарнавокі французік і, з валасатай галоўкай на мамiным плячы, паплыў па праходзе над галовамі пасажыраў. Чорныя вочкі ўсміхаюцца...

І хочацца на ўсіх мовах адразу сказаць яму:

— Добрай раніцы!

*1960*

# СТО ВЯСЁЛАК

Канадскі бок Ніягары пакінуў бы вельмі няпоўнае, ледзь не проста курортнае ўражанне... Але, пакруціўшыся перад вадаспадамі па набярэжнай пехатой і ў аўтобусе, мы пераехалі мост, апынуліся ў ЗША, прайшлі, нечакана не вельмі складаныя, паліцэйскія фармальнасці і зноў паехалі да вадаспадаў.

Ужо само пераапрананне ў сінія піжамы і светла-жоўтыя непрамакальныя плашчы настроіла ўвесь наш турысцкі піпл[1] на маладa-вясёлы лад. Спусціліся ліфтам на дзве сотні футаў і апынуліся на драўляных кручаных лесвічках ледзь не пад самымі вадаспадамі. Спачатку толькі глядзіш ды слухаеш — здалёк, а потым яно пачынаецца!..

Вырваўшыся з-пад вадаспаднага душа, дабраўшыся па коўзкіх, заброснелых сходках да ліфта, адтуль — да вопраткі і блакнота,— пішу:

Іду, сагнуўшыся пад гэтай небывалай навальніцай, вяду перад сабой і за сабой па сто вясёлак, і ў гэтым шуме вечна маладое радасці хочацца спяваць, смяяцца, пісаць выдатныя вершы!.. Божа мой,— і падумаць адно, што так адбываецца тут безупынна, заўсёды!..

*1960*

---

[1] Піпл — людзі *(англ.)*; тут — у значэнні — усю нашу турысцкую кампанію.

# ПРЫКРАСЦЬ

Калі мы ўчора аглядалі вашынгтонскую нацыянальную галерэю, прыбіўся да нас малады амерыканец, што шукае дружбы з савецкімі людзьмі. Чалавек з вышэйшай асветай, а так і не ўспомніў, якую кнігу, перакладзеную з рускай мовы, ён аднойчы быў прачытаў... А што тут ужо заікацца пра нацыянальныя літаратуры?.. Трэба было бачыць, як ён — шчыры, мусіць, хлопец — здзівіўся, пачуўшы пра тое, што армянскі тэатр святкаваў нядаўна свае дзве тысячы гадоў!..

Не вельмі смешна з хлопца, а шкада яго — не ведае.

Такія ж знаўцы, як наш гнуткі гід, «спецыяліст па рускай класіцы», адкалупваюць ад глыбы савецкай літаратуры толькі крошкі, патрэбныя ім, і крычаць, што гэта — не проста найлепшае, але і адзінае ў нас...

І мы не ведаем усяго, што нам трэба.

І тут, у Штатах, і ў Канадзе часта пыталіся ў мяне, што я думаю пра «Доктара Жывага». Пыталі і добрыя людзі, без задняе думкі. І я выкручваўся, як мог,— гаварыў не толькі пра Пастарнака, паэта і перакладчыка, але і пра бацьку яго, мастака, ілюстратара і сябра Льва Талстога, а толькі, па сутнасці, пра «Жывага» — нічога не мог адказаць. Дзе ж ты яго прачытаеш?..

Пыталіся і пра адносіны да «светила русской эмиграции» — Набокава з яго «Лалітай». Ну, а пра гэтага я толькі ў Амерыцы і пачуў...

Варта б нам ведаць тое, супраць чаго крычым.

*1960*

# АЛЬБУЦЬ

На звычайнай лясной паляне — звычайная старая леснікова хата. Адрына з павеццю, хлеў, пагрэбнік. Некалькі вулляў на градах. Пагрозліва, пякуча зумкаюць, уюцца нябачныя пчолы. Каля будкі паскавытвае час ад часу, а то і гаўкне ад назолаў-мух сякі-такі Шарык ці Мурза.

Ледзь-ледзь сакоча недзе, у сонечнай млявасці, самая гаваркая курыца.

Вакол сялібы дазорам стаяць векавыя дубы.

Праз зараснік прабіраецца чыстая рачулка, нагадваючы мне памятныя са школы радкі.

Стары калгаснік, што рысамі твару і нетаропкай хадой вельмі падобны да незабыўнага чалавека, лёгка ідзе па рыплівых маснічынах нізкага мосціка, схіляецца і, чарпануўшы крынічнай вады, спыніўшы трохі звонкага бегу яе ў бляшаным кубку, гаворыць:

— Частуйцеся, калі ласка. Костусь, бывала, любіў...

Не, гэта не звычайная крынічная вада, не звычайная леснікова сяліба, не звычайны наш верасьнёвы залаталісты лес.

У гэтай хаце прайшло маленства паэта. Па гэтай траве пад дубамі, па пясчанай дарозе, па грыбных верасах хадзілі яго парэпаныя ножкі. У гэтым вось сумным акне асеннімі ды зімовымі вечарамі ныў агеньчык газоўкі, пакуль па першых у жыцці старонках бегалі яго захопленыя вочы. Можа, якраз над гэтай крыніцай, у зялёнай загадкавай засені дрэў нараджаўся той першы наіўны вершык, за які яму бацька-ляснік адмераў авансам важкі ганарар — цяжкай службай здабыты царскі рубель.

А вось гэты стары, усё яшчэ нястомны, лёгкі, ветлы чалавек — малодшы брат стваральніка «Новай зямлі», дзядзька Юзік, выдатны знаўца і дэкламатар братавай паэзіі, жывы персанаж нашай нацыянальнай эпапеі,— той самы «Юзік-шаляніца», што хадзіў тут, па ўвекавечаным Костусем свеце, вельмі надзейна трымаючыся за доўгі падол матчынай шарачковай спадніцы.

Стаяць дазорам дубы. Маўчаць — у магутнай, надоўга разлічанай стрыманасці.

Над кронай аднаго, у вышыні — белае воблака ў сонцы. Як летам.

Па-маладому не верыцца, радасна, дзіўна ад думкі, што іменна пра гэтую мясціну ён пісаў за кратамі турмы: «Мой родны кут...»

Наш родны кут — так будзе дакладней.

*1961*

# «НЕ ХАЧУ Я НА ІХ І ГЛЯДЗЕЦЬ...»

Да гэтай тэмы цяжка знайсці падыход, цяжка падняць і перадаць другім той жах і боль ад неймавернай нізасці, да якое даходзіць — і гэта найстрашнейшае — звычайны чалавек...

Сядзеў на працэсе над былымі карнікамі, тымі з нашых людзей, што ў пачатку вайны папераходзілі на службу да фашыстаў. Сядзеў я ў першым радзе, з самага краю ад загародкі для падсудных. Глядзеў у іхнія твары з адлегласці трох-чатырох метраў. Калі адзін з іх, стоячы за трыбунай, сведчыў супраць другіх, мне было відно, як пад яго старым пінжаком дрыжэлі са страху худыя лапаткі. Углядаючыся ў твары, я асабліва здзіўляўся з румянага, лысаватага, паўнаватага спакойнай сытасцю мужчыны, найбольш як быццам прыстойнага ды пачцівага на выгляд. Пятнаццаць год пасля вайны ён працаваў недзе на Павалжы настаўнікам пачатковай школы, тысячы дзён, мільёны мінут углядаўся ў дзіцячыя вочы за партамі і не выбухнуў, не разарваўся ад успамінаў пра тых дзяцей, якіх забіваў — днём і ноччу, улетку і зімой, пра лямант іх матак, таксама перадсмяротны!..

Той, у якога дрыжэлі лапаткі, сведчыў пакуль што свабодны, яго адкапалі найпазней, дзесьці ў нетрах Палтаўшчыны. Як ён ні намагаўся выгарадзіць сябе і, для сябе ж, прыглушыць віну свае кампаніі, ён, аднак, сведчыў супраць тых, за перагародкай. А яны агрызаліся. І вось, калі ў гэтай, агіднай па-звярынаму грызні, абмежаванай толькі страхам і асцярожнасцю, пачулася адзін раз хлёсткая рэпліка — мне стала страшна...

Страшна і горка ад таго, што сёння, восенню шэсцьдзесят першага года, у перапоўненым клубе многія з тых, што прыйшлі сюды па запрашальных білетах,— раптам весела запляскалі ў далоні...

Чаго тут больш — ідыятызму ці бяздумнасці?

Вось дзве старонкі жаху, што не маюць права адысці ў нябыт, словы тых, што цудам выжылі:

— Усе мы ляжым, пастраляныя, а я — жывая — ляжу з усімі і чую ўсё. Хлопчык мой з-паміж трупаў устаў ды гукае: «Мамка, ідзі, ужо немцы пайшлі!» Яны яго адтуль, дзе ўжо былі адышліся, застрэлілі з аўтамата. Устала я пасля, дзетак сваіх пазбірала на дзяругу, параўняла роўненька, абцёрла кроў... Потым ужо, калі нашы прыйшлі, напісаў мне мой чалавек: «Ці жывыя вы там?» А я яму напісала: «Ці патрэбна я табе цяпер — адна ды такая!» А ён піша: «Я яшчэ і не такое бачыў. Я і сам інвалід, без нагі». Вярнуўся ён, і дзетак трое мы нажылі...

На трыбуне другая жанчына.

— Немцы нейкія, ці, ліха іх душу ведае, хто яны, укінулі мяне ў агонь, калі хата гарэла. Засланіла я твар рукамі і перабегла...

Гаворыць гэта ўжо старая сёння бабуля з тварам, абпаленым у тым агні.

— Дзеці малыя цалавалі гэтым немцам ці паліцаям ногі: «Дзядзечка, татачка, не страляйце мяне!..» А яны стралялі.

На прапанову старшыні суда — паглядзець на падсудных: можа каторы ёй прыпомніцца, старая не павярнула нават у той бок галавы:

— Хай яны на свет не глядзяць! Не хачу я на іх і глядзець!..

*1961*

# АМУР

За вялікімі шыбамі параходнага салона — сонца, амурскія хвалі і сопкі, якія і нам, навічкам, ужо здаюцца аднастайна экзатычнымі. Зблізку яны шэрыя сваёй камяністасцю і жыва — проста, здаецца, адчуваеш яе — парослыя зелянінай, вечнай і некранутай. Здалёк — чым далей, тым больш засмужаныя.

Зрэдку трапляюцца вёскі, каля якіх наш «Калінін» паволі, грунтоўна становіцца на якар і спускае шлюпку.

Ноччу гэта было цікава. Святло пражэктара паўзало па шэрым беразе, па шэрых, крытых драніцай хатах, па шумным натоўпе дарослых і дзяцей, што беглі да прычала. Якая навíна!.. Ад парахода да парахода — вось і жывая сувязь са светам. У крузе пражэктарнага святла — усхваляваная чародка людзей; над імі — былінны, васняцоўскі месяц; да іх ад борта парахода паўзе поўная шлюпка. Звычайна, нудна, усюды адну і тую ж польку рыпае прывітальна мясцовы гармонік. З лодкі высядаюць мамы, таты, сёстры, браты і дзеці, што вярнуліся з далёкага Камсамольска, з гарадскімі пакупкамі...

А навокал — тайга. На многія сотні кіламетраў. Ужо не толькі ведаю гэта з чужых слоў, але ж і адчуваю...

Сумна тут жыць?

А што я думаў часамі ў родных мясцінах, праязджаючы каля самотнага хутарка? Вярнуцца з горада, ад вялікай культуры — у такую хатку?.. Нават у родную вёску, з яе непралазнай восеньскай гразёй, з адчайна сумнымі вечарамі?.. Гэта парой здавалася немагчымым, як немагчыма пеўню вярнуцца ў яйка.

Аднак жа мне не толькі ў гады маладосці было там не сумна: і цяпер мне часта хочацца ўцячы туды, і ўцякаю,— каб палячыцца зямлёй, цішынёй...

Успамінаю пакінуты Камсамольск. Нуднаваты Бабруйск на вялізнай раўніне, паміж далёкімі сопкамі, на беразе ракі, шырынёй — не верыцца! — сем кіламетраў. Было сумнавата часамі, у пыльнай і суровай аднастайнасці, было б яшчэ сумней, каб не сустрэчы.

Добра было з чытачамі-студэнтамі ў адной з гарадскіх бібліятэк. Яшчэ цікавей — з рабочымі «Амурсталі». Каля іх вогненна-велічных мартэнаў, у ленінскім кутку, за гасцінным сталом. У маладзёжных інтэрнатах неяк вельмі ж па-свойску лёгка было і расказваць пра Беларусь, пра нашу культуру, і чытаць сваё, калісьці, у адзіноце, народжанае натхнёным болем і шчасцем...

На амурскіх выспах расце высокі зблізку тальнік і радасна рассцілаюцца пляжныя пяскі.

Пазаўчора мы здорава адпачывалі на адной з такіх выспаў, гасцюючы ў мілай беларуска-ўкраінскай сям'і. З юшкай, чаркай, купаннем і беганінай. З вогнішчам і песнямі — увечары, калі мы чакалі кацера, што спазняўся.

З тальніка капала — нібы вось-вось пачнецца дождж. Амур заціх магутнай цішынёй. А на тым беразе ўспыхнула, нам у падтрымку, другое вогнішча. Відаць, рыбацкае: заўтра нядзеля. Сіпла, прапітым басам рыкаў з таго боку, з далёкага статка бугай. Пясок, з якога сышла вада, разрысаваны быў хвалямі на дзіва аднолькавым, рытмічным узорам...

У вячэрняй халаднаватай свежасці, на кацеры, які забраў нас нарэшце з вострава, па-хатняму люба было выпіць далёкаўсходняга сырадою, пастаяўшы ў чарзе да бітона за белагаловым беларуска-ўкраінскім хлопчыкам, што ўжо закончыў першы клас і добра іграе на скрыпцы. Між іншых — і татаву родную «Перапёлачку»...

Што да прыгажосці прыроды, дык і тут, на параходзе, мне даволі часта ўспамінаецца Чэхаў. Асабліва на захадзе сонца і зорнай ноччу. «Апісаць гэтую прыгажосць я ніяк не магу, я прызнаю сябе жабраком...»

*1962*

# ВІЦЯ

Пішу ў кубрыку кацера, на раскалыханай штормам Татарскай пратоцы.

Маладзенькі матрос Віця расказваў мне сёе-тое з жыцця свайго ніўхскага народа. Нібы дапаўняючы тое, што я назіраў тут сам,— на рыбацкіх заездках, у пасёлку, у Нікалаеўскім краязнаўчым музеі. Сімпатычны дзяцюк, акуратны, з харошай усмешкай.

— Мая матуля кажа мне... Я вось ужо хутка пяць год карміцель у сям'і. Мне — не семнаццаць, як вам здалося, а дваццаць першы. Прабачце, я не сказаў вам, што я ўжо жанаты, што ў нас ужо хлопчык, сем месяцаў... Мая жонка — настаўніца з Сахаліна, таксама ніўхка, але гаворыць яна трошкі інакш, чым мы амурскія ніўхі...

Слухаючы, любуюся ім, разумным і чыстым. Успамінаю ўчарашнюю гутарку з прафесарам-медыкам, высакародным і простым рускім старым, што паспяхова змагаецца з касцявым туберкулёзам у ніўхскіх дзяцей.

Неяк па-новаму тут успрымаецца наша роўнасць людзей і народаў,— якой яна павінна быць.

*1962*

# БІРАБІДЖАН

Пасля купання ў маляўнічай, раскошнай Біры, за якою, пад самымі спякотна-зялёнымі сопкамі, здорава адгукаецца рэха, мы паехалі ў піянерскі лагер.

Акунуліся ў цудоўны свет усюды любых — куды там кветкі! — дзяцей. Выступалі перад імі. І зноў шкадаваў, што не пішу, што так мала пісаў для малых. Хадзілі лугам да возера, дзе мноства абшарпаных хлопчыкаў і акуратных дзяўчатак наперабой даставалі нам з вады, на ўспамін, калючыя вадзяныя арэхі і ракушкі.

Пацешная наіўнасць!.. Хлапчук, які сядзеў побач са мной, пакуль мы выступалі, усё абмацваў мяне сваёй увагай, як чужаземца, і нарэшце не вытрываў, спытаў шэптам:

— Дядя, а цифры на ваших часах — белорусские?..

Далёка ўсё-такі з нашага Усходу на Захад!

Потым абедалі ў лагернай сталоўцы, елі гарачы флоцкі боршч, рысавую кашу з качкай, пілі кампот. Гарачыня, гасцінна вялізныя порцыі. Я прасіўся ў дзяжурнага, што не з'ем. І ён — «любімец усяго лагера», маленькі, рабенькі Фімка ў белым фартушку — паблажліва, сур'ёзна паляпваў мяне па плячы і падбадзёрваў:

— Ешьте, ешьте, дядя, ничего!..

Здымаліся з дзецьмі.

І Фімка Месамед, пры ўсёй сваёй сур'ёзнасці, не пярэчыў, калі я, пад агульны смех адабрэння, узяў яго, гаспадара,— «Я перешел в четвертый класс» — на рукі.

*1962*

# ВОЛГА ЎПАДАЕ...

Пасля двух маскоўскіх дзён, спякотных і мітуслівых, учора быў першы волжскі дзень. Цудоўны!..

Увечары пісаць не змог — стома такая ці нават лянота, але не прымушаў сябе, а толькі для памяці занатаваў у блакноце галоўнае, што трэба расшыфраваць.

Устаў у шэсць гадзін. Не рана. Волга даўно жыве не ноччу, а днём, дзённым жыццём — у сонцы і імгле над правым берагам. Стары, чорнабароды матрос нячутна драіць і так блакітнавата-чысценькую палубу — чуваць толькі час ад часу патрэбны яму шумок вады з крана.

Зноў заходзіў у маскоўскі дом Талстога. Усё — як усё, а хваляваўся, ціха стоячы перад парожкам зацягнутых шнурком дзвярэй у нізкі, белы кабінет Льва Мікалаевіча... Той стол з маленькімі парэнчамі, што так знаёмы мне з юначых дзён па рэпрадукцыі з партрэта Ге. Наіўная, як быццам маладая думка: можа і я за гэтым сталом напісаў бы што-небудзь добрае... У цяністым садзе, дзе духмень канчалася для нас набліжэннем навальніцы, гаварылі з Валодзем [1] пра тое, як Ён любіў жыццё, як увесь час намагаўся яго пазнаваць. Трэба будзе перачытаць «Дык што ж нам рабіць?», па чым я калісьці вучыўся жыць, пазнаваў Маскву, Расію... Дзіўна цяпер успамінаецца той час, той астравок жыцця, той мех, як гаварылася, у якім мы сядзелі, ізаляваныя панамі ад вялікага свету.

Пра гэта думаў і ўчора, на Волзе.

Седзячы ў сваёй Заходняй, я любіў Расію па кні-

[1] Пісьменнік Ул. Калеснік.

гах. Слухаў песні і гутаркі бывалых мужчын, што ў салдатах ці ў заработках бачылі вось такое. Бязмежную Волгу, белых чаек на фоне сасновага берага, ружова-фіялетавую ваду на захадзе сонца і трохі пазней, зноў жа чаек — ужо на вадзе, аціхлых, мусіць, як і належыцца, стомленых...

Толькі вёскі, ад Дубны да Угліча, шэрыя, сумныя. Відаць, небагата жывецца... Думаецца, што́ можна было б зрабіць з гэтай зямлі... А на каналах, на шлюзах — прыемна відаць, што́ ўжо зроблена.

Светла, яскрава ружовыя буі пагойдваюцца на растрывожанай цеплаходам вадзе. Вельмі яны падобныя на танцоўшчыц у лёгка-доўгіх сарафанах.

Думаў пра Багдановіча. Жывучы ў такой вось надволжскай красе, хлопец пісаў пра сваю Беларусь, якую бачыў так мала!.. Ну што ж — ён, відаць, умеў бачыць так ярка, так многа, што яму і кароткіх паездак на бацькаўшчыну хапала.

Учора, на «зялёнай стаянцы», лежачы на ўзлеску, думаў:

Куды ні едзь — адно: неба, сосны, зеленавата-жаўтлявы лён... А потым успомніш, што за гэтым, вельмі звычайным лёнам — варта ўстаць ды зірнуць — распасціраецца Волга. А ў гэтым лесе затаіліся мядзведзі. Зноў вяртаецца радасць пазнавання.

Успомнілася песенька:

Ох, медведь ты, мой батюшка,
Ты не ешь мою коровушку...

Прыемна чамусьці ад думкі, што гэты «батюшка» — сталы і нібы нават жаданы госць у рускай народнай творчасці.

Амаль як Волга — «матушка»...

* * *

Дзіўнае, наіўна-радаснае адчуванне:

Тут, у гэтай мясціне, якую бачу ўпершыню, жыў калісьці той ці іншы, і мне вядомы, і мною любімы пісьменнік!.. Падумалася пра гэта ўпершыню так свежа каля Калязіна, звязанага з імёнамі Крылова і Шчадрына. У гэтым адкрыванні іх, любімых, на той

зямлі, якую ты пазнаеш,— своеасаблівая радасць. Тут важна, што ідзеш ад мясціны — да імені. Зноў і зноў адчуў я гэтую ціхую радасць каля гімназіі, дзе вучыўся Багдановіч, а потым каля някрасаўскай вёскі...

Учора ўранні, любуючыся ўсё новай ды новай Волгай, успомніў светлы малюнак ■ «Кажамякіна», што помніцца ад першага чытання — трыццаць пяць гадоў. Рыбак, пакупаўшыся, моліцца голы, на ўсход, дзе паказалася сонца. Калі спыталіся, чаму ён так — той слушна і вычарпальна сказаў: «Люблю!..»

І я вось гляджу, не магу наглядзецца — па такой жа прычыне.

У сонечным Яраслаўлі, пакуль мы, слухаючы экскурсаводку, стаялі перад старадаўняй царквой з молада-зялёнымі і шурпатымі, як ананасы, купаламі, злавіў ранейшую думку:

Руская песня, руская мова, руская культура наогул — вельмі на месцы дома... Каб я быў рускі, дык і не ішоў бы нікуды з вялікай Расіі, з вялікай рускай літаратуры — хапіла б мне і свайго.

Пазаўчора мы праходзілі пад мастом каля Угліча, і моладзь, што стаяла высока над намі, крычала: «Шчаслівага плавання!» Ім гэта не вельмі дорага каштавала, а нам было прыемна. Наогул, як ні многа па Волзе снуе белых прыгажуноў-цеплаходаў з турыстамі — з сустрэчных баркаў ды буксіраў, з прычалаў ды набярэжных людзі крычаць і махаюць нам рукамі — часта, і заўсёды прыязна. Сёння на шэрым буксіры, што валок, як мурашка, вялізную барку супраць вады, снедала за сталом сям'я. Бялізна матлялася на вяроўцы, дзеці махалі рукамі і штосьці крычалі, а бацька, белая, магутная спіна якога заслужана сагнулася над сталом, зняў кепку і, відаць, прызвычаена, але ж не з абавязку памахаў.

Шкілеты цэркваў на цудоўных берагах.

На адным з такіх берагоў мы спыніліся ўчора за гадзінку да захаду сонца. Пайшлі далёка па беразе, дзвюма сем'ямі, і паляжалі на старой, няскошанай духмянай траве, пад несціханы шчэбет беражанак і цісіканне конікаў, пад чароўнымі ад захаду сонца аблачынкамі — высока-высока над намі.

Міжволі захацелася спяваць — старыя волжскія песні. І прыкра стала, што вось плывём «вниз по ма-

тушке», столькі вясёлай моладзі, а спявае яна ўсялякую пацяруху. Абы сучасную, новую.

Цудоўны мой хлопчык куляўся на вялых пракосах, усмак, ад радасці рагочучы.

* * *

У Іпацьеўскім манастыры, ператвораным у цікавы музей, аглядаючы келы, ходзячы па сонечнай траве, пад белымі высокімі аблачынкамі і зіхатлівым золатам купалоў, зноў думаў пра Багдановіча — пра яго перапісчыка і летапісца...

Наіўна думалася, што і ён, Максім, калісьці тут хадзіў. Ну, а чаму наіўна?

Вялікае ўражанне робіць калекцыя матылёў. Асабліва — блакітныя, вялікія, як дзве разгорнутыя далоні. Як жа прыгожа яны выглядалі ў тропіках, над травой!..

Нешта чароўнае, не зусім усвядомленае, пра красу жыцця, красу казачнага палёту фантазіі, якая — радасна гэта ўсведамляць — не вельмі ўжо так і высока паднімаецца над рэчаіснасцю.

* * *

Расчуліў мяне, і не толькі мяне, малады чуваш, які многа і вельмі ахвотна расказваў нам пра свой народ, сваю рэспубліку, сваю «будучую Венецыю», якой Чэбаксары будуць «у недалёкай будучыні», калі ў ніжэйшыя кварталы горада ўкліняцца затокі новага, «найбольшага на Волзе» вадасховішча... Так і трэба любіць сваё!

Узварушлівая беднасць і, здаецца, дабрата. Жанчына ўступала мне месца ў аўтобусе і ледзь я весела адмовіўся. Мужчына, у якога спытаўся, дзе лепш выйсці, вельмі прыязна пагаварыў са мною. Чорныя анучы да каленяў — у вясковых цётак, што ходзяць па горадзе ў славутых чувашскіх лапцях, вялізныя карабы за плячыма. Як жа тут не расчуліцца ад наіўнай, дзіцячай радасці экскурсавода, таго самага юнака, які так рад, што яго народ ідзе ў лепшае заўтра? На кожным скрыжаванні даваў ён нам новы раздзел сваё гі-

сторыі, надзейна чапляючыся нават за тое, што Кацярына Вялікая «ў гэтым вось доме ела нашу сцерлядзь і вельмі яе пахваліла»...

* * *

Правым, ценевым бортам ідзём блізка ад крутога берага, слаёна-рознакаляровага знізу, зялёнага — вышэй. Татарскага.

Злева, на ўсходзе — зіхатлівая процьма вады.

Выходзячы з ценявога боку палубы на борт, трапіў пад пругкі сонечны вецер і, як той горкаўскі рыбак, захацеў памаліцца камусьці вялікаму: дай мне яшчэ пажыць, і я што-небудзь напішу, патрэбнае і добрае!..

Пазаўчора быў Горкі. Горад куды больш велічны і прыгожы, чым уяўлялася. Добра, што пазнаю Расію. Хоць і пазнавата крыху. Добра, што сын пазнае яе, можа, і не зарана: столькі ўражанняў на адзінаццаць год?..

«Домік Кашырына». Куфар пад маятнікам вялікага насценнага гадзінніка. Месца, дзе спаў маленькі Алёша. Падумалася там: а дзе ж выводзяцца, адкуль вылятаюць у свет буравеснікі?.. Успомнілася чамусьці мноства ластаўчыных гнёздаў на верандзе рачнога вакзала ў Хімках. І голуб над чорнымі, магутнымі варотамі шлюза, шэры голуб з саломінай у дзюбе, які знайшоў за верхнім кантам варот, у кутку, свой адзіны на свеце зацішак.

* * *

Упершыню так рана выйшаў на палубу — у чатыры ноль-ноль. Ды ўжо застаў некалькі... проста аматараў красы, не зацікаўленых прафесійна.

Справа па борту — Жыгулі. Пакрытыя лесам гарбы, пацягнутыя смугой. Лявей нашага курсу — сонца.

Сяджу ў музычным салоне: драіцца палуба, дый ветрана.

На рацэ — рыбацкія лодачкі, буксіры, цягнуць або папіхаюць павольныя ад бачнага і нябачнага цяжару баркі. Перад нашай «Кубанню» абмінаюцца два белыя, чысценькія цеплаходы. Ціхія, поўныя сонных людзей.

Фатаграфаваць не хочацца, як і раней. Не перадам я так усю такую вось красу...

Учора — высокі настрой у доме, у горадзе маленства і юнацтва Леніна. Чысты, сціплы, зайздросны арыстакратызм побыту і духа, і вельмі рускі, і агульначалавечы. На століку Марыі Аляксандраўны ляжаць тамы Шылера — у арыгінале. Еўропа ў родным доме. Не дзіва, што ён, Уладзімір Ільіч, адчуваў сябе чалавекам чалавецтва.

...Наша «Кубань» спынілася каля танкера пры беразе, запраўляецца. Ціхенька памармытвае ўнізе машыннае аддзяленне. Чуваць жыгулёўскія пеўні — з соннага пасёлка пад гарой.

Лягчэй за ўсё сказаць: «Я не знаходжу слоў...» Гара за акном, за вадой, за пасёлкам — нібы вялізная зялёная люстра, шырокім дном апушчаная на ўзвышша, утыканае карычнева-зялёнымі свечкамі соснаў, паміж якімі разліта зеляніна лісцяной, як адтуль здаецца, падсады. Падабенства не вельмі блізкае, асабліва таму, што суседнія горы — зусім не нагадваюць формай апушчаную люстру, а свечкамі ўтыканы таксама... Слоў не знаходжу, а трэба.

Над горамі — нізкае неба дробна забрукавана шэрымі калмыкаватымі хмаркамі, зрэдку прахуджанымі блакітам.

Горы — нібы застылі: не плывуць назад, чакаюць, пакуль мы заправімся.

* * *

Хмурны ранак. Стаянка на раўнінным, зялёным беразе.

Ад вялікай вады, па ўжо сухой пасля нядаўняга дажджу траве пайшлі мы спачатку ў лясок, адтуль — у стэп, па сцежках у траве някошанай, каля чароўных волжскіх старыцаў. Спакойная вада ў трыснягу і аеры, шмат падарожнікаў і нейкіх калючых, шэра-фіялетавых, ажно смугой пацягнутых кветак, нібыта не зямных, а з нейкай іншай планеты. Дубы. Пасохлыя дрэвы на беразе старыцаў. Мякка-шэрае, нізкае неба.

Надвор'е такое, калі працуецца добра, асабліва палазіўшы па вадзе, па балоце, а потым — прысеўшы да чыстай паперы, з душою, поўнай спакою і ўдзячнасці.

Хутка Саратаў.



Прачнуўся, зірнуў у акно — тая самая Волга: вада, і сонца, і зялёны бераг... Ужо не ўражае так, як спачатку. І натуральна гэта.

А ўсё ж яшчэ ўсё па-ранейшаму прыемна глядзець на плынь ды на зялёнае...

Запомняцца і прыволле саратаўскай Волгі, і чысценькі домік падзвіжніка Чарнышэўскага, і багатая галерэя — Паленаў, Рэрых, «Авель» дагэтуль невядомага Малашкіна: забіты юнак і крык устрывожанай над ім аўцы...

Запомняцца зялёна-квяцістыя дываны валгаградскіх бульвараў, хлопчыкі-піянеры, што каля Вечнага агню нясуць варту са зброяй тых, што тут калісьці загінулі; запомніцца наша начная праходка па горадзе і начная Волга, калі мы адчальвалі. Белы, суседні з намі цеплаход, вокны якога, нібыта ячэйкі вашчыны мёдам, насычаны залацістым святлом, паволі разварочваў ад прычала пад яшчэ і яшчэ раз чароўны, усюды да месца, усюды свой паланез Агінскага...

Валгаград не зрабіў такога ўражання, як, скажам, Яраслаўль, Горкі, Ульянаўск,— пачуцці ўжо не першыя, бачыў яго раней. Дый Мамаеў курган, патрыятычна апрацаваны Вучэцічам — асабліва скульптура з мечам,— уражання вялікага не робіць. Куды больш, з новай сілай пасля першага агляду, хвалявала думка пра тое, якая вузкая палоска зямлі заставалася на беразе гэтага страшнага сусветна-гістарычнага Рубікона, які сапраўдны цуд адбыўся ў гэтым месцы!..

Хутка будзе вялікая «зялёная стаянка». Удосталь хочацца іспіць шаломам Волгі.



Пасля раскошнага купання ў чыстай, быстрай і цёплай вадзе, пасля гарачага пяску і мяккага цянёчку ішоў па беражку, дзе сутыкаюцца цвёрда пакарабачаны хвалямі пясок пад вадой і пясок на беразе, да свежабетоннага глянцу апрацаваны наплывамі хваль, якія часта растрывожваюцца цеплаходамі, «ракетамі», буксірамі...

Радасць — не па ўзросту, амаль дзіцячая.

* * *

Адзін вялікі аптыміст, смехам адмахваючыся ад бяды, гаварыў калісьці: «Ем ваду, п'ю ваду, умываюся і разліваю!..»

А я яшчэ ў гэтай вадзе і купаюся. Не толькі плаваю, але і, стоячы з вудай, не выпускаючы яе з рукі, акунаюся па шыю, а тады шчасліва абсыхаю на лагодным сонейку, зацягнутым вельмі ж адмысловай паваловай.

На паплавок асаблівай надзеі няма. Проста ён сабе тырчыць белым задком з вады, пагойдваецца на вадзе, а я гляджу на яго, то губляючы ў бляску, то зноў знаходзячы злёгку прыплюшчанымі вачыма. Ногі ў вадзе нібы шукаюць дна, гразнучы ў дробненькай кашы рухавай, казытлівай жарствы.

Пройдзе белы, святочны цеплаход, пройдзе шэры рабацяга буксір, з вялізнай баркай, другі — з дзвюма сашчэпленымі баркамі, трэці — з плытамі. Пройдзе, і ты забудзешся, што ён прайшоў: не першы і не апошні. Ды вось — нібы нечакана — на бераг коцяцца хвалі. Дзесьці там, на фарватэры, разгайданыя. Накатам — каля самага берага шумным, вясёлым, а то, ад сілы, злосным, пеністым.

Прыемна было пачуць з буксіра радыё: на волжскай прасторы — «музыка літоўскай вёскі»...

На дрэвах журботна, нават з нейкім сентыментальным надрывам канючаць арланы. Нагадваецца то далёкае ржанне, то ненатуральна тонкі, пісклявы голас здаравеннага мужчыны.

Цяпер іх над намі сабралася асабліва шмат. Пікіруюць, як бамбавозы, і хапаюць рыбу. Адзін расправуляўся са здабычай на ляту, клюючы тое, што ў лапах.

Чайкі, як і цеплаходы, па-святочнаму белыя, чыстыя.

Вароны — у цяжкіх чорна-шэрых сярмягах. Лятаюць, разявіўшыся ад спякоты, ходзяць па беразе, чакаючы, што бог пашле, грузна садзяцца на тонкае голле зарасніку, дзе і арланы сядзяць часамі, не вельмі баючыся нас.

Учора быў цяжкі, спякотны дзень у Астрахані. Цяпер стаім, дзе пазаўчора стаялі — кіламетраў на дзвесце вышэй.

Уранні, свежы пасля зарадкі і добрага сну, доўга хадзіў па сонечнай палубе. Пісаць не хацелася. Цяпер — таксама не вельмі тыя словы, якімі можна добра перадаць такую прыгажосць, такое шчасце — жыць.

Ды вось пішу пры лямпе, спачатку пад шум развітання з цеплаходам, што швартаваўся разам з намі, цяпер — зноў пад шум хваль і падзёўбванне дожджыку па тэнце над палубай, з высокім абрывістым берагам перад апушчаным акном.

* * *

Прысеў на кручы з арлінымаглядам, метраў з трыста над Волгай.

Сонца, вецер, пахі сухой травы. Нізка на захадзе — рака. На поўдні — затока, дзе бялее наша «Кубань». На ўсходзе — лес: у лісцяную, святлейшую, зеляніну ўкрапаны цёмныя елкі. Часта тырчаць сухія сосны — шэра-срабрыстыя, акораныя да апошняга сучка, абветраныя да ртутнага бляску, прыгожыя надзвычайна.

Пакуль мы ўздымаліся на кручу, думаў, як мне, з чаго мне пачаць запіс пра новую прыгажосць?.. Думаў вяла і безнадзейна,— пакуль не спусціўся трохі са сцежкі пад травяную кручу, пакуль не стаў у бярозках, ды на адной з гэтых мілых накольніц не ўбачыў — на цёпла, някранута чыстай, у рэдкую кропачку бяросце — поўзаюць божыя кароўкі. І па бяросце і па моцных, усімі вятрамі абветраных лісточках. Казачны мікрасвет над сонечна-зялёна-блакітнай бездданню.

І мне, маломy ў такой прасторы, лёгка стала адштурхнуцца ад гэтага мікрасвету — сесці і выняць блакнот.

Над кручай, дзе мы толькі што былі, раскошна, ленасна плануюць арлы — не вельмі і вышэй за нас. Ужо не першы раз так весела пашкадаваў, чаму ў мяне, чалавека, няма крылляў, каб палятаць, пакружыцца і зноў асесці на сваё месца.

Хадзем ніжэй.

Над абрывам, зноў у бярозках, зноў стаяць шэра-срабрыстыя голыя сосны. Лапы ялін у бярозавым гушчары ўпершыню здаліся воку мяккімі, як аксаміт.

На крутых сцежках шмат плоскага камення-вапняку. У траве, дзе кветкі, матылі, сунічнік,— гэтыя вапнякі затаіліся, як сухія каровіны ляпёшкі на вытаўчанай пашы.

Дубкі невялікія. Ліпы з чырванавата-карычневай карой, таксама няпрослыя. Нейкі ягаднік, большы за наш бруснічнік. Трава мятлічка. Многа кашкі. З маленства мілыя мне кветкі падарожніка. Рады быў калісьці, на ўроку прыроды, даведацца, што з карэння іх робіцца смачная кава. І паспытаў яе ў тую восень. Уецца ружавата-белая бярозка.

Зверху наш цеплаход — усімі сваімі палубамі, рубкамі, каютамі, салонамі, дызелямі, мачтамі — выглядае белай ракавінкай, што нават здаецца, пабліскае перламутрам.

У гэтую сонечную прыгажосць мы вынырнулі з сутачнага, здавалася, што беспрасветнага дажджу. Радасць узмоцнена такім кантрастам.

...Гара, на якой мы былі, называецца, як паведаміў капітан, Маладзецкім курганам. А хтосьці проста казаў: Жыгуліха.

* * *

Гляджу Волгу — як грандыёзную кінакарціну.

То буйным планам — са шлюпачнай палубы, з носа, з кармы; то з берага на «зялёных стаянках», часамі нават вельмі высокага; то з вады, у якой стаю з вудай ці плаваю ў вясёлай грамадзе...

Цяпер гляджу з каюты, бо холадна.

Бераг і рака праплываюць у рамцы акна бясконцымі кадрамі. Чырвоны глiністы абрыў; лес, які здалёк здаецца зараснікам; пусты пясчана-камяністы пляж ці, лепш сказаць, тое, што можа быць і зрэдку бывае пляжам; пустая лодка на алавяна-дрыготкай вадзе; лодка з чалавекам, які хоча злавіць рыбіну... Толькі ўсё хоча ды хоча, ні разу не ўбачыш, як цягне...

А потым у рамцы з'яўляецца штосьці незвычайнае,— скажам, які-небудзь Макар'еўскі манастыр!..

Зноў «уключаеш панараму» — бяжыш на палубу. Ці так сабе, ці з фотаапаратам.

* * *

Калі я, прачнуўшыся, апусціў жалюзі,— сонца якраз выплывала з-за нізкага далягляду.

Ідзём на Горкі. Высокія лясныя берагі, рака — натуральная, без паднятай вады, з частымі і вялікімі водмелямі, з выкручастым фарватэрам. Грэемся, нешматлікія актывісты, седзячы на карме, якую асвятляе да зіхацення вясёлае сонца.

Учора ў Казані майго малога найбольш уразіла двухдзённае медзведзяня ў музеі: «Не мог нават уявіць, што мядзведзі такія маленькія родзяцца!..»

А мне найбольш, відаць, запомніцца тое акно, з якога студэнт Талстой убачыў, як салдата гналі скрозь строй. «Гэта легла пазней,— расказваў нам талковы і вясёлы студэнт-татарын, экскурсавод,— у аснову апавядання «Пасля балю». Ярка і радасна ўявіў, як гэта блізка не толькі рускаму, не толькі мне, беларусу, але і японцу, і англічаніну, і ўсім на ўсім свеце, дзе ведаюць, а значыцца, і любяць Талстога, а значыцца — любяць дабро, прыгажосць.

Запомніцца яшчэ пякарня, дзе гнуўся над скрыняй, месячы цеста, гнуўся, ходзячы пад скляпеннямі, гнуўся, лезучы спаць пад сталом,— Максім Горкі.

Запомніцца і аўдыторыя, дзе захаваліся парта, дошка і вокны,— тое, што бачылі быстрыя вочы юнага Леніна.

Запомніцца і ўся Казань — светлы, зялёны горад, авеяны прысутнасцю вялікіх.

* * *

Шэра-зялёны вячэрні спакой. Шэрае неба. Шэрая Волга.

Злева — зеляніна далейшага берага, да шэрасці пацягнутая смугой. Справа яна бліжэй і выразней. Пясчаная каса таксама пашарэлая — ад наблізкэння змроку і дажджавога церушэння.

За белай металічнай сеткай палубнай абгароджы, за кармой нястомна пеніцца, шуміць шырокая паласа, кладзецца свежасцю, нібыта белая ралля за небывала вялікім трактарам.

Ляцелі трохі чайкі за намі, потым адсталі — на адпачын.

Шэра-зялёны, штораз, то ўсё шарэйшы, на ўсю душу глыбокі спакой.

Успомнілася, як дваццаць год таму назад, у Таджыкістане, у вестыбюлі нейкага багатага гмаху, за круглым столікам у зацішным, утульным кутку я апынуўся ўдвух з Садрыдзінам Айні.

Я тады яшчэ не ведаў яго, нават па творчасці. Але стары імпанаваў мне сваёй мудрай прастатой, быў нават нечым падобны да бога мае маладосці Талстога... Скажам, двухколачкай і вослікам — замест шыкоўнага аўтамабіля, падараванага ўрадам, простымі ботамі, недарагім касцюмам, сівізною пад цюбецейкай.

На стале перад намі было вінаградна-яблычна-гранатавае вогнішча. А мы маўчалі. Я — збянтэжана, а ён або мудра, або па маўклівасці. Казалі, што ён не вельмі моцны ў рускай мове. Маўчыць стары і добра так, прыязна пазглядае. А потым яшчэ і руку на маё запясце палажыў. Усміхнуўся і ціха сказаў:

«Ха-ра-сё!»

Калі мы з Валодзем маўчалі, заглядзеўшыся з кармы на шэра-зялёны спакой, я расказаў яму пра Айні, паўтарыў тое слова, і мы прынялі яго — як сваё:

Ха-ра-сё!..

*1967*

# З КУПАЛІХАЙ

Калі б я аднойчы ўранні прачнуўся і раптам паверыў, што яна жывая,— я пагаліўся б чыста, надзеў бы беленькую кашулю і, адклаўшы ўсякія працы ды справы, пайшоў бы сказаць:

«Добрай раніцы, мілая цётка Уладзя!..»

Высакародны быў чалавек. Мітуслівая, гаваркая, вясёлая, часамі цяжкая, як гаворыцца, характарам, але асабліва з дыстанцыі часу — харошая.

Часта мне ўспамінаецца адна паездка з ёю. У калгас імя Купалы, каля Маладзечна.

Быў чэрвень у самым сонечным росквіце. У дарозе мы — тры літаратары, тады яшчэ маладыя, наша цудоўная гаспадыня і шафёр — перакусвалі ў буйнай траве пад бярозкамі, смачна і весела. Потым, у вёсцы, прыехаўшы ранавата, чакалі, каб звечарэла.

Купаліха пайшла кудысьці, шафёр прыдрамнуў у зацішку, а мы прыпыніліся ўтрох на ганку клуба, у цяньку. Ці то гаворачы пра штосьці блізкае, ці так сабе, у прыемным маўчанні,— помніцца толькі добры, ціхі настрой.

Ды вось аднекуль, нібыта з неба, з'явіўся ўпаўнаважаны. Рыжы і трохі чырванаваты — ад «мухі».

— Чыя машына? — спытаўся ён грозна, нават не павітаўшыся.

Двух нас было, можна сказаць, здаравенных — адзін сядзеў на прыступку, а другі ўзвышаўся амаль да самага капяжу. Трэці таварыш быў маленькі, даволі мізэрны, але ж з таямнічым, сурова засяроджаным выразам твару.

— Мне патрэбна машына! Гэта чыя?

— Наша,— сказаў я.

— Вы што — па выбарах?

Якраз выбіраліся суддзі і засядацелі.

— Не.

— Па дзяржаўнай пазыцы?

Быў пяцьдзесят чацвёрты год.

— Таксама не.

— Хто ж вы тады? Чыя машына, я пытаюся?

Зусім спакойна, як гэты вечар вясковы, я растлумачыў:

— Гэта машына ўдавы Янкі Купалы.

— Ну, добра — яна ўдава, а вы хто?

Тады я, нібы па натхненню, шапнуў яму — з належнай таямнічасцю, на паўгубы:

— Мы — а-са-бі-ста-я а-хо-ва.

Упаўнаважаны імгненна лузгануўся ўгару, на «смірна», казырнуў і гаркнуў:

— Здраўя жалаю!

Мы прынялі яго пашану моўчкі, з належным спакоем і годнасцю.

Грозны таварыш стушаваўся, як мне помніцца, хутка, нават адразу.

Пазней, на прыцемку, у душным перапоўненым клубе быў літаратурны вечар. Мы выступалі ахвотна, нас добра слухалі, асабліва, вядома, Купаліху. Потым, у школе, настаўнікі частавалі нас шумнай вячэрай. Пасля застолля мы ўсе вялікай кампаніяй вярнуліся ў клуб на танцы.

Ох, як нястомна танцуюць нашы дзяўчаты! Выбегуць да студні, панапіваюцца з вядра халодненькай, пасяваюць ці парагочуць на зоркі, трохі прасохнуць ад начное свежасці і — зноў пайшлі, полька ці кракавяк — відаць, на цэлыя паўгадзіны!..

Мы, як баяры, сядзелі на лаве, сумнавата адчуваючы, што ўжо не для нас такая нястомнасць. Цётка Уладзя то любавалася танцамі, то зноў сарамаціла нас:

— Сядзіце, таўкачы!..

Потым — нібыта з яснага неба — зноў з'явіўся ўпаўнаважаны. Чырвань яго была ўжо куды гусцейшая.

Ён падышоў да шаноўнае госці, галантна казырнуў, нахіліўся і гаркнуў:

— Факстроцік не жалаеце?

Бачу і сёння, як яна дабрадушна смяецца — паўнатварая, у сваім нязменным чорным берэце. Смяецца молада. Рукой, па праву старасці, махнула перад ім: ды што ты, чалавеча,— нездароў?..

Танцы змяняліся танцамі. Перапынкі шумелі смехам ды песнямі.

Упаўнаважаны то прападаў, то з'яўляўся.

З'явіўшыся, ён зноў падыходзіў і казыраў:

— Факстроцік не жалаеце?

За трэцім разам цётка Уладзя, як толькі кавалер зноў павярнуўся, каб знікнуць, сказала — па-свойму непасрэдна, галасна, праз малады, сардэчны смех:

— Ой, хлопчыкі... Калі мы з Янкам у Вільні жылі, быў там... ой, такі ж такусенькі дурны акалодачны надзірацель!..

*1967*

# «ЯК САМ ВЕДАЕШ»

Памёр ужо даўно не толькі цесць, васьмідзесяцігадовы дзед Сцяпан, але і зяць, няўдаліца-каваль Мікола. А вершык, складзены цесцем пра зяця, жыве і ходзіць па навакольных вёсках.

Цяжка соп Мікалай,
аж гудзела гарно,
майстраваў, майстраваў,
ну, а выйшла г...

Няхітры вершык, але часта прыдаецца...

Адзін дзедаў пляменнік «выбіўся ў людзі» — служыў аконамам у князя Мірскага. Князь — князем, а рухавы аконам і сам неўзабаве добра-такі апанеў. Але старога дзядзьку сяды-тады ў госці, у свой маёнтачак, клікаў.

Неяк дзед тыцкаў, тыцкаў па талерцы відкай, а потым палажыў яе і ўзяў тое мяса рукою.

— Вы, дзед, калі-небудзь елі з панамі? — спытаўся адзін з далікатных гасцей.

— Не, як сам ведаеш, ніколі.

— А са свіннямі?

— Ды сёння во тым часам першы раз.

Другім разам ён ужо сам зачапіўся [illegible] адным.

— Чаму гэта, пане, вашы каляды на два дні раней за нашы, праваслаўныя?

— Бо паны, як людзі выкшталцоныя, раней пачулі, што нарадзіўся пан Езус.

— Хм, як сам ведаеш! А я ж у Бібліі чытаў, што першыя пра гэта пастухі пачулі. Няўжо ж гэта панства тады само свіней сваіх пасвіла?

Біблію дзед чытаў. Нават і свіней пасучы. Часта і засынаў, палажыўшы галаву на тоўсты і рыхлы ад

старасці фаліянт. А потым расказваў суседкам, як гэта цар Давід — у «Трэцяй кнізе царстваў» — састарэў, і ўжо ніякая, як сам ведаеш, адзёжа не грэла яго, дык тады сабраліся старэйшыны, увесь кагал, і прысудзілі яму, сястрыцы мае, маладую, цёплую бабу.

Суседкі пляваліся, не верачы, што так ды можа быць напісана ў святой кнізе.

А дзед пагладжваў бараду і пасміхаўся:

— Такое, як сам ведаеш, і мне было б непаўрэчы!..

*1967*

# ПЕСНЯ

На вялікай лясной паляне варушыцца ад нізавога ветрыку мятлічка, грэюцца ў сонцы пабрыджаныя нейкай траўкай плешыны, густа лезуць з зямлі маленькія сасоначкі. Самасейкі.

Далей ідзе шорстка-зялёная сцяна сасновага падлеску, а над ім — заўсёды непаўторна прыгожая разгалістая сасна. Адна ў сваёй медна-зялёнай, нібыта бясформеннай на свабодзе, нястромкай красе.

Сасна — на фоне вечнага, чыстага блакіту, і хвалююча беласнежных аблокаў. Яны мяняюць свае формы і плывуць да сцішнаты захаплення бязгучна, пяшчотна і велічна. Нічые і агульныя. Колькі я бачыў іх зверху, над колькімі землямі і марамі!..

Каля танцавальнай пляцоўкі калгаснага дома адпачынку на сівых лавах сядзяць сапрана, альты, тэнары і басы — дзяўчаты, маладзіцы, дзецюкі і мужчыны мясцовага самадзейнага хору. Прыехалі грузавіком на рэпетыцыю. Цікава было б апісаць іх кожнага, з іхнім руплівым і энергічным кіраўніком. Ды я хачу не пра гэта.

Я — пра тое, што зноў вось ажыло ў душы, тузанула яе тым пачуццём, якое я так даўно і так пакутліва-шчасліва намагаюся злавіць і перадаць...

Група сапрана — некалькі дзяўчат, і школьніц яшчэ, і ўжо работніц на полі, на фермах — нібы махнула белым крылом — пяшчотнай купальскаю песняй:

Ой, рана, на Йвана...

Наша, наша яна — як рыжая мятліца, як звычайна-цудоўная сасна. Яе мы, пяшчотную песню, пры дапамозе празаічнай тэхнікі кінем туды, у блакіт, пад аблокі, адкуль наша слова і наша сэрца зловяць усюды, на ўсёй зямлі.

*1968*

# ЦІШЫНЯ

Шызы мох мерна хрумсціць пад тоўста-мяккімі падэшвамі, і час ад часу хрупаюць пустыя, натапыраныя сасновыя шышкі.

Шум ходзіць паверсе. Унізе і ў ветраны дзень цішыня. Там, дзе гушчар.

У рэдкім лесе сосны разрастаюцца букетамі. І ядловец не толькі па-кіпарыснаму стройны, але яшчэ і разбукечаны, неяк па-мяшчанску сыта, ненатуральна для яго.

Прылёг пад сасонкай на паляне, у рэдкім, з плямамі сонца, цянёчку.

Ад ветрыку, што варушыцца нізам, кланяецца ружаватымі гронкамі насення шчаўе, кланяюцца мятліца і «таўкачыкі», пад якімі ціха, устойліва жывуць чабор і смолкі. Ад ветру, што ходзіць угары, час ад часу шуміць нават панурая, нібы змрочная лістота векавых дубоў. А вышэй — па блакіце — у раскошнай ляноце плывуць, як скубеныя кавалачкі ваты, невялікія, рэдкія аблачынкі.

Добра ўспомніць, што такое замілаванне ў мяне — не прафесійнае, не знешняе, а з патрэбы, якую я адчуваў, здаецца, ад нараджэння, і ў немагчымасці перадаць сваё захапленне красой, таксама ўжо вельмі даўно, знаходзіў трывожную, з гаючым сумам асалоду.

На паляне, дзе цяпер пішу, некалькі дзён таму назад, калі яна, перад дажджамі і холадам, была таксама сонечная, я — заціхнуўшы ад той самай трывогі — пачуў здалёк, ад вёскі, радыё. Грыг. Як я ні слаба ведаю яго — пазнаў. Чароўная песня Сольвейг. І стала зноў шчаслівa, невытлумачальна ясна, як добра яна, музыка, перадае нашы пачуцці, як яна неабходна і мастацтву слова.

*1968*

# ХВАЛІ І СОСНЫ

З акна тралейбуса Сімферопаль — Ялта відаць ляжачыя вярблюды нізкіх гораў, на некаторых з іх — пасадкі сасонак; вялікі шэры вадаём, з берага якога блакітныя лодкі п'юць, уткнуўшыся, ваду; разлітая па каменні рачулка, шуму якое сюды не чутно; блакітна-белыя, свежапафарбаваныя домікі і гатовыя да цвіцення сады сяла Лазавое... Адкрыты ўзгорак над далінаю і — нечакана радасць сустрэчы — бюст маладога Льва Мікалаевіча. Героя Севастопаля і, што яшчэ важней, аўтара «Севастопальскіх апавяданняў». Ён тут калісьці бываў.

Дый застаўся і тут — назаўсёды.

* * *

Мокры ранак пасля начнога дажджу. Другая палавіна сакавіка, а нават і крымская вясна яшчэ ўсё толькі хоча пачацца. Адзін міндаль цвіце, нібы па малалецтву забягаючы наперад. Над усім пануюць вечнай зелянінай кіпарысы, кедры, каменныя дубы. На бязлістым голлі і веццi дрэў і кустоў, нізка над сцежкай, безліч крыштальна-сярэбраных кропель. Нібыта белы дробненькі цвет. Чуваць першыя для мяне сёлета берасцянкі, як быццам зноў абноўлены пераклік пеўняў, яшчэ нейкае цвірканне — клопат і радасць.

Хадзіў і спыняўся, прагна дыхаў, доўга глядзеў.

На поўначы — яшчэ ўсё вышэй ды вышэй пнуцца горы, пакрытыя лесам, кустамі, зрэдку жыллём. Трэба будзе туды дабрацца, як найвышэй. На поўдні — за паркам, за садамі, за дахамі Ялты — мора... Маяк і мол. Поўзаюць судны. Учора пад вечар, пры першай сустрэчы, адчуў яго, мора, нібы наогул упершыню, як штосьці такое, у што можна быць закаханым, як

штосьці неабходнае для нашага жыцця таксама, як зямля. Сёння, калі глядзеў на яго зверху, здалёк,— успомнілася, паўтарылася тое самае адчуванне. Нават, здаецца, з блізкім, няўяўным пахам і шумам..

Дзякуй тым, хто прадбачліва захаваў для нас і звычайныя, вельмі як быццам звычайныя словы вялікіх.

Гледзячы зверху на порт, успомніў (кім жа гэта запісана?), як Чэхаў калісьці вяртаўся аднекуль морам, знаёмы насільшчык-татарын пабег па пірсе, апярэджваючы ўсіх, каб узяць рэчы Антона Паўлавіча, а паліцэйскі аблаяў і ўдарыў татарына. Дзве фразы, вечныя, калі вечнай будзе літаратура:

«Ты не меня ударил, ты его ударил!»

Гэта сказаў насільшчык.

А Чэхаў — паліцэйскаму, па-свойму ціха:

«Как вам не стыдно!..»

* * *

Пасля вячэры і кіно хадзіў, неспадзявана дайшоў аж да мора, паслухаў плёскат памяркоўнай сёння хвалі. А перад гэтым стаяў у садзе, па-нашаму, па-раўніннаму кажучы,— не на ўзгорку, а на гары, зверху глядзеў на таямнічыя, нібы спрадвечныя кіпарысы, на мноства агнёў паміж імі.

Падумалася пра рэчы, якія перажываюць людзей, сваіх гаспадароў.

У доме Чэхава, гледзячы на стары, сёння ўжо нават пацешны тэлефон таго часу, успомніў, неяк зусім нечакана, светла ачуў, як гэты апарат калісьці, амаль семдзесят гадоў таму назад, перадаў сюды, у чысценькі, сціплы кабінет, голас Талстога — з недалёкага дома ў той самай Ялце — Чэхаву. Некалькі слоў. Проста пра тое, што ён, Леў Мікалаевіч, вельмі любіць яго.

Божа мой — *толькі пра тое!..*

У вечных, строга і змрочна таямнічых кіпарысах думалася і аб тым, што чалавек і пісьменнік, якога пяшчотна любіў сам Талстой, што Чэхаў, якога чытаюць на мностве моў і любяць на ўсіх кантынентах, быў і няшчасны, быў і самотны і, паміраючы, два апошнія словы сказаў чамусьці не на роднай мове.

І сапраўды — чаму «Ich sterbe»? [1]

Таму, што гэта было ў Германіі, што лекар быў немец, што і жонка была «немочка моя добрая»?..

Сёння я ўпершыню, здаецца, спыніўся на гэтых словах. Сёння мне, як ніколі, сумна і неяк нават... нібы радасна ад таго, што яны былі сказаны так, як былі,— проста *чамусьці так*, не інакш. Сказаны не па-руску тым, хто быў — зноў жа як гаварыў Талстой — вельмі і вельмі рускі. І чалавек і пісьменнік. Хто — разам з тым — так натуральна належыць усяму чалавецтву.

* * *

Неба над морам, па-вясковаму кажучы, падкасалася — ясная паласа паміж цяжкай, жалезна-шэрай вадой і непрыветнай зацяжжу хмараў. Над самым вадзяным даляглядам — града воблакаў, падобная на горны снегавы хрыбет, светлы, зманліва прывабны. Кліча кудысьці далёка, у нейкі цудоўны, сонечны Басфор, дзе я нібыта быў ужо, а ўсё яшчэ здаецца, што буду... Над воблачным хрыбтом — пяшчотнасць чыстага блакіту, якога мы тут ненармальна даўно не бачым.

А з гораў, што высока за нашым домам, дзьме паўночны бязлітасны вецер.

За ашклёнымі дзвярыма, за мураваным парапетам балкона шумяць і стусінамі гнуцца-гайдаюцца кіпарысы. І гэта так незвычайна, ненатуральна. Нібыта адчайна шумяць і калышуцца... навагоднія елкі, якія хтосьці матлошыць, па-хуліганску здзекуючыся з іх прыгожай, урачыстай самавітасці.

Іх, кіпарысы, робіць падобнымі на елкі мноства шышак, што павыядрываліся на густой, дробненькай зяляніне, як цацкі-шарыкі, хоць і не звонкія, аднастайна падобныя, але прыгожыя і прымацаваныя вельмі надзейна.

* * *

Учора даволі-такі доўга блукаў паміж крыжоў, пірамідак, дрэў і кустоў, па камяністых сцежках і бетонных прыступках, па мокрай ад патайных крынічак

[1] Я паміраю.

траве. Шукаў магілу Багдановіча. Пытаўся пра яе і зноў, не пачуўшы патрэбнага слова, хадзіў то зверху ўніз, то зноў уверх, то ўпоперак гары...

А потым неяк раптам, нібы нечакана, пазнаў камень з ужо невыразным, прымшэлым ды зацёртым нягодамі надпісам — сціплы помнік, выгляд якога мне памятаецца ад першага наведання, больш за дваццаць гадоў. Я стомлена, і радасна, і сумна выдыхнуў, успёршыся на пруты агароджы:

— Дык вось ты, голубе, дзе!..

І не здалося гэта ні сентыментальнасцю, ні панібрацтвам. Мне і любоў мая і гады дазваляюць. Зрэшты, сказалася неяк само.

Бо тут, у Ялце, і каля белага дома, дзе ён памёр, і на могілках, куды яго прывезлі пахавальныя дрогі, была ў мяне думка, было адчуванне, што ўсё такое ў жыцці адбываецца *вельмі проста.* Хворы хлопец прыехаў, хворы хлопец памёр — яшчэ адзін, не першы і не апошні,— і яго пахавалі. Нават, відаць, за кошт казны. І гэтае «вельмі проста» неяк па-асабліваму гаворыць мне пра яго, паэтаў, цудоўны пачатак, сумна, горка гаворыць пра тое, як многа гэты хлопец мог бы зрабіць, каб пажыў — *вельмі проста* — як многія, трохі даўжэй...

* * *

Позні поўдзень. Сонца і вецер. Мора і пасвятлела і разгаманілася. Зеленаватае, вясёлае. І разгайдалася яно, відаць, не па сваёй волі. Недзе далёка-далёка за далягдядам хтосьці магутны і мудры прыняў рашэнне атакаваць наш бераг, і мора, яшчэ ўранні спакойнае, не ведаючы той высокай задумы, але паслухмянае ёй, пачало. Аднастайна, але не надакучліва, як быццам злосна, але і весела, плешча-палошча і так ужо безліч разоў апаласканае каменне, накат за накатам, то чакана, то нечакана б'е ў сцяну набярэжнай, узвіваючы белапенныя букеты пырскаў.

Гоман мора і гоман агню — дзве дзівосныя з'явы хвалююць, зачароўваюць мяне ўсё жыццё, не паддаючыся ніякаму вытлумачэнню. Зноў вось успомніў, што люблю яго, мора, як і агонь, з маленства. Добра было калісьці і сёння добра было б пасядзець перад поўнай вясёлага, прагнага полымя грубкай; добра бывала, і

дай бог, каб і яшчэ неаднойчы было, каля сяброўскага вогнішча ў летняй роснай і шматгалосай начной глухамані надрэчнага лугу або прылеску!.. А мора? З ім пачалося маё існаванне. Пасля была разлука, цэлых семнаццаць гадоў, была іншая краса, іншая таямнічасць прыроды. А потым я, па-салдацку нагала астрыжаны, нібы спецыяльна абражаны, абяззброены такім чынам вясковы дзяцюк, нядаўна горды сваёй свабодай, сваёй працай на полі і на паперы,— я апынуўся зноў над морам. Ужо не над Чорным, а над Балтыйскім. Аднак радасць мая, маё хваляванне былі не толькі самі сабой, але ж і ўспамінам далёкага, даўняга і няспыннага шуму, што вось прыйшоў, вярнуўся і гамоніць верна каля ног, атакуе душу маю шчасцем вялікай, магутнай, вечнай красы!..

Чайкі хвалююцца. Лятаюць, садзяцца на хвалях, уздымаюцца, зноў пікіруюць. У белакрылым палёце яны амаль зусім не крычаць, нібы ва ўрачыстым маўчанні. Што — прадчуваюць яшчэ большае хваляванне вады? Ці проста рады таксама?

Імклівая рачулка Учан-Су і сёння, як і заўсёды, робіць сваё. Марскія хвалі хвошчуць у бераг і там, дзе яна ўпадае, а рэчка цячэ, бурліць сабе пад іх — пасля доўгага падарожжа па камяністым і неспакойным рэчышчы, вунь адтуль ажно, з гораў. І гоман яе, як і гоман марскі, не часовае штосьці, а пастаяннае.

Бяжы, гамані, малайчына!

* * *

Хачу спяваць, як той, што на восліку едзе ды едзе па роўнай самотнай пустыні...

Мне далі іншы пакой: пасля цёмнага, непрыветнага — сонечны, на трэцім паверсе, з вялікімі ашклёнымі дзвярыма, праз якія зверху відаць і горад і мора. У мяне ўжо не цесная лоджыя ўнізе, а вялікі, адкрыты ў неба балкон. Кіпарысы цяпер — толькі трохі вышэй за мяне!

Днямі я запісаў у блакноце такую драбніцу.

Шышкі на кіпарысах — нібы кажушныя гузікі, вязаныя з ірхі, тоненькай скуры з пахвінаў, аскрэбенай начыста. Толькі што гузікі на кажухах не так густа панашываны, а кіпарыс нагадвае чалавека не ў кажу-

се, а ў нейкім форменным цёмна-зялёным і даўжэзным шынялі.

Параўнанне — чыста вясковае. Але і сёння мне дакучаюць гэтыя «гузікі», просячыся ў наша слова, хутчэй за ўсё ўпершыню.

За верхавінамі кіпарысаў, з-пад імглістага, бездаляглядннага неба карабаціцца мякка-шэрымі хвалямі мора. Не шуміць і не пахне, вядома, ажно сюды — трэба ісці на бераг, як я хадзіў уранні, да снедання, як я пайду яшчэ і яшчэ.

Хачу спяваць пра ўсё, што бачу, што думаю...

Днямі купіў у кіёску над морам кнігу пра Назыма Хікмета. Калі і выпадкова, дык я, відаць, шчаслівы на такія выпадковасці. Не магу працаваць, хоць бы так, як учора ці пазаўчора. І ў галаве шуміць, і сэрца ные чагосьці, і ногі гудуць ад ялцінскіх крутых завулкаў ды сцяжынак. Прылёг сярод белага дня і чытаў. І ў тым, што пра Хімкета я чытаў іменна тут, над морам, за якім — яго таямнічая, вельмі мала вядомая мне краіна, той экзатычны Стамбул, які калісьці бачыў сяк-так і я, у гэтым было не толькі чытацкае шчасце, але і думка пра тое, што людзей у будучыні чакае вялікая радасць пазнавання народам народу, радасць той перабудовы, калі ўпадуць драты і муры ўсялякіх варожых перагародак.

Добра таму, хто працуе на гэтую радасць!

Успомніў, чытаючы, і дні мае вясковай маладосці, пах залатых аўсяных снапоў, на якіх я адпачываў з кнігаю вершаў Багдановіча, калі нібы ўпершыню адкрываў для сябе яго асаблівую блізкасць да рускай літаратуры. Нават і праз сваяцтва з Горкім, праз смерць у чэхаўскай Ялце... Мала гэтага! Ён першы павёў наша слова на збліжэнне са скарбамі народаў свету, ён першы адчуў так моцна гэтую неабходнасць.

Таму і радасна мне, адлажыўшы кнігу пра першага з туркаў, што стаў мне блізкім, як мужны і светлы друг, зрабіць гэты запіс, яшчэ раз адчуць, што я хачу спяваць пра ўсё, але ж пра тое ўсё, чаму належыць будучыня.

* * *

Мора аціхла за ноч, спакойна і сыта прыхлёбвае каля берага. З-паміж хмар, засвяціла сонца. І горы, на

вяршынах яшчэ ўсё пакрытыя снегам, ярка палезлі ■ поўначы на горад...

На невялікім камені, які тырчыць сухою лысінай над булькатаннем рэчкі, што метраў праз пяць упадае ў мора, прысеў вясёлы верабей. І пасядзеў, каб я паспеў падумаць пра яго цудоўны мікрасвет — маленькі толькі для мяне. І гэты камень, і мноства падобных навокал, таксама сухіх і ўжо, відаць, нават цёплых ад сонца, і шум рачное быстрай, гаманлівай плыні, разасяроджанай на мноства патокаў у мностве сухога і мокрага камення, і жоўценькія, як куранячы пух, кветачкі на кізілавай галіне, што звісае чортведама як высока над вадою — ажно тры метры!..

Штосьці дзіцячае ў гэтым адчуванні. Па свежасці.

Верабей пырхнуў і паляцеў.

Так бы вось і лятаць, адчуваючы шчасце прастору, так бы вось і садзіцца на цёплых каменьчыках, бачыць вакол сябе многа вялікага, прыгожага і значнага, што камусьці здаецца малым, не вартым сур'ёзнай увагі.

* * *

Варанцоўскі палац у раскошным парку. З поўначы — скальныя горы, зубцы Ай-Петры, ■ поўдня — чароўнае мора. У пакоях палаца — цуды людское працы, умельства, натхнення, цярплівасці.

Што гэта — не летняя рэзідэнцыя аднаго з найбольшых магнатаў Расійскай імперыі і ўсяго свету, што гэта — не проста яшчэ адзін наш музей, а жахлівая памяць пра катаргу мноства таленавітых і безымянных сыноў працоўнага народа, я адчуў неяк асабліва ўрачыста. Ажно хацелася пазбіваць кепкі, а тым больш капелюшы з курортных галоў, якія і ў гэткіх месцах не адчуваюць урачыстага хвалявання.

Калі б не тая, скажам, шчаслівая выпадковасць, што Шаўчэнку выкупілі ў другога магната, быў бы яшчэ адзін безымянны геній. Колькі такіх імёнаў мы не ведаем! З некалькіх тысяч прыгонных умельцаў, што дваццаць год будавалі гэты палац, у архівах захавалася трыста прозвішчаў. Рэдкі выпадак. Аднак пра гэтых людзей, лёс кожнага з якіх быў бы, на добры лад, сюжэтам гістарычнага рамана, мы ведаем вельмі мала і больш не будзем ведаць ніколі...

«Адзін з найбольшых магнатаў Расійскай імперыі і ўсяго свету». У іх быў свой, арыстакратычны інтэрнацыяналізм. Варанцовы жаніліся з Браніцкімі, радніліся сабе ў той час, калі царызм душыў свабоду Польшчы, а польскі народ збіраў ды нагнятаў сваю нянавісць да Расіі. Палац пабудаваны ў стылі англійскага сярэдневякоўя, а на паўднёвым яго фасадзе, з «маўрытанскім» парталам, надпіс «Багацце — ад бога» выведзены арабскай вяззю. Карціны, скульптуры, габелены, шпалеры, мэбля, ліхтары, шкатулкі — усё тут зроблена майстрамі з розных краін. Парк разбіваў славуты нямецкі садоўнік. Сам Варанцоў, як сведчыць аўтар «Хаджы-Мурата», быў чалавек рэдкай у той час еўрапейскай адукацыі.

Калі не забывацца, што ў нас ужо больш за паўстагоддзе гаспадарыць тая пераважная большасць, якая была калісьці прыгнечаная, бяспраўная, калі прыгадаць, што яшчэ задоўга да Кастрычніка той самы Талстой (дарэчы, тут, у недалёкай Гаспры) пісаў, што народ Расіі «все более и более просвещается общим всему миру просвещением»,— дык сёння ў нас сапраўднай інтэлігенцыі, сапраўднай арыстакратыі духу яшчэ ўсё не надта многа. У параўнанні з разняволенымі магчымасцямі, улічваючы нашы гістарычныя, інтэрнацыяналісцкія мэты і задачы. Зашмат мяшчанства, якое лічыць сябе інтэлігенцыяй, зашмат звычайнага хамства, бяздумнага і ваяўнічага. Пралетарская радасць першых паслякастрычніцкіх дзён (усё — наша, народнае!) адышла са сваім часам у гісторыю. Цяпер нам такое свядомасці мала. Мы, сучаснікі, адказваем за тое, што зрабілі і што зробім мы, якую культуру пакінем нашчадкам — і створаную намі, і захаваную з пакінутага нам.

* * *

Гаспра. Шатландскі замачак графіні Панінай, пераўтвораны рэвалюцыяй у санаторый для матак з маленькімі дзецьмі. У вялікім пакоі гульняў — партрэты і фотаздымкі Талстога. Эліпсаваты столік, на якім ён калісьці пісаў, ужо трохі прыпсаваны немузейным доглядам; на ім ляжаць надзіманыя рыбы і лялькі. Вясёлая і ветлая дзяўчына, выхавацелька, пусціла нас

у гэты пакой, балазе малыя ўжо кончылі гульні і разыходзіліся па палатах, да мам. Прыкра і крыўдна, што ні ў тыя пакоі, дзе працаваў, хварэў і, хварэючы, працаваў Леў Мікалаевіч, ні на веранду, дзе ён гутарыў з Чэхавым, з Горкім,— не пройдзеш. Ніхто не пусціць, бо гэта ўсё санаторый, і ніхто не ведае толкам, дзе тут ды што тут калісьці было. Так нам, прынамсі, сказалі, ужо не першым і не апошнім з тых, каго да гэтых вежаў над морам вядзе не пустая цікавасць.

Таксама, зрэшты, было і ў Гурзуфе, дзе мы дарма намагаліся прайсці ў дом Раеўскага, асвечаны імем Пушкіна. Таксама хтосьці адпачывае.

Дзіўна, што ні для Пушкіна, ні для Талстога мы тут не можам зрабіць што належыцца...

Астаецца галоўнае — іх слова, слова наогул, якое не толькі *было спачатку*, але ж будзе і да канца. Яно тут, са мною — зноў свежае, зноў нібы новае, цяпер — па-крымску.

Крым я павінен пaглядзець не так — хоць бы з-за Пушкіна (Бахчысарай) і Талстога (Севастопаль)...

Пішу гэта, а здалёк мармытнула думачка: ат, усяго ўсё роўна не пабачыш... Можна сказаць, што праўільная, аднак не мая. Хочацца бачыць найболыш. Хочацца верыць, і веру, што бачыць і чуць хачу я не так сабе, а дзеля патрэбы, з адчуваннем якое, як з адчуваннем абавязку, хораша жыць.

* * *

Ішоў учора па мокрай прыморскай вуліцы пад імжой і на тралейбусным прыпынку, зазірнуўшы ў твар задуманай дзяўчынцы-падлетку, адчуў яе — здалося— роздум, адзіноту, адчуў яшчэ раз па-новаму часовасць і нялёгкасць нашага жыцця, з чым яна, відаць, ужо сутыкнулася, пра што яна, магчыма, думае...

Стала шкада яе, шкада і таго, што яна ніколі не даведаецца, што падумаў пра яе, што адчуў здаравенны ды стараваты дзядзька-прахожы, з выгляду — як мне і дзеці дома кажуць часамі — чагосьці злосны.

«Хто паверыць, калі запішу? — падумаў я, ідучы.— Дый сентыментальна будзе...» А сёння вось тая дзяўчынка зноў стаіць перад вачыма са сваёй задумай. І запісваю.

* * *

...Маладая кабыла, хоць і накрытая дзяругай, капрызна танцуе ў аглоблях — ад аваднёў. Колы самі знарок шукаюць у каляінах глыбейшыя ямкі. Вялізны, шырачэзны воз шорсткага і гарачага мурагу калываецца вельмі пагрозліва. Трэба яго трымаць за граблі, убітыя ў тугое сена па самы валок. Правай рукой трымаеш воз, левай — лейцы, кіруючы гэты свой карабель па лукатках лугавое дарогі. А табе пятнаццаты год, ты ўжо, вядома, і зусім дарослы, і смелы, і вельмі стомлены, і хвалюешся, і баішся. Бо ты яшчэ ўсё... дзіця. Пра што гаворыць, праўда, толькі мама. Воз нарэшце трапляе ў тую самую патайную і найглыбейшую ямку, якой ты найбольш баяўся, і валіцца на цябе ўсёй сваёй аграмадзінай!.. Яшчэ адзін!.. Яшчэ!.. Той самы воз, але не раз, а некалькі разоў. Ты мужна падпіраеш яго плячом і галавой. Але дарма!.. І ты нарэшце прачынаешся ад свайго крыку: «Тпрру!..»

Ты — пад яблыняй, што клапатліва расставіла над табою шырокае, густое голле з буйным лісцем і церпка-няспелымі яблыкамі ў лісці. Табе гэта нават і смешна, што ты прачнуўся, ты рады, што ніхто не чуў, і ты зноў тулішся шчакой да падушкі, у свежым месцы — халаднаватай. «Пятрова ночка маленькая...» Высокі жаночы голас, прыемны і да адчаю стомлены, чуецца ў тваёй памяці ціхай і салодкай калыханкай. А воз усё калываецца, кабыла ўсё гізуе, ямка ў каляіне вось-вось будзе, воз твой, хочаш не хочаш, абернецца, накрые цябе духмяным, шорсткім і няўмольным цяжарам. Адзін, другі... Таксама, як было звечара, калі ты толькі лёг. Ты неўзабаве зноў заснеш, і хутчэй за ўсё будзеш сніць тое самае...

Я ўсміхаюся, за добрую тысячу кіламетраў ад дому, праз восем год пасля таго, як гэта было... не з возам сена, а з грыбамі. Усміхаюся, пачуўшы голас хлопчыка, што ўпершыню ў жыцці быў са мною ў грыбах і не можа заснуць:

— Тата, яны ўсё стаяць ды стаяць. І ў траўцы пахаваліся, і так. Вялікія. Маленькія...

Дзівак малы! Таксама і ў мяне яны перад вачыма — і стаяць, і плывуць цудоўнымі кінакадрамі, яшчэ нікім не знятымі, жывымі. Плывуць не ўпершыню,

ужо даўно не ўпершыню, амалоджваючы душу гэтым дзіцячым хваляваннем.

Так бывала.

І сёння я вось не магу заснуць.

Дагэтуль горы, што асланяюць горад з усходу, поўначы і захаду, былі жывой, спрадвечнай, велічнай дэкарацыяй, прыгожай ледзь не абстрактна, умоўна, здалёк.

А сёння мы дабраліся да адной з іх вяршыняў.

І я вось не магу заснуць. Ад горных сцежак.

Асабліва адна — і ў ясны дзень адгэтуль, з балкона, нябачная на выразным, голым абрыве вяршыні — асабліва яна дала нам страху ды хвалявання.

Скальны абрыў нахілены крута, увагнуты ўсярэдзіну. Шырыня сцежкі — на аднаго хадака. Налева — бездань, направа — высока над намі скала...

Я стомлены, як і ўсе мы, жанчына і двое мужчын, можа нават і больш за іх, маладзейшых. Да таго ж, яшчэ мне чортведама навошта ўспомніўся даўно бачаны кінафільм, ужо не толькі без назвы, але і без дзеяння. У памяці захавалася толькі такая во сцежка і многа неграў, што гужам ідуць па ёй над безданню, з вялікімі цюкамі на галовах. І захавалася гэта ў памяці нібы толькі дзеля таго, каб паказаць мне яшчэ раз, як негр ляціць у бяздонне разам са сваім грузам, нібы толькі таму захавалася, каб даць мне адчуць, як у душы маёй паўтараецца яго апошні, жудасны крык. Астатнія негры ідуць як ішлі...

І мы ідзём. У напружаным, асцярожным маўчанні, тройчы... якое там! — ужо дваццаты раз узмакрэлыя халодным ад нізкага туману потам. Улева, у бездань, я не гляджу. Іду з правым нахілам, да скалы, проста цягне ісці толькі так, каб «у выпадку чаго» — пуц на правае калена, і прытуліўся да сцяны. Мы нават і гаварылі так, дзяліліся такою асцярогай. А потым, зноў апынуўшыся ў лесе, смяяліся з саміх сябе, такіх, з дазволу сказаць, альпіністаў.

І вось я не магу заснуць — усё іду па сцяжыне, іду, і хочацца нават крыкнуць ад страху і трошкі — ад захаплення...

Быў ён, страх вышыні, зусім незнаёмы мне ў самалёце. Было захапленне, калі хацелася нават, гледзячы зверху ўдалячынь — на схілы, пакрытыя лесам, белыя

вужакі дарог і сцяжын, далей — дамы і вуліцы горада, яшчэ далей — шэры, уздыблены марскі прастор,— хацелася, нібы ў дзіцячым сне, узмахнуць рукамі-крыламі і паляцець!..

А больш за ўсё было стомленай і нястомнай радасці ад знаёмства з яшчэ адной красой. Гэта — горныя сосны. Магутныя шурпатыя ствалы. Няспынны, велічны, невытлумачальна прыгожы пошум іх верхавін. Часта ён спалучаўся з ледзь улоўным спачатку, а потым усё больш ды больш выразным шумам вады. Часамі гэты бойкі, энергічны шум уваходзіў у мяккі і на ўсё неба шырокі пошум ігліцы, нібыта распорваючы яго сваім імклівым, рэзкім гоманам. Пасля, калі мы спыніліся на скалах вадаспаду Яўзлар, а яшчэ праз гадзіну хады над яшчэ больш адчайным спадам са скал паэтычнага Учан-Су, у шуме вады прападаў шум сасновы. Мы адыходзілі ў сваю даль па новай, крутой і пакручастай сцяжыне, шум вады спакваля аціхаў, расплываўся, і сосны ціха спявалі сваё — зноў на ўсё неба над намі, на ўсю зачараваную душу...

Там, на тых кручах ды схілах, нараджаецца свежасць, адтуль яна аплывае ў даліны, да мора, насустрач яго таксама невычэрпна шчодрай свежасці. Свежасць марское вады і свежасць сасновай жывіцы...

Дайце мне, сосны, дайце мне, сцежкі, заснуць!..

*1969*

# ЗНАЁМСТВА З ГДР

Адвячорак у Трэптаў-парку.

Духмяныя ліпы. Таполі — нібы салдаты ў ганаровай варце. Веліч смутку і подзвігу.

І дзве бярозы. Ужо тым часам старыя, прывезеныя сюды з Усходу.

Такія, што ў нашых лясах, пры дарогах, такія, што гарэлі разам з хатамі, з людзьмі...

Яны, бярозы, сказалі мне тут, здаецца, найбольш.

* * *

Учора быў дождж, было сонца, зноў дождж, тады цудоўнае неба на захадзе, з нізкімі бела-барвова-шэрымі воблакамі над морам, быў пах зямлі і кароўніка, белыя чайкі на раллі, за трактарам, была готыка старажытнага Вісмара, добрыя гутаркі — днём у багатым нямецкім калгасе, а ўвечары ва ўтульным клубе творчай інтэлігенцыі Ростака.

Вярнуўшыся ў наш курортна-патрыярхальны Нойклёстар, позна чытаў апавяданні Ружэвіча, адчуваючы блізкую да першапачатковай, як у маленстве, захопленую, але па-сталаму маўкліва стрыманую радасць — ад сапраўднага друкаванага слова. Зноў добра думалася пра тое, што маё галоўнае, маё адзінае ў тым, каб ясна бачыць сваё месца, ведаць свой абавязак.

Сёння развіталіся са сваім чысценькім нумарам, за акно якога апошні раз пашарэла для нас вялізная саламяная страха на доме дырэктара атэля, апошні раз пакудахкалі мекленбургскія куры.

Зноў дарога. Аўсяна-жытне-лугавыя прасторы. Лясы, пералескі. Цагляныя вёскі, хутары, былыя маёнткі.

Асфальт у высокіх прысадах. Трохі спакойны, трохі пануры прыморскі пейзаж.

Потым — Гюстраў, зноў старажытная готыка, горад, амаль ацалелы ў вайну. І Барлах — скульптар, графік, паэт Эрнст Барлах — прычына высокага, светлага хвалявання.

Пусты, парослы сонечнай, некранутай травою цвінтар вакол самотнай цаглянай капліцы — старадаўняй, найстарэйшай у горадзе «капэлы святое Гертруды». Старыя рэдкія бярозы. Яшчэ радчэйшыя, яшчэ старэйшыя магілы.

Побач з капліцай, у лёгкім лісцяным цяньку, стаіць прывезеная сюды адтуль, дзе супакоіўся Барлах, драўляная пацямнелая дошка-помнік з гатыцкім надпісам:

«Усё, што ў яго было смяротнае, пахавана тут».

Тое, што асталося пасля яго несмяротнае, што ацалела ад гітлераўскага вандалізму,— скульптуры ў пустой прасторнай капліцы, нядаўна ператворанай у такі незвычайны і просты музей. Збылася даўняя мара Барлаха, які ўздыхнуў калісьці ў гэтай, тады запусцелай, капліцы: «Тут маім творам жылося б нядрэнна».

Дрэва і камень яшчэ раз ажылі пад рукой чалавека, яшчэ раз гавораць пра наша агульнае, найпрыгажэйшае, вечнае.

І асабліва значным, прыгожым тут здаецца тое, што гаварыць іх, дрэва і камень, навучыў іменна немец, сапраўдны сын свайго народа, той, якога мы сёння — і празаічна, і вельмі змястоўна — называем актыўным антыфашыстам.

«Пра ўсё гэта я ўжо даўно напісаў...» Так падумалася ўчора ўранні. Пра што напісаў? Ды, здаецца, што ў той ці іншай форме, у той ці ў іншай меры нават і пра тое, як мяне, былога польскага салдата, нямецкага палоннага, цяпер савецкага пісьменніка, немцы возяць па той частцы свае зямлі, сацыялізм якое шчодра аплочаны нашай крывёй. Дакладней кажучы, возяць яны не мяне, а нас: польскую вязнярку Асвенціма, ленінградскага блакаднага падлетка і дваіх беларускіх партызан. І возяць не проста немцы, а два былыя салдаты вермахта, як я даведаўся ўчора,— ваякі апошняга этапа «ўсходняй кампаніі». Цяпер гэта даволі элегантныя, ветліва маўклівыя і нават важныя ды злёгку іранічныя шафёры... На гэтую тэму штосьці прыблiз-

нае пісаў і я, больш канкрэтна пісалі ўжо многія іншыя. Словам — не нова.

А сёння, цяпер, на цвінтары і ў капліцы, думкі тыя здаюцца мне амаль чужымі. Што ты напісаў? Як напісаў? Пры чым тут стома ці вяласць, калі вось у тэму — у складаную, горкую тэму, якое не абмінуць, да якое і я маю свае асабістыя адносіны, перад якою і я адчуваю свой абавязак,— уваходзіць яшчэ адна вельмі патрэбная, вельмі істотная з'ява.

Пасля «капэлы святое Гертруды» быў загарадны дом Барлаха ў сасновым лесе, жыллё і майстэрня, на парозе якое гасцінна сустрэў нас геносэ Фрыдрых Шульт, старэнькі, верны друг вялікага мастака, нястомны прапагандыст і ахоўнік ягоных скарбаў.

Зноў скульптуры — з той самай народнай прастатой, народжанай у страсных пошуках, з той самай глыбінёй гуманізму — да ўзнёслай цішыні і рэдкай радасці ў душы...

На адной з непрасторных плошчаў старога Гюстрава, у сурова-велічным гатыцкім саборы, кажучы груба, вісіць на ланцугах... не, не вісіць — лунае бронзавы анёл з абліччам высакароднай Кэтэ Кольвіц. Яшчэ адзін твор Барлаха, прыгожае сведчанне дружбы двух змагароў за светлую будучыню, яшчэ адно сведчанне неперможнасці сапраўднага мастацтва.

А трошкі воддаль — змрочна, запылена тырчаць старыя, бяскрылыя сцягі з няпростымі, ненабожнымі надпісамі: «Мір праз перамогу», «З богам за бацькаўшчыну» і гэтак далей.

Народ, які мае вялікае мастацтва, вялікую векавую культуру, народ, які ведае, што гэта значыць — страціць яе, як ён мог, як ён можа знішчаць культуру іншых народаў?..

А каля сцен сабора — грабніцы герцагаў ды герцагіняў, якія тут, пад строма-высознымі скляпеннямі, «спачываюць у бозе»,— да сумоты даўно, да непрыстойнасці раскошна і крыкліва...

Як радасна з усёй гэтай старызны, з усёй арыстакратычна-шавіністычнай затхласці вылузваецца, нібы сонца з-за хмараў, такі патрэбны і блізкі, такі нямецкі і агульналюдскі Барлах!

Анёл ягоны вярнуўся сюды пасля разгрому нацыстаў.



Яшчэ, і яшчэ, і яшчэ раз адкрыць для сябе *чалавека* і паважаць яго *як асобу*, як яшчэ адно праяўленне жыцця ў яго найвышэйшым выражэнні.

Вядома ўжо гэта — і наогул, і мне. Аднак і паўтараецца гэта радасна, і з кожным разам робіцца ўсё яснейшым.

Днямі я штосьці падобнае адчуў у дажджлівым Шверыне, калі мы выходзілі з музея і сустрэлі на сходах экскурсію, відаць — вясковых школьнікаў і іх маладую настаўніцу. Яшчэ аднаго чалавека, асобу, яшчэ адну цікавую загадку.

Я ніколі не сустракаўся з ёю, яна таксама не ведае пра маё існаванне, хутчэй за ўсё мы ніколі больш не сустрэнемся, аднак — такая думка, такая цікавасць, такое адчуванне павагі да чалавечай асобы патрэбна мне, каб адчуваць сябе зусім нармальна.



Мы ішлі ўтраіх па алеі старога патсдамскага парку, у летняй, паўдзённай засені дубоў і чырвоных букаў, у іх духмянай, векавой і свежай магутнасці. Мініяцюрная Моніка, якая суправаджала нас, несла адкрыты пакет буйных рубінавых чарэшняў, і мы час ад часу на хаду частаваліся імі, нібы пілі глыточкамі, запавольваючы асалоду.

— Якія добрыя людзі бываюць! — сказала наша гаспадынька. Па-руску, вядома, з нейкай амаль дзіцячай стараннасцю нядаўняй студэнткі-выдатніцы. І расказала, што калі яна пры нашым уездзе ў горад спыніла машыну і забегла ў магазін, дык там аказалася, што пажылая фрау, зусім ёй незнаёмая, проста прадаўшчыца, а да таго ж яшчэ вельмі занятая, бо шмат пакупнікоў, нават на склад, у сутарэнне пабегла, каб узяць ёй вось гэты, большы пакет.— Якая дробязь, а як прыемна, праўда?..

І я яшчэ раз — каторы ўжо раз! — прыемна ўспомніў наша з Валодзем Калеснікам даўняе падарожжа на веласіпедах па Гродзеншчыне. Такую ж вось паўдзённую ліпеньскую спёку, прывал каля сельмага, у густым цяньку. Людзей няма, у полі ўсе, толькі дзеці ды куры

на пясчанай вуліцы. Крама стаіць наводшыбе, пад старымі ліпамі, каля яе і ў ёй нікога няма, адно за прылаўкам босая, у белай хусціне над загарэлым тварыкам чарнявая маладзіца. «Забегла толькі. У поле пайду. Бо ніхто тут да вечара ані зойдзе». Купілі мы ў яе хлеба, кансерву нейкую, і самі сабе, а не ёй уздыхнулі: «Эх, цяпер каб малачка!..» І маладзіца пабегла, пакінуўшы на нас, незнаёмых прахожых, усю сваю краму, прынесла нам неўзабаве збанок халоднага, з пограба, малака і нізашто, як мы ні ўпрошвалі, не згадзілася ўзяць за яго грошы. Яшчэ і пачакала, пакуль мы апаражнілі збанок.

«Памяць пра дабрату ажыўляе красу прыроды». Так чыркануў я ўчора ў блакноце, амаль на хаду, для памяці, адстаўшы на хвіліну ад маіх спадарожніц.

Для памяці? Хіба ж такое забываецца? На чужыне, здалёк, успамінаеш яго асабліва прыемна. І свет здаецца святлейшым.

* * *

Цвінгер і Грунэгевэльбэ абрынулі на галаву і сэрца такую процьму твораў мастацтва адразу, што тут не дзіва стаміцца і прытупець на ўспрыманне.

Нават і Рафаэлева мадонна не зрабіла чаканага ўражання. Днямі прачытаў у Ружэвіча, якое захапленне гэтай карцінай выказваў Міцкевіч. З дзён малалецтва ўспомнілася, што пра яе пісаў Жукоўскі. Дый сам я ў «Птушках і гнёздах» не прыдумаў уражання, зробленага на мяне, вясковага падлетка, нават некаляровай рэпрадукцыяй. А пазаўчора здзівіўся, што гэты сусветны шэдэўр не ўразіў мяне. Здаўся нават перагружаным. Зрэшты, фігуры папы Сікста і святое Барбары даўно здаваліся мне лішнімі. Мадонну заўсёды хацелася і даводзілася «вымаць» з гэтага акружэння, адасабляць — проста не хочучы бачыць нікога, апроч яе.

Зрэшты, многае ў Дрэздэнскай галерэі трэба было б глядзець адасоблена і спакойна.

Перад партрэтам нейкага небезымяннага барона ўспомніў Шверынскую галерэю, канкрэтна — бойку пеўня з індыком. Падумалася міжволі, што лепш ужо тая бойка, чым гэтая тупая, самаздаволеная маска.

Бой пеўня з індыком — вялікае, імпазантнае палатно — напомніў мне, між іншым кажучы, адзін гіста-

рычны паядынак, таксама карціну... Успомніліся і іншыя паядынкі. Індык і певень так і ўспрымаюцца — як сатырычны намёк, а не проста забава свабоднага, негалоднага мастака.

Змястоўнымі, патрэбнымі здаюцца ва ўсіх галерэях, дзе я ўжо тут пабываў, многія пейзажы. Штосьці падобнае на сапраўдную музыку.

Ад грэчаскай міфалогіі да хрысціянскіх легендаў мастацтва сярэдневякоўя перайшло з выразнай класавай паслядоўнасцю. Назат Хрыстовы яслі выглядаюць... ну, зусім-такі па-арыстакратычнаму прыстойна.

* * *

У цэнтры Дрэздэна многа зялёных палян,— там, дзе раней былі вуліцы, вокны, палацы, храмы... Стаяць яшчэ руіны і чарнеюць абсмаленыя дамы, што выжылі ў лютаўскую бамбёжку 1945 года.

Таму, што бамбілі не мы, а амерыканцы, немцы расказваюць нам пра гэта ахвотней, чым пра берлінскія «паляны»,— нібы просячы чалавечай спагады, нібы не памятаючы нашых руінаў і нашых ахвяр...

Ці гэтыя руіны сталі, хоць у нейкай ступені, урокам антыфашызму ці, па праклятай інерцыі, будуць падмацункам для далейшага, новага, яшчэ больш нялюдскага нацыяналізму?

Успомніўся абед у патсдамскім летнім рэстаранчыку, у прыемнай пасля спёкі засені духмяных ліпаў. Як і ўсюды на свеце, мілая малеча. А да бацькоў за сталамі, да пажылых мужчын, маладосць і сталасць якіх пачалася ў вайну, я міжволі, з дакладнасцю яркай, балючай галюцынацыі, прымяраў мундзіры, аўтаматы і каскі — да лысых і сівых галоў. Нібы забыўшыся, у якой палавіне Германіі я знаходжуся, з агідай, жахам і адчуваннем заспакоенай помсты бачыў тых, што былі ў нас у якасці пераможцаў і — значна пазней — пераможаных...

Сёння, з крутой, арлінай вяршыні крэпасці Кёнігсштайн глядзеў на ўтульныя, чырванадахія вёсачкі ў зяляніне садоў, на палявую і лясную красу далін і ўзгоркаў над велічнай, гістарычнай ды песеннай Эльбай.

І зноў уявілася, што і адгэтуль, з чароўнай Саксонскай Швейцарыі, людзі хадзілі далёка, «за свет вочы» — паліць старых і дзяцей у якім-небудзь большым ці меншым Асвенціме, большай ці меншай Хатыні, у нашым наднёманскім Новым Сяле...

* * *

Чаму праз майго сына, ставячы яго ў розныя сітуацыі былой і будучай вайны, мне прасцей разумець увесь жах бесчалавечнасці?

Таму, што ён найбліжэйшы да майго «я», мы з ім амаль адно, я больш за ўсё на свеце даражу яго прыходам у жыццё, прыходам у якасці майго наступніка, майго паўтарэння ў лепшай — я так хачу,— у чысцейшай, дасканалейшай сутнасці.

Думаў так, прачытаўшы ў газеце пісьмо паляка, былога вязня фашысцкага канцлагера для дзяцей, адрасаванае былому каменданту таго лагера, мірнаму бюргеру ў адным з зацішных гарадкоў ФРГ.

Уявіліся камендантава аўчарка і мой хлапчук — перад жахам апошніх пакут, зусім адзін, зусім безабаронны...

І потым яшчэ думалася, калі ўявіў, як ён дзесьці ляжыць на траве, пакупаўшыся, абсыхаючы на сонейку,— задумаўся, глядзіць на свет сваімі чыстымі вачыма...

Ён — як усе дзеці ўсяго свету. Усе яны — як ён. Але ж ён для мяне — амаль я сам, маё паўтарэнне ў вышэйшай форме, і таму ён найбліжэйшы мне, і боль усіх дзяцей мне лягчэй зразумець праз боль ягоны, праз боль, што не можа быць не маім.

* * *

Ранняя раніца.

Выйшаўшы з пакоя загараднага матэля пад яснае, ужо сонечнае неба, пад песню жаваранка, падумаў:

Добра было і добра заўсёды таму, хто і гэтую песню, і гэты рамонак — усё можа падпарадкаваць свайму *аднаму*, значнаму і трываламу назаўсёды.

* * *

Чарнявая немачка, гід у палацы Сан-Сусі. Яе прастадушна прыязнае, хоць і службовае «liebe Gäste» [1], што паўтаралася ў кожнай новай зале музея. А потым — «зрыў у асабістае», які, калі ён нават і паўтараецца ў яе з кожнай новай групай наведнікаў, гучыць прыемна, хораша.

Паказваючы ўзоры старога фарфору, яна прызналася нам, групе савецкіх турыстаў,— зноў жа з прыгожай, натуральнай шчырасцю хоць і адукаванага, але і простага чалавека,— што вось гэты, у гэтай іменна шафе фарфор падабаецца ёй асабліва, больш за ўсе іншыя. Таму што і яна, як ён, паходзіць з Гарца...

Усе мы, ці амаль усе, міжвольна цёпла ўсміхнуліся.

Лірыка, аказваецца, патрэбная ў кожнай справе.

* * *

Спякотны поўдзень у дарозе Будзішын — Дрэздэн.

З акна імклівай машыны гляджу на ўрадлівае лета.

Добрае жыта — густая, гарачая каша калосся, якую так і хочацца зачэрпаць зверху лыжкай і пахукаць, пастудзіць.

У зялёнай сцяне пшаніцы каля шашы сям-там палаюць агеньчыкі макаў. Для саміх сябе яны — не пустазелле. І для мяне... ды што там я — і для паэзіі, так неабходнай у жыцці таксама.

Успомнілася «Жыта» Шышкіна і жыта аднаго з нашых маэстра. Са страху ці з выгады ён «уторгся» ў прыроду, паправіў яе — жыта намалявана чысценькае, колас у колас, як пад лінеечку, а васількі — пустазелле — старанна высаджаны на ўзмежак.

«Са страху?.. З выгады?..»

Гэта было, дарэчы, даўно, у той час, калі аднаго з нашых паэтаў... дакаралі на сходах і ў друку за верш, дзе ён пра васількі сказаў ажно такую «крамолу», што выпалаць іх з поля ён гатоў, а з сэрца, бачыце, не можа...

---

[1] Мілыя госці.

* * *

У адной з музейных залаў Вартбурга, перад уваходам у тую келлю, дзе Лютэр перакладаў Біблію, у адзін час з нашым Скарынаю сцвярджаючы права на роднае слова, прыемна было чуць ад фраў-гіда, што тут быў калісьці Пётр Першы, а потым Талстой, малады яшчэ, але ўжо слаўны аўтар трылогіі і ваенных апавяданняў. Ён, як сведчыць запіс каменданта гэтага замка, больш за ўсё несалідна катаўся на восліках...

Спускаючыся зверху ўніз на машыне, у засені магутных дрэў мы абагналі цэлую чародку гэтых пацешных, несмяротных верхавікоў.

І вослікі тупалі вельмі важна, і малеча сядзела на іх з вялікім гонарам.

Ах, несалідны Леў Мікалаевіч!

* * *

Айзенах. Спёка на плошчы.

Мімаходзь, праз адчыненыя бакавыя дзверы, зазірнуў у пусты халадочак сабора і небывала ўсвядоміў, як многа яшчэ на свеце людзей, якім гэта трэба.

Дома мы часта забываемся, што свет працягвае жыць па-свойму, а мы павінны ўмець і ўвесь час вучыцца культурна сцвярджаць, абгрунтоўваць сваё.

* * *

Вяршыня нямецкай сентыментальнасці.

Голенькі, сыценькі, прыгожанькі Ісусік Хрыстосік і такі ж самы Іванька Хрысціцельчык — на траўцы, у сонейку — даюць адзін аднаму буську...

Бачыў гэта, здаецца, у Гоце, яшчэ ў адным замку, яшчэ ў адной галерэі.

* * *

Адны ўцякаюць ад свайго, па-спажывецку прысмоктваюцца да чужога, лепшага, гатовага — абы лягчэй, смачней пажыць. А іншыя лічаць, што трэба вучыцца, як гэта лепшае наладжваць дома. Цар Пётр Вялікі, граф Леў Талстой, мужык Міхайла Ламаносаў. Пра іх тут згадваць даводзіцца часта.

* * *

Зноў і зноў прыходзіць думка:

А як жа, як, як у такой цудоўнай прыродзе, у такой зайздроснай культуры можна было дайсці да Асвенцімаў?..

* * *

Усплыў на памяць расказ ленінградкі, перакладчыцы, што ехала ў адным купэ са мной у Брэст, насустрач гэдээраўскай дэлегацыі.

На Піскароўскіх могілках маладыя немцы-турысты ўбачылі старую жанчыну ў чорным, якая моўчкі, сурова глядзела на іх, стоячы каля магілы.

Калі ім сказалі, што гэта маці цэлай сям'і, пахаванай тут у блакаду, адзін з нямецкіх юнакоў не вытрымаў позірку старое — упаў на калені, пачаў са слязьмі цалаваць яе рукі і ногі, просячы прабачэння за тое, у чым яны, дзеці апошняй вайны, не вінаваты...

Што сказала ім тая жанчына — не ведаю.

* * *

Веймар. Зноў галерэя.

Гляджу на партрэты ўладароў ды магнатаў і думаю:

«Ад чаго яны так сыта, весела ўсміхаюцца? Ад працы, ад нядолі нашых продкаў?»

Нашых — у разуменні класавым, міжнародным, якое тут, не дома, прыходзіць неяк свяжэй і глыбей.

* * *

Абедаючы ў экзатычным сутарэнні гасцініцы «Пад сланом», я парушыў рэжым — дазволіў сабе кухаль піва. Больш з-за сімпатыі да таго глінянага, белаблакітнага, узорыстага кухля. Але не піва, відаць, і не стома, сабраная за некалькі дзён нервовага недасыпання, вінаваты ў тым, што ў доме Шылера я... ледзьледзь не заплакаў.

Аконная ніша ў тоўстай сцяне ідзе ад падвокання да падлогі. Сонца, якое ўжо добра схіліла з паўдня,

лілося ў гэтае акно, на падаконніку палалі барвовыя кветкі.

І мне раптам падумалася, што вельмі добра было б падсунуць у гэтай нішы столік да падаконніка і працаваць, калі яшчэ трохі адсунецца сонца.

Такое простае, а для мяне — даўно такое прагнае жаданне.

І вось іменна тады, калі яно, пачуццё гэтае, прыйшло, нас, толькі траіх у гэтым пакоі, на гэтым паверсе, дагнаў бесклапотны, бязгрэшны шолам. Знізу па сходах — з тупатам, гоманам, смехам — падняліся і запоўнілі пакоі, наш і суседні, піянеры. Нямецкія, у сінім, і польскія, з бела-чырвонымі гальштукамі. Румяныя, загарэлыя хлопчыкі і дзяўчаткі.

Скептык сказаў бы: як гэта проста, як гэта нават шаблонна, штучна, нацягнута...

І як сімвалічна — скажу я.

Хваляванне маё я супакоіў у гутарцы з няўрымслівымі, яшчэ па-дзіцячы непасрэднымі і ўжо крыху падзявочы, па-польску какетлівымі дзяўчаткамі з Гданьска. Яны стаялі, некаторыя зусім натуральна абняўшыся, з дзяўчаткамі нямецкімі.

...У доме Гётэ больш раскошы — і галерэя, і мінералы, і мэбля.

Аднак у абодвух вялікіх сяброў месца працы, тое месца, дзе яны аставаліся самі сабой, сам-насам са сваім богам, было і засталося абаяльна сціплае. Просты пісьмовы стол, паліцы кніг, ледзь не зусім аскетычны драўляны ложак.

Больш за ўсё хацелася глядзець на кнігі і рукапісы пад шклом — адзінае, што і я сяк-так умею рабіць.

У пантэоне дзве карычневыя труны справядліва рассунулі на бакі, пад сцены, вялізныя, цяжкія скрыні з рэшткамі нецікавых і непатрэбных людзей, багацеяў і ўладароў.

З-за вянкоў ледзь відны два надпісы на тарцах тых дзвюх трунаў: Schiller і Goethe.

І я паставіў у вялікую вазу з вадой, схаваную ў вянках, адну нашу белую гваздзіку.

Успомніліся словы Талстога пра тое, што калі б Пушкін здолеў прадбачыць, уявіць сваю славу на стагоддзе наперад — ён мог бы не вытрымаць, звар'яцець. Ды гэта падумалася ўжо на могілках, калі мы

выйшлі з пантэона, пра гэта я загаварыў з дзвюма сваімі спадарожніцамі. І адна з іх сказала, што Пушкін, вядома ж, прадбачыў. Бо не так гэта проста было гаварыць у той час пра свой помнік, што непакорнай галавой узняўся вышэй за імператарскі...

Двое беларусаў і немка, мы згадзіліся з тым, што прадбачыў, напэўна, і Гётэ. Пра гэта гаворыць ужо сама яго, калі прыглядзецца, ільвіная самавітасць.

Слава — славай, а веліч геніяў — у іх прыналежнасці чалавецтву, яго прагрэсу, таму найсвятлейшаму, адзінаму, што дае разумны, хвалюючы сэнс жыццю.

...Ад гэтых дум, ад гэтых пачуццяў — у цішыню Бухенвальда.

Цішыня і вячэрняе сонца. Птушыныя бесклапотныя галасы і кветкі дзікіх ружаў на рэдкіх кусціках вялікага адхону. І проста мілая, звычайная трава — яна нядаўна скошана і зноў, толькі без кветак, пайшла маладзенькай атавай.

Адгэтуль, дзе мы стаім, на вяршыні адхону, з-пад сурова-велічнай вежы са званамі на ўвесь свет, ад трох агромністых і васемнаццаці меншых чашаў з зямлёй, напоенай крывёю пакутнікаў з васемнаццаці еўрапейскіх краін,— адгэтуль так хораша і так сумна глядзець на багатую летнюю красу бязмежнай веймарскай даліны. Крытыя чарапіцай вёсачкі ў садах. Нівы. Пералескі. Сабраны ў жменьку горад на даляглядзе. Горад Гётэ і Шылера, калісьці так цынічна і так жахліва зганьбаваны суседствам з гэтай, яшчэ адной, міжнароднай Галгофай...

У трох вялізных чашах, проста ямах, падобных на гіганцкія варонкі, акружаныя кожная суровай каменнай сцяной, густа расце трава, робячы гэтыя чашы ўсярэдзіне зялёнымі.

Васемнаццаць меншых чашаў узняты на шэрых пастаментах з назвамі краін, з аднаго боку — на мове мясцовай, нямецкай, з другога — на мове кожнай названай краіны.

Каля нашага пастамента, убачыўшы пад ім, на суровым бетоне, жывыя, гарачыя кветкі, відаць, зусім нядаўна паложаныя тут незнаёмымі суайчыннікамі,— я зноў ледзь-ледзь не сарваўся...

Такія месцы, такія хвіліны належаць нам, хто чалавек, таксама, як нам усім належаць Гётэ, Талстой,

Ралан... многія ў многіх краінах, і родныя, і неабходныя ўсім.

Гэтага мне не хапала апошнімі днямі, і ў гэты стан душы, у гэты, вельмі сучасны, настрой я вынырнуў з Германіі замкаў і галерэяў, патрэбных толькі ў разумным спалучэнні з днём сённяшнім, з нашым трывожным заўтра...

* * *

Ён[1] сказаў бы: «Эгоизм — отвратителен».

Успомнілася пазаўчарашняя польская мама з дзвюма дачушкамі ў Готскай галерэі. Меншая дода ў портачках, стрыжаная пад хлопца, яшчэ без прыкметных адзнак жаноцкасці, жавала гумку і хадзіла зусім збоку ад мамусі, ад сястры (таксама ні дзеўка, ні дзяцюк, толькі без жвачкі), збоку ад гіда і ад таго, пра што гаворка, што паказваюць,— робячы ласку самім сваім існаваннем. Якая, жалю вартая, недарэчнасць,— не выпраменьваць з сябе, а ўсё толькі прымаць! Дый не збіраць нічога, а толькі прапускаць, як мясарубка... Мамуся, дзябёлая, але яшчэ нецяжкая былая красуня, лавіла словы дзяўчыны-гіда з незразумела лісліваи усмешкай, усмоктвала іх з мацярынскай прагнасцю — для ўсёй сям'і... Бог сабе з вамі, каб не тое, што гід сказала: «Гэтыя скарбы вернуты нам савецкімі сябрамі», а мама-турыстка выбрала момант і шапнула са сваёй прагна-ліслівай усмешачкай: «А колькі сябры забралі сабе?..» Так шапнула, што можна было пачуць, і мы пачулі. Гід гаварыла папольску, а ёй было сказана тым паўшэптам па-нямецку, відаць, з надзеяй, што «саветы» не зразумеюць. І гэта — полька? А калі так, ды ці думала яна хоць раз пра тое, колькі ж скарбаў яе народа вернута немцамі Польшчы з-пад руінаў... ну, хоць бы аднаго каралеўскага замка ў Варшаве?.. Не дзіва, што і мяшчанскія яблычкі падаюць недалёка ад тоўстага дрэва: яшчэ зялёныя, а ўжо непрыемныя сваім самалюбствам. Дзяўчына-хлопец са жвачкай, з капрызнай усмешачкай на губах, з пустымі і халоднымі вачыма. Пылінка той мякіны, што адсеецца часам, зародак той вяліка-

[1] Маецца на ўвазе Л. М. Талстой.

пышнасці, што недарэчна глядзіць з цяжкіх пазалочаных рамаў, з халодных п'едэсталаў непатрэбных помнікаў, з вялізных незакапаных скрыняў чалавечай гнілі...

* * *

Пішу ў машыне, на эрфурцкай рыначнай плошчы, спусціўшыся сюды з паднебнай вышыні магутнага сабора на гары.

Зачапіўся за гідаву фразу:

«Напалеон ставіў коней у гэтай святыні...»

Канавязь — каля цудоўнай старадаўняй разьбы па дрэве... Гэта — ад адчування ўлады, беспакаранасці пераможцы, ад жадання зрабіць пераможанаму як мага больш балюча. Гэта — ад звычайнай дзікасці, ад звычайнага хамства, якога так шмат яшчэ дрэмле ў людзях. Было даўней. Было нядаўна. Будзе яшчэ? Ці ўжо як быццам і пара, даўно пара было б канчаць!..

На саркафагу святога Севярына — у другім саборы, побач — несмяротная ўсмешка маленькага Хрыста. У камені вытрымала, перамагла стагоддзі. Усмешка не бога — усмешка дзіцяці. Як сімвал чалавечнасці, чысціні і надзеі.

Яшчэ адна, толькі што выпадкова пачутая, фраза:

«Гэта старое, як само чалавецтва...»

Можна сказаць і так:

«Трэба быць наіўным, каб думаць, што так няможна, не трэба, што так калі-небудзь не будзе».

Я належу, хачу належаць да такіх наіўных. Хемінгуэй пісаў, што калі чалавецтва пачне нарэшце расстрэльваць падпальшчыкаў вайны, ён гатовы выконваць гэты святы прысуд... Тут я, вядома, думаю пра актыўнасць у барацьбе за дабро.

* * *

Зноў Берлін, зноў атэль «Бераліна».

...Пакуль яго не пачнуць выхоўваць ды прымацоўваць да нейкай бацькаўшчыны, да нейкай закансерванай веры — ён усюды прыгожы. Быў, ёсць і будзе.

Так думаў я ўчора, седзячы ў наўмбургскай «баўэрнштубе», стылізаваным пад сялянскую хату рэстаране з нечакана вясёлай назвай — «Ягнячы хвосцік».

Думаў, гледзячы на двух чысценькіх хлапчукоў, што сядзелі з дарослымі за суседнім сталом і нібыта слухалі, а больш дык сумавалі.

Дарэчы, «ягнячым хвосцікам» там, у маляўнічай, сонечнай Цюрынгіі, вясковыя «муцці», матулі з пяшчотнай кплівасцю называюць сваіх малых любімчыкаў: «Oh du, mein Lämmerschwänzchen!» [1].

Перад абедам былі тры саборы — два ў Эрфурце і адзін у Наўмбурзе. Яшчэ тры сведчанні вялікай культуры дойлідаў і мастакоў старой Германіі, культуры, не бачыўшы якое, цяжка ўявіць яе суровую і часамі ледзь не пяшчотную прыгажосць.

Калі пра пяшчотнасць. дык чаго варты толькі наўмбургскія Ута і Рэгенільдзіс, празаічна гаворачы — дзве красуні ў камені, увасобленыя невядомым скульптарам XIII стагоддзя, дзве жанчыны, што і цяпер зачароўваюць. Першая сваёй строгай красой, а другая — «дачка польскага караля Баляслава Харобрага, адна жанчына, якая тут усміхаецца»,— сваёй усмешкай, што ажывіла, абяссмерціла і камень.

Яшчэ пра пяшчотнасць.

Той самы скульптар, які — «відаць, па веры сваёй» — пажадаў астацца невядомым, у тым самым камені-ракушачніку, нібы дзявочымі рукамі карункі ды каруначкі, замілавана вывязаў лістоту дубу, клёну, ляшчэўніку... І лістота гэтая ледзь што не шуміць, ледзь не зелянеецца на тонкіх, стрункіх калонах, жыва напамінаючы тую, што за сценамі сабора.

А што да суровасці... можа лепш — строгасці, у велічнай красе трох учарашніх і іншых святыняў, якія мы бачылі, дык мне найбольш, відаць, запомніцца магутная, пашарэлая ад стагоддзяў званіца эрфурцкага сабора. На яе мы, як быццам у самае неба, уздымаліся то простымі, то пакручастымі сходамі, час ад часу выглядаючы на свет праз вокны, то шырэйшыя, то вузкія, як байніцы. Бачылі пад сабой, нібы з самалёта, у дзіцячым здзіўленні, чырвоныя чарапічныя дахі, шэрыя сцены і зеляніну старажытнага горада, а пад саборам, пад гарою, на якой ён узвышаецца,— маляўнічы кірмаш на плошчы, дзе на сталах і ў вазочках капуста, букеты морквы і чырвань чарэшні...

---

[1] О ты, мой ягнячы хвосцік!

І да абеду, і пасля, да берлінскага вечара, была дарога — бясконцыя змены летняй красы, то палявой, то лясной, што не стамляе ніколі.

* * *

Хмарны ўчарашні дзень мы пачалі пазнавата. Глядзелі музеі: «Пэргамон-музэум», з велічным Пергамскім алтаром і «Свяшчэннай дарогай Вавілона», і «Нацыянальную галерэю».

З яе запомняцца:

Менцаль (чытаў пра яго падлеткам, у часопісе з рэпрадукцыямі карцін); Крэмар, стваральнік Бухенвальдскага мемарыяльнага комплексу; Тома, і яго партрэтам сястры Агаты, абаяльнай, простай дзяўчыны; вядомы ўжо Барлах і некалькі іншых, прозвішчы якіх не запомніліся, але ад пейзажаў, партрэтаў і жанравых палотнаў асталося светлае ўражанне.

Напрыклад, «Дзяўчынка ў пярэднім пакоі», відаць, прыведзеная ў багаты дом на службу, каля якое я, здаецца, упершыню так моцна, па-бацькоўску адчуў, што́ гэта азначае — аддаваць сваё дзіця ў чужую сям'ю, на паняверку.

Было б куды бяднейшае ўражанне ад Берліна, каб мы не заглянулі ў гэтыя суровыя, калі не сказаць — панурыя, і велічныя гмахі на «Востраве музеяў».

Хоць і думаецца, што знаёмства з ГДР выйшла ў нас крыху аднабокае, пейзажна-гістарычнае, плюс трохі літаратуры і адзін калгас...

Нічога не зробіш — мы госці. На першы раз дзякуй і за гэта.

* * *

Самая цудоўная, самая міжнародная музыка — дзіцячы смех у заапарку, каля вальера з разгулянымі медзведзянятамі. Жывы, агромністы вянок шчаслівых вачэй, вясёлага шчэбету, які раз-поразу выбухае сярэбраным, сардэчным смехам...

Ажно сам пастаяў, пасмяяўся. Не адзін, у нямецкім дарослым натоўпе.

*1969*

# НАД ПАПЛАЎКОМ

Уранні Шчара памаленьку праявілася для нас з настойлівай імглы, аднаму дала вялікага язя, другому яшчэ большага ляшча, трэцяму нечым парвала вуду... ну, вядома ж, мне, а потым, пасля абеду, сказала: «Годзе». Нават без клічніка, наглуха — ветліва і спакойна.

— Здрастуйця вам, рабята!

Шчупленькі, шустры дзядок. І не падумаеш, што яму ўжо каля дзевяноста. Абшарпаны, з рыбацкай зброяй ды з начыннем — як з паходу нейкага вяртаецца. У акулярах, начытаны, гаворку пра мудрасць жыцця падмацоўвае спасылкамі на Майсеева «Пятикнижие». Спыніўся каля нас пабедаваць.

— Год, рабята, сухі. Рыба ў Шчары з вясны яшчэ мела на гэта сваю сачусцьвеннасць. Шуснула ў Нёман!..

Пайшоў, патэпаў далей.

Я не сумую, седзячы доўга-доўга над нерухомым паплаўком, з пустою галавой і лёгкім сэрцам. Набіраюся духу зямнога, які прыдасца і наогул, і на тое, што нядаўна пачаў. Ды ўсё ж і ў гэтым стане вельмі хочацца, так хочацца, што нават верыцца — вось-вось ён жахне ў дно, мой паплавок, і прыйдзе вялікае, серабрыстае шчасце!.. Зрэшты, так мы і верым — не толькі ў рыбіну — усё жыццё...

На захадзе сонца, хмарным і цёплым, проці вады ў наш бок ад крутога светла-пясчанага берага на павароце паплыў бабёр, быстра ведучы чорнаю галавой трохкутнік зыблівага следу.

Над абрывам, каля крамянага нізкага дуба, устаў над вудамі наш дзядок. Далекавата, але так, што голас яго чуцён:

— Глядзі, рабята, бабёр!

Каб рыба бралася, стары рыбак не парушыў бы, мусіць, патрэбнае цішыні. А можа і тады парушыў бы? Бо ў голасе яго чуваць ледзь не блазенская радасць.

І мы залюбаваліся. Нібыта вось і прыйшла яна, частка таго, так доўга чаканага, шчасця.

Калі наш незвычайны госць — бабёр — параўняўся з намі, ці то зухавата, ці то гарэзліва ведучы над вадой, у самым дзюбіку трохкутніка, мокра-бліскучую лабаціну і адкрытыя чуткія ноздры,— я зацокаў яму языком. І ён нырнуў, падкінуўшы азадкам, нават пляснуў па вадзе пранікам тлустага хваста. Знік пад люстранай, растрывожанай роўняддзю. А потым вынырнуў — зноў каля дзеда. І дзядок наш зноў закрычаў.

Сонца стаяла побач з дубам, над дзедам і алешнікам. Барвовае і плоскае — вялізны, радасна-шчымліва сумны круг, якому вельмі ж не да спадобы апускаецца ў хмарную, сырую ноч.

*1969*

# ЦЁТАЧКА

— Дзеці, як тут праехаць на Ціхі Бор?

Парачка вясковых другакласнікаў. От сабе, так сабе хлопчык у шэрай, добра-такі пацёртай леташняй форме, без шапкі, палавенькі ды загарэлы. А дзяўчынка — ну, гаспадыня! Хусцінка «пад бараду», світар чысценькі, спаднічка, панчошкі, туфелькі, поўны партфель,— на пацеху. Прастадушна разумныя вочы. І павага, саліднасць — проста зусім як у мамы.

— Вам трэба было вунь дзе, там павярнуць, каля дубоў. Улева... Не, адтулека едучы — управа. Па той дарозе.

— А вы адкуль?

— Мы [illegible] Вішнякоў.

— Далёка гэта?

— Не, не вельмі.

Хлопец маўчыць, як маўклівы або зацюканы прымак, а гаворыць «сама». І ручкай паказвае ў той бок, дзе мне, нават і з вышыні майго росту, вёскі за ўзгоркам не відно. Расставацца не хочацца, і я пытаюся, нібы прашу:

— А можа вы правялі б нас?

Маўчанне. Вагаецца. Яно і ў «Масквічы» праехацца добра, але ж... І кажа нарэшце ці то па-даросламу заклапочана, ці то па-дзіцячы, ледзь не ўздыхнуўшы:

— Далекавата...

Цяпер ужо маўчанне з нашага боку. Мы — адзін на дарозе, а двух з машыны — проста любуемся.

— Ну, дык бывайце, дзеці, здаровы...

Усцешаныя гэтай сустрэчай, гаворым пра яе, а неўзабаве, ад'ехаўшы трохі, заўважаем, што Вішнякі — зусім за ўзгорачкам. А круг на Ціхі Бор, як хутка аказалася, кіламетры са тры.

І праўда, цётачка, далекавата.

*1969*

# ДОБРА БЫЦЬ МАЛАДЫМ

Стары канчае свой восьмы дзесятак. Не які-небудзь цяжкі, нямоглы, занудлівы дзед, а няраслы, рухавы, вясёлы і па-народнаму мудры дзядок. Толькі нядаўна ён адпусціў сабе доўгія валасы і бараду, жаўтлява-сівыя, настолькі ўжо «благочестивые», што да іх зусім-такі пацешна не пасуе старая шырпатрэбаўская кепачка з маленькім казырком. Зрэшты, кепачка сваё робіць: пад ёю вельмі надзейна схаваны німб яго крыху сектанцкага высакародства, саліднасці, і астаецца чалавек, які многа шукаў, не раз памыляўся, многа чытаў самых сур'ёзных кніг, многае ўмеў рабіць залатымі рукамі, зрабіў людзям нямала дабра — і «во спасение души», і проста па дабраце яе, гэтай душы, яшчэ ўсё неспакойнай і нястомнай.

І мне ён дапамог сім-тым за нашы трыццаць год нямала. Скажам, цяпер — сваім адчуваннем вясёлага, вострага слова. Таго, што з самых народных глыбіняў, ад той гаючай свежасці, якая пахне і першай баразной, і разварушаным гноем, і бела-ружовай пяшчотнасцю яблыневага цвету, і вострым палыном узмежкаў.

Неяк ён зноў заходзіў да мяне і зноў пакінуў на ўспамін, на добры смех ды падмацунак ёмкае, смачнае слова.

— Уставай — коні ў аўсе! — Так мы калісьці смехам будзілі адзін аднаго на начлезе. Чым не заклік да працы, да пільнасці? А крыху пазней, развітваючыся: — Будзь, Іване, здароў. Шукай, працуй, а коней у авёс — не трэба.

Пошукі ісціны, што хвалявалі яго ад ранняй, вельмі далёкай ужо маладосці, заўсёды праходзілі недзе паміж Талстым і Леніным. У 1919-м трыццацігадовы чыгуначны тэхнік, вегетарыянец і абстынент, ён быў у

родным гарадку членам рэўкома. Загадваў зямельным аддзелам. Чатыры папы на чале з благачынным — прыход быў багаты — у жніво звярнуліся ў рэўком з прашэннем выдзеліць панскага жыта і ім. Загземаддзела выдзеліў ім на чатыры сям'і дзве дзесяціны, наклаўшы на прашэнні такую рэзалюцыю:

«Згодна са словамі апостала Паўла — «Не работающий да не ест» — жыта прыбраць самім».

Днямі я выпадкова сустрэў яго на аўтобусным вакзале: дзед сабраўся ў родны гарадок, агледзець бацькоўскія магілы. З кашолкай у руцэ, накрыты несмяротнай кепачкай, з усмешкай, што не прапала і ў свяшчэннай барадзе. Пастаялі мы, чакаючы яго аўтобуса, пагаварылі. Да стаянкі адзін за адным падыходзілі аўтобусы: набярэ пасажыраў — пайшоў, праз нейкі час падыходзіць наступны. І ўсё не наш. То Клецк, то Навагрудак, то Нясвіж... Хоць вонкава і непрыкметна, а хвалюемся — і ён, і я. Бо ўжо і сутунаецца. Яшчэ адзін аўтобус!.. А каб цябе — зноў не наш: івянецкі!..

Дзядок засмяяўся. Без найменшай сувязі з вельмі сур'ёзнаю тэмай нашай размовы.

— Калі-та на ўскраіне гэтага самага Івянца,— пачаў ён,— стаяў святы на горачцы. Фігура з дрэва, унізе насаджаная на шпень. Гэта яшчэ да той, да царскай вайны. Студэнты... Можа і з маладзечанскай настаўніцкай семінарыі? Маладыя людзі заўсёды былі вясёлыя. І думалі некаторыя. Словам, узялі яны ноччу ды пакруцілі таго святога на шпяні, адвярнулі яго ад горада і напісалі на гэтай самай: «С... я на ваш Івянец! Пайду ў Валожын». Ха-ха-ха!...

Дзед канчае свой восьмы дзесятак. Добра і ў старасці быць маладым!

*1969*

# «У НАС В ГОРАХ...»

Неяк на Волзе, седзячы пад вечар на палубе, мы з сябрам заспрачаліся, што лепш — ці такое вось шумнаватае ды мітуслівае турысцкае падарожжа, ці дома, у Беларусі, засесці з вудамі над ціхай рэчкай — хоць з месяц на адным месцы?..

Потым, застаўшыся адзін, я запісаў:

«У самалёце або ў верталёце, на брыючым, абматаў бы, здаецца, усю Зямлю не раз, не два, не тры — ва ўсіх напрамках.

Як мама калісьці клубок наматвала.

Тады здавалася: такі ж вя-ліз-ны!..»

* * *

З ранняга ранку хадзіў па ціхім яшчэ Ерэване, сонечным, свежым ад ценю і вады, і гаварыў сам сабе, што ранавата, мусіць, расчульвацца, аднак жа і радасна пазнаваць яшчэ адну краіну, яшчэ адзін народ. Толькі захоўваць яснасць галавы і не разменьвацца на дробязі — на святах гэта трэба памятаць.

Сяджу на скверы, дзе замест кветак — процьма малых і маленькіх фантанчыкаў. Сярэбраныя, гаманлівыя шчоткі вады, даўжэзныя і адна за адной. То нізенька цурчаць фантанчыкі, то вось пачалі булькатліва расці, уздымацца. Кветкі растуць так хутка, дружна толькі ў казках, па загаду нябачнага чараўніка. Пераможная песня вады, яна асабліва да душы ў той краіне, дзе вады мала, дзе за яе, як за жыццё, змагаюцца спрадвеку.

Што мала тут яе — так думалася яшчэ да сустрэчы з фантанамі, калі глядзеў праз акно самалёта на бурыя, голыя горы.

...Гістарычны музей.

Старажытнасць культуры не павінна бянтэжыць: «Ат, што ты ні рабі — няма нічога новага!..» Яна павінна радаваць. Толькі трэба знайсці сваё месца, месца свайму слову ў лёсе свайго народа і, разам з тым, у лёсе ўсяго чалавецтва. Сапраўднае не гіне. Веліч гісторыі кліча і гоніць да сціпласці, а баіцца яе, гэтай велічы, толькі пусты чалавек.

Гэты вось не баіцца. Бачыш, як ён — наш чорны, быстравокі гід — упэўнена, пераканана гаворыць, чэрпае з бездані роднай мінуўшчыны, шчодра дае нам напіцца:

— Калі народ прыгнечаны чужынцамі, тады пачынаецца барацьба за адстойванне роднай культуры. Майстар майстру перадае, і яна...

Я зайздрошчу табе, незнаёмы таварыш!..

...Не трэба саромецца, што на чужой мове ты гаворыш з родным акцэнтам.

У дзяўчыны ці маладзічкі, якая вадзіла нас па музеі Хачатура Абавяна, гэты родны акцэнт гучаў вельмі міла. І дарма яна сарамліва апраўдвалася перад пачаткам экскурсіі. Пра гэта я ёй пасля, калі мы развіталіся сказаў. Гэта ж не невуцтва, а моцнае карэнне роднага.

...Багацце, раскоша не дадаюць таленавітым людзям абаяльнасці.

Гэта адчувалася ў гарадскім доме-музеі Авеціка Ісаакяна, куды мы прыехалі з Абавянавай вёскі Канакер, з яго прахалоднага каменна-землянога доміка, дзе не экзотыка расчульвае, а беднасць, прастата, жыццё — адно з народам.

* * *

Учора на туманянаўскім пленуме некалькі разоў за дзень, ды на самым высокім трыбунным узроўні, з дзяржаўнымі дзеячамі, палкаводцамі, акадэмікамі і замежнымі гасцямі ў прэзідыуме, паўтаралася от сабе казачка пра сабаку і ката, гісторыя з непашытаю шапкаю.

Гледзячы на партрэт юбіляра, справа і вышэй над сцэнай, на яго разумную, добрую ўсмешку, думаў, што і я мог бы ў зале падняць руку, пайсці на трыбуну і

расказаць нашаму літаратурнаму і чытацкаму інтэрнацыяналу, якое шчасце гэтая казка, напісаная калісьці семнаццацігадовым паповічам, дала яшчэ аднаму хлопчыку і яшчэ аднаму бацьку.

У Беларусі, на якую ён, той вясковы паповіч, можа і не разлічваў...

Вось яна — доля сапраўднай літаратуры.

* * *

Канчаецца верасень, а спякота — па-летняму, з самага ранку. Былі на гары Эрабуні, каля раскапаных рэштак святыні Халда. Потым ціха стаялі на другім узвышшы над Ерэванам, каля велічнага помніка ахвярам генацыду — турэцкага зверства ў 1915 годзе.

Адзін з замежных, здаецца, сірыйскіх армян, стары, сутулы чалавек, стаяў на каленях перад полымем Вечнага агню, у нашым натоўпе, які ва ўрачыстым, глыбокім маўчанні слухаў жалобную Камітасаву музыку, што выплывае нібы з глыбіняў зямлі, разам з імклівым, стрыманым і страсна гаманлівым полымем.

Другі стары, таксама іншаземец, плакаў каля каменнай сцяны, затуліўшыся ў кут.

Нам шапнулі, што гэта — тыя з нямногіх заходніх армян, каму ўдалося ўцячы ад вынішчэння.

Успаміны, ад якіх звар'яцеў Камітас...

Пасля абеду ездзілі ў Эчміядзін, рэзідэнцыю «каталікоса ўсіх армян», дзе аглядалі сабор, збудаваны ў самым пачатку чацвёртага стагоддзя.

За вокнамі аўтобуса — вінаграднікі, кукуруза. Шчодрае сонца. І бясконцае каменне...

Цудоўны адвячорак у даліне Арарата, за горадам Акцемберан.

Яшчэ адзін велічны помнік, прысвечаны перамозе над туркамі ў 1918 годзе, цэлы мемарыяльны комплекс, узнесены зусім нядаўна. Стылізаваныя каменныя арлы, якія адразу здаліся туркам ракетамі,— быў нават заяўлены адпаведны пратэст.

Граніца адгэтуль зусім недалёка.

А за граніцай, за быстрым Араксам, за бязмежжам даліны — пад самым небам — Арарат. Вяршыня, асветленая сонцам, якое для нас заходзіць, вяршыня, за

якую зачапілася і шчасліва прымлела лёгкае, светлае воблака.

Пазней, пакуль мы за экзатычна-багатым, ледзь не на ўсю даліну доўгім рэстаранным сталом елі хлеб гор «лаваш», сонцападобныя памідоры, вострае «лобі», пяшчотны вінаград, пакуль мы пілі глінянымі кубкамі маладое віно і драўляным апалонікам чэрпалі з бяздонных, шурпатых збаноў густы, халодны «мацун», кіслае малако,— над яшчэ ўсё асветленай вяршыняй, над зіхатлівым шаломам свяшчэннай гары надоўга затрымаўся поўны ціхі месяц.

Што за цудоўная зямля! Як лёгка ідзецца па яе суровай камяністасці, пад небам, усыпаным буйнай жарствой яшчэ ўсё далёкіх планет!..

І яшчэ адзін крывавы неразблытаны вузел нянавісці паміж двума народамі... З армянамі пра туркаў — цяжка гаварыць.

Ды што там Турцыя... У юбілейных дакладах, выступленнях і проста гутарках тут неаднойчы згадвалася і вельмі нядаўняя, калі браць на маштабы армянскай гісторыі, варажнеча паміж народамі Закаўказзя.

У адзін з найбольш скаладаных тут дзён першай рускай рэвалюцыі паміж варожымі, гатовымі вось-вось абліцца крывёю, армянскімі і азербайджанскімі вёскамі з'явіўся, як небывалы цуд, заяснеў над зямлёй белы сцяг. У руках незвычайнага парламенцёра — «паэта ўсіх армян» Туманяна. Пад агонь, які мог выбухнуць вось-вось, мірыць абдураных рабацягаў паэт пайшоў — як непаўторна гэта гучыць! — «ад вёскі да вёскі толькі ў суправаджэнні двух-трох добраахвотных целаахоўнікаў з мясцовых сялян...»

Белы сцяг — не знак капітуляцыі, а сімвал разумнага міру.

* * *

Зялёная і цеснаватая даліна паміж гор, пакрытых яшчэ ўсё не зусім асеннім лесам, з рэдкай прозалаццю ў густой і мокрай ад начнога дажджу зеляніне. На горы, над якімі раніца, нібыта нехаця палягла-пацягнулася воўначка папялістых, імглістых хмарак.

Пераклікаюцца пеўні. Зрэдку акажацца сабака. Вёска на ціхай ускраіне курортнага горада Дзіліжана.

Стаю на двары пансіяната, яшчэ ўсё сонна-ціхага. Чую дзіцячы тупат — хлопчык бяжыць па сцежцы паміж дрэў, з гары. Бачу — ужо з чырвоным гальштукам, па-школьнаму. Заўважыў мяне, усміхаецца.

Зноў успамінаю Расула Гамзатава. Як толькі ён ідзе на трыбуну любога вялікага сходу, я заўсёды чакаю, упэўнены вопытам, што і яшчэ адно сваё выступлене тоўсты, вясёлы гаварун пачне звычайна і для яго, таленавітага, шаблонна:

— У нас в горах...

Успомніў я гэтую гістарычную фразу ўчора ўранні, у Кіравакане, калі мы пераселі з цягніка ў аўтобусы і пацягнуліся, павіліся даўжэзнай вужакай машын па серпанціне бадзёрай, насцярожанай і страшнаватай горнай дарогі. У Туманянаў родны Дсех — высакагорнае сяло, гняздо паэта.

«Не, ты не маніш, аварац,— па-ранняму свежа думалася мне.— У вас у горах, няхай сабе не ў Дагестане, а ў Арменіі, і сапраўды прыгожа!..»

Захапляюць —

і горы, непрыкрыта-суровыя, бурыя, са скальнымі абрывамі, са струпамі камення, якое, здаецца, вось-вось пакоціцца з-пад неба на дарогу;

і горы, пакрытыя лесам, багатыя, цёплыя, таямнічыя;

і раскінутыя на схілах, у далінах і на раўнінах плато чырванадахія каменныя вёскі;

і рэкі з нервова-імклівай, шумнай і нібыта мыльнай плынню...

Я пралятаў над сонечна-снежнымі хрыбтамі Каўказа і Гіндукуша, дыхаў гордым паветрам гісарскіх і карпацкіх перавалаў. Я бачыў Арарат. Здалёк як светлую мару, якая таксама здаецца часамі то блізка, то яшчэ бліжэй. Я трохі ведаю горы, і я іх люблю, я іх бачу перад сабою цудоўнай загадкай, аднак...

Аднак найпрыгажэйшае ў горах, як мне здавалася ўчора,— дзеці.

Ты тут заўсёды над нечым, над некім вышэй — не трэба і на трыбуну ўздымацца, каб паўтарыць за Расулам ягонаю фразай:

— У вас у горах, таварышы, цудоўныя дзеці!..

Яны віталі нас на дарогах, на вуліцах і на плошчах, пляскалі безліччу маленькіх далоняў, махалі

агеньчыкамі гальштукаў, смяяліся і радасна крычалі. Як быццам мы — богведама што, як быццам наш праезд... Што ж, наш праезд — гэта з'ява іх свята, усенароднага, на здзіўленне і зайздрасць. Мы жартавалі, што дзецям такое маханне і крык — лепш, чым сядзець за партай. Ды гэта няпраўда, гэта не ўсё... Зрэшты, як бы там ні было, а столькі дзіцячага смеху, а столькі чыстых вачэй. Не трэба нават іншую мову разумець — мова дзяцей здаецца зразумелай, як птушыны спеў.

...Над мокрым лесам гор, над аблачынамі імглы, ужо гатовай знікнуць, заяснелі напа́лам усходу хмары і, над хмарамі, чысты блакіт.

Хлопчык, які нядаўна бегаў, тупаў за мною, пакуль я, стоячы, пісаў у блакноце, у школу пойдзе на дзевяць. Цяпер восем, а ён ужо з гадзіну на нагах. Чорны, вялікавокі смехунок, якому без дапамогі бацькі, таксама чорнага, ціхманага вартаўніка гэтага пансіяната, цяжка было адказаць па-руску на маё пытанне: «А чаму ты не ў школе?» Я падняў хлапчука пад сагнутыя і да бакоў прыціснутыя локцікі — вы-со-ка над зямлёй і, пад шчаслівы смех яго, зноў успомніў учарашняе мноства дзяцей і ўчарашнія сен-ты-мен-таль-ны-я слёзы, што так і прасіліся, як ты ні бараніся ад іх.

Успомніў таксама і выступленне Іраклія Абашыдзе на пісьменніцкім з'ездзе 1967 года. Словы яго пра слёзы Горкага, калі той з трыбуны Першага з'езда савецкіх пісьменнікаў глядзеў на піянераў, што віталі з'езд.

«Я не разумеў тых яго слёз, хоць быў у той час, трыццаць тры гады таму назад, значна лепш, чым цяпер, падкаваны тэарэтычна. Цяпер я іх разумею. Відаць, для таго, каб што-небудзь зразумець, патрэбны духоўны вопыт, духоўная спеласць».

Радасна уражаны гэтымі словамі, я ішоў па Краснай плошчы, з пасяджэння ў гасцініцу, убачыў перад сабой, у нашым пісьменніцкім натоўпе, Абашыдзе, дагнаў яго — пажылога, высокага, нават нібы панурага з выгляду акадэміка — і падзякаваў за сваё хваляванне.

...Пішу гэта на верандзе.

А нізам зноў прабег, пратупаў хлопчык, з усмешкай гледзячы на мяне.

Сонца ўстала над горамі, а хмары так і не сышлі — заігралі іншымі фарбамі, весела растрасліся паміж зелянінай узбоччаў даліны.

Яблыкі падаюць з яблыні на асфальт і самі бягуць па адхоне дарогі.

За прымітыўнай і па-нашаму, па-вясковаму празаічнай агароджай з жэрдачак стаяць цяляты. Бурыя, з настаўленымі светлымі вушамі, з вільготнымі пыскамі ў белых рамачках святлейшай поўсці, яны глядзяць на мяне з наіўнай, тупаватай цікаўнасцю — сябры і майго маленства.

У росным голлі спакойна, не спяшаючыся, даспяваюць вялікія зялёныя грушы.

Сяды-тады паміж лісця ападзе, заіскрыцца перад сонцам кропля расы.

Хлопчык з гэтай цудоўнай даліны быў, напэўна, учора на туманянаўскім свяце ў вялікім высакагорным сяле. Бачыў я ўчора такога. З рукой у мамінай руцэ ішоў ён у царкву (ператвораную ў этнаграфічны музей), дзе служыў калісьці вясковым святарам бацька вялікага армяніна, «благороднейший человек», як называў яго сын. Хто ведае, кім ён будзе, той учарашні хлопчык, якіх вышыняў дасягне. Аднак з рукой у мамінай руцэ — няхай сабе такой карэлай ды патрэсканай — хлопчыку вельмі нядрэнна...

Мой хлопчык, сённяшні, пайшоў нарэшце ў школу: яго не чуваць.

Замест пеўняў і сабак у даліне, дзе вёска і дарога, загаварылі маторы.

* * *

«...Но почему тебя пережила любовь моя?»

Па-ўсходняму гэта гучыць зусім не сентыментальна.

Тут, на гары Мтацмінда, над раскошнай панарамай сонечнага Тбілісі, у які мы прыехалі прадаўжаць туманянаўскі юбілей, тут, каля магілы Грыбаедава, мне ўспомнілася іншая трагедыя і іншы надпіс.

У мнагадзетнай і небагатай удавы ўтапіліся ў касавіцу, купаючыся позна ўвечары, дзве старэйшыя дачкі, работніцы і красуні.

Нядаўна, праз трыццаць з лішнім гадоў пасля таго здарэння, ходзячы пад старымі соснамі тых могілак на гары, я набрыў на шэры, самшэлы помнік. На ім, пад заржавелым чыгунным крыжам, абавязковымі літарамі ЗПРБ [1] пад апошнімі біяграфічнымі дадзенымі не аднаго, як звычайна, раба, а дзвюх божых рабыняў стаяць два беларускія радкі.

Ой вы, сосны, не шумеце,
Маіх дочак не будзеце.

Ярка ўявілася — цяпер, у Грузіі,— як тая маці бабскаю справай, у цемры свайго беспрасветнага гора, запрагала каня, скрыпела коламі па каляінах, таргавалася з местачковым умельцам і нарэшце, сышоўшыся на цану, дала яму пакамечаны ў хусцяным вузельчыку і распрастаны непаслухмянай рукой лісток паперы. З вучнёўскага сшытка, у клетачку ці ў дзве лінейкі. Папрасіла майстра выдзяўбаць добра ўсё — тыя ўсе літары і гэтае яшчэ, чаго другія не пішуць. А ён за лішняе не ўзяў, толькі зірнуў на яе, узняўшы вочы ад радкоў, напісаных няўпэўненай рукой адной з дзвюх меншанькіх, што яшчэ «бегаюць у школку». Напісаных пад маміну дыктоўку.

Сама прыдумала?.. Пачула гэта калісьці?.. А што — не ўсё роўна?..

Дзевятнаццігадовы юнак, я тады, у далёкай дараснёўскай рэчаіснасці, запісаў сабе новую тэму апавядання. І, як многія іншыя тэмы, не вырашыў яе, нават і не пачаў, хоць пачуцці і хвалявалі мяне. Асабліва ў той ліпеньскі вечар, калі мы, моладзь трох вёсак, неслі па вузкай, калматай дарозе дзве труны, калі мы апускалі і закопвалі іх у адной шырокай яме пад соснамі — і тады ўжо старымі. І тады, і доўга яшчэ я не ведаў, што мне рабіць з маім хваляваннем...

І вось калі, вось ажно дзе яно адгукнулася ў сэрцы.

* * *

Нечакана, міжволі ўявілася наша Зямля, акружаная безліччу пастаянных успышак — бясконцымі зменамі адзінак і пакаленняў.

---

[1] Здесь покоится раб божий.

З мноствам людзей, блізкіх, знаёмых і проста бачаных за маё паўстагоддзе на трох сяк-так абжытых мною кантынентах, з мноствам вядомых па кнігах і карцінах, па музыцы і кіно,— рэальна і паэтычна ўявілася — не перадаць...

І адно пранізвае гэтыя ўспышкі, гэтыя змены — тое, што астаецца, што памнажаецца, імя чаму — набытак чалавецтва, яго гісторыя, яго маральны вопыт, яго несмяротнасць.

*1969*

# ДАЖДЖЛІВЫ, СОНЕЧНЫ ЖНІВЕНЬ

Трэці дзень цвіце мой адзіны жоўты гарлачык паміж талерак-лістоў. Трэці дзень, то седзячы, то лежачы, гляджу на бела-блакітныя бочачкі паплаўкоў. Часцей за ўсё — праз рэдкі частакол абгрызенага каровамі аеру.

Уранні туманец шпарка ішоў за плыннёю ракі, стараючыся не адстаць. Дзень праяўляўся без чыстага сонца, мяккім святлом. Яшчэ не абсохла раса, а ўжо з сітнягу, у якім я стаяў на мыску, пачалі стартаваць стракозы. Пад несціханы булькат ручаіны, што ўпадае ў Шчару. Бацька бусел ці, можа, маці бусліха з чарнадзюбымі падлеткамі спаважна хадзілі сабе паблізу, не вельмі каб зважаючы на рыбака. Сойка дзерлася на тым баку, у лістоце. Певень у недалёкай вёсцы праставушна рабіў сваё — кукарэкаў раз-поразу, нібы адзін, той самы ўсё, а не на змену з іншымі.

Добра, спакойна на душы. І цяпер, адвячоркам, калі збіраецца памаленьку на дождж, пагруквае над заходнім даляглядам. І ўранні, калі туманец спяшаўся за плынню. І ўчора, гэтай парой, калі мы, пакінуўшы нарэшце ўпарта нерухомыя паплаўкі, сышліся воддаль ад сваіх завоінак і весела плавалі ў вадзе ды ў сонцы ласкавага вечара.

Большую частку жыцця чалавек праводзіць у адзіноце. Чаму некаторыя людзі баяцца, не любяць яе?..

І яшчэ адно хоча ў блакнот:

Разлука з блізкімі, любімымі, разлука назаўсёды і туга па іх — гэта таксама адчуванне абавязку. Перад галоўным у жыцці. А разам з тым — і абавязак перад тымі, што нас пакінулі. Пакольні я не ў зямлі, а пакуль што наверсе, у шчасці свядомых дзён і хвілін.

Добра вось так пісаць — калі папера і душа ў траве.

* * *

Раніца сёння, пасля начнога дажджу, лагодна свежая, па-святочнаму, хоць і не свята, ціхая, пад шэрай павалокай хмар, якія ці то аддалі ўжо ўсё, што меліся аддаць, ці то яшчэ збіраюцца падсеяць.

Старшыня прыехаў па мяне, як дамаўляліся, у шэсць.

— Эх, дарагі мой, каб вы толькі бачылі — тры ласі на дарозе! Тры асілкі! Якія прыгожыя!..

Ён захапляецца нягучна, з асцярогай,— дом адпачынку калгасны, ды ў ім цяпер адпачывае інтэлігенцыя з дзецьмі. Ён паўтарае сваё захапленне і за рулём «газіка», які з памяркоўным гудзеннем нясе нас па лясной, з асаджаным пылам, дарозе.

— Вось тут стаялі! І я перад імі стаяў!

Радасць яго перадаецца мне. Яшчэ і зайздросна на дадатак, і прыкра, што вось жа мне зноў не пашанцавала. Але і прыкрасць, і зайздрасць — не безнадзейныя, нібы мне жыць яшчэ ды жыць...

Мы ведаем адзін аднаго нядаўна, але як быццам і нядрэнна. Часамі мне здаецца, што ў гутарцы са мной, пісьменнікам, ён крышку пазіруе, паварочваецца лепшым бокам. Тады, для раўнавагі, я дакараю самога сябе пытаннем: «А ты што, мала пазіруеш? І перад ім...» Але часцей мне думаецца, што мы са старшынёй забываемся пра такое, больш міжвольнае, чым свядомае пазіраванне і проста жывём сабе побач, здаволеныя нашымі нячастымі сустрэчамі, ён — ахвотна знаёмячы мяне з тым, чым ён жыве, а я — ахвотна знаёмячыся з гэтым маляўнічым кутом, з новымі людзьмі.

Сёе-тое я ўжо тут ведаю.

З заатэхнікам Люсяй я, напрыклад, сустракаўся летась, тады яшчэ чуў пра яе. І цяпер, калі мы пасля некалькіх кіламетраў мокрага лесу выязджаем на палявую дарогу, і неўзабаве спыняемся каля крайняга доміка яшчэ соннай вёскі, я пазнаю гэты домік і загадзя, вачыма памяці, бачу яго маладую гаспадыню.

«Газік» наш прыпыніўся каля плота, за якім над мокрымі градамі сям-там тырчаць вялыя ад макрэчы сланечнікі і вішні з рэшткамі нядаўняй вераб'інай раскошы — апошнімі недакляванымі ягадамі.

Люся выходзіць з доміка ці то на стрыманы покліч

нашай машыны, ці то заўважыўшы яе праз акно яшчэ да сігналу.

У накінутай сцёганцы, светлавалосая, у белай хусціне, з прыветлівай усмешкай. Вясёлая і працавітая. Гэтага мала. Такія ўжо бывалі. Таксама, як яе жыллё — ужо не хата з лучынай, а спраўны, пафарбаваны охрай домік пад шыферным дахам, з тэлеантэнай над ім, з электрычнасцю і газам на службе ў гаспадыні,— таксама і гаспадынька — не проста ласкавая, спраўная маладзіца, а загадчыца фермы і студэнтка-завочніца.

Пакуль яны вядуць сваю будзённую, дзелавую гутарку, я, мне здаецца, непрыкметна любуюся Люсяй і ўспамінаю дзве старонкі яе біяграфіі. Выпускны вечар у дзесяцігодцы, «блакітны вальс», калі бойкая выпускніца асмелілася і вывела на круг самога старшыню, такога культурнага, толькі што з раёна. А пасля гутаркі з ім задумалася дзяўчо, ці не застацца ёй і сапраўды ў сваёй вёсцы цялятніцай. І гора маладзенькай цялятніцы ўспомнілася. Як адна з яе падласак па звычаю ўцякла ў гушчар — цяліцца. Трое сутак шукала яе Люся. Спачатку проста хадзіла па лесе, гукала ды плакала, а потым здагадалася і пачала чакаць карову каля вадапою, лясное рачулкі. І дачакалася. Ужо з цяляткам.

Я непрыкметна, здаецца мне, назіраю за тым, якімі добрымі вачыма гэты пажылы, бывалы мужчына, цяжка паранены франтавік глядзіць на маладую, здаровую, вясёлую амаль красуню, і ўспамінаю многіх яго памочніц, у іншых вёсках калгаса. Даяркі, заатэхнікі, учотчыцы, аграномы...

— Мяне часамі,— смяяўся неяк старшыня,— называюць бабскім угоднікам. І сябры, і начальства. Многа, бачыце, у мяне дзяўчат ды маладзіц на самых адказных участках. І праўда — больш, чым мужчын. І кожная, скажу вам, на сваім месцы.

Зноў едзем. Зноў любуюся няяркай, дзікаватай, не надта шчодрай на хлеб красою палёў. Узгоркаватых, з частымі пералескамі, з кустамі ялаўцу і валунамі на абочынах дарогі.

Насустрач нам, па палявой дарозе, ідзе... Неўзабаве становіцца ясна — ідзе малады чалавек. Ледзь не падлетак яшчэ. Без шапкі, светлавалосы. Пакуль мы з ім параўняліся, старшыня паспеў сказаць, што гэта адзін

з трох сыноў каваля, старэйшы, дапрызыўнік. Усе тры хлопцы — механізатары. Талковыя. Вось жа работы ў полі сёння няма, свята, так сказаць паняволі, а ён ідзе. Вядома ж, да свайго камбайна.

Мы спыніліся. Яны здароўкаюцца, як дарослыя, юнец і пажылы, і пачынаюць гутарку. Зноў дзелавую. І я зноў заўважаю ў позірку старшыні, як і з Люсяй было, стрыманую бацькоўскую закаханасць. І сапраўды — прыемны хлапчына, гэты камбайнер. Ладная, відаць, сям'я ў таго не знаёмага мне каваля. Меншы яшчэ не дарос да камбайнера, ездзіць са старэйшым братам, вось гэтым, за памочніка. Пра гэта я даведаўся цяпер, з гутаркі, якую слухаю. І неяк цёпла ад нямоцнага жадання спытацца ў дзецюка ды пачуць у адказ, што той, які малы яшчэ, вядома ж, спіць сабе цяпер, законна папаўняючы пад дождж сваё штодзённае недасыпанне.

Мы снедаем у хаце старшыні, удвух. За вялікім акном, у садзе і ў агародзе дождж. Свята да вечара. Шчыра кажучы, нам не пашкодзіла б узяць па маленькай, аднак мы паедзем далей, гаспадар за рулём, а госць адзін не прывык, дый на душы ў яго добра і так, сваім ходам, без чаркі.

Я слухаю гаспадароў расказ пра тое, як на пасяджэнні праўлення калгаса нядаўна разглядалася адна вельмі ж ужо непрыгожая справа. Сын адмовіўся даглядаць сваю адзінокую, старэнькую маці, якая жыве асобна.

— І мы сказалі яму: ты не варты таго, каб называцца сынам гэтай жанчыны. Яна ж столькі папрацавала на сваім вяку, столькі пагаравала. Два сыны яе, два браты гэтага булавы, загінулі на вайне. Гэта што — колькі слёз? «Не плачце, мама,—сказалі мы ёй на праўленні.— Мы вашу старасць дагледзім. Мы ў састаянні вам...»

Мне ўжо не здаецца, што я любуюся субяседнікам непрыкметна для яго,— я заўважаю ў вачах яго слёзы і думаю, гледзячы ў гэтыя, крыху стомленыя, крыху журботныя вочы:

«Харошы ты, патрэбны, дружа мой, чалавек!..»

* * *

Позняя ноч. Цішыня. Старонкі добрай кнігі.

А за акном майго пакоя на другім паверсе, у сасново-дубовай цемры раптам зноў, як часта паўтараецца ўдзень, заклекаталі на гняздзе буслы.

Нібы воплескі пасля маўклівага слухання.

Сваё жыццё, свая радасць.

* * *

Узыходзіць сонца, а на ўвесь хмарны захад — вясёлка. З-за яе толькі варта ўставаць у чатыры, брысці сюды тры кіламетры, цярпліва, часта беспаспяхова сядзець над паплаўкамі.

Толькі што адзудзелі камары, супакоіўся пад аерным берагам бабёр, а ўжо над альховым кустам, за якім я, прытаіўшыся, сяджу, загаманіла звонкая пчолка.

Нядаўна над ціхай ракой праляцеў — важны, як паліцэйскі чын — каршун.

Дождж трохі падзубаў валавяную роўнядзь вады, і вось вясёлка, што нядаўна знікла, зноў выядрылася, на ўсю сваю красу. І на небе, і, левым краем, у вадзе.

Дождж зноў зашастаў па лісці, парабацініўся навокал паплаўкоў. Відаць, збярэцца-такі, і добры. Разпоразу чуваць груднoе, стрыманае грукатанне грому. Захад зусім перамог — неба абложана там грунтоўна, сіняя цемра налазіць сюды, грыміць ужо над самай галавой...

Густа зашастала на тым беразе па алешніку. Пайшло па Шчары плюскатам, кружочкамі ды пухірамі. Гэта — дождж!

...Так і прагнаў нас дахаты. Апошняе пра яго, папярэдні абзац, запісваю ўжо на стале.

* * *

Учора была навальніца. З громам, ад якога раскалвалася неба. З ветрам, ад якога стагналі на ўзлессі дубы і лівень насіла, як завіруха носіць снег. З градам, што і траву, і пясок, усыпаныя шышкамі, пакрыў ледзяной шурпатасцю.

Ад ракі мы ледзь паспелі дабегчы да эстраднай ракавіны, дзе прасядзелі нягоду. Вярнуліся адтуль,— у сандалетах на босую нагу, у безрукавачках,— як тыя японцы ў нечакана ды небывала суровыя замаразкі, што нядаўна былі напалі на іх.

Цяпер зноў сонечны поўдзень.

І добрая вестка пра тое, што град прайшоў амаль зусім не над полем, дзе яшчэ грэчка ды авёс.



На ўскраіне лясное вёсачкі, крыху адсунуўшы далей сасоннік, бялеецца сценамі ферма. Пабудаваная нядаўна, «па апошняму слову тэхнікі». У доўгім, светлым кароўніку хоць і не душна, але пах стаіць густы. Для нас, хто ад зямлі, гэта не лічыцца смуродам. «Пачухай мяне за рагамі»,— моўчкі просіцца сытая і сумнаватая на прывязі карова. Над пылам дарогі, прыбітым пасля дажджу, сырадой у цыстэрне. Пах мокрае зямлі і пах замкнутага ў метале малака... Праўда — толькі ўяўны, міжволі спалучаны з успамінамі пра мамін у даёнку.

Дзед Міронавіч. З-за яго і запісваю гэта, бо ўжо не адзін такі кароўнік здаваўся мне звычайным дзівам у новым побыце заходнебеларускай вёскі. Дзед — у капелюшы, з сахарам у руцэ. А барада ажно з сівага на́дзелень, і раскошная, як у прарока. Перад вайной, зарабіўшы многа долараў у Канадзе,— легенда кажа: ажно трыста тысяч,— ён прывёз іх сюды, у сваю лясную бядоту. А тут іх узялі ды ўкралі. І ён памяшаўся. Ціха, няшкодна.

Цяпер дзед задаволены, што грошы яго не згінулі марна, што гэта за іх пабудавана ўся тая прыгажосць — цагляны кароўнік, з механізаванай падачай кармоў, з электрадойкаю, з чырвоным кутком для даярак у белых халацiках...

— А прыдсядацель многа сабе не ўзяў,— па-змоўніцку шаптаў мне дзед, калі мы на нейкі час засталіся адны.— Толькі жане на плаццячка. Шаўковае. Праўда, толькі адно, дый то скромненькае. Але яму, скажу вам, не жалка. Бо чалавек ён харошы — поўнасцю за рабочы народ!..

* * *

Калі мы пад вечар, нашай малой ды дружнай кампаніяй, пайшлі прайсціся лесам і молада выпрабоўвалі рэха, я зноў успомніў верасень сорак першага года, мае ўцёкі з палону, першы начлег у разгубленай беларускай вёсцы.

У небагатай хаце, дзе сушылася духмяная процьма баравікоў, дзе зусім незнаёмая цётка, маці вялікай сям'і, раненька напякла для аднаго мяне аладак, напаіла мяне сырадоем, потым сама зноў пайшла па грыбы, а я — далей на свой усход.

Хутка і доўга ішоў імглістым, духмяным лесам і, нібы блазнюк, радасна перагукваўся з нябачнымі грыбнікамі.

Рэха маё незабыўнае...

* * *

Барвовы маладзічок над паўднёвым захадам. Палоска адхоннага берага, а ў рацэ мядзяная дарожка ад месяца, як быццам яго падпорка, праткнутая праз гэты адхонны бераг.

Поўная пасля дажджоў, гладкая, хоць і быстрая рака.

Сяджу на абрывістым беразе, гляджу то на месяц, то на паплавок, які ўсё горш ды горш прыкметны.

Потым пачулася невыразная гутарка за паваротам, затым галасы і члапанне вёслаў сталі рабіцца ўсё больш ды больш выразнымі. Байдарка. Двое. Параўняліся. Па-руску, але з нярускім акцэнтам павіталіся са мной:

— Добрый вечер.

— Добрый вечер. Куда путь держите?

— В Каунас.

Нямала ўжо бачыў я такіх турыстаў за трэцяе лета ў гэтых мясцінах. З Літвы спускаюцца ў вярхоўе Шчары, да станцыі Даманава, па чыгунцы, а адтуль, на вёслах, паволі ды з прываламі, па гэтай лёгкай вадзе, а потым па таксама быстрым Нёмане бяруцца ўніз, на родную поўнач.

— Счастливо вам!

— И вам также!

Больш нічога. Моцная плынь нясе і так, а яны ж яшчэ і вяслуюць. Сказаць ім яшчэ што-небудзь можна толькі крыкам наўздагон. Ну, а навошта? І так жа цёпла на душы.

А ўсё так проста, нічога нам не каштуе.

* * *

Каб рыба крычала — як ён дзёрся б на кручку, а потым на кукане, мой вялікі лешч!..

Любуюся красой, маўчу і, як драпежнік, палюю.

А ці любуецца шчупак, каршун?

* * *

Каля рэчкі, каля броду
там галубкі пілі воду...

І гэта ў песні — не прыдумана.

На пясочку над бродам, на самым стыку вады з беражком, насупраць якога мы, на гэтым беразе, або сядзім з вудамі, або ходзім,— уранні, апоўдні, увечары,— галубы п'юць ваду, часта прылятаючы сюды, на свой, аказваецца, пастаянны вадапой.

Яны то калектыўна какетнічаюць — раптам палохаюцца немаведама чаго і, дружна залопаўшы ў крылле, уздымаюцца і шыбуюць над ракой, над лугам і лесам, каб зноў прыляцець і асесці на бродзе, то два ці тры з іх, а не ўсе чамусьці вяртаюцца і, прызямліўшыся, тэпаюць-калываюцца да вады і цягнуць, п'юць яе, яшчэ раз апраўдваючы трапнасць народнага параўнання: «Добра п'еш, браце, цягнеш, як голуб!..»

На гэтым бродзе часамі хлюпка топчуцца ў спёку папутаныя коні. То ратуюцца ад заедзі, пастаўшы па двое, побач, адзін аднаму галавой да ма́хала-хваста, то цэдзяць праз губы ваду, нібы я адчаю, нехаця п'ючы.

Прыходзіць сюды і статак кароў. Спакайнейшы. П'юць ды стаяць на бродзе таксама доўга. А то і лажацца на мелкім.

Ды гэта ўжо з іншай, не з галубінай песні.

* * *

...Аддайце маю цішыню. Не прымушайце мяне рабіць тое, ад чаго яна не будзе чыстай.

Так думаў днямі, над ракой. Нават здавалася гэта глыбокаю тэмай, з гатоваю назвай: «Аддайце маю цішыню».

Можа, яшчэ і вярнуся да гэтай тэмы. А цяпер вось, пахмурнай ноччу, далёка да раніцы, зноў думаю пра тое самае.

Добры мой дружа, ты ўчора скардзіўся, што зноў прыйшла бяссонніца, што дождж, які шумеў да раніцы, ты палічыў ад першай да апошняй кропелькі. Лічачы горыч памылак, боль незаслужаных крыўдаў, лічачы тое, чаго не здолеў зрабіць, мала знаходзячы палёгкі ў тым, што зроблена...

Няўжо ёсць людзі, якія ў сваёй адзіноце палежваюць, паседжваюць, пахаджаюць ды толькі радуюцца, успамінаючы, як яны хораша, як яны правільна, як яны плённа прайшлі свой шлях?

У гэтай думцы — з'едлівай, пра «чысценькіх» — пацехі і апраўдання мала...

* * *

За тыдзень «Масквіч» застаяўся пад соснамі, застыў. Не заводзіцца. Скрыгіча толькі, чыркае ды зумкае напуста, не абуджаючы «божай іскры».

Дзядзька Міхась, які за рулём, успрымае гэта, здаецца, без асаблівага хвалявання. З выгляду ён, як заўсёды, спакойны, часцей за ўсё з добрай усмешкай.

«Іменна з выгляду»,— думаю я, сведка дарослы.

Два падшыванцы, якія ўжо хутка, можа нават праз год будуць крыўдзіцца за такое акрэсленне іхняга ўзросту, думаюць, мне здаецца, што дзядзька Міхась зусім-такі не хвалюецца. Зрэшты у хлопцаў свой клопат — разлука: адзін едзе ў горад, дахаты, другі астаецца тут, у лесе. Яны даволі важна ды сумна маўчаць, можа трохі і ад звычайнай ветлівасці цярпліва.

І вось — матор нарэшце ажыў.

Даўшы яму сагрэцца трохі і яшчэ памармытаць, дзядзька Міхась, вадзіцель-аматар, ён жа вядомы вучоны, выйшаў, стаў перад хлопцамі і, хоць сам ужо даўно не маладзён, засмяяўся — сціпла, добра, але і пераможна:

— Што, думалі — не завядзецца?

У адказ яны, нібы зачакаўшыся гэтага моманту, дружна пырхнулі смехам.

Думалі ўсё-такі, падшыванцы.

* * *

У глыбокай даліне, нібы прытаіўшыся,— хутар з вялікім садам і стогадовай хатай.

Гасцей запрашаюць спачатку чамусьці ў чорную кухню, адтуль у чысцейшую хату, дзе чуваць яшчэ кухонная кіслая затхласць, а тады ўжо — у зусім чыстую, прыстойную святліцу.

На гэтым хутары, свядома пакінутым, не перацягнутым у вёску, стаіць найбольшая калгасная пасека, жыве яшчэ адзін цікавы дзед.

З'явіўся ён перад намі ў самым несвяточным выглядзе. Прыехаў аднекуль верхам, цяжка ссунуўся жыватом з каня, чарнаногі, лахматы, расхрыстаны. Ажно падумалася: «І як яго, такога, пчолы падпускаюць?» А цану сабе ведае: «Школа — што? Трэба практыка». Старшыня расказваў нам у дарозе, што сюды, да дзеда, ён пасылае дзяўчат пасля пчалярскай школы. Падвучыцца. Мудрай народнай цярплівасці, любві да справы.

Дзед прыкметна збянтэжыўся свайго выгляду, выйшаў, пакінуўшы нас у святліцы, а неўзабаве вярнуўся ў чыстай кашулі, зашпілены на ўсе гузікі, у іншых портках, ногі схаваўшы ў боты. Тады вось і сказаў ён сваё, поўнае заслужанай годнасці: «Школа — што?»

У вялікім садзе мноства вулляў. Заўсёды яны... амаль хвалююць мяне сваёй шматфарбнасцю, як у маленстве хвалявалі рознакаляровыя алоўкі. Навошта вуллі фарбуюць па-рознаму — для пчол ці для нашага, чалавечага, вока? Шкада, не спытаўся ў старога, успомніў пра гэта толькі пасля.

Вуллі маўчаць, адно каля ляткоў руплівіцы снуюць ды трохі лётаюць. Здаецца, вялыя ад вогкай хмарнасці. Колькі тут звону бывае пры сонцы! А колькі мёду — для ўсіх! Наіўнае, прыемнае, нібы новае адчуванне.

Упершыню пачуў тут, калі сядзелі за сталом, што апошняя чарка называецца расхадуха. Стары разбалакаўся, многа расказваў пра свае паляванні — пры цары, пры панах і цяпер. Зайцы ды курапаткі — хто яе, тую драбноту, лічыў? Былі ваўкі, дзікі, ласі, было бра-

каньерства, прэміі, усялякая свежаніна. Быў і дагэтуль яшчэ застаўся азарт.

У гэтай стогадовай хаце, моцнай яшчэ на дзесяткі гадоў, пры вялізным, як жарон, бохане хлеба свае выпечкі, пры чарцы, так сказаць, падпольнай, але жывучай ды мёдам, падумалася і такое. На нашай зямлі беларускай, не такой ужо і вялікай, старанна, у густую клетачку прачасанай трактарамі ды аўтамашынамі, абходжанай меліяратарамі ды геолагамі, нізенька аблятанай сельскагаспадарчымі самалётамі, можна, аказваецца, наткнуцца і на такі старасвецкі хутар, на такога спрадвечнага дзеда. Хоць Чорнаму яго, хоць Караткевічу — у самы густы «несучасны» раман.

У заключэнне нашай сустрэчы мы фатаграфаваліся. Бо і сонца, вельмі дарэчы, паказалася. Дзед стаў там, дзе яго папрасілі стаяць — на фоне саду з вуллямі. Абапал — дочкі, тая рэшта сям'і, што захавалася каля дому. Пажылая, рухавая гаспадыня і сімпатычная студэнтка медінстытута. А спераду — унучка, светленькая няўрымста. Ды тут, па прыкладу старэйшых, яна супакоілася, застыла, перастала нават усміхацца, для большай пэўнасці шморгануўшы носам.

Толькі студэнтачка ўсміхнулася ў самы апошні момант. Хараша. Трошкі какетліва. Ну, але як жа без гэтага?

* * *

У сем гадзін, заспаўшы, пайшоў для праходкі са спінінгам.

Царства імглы і расы. Неўзабаве праз тоўшчу імглы паказалася сонца — бледны, лагодны дыск. Добра плюхаць у гумавых ботах уздоўж нізкага берага, па вадзе, што яшчэ ўсё вялікая пасля дажджоў, хоць і паменшала яе прыкметна.

Круцячы катушку, заўважыў у аеры... нейкую (брыдка — не ведаю, якую) кветку на высокім, тонкім, зялёным старчаку. Цэлы букет, карона бела-фіялетавых кветачак. А на ёй — росная сетка павуціны, прыгожая — як сняжынка.

Толькі ўчора з абеду выпагадзілася, а як яны, павукі, паспелі здорава адзначыць гэтае свята.

Гадзіны праз паўтары, вяртаючыся дахаты па расяным і ўжо толькі злёгку імглістым царстве, павуціння-

сняжынкі бачыў на маленькіх елачках, на стромкіх кусціках ялаўцу, на верасе... Папрацавалі ўчора павукі!

* * *

Радасны клёкат буслоў — высока, высока над намі. Ажно ўсміхнешся, зноў і зноў пачуўшы. Як быццам заражаешся іхнім настроем: «Ах ты, бог мой, як весела!..»

У старыцы, на адкрытым месцы і далей, у алешніку, раптам дружна загаманілі жабы. Як па камандзе якой. «Каб вы падохлі — от разышліся!» — сказаў бы вясёлы дзядзька. Першы раз, як толькі мы прыйшлі пасля снедання на бераг, пачатак гэтага гоману супаў з голасам радыё, бо хтосьці каля дома якраз тады ўключыў на слупе рэпрадуктар. Другі раз, пасля буслінага клёкату пад аблокамі, у сонечнай надрэчнай цішыні жабы рванулі сваё алілуя зноў зусім нечакана і дружна. Ажно мы з сябрам зарагаталі, кожны на сваім гатку.

Першы раз чую такія дзівосы, такую капэлу.

* * *

Учора жабы ведалі, чаго паднімалі вэрхал. Зноў холад, зноў не клюе. Зноў думаецца пра далёкі родны дом, дзе ўжо, відаць, сумуе твой пісьмовы стол...

*1970*

# ВЕРАСЕНЬ

Дубовыя бочкі — звонкія, літыя — моцна стаяць на зямлі. Кошыкі зялёныя, лазовыя, і белыя, з карэння. Рашоты напамінаюць духмянасць свежай мукі, ражкі — гарачы, масляны пах аладак. Вазы, скрынкі, мяхі, у якіх парасяты. Несціханы, няўмольны парасячы віск. Неабходны смурод. Грузавыя машыны стаяць асобна, легкавыя і матацыклы — таксама. Сельпоўскія грузавікі з каляровай стракатасцю шырпатрэба — ад газавай хусцінкі да чорных, непераможных ботаў. Вязкі і «ніткі» сухіх грыбоў. Колькі працы і радасці, красы роднай прыроды ў гэтым моцным, здаровым, хвалюючым водары! Сала аполкамі. Буйныя светла-карычневыя яйкі. Жоўценькае масла.

— Яно ў вас смачнае?

— Не-а.

— Я на нюх пазнаю́.

— А я дык яго ні на нюх, ні на слух не ведаю. От, ем сабе, колькі жыву, ад аднае каровы.

Хітрая, спраўная, стрымана вясёлая жанчына. Амаль маладзіца, а ўжо чырвоныя боцікі хоча купіць не сабе, а дачцэ.

Яблыкі, грушы, слівы!.. Кладучы на вагу, цётка (другая ўжо, старэйшая) не вельмі каб спрытна стараецца выбіраць драбнейшыя. Дый важыць па-аптэчнаму. А ў дзядзькі — менш дамавітага, больш бывалага — больш паэтычных адносін да жыцця.

— Я што — за яблыка ці за грушу буду дрыжаць? На́ табе, браце, і перавес.

Ясны і цёплы верасень. Дзень, што пачаўся туманам, а потым — калі нам з дарогі, з дубовага гаю адкрыўся горад з чырванадахім касцёлам і бура-цагля-

ным агрызкам руінаў на замчышчы — стаў неяк раптам сонечны. Ажно стары, маўклівы шафёр не вытрымаў:

— Навагрудак у аб'яцціях сонца!

Апоўдні, калі мы вярталіся ў Мінск, туманец яшчэ слаўся, поўз над свежай раллёю, каля маладога густога ельнічку прыдарожнай ахоўнай паласы. Радасны сум асенняга, небезнадзейнага завядання, пра які яшчэ трэба бясконца пісаць.

Любуючыся красой палёў, думаў пра нейкага дзядзьку з вунь таго хутара ці з гэтай во вёскі: як жа ён успрымае ўсё гэтае хараство? Проста жыве ў ім, у спакоі шчаслівага спажыўца? Як птушка?..

А хто ж тады песні складаў народныя?

А мы адкуль узяліся — тыя, што пішам?..

*1970*

# ПРЫЗНАННЕ

...Званы над каўнаскай плошчай, што вельмі пасвойму вызваньваюць украінскі «Рушнічок» і неапалітанскую «Санта Лючыя». Першы снег пад нагамі, першыя сняжынкі ў ціхім паветры лістападаўскага поўдня. І ад гэтага звону, і ад белай пяшчотнасці на нас сышла ледзь не дзіцячая радасць жыцця, спалучаная з вопытам, болем і сумам перажытага за многія гады. Так мы стаялі — некалькі беларусаў, літоўцаў, рускіх, украінцаў, латышоў — каля магілы Саламеі Нерыс. Зняўшы шапкі, пад гукамі зачараваных званоў, у нячутнасці малапрыкметных, гулліва-павольных сняжынак.

Сонечны гоман балтыйскай хвалі. Пуховыя дзюны Ніды. Вольны разгон сучасных магістраляў. Велічнае маўчанне красамоўнай гісторыі — Тракайскі замак над азёрамі. Заводы, электрастанцыі, новыя дамы, якім не брыдка побач з гмахамі мінулага. Шырокі, быстры брод лясное Дубісы, на беразе якой — вядро з дробным уловам, а далей — чысты, ціхі хутарок, дзе мы начавалі, дзе нас, людзей падарожных, прыгрэлі нявымушанай прыязнасцю.

Спакойна-паўнаводная, сонечна-мудрая плынь народнай эпапеі Данелайціса, што так натуральна, пасваяцку нагадвае нашу «Новую зямлю».

Жалобная Маці Пірчупіса, смутак якое так горка, глыбока пераклікаецца з болем Бацькі, на руках якога забіты фашыстамі сын,— пераклікаецца з нашай Хатынню, сімвалам пакут і мужнасці народа-партызана.

Светлыя вочы вясковай работніцы, літоўскай дзяўчыны, у нацыянальным уборы якое так многа ад жыц-

цядайнай зеляніны родных палеткаў, а ў песні пра рамунэ́ле-рамоначкі так многа і нашай спрадвечнай, непераможнай сардэчнасці.

Песня Чурлёніса, песня жыццю, цудоўна заключаная ў цесныя рамкі яго жывапісных шэдэўраў. Звонкія пералівы казачна яскравых вітражоў. Слова паэтаў і празаікаў, вобразы кіно — сведчанне зайздроснай велічы душы народа, толькі колькасна невялікага. Шчырасць друга, з якім пры сустрэчы можна пагаварыць пра ўсё. Звычайная ветлівасць — у магазіне, на вуліцы, у шавецкай майстэрні — штодзённая празаічная ветлівасць, што памагае ўваходзіць у светлы настрой...

— Ну, што ты пішаш? — спытаўся ў мяне пры сустрэчы таварыш, калісьці мужны партызан, цяпер выдатны лінгвіст і рыбак з паэтычнай душой.

— Сёння павінен напісаць для літоўскай газеты. Слова прызнання, ці як тут сказаць...

— Я напісаў бы, браце, так. Колькі чаго перажыта разам за столькі стагоддзяў. Цяжкага, страшнага, светлага перажыта. А вось жа няма ў нашай народнай творчасці — і ў беларускай, і ў літоўскай — ні ў песнях, ні ў казках, ні ў прыказках ані злоснай кплівасці адзін з аднаго, ані нянавісці, варажнечы. Здорава?

А што ты думаў — і здорава.

Будзь жа блаславёная, Літва!

*1970*

# ТРОХІ ПРА ВЕЧНАЕ

Над Нёманам — тры векавыя дубы. Пад першым я ляжу, гляджу на другі і на трэці. Стаіць іх тут, магутных ды прыгожых, больш, аднак мне хапае і трох. Нават і двух — таго, пад якім я прылёг у цяньку, дарагім пасля пыльнай, спякотнай дарогі, і бліжэйшага, на які я гляджу значна больш. На буслянку. Ёсць яна і на трэцім, далейшым дубе, нават і бусел там стаіць, нерухомы, як помнічак, але на гэтую, бліжэйшую буслянку, хоць і схаваную ў густой цёмна-зялёнай кроне, глядзіцца, лежачы, проста чамусьці лепш — нібы чакаючы чагосьці большага, чагосьці незвычайнага.

Канчаецца ліпень. Бусляняты гэтай парой амаль зусім ужо дарослыя, толькі зблізку адрозніш іх ад бацькоў.

На дубе маім, заслоненыя лістотай, дарослыя буслы ці бусляняты стаялі нябачныя, моўчкі,— я толькі здагадваўся, што яны там ёсць.

Потым здагадка спраўдзілася. Нечаканым, вялікакрылым шах-мах. Буслы ўзняліся з-за лісцяной маскіроўкі і вось — з'явіліся на блакіце. Блізка, ледзь не рукамі іх дастаць. Даўно прывычны і такі заўсёды новы цуд.

Тут я іх пазнаў, маладых. Па дзюбах, па нагах — яшчэ не чырвоных, па тым, як яны, пакружыўшыся для размінкі над родным дубам, пачалі садзіцца на гняздо. Павісelі над ім, перабіраючы цыбамі, няўдала цэлячыся імі, каб хаця ж не міма.

А потым прыляцеў надубны гаспадар. Чырвананосы, чырвананогі, з жабай у дзюбе — ну, проста для малюнка ў дзіцячую кніжку. На гняздо ён сеў упэўнена,

адразу. І тады — апошні доказ, што першыя два маладыя,— пачулася іх нецярплівае, нават яшчэ ўсё пястотнае сіпенне.

А мне ізноў успомніўся сёлетні сакавік.

...Мы яе неслі спачатку з крутога, коўзкага ўзгорка, а потым доўга па вуліцы, над глыбокай сцюдзёнай гразёю, над бруднай наледдзю, над раўчукамі, што мутна і весела булькалі насустрач нашаму сумнаму шэсцю.

Ёй ужо было знойдзена месца ў цясноце спрадвечных магіл. Яе там засыпалі жвірам. Маю старэнькую пакутніцу-сястру.

І ўвесь гэты час, пакуль мы ішлі і стаялі, звінеў у небе жаўранак. Здавалася, адзін усё, той самы ранні, што здуру прыляцеў ужо, не самому сабе, а камусьці на радасць.

Пасля быў вечар, нудота і гоман п'яных памінак, а потым — ноч і раніца. Я зноў прыйшоў у гэтую хату на ўзгорку, да якое прывык за жыццё, у якой упершыню мяне не сустрэла яна, старая гаспадыня.

Прыйшоў з нечаканым і дзіўным у гэты дзень пробліскам радасці ў сэрцы і ў першым слове на парозе...

Чаго ж такая неадпаведная радасць?

Узыходзячы на круты, коўзкі ўзгорак, я — нібы хтосьці мяне штурхануў — зірнуў угару, туды, дзе побач з хатай, на агародзе пад самыя хмары ўздымаецца змалку знаёмая, старая ліпа.

На ліпу выкінуты быў — на самую вяршыню — белы сцяг вясны: там сядзеў першы сёлетні бусел. Вельмі ранні, яшчэ нечаканы.

Я пастаяў каля плота, шчасліва намагаючыся ўявіць ягоны шлях ад пірамідаў да нашых надрэчных лугоў.

Сашка, наймяншы ўнучак мае сястры, ужо адчуў гэты вялікі цуд. Ён забаўляўся цяпер каля будкі з сабакам, натуральна шукаючы новай пацехі.

«Хлопчык, відаць, не ўявіць бусліны вырайны шлях, як я. Куды яму з яго веданнем свету! А свежасць радасці жыцця ў мяне амаль такая ж, мусіць, як і ў яго...»

Так думалася мне, пакуль на ліпе бялела, адпачываючы, мая зусім неспадзяваная радасць.

Белы сцяг вясны...

Тады ж адразу, адчуўшы гэта, я ўспомніў, што

з'яву такую першы назваў так Міцкевіч, што, па-нашаму, па-пісьменніцку кажучы, гэта чужое.

У яго толькі трохі інакш:

> Bo już bocian przyleciał do rodzinnej sosny
> I rozpiął skrzydła białe, wczesny sztandar wiosny.

Не *белы* сцяг, а *ранні*. І не *складзены* так, як у гэтага, што на ліпе, а *распасцёрты* ў палёце.

Прыйшла вясна, а потым пачалося лета. Тыдзень за тыднем мяне непакоіў той сцяг. Ездзячы па многіх вёсках і палях, бачачы іх, буслоў, я ўспамінаў таго, на голай ліпе, і дакараў сябе, што вось жа ніяк не магу адчапіцца ад думкі, дзе тут, у радасці гэтай, маё, дзе чужое.

Гэтая думка, гэты шчымлівы клопат вярнуўся і цяпер, ліпеньскім сонечным адвячоркам.

Чаму гэта — «літаратуршчына», «кніжнасць», калі я, гледзячы на буслоў, зноў вось успамінаю Міцкевіча? Цяпер ужо не аднаго, а з Рыльскім. Яшчэ вясной ад неспакою свайго я перачытваў ягоны пераклад «Пана Тадэвуша»: толькі тую мясціну, дзе даецца малюнак надзвычай ранняга вяртання з выраю.

> ...Дочасно чорногуз на сосну прилетів,
> Де вже не рік, не два гніздо його чорніло,
> І крилы розіп'яв, неначе прапор білий...

Акадэмік, які і ў сівай старасці мог па-малечы хваляваца, злавіўшы от сабе акунька (я гэта бачыў тут, над Нёманам), Максім Тадэевіч любіў навуковую дакладнасць. Да «білого прапору» ім зроблена заўвага перакладчыка:

«Паэтычная вольнасць: у сапраўднасці бусел, маючы белае тулава і шыю, крылы мае чорныя.— М. Р.»

Ха, ха!.. Прыемна ўсё-такі і ў акадэміка знайсці пралік!.. Гледзячы з-пад дуба на буслоў у палёце, знізу пад крылы, бачу: яны не белыя, як у Міцкевіча, але ж і не чорныя, як у Рыльскага. Яны чорна-белыя. Во!

Але і гэта не ўсё. І тут я не зусім арыгінальны. Станіслаў Пігань, яшчэ адзін акадэмік, польскі, у заўвагах да «Пана Тадэвуша», апраўдваючы паэта, піша:

«Крылы ў яго «распасцёртыя», г. зн. бачныя знізу, робяць уражанне белых».

Але не ў гэтым для мяне галоўнае. Далей ён піша:

«Падобнае акрэсленне бусла з распасцёртымі крыламі як белакрылага знаходзім мы яшчэ ў Авідзія».

Вунь ажно дзе ды калі!.. Усе яны — украінец, паляк, старажытны рымлянін — ішлі ад жыцця, вялікая паэзія звязана з ім непарыўна, яна сама — жыццё, увекавечанае ў слове.

І нежыццёвым, няпраўдзівым было б замоўчваць, як, гледзячы на тое, што я бачу сам, я і ўспамінаю сказанае — ад перажытага — іншымі, перажываючы яго па-свойму, зноў.

Клекачыце, буслы! Няхай жыве, як сонца, вечная паэзія! І тут, над нашай ракою.

*1971*

# ПОМНІК

Марцін памёр, а я, пачуўшы пра гэта ад другога свайго земляка, міжволі засмяяўся.

Брыдка? Ды што ты зробіш, калі я адразу ўспомніў той непаўторны, можа спрадвеку адзін такі на цэлым свеце, помнік, які ён, Марцін Ківаня, пакінуў па сабе ў адной з нашых наваградскіх вёсак.

Колькі жылі — сварыліся з братам... Дзеці павырасталі, пайшлі людзьмі ў шырокі ды далёкі свет, унукі пачалі на лета прыязджаць, а Марцін з малодшым братам Яўхімам, дзяды нямоглыя, але жывучыя, дзеркачаватыя, ушчэ ўсё то не віталіся, то брыдзілі-гадзілі перад людзьмі самі сябе і радню. Даўно зрабілі па хаце, а бацькаву, старэнькую, ніяк не маглі падзяліць. Яўхім пачаў ужо тым часам трохі лагаднець, здавацца на нейкую памяркоўнасць, але Марцін не здаваўся. І вось нарэшце яны прыйшлі да мудрага вырашэння свае бясконца складанай справы — распілавалі тую хаціну ...наўздоўж. Саламонам быў тут Марцін. Яўхім згадзіўся ўжо і на гэта. Ён забраў сваю долю на дровы. А Марцінава доля стаіць. З адным акном ад вуліцы, з палавінай шчыта, забітая аполкамі з аднаго боку, з глухой сцяной і палавінай страхі з другога.

Ніхто ў ёй даўно ўжо не жыў і цяпер, вядома ж, не жыве. А стаіць яна недзе — упарты помнік дурнаты.

*1971*

# ЯК ТУТ СКАЗАЦЬ ЯСНЕЙ

Рыжскае ўзмор'е. Люты. Разам з намі, вельмі нямногімі літаратарамі, адпачываюць тут, у пісьменніцкім Доме творчасці, «латвійскія аграрыі», пераважна жанчыны і маладыя дзяўчаты. Аграномы, даяркі, бухгалтары...

Яны сабраліся сюды з усіх канцоў свае рэспублікі, ва ўспамінах сваіх, у розумах, у сэрцах сцягнулі ў гэтае месца над морам столькі таго цікавага ды рознага, што я магу толькі цьмяна, прыблізна ўяўляць, ведаючы Латвію больш па кнігах, чым непасрэдна.

Каторы дзень прыходзіць, вяртаецца думка пра іх асабістыя светы, якія за адзін раз непрыблізна ўбачыць не зможа нават багатае, яркае, грунтоўна падмацаванае веданнем уяўленне.

А гэта ж так цікава — гэты сціск нябачных промняў іх дарог і сцежак у адно месца, сюды, у нашы жоўтыя белавокныя домікі, у вялікую, светлую сталовую, дзе мы тройчы ў дзень сустракаемся ў поўным складзе.

А потым будзе разбег ад цэнтра, як выбліск промняў ад сонца, раз'езд ва ўсе канцы іх «зялёнай зямлі» — у свае хаты, за свае сталы, на свае падушкі...

Як гэта цікава, і як няясна я пра гэта гавару!..

*1971*

## У РОДНЫ ДОМ

Прыемна чытаць тут Карнея Чукоўскага — яго ўспаміны, тым больш пра Пастарнака,— іменна тут, у падмаскоўным лесе, на іх апошняй радзіме, паблізу ад іх драўлянага жылля і сціплых магіл.

Над гэтай кнігай я як быццам злавіў-такі нарэшце сваю даўнюю думку, тое, што адчувалася ў розны час у родных мясцінах іншых пісьменнікаў — меншых, большых, вялікіх.

Хто ў сваёй Яснай Паляне, хто ў Наваградку, хто ў Веймары, хто ў Каневе, хто ў Наднямонні ці ў Ялце... Вось я наведаў іх, тыя мясціны, а далей — ужо няма нічога, туга па далёкай, узнёслай легендзе аціхла, у пошуках найбольшай паўнаты іх, пісьменніцкіх, вобразаў трэба вяртацца ў іхнія кнігі.

Мы ўжо туды вярталіся неаднойчы, і будзем вяртацца, як з вялікага падарожжа ў родны дом, з яшчэ большай, з самай грунтоўнай упэўненасцю, што радней, чым ён,— і сапраўды няма нічога.

*1971*

# БАЛГАРСКІ КРАСАВІК

Шахцёрскі дом адпачынку, дзе мы сёння начавалі, стаіць на ўзбоччы зялёнай гары.

Доўгачаканы дождж пакрапіў, відаць, толькі на досвітку. Бледнае сонца — за павалокай, бо ад дажджу, што не праліўся як след, неба зацягнута светла-журботнай воблачнасцю.

Птушкі гоманам робяць вясну.

Новая зеляніна дрэў, у якіх бярозку бачу — як родную на чужыне.

Слухаючы вясну, якое ў нас, у Мінску, пазаўчора яшчэ не было, гледзячы на яе, дыхаючы ёю, успамінаю тых сяброў, што калісьці прынеслі сюды вызваленне, тут закончылі цяжкі, крывавы паход. А пра таго з маладзейшых, што часта бывае тут і нямала зрабіў для дружбы нашых літаратур, згадваю з намерам — дома спытацца, як ён пачаў любіць Балгарыю. Нават запісваю гэта наіўнае «спытацца ў Ніла».

Унізе, пад нашай гарою, на вялікай паляне, ад мяне завешанай сеткаю лістоты, чуваць — спяваюць дзеці. Пад акардэон.

Незнаёмы балгарскі калега, з якім мы прывіталіся на сцежцы, сказаў, што там рэпетыцыя «фальклорнага свята», якое хутка пачнецца.

* * *

Зноў, па-ўчарашняму, сонечны дзень. І свята, якім і я любуюся ў натоўпе гледачоў, што прыязна далі нам месца на першых лаўках. Нам — гэта групе балгарскіх і савецкіх пісьменнікаў, што прыехалі сюды з Сафіі на адкрыццё тыдня дзіцячай літаратуры, які пачаўся ўчо-

ра ў прамысловым горадзе з гастранамічнай назвай Пернік.

Мы — на вялізнай паляне, навокал якое зялёныя горы, на ўзбоччах якіх пладовыя дрэвы ў белым цвеце і чырвоныя дахі пасёлка Рударцы.

Дзіцячыя песні і танцы.

Колеры шопскай[1] нацыянальнай вопраткі. «Сіняе і зялёнае — мёртвае і сцюдзёнае»,— так лічыць народ, і таму ён дадаў сюды белага, чорнага, чырвонага і залатога.

Гэта тлумачыць мне сусед злева, стары літаратар, былы мясцовы шахцёр.

Тое, што жывіць нацыю. Песня — малітва пра дождж. Другая песня, трэцяя... Танцы. Энергія трапятання. Здаецца, трошкі загорача, заадчастайна. «Зямля, трымайся, шоп цябе топча!..» Сусед мой смяецца і расказвае, як у Лондане здзіўляліся, калі там выступаў балгарскі ансамбль: адкуль столькі страсці? І англічанам адказалі, што ад перцу.

Пайшлі «кукеры» — старадаўнія, яшчэ паганскія маскі, пацешна спачвараныя галовы звяроў і птушак, мноства шэра-калматых аўчын і раскошнага пер'я. Гром бляшанак, глухіх званкоў і званоў, якімі горда абвешаны хлапчукі. «Захавалася гэта толькі тут, у Пернішскай акрузе»,— таксама з гордасцю паведамляе мне сусед.

Ідуць «магàрэта», шэрыя, мілыя воslікі. Яшчэ на ранішняй праходцы бачыў я, як іх прывезлі ў вялізным крытым грузавіку, як яны з асцярожнасцю і адчуваннем уласнай годнасці спускаліся, дробненька тупацелі па шырокіх дошках на траву. Потым доўга, цярпліва чакалі свае чаргі, а цяпер абыякава, а то і ўпарта цягнуць казачна размаляваныя вазы. «Так і вяселле вясковае едзе»,— смяецца сусед. А цяпер на вазах поўна стомленай, радаснай малечы.

Пасля спаборніцтва розных сёлаў, розных школ пачынаецца ўсеагульны заключны танец. Калі яны, малыя і большыя дзеці, наблізіліся ў танцы да нашых лавак, як з тэлеэкрана выйшлі на жывую зяляніну травы, да самай вяроўкі, нацягнутай перад натоўпам гле-

[1] Шопы — этнаграфічная група балгараў, якая жыве ў заходняй частцы БНР.

дачоў, на самыя нашы вочы — стала зусім ужо добра відно, якія яны вясёлыя, прыгожыя, нястомныя і, так і хочацца сказаць, якія самі свае ў сваёй народнай радасці.

Найменшыя хлопчыкі і дзяўчаткі скачуць так дробненька, так быстранька, як ягняты ды казляняты, якіх яны дома пасуць.

Добра так — ведаць, што гэта блізкае, прыязнае і адначасна незнаёмае, што адкрываецца ў такім жывым, шматфарбным ды шматгалосым святкаванні.

Пасля, калі ўжо свята разышлося ды раз'ехалася па ўсіх дарогах і сцежках, у нас была там трапеза на траве: авечае кіслае малако ў гаршчочках, густое і халоднае, і слаёны пірог, баніца.

Зрэшты, свята не поўнасцю разышлося. Вытаптаўшы нізкую паляну мяккімі хадакамі, дзеці як быццам знарок пакінулі невялічкую групу сваіх прадстаўнікоў, якія вунь яшчэ ўсё карагодзяць. Старэйшыя дзеці ў нацыянальных уборах і маладзічкі ці дзяўчаты, іх піянерскія кіраўніцы, апранутыя па моднай сучаснасці. «Хоро», карагод,— ужо не па святочнаму плану, а для ўласнага задавальнення. Пад народную музыку, нескладаны, нібы аднастайны рытм якое пойдзе за мною надоўга.

* * *

Другі, усходні канец Балгарыі — зялёнае мора пшанічнай Добруджы. Сюды мы, удвух з Асенам Босевым, толькі што спусціліся на самалёце. Сустрэла нас і падхапіла бялявая Парашкева, камсамольскі кіраўнік, што ўжо ў машыне, загадзя заклапочана сустрэчамі, якія нас чакаюць.

Зрэдку дубовыя гаі. Ажурныя мачты, бясконцыя драты высакавольтнай гаспадаркі. І ўсё палі ды палі пад лагодна захмараным небам. І адчуванне, што недалёка за даляглядам мора. Ужо не мора зяляніны, а сапраўднае.

...Дзіцячым пісьменнікам трэба ўсё-такі нарадзіцца. Быць ім, калі сапраўдным, не вельмі проста. Асабліва не думаючы пра вечнасць сваіх твораў, пісаць так, каб дзеці сардэчна смяяліся — гэта важна і хораша. І я зайздрошчу тым, хто добра ўмее выклікаць

такую цудоўную радасць. Асен робіць гэта лёгка і таленавіта.

Мы ў піянераў горада Генерал Тошэва.

У зале раптам пагасла святло. Спачатку ў цемры была вясёлая разгубленасць, а потым стройна загучала песня. Такая любасць да спеву, што нават і найбольшы свавольнік стараецца. Гэта я, здаецца, бачу нават у цемры. Ужо канкрэтна, з воблікамі тых, каго ты толькі што, у святле, бачыў і злева, і справа, і спераду.

Дзеці пяюць, а недзе зусім недалёка, калі для дарослых, Чорнае мора шуміць у бераг, далей, на захад і поўдзень, зеляпеюць, чарнеюць, бялеюць горы, а цэнтр сусвету для гэтай звонкай дзетвары — пакуль што тут, і тут яны сябе зусім нядрэнна адчуваюць.

* * *

Прачнуўся пад уражаннем учарашняй песні. Не дзіцячай у доме піянераў, а сольнай, жаночай.

Маладая настаўніца Румяна, калі мы вясёлай кампаніяй вячэралі ў рэстаранчыку, спявала старадаўнюю песню пра тырнаўскую царыцу і крыжаносца Балдуіна. Змест песні, у вельмі прыблізнай перадачы, я прыняў толькі цяпер, сустрэўшыся з Асенам, а мелодыя, дух яе зачараваў учора, адразу, і вось паўтараецца ў памяці.

Веліч народа не паменшыла пяцівекавая няволя. Так бывае, калі ёсць сіла любові і вернасці.

Едзем у школу сяла Стэфанава.

...Тут да каравая і солі з папрыкай — яшчэ і сухое віно ў біклазе, з якое трэба глытнуць. І, як усюды, процьма кветак.

Выступленне маё перакладала сямікласніца Жэчка. Не так ужо добра, як міла гаворыць дзяўчынка па-руску. Потым мы з ёю, у прэзідыуме, асцярожна шапталіся, і смелая чарнушка, выдатніца, дачка трактарыста, пахвалілася, што перапісваецца з адной савецкай сяброўкай. Свет усё-такі цесны — тая сяброўка з маіх Карэліч...

А тым часам за сценамі школы крычыць у адчаі магарэ-вослік. Раз-поразу. Але ніхто на гэта не зважае. Проста каларыт.

Учора мы бачылі вослікаў на зялёных абочынах

шашы з аэрадрома ў Талбухін. Трава багатая, толькі грызі, а выгляд амаль у кожнага — пакрыўджаны. Толькі што не крычалі, як гэты.

Маці сказала б: «Госпадзі, і чаго цябе носіць па свеце!..» Толькі два тыдні таму назад, у аколіцах Душанбэ, такія ж вослікі, там ужо не магарэта, а ішакі, то крычалі ў спрадвечным адчаі (асабліва адзін, каля дома, у якім я начаваў), то дробненька тупалі пад вялізнымі седакамі ў паласатых халатах. А пазаўчора, у Рударцах, як яны важна цягнулі размаляваныя вазы з малечай. Нешта няўлоўна пацешнае, светлае, цёплае — гэтая іхняя дружба з дзецьмі, іх сумесная праца, што, напэўна ж, і ў казках жыве, і ў песнях, і тут, і ў далёкім Таджыкістане.

* * *

Дзед, удзельнік вайны 1877—1878 гадоў, усё жыццё марыў удосталь напіцца чыстай, халодненькай дабруджанскай вады. Хоць бы перад смерцю. Тут ён напіўся яе, ужо стогадовы, у 1953-м.

Пра гэта нам расказвае адзін з кіраўнікоў стэфанаўскага калгаса. Мы аглядаем цэнтр забеспячэння Добруджы вадой, магутную станцыю, а потым музей.

Сохла Добруджа, петрала вякамі без вады, якую дала ёй толькі народная ўлада.

Каля музея старая груша і кран з халоднай вадой. Побач вісіць чарпак. Тут п'еш не ад смагі, а па-музейнаму. І, між іншым, маленькае адкрыццё: чарпак — ён і ў Балгарыі «черпак». Смяёмся.

З гэтай глыбокай даліны, хутчэй агромністага яра, запоўненага свежасцю вады і зеляніны, едзем да кааператыўных аранжарэяў.

Размах, што ўражае так нечакана, як быццам ты і сапраўды не чуў ці не чытаў пра такое. Па трыццаць гектараў пад шклом — памідораў і агуркоў. У год па сотні тон з гектара чырвонага смаку, а па дзве сотні зялёнага. А духмянасць якая ў зялёных тунелях!..

...Брыгадны стан. Ангары для камбайнаў і гаражы для трактараў. Памаўчы ды падумай — зайздросна.

Майстэрні, дзе не занятыя ў полі жанчыны вяжуць з воўны цудоўныя хусткі, кофтачкі, дзіцячыя гарнітурчыкі. Традыцыі народнага ўмельства.

А школа якая — са светлымі класамі, з выдатна абсталяванымі кабінетамі!..

Што сацыялізм — справа жыццёва неабходная, надзейная, гэта відаць тут па-свойму хораша.

* * *

Курорт «Трити воденици», тры вадзяныя млыны.

Быстрая, звонкая рэчка Батава. Над ярам, дзе многа грабу, выядрыўся маладзічок. Гамоняць жабы, салаўі, зязюлі.

Доўга ідзём па лесе над Батавай да магілы партызана Мішэла Іванава, які загінуў тут у жніўні 1943 года, недалёка ад іхняга партызанскага «бункера».

Па чарзе спускаемся ў гэтую сырую, змрочную яму, свецім сабе запальнічкай.

Мішэлу было дваццаць два гады. Ён з недалёкай вёскі.

...«Душевнобольной» — мяккае, чалавечнае слова пра псіхічнахворага.

Ён сядзеў каля курортнага «млына», слухаючы шум вады, а побач, на стале, ляжаў фотаапарат. Нас пазнаёмілі. Хворы выняў блакнот і ручку, папрасіў мой адрас, спытаўся, што я пішу, дзе друкаваўся па-балгарску, колькі мне гадоў... Пачуўшы «пяцьдзесят пяты», ветліва запісаў толькі «50». Сказаў, што яму трыццаць два, жыве пры бацьках-пенсіянерах, піша вершы, якія ніхто не хоча друкаваць, хварэе на парок сэрца і ніяк не адважваецца на аперацыю.

«Душевнобольным» назваў яго, яшчэ як мы падыходзілі, адзін з калгасных кіраўнікоў. І памяць мая ад гэтага слова кінула да аднаго літаратурнага дакладчыка, які хочучы ажывіць сваю нудоту, сказаў пра тэму маладога твора, што твор гэты — «пра псіхаў». Нават дадаў: «Во дапісаліся!..» Было і «гы-гы-гы». І на трыбуне і перад ёю.

* * *

Каб не ўчарашнія яры-лясы (апоўдні ў цэнтры водазабеспячэння, а ўвечары ў «Трити воденици»), мог бы і думаць, што край гэты, з яго пшанічнай рунню, з толькі што пасеянай царавіцай, кукурузай, з рэдкімі

палосамі пералескаў і гаямі густога, гонкага дубняку, што «залатая Добруджа» — роўная, голая, як стэп.

У вялізных зялёных ярах буйна цвіце чаромха. Нашы гаспадары весела ўспомнілі «Черемшину»,— яны спявалі яе летась на Кіравааградчыне, з якою дружыць Добруджа. А пра яры свае кажуць, што гэта «горы навыварат».

У лясах тут многа дзікоў. Каля аранжарэяў нас пазнаёмілі з «каралём паляўнічых». І сабака ў яго Прафесар, і сам ён кажа, што дзікі тут па дзвесце кілаграмаў. Можа, трошкі і менш, але верыцца.

* * *

«Народно читалиште «Светлана».

Настаўніца, што добра перакладала маё выступленне, сядзіць у першым радзе і, слухаючы вершы Босева, смяецца з дзецьмі, не менш сардэчна, чым яе малеча. Добра мець такую настаўніцу.

Увечары, на застоллі ў сельсавеце, яна, Пятранка Ненава, хораша спявала рускія і асабліва балгарскія песні. Маладая жонка агранома, сама з гэтага сяла, якое прыемна глядзіцца са сваёй чырвонай чарапіцай і садамі ў белым росквіце праз вокны трохпавярховай школы.

Усе балгары спяваюць калі не заўсёды з натхненнем, дык з той жа сур'ёзнасцю, з тым свяшчэннадзеяннем, якое расчульвала, настройвала мяне на высокі лад у Індыі. І часта ўспамінаецца тут тая самая чарната вачэй і валасоў, і грацыя ў танцах, усходняя цягучасць у музыцы і ў песнях, і натуральная, некрыклівая гордасць сваёй спрадвечнасцю, уменнем ва ўсім не забывацца пра яе і працягваць у спалучэнні з сучасным. Былі ў доўгай няволі і яны, як індзійцы, яшчэ даўжэйшай, аднак няволя не зрабіла іх нявольнікамі.

Калі мы перад сном развіталіся з Асенам, ён сказаў:

— Балгарыі ты многа не пабачыў, але балгараў бачыш.

Учора, супакойваючы прагнасць, думаў, што за адзін раз, за гэтыя дзесяць дзён усё пабачыць і не змог бы, як бы мяне не насіла па горах і далінах (чамусьці іменна па горах). *Штосьці* трэба пабачыць спакойна,

зблізку. Дык чаму ж гэтым *чымсьці* павінна быць не Добруджа, а іншыя Балканы ды Радопы?

Да таго ж яшчэ дзесяць літаратурных сустрэч, выступленняў, столькі гутарак, знаёмстваў,— усё гэта праца, і трэба яе рабіць.

І песня, песня!.. Старая і новая.

Бай[1] Добры Коеў, стары знатны музыка з гайдай, якую ў нас называюць дудой. І малады, гарачы Колё з акардэонам. Гэта — у калгасным доме адпачынку, дзе вясёлая «готыка» з новенькага, нефарбаванага дрэва, сутарэнне з віннымі бочкамі і сталамі, лёгкая, з выдумкай, раскоша пакояў, хола і сталовай.

Немаладая, ціхая афіцыянтка, што сама папрасіла Колё падыграць і заспявала пра дзяўчыну, якая праз бацьку, па яго віне, сядзіць дзевяць гадоў у турме і няма ўжо ёй чаго адтуль выходзіць, пра што і кажа маме, калі тая прыйшла на спатканне: «Глядзі, майка, яка я стала!..»

Камсамолачка Ваня, чорная, быстрая Ваньча, што замяняла Парашкеву і не была такая строгая, заспявала песню другую, вясёлую. Голасам рэзкім, нібы крыклівым, але прыемным. Муж вярнуўся дахаты і пытаецца ў жонкі: «Чаму тут валяецца твой паясок? А бусы ажно за ложкам? Хто ў цябе быў, вораг ці друг?..»

Амаль заўсёды, калі мы сядзелі побач, Асен перакладаў мне словы песень, як быццам зноў ды зноў сцвярджаючы, што народная песня трымаецца на мудрым змесце. Хоць бы вось гэтая, адна з песень настаўніцы Пятранкі:

Муж прыгожы, а жонка брыдкая. Яму абрыдла гэта, бо і людзі смяюцца, і ён прагнаў яе да бацькоў. Яна пайшла, узяўшы двое брыдчэйшых дзяцей, а прыгожых, якія па мужу, ён не аддаў. Аднак папрасіў яе неўзабаве вярнуцца, бо дзеці — усе, і прыгожыя, і брыдкія — аднолькава плакалі па маме.

* * *

У самалёце Варна — Сафія.

Новыя людзі выходзяць да цябе з невядомасці, а потым застаюцца толькі ў памяці, дый то не ўсе і не-

---

[1] Дзядзька. Як зварот.

надоўга. І дачыненні з імі павінны быць належныя, у імя гонару твае радзімы, у імя сапраўды чалавечых адносін. Не абавязкова браць адрасы, даваць свой (у развітальнай мітусні, расчуленасці, хоць і шчырай) — з усімі не перапісвацца, ні блізка дружыць не зможаш. Галоўнае — не ў гэтым.

Гэта — не адкрыццё даўно вядомага, а проста ўражанне ад тых, з кім я пражыў свой светлы тыдзень у Добруджы.

* * *

Вёска Арбанасі, дача акружкома партыі. Раскошны белы дом, праз мноства вокан якога, зверху, відаць даліна цудоўнага Тырнава.

Цяпер даліна ў лёгенькай смузе сонечнай раніцы, а ўвечары горад у гэтай бяздоннай даліне выступаў тысячамі агеньчыкаў на ўзбоччах, з няпоўным месяцам у зорачным небе.

Хораша гэта — мець на чужыне друга, з якім ты рады быў сустракацца дома і які цяпер, у сваю чаргу, рады пабыць гаспадаром. Сябры ў балгарскім Саюзе пісьменнікаў самі здагадаліся ці, можа, Босеў ім падказаў пашкадаваць мяне (прыехаў упершыню, а пабачыў так мала),— далі на два дні «Волгу» з маладзенькім шафёрам, а ў дарогу са мною паехаў Найдан Вылчаў, добры друг нашай літаратуры.

У Найданавай вёсцы Браставіца. Яго старэнькая майка паехала на памінкі ў другое сяло, і мы пахадзілі па пустым, прахалодным і міла запусцелым доміку, паглядзелі на агародзе, як прынялася, пасаджаная Найданам, чарэшня, нацадзілі ў пограбе, з вялікай бутлі ў бутэльку, вінаграднай ракіі і паехалі далей.

З Найданавым дзядзькам, пакуль пляменнік некуды адлучыўся, і я пагаварыў цераз плот, на дзвюх мовах адразу. Што вось, бачыце, жывём сабе ў вёсцы, і гэта, канечне, не Сафія (ён), але і ў вёсцы яно, ведаеце... (я). Ну і г. д. А побач гуляў з мячыкам дзядзькаў унучак, быстры Мішо.

У дарозе, на хаду, перакусвалі. Цёплы хлеб, круглую буханку якога госцю дала цераз нізенькі плот дзядзькава нявестка, фарбаваныя, яшчэ велікодныя, яйкі, знойдзеныя ў мамінай кухні, нейкае смачнае,

духмянае зеллейка, нарванае ў агародзе, ну, і ракія, якую мы па чарзе (без шафёра, вядома) пацягвалі з бутэлькі.

Дзве недаспаныя ночы, у Талбухіне і ў Сафіі, і дзень гэты, асабліва пасля абеду, быў цяжкі. Так недарэчы ў такім падарожжы!.. Горы, зялёныя Балканы, размах далінаў, плевенская раўніна, горад Ловеч, дзе мы абедалі, а потым Плевен з яго скобееўльшчынай,— усё гэта я бачыў не праз дрымоту нават, а праз няўмольны націск сну, які проста ссоўваў павекі на вочы.

А ўсё ж і ў доміку, дзе спыняўся Аляксандр II, і ў парку на гары, дзе ў лістоце тамліва стагнала нябачнае мноства галубоў, і ў «костници» з кучамі даўно папрабіваных чалавечых чарапоў — усюды ў памяці было і тое, што рабіў гэты самы цап-вызваліцель і яго доблесныя генералы трохі раней у «збунтаваных» Беларусі, Літве і Польшчы...

Увечары мы ездзілі са свае дачы ў Тырнава. Куплялі на бяссонным базарчыку зялёны часнок, цыбулю і рэпічкі, радзіску. Потым хадзілі ўдвух з Найданам па старых, вельмі крутых, і навейшых, таксама незвычайных, вуліцах. Знадворку слухалі нашу прастадушную турысцкую «Кацюшу» ў рэстаране, што строма тырчыць над абрывам даліны, зорна прыгожай у стракатасці агнёў, пад шум вады ў імклівай Янтры. Раўніннаму чалавеку, мне нават боязна было, што тыя домікі-агенчыкі на ўзбоччах — могуць пазвальвацца і палятуць, як зоркі...

Горад, у якім колькі хочаш мясцовых мастакоў можа спакойна хавацца сярод мастакоў прыезджых, туляючыся «ад задач сучаснасці», сто год малюючы экзотыку цэлага і асабліва закуткаў.

Успамінаецца ўчарашні Ловеч. Нават не горад, а мост, «адзіны такі ў Балгарыі». На мосце — абапал крамы і крамкі. Ці не пра гэткі марыў Манілаў? А звыш яго мары яшчэ і цырульня на мосце, метры са два кубатурай, але ўсё роўна не так сабе, не абы-як, а «Фігара».

Наш белы дом у росным і духмяным садзе, сонечным і звонкім ад птушыных галасоў.

Вярнуўшыся з гэтага росквіту дахаты, прыйдзецца яшчэ раз пачынаць вясну.

* * *

Забуксавалі за Габравам на глiністым аб'ездзе, раскоўзаным пасля дажджу. Трэба выйсці і падапхнуць. А потым добра і пастаяць.

Зялёна-сонечнае прыволле. Усё цвіце. А над усім, на высокім даляглядзе — халодная, снегавая гара Мазалат. Там недзе побач і Шыпка, куды мы едзем.

...Букі і кусты на Шыпцы яшчэ не распусціліся. Трохі сцюдзёна і, «на наша шчасце», сонечна,— многа відаць навокал з гэтай суровай гары.

...Вёска Шыпка ў даліне. (Прыемна, што шыпка — проста шыпшына.) Багатая царква, збудаваная з ласкі рускага цара. Мемарыяльныя дошкі з мноствам імёнаў і званняў тых, што тут, на гістарычным перавале, загінулі амаль сто год назад. І тут, як і ў Плевене, уперамешку з афіцэрамі, усюды названымі паймённа,— «і іншыя»,— «нижних чинов 647», «нижних чинов 118», «нижних чинов 3»...

* * *

Калофер.

Домік-музей Хрыста Боцева, на які мы паглядзелі цераз плот. Зачынены. Бацька нацыянальнага героя быў «даскал», настаўнік, і дамок не бедны.

А на поўначы ад музея, ад горада — гара Вяршыня Боцева, якая раней, пад туркамі, называлася Юмрук-Чал, узняты кулак.

Свая гара... Ці думаў Хрыста пра гэта, бегаючы тут хлапчуком?..

* * *

Карлава. Каракачанскае[1] вяселле.

Уранні мы бачылі вясельнае шэсце на вуліцы Габрава. Царственна прыгожую маладую ў белі і танцы аб'яднаных сваякоў перад святочна вясёлым натоўпам.

А тут яшчэ больш песенна-музычнай радасці, яшчэ яскравейшыя ўборы. Таксама народныя.

Мы спыніліся і «ўліліся ў натоўп», бо і Найдан, аказваецца, такога вяселля яшчэ ніколі не бачыў. Пралезлі мы і ў гарсавет, дзе паглядзелі ўсю, вельмі няхітрую цырымонію.

---

[1] Каракачане — маленькая народнасць у БНР.

Студэнт-медык і медсястра. Ён ледзь асмеліўся пацалаваць яе, па абраду, а яна дык і зусім ужо сарамлівая.

Калі сваякі пачалі, віншуючы маладых, абдымацца з імі, я, як ад музыкі, ледзь не заплакаў. Пасля сказаў пра гэта Найдану, і ён прызнаўся, што таксама. Чалавечае шчасце, калі яно радуе і цябе.

...Дом-музей іхняга Каліноўскага. Васіл Леўскі. Якая беднасць у гэтым доміку!.. Прадукт народа — мысліцель і рэвалюцыянер.

Гэта было яму вельмі няпроста — пад жахлівым турэцкім прыгнётам быць інтэрнацыялістам, ваяваць за свабоду і турэцкай беднаты.

* * *

Даліна Ружаў.

Яшчэ зялёныя кусты. Лаванда. Магутныя арэхавыя дрэвы.

А побач з нашай дарогай — якое там побач! — снегавыя вяршыні Балканаў.

Туркі, што засталіся тут пасля 1878 года. Многія нават вярнуліся тады з уцёкаў ці прымусовага высялення сваімі, у час адступлення. Спрадвечныя, патомныя майстры па ружах, садавіне ды гародніне.

Прыемна чуць пра гэта. Успамінаецца Хікмет. Трэба і тут, у гэтай справе, перш за ўсё адчуваць народ.

Дарэчы, і ў Добруджы, сярод балгараў, жывуць туркі. Каля мора, на шум якога, халодны і радасны, нас вазіла руплівая Парашкева, бачыў я і турэцкую вёску. А ў акружным, сучасным Талбухіне мне іх паказвалі на вуліцах. Пазнаць можна хіба толькі па жаночых квяцістых, шырачэнных шараварах. Павольныя, ціхія хлебаробы, зусім не падобныя на былых прыгнятальнікаў.

* * *

Цяпер, убачыўшы тое, што я ўбачыў за гэтыя два дні, можна прыплюсаваць і Добруджу. Каб гаварыць, што і я, нарэшце, быў у Балгарыі.

Яна мне была патрэбна, цяпер гэта ясна.

Што толькі я зраблю для яе?..

*1972*

# ІДЫЛІЯ

Ён быў каваль, адзін на тры вёскі, чалавек патрэбны і паважаны. А жонку прывёз сабе аднекуль здалёк. Танклявую, віскліва-галасістую і дзікаватую неахайніцу. Яго за радзімую пляму на шчацэ празвалі Лапай, а на яе адразу прыдумалі Магдалена,— нібы без сэнсу, але нечым для ўсіх зразумела і смешна.

Кузня звінела ў вёсцы, а жылі яны на хутары за вёскай. І Магдалена, як толькі ўбачыць праз акно, што нехта ідзе, на ўсякі выпадак хавалася ў каморку. Ужо і дзеці ў іх пайшлі, ужо тым часам і пастушкамі на пашу павыбягалі, а маці ўсё ніяк не магла асвойтацца.

Адзін з вясёлых мужчын, Паўлюк Калоша, дык той, праходзячы каля Лапавага хутарка, адразу ў хату не заходзіў,— ішоў у каморку і заглядаў за бочку ці за скрыню:

— Ага, ты сёння тут! Здарова, Магдаленіца!

А яна — сарамліва, збянтэжана:

— Гы-гы-гы! Я думала, дзядзька, што гэта не ты...

Неахайнасцю яна, як Лапа работай, славілася далёка.

Даўно гэта было, аднак я добра бачу той колішні хутарок на ўзгорачку пры дарозе, а побач з ім, у лагчыне, круглую сажалку, аброслую аерам і зацягнутую раскай. У сажалцы бокам, да палавіны ў вадзе, застыла ражачка, у якой рашчыняюцца аладкі. На ражцы сядзіць ды час ад часу, у паэтычнай журбоце, кумкае жаба. Вялізная, надзьмутая. Спудзіш яе каменьчыкам — боўтнецца зелянуха ў твань, а ражачка нават не скалыхнецца. Так яна адмакала ад былой да наступнай нядзелі, калі ў нас, па даўняму звычаю, абавязкова пякліся аладкі.

Калі ж Магдалена, для разнастайнасці, варыла галушкі з цёртай бульбы, дык адціскала іх... у падоле спадніцы.

— Што ж ты робіш? — зжахнуўся аднойчы хтосьці з жанчын. А яна:

— Гы-гы-гы! Мой сажроць!..

Крылатым стала ў нас тое «сажроць», ім карысталіся, гаворачы не толькі пра Магдалену.

І я згадаў тую даўніцу не так сабе. Не раз, не два разы, калі чытаеш сякія-такія мастацкія творы, і рыфмаваныя, і не, успамінаюцца тая ідылія з ражкай і тыя галушкі.

Прасцяк і добрая душа, Лапа — той хоць пад чаркай, хоць зрэдку ганяў сваю палавіну — вучыў.

Наш чытач, як часамі здаецца, куды ласкавейшы,— сажроць!..

*1972*

# ЗЯЛЁНАЯ РАДАСЦЬ

Над нізкімі, светла-пафарбаванымі штыкетамі, над гарачай пясчанай сцежкай з аднаго боку плота і над багатымі градамі — з другога, клён і рабіна злучылі лістоту. Па-чэрвеньску маладую, пяшчотную.

Так і музыка нараджаецца, і паэзія — ад такое пяшчотнасці.

«Рэміністэнцыя — цьмяны ўспамін, з'ява, якая наводзіць на супастаўленне з чым-небудзь, міжвольны водгук чужога, блізкага».

Не за пісьмовым сталом ды не з вучоным даведнікам, а на вясковай вуліцы, у падарожжы, дзе шчасце бясконцых адкрыццяў перакрывае штодзённую стому, успомнілася сказанае другім. З цудоўнай далечыні юнацтва, праз нягоды і поспехі дзесяцігодзяў прыйшлі яны, пранізаліся словы:

Ка́пае з неба зялёная радасць,
З месяца ціха на росныя грады...

Маладая, хмельная сіла паэзіі, калі слова шукае выхаду з глыбіняў пачуцця і знаходзіць яго — у намёках.

Аўтар гэтых радкоў, Максім Танк, значна пазней, сталай рукой паправіў маладое так:

Капае з месяца весняя радасць,
Будзіць зялёны шум ў палісадах...

Не ведаю, ці гэта лепш...

Мне даражэй за ўсё адно — тая свежасць успрымання красы, свежасць, што паўтараецца і ў маёй душы, так нечакана і востра, ад першага, даўняга прачытання тое «зялёнае радасці».

Паўтарылася там, у міжляснoй, каляазёрнай, тройчы спаленай ворагам і зноў уваскрэслай партызанскай вёсцы на Віцебшчыне.

Паўтарылася сёння, ужо як летні ўспамін — зімою. Такою простай і такою неразгаданай пяшчотнасцю кляновай і рабінавай лістоты, яшчэ ненапісанай музыкай і намёкам паэтычнага слова.

Хоць бы ж яна, зялёная радасць, не пакідала нас як найдаўжэй!..

*1972*

# А ЯНА ЎСЁ ШУМІЦЬ...

Лістападаўскі ранішні прыцемак.

Такая цішыня, што і сосны маўчаць, і Нёман, здаецца, стаіць. Уражанне гэтае падмацоўваецца адлюстраваннем сасновай грады з таго берага,— яно дастае да палавіны ракі. Але, пастаяўшы даўжэй, пачынаеш заўважаць, што на адлюстраванні тым сунецца наперад плынь. Так вось на цёмным фоне за акном лепш заўважаецца — спыніўся дождж зусім ці яшчэ ўсё цярушыць.

Злева, на тым беразе, перашэптваюцца дзікія качкі. Справа, зводдаль чуецца груднoе, сытае ўсхрыпванне трактарнага матора. Проста перада мною цінькае сініца. Ажно не верыцца: няўжо яе адтуль чутно?..

«Хораша тут!» — і за мяне сказаў бы хтосьці харошы, каго мне тут не хапае.

А я — замест яго — запісваю гэта амаль што вобмацкам, яшчэ ўсё ў паўцемры, стоячы ў соснах над абрывам.

Метраў дзвесце, не болей, памалу прайшоў, а вось як хутка пасвятлела. І Нёман кранууся, і лес прамовіў паасобнымі соснамі.

І ніколі гэта не перастане быць новым, хвалюючым — як нараджаецца яшчэ адзін наш дзень.

* * *

Малы вясковы хлапчук, да слёз нарагатаўшыся:

— Ай-ёяч-кі!.. Ой, прыйдзе такая смяшлівая мінута, што і не ведаеш, як яе пераже́ць!..

Ён у гэтым пайшоў па бацьку, чалавеку вясёлым і вострым на слова. Бацька той быў, аднак, і шкодны,

яго не любіла амаль уся вёска. Але адмоўнага ад бацькі малы яшчэ не ўзяў: ён і не краў, і не крыўдзіў слабейшага, і не сведчыў на судах за чарку, а бацькава весялосць і дасціпнасць, у сыне памножаная на дзіцячую чысціню, усім на вёсцы падабалася.

Яго «ай-ёяч-кі!» — праз нейкіх сорак год — я ўспомніў пазаўчора ў лесе над Нёманам, каля ўскраіннай вуліцы гарадка.

Друскеніцкі хлапчук бегаў з двума маладымі сабакамі, ужо не шчанюкамі, але яшчэ і не дарослымі. Рагочучы, хлопчык упаў на панылую траву, і чорныя сабачыя падлеткі то тузалі яго за вопратку і ўсцешна гаўкалі, то скакалі цераз яго адзін за адным, страшэнна радыя ўсёй гэтай валтузні.

Я прыпыніўся, любуючыся, а потым сказаў яму голасам клапатлівага дзеда:

— Устань з сырой зямлі, а то прастудзішся.

— А я хачу забаўляцца! — адказаў ён, сеўшы паміж сабачкамі, якія на момант змоўклі.

— Ну то і забаўляйся, бегай.

Малы ўсхапіўся, хутка і спрытна пабег, са смехам уцякаючы ад сабачак, якія гналіся за ім, па-свойму, брэхам рагочучы.

Гэтых падлеткаў — даўнейшага, з мае вёскі, і пазаўчарашняга, я вось успомніў, чытаючы Чорнага. Калі спыніўся на сказе, на першы позірк звычайным і нават не надта зграбным:

«Маленства было моцнае і ў абладзе сваёй хацела мець радасці ўсяго свету».

І хочацца дадаць:

Няхай жа мае! На ўсім свеце.

* * *

Нізам — парывамі — шум, пераважна сасновы. Палосы і плямы сонца. Яшчэ ніжэй, пад абрывам, ціхі і велічны Нёман. А ўгары, над усім, што навокал,— светлыя, лёгкія воблакі. Сонечна, хутка нясуць кудысьці вялікую, векавечную цішыню.

Іду і час ад часу прыпыняюся.

Масток над рачулкай, якая булькоча ў неглыбокім яры. І ўжо да чарнаты сухую, і яшчэ зеленавата недасохлую альховую лістоту паддзімае парывамі нізкага

ветру, і, як шпакі на пожні, яна падлятае і зноў садзіцца, аціхаючы, да наступнага неспакою.

Зноў з-паміж хмарак выядрылася сонца, і сосны на высокім беразе паклалі на прывялую траву і сцежкі доўгія, грунтоўныя цені сваіх магутных ствалоў. Строгую, чорную нерухомасць кожнага з гэтых адбіткаў лёгка абмахваюць рэдкія і ажурныя цені ніжэйшых лапак.

Ад сухой галіны каля ствала застаўся толькі кароткі абломак. Дзяцел дзяўбе яго і — у моманты поўнай, бязветранай цішыні — ствол высачэннай сасны ґудзе, нібы пусты.

Куст маладзенькіх бярозак. Яшчэ трымаецца і золатам трымціць на іх апошняя лістота. Як нейкі сцяг наіўнага супраціўлення.

Сакавіта густая, моцная зеляніна соснаў прысадзістых, разлапых. Ажно памацаць хочацца, як нейкі — буйнай вязкі — світар.

* * *

Раннім ранкам, бязлюдным і непагодлівым, хадзіў па мокрых плітах панеляў і сам сабе, амаль уголас чытаў на памяць вершы Пушкіна. Тое, чаго ніколі не вывучаў па-школьнаму, што адлажылася ў душы само, даўно і назаўсёды, што час ад часу вяртаецца светлай уцехай і надзейным падмацункам.

А ў памяці гучаць два нядаўнія канцэрты: убачаны па тэлевізары гуцульскі і мясцовы, літоўскі, у клубе нашага санаторыя.

Веданне ўкраінскай мовы дапамагло мне тады яшчэ раз перажыць красу чароўнай Верхавіны, дзе я калісьці быў. Мовы літоўскай не ведаю, у песнях яна ішла да мяне таксама за музыку. Гучанне слоў, упляценае ў шматгалоссе інструментаў, напамінала і Нёман у сасонніку, і рунь ды сцежачку на ўзлеску, і драўляны домік Чурлёніса, дзе і з магнітнай плёнкі, і з рэпрадукцыяў яго карцін выпраменьваўся гімн жыццю...

Абодва канцэрты былі маладзёжныя.

Хлопцы такога ўзросту апошнім часам здаюцца мне асабліва сімпатычнымі па той прычыне, што і мой адзіны сын таксама ўжо становіцца з падлетка юнаком. А сёння хлопцы напомнілі мне і маю маладосць.

Ясна, што не анёлачкі яны, каб імі толькі любавацца,— і ў іхняга ўзросту ёсць свае віны і пакуты, гэта я ведаю па колішнім сабе. Ды не пра тое песня: яна — пра паэтычны свет юнацтва, у тым ліку і майго, яшчэ не абцяжаранага гадамі памылак і расчараванняў.

Ідучы па мокрым тратуары, я жыва ўспомніў, як добра хадзілася ўранні за плугам, у палявой раздольнай адзіноце, як я тады маліўся вершамі і песнямі вялікіх. Лішне не дзелячы іх на рускіх і беларусаў, палякаў і ўкраінцаў, немцаў і англічан, слова адных прымаючы ў непасрэдным гучанні, другіх праз мову іншую, у перакладзе.

Цяжка часамі ішлося тады да роднага, бывала і так, што ледзь не з адчаем трымаешся за яго ў блытаніне абставін і поглядаў.

І заўсёды яно памагала — шчырае, мудрае слова вялікіх.

Яно мяне грэе і сёння. Сваёй неперагожнай, чыстай маладосцю.

* * *

Пахмурны ранак. Самотны парк.

У дробным цярушэнні мокрага сняжку дрэвы на крутых, высокіх схілах абапал рэчкі,— алешнік, вербы, ліпы, бярозы,— стаяць маўкліва, поўнасцю падрыхтаваўшыся да зімы.

Уздоўж асфальтавай дарожкі весела бяжыць літоўская пявунья Ратніца.

Калі стаць тварам да яе вышэйшага берага, на вяршыне якога ў голым ліпавым голлі лапушыцца цьмяна-зялёнымі лапамі некалькі соснаў,— прыпамінаецца клавіятура небывалага шырознага, гаманлівага піяніна. Пяе нягучная, жывая музыка, як быццам аднастайная, але ж і не, далёка не. Справа, на каменным парожыстым спадзе, рэчка шуміць, булькоча, іграе адно; злева, разліўшыся на чыстай водмелі,— другое...

А ўжо да Нёмана, з-пад пукатага моста, яна падкрадаецца моўчкі, ласкава, пакорна.

...Зноў раніца і цішыня.

Рэчка пяе, вядома ж, сама, толькі нагадвае мне піяніна.

Аднак жа так нагадвае,— вось і яшчэ раз ярка паўтарылася,— што хочацца расставіць над ёю рукі і пальцамі перабіраць — як захмялеламу ад музыкі, ці што...

Пастаяў і над Нёманам, спусціўшыся пад абрыў.

Якая б ні была навокал рань, якая б ні ляжала над ім цішыня, Нямунас робіць сваю работу жыцця. Спрадвечную. Добра сказана ў Хікмета: «Речка, текущая вместе с форелью». Цеплаходзікі, баркі, плыты тут ужо не плывуць: вось-вось зіма, гэта яна спазняецца. Нёман плыве з нябачнымі самамі, шчупакамі, язямі...

Воддаль — ціхі паром. З першымі пешаходамі з таго боку, дзе вёска і хутары. Нібы дэсант — так асцярожна падкрадаецца паром.

Далей за ім — туманец над вадою, а каля крайніх домікаў у соснах — рэдкія агні.

...Нарэшце — першы снег!..

З панеляў ён яшчэ не змецены. Яшчэ не выключаны ліхтары, і ён цярушыцца ў святле і на зямлі іскрыцца — радасна.

Перада мной па белі сцелецца адзін толькі след. Хтосьці адзін парадаваўся раней. Іду па гэтым следзе так, каб левай нагой ступаць пры той правай, а правай пры левай. Нехта трэці будзе ісці і падумае: «Во, якія ў кагосьці няроўныя ногі!..» І смешна будзе яму, чаго добрага. Пры адной, вядома, умове,— калі і ён выдатна адпачыў пасля ўчарашняй плённай стомы, калі і ён настроены так молада і светла.

Сваім шторанішнім маршрутам я дайшоў да другога — не каля Нёмана, а ў цэнтры Друскінінкай — моста над Ратніцай. І калі па некранута белых сходах спусціўся на таксама белую дарожку над вадой, само з душы папрасілася:

— Ах ты, мая!.. А яна ўсё шуміць ды шуміць!..

*1972*

# ПОЗНА — НЕ ПОЗНА

Мой друг паляк піша ў сваім пісьме:

«Прывітанне Табе перадае мая Мама».

Калі ў першым выпадку, дзе датычыцца мяне, вялікая літара можа лічыцца праяўленнем звычайнай ветлівасці, дык за вялікай літарай у слове найдаражэйшым бачыцца мне сыноўняя чуласць, якую я назіраў у свой час, будучы госцем у іхнім доме.

І я любіў сваю не менш, чым ён, аднак даводзіў ёй гэта, відаць, не так, як трэба было, як хацелася нам абаім. І вось зайздрошчу і шкадую, патаемна і сумнавата, бо — позна.

Мне трэба даць свайму польскаму другу тэрміновую тэлеграму. На пошту я прыйшоў вельмі рана, там была адна толькі дзяжурная тэлеграфістка. Літоўка, бо Друскінінкай, як вядома, Літва. Зазваніў тэлефон, і жанчына, падняўшы трубку, ветла сказала камусьці: «Лабас рытас!» — добрай раніцы. Не адказала таму камусьці, а першая так прывітала яго.

І тут мне ўспомнілася шмат званкоў, пачутых рознай парою многіх сутак: «Хто гаворыць?», «Куды я трапіў?», «Гэта кватэра?..»

Умоўнасці? Дробязі?

Але ж і зайздрасць — таксама.

*1972*

# ВЯЧЭРНІ ЗВОН

У размножаным на ратапрынце, пацешна «рускім» апісанні Гамбурга, якое нам, турыстам, прыязна раздалі мясцовыя актывісты камітэта абароны міру, пра гэтую частку горада сказана так:

«Реепербан — «Хребет» много воспетого района, увеселения Святого Павла, «пристань радости», «святой распущенный». Развлекательный док для матросов всякого цвета кожи. Сотни ресторанов — с китайского подвала до баварского пивного дворца. Они предлагают разнейшие заманивания, не только для нёба...»

Мы, чатыры мужчыны, зайшлі туды ясным чэрвеньскім адвячоркам.

Калі адкрытая, яркая шчодрасць вулічных рэклам з красунямі ў розных позах, калі таямнічасць зусім неабмежаваных у сваёй «свабодзе» кінатэатрыкаў яшчэ абуджаюць міжвольнае хваляванне, дык у завулках, куды ўваход дазволены толькі мужчынам ад шаснаццаці гадоў,— прыходзяць адчуванні іншыя.

Недаўменне: няўжо гэта ява? І агіда, пануры цяжар на душы.

У першым завулку, крыху багацейшым, не вельмі шматлюдным, на нізкіх падаконніках адчыненых вялікіх вокан сядзеў жывы тавар. Пакурваючы, перагаворваючыся, жанчыны гэтыя рэкламавалі сваю галізну неназойліва, з нейкай як быццам упэўненасцю ў сваім значэнні і неабходнасці. Нават нейкае адчуванне ўласнай годнасці, ці што. Гэта пачулася мне ў абражаным выкрыку адной з іх на турыста, на жываце ў якога вісеў фотаапарат у незашпіленым футарале: «Мах цу!», зашпілі.

У другім завулку, вузкім, цёмным, а потым яшчэ і крытым, і значна шырэйшым, падобным на брудны

падземны гараж, голыя жанчыны стаялі кожная каля свае кабіны. Густа валэндаўся п'яны збой мужчын, чуўся крык, рогат, лаянка. Яны ж стаялі моўчкі, нерухома. Памалу праходзячы каля іх, я прыглядаўся, наколькі гэта прыстойна было, да вачэй, да выразу твараў гэтых... усё ж такі не манекенаў.

Абыякавасць, стома, як у салдатаў на варце, адсутнасць хоць бы якой сарамлівасці ці какетства, у некаторых нават прыкметны цынізм.

Голыя целы жанчын — у такой масавасці, у такім здзеку, сярод натоўпу апранутых мужчын — гэта балюча напомніла мне архіўныя фотаздымкі гітлераўскіх карнікаў: чэргі жанчын, распранутых перад расстрэлам...

А побач з гэтым, на вуліцах светлых, у нахабстве рэклам салідна шпацыруюць бюргерскія пары, часта з малымі ўнукамі; на ганку секс-магазіна забаўляюцца дзеці гэтых прагрэсіўных крамнікаў; у неба ўздымаецца велікапышная кірха...

Гучыць вячэрні звон. На малітву.

На захадзе сонца цудоўнае неба.

За дамамі, на бруднай Эльбе, бялеецца наш цеплаход.

І сум... І жаданне на ўсю глыбіню зразумець, што ж яно ў чалавечым жыцці да чаго...

*1973*

# ДАРОЖНЫ РЭКВІЕМ

Спачатку грэбля ў балоцістым лесе. Зусім нечаканы і пералётны сонечны дождж. Потым лясное возера.

Спыняемся і выходзім з «газіка».

З нізкай хмарай вялікая роўнядзь вады цёпла павязана леным, рэдкім церушэннем. Сітнёг. Лазняк. Шчэбет птушак і зумканне камароў.

Гром пракаціўся па небе. Як заўсёды, з нейкім трывожным, палахліва-радасным абяцаннем чагосці лепшага. Знаёмая, з маленства любімая музыка.

Няўжо тут было таксама і тады, у дні вялікай фашысцкай блакады?

Такая краса — і забойства дзяцей?..

* * *

Старая студня з выпетраным жураўлём. Адна на зялёным прасторы. Не менш сіратлівая груша. Сівы палын на котлішчах.

І яшчэ адзін помнік. Дзвесце семдзесят чалавек. У студзені сорак трэцяга года.

Бярозавы хмызняк на месцы хаты, у якой палілі вёску.

Цяпер тут калгасны выпас, цялятнік з двума грамадводамі і хатка.

Дзеда-вартаўніка, былога партызана, у якога тут забілі жонку і двое дзяцей, засталі мы на выпражаным возе. Спаў на сонцы, а каля кола стаяла пустая бутэлька з імпартнай этыкеткай. Зайшлі з ім у хату, паставілі на стале магнітафон. Але сабака, які дагэтуль брахаў на нас з-пад падрубы, цяпер уядаўся пад звонкай падлогай... Прыйшлося пайсці ў машыну, нават ад'ехацца далей ад брэху.

Дзед *у той дзень* прыбег з лесу *пасля*. Работа была «чыстая»: усе пабіты, усе пагарэлі.

А навокал пажарышча ляжалі акрываўленыя вілы. Адзінаццаць штук. Віламі трупы, а каго і жывога яшчэ, падкідалі ў агонь...

Едзем.

Дзе было поле — цяпер вялізная паляна цімафееўкі. Жывому трэба жыць. І клопат адчуваецца: парнасць, зноў будзе непатрэбны дождж.

Вялікія лужыны на сонечнай дарозе. Адна за адной. І вясёлая плісачка. Садзіцца каля вады, зноў уцякае ад машыны, зноў садзіцца... Як дзіцячая гульня.

* * *

Зялёны востраў у няспелым жытнім моры. Бярозы.

З дарогі туды, у жыце, дарожка. Густая, нетаптаная трава. Абапал дэкаратыўныя кусты. То васілёк, то маладзенькі колас у траве.

Пад бярозамі помнік. Тут пахаваны адразу дзве невялікія вёскі. Сто сорак чалавек. У ліпені сорак другога.

Навокал — ціхая песня вячэрняга сонца, пяшчотнага калосся, непрыкметных жаўранкаў.

У душы паўтараецца:

Жыта маё маладое!
Укрый мяне з галавою...

Пра ўсё пра гэта можна хіба толькі музыкай сказаць. Што было, і што ёсць, і што будзе...

* * *

На невысокім Кургане Бессмяротнасці — скульптура жанчыны [redacted] лаўровай галінкай у правай руцэ, з жывымі, нядаўна ўкладзенымі некім, кветкамі — у левай.

Былая вясковая вуліца стала шырокай і зялёнай палявой дарогай. У колішніх агародчыках цвітуць даўно адзічэлыя ружы. На траве, якою ўсё парасло, стаяць самотныя вербы. Бярозы маладой, нявіннай легкадумнасцю ўпрыгожваюць, а векавыя, магутныя ліпы вартуюць гэты спакой.

На кожнай былой сядзібе — сваяцкі помнічак у металічнай ці драўлянай агароджы. Нізкі драўляны крыж, ужо касматы ад моху, зусім утапіўся ў лістоце бэзавай падсады.

А што пад ім?

Старшыня сельсавета, які суправаджае нас, у дні вайны быў маладзенькім партызанам. Інтэлігентны, дружны хлапчына расказвае:

— Трохі касцей недагараных у чыгунок або ў што і — закопвалі. Пасля таго.

Гэта — пад помнічкам. Адным, другім, дзесятым...

А што не *пад ім*, а *за ім* — што было не *пасля*, а *тады*?

Успамінаюцца пачутыя сёння словы старэнькай жанчыны, якая адна засталася з усёй гэтай вёскі, адна ўратавалася цудам і дажывае ў вёсцы суседняй, што згарэла не ўся:

— Добра пра тое расказваць таму, у каго няма жалю... Хто можа, дзеткі, гаварыць...

*1973*

# «ЮРМАЛА, 72»

За вялізным акном майго шостага паверха — густое верхавінне хвойніку, з яго тырчыць вострая вежа кірхі, далей, калі прыўзняцца за сталом, шырокая рака, а направа ад хвойніку — спакойнае мора.

Сеўшы за стол, сказаў: «Люблю я гэта — новае ды новае!..»

І сапраўды — штосьці тут ёсць, нейкая натуральная цяга да падарожжаў, да змены месца. Хоць і добра гэтымі днямі сядзелася дома...



Дзеці гулялі на гарадскім двары. І хлопчык Юрко, якому ў гэты дзень было так добра, весела і так хацелася што-небудзь незвычайнае зрабіць, узлез на дах трансфарматарнай будкі і праваліўся на апаратуру...

З бацькам хлопчыка я быў толькі знаёмы. Нават бываў ім справядліва нездаволены. Калі ж мне сказалі пра смерць малога Юркá, я напісаў яго бацьку. Не з дому, а з другога горада ў горад таксама далёкі, трэці.

Тут, у чацвёртым горадзе, сёння я сустрэў яго, бацьку таго Юрка. Толькі праз месяц пасля трагедыі.

Сустрэча была для нас абодвух зусім нечаканай, і я сказаў яму «ты» — упершыню, міжвольна, як бывала ў мяне часамі з кім-небудзь з маладых сяброў, каму хацелася сказаць штосьці ад душы. Юркаў бацька быў у спартыўным касцюме і здаваўся ад гэтага шмат маладзейшым нават за свае трыццаць пяць. Страшная смерць адзінага сына наогул зрабіла яго ў маіх вачах ледзь не юнаком, бездапаможным, страшна свабодным, з глыбокім болем у душы.

Ён мне сказаў, што тут, у пісьменніцкім доме творчасці, ён не адзін, а з жонкай. Я ведаў, яшчэ з другога далёкага горада, што жонка яго павінна хутка нарадзіць. Я не папрасіў перадаць ёй маё прывітанне не толькі таму, што мы не знаёмыя, але і таму, што прывітанне маё магло б ёй здацца яшчэ адным спачуваннем, якое ёй не патрэбна цяпер, пасля жахлівай страты, перад новым хвалюючым набыццём.

Ён мне сказаў, што праз гадзіну яны ад'язджаюць, ён вось толькі забег у буфет, узяць ёй штосьці ў дарогу. Нічога больш не гаварылі мы, ні я, ні ён, а толькі яшчэ раз паціснулі рукі, хоць і не дзіўна было б,— так адчувалася,— каб мы абняліся на развітанне.

* * *

Нарада наша ў пэўнай меры міжнародная. Уранні з Масквы разам з трыма рускімі прыехалі два палякі, з Вільнюса адзін літовец, а латышы — на месцы.

Учора ўвечары я быў адзін з прыезджых, знаёмых у доме больш не сустрэў, і цяпер мне прыемна ў гурце. Тым больш, што прыехалі і сябры, з якімі добра пабачыцца.

У нашай групе толькі адна жанчына. Руская. Як гэта часта, ці нават заўсёды бывае, наша мужчынская ўвага нейкім міжвольным чынам звернута на яе. Няхай сабе гэта і непрыкметна, толькі адчуваецца кожным па-свойму, пра што я, праўда, магу пакуль меркаваць па адным сабе.

Мы сабраліся ў светлым, утульным кутку вестыбюля, чакаем аўтобуса, які нас павязе на экскурсію ў Рыгу. Сядзім, стаім, гаворым, маўчым.

Я расказаў, між іншым, пра маю ўчарашнюю сустрэчу з Юркавым бацькам, пра страшную смерць малога, і, паколькі гаварыў гэта перш за ўсё свайму рускаму сябру, дадаў:

— Юрко. Называўся таксама, як мой...

І тут яна, адзіная сярод нас жанчына, раптам устала і адышлася. І засталася там, як быццам заглядзелася ў акно.

Мы сумеліся. Найбольш, здаецца, я. Амаль падсвядома, толькі па адчуванні нейкай незразумелай віны я падышоў да яе і сказаў:

— Прабачце, калі я што не так...

Словы былі не тыя. Яна памаўчала, а потым адказала з намаганнем на спакой:

— Гэта не той выпадак, калі просяць прабачэння.

І я тут яшчэ раз заўважыў, ужо выразна, зблізку, якая яна сумная...

* * *

Ён і паэт, і архітэктар. Цікавае, рэдкаснае спалучэнне. Ён любіць свой горад з добрым веданнем яго і хоча паказаць нам усё як найлепш.

А я не ведаю яшчэ, што неўзабаве мне забаліць ад новай выпадковасці, ажно скажу ў душы: «І навошта вы, малады, інтэлігентны, іменна з гэтага пачалі?..»

Бо ён пачаў чамусьці могілак латышскіх стралкоў.

А на тых могілках, залітых вераснёвым сонцам, святло якога ўзмацнялася ад золата нерухомай лістоты, якраз тады, калі мы падышлі, здалёк пачуўся пахавальны марш.

Я ўжо ведаў, чаму адзіная сярод нас жанчына — у такой непрыступнай сумоце.

Музыка нібы дыхнула на яе, ды так, што цяжка стала, як супраць лютага ветру ісці, і яна пачала адставаць ад усіх, каб застацца каля ўвахода.

І я не змог ісці далей. Я падышоў, пацалаваў яе руку, і мы нічога не гаварылі.

* * *

Мора хацела штосьці, штосьці, штосьці сказаць... Чакаў, чакаў, чакаў — не сказала... Так і пайшоў.

Гэта — учора.

Потым вецер усю ноч атакаваў наш дом, а як заднела — поўны месяц клікаў з ашклёнай верхатуры на зямлю, пад сасновы пошум, да шуму марскога.

Хацеў ёй пазваніць, нібы ўпэўнены, што не спіць і яна. Потым «узяўся за розум»: а што ж за блізкасць такая?.. Выйшаў адзін.

Мусіў вярнуцца, бо вецер і дождж.

Чайкі пакурчыліся на змытым пяску і адступаюцца ад хваль. А вецер падганяе іх, каб патупалі, ума-

цоўваючыся на далейшае стаянне. Нават і грэюцца, махаючы крыламі.

З балконнага акна відно, як ходзяць зялёныя хвалі сасновых вяршыняў. Вострая вежа кірхі стаіць непарушна і толькі жмурыцца ад вострага дажджу.

А на балконе гайдаецца ціха, відаць, пачаўшы яшчэ звечара, лазовае крэсла-гайдалка.

* * *

Рускага я палюбіў спачатку па творах. Памяць пра тое, што я прачытаў даўно, хвалюе здалёк, сустрэча з новым падмацоўвае гэтае хваляванне. А пры сустрэчы з ім самім я неяк молада ганаруся нашаю дружбай. Молада — хоць я за яго старэйшы.

Літоўцу я не так даўно зрабіў адну паслугу, не цяжкую для мяне, а для яго тады вельмі патрэбную, і мне прыемна, што мы сустрэліся, што нам не трэба ўспамінаць пра наша тое, бо словы будуць лішнімі, калі ён ёсць, такі вось харошы настрой — у абодвух.

Чацвёртая з намі яна. Мы ўжо звяртаемся да яе не Алена Мікалаеўна, а па-рознаму — Лена, Алёнка, Эленутэ, і ўсім нам, мужчынам, хоць мы і не гаворым пра гэта паміж сабой, прыемна, што з намі ёй лепш, чым заўсёды адной.

Мы ідзём па вячэрнім узмор'і. Справа гамоняць хвалі. Яны бліжэй, чым сосны злева, на высокім беразе, і соснаў не чуваць. Нават у паўзах нашай гутаркі. Бо мы ж гаворым, нават і смяёмся.

Так, і смяёмся. Бо ёй так лягчэй. А мы, як можам, адводзім яе ад таго, чым яна толькі і жыве.

Яна ўжо нават папрыгажэла. Ці гэта я не заўважаў, што яна і адразу была такая. Строгая, гордая краса, якую і гора не заглушыла. Вялікія шэрыя вочы, пышныя цёмна-русыя валасы і маладзенькі, як дзіцячы, падбародачак пад вуснамі, якія так рэдка, але так міла раскрываюцца ва ўсмешцы.

Мы ўжо чацвёрты дзень разам. І ў працы нашай нарады, і на экскурсіі, і на канцэрце, і на такіх вось вячэрніх праходках.

Пасля праходкі яна запрасіла нас зайсці ў яе пакой.

Паказала нам страшныя фота. Мужава — толькі

адно. І некалькі здымкаў сына. Ад смяхунчыка з грыўкай да таго трынаццацігадовага, сур'ёзнага і мілага ў сваім сталенні хлапчука, якім ён пайшоў улетку з жыцця, разам з бацькам загінуўшы ў аўтамабільнай катастрофе.

— Ён называўся таксама Юрачка.

Гэта яна сказала хутчэй за ўсё мне аднаму, так нагадаўшы мой расказ у першы дзень пра таго, што загінуў, праваліўшыся ў трансфарматар, і пра майго, у гэтай неверагодна выпадковай тройцы Юркаў трохі старэйшага.

* * *

І ў горы яна застаецца жанчынай.

У рэстаране, дзе нас прымаў мэр горада, пра яе трагедыю ведалі не ўсе нават сярод удзельнікаў нарады, а за сталом былі і работнікі гарсавета. Адзін з іх запрасіў яе танцаваць. Вярнуўшыся на месца, трошкі расхваляваная, з новым пabліскам у вачах, сёння па-новаму прыгожая ў вячэрняй сукні, што хараша падкрэслівала яе прывабную стройнасць, яна сказала нам, суседзям, літоўцу і мне:

— Цяпер скажыце, што я не мужная.

Што ж, няхай сабе трохі какецтва — абы ёй было лягчэй.

Была і наіўнасць, якую мы таксама прынялі з разуменнем, моўчкі. Гэта ўчора, калі яна дала нам, усім тром, па цэлафанавай папачцы і сказала:

— Сюды, прашу вас кожнага, што-небудзь пра нашу сустрэчу...

Было і іншае...

У маляўнічай Сігулдзе, калі мы, стоячы на замкавай, любаваліся тым, як высока над звілістай Гаўяй узнялася да сонца лістота залатое восені, Лена-Алёнка-Эленутэ сказала мне аднаму, бо мы стаялі воддаль ад усіх:

— Неяк я думала ноччу: а што было б, калі б мы чатырох апынуліся на бязлюдным востраве?..

Ці не тады гэта яна так думала, калі і я не спаў, калі мяне месяц паклікаў на бераг, а я хацеў ёй пазваніць?..

* * *

Ранняе сонца. І кірха ў сонцы. Верхавінне соснаў калышацца. Направа — накат за накатам — белагрывыя хвалі. А над лесам праявілася і правільнай, яркай дугой усю красу падкрэсліла радасная вясёлка. І чайкі, некалькі чаек, плаваюць бела і нерухома над усім гэтым — пад такою, амаль вясновай ці летняй увосені, вясёлкай.

Учора мы яе праводзілі. А сёння я вось гавару:

— Мілая, я развучыўся, а можа, і не ўмеў ніколі як след прыдаваць з'явам жыцця належную літаратурную форму, будаваць «стройны сюжэт», забяспечваць «вострую займальнасць». Калі я што-небудзь і напішу ў тую празрыста-блакітную папачку з вашай паметкай «Юрмала, 72», дык гэта будзе, хутчэй за ўсё, проста расказ пра пачатак дружбы, якую няёмка і... страшна назваць нечым іншым...

*1974*

# БЕЛЫ ГОЛУБ

Заходзіла сонца. Вялікае, барвовае, спакойнае. Пасля была зара, незвычайная, як пажар доўгай вёскі, які разгараўся, тады спакваля цераспалосваўся сінечай і, нарэшце, пачаў атухаць.

Наш турысцкі аўтобус ішоў па асфальце, па-начному адасобіўшы ў сабе невялікую групу людзей, што за два тыдні на чужыне паспелі як быццам уведаць адзін аднаго, а некаторыя нават пасябраваць.

Іспанія. Дарога з поўдня на Таледа.

Праз вокны ўжо не відно было бясконцых аліўкавых садоў на ўзгорках і ў далінах, рэдкіх пасёлкаў з нàсілкамі чырвонага перцу на белых сценах, не відно было геаметрычна рэзка акрэсленых, падобных на сопкі гор, а тым больш — дзівосна розных колераў восеньскай раллі, ад карычневага, цераз жоўтае, шэрае розных адценняў і да салатава-светлага.

Мы спявалі. То хорам, то на змену, з гідавым мікрафонам. Песні рускія, украінскія, малдаўскія, армянскія — кожны сваю.

Калі прыйшла мая чарга, я прысеў на толькі што вызваленае месца на першым сядзенні. Побач са сціплай з выгляду і ад гэтага сімпатычнай пажылой масквічкай. Прафесар, адна з медыцынскіх славутасцей. Яна падпявала мне ціха і неяк па-вясковаму сардэчна. Не адразу, пакуль увайшла ў незнаёмую мелодыю, і без слоў, бо песня была беларуская. А потым, у рускай народнай песні, былі ў нас і словы, але мілая ціхасць у спеве яе засталася.

І я тады раптам, як радасць якую, што даецца ў жыцці не так часта, успомніў восень сорак першага года. Перадапошні перагон майго патаемнага марша

з палону, хату сястры, дзе я, толькі пачуўшы, што дома, за дваццаць кіламетраў адтуль, усе жывыя, зваліўся ледзь не на цэлыя суткі.

Калі я прачнуўся, сястра, удвая старэйшая за мяне, карміла беднага валацугу, як маці, і зноў расказвала. А потым — праз боль і сум, праз горыч і недаўменне ад таго, што нарабілася навокал і на свеце — да мяне прыйшла незнаёмая песня.

Яна была па-народнаму простая, ад светласці яе — ледзь не заплакаць. Пасля я гэтую песню чуў вельмі часта, можа, нават зачаста, у самым розным выкананні, ад салдацкага крыку на маршы да мілай непасрэднасці маладое салісткі. Сястра спявала не богведама як, з удовінай вясковай прастадушнасцю, таксама ціха і сардэчна, як і суседка ў іспанскім аўтобусе. Я падпяваў сястры няпэўна і шчасліва, як быццам, нарэшце, злавіўшы ў варожым шоламе ледзь чутную, вельмі патрэбную хвалю. Песня тая, сёння сусветна вядомая, упершыню прыйшоўшы да мяне, салдата польскага верасня 1939 года, потым ваеннапалоннага, адкрыўшыся мне ў такі трагічны час, ідзе са мною па жыцці, як і ў кожнага, са сваім успамінам.

Гэта — «Кацюша».

У краіне змрочна загадкавай і так доўга закрытай для нас, на сонечнай зямлі пяшчотна-суровай красы, на радзіме Сервантэса, Гойі і Лоркі, у дзяржаве, што так пачварна засядзелася ў сваім затхлым фашызме — песня яшчэ раз паўтарылася ў маёй душы. Нібы махнулася мне белым голубам у цемры.

*1974*

# ПОЗНІ АГЕНЬЧЫК

Вяселле ад маладое пераехала да маладога — гасцінцам, у суседнюю вёску, за два кіламетры. Адзін з гулякаў забавіўся дома, адстаў і пайшоў пехатою. Зіма, ноч, а ён, вядома, пад чаркай. Брыў насустрач ветру з макраватым снегам у твар. Вецер сарваў з яго шапку. Дзяцюк дагнаў яе, насунуў мацней, угрунтаваўся на нагах, пайшоў. Доўга ішоў, бясконца доўга — спачатку ўсё на сваю дарогу, на насып гасцінца выходзіў, а потым адчуў, што дарогі няма, што ў завірусе ён — проста кудысьці ідзе... Барозны, раўкі, зноў роўнае, зноў барозны...

Потым, нарэшце, у снежнай, шчымліва-сякучай муці яму паказаўся далёкі агеньчык. Яшчэ адзін роў... Не, тут ён, ужо амаль зусім не п'яны, зразумеў, што гэта не роў, а нізкае рэчышча... Праз нізкі ў снезе дрот агароджы, потым цераз штакеты ён пералез і, нарэшце, пастукаў у жывое акно!..

Ён быў страшэнна стомлены, мокры, аднак ужо не спалоханы, без прыкметнай на твары няёмкасці — па праву чалавека, якому патрэбен ратунак. Мой брат, братавая і дзеці спалі, адзін я, месячны госць, чытаў у кухні за сталом. На нашу нягучную гаману, спачатку ў сенях, потым у кухні, ніхто не прачнуўся. Я прымусіў яго распрануцца, надзець сухое, паслаў яму на тапчане, знайшоў і наліў ад прастуды чарку, хлеба, сала, цыбуліну даў. І ён мне расказаў сяк-так, што здарылася. Я сказаў яму спаць, дый сам ужо больш не чытаў, лёг у хаце. Добра за поўнач.

Ён пайшоў, калі ўсе яшчэ спалі, адна толькі гаспадыня ўстала. Надзеў свае даспехі, якія мы ўчора развесілі каля гарачай грубы, і пайшоў, ужо зусім у цвярозай няёмкасці.

Калі б не мой позні агеньчык, хлопцу было б вельмі дрэнна. У сваёй упартай упэўненасці знайсці спачатку дарогу, а потым якое жыллё, ён брыў наслепа — якраз туды, у той бок, дзе за вёскай (братава хата наводшыбе) пачыналіся крутыя ўзгоркі, сярод якіх, наўпоперак — глыбокія, «воўчыя» яры...

Я не запомніў, чый ён у сваёй вёсцы, за шэсць кіламетраў ад нашай, а ён ні ў мяне, ні ў братавай не спытаўся, хто мы, хто тут жыве. І гэта яшчэ лепш. Проста помніцца. Вось ужо і шаснаццаць гадоў.

*1977*

* * *

Успомніў старую ў аўтобусе, на пыльным гасцінцы родных мясцін. Як яна ні з таго ні з сяго развязала чыстую белую хустку і пачала частаваць пасажыраў вялікімі чырванабокімі яблыкамі.

Яны — нібы кветкі, нібы агеньчыкі засвяцілі. Яна — разумее іх прызначэнне: даваць людзям шчасце, народжанае з працы.

А можа радасць яе прасцейшая? Скажам, доўга ішла палямі, вельмі стамілася і ўжо нават не верыла, што аўтобус той будзе, што ён спыніцца на пустым скрыжаванні яе прасёлка з гасцінцам, возьме яе... А ён спыніўся і ўзяў!

Не, не ў гэтым прычына яе дабраты.

А ў чым жа — у натуры, у разуменні жыцця — у чым?

Было гэта... аж дзесяць год таму назад. Цяпер тыя яблыкі прыгадаліся ў нейкай сувязі з яркімі кветкамі маку, якія ўбачыў праз акно аўтобуса ў гародчыку перад светлаю хатай.

Чаму гэта не проста ўспамінаецца, а хвалюе?

Перадаваць другім такое адчуванне радасці, красы жыцця, любові да яго — няўжо гэта не сапраўднае мастацтва, няўжо ў мяне ёсць яшчэ і такія сумненні?

* * *

Над быстрай Шчарай, у пакойчыку з акном на сосны, пясок ды мох пад імі, чытаю прозу Гётэ. Перад сном. Усё, што за маім асветленым пакоем, уяўляючы.

Прыехаў сюды пазаўчора, а ў вачах яшчэ ўсё маладзенькія рабінкі ў сонцы, абапал бруку наваградскага

гасцінца, на зеляніне прысадаў, каля жоўтага ды зялёнага поля...

Чаго ты прыстаў да іх, што ты ўбачыў тут за апору, за грунт для жыцця, для сэнсу яго, для вечнасці?

І сапраўды — для жыцця, для радасці яго, няспыннай радасці вечнага абнаўлення, вечнай надзеі на лепшае заўтра, вечнай упэўненасці, што яно прыйдзе. Сапраўднае чалавечае заўтра.

* * *

Цёмны і золкі вечар. Спыніўся, каб паслухаць радыё, што грыміць з двара воінскай часці і, трохі слабей — за касцёлам, у гушчы дамоў.

Зусім звычайная гэта рэч, і неяк дзіўная разам з тым, што на ўскраіне соннага гарадка, над трыснягом халоднага балота, у голлі сумных дрэў два гучнагаварыцелі разносяць жывы, цёплы голас пісьменніка, які расказвае пра свае творчыя планы, а потым чытае новае апавяданне.

Ён цяпер госціць у мностве гарадскіх кватэр, вясковых хат, па ўсёй нашай вялікай краіне і за межамі яе. Ён вось — голасам — цепліцца і пульсуе ў паветры з усімі сваімі чалавечымі, і толькі яму ўласцівымі, уладзімірскімі інтанацыямі, ён гаворыць з мільёнамі, і ён так блізка ад мяне. Нічога, што асабіста мы з ім толькі знаёмыя — я люблю яго кнігі, і я вось пастаяў пад дрэвам, на слоце, паслухаў... З нейкім наіўным, ці што, хваляваннем, з думкай пра нашы правы і наш абавязак — так вось грыміць над зямлёю.

* * *

Машына пыліць паміж голых асенніх палёў. Спявае радыё. Поўная маладога шчасця і мілай грацыі польская песня пра тое, як дзяўчынка ішла па лясочку ды спаткала паляўнічага.

«Сталочак мой, мілочак мой, як жа я табе рада! Дала б я табе лустачку хлеба з маслам, але толькі што з'ела яе сама!..»

І цудоўны — без слоў, як жаўранкава песня,— прыпеў, на цэлы куплет — «тра-ля-ля»!..

Еду ад добрых людзей, стомлены шчырай гасціннасцю.

Трохі залішне расчулена думаю, што, можа, я і нічога не варты, аднак, калі музыкай слова пакіну такое вось «тра-ля-ля»,— некаму будзе таксама радасна.

Паходжанне гэтай радасці многія не змогуць вытлумачыць, але — такое бяды. Я ў ёй схаваюся, у людской радасці.

* * *

Што гэта робіцца з памяццю?.. Гадоў ужо з дваццаць я памятаю сон — штосьці наўздзіў прыгожае ў маім жыцці. Успамінаю гэты сон. Нядаўна нават перасніў яго яшчэ раз... Дзіўна!

Дваццаць гадоў таму назад жыў я, можна сказаць, абы-як. І вось тады сасніў, што мне, замест майго катуха, прапануюць кватэру.

Ды не кватэра помніцца з таго сну, а толькі адзін пакой. Куткавы, цянявы, з акном у стары сад. Там будзе мой зацішны, мой удачлівы кабінет!..

Даўно ўжо ёсць у мяне і кватэра, і свой, асобны рабочы пакой. Праўда, з акном на ўпарта і нязменна сумны дах другой камяніцы. Але вялікі, зацішны, з любімымі кнігамі.

Чаму ж мне помніцца, нават зноў сніцца тое акно ў цяністы сад?

Ад тугі па зялёным, па сонечным?

Ці ад тугі па няўлоўнай удачы?..

* * *

Мае найранейшыя творы не засталіся, не выжылі. Але ж дагэтуль засталася ў памяці радасць працы над імі.

Часамі нават нібы ўспамінаецца, што вось было ў мяне... здаецца, вельмі маленькае, ды вельмі ж ёмкае, светлае апавяданне, якое дало мне вялікую радасць стварэння, дало надзею, упэўненасць, што буду пісаць. Дало, а само кудысьці прапала... Дый невядома, ці наогул было. Хоць радасць тая і ўспамінаецца як сапраўдная.

Былі ў тым апавяданні нейкія вельмі скупыя і яркія, вельмі трапныя і каштоўныя словы, куды дакладнейшыя і значнейшыя за тыя, якія ёсць у маіх ранніх

надрукаваных творах. Былі? А можа не было? Можа і не. Я памятаю іх як у шчаслівым, але невыразным сне, дзе тыя словы — больш музыка, чым жывапіс. І гэтая музыка — мая першая радасць авалодвання словам — не толькі была тады, але, як вясёлае, чыстае рэха, паўтараецца часта і сёння.

Толькі ж ці часта?

Каб жа часцей!

* * *

Двойчы праходзіў каля адной старэнькай хаціны. У агародчыку перад хатай стаяла бабуля, таксама спрадвечная. Стаяла, калі я ішоў па вёсцы ў адзін канец, стаяла, калі вяртаўся. А вёска доўгая. І я не вельмі спяшаўся.

Побач [illegible] бабуляй, каля не вельмі ўжо відушчага акна,— сакавіта-зялёны куст. Можа я не пазнаў бы за нейкіх пяць крокаў, а то і не пацікавіўся б, што за куст, але на ім цвіла ружа. Толькі адна.

І вось яна мне помніцца.

Нават нагадала васняцоўскі «Скіт» — лясную цемру і светлую кропку агеньчыка, які гаворыць так многа.

Пра скупасць мазка.

* * *

Позняя восень. Цёмная ноч. І не спіцца.

Уяўленне настойліва малюе мне, падсоўвае, мяняе краявіды — ва ўсёй шматколернай красе. Я не ўспамінаю іх, убачаныя калісьці,— яны з'яўляюцца па загаду, па жаданню майму — новыя, цудоўныя, жывыя. Магчыма, яны падсвядома манціруюцца з успамінаў, з розных кавалкаў у адно? Не ведаю. Яны іграюць усімі барвамі жыцця, яны хвалююць, і мне... так добра ад гэтай бяссонніцы.

* * *

У Спаскім-Лутавінаве.

Блукаў па парку, выходзіў у поле. Пад пошум залатой лістоты ўгары, пад шамаценне яе пад нагамі, гле-

дзячы ў загадкавы гушчар, а пасля на прасторы парэзаных ярамі ды падвяселеных пералескамі палёў думалася — як быццам сумна, нават трохі абыякава:

Што ж, зямля — і тут як зямля. Апяяць яе толькі трэба як след. *Урабіць словам.*

Ён гэта і зрабіў.

Таму вось мы і ходзім, і любуемся.

* * *

Учора даволі доўга і горача спрачаліся пра старое і новае ў мастацтве слова.

Ніяк не магу зразумець, чаму, напрыклад, стыль Чэхава і Талстога «аджыў»... Калі яны — вяршыні светазарныя, дык промні іхняй велічы падаюць зверху далёка ў мінулае, беручы адтуль, і далёка ў будучыню — даючы. Калі такія пісьменнікі — з'ява эпахальная, дык няўжо іх стыль — *шчыра, проста і каратка* — састарэў і трэба ад яго «ўздымацца»?

Вечны крытэрый: калі ёсць што сказаць, калі хочаш, каб цябе зразумела, каб табе паверыла як мага больш людзей,— мудрагеліць не будзеш.

Вечнае не старэе.

А моладзь наша шукае новага ў літаратуры часткова і таму, што засумавала яна па вечным — па праўдзе, па жыццёвасці.

* * *

«Пакуты слова». У паняцце гэтае трэба ўключыць іменна тыя пакуты, калі мне хочацца працаваць, а я не магу. Бо якія ж гэта пакуты, калі працуеш?

* * *

«От избытка сердца говорят уста».

Успомніў гэта ў рэдакцыі, спрачаючыся пра майстэрства, а потым успамінаў у дарозе, у зялёным тунелі Брэсцкай шашы.

Як гэта правільна сказана! І якія там могуць быць «уста», дзе няма «избытка сердца»?

Тут, да евангельскага, падыходзіць і горкаўскае: «Много сердца — лучшее средство писать хорошо».

* * *

Чытача не ашукаеш. Калі ты любіш, што любіш, па-сапраўднаму, а ненавідзіш таксама на ўсю душу, калі ты ўкладваеш у тое, што пішаш, усё, што маеш найлепшага, калі робіш гэта натуральна, шчыра, без усякай задняй, ніякай думкі,— чытач гэта бачыць, ён прымае тваю руку, працягнутую на дружбу.

Наколькі што будзе ў тэксце, наколькі ў падтэксце — гэта ўжо, здаецца, не заўсёды ў нашай уладзе. Але гэта *павінна быць*, гэтым павінен дыхаць твор, і гэтага не падробіш. Шчырасць — толькі яна будзе відаць, і толькі яна — галоўнае.

* * *

Пішучы пра другога, не бойся быць самім сабою. У Ралана, напрыклад, з яго сярэдневяковым Бруньёнам, гэта выходзіць вельмі і вельмі нядрэнна.

* * *

Пераглядаў ранейшыя блакноты, думаючы, што ўжо зрабіў калісьці такі ці падобны запіс. Не знайшоў яго, і таму пішу, бо ўжо дзён некалькі думаю пра гэта, хачу кагосьці спытаць:

— Вас когда-нибудь били по обнаженному сердцу?..

Ці чуў гэта дзесьці, ці чытаў (бо і думаецца па-руску) — не ведаю, не памятаю. Але гэта апошнімі днямі — вельмі маё...

Вось што такое «лірычная проза».

* * *

Прыглядаўся да сваркі вераб'ёў у горбе бярозавага вецця каля плота.

Радасна ўспомніў другое прадвесне — ажно трыццаць трэцяга года. Той час, калі я захапляўся народнымі апавяданнямі Талстога — першага, хто мяне навучыў па-сапраўднаму любіць жыццё, працу, простых людзей.

Улетку таго самага года, упершыню прачытаўшы

«Ці шмат чалавеку патрэбна зямлі», назаўтра, у полі, доўга глядзеў на аўсяныя мэндлікі і глыбока, назаўсёды адчуў, што пісаць трэба толькі для простых, працоўных людзей.

* * *

Калісьці нехта выдумаў сякеру, песню, казку... Сам застаўшыся безыменным. Калісьці кітайскія літаратары пускалі ў жыццё свае творы без подпісу, ананімна.

Чытаў я пра гэта ў юнацтве і недаўмяваў. А цяпер ужо нібыта пачынаю разумець... Нядаўна нават усцешыўся, сустрэўшы ў Галчыньскага:

«Працуйце — цудаў няма».

Гані мяне, доля, ад перакатных радасцей капрызнай славы да зямнога, ціхага шчасця вялікай, патрэбнай працы!

Бо як жа працуюць і працавалі мільёны безыменных творцаў жыцця — у чым іх слава і шчасце?

* * *

Рэмбрант. Ротэрдамская галерэя.

Многа партрэтаў важных, у той час знакамітых персон.

Сёння забаўна: ім здавалася, што яны робяць ласку мастаку, што не ён, а яны застануцца!..

* * *

Купіў і з цікавасцю перагортваю кнігу «Фауна Беларусі».

Паміж звяроў, арлоў ды гадаў вельмі нядрэнна гэта гучыць: Luscinia, luscinia — *звычайны* салавей. Знайдзіце больш дакладную і гордую ацэнку.

І нам бы так акрэсліваць значэнне літаратара.

* * *

І сапраўды гэта ж вельмі цікава — які Багрым быў аўтарам выдатных вершаў, што сталі потым народнымі песнямі. Скажам, «А ў полі вярба» або «Ой, я п'яна,

я п'яна»? Вельмі цікава і вельмі крыўдна, што ні да нас, за выключэннем самых блізкіх таго аўтара, ні мы, ні пасля нас — ніхто не ведаў і не будзе ведаць.

Гэта — не адкрыццё, не сцверджанне вядомага, проста я адчуў гэтую загадку чамусьці небывала вострa і хвалююча, як быццам на мяжы нейкага шчасліва-сумнага натхнення, нейкай патрэбнай задумы.

* * *

Уранні, устаўшы з-за пісьмовага стала, чамусьці раптам успомніў, што «Матушка, голубушка, солнышко мое» — любімая песня Пушкіна. Ад гэтага яна — яшчэ бліжэйшая і прыгажэйшая. Да народнага цуду падключаецца ўвесь цудоўны пушкінскі свет — любоў загараецца ад любві, святло зліваецца са святлом.

* * *

Учора быў першы раз у Жупранах.

Магіла, помнік і, у касцёле, партрэт Багушэвіча.

Радасна, дзіўна, што ён — не легенда, не гістарычнае штосьці, а чалавек, які зусім паблізу жыў, памёр і пахаваны тут вось, побач з маці і сястрой, на звычайных вясковых могілках, дзе на кожным помніку па некалькі пацешных памылак...

І другое пачуццё. І здзіўленне, і недаўменне, і пашана да таго, хто блізу сто гадоў таму назад упарта, як парастак паміж плітамі тратуара, пралез паміж дзвюма стыхіямі, рускай і польскай, насуперак усім, уключаючы і сваіх найбліжэйшых, пралез і вырас са сваім і зрэбным, і глыбока, па-народнаму, па-хлебнаму свежым беларускім словам. І славы не было, а толькі адчуванне абавязку.

Шчасце наша, відаць, у самой апантанасці.

* * *

Што не забудуся з апошняй паездкі ў Маскву, дык гэта — Прышвін у труне. Прыгожа сівая галава на падушцы. Слёзы, калі Паўстоўскі натхнёна гаварыў пра ягоную веліч як чалавека і мастака. Побач са мной, у збоі моладзі на галёрцы, плакаў юнак-аркестрант, з трамбонам пад пахай.

Я ўспамінаў маё знаёмства з Міхаілам Міхайлавічам,— над яго старонкамі, у страшным сорак другім годзе,— і думаў, што добра вось так: зрабіць усё, што мог, і адысці.

* * *

Латвія любіць Упіта.

Асабліва непасрэдна гэта праявілася ў словах калгасных дзяўчат, землячак юбіляра, якія падаравалі яму самаробныя рукавіцы.

— Што, што яны сказалі? — пытаюся ў шуме воплескаў.

І сябар мой, латышскі паэт, перакладае:

— Каб цёпла было вашым старым рукам, якія...

Кнігі яго — іржаная, духмяная, туга замешаная проза. Часамі залішне грунтоўная, а то і проста сумная, але ўсюды разлічаная на сур'ёзнага, удумлівага чытача. Чытаць яго — і асалода, і праца.

Сапраўдны, моцны чалавек, нястомны работнік, ад знаёмства з якім і сам ты, здаецца, становішся лепшым. І не «здаецца», а так. Тут дарага само жаданне. Яно не праходзіць бясследна.

* * *

Дзіўнае супадзенне. У вагоне расказваў хлопцам пра сваю маскоўскую сустрэчу з Юрыем Яноўскім. Пастаялі на вуліцы. Вельмі хацелася сказаць, што ён мне блізкі, што я шкадую яго, хачу, каб яму палягчэла... А ён, прыгожы, стройны, заўчасна пасівелы чалавек, выдатны пісьменнік, якога вось ізноў пабілі,— жорстка, груба, несправядліва,— ён усміхаўся сваёй мудрай, журботнай усмешкай і гаварыў:

— Людзі адыходзяць, справы застаюцца...

Было гэта днямі, а сёння ўранні, прыехаўшы ў Брэст, у першай газеце я ўбачыў некралог...

Юры Іванавіч пайшоў. Справа яго засталася. Сумная ўсмешка — таксама. Многае ён панёс, не паспеўшы, не змогшы аддаць. Не ўсё, вядома, па сваёй віне...

* * *

Адзін стары, бацька майго таварыша, гаварыў, паміраючы, што найбольш яму шкада расставацца з прыродай.

А мне было б з кнігамі...

Выбліснуць з невядомасці, захоплена разгарнуць кнігу, вялікую кнігу сусветнай літаратуры, і зноў ісці ў нябыт — як горка!..

Але чаму я запісваю гэта спакойна? Сытая, вялая абыякавасць? Упэўненасць у нечым, што пераможа смерць? Ці проста таму, што я думаю пра гэта яшчэ ўсё адцягнена: «было б»?..

* * *

Падвойная работа думкі: чытаеш, засвойваеш чыёсьці і думаеш пра сваё.

Чытаючы, па нейкай далёкай асацыяцыі падумаў, што разам з процьмай сучаснікаў не так і страшна старэць самому. Думалася так, вядома, і раней; цяпер нібы прыпомніў тыя думкі. І раптам прыгадаліся Таўлаевы радкі:

Ідзе за годам год,
старэюць людзі, хаты...

Далей таксама ўсё правільна, але ж — звычайна, які б там ні быў ідэйны напал. А ў тым, што старэюць *і людзі, і хаты,*— талент.

І не дзіва, што Валянцін — нібы грыбнік у пошуках шчырых баравікоў — так «вытоптваў» свае даўно, як верхагляду здалося б, гатовыя рэчы.

* * *

Чытаю «Зачараваную Дзясну». І захапляюся — на ўсю душу. Зірнуў, калі напісана: 1954—1955 гг. Даўжэнку я бачыў і слухаў на Другім з'ездзе пісьменнікаў, у снежні пяцьдзесят чацвёртага. І не ведаў як след, каго слухаю, бачу...

Чаму ж маўчу, не кажу, не пішу тым, што жывуць, пра сваё захапленне?

* * *

«Няма людзей поўнасцю добрых ці поўнасцю злых — усе мы паласатыя».

Кніга майго таварыша прынесла яму заслужаны поспех. Чытаю пачатак наступнай кнігі. Слабей. І я,

чытаючы, як быццам нават рады, што цудаў не бывае,— подленькая радасць зайздросніка. А далей у кнізе пайшло ўсё добра, месцамі мне не хапала аднаго клічніка — ставіў на полі два.

Я рады. За сябра, за літаратуру. І за сябе. Што не такі я ўжо нікчэмнік, як здавалася, а проста — паласаты.

* * *

З асалодай, проста ў святочным настроі чытаю Алешу. Пасля «Ни дня без строчки», не хочучы разлучацца з аўтарам, перачытваю «Зависть». Нібыта я зусім не чытаў яе.

Містыка:

Ці прадчуваў ён, Юры Карлавіч, што і я яго буду любіць? Тады ці думаў, калі пісаў сваю апошнюю кнігу і быў часамі вельмі самотны, несправядліва абыйдзены...

* * *

Чытаючы тоўстую, сумную, але патрэбную кнігу, прыемна спатkацца, нібы з чалавекам у снежнай пустыні, з нечымі паметкамі на кніжных палях.

* * *

«Унять старую ведьму!» — сказал Пугачев. Тут молодой казак ударил ее саблей по голове, и она, обливаясь кровью, упала на ступеньки крыльца».

У чым таямніцы, у чым законы майстэрства? Чаму казак *малады*?

Адно бясспрэчна: калі б яе, старую жанчыну, ударыў не малады — было б значна слабей. Можа, і не запомнілася б так — з маленства. Бо і цытую па памяці.

* * *

Уранні ішлі мы ўдвух па цудоўнай лясной дарозе, дзе так многа снегу — і на зямлі, і на дрэвах,— і я спыніў таварыша, каб паказаць яму адну прыгожую з'яву.

Над комінам шэрай хаты, што прымасцілася на ўзлеску, бруіўся дымок.

Каторы ўжо раз прыгадаўся мне «Дым» Канапніцкай. Дымок над убогім жыллём жанчыны, кволы — «як подых старых грудзей, што дасталі яго з агню».

Вось што такое дэталь!

* * *

Мастацкае слова *намякае*, ажыўляе ў фантазіі чытача адпаведныя вобразы. Таму часамі, калі на нейкі момант выключаецца фантазія, вельмі дзіўна, ледзь не вусцішна бывае чытаць — застаюцца толькі літары, толькі словы, толькі радкі...

* * *

Чытаючы добрую кнігу, падумаў: апроч усіх падтэкстаў тут ёсць яшчэ і такі — гэта напісана ў дождж, гэта ў радасці, гэта ў горы... І шкада стала, што падтэкст гэты найчасцей адыходзіць разам з аўтарам.

* * *

Добрыя кнігі добра чытаць яшчэ і таму, што тады свежа і плённа думаецца пра сваё.

Над старонкамі Кента («Гэта я, госпадзі») уяўленне маё жыве Амерыкай. І разам з тым я думаю не толькі пра Кентаву маці, але і пра сваю, не толькі пра яго зямлю, але і пра сваё Загора, краіну майго маленства і юнацтва, бачу роднае — нібы адтуль, з другога паўшар'я, не проста вельмі здалёк, а нават нібы з касмічнай адлегласці, упісваючы тую прозу жыцця ў сусвет, у вечнасць...

Утопія?

Хутчэй паэзія. Ужо тым часам у межах магчымасцяў тэхнікі, на грунце рэальнага мыслення.

* * *

Знаёмячыся з нейкай добрай рэччу ў кнізе ці ў часопісе, вельмі прыемна бывае падумаць, што я тым часам ведаю, які гэта складаны, пакутлівы, радасны шлях,— шлях ад скрытай задумы, праз хаатычныя чарнавікі, праз рукапісы з бясконцымі праўкамі, вы-

крэсліваннямі, устаўкамі, праз сваё і чужое, такое і... ох, не такое часамі рэдагаванне, праз брудныя карэктурныя гранкі — да чысценькай, акуратнай друкаванай старонкі!..

Прафесійны сакрэт. Адна з не вельмі ўжо і многіх радасцей нашай працы.

* * *

Не скажу, што я прыехаў сюды, у вёску, «вывучаць жыццё». Бо зацягалі, забрудзілі мы гэтыя словы. Я прыехаў пажыць у родным свеце майго маленства і маладосці, пажыць са сваімі людзьмі, пра якіх мне заўсёды найлепш пісалася.

І мне, зноў акунуўшыся ў гэты свет, ва ўпор убачыўшы яго плюсы і мінусы, зноў бывае горка ад гладкапісу, ад несціханай, безадказнай балбатні некаторых дакладаў, артыкулаў, кніг...

* * *

Калі «знаходзіць новае», «заглядваць у будучыню» так, як раяць некаторыя «рамантыкі», калі сёння пісаць пра заўтрашні дзень, заўтра — пра паслязаўтрашні і г. д., дык хто ж напіша пра наш час?..

Успамінаецца талстоўскае:

«Нам патрэбны літаратары з буйным талентам бытапісальніка, а ў нас толькі выдумшчыкі».

Мы іх часамі называем лакіроўшчыкамі.

* * *

Удвух з сябрам у творчай камандзіроўцы. Навалачыліся па калгасах, а цяпер, у раённай гасцініцы, думаю перад сном:

«Як мы будзем дзяліць «мастацкія дэталі»? Як дзяліць, палазіўшы з таптухай, рыбную драбязу?..»

Няўжо такая беднасць, няўжо мы так адарваліся ад народа, што кожнае звычайнае слова якой-небудзь працавітай бабкі здаецца адкрыццём?

Халаднавата ад гэтых думак...

* * *

Пісаць пра Хора ці Калінычa проста з натуры калісьці можна было зусім свабодна, ведаючы, што яны, цёмныя і бяспраўныя, не прачытаюць, не будуць крыўдзіцца, тым больш — пратэставаць.

Я браў з натуры нямала і нямала прыкрасцяў меў ад сваіх прататыпаў — дзесяць, пятнаццаць год таму назад. Цяпер тайнае робіцца яўным яшчэ хутчэй, амаль адразу са стала: усюды радыё, тэлевізары, прэса. І трэба лічыцца з гэтым пішучы з натуры, і маскаваць у большай меры гэтую натуру, жывых людзей і, разам з тым, не прыніжаць галоўнае дзеля часовых умоўнасцяў.

Гэта нялёгка, але нічога не зробіш — праўда заўсёды была і будзе самым сучасным і неабходным.

* * *

Калісьці *недзе* далёка, *нейкія* страшныя людзі рабілі вялікія злачынствы,— я чытаў пра іх, чуў, і не думаў, што гэта таксама былі *звычайныя* людзі.

Ды вось прыйшла вайна і мае знаёмыя — *тут, цяпер і назаўсёды* сталі нечакана са *звычайных страшнымі.*

І гэта — найстрашней.

Думаў так, адарваўшыся ад добрых вершаў Грубіяна [1], думаў — уявіўшы, як знаёмыя мне яўрэі з нашага Турца глядзелі на звычайных, даўно і, здавалася, вельмі добра вядомых местачкоўцаў, суседзяў, некаторыя з якіх сталі паліцаямі і забівалі іх — па нечаму плану, вельмі далёкаму ад іхніх сапраўдных чалавечых інтарэсаў...

Гэта страшна. Пра гэта трэба пісаць.

* * *

Чытаю прозу Пецёфі. З той самай асалодай, «на той самай струне», як перачытваў нядаўна Бёрнса.

Перапыніўся, каб пазваніць старэйшаму, даўно любімаму сабрату па пяру, што занядужаў.

---

[1] Грубіян Мацей (1909—1972) — яўрэйскі савецкі паэт.

— Ну, як ты там сябе адчуваеш?
— Ды ўжо, брат, за сталом. Не пішацца... Сяджу, уздыхаю, як конь над пустым цэбрам...
Як жа запахла мне Беларуссю! Народным, пецёфібёрнсаўскім словам!..

* * *

«Хто з язычком, той і з малачком!» — гаворыць і смяецца молада амаль васьмідзесяцігадовы дзед пад гальштукам. Старэйшы брат майго знаёмага, госць з Канады, рабочы на пенсіі, прасавальшчык дамскіх паліто, што сабраўся нарэшце прыехаць на радзіму, якую яму ад горкай палескай беднасці давялося пакінуць — боская моц! — яшчэ ў 1906 годзе.
Папахадзіла з ім, папаездзіла па свеце гэтая прыказка. З-за акіяна, з тоўстае гушчы англа-саксонскай моўнай стыхіі вынырнула залатою рыбкай і вярнулася — разам з дзедам смяецца:
«Не трэба мне тваё піўцо, а трэба мне тваё слаўцо».

* * *

За ўсе амаль што дваццаць год пры панскай Польшчы ў нашу забітую, цёмную вёску адзін раз было прывезена кіно. Паказвалі яго ў школе, яшчэ царкоўна-прыходскай, старой і невялікай. Карціна — нейкі галівудскі сераднячок — пра каханне. А духата ў школе — не прадыхнуць, гарачыня — да сёмага поту! Па частках, спакваля разгортваецца дзеянне, распальваючы гледача. Трохкутнік — *ён* і дзве *яны*. Адна пакінула яго, пасля другая. І вось ён ляжыць у труне. Чысты, харошы — хоць ты плач. І плачуць. Тыя дзве, вядома. Спачатку адна з-за рамкі выйшла, падышла да яго, потым, з другога боку, другая... Жалоба, слёзы, ах, рамантыка!..
І раптам у душнай, потнай, напружанай цішыні — расчараваны голас дзядзькі Ёсіпа:
— Ну вось, і пацалуйце яму цяпер абедзве ў...
Рогат. Абураны голас настаўніка:
— Ха-мы!..
Грубавата, вядома, але ж — здаровы рэалізм.

* * *

Кала Бруньёны ўсіх часоў і народаў не проста любілі слова, а вымушаны былі з-за недахопу слоў сваволіць, самі прыдумваць іх. Пастукваць у нашу цесную слоўную шкарлупіну вясёлай дзюбай, шукаючы выхаду.

* * *

Чуў калісьці: «*Гадаванае* дзіця памерла». І тут пра беднасць, пра цяжкую беспрасветную працу.

Страшная ёмкасць народнага слова!

* * *

Сваты прыйшлі, а дачка яшчэ маладзенькая. Бацькам — гонар:

— Ды што вы, людзі добрыя, яна ж у нас яшчэ ў рэшаце спіць!..

* * *

— І вы, бабуля, па гэтую рыбу ў чарзе стаіце? Адна душой жывучы?

— А што ж, мілы, і адно вока спаць хоча.

* * *

— Дай, бэцю, сена ахапчык. На адну пугу,— просіць цыган.

А потым пугу тую як вышмаргне з-пад пахі — цэлую капу звяжа.

Слова тоіць вялікую сілу.

* * *

— Дык вы гэта, цётка, на старасці год і пчол самі даглядаеце? А сын?

— Ой, мілы, каб жа ён умеў! Пчала — скацінка, якую не ўдарыш.

* * *

«Вільня патане, а Кромань устане».

Пачуў гэта на Наваградчыне, ад вясковай цёткі. Прыпомнілася славутае: «Горы і долы зраўняюцца».

Другая цётка:

— Калісьці казалі: «Каб ты ў Бабруйску рабіў!»

Чаму так праклiналі, не ведае. Цьмяна прыпомніў, што сустракаў недзе ў Герцэна: «Лепш ужо Вятка, лепш Сібір, абы толькі не Бабруйск!..»

Мелася на ўвазе крэпасць.

* * *

Студэнты-дыялектолагі — хлопцы вельмі ўважлівыя: так жа хораша слухаюць, што ты ім ні гавары!..

Маладзіца толькі што пасварылася з суседкай цераз плот. Студэнты засталі яе — яшчэ не астыла.

Ды вось астывае, гаворачы з імі. Ужо і ўсміхаецца:

— Як сварышся, дык слова тое, здаецца, купіў бы! А цяпер дык любое вярнуў бы назад.

* * *

Пажылы афіцэр, былы франтавік-сапёр, які нядаўна страціў зрок пры размініраванні алжырскіх палёў, гаворыць з трыбуны, перад поўнай залай піянераў:

— Смерць я, дзеці, доўга насіў на руках. Каб другія яе не бачылі.

* * *

Саслужывец па арміі, пакуль яму жылося, не заходзіў да мяне. Цяпер заблытаўся ў нейкіх махінацыях і ўспомніў, відаць, што можна ткнуцца і да гэтага: а мо чым паможа. Цяжка было яму прызнавацца! Стогне, залезшы з гора ў народную мудрасць:

— Браце, важна мець не дом, а сон!..

* * *

У старанна адпрацаваным рэдакцыяй выступленні заходнебеларускага дзядзькі ацалела фраза: «Адзінаццаць год паноў няма, *а рукі мае яшчэ ўсё баляць*».

Хоць ты дзякуй скажы, што захавалі гэтую залацінку, не заграблі яе ў слоўным пяску.

* * *

Без'языкасць многіх нібы-інтэлігентаў, прыкрую засмечанасць іх гутаркі «высокакультурнымі» словамі, нахапанымі на прыблізнай вучобе, з лекцый і дакладаў, з радыё і газет, проста, здаецца, з паветра, як нейкі мор,— запомніць, вывучыць цяжэй, чым любую замежную мову.

Такое ўражанне — калі слухаеш. А потым успамінаеш і, без вясёлага натхнення, ніяк не можаш паўтарыць.

* * *

Партрэт знатнай даяркі і артыкул на такой — і горшай — мове:

«Даярка Ганна Н. сваёй самаадданай працай развянчала гнілую тэорыю пра тое, што кожная фуражная карова, калі яе адпаведна карміць...»

Што падумае сама тая Ганна Н., атрымаўшы газету,— ці разумее, што яна ды калі *развянчала* — пра гэта як быццам ніхто і не дбае.

* * *

Самаздаволены маэстра піша па-беларуску «шляпа», «укусна», «бракну», «кузнец»... У адказ на крытыку крычыць:

— Трэба смялей набліжаць нашы братнія мовы!

На невуцтве — «вялікая палітыка».

* * *

Маладая кладаўшчыца дома адпачынку смяецца, гледзячы ў накладную:

— От дзе графа: «Наіменаванне грузу — супрацоўнікі»!..

Бухгалтару, старой і стомленай за век жанчыне, гэта зусім не смешна.

— Машына ідзе ў горад і штосьці вязе. Значыц-

ца,— тлумачыць яна з усёй сур'ёзнасцю,— гэтае штосьці павінна быць паказана ў адпаведнай графе.

* * *

У паліклініцы.

— Здарова, Зойка, што ты тут робіш?

— Я — па вапросу зубоў.

Гэта — не жартам: дзяўчына на кіруючай рабоце.

* * *

Бяздарны, але «тэматычна патрэбны» вершык пастаўлены ў чытанку нібыта спецыяльна для таго, каб умацоўваць сярод дзяцей заіканне.

* * *

Перачытваў Багдановіча. І ўжо каторы дзень... ну, проста не выходзіць з галавы:

...Нават сорам на хатніх зірнуць:
ці не ўцямілі, хвароба на іх,
ад чаго мой тварык смяецца,
ад чаго маё сэрцайка б'ецца.

А мой Міхась Васілёк, у якога жыта парасло на старэнькай хаце, які так здорава расказвае пра паляванні на дзікоў, пісаў чамусьці і такое:

Чорнай курыцай на стрэхі села ноч
і клюе, клюе рассыпаныя зоры...

Праўда, мы з ім пасля смяяліся з гэтых радкоў.

* * *

Увосені 1957 года, у Кракаве, на сустрэчы з пісьменнікамі і журналістамі, у мяне спыталіся, як у нас, у Савецкім Саюзе, адносяцца да рамана Сянкевіча «Агнём і мечам». Я адказаў, што прыблізна таксама, як у Польшчы да «Тараса Бульбы».

Неўзабаве пасля гэтага давялося ўбачыць двухтомнае выданне выбраных твораў Гогаля на польскай мове, з агаворкай у прадмове: «Тарас Бульба» не ўключаны сюды па *зразумелай прычыне...*»

Цяпер вось чытаю пра зайздросную, павучальную працу Мікалая Васільевіча над мовай сваіх твораў, у прыватнасці, над мовай «Бульбы», і нейк прыкра, і шкада, што гэтая аповесць, як і Сянкевічаў раман, дойдзе не да ўсіх людзей, не так, як іншыя рэчы гэтых вялікіх аўтараў.

* * *

Дзядзька прыходзіць завідна. Садзіцца надоўга. Расказвае цікава і грунтоўна. Там засмяешся, там нават сэрца прымлее са страху, а там, як на санках, пакоціш далёка-далёка з гары...

Яшчэ гісторыя. Яшчэ...

Бульба наша ўжо і зварана, ужо і з'едзена — усё пад дзядзькаў расказ,— ужо і малыя зацiхлі на печы, ужо і газы ў лямпу я падліў, ужо і тата наш кляваў, кляваў носам дый добра-такі захроп за сталом.

— А то неяк зімой, дай бог памяць, аднойчы...

Я не драмлю. Мне толькі хочацца сказаць, праз сутаргу сто сорак восьмага нястрымнага пазяхання:

«Добры вы, дзядзька, чалавек. Талкова вы пра ўсё гаворыце. Але ішлі б вы ўжо, можа, дахаты. Ды заўтра зноў прыйшлі б, новае што расказалі б...»

Я не кажу так, вядома, бо будзе няхораша. А ўжо нават наша нястомная маці не можа прасці: не толькі вочы не глядзяць, але і рукі наўздагад не служаць.

— Дык я і гавару яму,— плыве спакойны і паўнаводны дзядзькаў расказ,— чаго ты, чалавеча, хочаш? А ён яшчэ і агрызаецца, шалудзька! Што ж ты, кажу...

Першыя пеўні яго не збянтэжылі. Вось-вось запяюць другія.

Яшчэ гісторыя. Яшчэ...

...Ён прыпомніўся мне над старонкамі адной новай кнігі.

Аўтар таленавіты, добра падрыхтаваны, аўтару ёсць што сказаць, я слухаю яго з прыемнасцю, пасля з пашанаю, затым з цярплівасцю, нарэшце — стрымліваючы пазяханне. Я чалавек. Сто старонак, яшчэ сто, яшчэ... І хочацца сказаць:

«Дзядзька, а можа вы лепей заўтра зайшлі б! Новае што расказалі б?..»

* * *

Разумна карыстацца лейкай можна толькі адпаведна яе прызначэнню: льючы з шырокага ў вузкае.

У літаратуры мы вельмі часта льём ваду наадварот: ад маленькай задумы — у шырокае мнагаслоўе.

* * *

Слухаючы «Ой, не кукуй, зязюленька» ў цудоўным выкананні Шырмавай капэлы. Мне шчасліва хацелася заплюшчыць вочы, працягнуць рукі і абмачыць свае пальцы ў свежасць вясновай раніцы. Як у расу. Як у крынічную ваду. Каб пасвяжэла на душы.

Справа і ў музыцы, і ў слове.

У другой нашай песні п'яны мужык сам лёг спаць, а жонку паслаў шукаць у полі каня. І вось яна, маладзенькая, ідзе:

...Памажы ты, зорачка,
знайсці мне konічка!..

Які малюнак ночы!

А што за дакладнасць, якое сілы зарад і крыўды, і жаласці — «хоць ты вазьмі разарвіся ад слёз!» — у прасценькіх, наіўных і, нехта скажа, сентыментальных радках:

Ой ты, мамачка, мамка,
цябе кліча дзіцятка —
пашкадуй ты сіротку
ды памый мне галоўку!..

Ну, а размашысты задор у «Лявонісе»:

А пасынка дык і чорт не бярэ —
несалёную капусту жарэ!..

З прыемнасцю чуў, як падпяваў сабе гэта вясковы хвацкі танцор, слоў не знаходзячы ад весялосці.

* * *

Імглістая, парная раніца.

На сівым, старым частаколе пры студні — росны круг павуціння. За плотам — цёпла-барвовыя, буйныя

кветкі канюшыннай атавы. Над імі — у мокрым лісці — цяжкія, спелыя, *малінавыя* слівы...

Прыгадваецца Лермантаў. Што, хіба гэта не бяссмерце?

* * *

Талстоўскі Познышаў сказаў калісьці: «Цяпер я на поўдзень. *У мяне там домік і садок*».

А я вось хаджу па ўскраінных вуліцах ды завулках Кіславодска, гляджу з акна электрычкі, едучы ў Пяцігорск, і радасна ўспамінаю іх, тыя, вельмі звычайныя словы.

Якая дакладнасць, і што яна азначае ў вялікім майстэрстве! Скажы ён «дом і сад» — нічога не было б.

* * *

Чалавека штосьці моцна ўразіла, і ён піша: «Я гэтага ніколі не забуду!» Яшчэ і з клічнікам.

Чалавек гэты пажыў пасля таго, як напісаў, нядоўга, ён ужо даўнавата памёр. І вельмі бедным, сумным здаецца мне ягонае «ніколі». Бо вось і мяне тая самая з'ява ўразіла. І я разумею, што яму пра яе трэба было сказаць мацней, не так шаблонна.

Бо чалавек гэты — Юры Алеша, мастак, які ўспамінае маленькі красавіцкі месячык, свежую, яшчэ ліпкую труну ў кузаве грузавіка, а ў той труне — Маякоўскага...

* * *

На рыжскім калгасным рынку — вясёлая процьма кветак, а пад сталамі спакойна ходзяць *«никем не обижаемые голуби»*.

Простыя словы, а — разам з воблікам Кацюшы Маславай — запомніліся на ўсё жыццё. Вось ужо трыццаць год прайшло ад першага — можа, нават і не зусім свядомага яшчэ — захаплення.

* * *

Дзеці з глыбіннай вясковай школы прыслалі мне пісьмо. Што яны, маўляў, любяць мае апавяданні, што ад душы жадаюць мне новых поспехаў.

Што ж, настаўнік або настаўніца, вучыць іх любіць родную мову, літаратуру. І вельмі добра. Справа тут, вядома, не ва мне. Я так і напісаў ім. І кнігу паслаў. Зрэшты, не ўпершыню.

Цяпер сяджу ў высокім самалёце і... усё ж такі радасна, міжвольна думаю, уяўляю, як там недзе цяпер паштальён ім прынёс... І такое — здасца камусьці: вельмі звычайнае — для нас, беларускіх пісьменнікаў, не заўсёды звычайна. І радасна бывае — з непатрэбным сумам...

* * *

«...Чалавек, які атрымаў нямецкую адукацыю, ён пісаў свае творы на мове, якая ў той час магла толькі абмежаваць іх уплыў».

Такое гаварыў пра Данелайціса Іаганес Баброўскі.

Так — трэба, *трэба* было *верыць* у тое, што робіш, верыць нават і тады, дзвесце гадоў да сённяшняга росквіту літоўскай літаратуры, да выхаду яе на міжнародную арэну!..

* * *

Люблю рускіх, Расію, люблю Украіну... Але ніколі яшчэ не пашкадаваў, што я — беларус, ніколі не захацеў быць некім іншым, таксама як ніколі яшчэ не прыходзіў да недарэчнай думкі... стаць жанчынай. Я беларус таксама, як я — мужчына, і проста не магу глядзець на свет інакш.

* * *

Добра паслухаць, як людзі гавораць пра літаратуру, зусім не падазраючы, што і ты — таксама маеш дачыненне. У вагоне гутарыў з палкоўнікам медыцынскай службы. Сівы, бывалы, культурны чалавек, ён гаварыў пра аднаго са «сталічных класікаў».

— Мы яго доўга ў нашым Каўнасе чакалі. А прыехаў — п'янага вынеслі з вагона, п'янага потым і вынеслі з рэстарана ў вагон... Ці можна ўявіць падобнае, скажам, з Уладзімірам Галакціёнавічам, з Антонам Паўлавічам, га?

Так, добра часамі, што людзі не ведаюць, хто ты.

* * *

Бяззубы бабнік, п'яніца і хам сварыцца з чарговай жонкай. Узяў ён гэтую свежую жонку з дачкой ад другога бацькі. Цяпер дзяўчынцы чатырнаццаць год. Піянерка, выдатніца.

Айчым:

— Ты ведаеш, хто твая мама? Ведаеш? Я яе з вуліцы ўзяў! Падняў з-пад ног...

І дзяўчынка маўчыць, унурыўшыся, глядзіць спалохана, глядзіць — разумнымі, журботнымі, вялікімі вачыма.

Ноччу ў пакоі гэтага чалавека стукае машынка: ён піша.

На маральныя тэмы — таксама.

* * *

Ужо не малады артыст папрасіў аўтара п'есы дапісаць у ягоную ролю... «Сам разумееш, чагосьці такога...» Словам — каб ён, па ходу дзеяння, мог цалавацца з маладой артыстачкай, наіўнай, чыстай дзяўчынай, што нядаўна прыйшла з інстытута.

І аўтар... дапісаў.

* * *

Чалавек, якога я паважаю, якога паважаюць многія, які «стварае каштоўнасці», ездзіць на ўласнай машыне, сядзіць у прэзідыумах, чалавек, упрыгожаны сівізной... а расказаў такі пошлы, такі бяздарны анекдот, што ўсім нам, маладзейшым, брыдка было глядзець на яго, пакуль ён... ад душы смяяўся!..

* * *

У Доме творчасці пісьменнікаў стары «тварэц» наладзіў сабе проста бясконцы ды бясхмарны адпачынак. То спіць, то есць, то шпацыруе па лесе, сёе-тое без асаблівай натугі аддаючы ад свае сытасці народу.

Вечар. Некалькі маладых літаратараў глядзяць тэлевізар.

На экране — студэнтка чытае гогалеўскую «упоительную ночь», з лірычным прыплачам гаворыць: «Благочестивые люди уже спят...»

І, не змаўляючыся, моладзь здагадваецца, пра каго гэта, і выбухае дружным бязлітасным смехам.

Добра, што гэта ім смешна!

* * *

Ёсць і такія таварышы па пяру, што гадамі не паварушаць пальцам для грамадскай справы. Нічым ён не абурыцца, нікога не падтрымае, ні за кога не заступіцца. Сядзіць і напіхае аркушамі свой эпічны сяннік.

Чытаеш такі эпас і заўважаеш перш за ўсё адно — чалавек садзіўся кожны дзень за стол і, не зважаючы ні на што, гнуў лінію.

* * *

З выступлення француза на тургенеўскім вечары: «Слава яго *нікому не перашкаджала*».

Там жа, у Вялікім тэатры, занатаваў гэта з прыпіскай: «Так трэба жыць».

Не пра славу, вядома.

* * *

Адзін, пабыўшы ў царскай арміі унтэрам, на ноч намыльваў вусы, падвязваў іх хустачкай, а ўранні, пастаяўшы перад люстэркам, пытаўся ў маці, прыгорбленай ад удовінай долі вясковай бабкі:

— Мама, я, кажацца, красіф?

— Красівы, сынок, красівы. Ідзі ўжо, можа, запрагай.

У другога, нашмат маладзейшага, была малая нага. Абуе ў свята хромавы бот, пакруціць ножку перад сабой, то з пяткі, то з носіка паглядзіць і каторы ўжо раз пытаецца ў сябра-суседа:

— У цябе які нумар боты?

Сусед, здаравенны дзяцюк, спакойна, з прывычнай усмешкай адказвае:

— Сорак пяты.

— А я нашу саракавы. А мог бы і трыццаць дзевяты.

Гэтых двух я памятаю з нашай вёскі.

Трэцяга — ён быў пісьменнікам — згадваю таксама часта. Сёння, праз некалькі год пасля смерці, кнігі яго ўжо зусім не чытаюцца, як ні шумелі пра іх у свой час. Сёння ўжо нават і алілуйшчыкі забываюцца называць яго ў святочных пераліках. Ён быў пісьменнікам. Здавалася, што быў.

Памятаю абмеркаванне яго чарговага опуса. Вельмі «сучаснага», вельмі «ідэйнага», вельмі «патрэбнага народу». Так гаварылася тады. Не ўсімі. Сёй-той, па маладосці, па наіўнасці, крытыкаваў. Зрэшты, не кажучы ўсяго, што твор увесь — не твор, а толькі робячы паасобныя заўвагі.

І вось ён — божа, якая веліч, якая самаўпэўненасць! — устаў.

— Я праслухаў тут вашы заўвагі,— пачаў паволі, урачыста.— Тыя з гэтых заўваг, якія заслугоўваюць мае ўвагі, будуць мною прадуманы...

Навошта гэта ўсё — і тыя вусы ў мыле, і ножка ў хромавым боце, і той апломб перад з'яўленнем у друку чарговай бяздарнай кнігі?

Для павучэння, для выхавання на адмоўных з'явах?

Заканамернасць нейкая?

Можа і так. Але — сумна...

* * *

Рэдагуйце яго, рабіце больш-менш прыстойна пісьменным, спяшайцеся, пакуль ён цёплы, пакуль яшчэ не застыў у бронзе класіка. Жывога.

* * *

І графаманы плачуць над уласнымі старонкамі. Яшчэ як шчыра ды краплiста!

Варта пра гэта памятаць, асабліва тады, калі ўжо слязінка падкочвае, просіцца...

* * *

Аўтар *(па-свойску павітаўшыся)*:

— Ну, як маё апавяданне?

Рэдактар *(стрымана)*:

— Будзем друкаваць.

Аўтар (*спачатку збянтэжана, потым рашуча*):
— Не, калі так, не будзем друкаваць.
О, каб жа так ды было!

* * *

«Няма таленту, але ж затое які ахоп падзей!..»
Няма ў спевака голасу, але ж затое як ён шырока разяўляе рот!..

* * *

Інжынер вырашыў стаць драматургам. Больш — кінадраматургам. «Гэта ў наш час,— прызнаецца ён шчыра,— найвыгадней».
Пасля таго, як я цярпліва і тактоўна раскрытыкаваў яго сцэнарый, ён, сустрэўшы мяне на вуліцы, радасна паведаміў, што «здорава над ім папрацаваў» і цяпер сцэнарый стаў — тэхнічная дакладнасць — «на трыццаць пяць... ды не, бадай, на трыццаць сем працэнтаў лепшы!..»

* * *

Для самаўпэўненасці чалавеку шмат не трэба — хопіць яе адной.

* * *

Аўтар «дакументальнай аповесці» піша ў прадмоўцы да яе часопіснай публікацыі:
«У гэтым творы няма нічога прыдуманага».
Як апраўданне.
Бедная «Вайна і мір»!..

* * *

Абмеркаванне першай кнігі маладога аўтара. Хваляць за змест, за форму — за ўсё. Хваляць густа і соладка. І толькі два чалавекі сярод шматлікіх удзельнікаў гэтай гаворкі ведаюць штосьці адно патаемнае... Сам аўтар і яго рэдактар.

Яны ведаюць рукапіс кнігі — які ён быў пакрэмзаны пасля таго, як па ім пахадзіла рэдактарскае пяро. Колькі там было выкраслена — са згоды аўтара, колькі дапісана ім самім — з удзячнасцю да рэдактара, колькі папраўлена зноў — пасля яшчэ адной, здавалася, самай апошняй рэдакцыі. Яны амаль па-сапраўднаму пасябравалі за тыя нялёгкія дні — малады і старэйшы таварышы. І вось заслужана спажываюць радасць удачы.

Ад першых келіхаў славы аўтар п'янее, і гэта пакуль што прыкметна толькі па румянцы яго шчок. Рэдактар, ён жа, дарэчы, і сам літаратар, радуецца па ўзросту ды па вопыту цвяроза, і амаль ніхто з прысутных не ведае пра яго дачыненне да хмельнай радасці імянінніка.

Потым адна з удзельніц абмеркавання, асоба юная і паэтычная, падносіць імянінніку келіх найбольшы.

— Як гаварыў вялікі Шуман,— цытуе яна звонка і расчулена,— здыміце капелюшы; паміж намі з'явіўся геній! Так, дарагія таварышы. І калі б яшчэ рэдактар гэтай цудоўнай кнігі папрацаваў над ёю хоць трохі...

Ну, што рэдактар, чуючы гэта, маўчыць — яно зразумела. Ён толькі галавою крутануў, злёгку прыгнуўшыся. Што аўтар з месца, адразу не крыкнуў: «Няпраўда!» — гэта таксама зразумела. Цягнучы з келіха — ды вялізнага, ды нагбом — не вельмі што і крыкнеш. Аднак і потым ён,— разгублены, без'языкі ад шчасця,— выступаючы ў заключэнне са словам падзякі ўсім удзельнікам абмеркавання, забыўся сказаць сваё слова толькі аднаму...

Хлопцу яшчэ давядзецца ісці да чытача з другою кнігай. А майстры гэтай справы кажуць, што другая кніга якраз найцяжэйшая, што іменна па другой найлепш пазнаецца трываласць і самастойнасць таленту.

«Нічога не зробіш. Памагай яму наш бог. І мы таксама будзем, калі спатрэбіцца».

Так думае рэдактар.

Магчыма, не зусім, а толькі прыблізна так. А вось што горка яму — гэта напэўна.

* * *

Зусім розныя рэчы — салдату хацець стаць маршалам, а яфрэйтару лічыць, што ён ужо генерал.



Кажуць, што суслік, сыценькі паразіт, калі яго вадою гоняць з нары, спачатку намагаецца ваду тую выпіць.

Кажуць таксама, што нейкі легендарны крытык, даўнейшы пагромшчык нашай літаратуры, пасля XX з'езда партыі пачаў вырэзваць свае старыя, «высокаідэйныя» артыкулы з усіх газет і часопісаў, ва ўсіх бібліятэках, заняўшыся гэтым вельмі старанна.

Суслік, не выпіўшы ўсёй вады, паварочваецца да яе задам, затыкаючы такім чынам нару, а потым вада выпірае яго, дурнога, мокрага таўсцюха, наверх, пад пастушыны кій.

На крытыка знайшоўся іншы спецыяліст. Таксама літаратурны. Раскапаў-такі дзесьці ў глыбінях далёкіх, вялікіх бібліятэк тыя яго артыкулы, парабіў з іх фотакопіі, час ад часу палохае імі крытыка і бярэ з яго... падатак за маўчанне.

Літаратурны суслік не загінуў, нават не збяднеў,— жыве ў багатай кватэры, адпачывае на раскошнай дачы, ездзіць на ўласнай машыне. Яму куды лягчэй заткнуць сытым задам цёмную ды пакручастую нару свайго мінулага.



З аднаго выступлення:

«Вялікую цікавасць уяўлялі творы беларускіх кампазітараў у кантатным жанры: «Над ракой Арэсай» і «Сказ пра мядзведзіху». Апошняя рэч *не страціла мастацкай вартасці* і да нашых дзён».

Ці мела мастацкую вартасць рэч першая — не гаворыцца. Лаві гэта паміж радкоў. І не думай, калі ласка, што сапраўдныя мастацкія вартасці застаюцца — дый маюцца — толькі тады, калі яны *ёсць...*



— У цэлым вы напісалі добрую рэч. Але ж некаторыя старонкі я вам проста павыкідаў бы.

Таксама, гледзячы на гульню більярдыстаў, можна сказаць, што тых шароў, якія не трапілі ў лузу, не трэба было.

* * *

Піліпку-сынку гусі скінулі па адным пяру — ён паляцеў. Калі ж паддацца, каб кожны, хто крытыкуе, вырваў у цябе па пяру ці па два — далёка не заляціш.

* * *

Пеўня спачатку рэжуць, а потым скубуць. А аўтара на кінастудыі спачатку доўга і калектыўна скубуць, а нарэшце хто-небудзь зарэжа. Што выгадней — варта б спытацца ў пеўня.

* * *

Назойлівы крык: дзе сюжэт?.. няма сюжэта!..

Гэта падобна на тое, каб, гледзячы на прыгожую дзяўчыну,— перш і больш за ўсё думаць пра яе шкілет.

* * *

Фізікі кажуць: штосьці знаходзім, а потым стараемся яго абвергнуць. Трымаецца — значыць, жыве.

Такога б нам, літаратарам! Каб аўтар сам сябе правяраў абвяржэннем.

* * *

Мы нават не можам толкам расказаць пра ўсе кветкі з таго букета, які нам часта дораць больш, чым трэба, удзячныя чытачы.

* * *

У таварыша, які горача пераконвае цябе ў любві і дружбе, непрыстойна пытацца, ці чытаў ён што-небудзь з тваіх твораў.

* * *

Чаму вы лічыце, што непрыяцель, пішучы пра мяне, будзе больш аб'ектыўны, чым друг?

* * *

Вялікі пісьменнік пакінуў нам радасць сужыцця са светам яго твораў.

Колькі ж ад гэтай радасці, ад гэтай несмяротнасці прыйшлося на долю яго самога, пакуль ён сам адчуваў, што жыве?

* * *

Складаю зборнік апавяданняў Міколы Лупсякова, выбіраю ў яго спадчыне найлепшае, вось ужо некалькі дзён думаю пра кароткае ўступнае слова.

Рабіць штосьці добрае таму, хто ўжо ніколі табе не падзякуе,— гэта і сумна і радасна неяк па-асабліваму.

* * *

Праз цяжкасці жыцця з Талстым можна ісці, будучы і моцным і, часамі, слабым. Ёсць да каго прыхінуцца.

З Дастаеўскім можна ісці праз трагедыі — будучы толькі моцным.

* * *

Пасля спектакля паводле «Раскіданага гнязда» позна ноччу перачытваў гэтую драму.

Думалася пра Купалу, што пачынаў вясковым самавукам,— як ён пакутліва шукаў і знаходзіў сваё сапраўднае ў гушчы жыцця, у складанасці свайго часу...

Няма такога ў нашым літаратуразнаўстве — жывы Купала ў яго станаўленні, іменна ў яго часе і асяродзі, а не Купала... ледзь не з маленства класік, які нават ужо і свайго «Мужыка» піша адразу ў званні акадэміка. Меншае ці большае, свядомае ці несвядомае накладванне чацвярга і пятніцы на сераду і аўторак, няўменне аддзяліць Купалу сённяшняга ад таго Купалы, які дзень за днём, год за годам, праз рэвалюцыю, рэакцыю, сусветную вайну, зноў рэвалюцыю, праз радасці і нягоды небывалага станаўлення, зноў праз сусветную вайну вяршыў свой непаўторны подзвіг.

У гэтым няўменні, нежаданні, баязлівасці — слабасць нашага літаратуразнаўства, прычына таго ганеб-

нага факта, што ў нас дагэтуль няма яшчэ кнігі пра Купалу, вартай выдання ў серыі «Жизнь замечательных людей»...

Такую кнігу марыў і збіраўся напісаць паэт Таўлай. А яго ўжо няма тым часам дваццаць шэсць гадоў...

* * *

Чароўная музыка слова.

Колькі разоў на Поўдні, чуючы ў больш ці менш жывым тлумачэнні экскурсаводак звычайнае, батанічнае: «ліванскі кедр» — успамінаеш біблейскае. Такое недасяжна паэтычнае, хвалюючае ў дні вясковай хлапечай самотнасці: «Кедры ліванскія...»

* * *

Старая здзіўляецца:

— Што ты мне ў руку цалуеш, як пані якой?

А ён, тым часам ужо таксама немалады, ваенны сябар яе сына, што загінуў:

— Даўно, цётка, не бачыліся.

Так проста растлумачваюцца глыбокія пачуцці.

* * *

Пачаў падпісваць адрас у Казахстан і спыніўся — зноў успомніў спякотнае Сямірэчча, наш светлы, людны аўтобус і «Горныя вяршыні» — Гётэ, Лермантава, Абая.

Не паўтару не толькі трэціх, Абаевых слоў, але і музыкі яго — таксама. Аднак адчуваю яе, бачу вясёлага юнака, казахскага паэта, які, з мікрафонам у руцэ, стоячы плячыма да шафёра, спявае, і мужны голас яго, душа яго песні так добра спалучаецца з усім, што навокал, за вокнамі. І высмажаны сонцам стэп, і горныя вяршыні, што так па-новаму пераклікаюцца з тымі, якія натхнялі немца і рускага...

* * *

Справа не ў тым, што я пабываў ужо ў Канадзе або ў Індыі, у Карэліі ці на Далёкім Усходзе. Вось я, гля-

дзіце, быў, вось я што бачыў... Справа ў тым, каб усюды знаходзіць тое, пра што неабходна сказаць.

Што шчасце наша, наша мара і мэта — у разумным яднанні, як бы ні цяжкі быў шлях да гэтага.

* * *

Пачуў, помніцца, у Балгарыі:

«Дома ён — значны пісьменнік». У сваёй краіне, у сваёй рэспубліцы, калі гаварыць пра нас, савецкіх. І гэта — вельмі нямала, калі паважаць свой народ.

* * *

«Вострасюжэтныя рэчы не варта апрацоўваць у дэталях: спяшаючыся за інтрыгай, чытач на хаду, а то і на бягу — не заўважае гэтага».

Падумаў так, чытаючы модны раман. Чужымі думкамі падумаў.

А потым успомніў, як я чытаў упершыню «Ідыёта»,— у паасобных месцах проста закрываючы далонню ніз старонкі, каб не спяшацца, не бегчы паверсе.

Займальнасць — хто ж яе будзе аспрэчваць?

Аднак,— і галоўнае ў гэтым,— «Ідыёта» мне ўжо тым часам хочацца перачытаць. І буду яго перачытваць, як перачытваў многае, не толькі ў Дастаеўскага. Гэтае шчасце прадчуваецца далёка наперад, і з такім прадчуваннем сапраўдныя кнігі згадваюцца з асаблівай павагай і цеплынёй.

Безліч таго, што «чытаецца лёгка, цікава», востры сюжэт, займальнасць, калі за імі нічога больш няма, забываецца — што адразу, а што спакваля, а ўжо каб перачытваць іх — ну, хіба толькі ад безвыходнай пустаты.

А перачытваючы сапраўднае, у настроі спакайнейшым, чым першы раз, не толькі яшчэ больш паглыбляешся ў галоўнае, але і ўдзячна заўважаеш добротнасць (ці, можа, добрасумленнасць?) апрацоўкі ў дэталях, бачыш, як неабходна гэта для мастацтва, якое робіцца не на раз, не пад моду, а назаўсёды.

* * *

Успомніў расказ аднаго з бывалых дзядзькоў пра даўняе «увеселительное заведение» на ярмарцы. Балаган з шыльдай: «Вход и выход пять копеек». Заплаціў, увайшоў, выйшаў — усё. І скардзіцца няма на каго: толькі ж гэта на шыльдзе і напісана.

Пра займальнасць, калі яна — самамэта.

* * *

«Еш, дурань, бо то з макам!»

З мусу, па службе чытаючы мноства вершаванай прадукцыі, возьме часам ды ўспомніцца:

«Еш, дурань, бо то з рыфмай!»

* * *

Збянтэжыўшыся перад веліччу сапраўднага мастацтва, бяздарнасць не змоўкне, не пакіне графаманіць. Часовая разгубленасць тут пераходзіць у патаемны цынізм: «Як ні пішу — абы грошы. Усё роўна ўсіх Талстых ды Чэхавых не перагоніш...»

Зрэшты, цынізм гэты не заўсёды патаемны: паміж сабой такія літаратары дзеляцца і гэтым крэда.

* * *

Стары ваенны здымак у газеце: маці і два хлапчукі на пажарышчы.

Уся іх маёмасць — два чыгункі.

Уявіў аднаго хлапчука. Да шчаслівага болю звычайна і ярка. Пасля другога. Маці іхнюю ўявіў...

І падумалася, што нам, работнікам слова, суджана расшыфроўваць людзям жыццё — у яго найзначнейшых праявах.

* * *

Колькі растрачваецца нявыказанага! Тымі, што маглі б і мелі б што расказаць.

Успамінаецца «дзядзя Валодзя», падпольшчык і партызан Царук, які са свайго пажыццёвага тэрміну

адсядзеў да Верасня больш за трынаццаць гадоў і з нетраў панскай турмы вынес нямала гісторый, якія ўмеў расказваць ярка, весела, памятаючы мноства людзей, цытуючы доўгія вершы свайго таварыша па камеры...

Успамінаецца цётка Уладзя, Купаліха, якая блізка ведала Багдановіча, Цётку, якая пра Купалу ведала многа такога, чаго не ведаем і ўжо не будзем ведаць мы. Ні мы, ні нашчадкі...

Першы з гэтых незвычайных людзей, «дзядзя Валодзя», усё збіраўся выбраць час ды сесці са мною — многае расказаць. Ужо не раскажа.

Энергічная, мітуслівая цётка Уладзя адмахвалася ад нашых прапаноў — дапамагчы ёй з успамінамі — сама збіралася ўсё напісаць...

Сцішна робіцца часамі — колькі яго, нявыказанага, ідзе ў нябыт!..

Няўжо яно не прападзе, вернецца неяк праз другіх, у іншай форме выплыве наверх?

Няўжо так і трэба, так і запланавана, прадугледжана законам жыцця — такія затраты вытворчасці слова?

* * *

Ёсць людзі, якія, чуючы пахвалу агульнапрызнанаму твору, гавораць: «Слаба. Я не сказаў бы...»

І ў тоне сказанага, часцей за ўсё без доказаў, чуецца: «Апошняя дыстанцыя — я».

* * *

Над лугавой ды лясной палескай рачулкай пяюць, шчабечуць, крычаць птушкі — амаль зусім невядомыя, як у маленстве...

Тады, аднак, было не сорамна, што я іх не ведаю,— тады яны былі вялікай, цудоўнай таямніцай. І гэтага хапала.

* * *

Калі я чытаю добрую кнігу, не папракайце мяне ў гультайстве. Не хочаце прызнаць, што я працую, дык думайце, што я малюся — Слову.

* * *

Амаль што адстаўны, але яшчэ ўсё самаздаволены крытык з'едліва папракае маладога празаіка за «празмерную сентыментальнасць».

«Ну добра,— думае той.— Я буду правіць, буду асцерагацца. Але ж я памятаю тым часам, што чуў пра цябе, паважаны маэстра...»

А чуў ён, як калісьці адна старая маці, калі бацьку ўзялі, прыязджала ў горад, дарэмна шукала вучонага сына, каб можа хоць ён каму-небудзь сказаў, што тут памылка, што стары не вінаваты... Дарэмна шукала, бо сын схаваўся ў сяброў, і не з яе заплаканай, вясковай кемлівасцю было знайсці яго ў вялікім горадзе.

Праўда, маэстра сам і расказаў пра гэта. Нядаўна. Ківаючы на той жорсткі час. І сам ён згодзен, што старых яго пакаралі незаслужана.

Але і пра гэта ён гаварыў як належыць: без таннай сентыментальнасці, строга, спакойна...

* * *

Як у маладога танцора, так і ў нявопытнага аўтара прыкра заўважаюцца лішнія рухі. Каб падперціся лішні разок, падмацаваць сваю няўпэўненасць, запоўніць хоць чым-небудзь пустату.

* * *

Высокае пачуццё — мая справядлівая рэўнасць: да палякаў — за Міцкевіча, да рускіх — за Талстога. Ім, некаторым палякам ды рускім, прадстаўнікам магутных нацый, здаецца, што я, «нікчэмны беларус», «спрадвечны парабак», не маю права на любоў да іхніх геніяў. Я гэта ведаю, мне гэта часта давалі адчуць. Любіць я, вядома, магу,— яны мне гэта паблажліва, ад сытасці свае дазволяць, але ж магу я, на іх думку, далёка не так, як яны, дый не тое маю права.

Ды не, маю я і магу! Тым больш маю, чым больш іхнія геніі, як Талстой, свядома хацелі належаць усяму чалавецтву.

* * *

Многа чытаю па службе. Колькі шэрай нудоты! І ў рукапісах, і надрукаванай!.. І як жа хочацца, як у духмень, каб хтосьці ўсю гэтую шэрасць перакрэсліў маланкай сапраўднага таленту!..

* * *

Два паэты ідуць па палявой дарозе. Бабы і дзеўкі жнуць. Пасляваенны калгас благенькі, але настрой у паэтаў выдатны. Адзін пачаў дэкламаваць, прыпомніўшы чужы, даўні верш:

Зваявалі жнеі сваё ліха-гора,
Вострымі сярпамі зваявалі...

Жняя, бойкая маладзіца, пачула і ў тон яму, адагнуўшыся, дадала:

Ваявалі жнеі, ваявалі,
А ім хлеба не давалі, не давалі...

Пайшлі нашы хлопцы — стуліўшыся.

* * *

«Галава пустая, *як новы цэбар*».

Чужое гэта? Народнае? Каб такое яна, вясковая настаўніца, прыдумала сама,— аднаго гэтага, на ўсе з гакам сто старонак рукапіснай слабізны, хапіла б, каб паверыць у яе здольнасці.

* * *

Крыху паэт, добры настаўнік, калі мы вячэралі ў яго хаце, цікава расказваў пра сваю ваенную маладосць.

Паход па вызваленым Крыме: «Нібыта я ўпершыню ўбачыў неба і кветкі!»

Асабліва цікавы расказ — як іх каля Сіваша засыпала ў акопах, «у лісіных норах», снегам, што ішоў усю ноч. І нашых засыпала, і ворага. Як задыхнуліся

многія, як забыліся, адкопваючы сяброў, што трэба страляць па немцах...

Дый немцы пра гэта забыліся. «Рус, вэк!» — крычалі яны, калі адзін наш афіцэр выйшаў на нейтральную паласу, каб узяць карагу, што вытыркала са снегу.

Потым ужо, апамятаўшыся, камандзіры — і нашы і іхнія — пачалі крычаць: «Страляй!»

Цудоўная сітуацыя для апавядання. Глыбокага і сціпнага...

А хлопец піша свае невыразныя вершыкі.

Ці не таму гэта, што мы яшчэ ўсё не пішам так, як расказваем пры сяброўскіх сустрэчах?..

* * *

Спусціўшы ў машыне фіранкі, уключыўшы радыё, можна і падумаць, што «слова «беднасць» трэба нарэшце выгнаць з нашага лексікону, як састарэлае»...

Можа ён і не думае так, але — піша...

* * *

Пісаць, капіраваць жыццё «па клетачках» у наш час могуць многія.

«Калі ёсць людзі, якія за гэта плацяць, дык чаму ж не павінна быць людзей, якія возьмуць гэтую плату?..»

Так разважае сёння, на жаль, яшчэ не адзін «літаратар».

* * *

Яму нямілы сёння ўвесь свет, бо ён агідны сам сабе, і ўсё, што напісаў, здаецца такім безнадзейна бяздарным...

Ідзе — абы ісці. Зайшоў у магазін мастацкіх вырабаў. Пажылая прадаўшчыца, жанчына саладжавая ад службовай стараннасці, прапануе яму, незнаёмаму, сумнаму інтэлігенту, вельмі цікавую навінку. Гэта — разны пісьмовы прыбор... з люстэркам. Пішы ды пазірай — любуйся сам сабой...

І ён павесялеў. Нават зарагатаў. Жанчыне здалося — дзіўна і дзікавата.

* * *

Паэзія, шчасце жыцця, філасофія... А потым такому паэту, аптымісту ды філосафу на пасадзе старшыні калгаса, дзе каровы і так ужо не ўстаюць ад бяскорміцы, загадваюць:

«Або давыканаеш план па пагалоўю — яшчэ на сорак працэнтаў, або паложыш партбілет!..»

Ён — твой друг, з якім ты спяваў, разважаў — будзе пяцца яшчэ мацней, сцяўшы зубы ад справядлівага недаўмення. А табе, «свабоднаму мастаку», можна будзе нават і парадавацца, што цябе такое не датычыць...

Дык што ж гэта за дружба, што за «ўтаржэнне ў жыццё» і што ты за такі свабодны — ад чаго — мастак?

* * *

У непісьменнікаў, калі ім часамі даводзіцца напісаць што-небудзь, вырываюцца цудоўныя, вялікай мастацкай сілы дэталі, падказаныя жыццём.

Чатырнаццацігадовая дзяўчынка нясе на могілкі маленькага брата. Грамадзянская вайна, бацьку застрэлілі белыя, маці недзе ў камандзіроўцы.

«Я загарнула яго ў прасціну і панесла на могілкі. *Дзень быў спякотны, але мяне ўсю калацілі дрыжыкі ад холаду гэтага маленькага мёртвага цельца*».

Так успамінае праз сорак гадоў колішняя дзяўчынка, выступаючы ў газеце. А тое, што ёй *проста помніцца*, падкрэсліў я.

* * *

Чытаючы нудны артыкул пра Гартнага, думаў пра той крытычны шум, які ўзнімаецца заднім чыслом вакол некаторых «высокаідэйных» твораў і аўтараў.

«Палымяныя вершы яго заклікалі, натхнялі, вялі...»

А цяпер яны не чытаюцца. Бо слабыя. І так вось проста пра гэта не скажаш.

Нядаўна такі шум узняты быў вакол паэзіі Беднага. Даклады, лекцыі, артыкулы, радыёперадачы... Ды што ж ты зробіш, калі пафас акрэсленняў ніяк не клеіцца ў адно з цытатамі!.. Проста правалы. Ажно некаторым прапагандыстам няёмка.

Хтосьці назваў тады гэтую кампанію дзямянавай юшкай.

Трапна. Але прыватна. Бяда — шырэйшая.

* * *

Аўтар рамана, які прызналі не зусім удалым:

— Перапісваць яшчэ раз не хочацца...

— Ты не любіш яго?

— Ну, што ты!..

— І не любіш. Бо калі любяць, пацалункаў не лічаць.

* * *

Хлопцу трынаццаць гадоў, а ўжо чытае «Ціхі Дон».

— Люблю я, мама, Грыгорыя. Белых б'юць, а мне шкада, бо там жа Грыгорый...

Бледна яна выглядала б, наша літаратура, каб не было гэтага Грыгорыя.

* * *

Багдановіча «Я не самотны, я кнігу маю» зачароўвае сваім глыбокім падтэкстам, спалучаным з трагізмам прастаты,— у гэтым падтэксце і тое, што ў Пушкіна: «Нет, весь я не умру» — прадчуванне, а то і свядомасць свае несмяротнасці, што і ў выпадку з Багдановічам апраўдалася для нас, нашчадкаў.

* * *

Дзіўная справа — як жа ўсё-такі жывуць і пішуць тыя пісьменнікі, што не Героі, не лаўрэаты, не дэпутаты, без ордэнаў, а проста... добрыя работнікі літаратуры?..

* * *

Пражыў паўстагоддзя і не ведаў, што Зэльва — ад літоўскага жаля — зялёная. Даведаўся і нібы здзіўлены, нібы рады...

Заўсёды штосьці будзе адкрывацца, будуць здзіўленні і радасці.

Абы яны былі!

* * *

Часта, прыбіраючы ў сваім пакоі пасля падлетка-сына, успамінаю Коласа:

...Шпурнуўшы лапці і анучы
Сярод двара ў пясок сыпучы.
Іх маці зараз падабрала,
*Нічога сыну не сказала.*
Пайшла ў крыніцу і памыла,
На прызбе сохнуць палажыла.

Апошнія два радкі — па школьнай памяці, у зборы твораў яны гучаць інакш.

А ўсё цытую з-за падкрэсленых радкоў: як гэта проста і, перажыўшы самому, як дакладна!

* * *

Раманісту лягчэй, здаецца, схаваць сваё «я», чым апавядальніку. У другім выпадку на «я», на асобе аўтара, на яго духоўнай сутнасці і трымаецца твор.

Гэта — калі параўноўваць «чыстую белетрыстыку» і «лірычную прозу».

* * *

Разбіта бяздарная кніга жывога халтуршчыка. Грунтоўна, доказна, нават спакойна.

Аўтаравы сябры, дый сам ён, яшчэ глыбей панураны ў нявінную журбу, менш за ўсё пярэчаць па сутнасці справы, але, адводзячы агонь, больш за ўсё абураюцца тонам.

Хваліць можна тонам любым.

* * *

Удалую рэч выгадна напісаць яшчэ і таму, што тады некаторыя з вашых сяброў скажуць другім некатосарым, што, пачынаючы з гэтай рэчы, вы для іх — сапраўдны пісьменнік.

Хоць яны і перад гэтым хвалілі кожны ваш новы твор. Таксама горача і... шчыра.

* * *

Калі я, быўшы падлеткам і юнаком, цішком вынянньчваў свае першыя «вершы», а потым і «апавядан-

ні», і не мог часамі нацешыцца ўдачай,— што гэта было: ужо творчая праца ці яшчэ нявінная гульня? Ці, можа, адно і другое разам?

Магло быць і так. Бо праца ў чалавека пачынаецца з гульні — з наіўнай гульні ў разумную працу жыцця. Гэта патрэбна і, перш за ўсё, натуральна.

* * *

Славуты фізік:

— Сваім студэнтам-першакурснікам я гавару, што яны дурні, калі не лічаць мяне круглым ідыётам. Гэта патрэбна для руху наперад. А ўжо на чацвёртым, на пятым курсе яны могуць дазволіць сабе і аб'ектыўнасць. Бяда, калі яны задоўга будуць адчуваць сябе першакурснікамі.

Такое падыходзіць і для лірыкаў.

* * *

Вывучу столькі, колькі трэба, каб ведаць, куды я прыйшоў, што мне рабіць і як мне пайсці адгэтуль. І ніколі не будзе зашмат, і не будзе вялікага смутку, што я не ўведаў усяго, бо ў пазнаванні — радасць, і яна бясконцая.

* * *

Як бы хацелася прадбачыць, ужо сёння адчуць тыя добрыя словы, якія скажа пра мяне сапраўдны друг, калі мяне ўжо не будзе!..

* * *

Я, таварышы, усё-такі вельмі шчаслівы чалавек!..

Адчыніў акно, паклікаў сына абедаць, зачыніў акно і вось — шыба паляцела з пятага паверха ўніз, на чародку вясёлых хлопчыкаў... І нікога не зачапіла!

І я магу зноў жыць, бачыць цудоўны свет, зноў працаваць!..

*1952—1975*

## *1951*

У Стоўбцах, каля моста, лежачы на траве ў чаканні якое-небудзь машыны, да болю ярка ўявіў старую жанчыну, як наша нябожчыца-маці, і перад ёю — фашыста са штыхом. Ясны, сонечны дзень, і, як гэтая яснасць,— павага да нейчай маці, да чалавека. А ён ударыў яе штыхом пад грудзі... Крык адчаю...

* * *

На трактары — два хлапчукі па семнаццаць гадоў, а ворыва — люба глядзець.

Мы паклікалі, яны спыніліся, прыселі з намі закурыць. Брат аднаго працаваў на начной змене, цяпер ён падмяніў. У вёсцы 110 хат, і пятнаццаць хлопцаў закончылі пры МТС курсы механізатараў.

Новая моладзь, новы пейзаж [1].

* * *

Гледзячы на загарэлыя твары хлопчыкаў,— выхаванцаў дзіцячых дамоў,— з ганарыстымі, выцвілымі на сонцы чубамі, на акуратныя сукеначкі і косы з істужкамі ў дзяўчатак, і сумнавата ад іх сіроцтва, і радасна, што ў іх такая багатая ды ласкавая маці — Радзіма.

Асабліва мілыя былі дзве гаспадынькі, што ў кузаве грузавіка над Свіцяззю крышылі на абед капусту.

---

[1] Гэты і пяць наступных запісаў зроблены ў веласіпедным падарожжы з Уладзімірам Калеснікам па Наваградчыне.

У раздзеле «Свае старонкі» заўвагі — ад рэдакцыі.



Над Кроманню начавалі ў будане з завялага бярэзніку і лазняку, які застаўся ад нядаўняй касавіцы... Уранні — голад, спёка і пракляты пясчаны шлях. А цяпер такая стомленасць, што нават ахвотна адмовіўся б ад далейшай язды, а павярнуў бы да цешчы, каб патрымаць на каленях дзяцей...



Добра гэта — спажываць набыты сумленнай працай кавалак радасці, калі там, дзе ты яшчэ не быў, цябе ўжо ведаюць па тым, што ты зрабіў.



У Заполлі[1] — сімпатычная Зіна Шэўка, з яе ваенным падпольным і партызанскім мінулым, з яе сучасным — працай для роднай савецкай культуры.

«Рыжы Моніч», песеннік і байдун: «Два класы кончыў... якія порткі на мне... а вы, вучоныя людзі з горада, прыехалі да мужыка запісваць песні...»

У Харосіцы — Гуляр, пяцідзесяцігадовы кавалер, нястомны песеннік і здаравенны весялун. Гандлюе ў вясковай краме. Падпольных песень памятае шмат, расказвае і напявае іх, па-бабску падпёршы шчаку. З прыемнасцю згадзіўся падужацца з ім на зялёным дварэ. Не адолеў, чым ён быў вельмі задаволены. «У мяне чатыры гатункі крыві: адзін свой і тры ўлівалі на вайне, у шпіталі». Ад гэтага, аказваецца, і сіла.

У Адамполі, былым маёнтку, дзе цяпер дзіцячы дом, рабочы Пятрусь Гайко. Колішні запявала на вечарынках, малы дзецючок з адвіслай ніжняй губой. Спалохаўся, навошта мы запісваем старыя падпольныя песні, і толькі пад уздзеяннем другога былога падпольшчыка, знаёмага Петрыкевіча[2], падыктаваў Валодзю[3] знатныя навагрудскія «батлейкі» і валачобныя «песні на новы лад».

[1] Заполле, Харосіца, Асташын, Лаўрышава — вёскі на Навагрудчыне.

[2] Петрыкевіч Міхась (нар. у 1914) — заслужаны настаўнік БССР, краязнавец.

[3] Тут і скрозь далей Валодзя — Уладзімір Калеснік.

У Асташыне — калгасны брыгадзір Дударэвіч, таксама падпольшчык з яшчэ не растрачаным запалам. «У маладосці бачыў на рынку перш за ўсё бедную, брудную вопратку, чорную, мазольную жменю шчаўя і белую руку буржуазіі, што грэбліва купляе гэты шчавей, і тут стараючыся вытаргаваць грош у бедняка...»

Цётка ў старэнькай хаце, дэпутатка сельсавета, і адзіная дачка яе, што закончыла фінансавы тэхнікум. Харошыя людзі, тая закваска, ад якой будзе толк яшчэ ў адной дзяжы.

Кастусь Аляксеевіч і Іван Каралевіч — два тыпы простых, сціплых, талковых людзей, па натуры падобных да Валі Таўлая. Першы — у Адампольскім дзіцячым доме (загадчык гаспадаркі, а мог бы ён і больш!), а другі — настаўнік у прыгожым гістарычным Лаўрышаве. Абодва працягваюць справу, якой яны, як і Таўлай, аддалі сваю ўсю, ад школьнай парты, маладосць... Абавязкова трымаць з імі сувязь!

* * *

Смалакурня, парослае белымі «гускамі» азярцо на рэчцы Азяранка і вадзяны млынок, з непрыкрытым колам і адным каменем.

Міжвольна затрымаліся і зрабілі літаратурна-мастацкі прывал. Валодзя замалёўвае млынок, а я ляжу пад сасной з блакнотам.

У млыне такім даўней абавязкова вяліся чэрці. На смалакурню мог трапіць ссыльны падпольшчык, тут мог працаваць актыўна настроены рабочы, тут маглі быць сходы... У млынара магла быць маладая дачка.

Млынок аблазіў я ў адных трусах, на прастадушнае здзіўленне трох завознікаў і млынара. Смалярню і ўсе няхітрыя працэсы гэтай духмянай вытворчасці гасцінна паказаў нам адзіны на гэтым заводзе рабочы.

Млын і смалакурня былі раней панскія. Навокал, у прыгожым ляску, падмуркі былых дачных домікаў, таксама панскіх. Такі млынок, як гаворыць яго загадчык, даваў пану за год больш, чым трыста гектараў навакольнай зямлі.

* * *

Перапісаў з блакнота ў сшытак адну палавіну маіх дарожных запісаў. Другую палавіну — біяграфіі нека-

торых падпольшчыкаў і іх расказы пра турму і працу на волі — перапішу асобна, для работы над «Граніцай». Другая палавіна — значна большая.

Цяпер кажу: на жаль, не дацягнуў я роўна да канца,— амаль з палавіны дарогі абмяжоўваўся толькі запісамі для рамана. Цяпер — «на жаль», а тады і стомлены быў нечакана, і гасціннасць амаль кожны дзень не давала пісаць... Добра яшчэ, калі чарка была толькі ўвечары, а то і снедаць прыходзілася з самагонкай. Верны сабе, п'яны я ніколі не пішу. Яшчэ лепш, каб дзеля гэтага менш піў. Ды там, дзе многа радасці, там не заўсёды хочацца трымаць сябе ў руках.

* * *

Дваццаць тры дні ў Вільні — нейкіх 230 гадзін напружанай працы ў багатай бібліятэцы Акадэміі навук. Беларуская прэса, асабліва часоў Грамады, «Беларускай газеты», «Нашай волі», з мноствам пісьмаў вясковых і гарадскіх карэспандэнтаў, што чытаў з асаблівай цікавасцю і карысцю. «Słowo», Wiadomosci literackie» [1] — як нядрэннае адлюстраванне тых часоў.

Наш невялікі і халодны нумар у гасцініцы «Наруціс», сціплыя снеданні і вячэры дома, гутаркі з Валодзем, а ноччу — думкі, думкі...

Колькі прыходзіцца шкадаваць, што жыў «не на ўсю», што зроблена мала, што былі памылкі, за якія ўжо адпакутаваў больш, чым яны варты. Можа, і праўда, як кажа Ніна [2], што ў мяне гэта пакуты ўзбуйненага самалюбства, якое хацела б не проста сумленнага жыцця, шукання правільнай дарогі, а подзвігаў, славы?.. Лячуся і хачу лячыцца працай.

Поспех з кнігамі тут, на Украіне, у Маскве то ўспрымаецца мною належным чынам як аванс ці заслужаная заплата, якія не павінны перашкаджаць мне працаваць яшчэ больш і лепш, то іменна спыняюць на месцы, кружаць галаву, тармозяць працу, напрыкраюць...

---

[1] Польскія газеты, першая — орган буйных «крэсовых» памешчыкаў, другая — ліберальна-мяшчанскага напрамку.

[2] Тут і скрозь далей Ніна — жонка Я. Брыля, педагог.

* * *

У прадмове да «Чалавечай камедыі» Бальзака знайшоў словы, якія самі папрасіліся ў блакнот:

«Малое количество произведений питает большое самолюбие, большая работа внушает скромность».

Так і хочацца іх падкрэсліць, каб памятаць заўсёды.

Нічога не скажаш, прыемна бачыць сваю кнігу, прыемна раздаваць ды пасылаць яе сябрам. Аднак радасць гэтая расцягнулася больш як на месяц, раздаў за сотню экземпляраў, дзесяць разоў любаваўся стапой з маіх васьмі ўжо кніг, і, нарэшце, абрыдла. Да ўсёй гэтай кампаніі любавання самім сабою багата прычынілася гісторыя з вылучэннем на прэмію, пачатак якога нечакана спрыяльны. Учора думаў, што магу на ўсё гэта шчыра адказаць: «Атрымаю — буду вельмі рад, не атрымаю — буду зусім спакойны». Што буду вельмі рад — гэта праўда, а што «зусім спакойны» — не. Ужо стала сумна ад думкі, што мяне хутчэй за ўсё спусцяць на тармазах... Бяда ў тым, што мае тармазы аслабелі. Не працую, не ўзяўся за вялікую працу, якая «внушала б скромность», менш за ўсё думаю пра «Граніцу»...

...Добра папрацаваў над «Зязюленькай», і ўсё тады стала на сваім месцы.

...Прачытаў, нарэшце, «Chłopi», Рэйманта. Думаў, што так, не шкадуючы часу, паперы і пачуцця, трэба пісаць «Граніцу». А ўсё ж, старонкі яго пейзажнай і каталіцкай мазні часамі (і часта!) здаваліся лішнімі, стамлялі.

## *1952*

Амаль чатыры месяцы не браўся лаўрэат за запісы... Праўда, у гогалеўскія дні, па заказу «Звязды», пісаў пра дарагога Мікалая Васільевіча з натхненнем, як «для сябе», але не здагадаўся пакінуць сабе чарнавік, а газета ўдружыла: надрукавалі толькі пару першых абзацаў, бо іншае камусьці там не спадабалася...

А прайшло, перажыта шмат.

Незабыўны, хвалюючы сакавік, з маёй хваробай (вельмі дарэчы), сотні званкоў, якія прымала Ніна,

дзесяткі тэлеграм, артыкул Лынькова ў «ЛіМе», пісьмо ад Мішы [1] і мой харошы, урачысты спакой...

...Масква. «Плоды просвещения» ў «МХАТе» і «Рэвізор» у Малым тэатры, пасля чаго хацелася паехаць на магілу Гогаля. Т., з якім, здаецца, усё закончана, і сімпатычны Астроўскі [2], з якім пачалося нядрэнна.

Вільнюс. З Валодзем. Добрая праца ў архівах.

Цяпер — Каралішчавічы [3], праца над карэктурай «Выбранага», устаўка да «Забалоцця», якую Алег [4] прызнаў лепшай за ўсю аповесць («Шкада проста ўстаўляць»). Халадзіна, камары, часовае безграшоўе. Чытаў «Хаджы-Мурата» і гісторыю яго пісання, натхняўся, вучыўся як трэба працаваць над «Граніцай», як карыстацца архіўнымі матэрыяламі, друкаванымі першакрыніцамі.

Работы, работы, работы! Яе шмат, але нейкі сум на душы, нейкая стомленасць, хварабліваe прадчуванне дрэннага, што як быццам павінна ўсё-такі прыйсці...

Адно, што найсвяцейшае, найбольш жывое і непарушнае ў душы — гэта любасць, амаль хваравлівая любасць да маіх дзяўчатак.

* * *

Уранні хадзіў з Галяй [5] па лесе і ўздоўж гасцінца. Птушкі, сонца, пасля халадоў раса, якая не дазваляе маёй кашлюнцы зрываць «світочкі». Снедаючы, думаў шчасліва: як гэта добра — жыць, бачыць росныя бярозкі, чытаць Гогаля, любіць дзяцей і працаваць!..

Чытаць, вядома, не толькі Гогаля. Цяпер чытаю Яструна, «Mickiewicz», і рад за вялікага земляка.

* * *

Ціхі, сарамяжлівы і дурнаваты. Сумна. Абрыдла ўся гэтая гісторыя з перакладамі і выдаваннем. Так хочацца сесці за новае, не таптацца на месцы.

---

[1] Тут і скрозь, дзе згадваецца Міша,— брат пісьменніка Міхаіл (1914—1966), інжынер-будаўнік і самадзейны мастак.

[2] Астроўскі Арсеній Георгіевіч (нар. у 1897) — рускі літаратуразнаўца і перакладчык. Занава перакладаў аповесць «У Забалоцці днее».

[3] Пісьменніцкі дом творчасці каля Мінска.

[4] Луцэвіч Алег (нар. у 1924) — беларускі мастак.

[5] Дачка Я. Брыля.

Многа спажывы для самалюбства,— артыкул Карабутэнкі [1] па радыё (неяк інакш ён слухаецца тут, у Ленінградзе!), партрэт і кніга ў вітрыне бібліятэкі імя Шчадрына, апладысменты ў рэдакцыі «Ленинградской правды», запіс на радыё... «Не дай мне бог сойти с ума!..» [2]

З прыемнасцю сядзеў з Астроўскім над яго перакладам майго (так напрыкрыла ўжо!) «Забалоцця». Нашай мове яго, Арсенія Георгіевіча, трэба сям-там вучыць, а рускай можна ў яго павучыцца.

* * *

...Краса прыроды, паэзія жыцця, якую мы на ўсе лады стараемся перадаць, вялікая, бязмежная паэзія, якую нашай лыжачкай не вычарпаць да дна [3].

І што ж, чэрпай сабе на здароўе. Дык не,— ці ляжу на хвалях, адчуваючы пад спіной глыбіню, а над вачыма сонца, ці хрумстаю падэшвамі па гарачай гальцы, ці сяджу за сталом, ці ўспамінаю свае памылкі, ці права на адпачынак,— заўсёды на сэрцы адно. Сум — не сум, туга — не туга, проста нуда — не нуда... Узабраўся, здаецца, на вышку, з якой абавязкова трэба будзе пляснуцца. Жаўранак доўга вісіць у блакіце, трапечучы крылцамі, а я даўжэй за яго, куды даўжэй трымчу на адным месцы. Добра было жартаваць *калісьці*... іменна — ужо калісьці, пяць гадоў таму назад, што перад тэмай «Граніцы» стаю, як дзядзька з мехам бульбы перад небаскробам. Час ідзе, і на скронях ужо сівізна выступае, а я ўсё стаю, а падняцца мне з бульбай на соты паверх — абавязкова трэба. Ніякі тут ліфт не працуе, і гэта не жарты...

І вось «грызу граніт» — чытаю пра Іспанію, куды хачу паслаць Дарму [4], чакаю, што прыедзе N., хачу падрыхтавацца да жывое гутаркі з ім пра Іспанію 1936—1939 гадоў. Усё, што дагэтуль сабрана для рамана, здаецца недастатковым, усё, што зроблена — бедным, наіўным. Яшчэ горш, найгорш — часамі здаецца,

[1] Карабутэнка Іван (нар. у 1921) — украінскі крытык, нарысіст і перакладчык.
[2] Радок з верша А. С. Пушкіна (без назвы).
[3] Запісана ў Гаграх.
[4] Герой незакончанага рамана Я. Брыля «Граніца».

што ў мяне не засталося нічога, апроч жадання напісаць раман — ні розуму, ні пачуцця, ні жадання сказаць нешта новае... Страшна было б, калі б канчаткова ў гэта паверыў.

Ёсць, аднак, і тое, што трэба: сяды-тады здалёк выходзіць і просіцца на паперу *сапраўднае*, што хоча і мае права на жыццё. Прачнуся і — зноў за Іспанію. А далей — паглядзім. Зашмат толькі адпачынку, зашмат шчасця без працы, няма шчасця сапраўднага — працы, соцень старонак, спісаных пад гарачую руку, чарнавікоў, якія я так люблю праяўляць, дапрацоўваць.

* * *

Да мовы Пушкіна і Талстога іншым нашым творам прабіцца нялёгка. Зачаста яны павінны перш прасеяцца праз сіта халтурнага перакладу...

Пяць разоў я «в поте лица своего» чытаў, правіў пераклад Т., пакуль давёў сваё «Забалоцце» да нейкага больш-менш прыстойнага выгляду. А ён тым часам рабіў «аўтарызаваныя» пераклады іншым «малодшым братам»... Ты працуй за яго, бізнесмена, прымай чужыя грахі на сябе, а ён тым часам хваліцца, што «мог бы ўжо жыць, як рантье» толькі ад перавыданняў сваіх перакладаў, за якія атрымлівае ў год... «каля пяцідзесяці тысяч»...

Добра, што я махнуў рукой на ўсе ўмоўнасці і заказаў новы пераклад. Я сам калісьці прасіў Т. зрабіць пераклад мае кнігі. Верыў у чалавека, пакуль не прыгледзеўся зблізку. У яго перакладзе кніга атрымала прэмію? У людскім яна прагучала б лепш. А ў грашовых адносінах я і самога сябе не шкадую...

* * *

...Найлепшы друг майго дзяцінства і юнацтва — Міша, ты пазайздросціш мне за мой цудоўны сённяшні яснапалянскі дзень!.. Як добра было б разам з намі, разам са мною і Нінай, пайсці па бярозавым лесе, дзе хадзілі калісьці старэчыя ногі нашай вялікай радасці, святла нашай душы, моўчкі пастаяць над ціхай магілай пад вечназялёнымі лістамі папараці, падумаць

пра «зялёную палачку», якую і мы з табою шукалі!.. Як добра было б утраіх паляжаць на сонечным лузе, дзе нядаўна, здаецца, шаркала яго каса, напіцца крынічнай вады са студні, з якой ён сам калісьці піў, пасядзець на яго любімай лаўцы з пярэстых бярозавых дручкоў, адкуль ён, здаецца, толькі што ўстаў і адышоўся ў цяністы дубова-ліпавы Чэпыж!.. Як добра было б побач з табой схіліцца над старонкамі яго чарнавікоў, успамінаючы нашу паэтычную маладосць, думаць пра нашу харошую, працавітую сталасць, думаць пра тое, чаго мы яшчэ не паспелі зрабіць!..

Зусім нечакана сустрэўся і пазнаёміўся тут з Булгакавым [1]. Сустрэча была кароткай: ён некуды спяшаўся. На развітанне сказаў:

«Каля магілы не былі? Ідзіце. Ідзіце і схіліце там сваю гордую галаву».

«Яна ў яго не гордая,— пачала абараняць мяне Ніна.— Асабліва не гордая тут».

Развітанне з гэтым, адзіным у свеце «святым маёнткам» (прыемная іронія!) было для мяне сумнаватым. Не ўсё паглядзеў так блізка, як хацелася б паглядзець, бо цяжка было зрабіць гэта ў вялікай групе экскурсантаў.

...Каля магілы Талстога, на тонкіх вязах відаць старанна замазаныя прозвішчы, павыразаныя на ствалах. Спачатку прыкра стала, падумаўшы пра нашу дзікую звычку ўсюды распісвацца, а потым падумаў міжвольна пра байца, які мог гэта выразаць, вызваліўшы святое месца ад нелюдзяў, якія і тут напаскудзілі...

Прыкра было і ад таго, што напісаць нешта ў кнізе ўражанняў — проста забыўся... Відаць, ад паўнаты, ад сілы ўражанняў. Ды гэта нічога,— пастараюся адказаць на іх, на цудоўныя ўражанні, працай.

* * *

Пасля маскоўскага шуму і мітусні, пасля таго, як у Мінску застаў амаль усё па-ранейшаму: тэлефонныя

---

[1] Булгакаў Валянцін Фёдаравіч (1886—1966) — рускі пісьменнік, апошні сакратар Л. М. Талстога.

званкі, сваркі ў нашых радах і чаркі ўсё ў тых жа забягалаўках,— з прыемнасцю апынуўся ў вёсцы [1].

Прыгожае, працавітае лета.

Пажыць бы мне так, каб з-за саду ў імгле, як сёння раніцай, даходзіў знаёмы ды нейкі нібы абноўлены голас мінскага радыёдыктара, каб маіх хутканогіх, загарэлых дзяўчатак ніяк не маглі разбудзіць ні сакатанне курэй, ні «какагеканне» маладых пеўнікаў і неадчэпнае кваканне ўвішных нахабніц качак, ні злосныя мухі!..

За садам — пшаніца. Над пшаніцай таксама імгла, праз якую глядзіць спакойнае паўнакроўнае летняе сонца, якое цяпер нібы адпачывае само і хоча даць выходны ад спёкі ўсім. Такой пшаніцы не бачылі тут ніколі. Густая, як тын, нібы ў торпе ляжыць. Прыгнешся трохі — амаль зусім не варушыцца цяжкае, ды непахілае калоссе, вільготнае, нібы спацелае ад расы. Так і трэба! Яшчэ адзін удар па нявер'і ў калгас «пакрыўджаных гаспадарыкаў», яшчэ адна радасць для чыстых сэрцам. У імгле за пшаніцай — ледзь прыкмячаюцца такія мілыя з дзіцячых год абрысы жытніх бабак. Над морам меднага калосся — вераб'і. Дажылі да раскошы. Так і лятаюць, так і пішчаць, так і садзяцца на каласах, нібы пчолы на кветках. Толькі ж тыя заўсёды працуюць, гудуць сур'ёзна, а вераб'і — зусім шчаслівы і легкадумны народ.

Стаю каля пшаніцы з такім харошым — ад зямлі, ад сілы! — пачуццём: узяць бы мне добрую касу, пусціць бы за мною дзве вязальшчыцы!..

Добра думаў пра лета ў Галынцы — пра Міколу, якому ў наступных раздзелах «Граніцы» так не хапаць будзе вязальшчыцы Жэні. Чакаючы ўчора «папутнай» машыны (раней на ўскраіне Мінска, пасля на ўскраіне Стоўбцаў), чытаў «К новому берегу» Лаціса і неяк раптам падумаў аб тым, што Жэнька павінна зацяжарыць да шлюбу, можа, нават і нарадзіць, пакуль Мікола будзе ў салдатах. А то ў іншых яно праходзіць усё або «законна», гладка, або ўжо «трагічна», а палавінку паказваюць рэдка. Падумаем.

Учора купаліся з Мішам на захадзе сонца і пазней.

---

[1] Запісана ў Маласельцах, вёсцы на Міршчыне, у якой жыў брат пісьменніка Міхаіл.

Пасля марской вада ў нашай Вушы здалася мне на дзіва рэдкай, прэснай. Пакуль Міша лавіў рукамі ў беразе і выкідаў свайму Лёніку на пакошу плотачак і акунькоў, я, апрануўшыся, грэўся папяросай, глядзеў на родную, скромную прыгажосць. Ціхая рэчка, лугі, грукат калёс па сезонным скрыпучым мосце, на ўсходзе — лес, на захадзе, далёка — палі і вёскі... Думаў пра 1934 год, калі я, следам за пушкінскім «Вновь я посетил», пісаў верш «Брату»,— аб такіх вось пачуццях ціхай радасці і чыстай дружбы, пачуццях, маладзейшых ужо на цэлыя васемнаццаць год...

Пасля ішлі з Мішам і Лёнікам па лузе і я расказваў пра Абхазію. Рад за Мішу, за яго добрую працу «на ніве калгаснага будаўніцтва», за лад у сям'і.

У гародзе, калі рыпіць пад нагамі капуснае лісце і смачна пахне ўкропам, з сумам успамінаю маці,— чаму яе няма?..

* * *

Старонак спісана шмат, а руху наперад няма. Асабліва пасля таго, як «Марылька ходзіць у школу» [1] не сустрэла прыёму, якога чакаў.

Балюча таму, што паложыш на агульны стол свае інтымныя, да хваравлівасці моцныя пачуцці любові да дзяцей, а твор... не падабаецца. І колюць, а то і топчуць не героя, прыдуманага табой, а тваё жывое пачуццё, жывога прататыпа. І ты здзіўляешся: няўжо я ўчора быў дурнейшы, чым сёння, чаму я ўчора не бачыў таго, што мне сёння паказваюць...

«Калі два чалавекі кажуць, што ты п'яны — лажыся спаць»,— гэта не заўсёды праўда. Слухаць я буду, калі мне гавораць пра недахопы, згаджаюся я з заўвагамі параўнаўча спакойна, праўлю творы старанна, але ж гэта зусім не азначае, што я павінен любому верыць больш, чым сабе, няхай сабе той любы і не адзін, а ў пары ці ў тройцы з іншымі.

* * *

Чытаў Коласа, дарэвалюцыйныя апавяданні і новыя раздзелы трылогіі.

---

[1] Першая назва апавядання «Светлае ранне».

Апавяданні — лепшыя.

А наогул — цудоўны стары. Сядзеў я аднойчы ўвечары ў добрым настроі і прыемна ўяўляў сябе на трыбуне, дзе зачытваю прывітанне яму ад маладых празаікаў, у сувязі з яго сямідзесяцігоддзем. І што асабліва прыемна — многія яго віталі б з той жа радасцю.

* * *

Перакладаю «Мае універсітэты».

Над Горкім добра думаецца пра пераўжытае. Хочацца пісаць пра сябе, пра тое, напрыклад, што значыла ў тваім жыцці кніга, хочацца прывесці ў парадак свае запісы. Падлічваць, складаць баланс, яшчэ, вядома, рана, аднак успамінаць — з цёплай надзеяй, што такое запісванне можа быць карысным,— хочацца.

## *1953*

Цудоўнае ўражанне ад піянерскага кастра ў Вязынцы, дзе на зялёнай паляне нашы і літоўскія дзеці ўшаноўвалі памяць Купалы.

Ноч, вялікае вогнішча, за якім, з аднаго боку, надрэчныя дубы і кусты, з другога — амфітэатрам узнімаецца, стракаціць ад дзяцей паляна, на беражку якое, над дзецьмі — жытняе калоссе, а над калоссем — неба.

Нашы і літоўскія песні і танцы, «Алеся» па-літоўску, у выкананні літоўскай школьніцы, славацкі народны танец, паланез Агінскага, які выконвалі музыканты-падлеткі, любімы мой «Крыжачок», што не закончыўся з-за дажджу...

Маленства, якое можна называцв шчаслівым.

* * *

Пачаў «Родную глухамань» [1] і даклад-артыкул пра Талстога. Каб не зрачы,— здаецца, зрушыў з месца. Добра было б «Глухамань» напісаць лепш за «Галю», ■ сапраўднай песняй прыродзе, маладому каханню, новаму ў нашым жыцці. Добра было б таксама, каб мой

[1] Першая назва аповесці «На Быстранцы».

даклад-артыкул не прагучаў з трыбуны і ў «Полымі» як дылетанцкі лепет разбітнога маладога пісакі. Паглядзім.

* * *

Глядзеў «Заўтра будуць танцаваць усюды». Добрая кінакарціна, мілыя чэхі, цудоўная Чэхаславакія.

Да слёз прыемна ўспомнілася, як у Баварыі, трынаццаць год таму назад, служанка фабрыканта, на якога мы, палонныя, працавалі, паклікала нас падняць на другі паверх піяніна і, пакуль я, прыйшоўшы першы, сядзеў на кухні, дала мне вялікае чырвонае яблыка і загаварыла на роднай мове, па-чэшску... Думаў, седзячы ў кіно, што нельга памерці, не расказаўшы пра гэта добрым апавяданнем [1].

* * *

Да «Глухамані» пакуль што ніяк не дарвуся.

Па дарозе да яе — яшчэ адзін «бешеный скачок»: напісаць для «Беларусі» ўступную замалёўку пра верасень.

Добра, што стрымліваю слова, як гэта ні дарага часамі каштуе, але ж і дурань, што не ўмею адмаўляцца ад такіх заказаў.

## *1954*

За працу сеў толькі сёння. І вельмі прыемна, што ёсць яшчэ порах. «Родная глухамань». Думаў, каб насыціць яе нейкімі важнымі сучаснымі праблемамі, і бедаваў, што праблемы гэтыя не лезуць у зморшчаны лоб, а сеў пісаць і — хочацца гаварыць проста, задушэўна, і — штосьці выходзіць.

* * *

Па радыё чыталі маю «Дзічку». Маласельцы нядаўна радыяфікаваны. Міша расказваў, што бабы, тру-

---

[1] Выкарыстана ў «Птушках і гнёздах», раздзел «Было гэта ці не?».

чы каля сушні лён, страшэнна абураліся, як я... ілгу. «Гэта ж дзеда ў яго не было!..»

Прыходзіцца плаціць за любое «ад першае асобы...».

* * *

Недзе, здаецца, у «Пути жизни» Леў Мікалаевіч пісаў: «Я люблю мой сад, люблю ласкать детей, люблю читать книги...»

У мяне саду няма, думаў я ўчора, аднак я вельмі люблю дзяцей, і кнігі люблю так, што ў кнігарню заходжу як у храм. І люблю яшчэ белую, добрую, чыстую паперу, на якой шчасліва пішацца.

* * *

Вялы, дурны сяджу над рукапісам «Роднай глухамані» і думаю, што мала, відаць, пападала мне ад маіх прататыпаў... Думаў пра гэта і ў А., у добрай, гасціннаў сям'і N., и якога пішу настаўніка з яго «бабскімі» трусамі... Яшчэ адзін будзе злаваць?

* * *

З Баранавіч ехаў з харошай, чыста-прыгожай дзяўчынкай, студэнткай першага курса тэатральнага інстытута. Расказвала — добрай беларускай мовай — то пра інстытут, то пра хатнія справы, пра беднасць у мамінай хаце і пра шчасце сваёй творчай працы. Быў кавалерам. І смешна было, і прыемна, што не спытаўся, а хто яна, і не сказаў нічога пра сябе. А потым, вядома, сустрэнемся калі-небудзь, можа, і працаваць будзем над нечым адным. Хто ведае — можа і я напішу калі п'есу.

Справа не ў гэтым — проста прыемна за новую моладзь [1].

* * *

Сёння ўжо не рукі баляць, а ў галаве такая стомленасць, што не магу нават перапісваць. За тры раніцы

[1] Сустрэча гэтая дапамагла напісаць сцэну спаткання Толі і Люды ў вагоне («На Быстранцы»).

напісаў пяць раздзелаў, больш за два аркушы і, здаецца, добра. Не буду яшчэ перапісваць, каб не сапсаваць, не прынізіць таго натхнення, якім жыў гэтыя дні. Прыйшла, нарэшце, і мая пара! Толькі б не зрачы...

Здаецца, атрымалася аповесць[1]. Нехта, магчыма, сказаў бы: «Сам не ведае, што піша, апавяданне ці аповесць!..» Адказ на гэта можа быць такі: «Да часу не ведаю, што ў мяне будзе, сын ці дачка, але ж гэта не значыць, што я не бацька».

* * *

Чытаў матэрыялы апошняга пленума ЦК КПСС. Здзіўляе, захапляе шчырасць партыі, сіла самакрытыкі. Рост, пошукі, творчасць.

Трэба вучыцца гэтай шчырасці. І пачынаю. Сёе-тое пачаў у «Роднай глухамані».

Пакуль пісаў, здавалася, што выходзіць нядрэнна, а сёння, адпачываючы пасля перапісвання, пачаў сумнявацца. Прыходзіць другая стадыя работы — нездавальненне, чырканне... Потым паглядзім і людзям пакажам.

Нервы. Не спіцца. Часта лячу з вышыні, уздрыгваю ад жаху. Гэта, відаць, і называецца «пакідаць кавалачак свайго мяса ў чарніліцы». Шкада, што разам з ім пакідаю і процьму акуркаў...

* * *

Дагэтуль, ужо гадоў пяць або шэсць, ніяк не магу разабрацца, успомніць — сон гэта ці ява, што я ляжаў на залітай сонцам траве, а маці, нібы развітваючыся са мною назаўсёды, паіла мяне малаком, карміла памідорамі і свежым хлебам, ствараючы і сапраўды харошы адпачынак свайму меншаму, здаецца мне, прынамсі апошнім часам здавалася, найбольш любімаму хлопцу, які галадаў недзе ў палоне, а цяпер, як думала яна ў першыя пасляваенныя гады, галадае недзе ў Мінску, прабіваючы сабе дарогу.

Відаць, гэта ўсё-такі сон, звязаны неяк з маім рэальным адпачынкам дома, у Загоры, у жніўні 1947 го-

[1] «На Быстранцы».

да, калі я чытаў куплены ў Міры аднатомнік Купрына, а мама, нібы адчуваючы нашу хуткую разлуку, карміла мяне і разам з усімі сямейнікамі, і — плакаць і смяяцца хочацца — асобна, аднаго, у сад прыносячы мне сала, памідораў, хлеба, яблыкаў, богведама чаму употай ад маладой гаспадыні, нявесткі...

Сон гэты ці ўспамін, як полымя на жары, час ад часу ўсхопліваецца над тым, што можна назваць сапраўднай паэзіяй жыцця.

* * *

Шэсць гадзін, пачынае світаць. Хутка ўздымемся над Рыгай і затокай — паляцім. І вось жа не страшна, што можаш і пляснуцца з вышыні, як не страшна, скажам, падстаўляць сваё горла пад брытву цырульніка. Да ўсяго чалавек прывыкае, скажу і я за мільярдамі іншых філосафаў, і ўсё наша жыццё — хада па вяровачцы, на той капрызнай мяжы, дзе сутыкаюцца жыццё і смерць.

Учора, вячэраючы ў рэстаране вакзала, глядзеў на дудкі ды скрыпкі аркестра, думаў пра «тщету сущего» і ўспомніў чамусьці Чэхава, які і хораша жыў, і застаўся для нас жывым. Ці не хопіць з нас гэтага?.. Будзем думаць пра гэта яшчэ неаднойчы, пакуль і мы не перастанем думаць.

* * *

Кніга пра Сака і Ванцэці. Яна — адтуль, адкуль калісьці прыйшлі да мяне «Бытовое явление» Караленкі і «Не могу молчать» Талстога.

Апошняе чытаў я першы раз улетку 1934 года, ідучы з пошты, на хаду. У тым месцы, дзе мой цудоўны геній, «святло маёй душы» сказаў: «чтобы я своей тяжестью затянул на своем старом горле намыленную петлю» — я міжвольна заплакаў... Не злоў, вядома ж, а паказаліся тыя самыя слёзы, пра якія зачаста пішу.

Дарэчы — любоў да Талстога абумовіла мае некаторыя памылкі, аднак жа яна дала мне многа. Пра гэта добра гаварыў сваім студэнтам Валодзя [1] ва ўступным слове на нашай сустрэчы.

[1] Уладзімір Калеснік працаваў у той час выкладчыкам Бабруйскага настаўніцкага інстытута.

Адзін час я думаў, што і «О семи повешенных» Андрэева — таксама адтуль, адкуль «Бытовое явление» і «Не могу молчать». Дарма — Андрэеў не адтуль, дзе моцная страсць гуманістаў і мудры, глыбінны спакой, упэўненасць людзей, якія ведаюць, дзеля чаго жывуць.

* * *

Аказваецца, раней за людзей не ўстанеш,— народ працуе. З такім пачуццём сустракаўся з людзьмі, трамваямі, машынамі, слухаў чахканне паравоза на мосце, гудкі параходаў на шырокай, вызваленай ад лёду Дзвіне, гул нябачных у небе самалётаў.

Ходзячы па набярэжнай, добра думаў пра Лаціса, якому, апроч пісьменніцкай працы, трэба ж яшчэ быць і гаспадаром гэтай працавітай рэспублікі.

* * *

Учора ноччу чытаў дысертацыю N., і ад яго сухаватых старонак пра заходнебеларускае дваццацігоддзе пацягнула да маіх старых рэчаў. Перачытаў «Алеся» [1], «Хіму» [2], яшчэ сёе-тое і падумаў, што варта вярнуцца да іх. І не таму, «каб дабро не прападала», а таму, што гэта і сапраўды дабро, якое трэба давесці да ладу.

* * *

У саюзе — зноў, як працяг нудных перадз'ездаўскіх артыкулаў — гутаркі пра станоўчага і нават... ідэальнага героя. Выступіў, гаварыў, што герой ідэальны — з'ява антыдыялектычная, мёртвы, святы чалавек, якому няма чаго рабіць, бо няма куды імкнуцца.

## *1955*

Чытаў з прыемнасцю пра Стальскага. Асабліва тое, як ён пратэставаў супраць штрэйкбрэхерскіх, падленька вернападданніцкіх вершаў Ганджы:

---

[1] Першая назва аповесці «Сірочы хлеб».
[2] Першая назва апавядання «Пасынак».

«Я сочинил-таки ответ и спел его во всеуслышание со своей крыши».

Адказ гэты запісалі сябры і пераслалі яго ў Баку, людзям, якім ён быў патрэбен.

«Не отряхивайся грязными брызгами, паршивый пёс! Не оскверняй звание поэта, ибо я вижу заранее, как голова твоя катится барабаном на свадьбе моих друзей!..»

* * *

Чытаю «Карамазавых», амаль не могучы нічога іншага рабіць. Эх, думаецца часта: напісаць бы адну такую кнігу, што прымусіць чытача на некалькі дзён забыцца пра ўсё іншае, а толькі ёю жыць!..

«Мне здаецца, што дзеці ніколі не бываюць брыдкія з твару».

Ён усё піша не «дзеці», а «дзеткі».

Успомніліся словы Коласа пра Дастаеўскага, сказаныя якраз у гэтым пакоі, дзе я цяпер пішу [1]. Стары здзіўляўся, чаму Фёдара Міхайлавіча не выдаюць, а N. абгрунтоўваў гэта з пазіцый даволі-такі наіўных... Далучаюся да думкі, што выдаваць — трэба. Карамазаўшчыны ў нашым побыце шмат, і, можа, люстра ёй дапамагло б. Не варта па-сектанцку баяцца таго Дастаеўскага, які «не наш», а наш ён — вельмі ў многім.

Тут, у хлопцаў, ёсць яшчэ «Идиот». Баюся, што працы ў мяне будзе няшмат...

* * *

Прачытаў біяграфію Маршака і нібы памаліўся,— стала лягчэй ад таго, што дакрануўся да прыгожай душы, да прыгожага чалавечага жыцця. Кніжыца гэтая — добрае дапаўненне нашай сустрэчы з Самуілам Якаўлевічам у яго доме, 19 лютага.

Палягчэла на сэрцы, а то даўно ўжо не было, а то і зусім не было такой апатыі, адчування крыўды, раздражнёнасці і — яшчэ раз, галоўнае — апатыі, што перажываў учора і некалькі дзён перад гэтым, на дэкадзе... [2]

---

[1] Запісана ў Каралішчавічах.

[2] Маецца на ўвазе Дэкада беларускай літаратуры і мастацтва ў Маскве (люты 1955 г.).

З аднаго боку, тое, што зроблена мною, перахвалена да нудоты, а зроблена — вельмі мала і, як кажуць крытыкі, не на ўсю сілу маіх магчымасцей. Не розумам, а сэрцам зразумеў, нібы ўпершыню адчуў, што я павінен зрабіць нешта вялікае, і дзеля гэтага трэба зрабіць з самім сабою штосьці незвычайнае, страсянуць сваю абвялую, застыглую душу, перажыць нейкі крызіс (як раіў Дзіме Кавалёву Міхаіл Святлоў),— загаварыць на ўвесь голас, пра што марыў, да чаго імкнуўся ў лепшыя дні жыцця... Хочацца сказаць — у лепшыя дні маладосці, якая прайшла.

А жыццё ідзе тым часам па інерцыі — еду ў Ленінград [1], дабіваць «Быстранку», не ведаючы, з чаго і як буду да яе даступацца... А тое радыкальнае, карэннае, галоўнае, што мне патрэбна, адкладаецца на далей...

* * *

Павёў паказваць сваю раскошную дачу. У мезаніне, у кабінеце яго, калі прысядзеш за пісьмовы стол, відаць толькі вада і неба, без зямлі. Нібы сімвалічна: поўны адрыў. Ледзь я не ляпнуў такога.

* * *

Успомніў, што думаў аднойчы ў вёсцы пра «марнасць жыцця»... Капаў чарвякоў, насаджваў іх на зазубні, выціскалася тое, што яны з'елі, а потым, увечары, уявілася, што мы — таксама чэрві, і страшна, сцюдзёна стала ад гэтага адчування... Як можна існаваць без высокай ідэі, без духоўнага жыцця?..

* * *

Думаў неяк, што польскае «uważaj na skrętach» [2] мае вельмі глыбокі сэнс. На вялікіх, вузлавых паваротах жыцця варта толькі трохі празяваць, памыліцца — будзеш раскайвацца доўга. Уяўляў чалавека, які, каб прымеў, дык маліўся б: «Даруй мне, маці-радзіма, што я аднойчы, хоць на такі кароткі час, аслабеў душой і страціў веру ў цябе!..»

[1] Запісана ў вагоне.
[2] Будзь пільным на паваротах.

* * *

Учора здаў у «Полымя» свой «Польскі дзённік». Цяпер вырашыў заглянуць у гэты сшытак. Думалася, што вельмі даўно не пісаў нічога «для душы»... Але ж і тое, што я пісаў у Польшчы ў сваім дарожным блакноце, а пасля праца над нарысам — фактычна дзённік, для душы — без двукосся.

Папрацаваў — можна і пахваліць самога сябе — здорава і, здаецца, карысна. Мерка — напал, хваляванне, з якім працаваў раней над лепшымі сваімі рэчамі. І начытаўся, і напісаўся.

* * *

За год зрабіў малавата. Восем аркушаў напісана, дзесяць перакладзена, трыццаць адрэдагавана. Што пакажа 1956-ы? Толькі сваё! Адмаўляюся ад усякай іншай працы — перакладаў, складання, рэдагавання.

## *1956*

З Ленінграда вярнуўся з прыкрым асадкам на душы. «Польскі дзённік» настолькі не спадабаўся Астроўскаму, што ён фактычна не захацеў перакладаць. Скараціць амаль напалавіну, выняць усё асабістае, лірыку — на гэта я не пайшоў. Ну, няхай сабе аўтар памыляецца, але ж чыталі і іншыя, каму я веру,— Танк, Вялюгін, Якуб...[1] Цікава толькі для беларусаў? Ну і добра,— хопіць з мяне і дзесяцімільённага чытача. Прыкра было ад таго, што, калі верыць майму рускаму «транслятару», зарад лірычнай энергіі марна прапаў, а хлопцы тым часам пішуць, канчаюць раманы-аповесці...

У адным перш за ўсё вінавачу сябе: не трэба, відаць, адразу пасылаць на пераклад, а пускаць справу больш на самацёк.

* * *

Калі я дрэнны больш за многіх іншых, дык мяне суцяшае думка, што я быў бы значна горшы, каб не стараўся аберагаць сябе.

---

[1] Міско Якуб (нар. у 1911) — журналіст, удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.

* * *

Сёння зноў — каторы ўжо раз! — сніў, што ў паперах маіх ёсць харошае, незакончанае апавяданне. Бяры яго, шліфуй і — пабагацееш! Прачнуўся — расчараванне. Але суму няма.

Была радасць: напісаў, нарэшце, «Алеся» — «Сірочы хлеб», які ўсім, хто чытаў, падабаецца. Было нямала працы. Цяпер — няма. Чакаю.

* * *

Чыюсьці нянавісць я ўспрымаю часцей за ўсё балюча. Нельга прызвычаіцца. Ці трэба гэта, каб нехта жыў, думаючы пра цябе не тое, чым ты ёсць, ненавідзеў цябе, пагарджаў табою — верны не праўдзе, а свайму памылковаму ўяўленню, якое ў ім падмацоўваюць іншыя твае «сябры»?..

* * *

Зноў кожны дзень сяджу над перакладам «Гномаў» [1] Канапніцкай.

Цяпер пяць гадзін, сонца схіліла з поўдня і свеціць на мой вясковы стол, і мне добра,— так супакойвае праца, хоць і не поўнасцю творчая, свая.

Здорава ўсё-такі пісала жанчына! Працую са здавальненнем і зайздрасцю: чаму ж гэта не я напісаў такое для дзяцей — шматфарбнае, сакавітае, паэтычнае, задушэўнае!..

* * *

Учора пад вечар вярнуліся з калгасаў, куды ездзілі з дэлегацыяй калгаснікаў Ашмянскага раёна, і не засталі Паўла Арсеньевіча [2] дома...

Заданне, з якім я прыехаў сюды [3],— напісаць пра яго для кнігі «Люди большой судьбы» і для «Правды»,

[1] Аповесць-казка Марыі Канапніцкай «Пра гномаў і сіротку Марысю».

[2] Жалезняковіч Павел (1906—1971) — тады сакратар Любчанскага райкома КПБ Гродзенскай вобласці. Герой нарыса «Сэрца камуніста».

[3] Запісана ў Любчы.

здаецца мне пакуль што вельмі цяжкім. Учора ў Шчорсах адна цётка сказала: «Калі будуць людзі рабіць, дык пакіруе кожны». Хоць гэта і адносілася да іхняй «старшыніхі», аднак запомнілася. Самае цяжкае ў маім заданні — паказ Паўла Арсеньевіча, сакратара, не ў адрыве ад раёна, ад людзей. З другога боку — «культ асобы» (словы, дарэчы, вельмі модныя, ажно абрыдлі) — гэта адно, але ж і добрая галава таксама робіць сваё, многа азначае ў калектыве.

А найлепш было б, думаў учора, зусім не брацца за гэты нарыс, а проста надыхацца добрым калгасным паветрам — для той працы, вынікам якое былі б, скажам, новыя апавяданні.

І гэта — не зусім правільна: герой мой і сапраўды «чалавек вялікага лёсу», і расказаць аб ім трэба. Можа, мне проста ленасць падказвае думку пра «сапраўдную» творчую працу?.. Паглядзім, што дасць сённяшні дзень. Таго, што сабраў, убачыў і пачуў, будзе бясспрэчна мала, прыйдзецца яшчэ прыехаць, пасля парыжаў і афін [1].

* * *

Смешная сітуацыя.

Жывём у раённай гасцініцы ўтрох. Трэці прыходзіць аднекуль тады, калі ў райцэнтры пагасне святло, а ўранні, калі мы выходзім з нумара, ён спіць, заўсёды накрыўшыся з галавой...

Пасля нас пазнаёмілі, на вуліцы. А ён, аказваецца, ведае нас. Бачыў з-пад коўдры?

Дзіўная сітуацыя...

* * *

Буду калісьці гаварыць, успамінаць, што быў у Швецыі і я... Пісаць нататкі турыста, даводзіць суайчыннікам, што краіна такая і сапраўды існуе, відаць, не буду. Ёсць тры крыніцы для такой геаграфічнай творчасці: вычытанае, што многім і так вядома, узятае ад гіда, з яго павярхоўнай скорагаворкі, і — уласныя назіранні, якіх вельмі мала... Відаць, ніколі не асмелюся сказаць, што ведаю гэтую краіну, як хацелася б і як трэба было б ведаць літаратуру.

---

[1] На ўвазе маецца турысцкая паездка вакол Еўропы.

* * *

«Клёмпы» напамінаюць палон: мы іх насілі там, і іменна галандскія [1]. У мяне, па назе, яны былі вялізныя, «як чаўны Сценькі Разіна». Быў і сябар-галандзец, Ян Кляйнэ, з якім мы ўдвух цягалі бочку на колах, паліваючы лагерны агарод. Вясёлы, просты хлопец, дома — агароднік. Зрэшты, тут яны, відаць, усе агароднікі або пастухі,— вакол толькі агароды ды каровы... Як шкада, што не збочым у вёску!..

* * *

Познім вечарам, паміж Еўропай і Афрыкай, пад паўднёвымі зоркамі і месяцам глядзелі італьянскі фільм. Як хлапчукі, сядзелі з Максімам і Бікчэнтаевым [2] на шлюпцы, перавернутай і накрытай брызентам, і невядома, ад чаго больш прыемна было — ад чароўнага, экзатычнага акружэння ці ад добрай кінакарціны...

Малайцы італьянцы! Трэці ўжо раз гляджу «Дзяўчаты з плошчы Іспаніі», і ўсё-такі добра, нібы перачытваю Чэхава.

* * *

Чаму мы адносімся прадузята да дзяцей багатых бацькоў? Учора і пазаўчора назіраў на палубе гульню ў пінг-понг, дзе стройная ды сімпатычная дзяўчына ў штоніках, дачка вельмі адказнага таварыша з Каўказа, выклікала ва мне нядобрае, непрыязнае пачуццё. Ахалоджваў сябе тым, што і мае дзяўчаты растуць у адноснай раскошы, і нехта можа мець падставы не любіць іх, пагарджаць імі. Ды гэта не супакойвае, не праясняе справы. Многа беднасці даводзіцца бачыць, і трэба быць здорава абмежаваным, каб глядзець на такія кантрасты спакойна...

У Амстэрдаме каля нашых аўтобусаў сабраўся натоўп галандцаў. Жанчына, што гутарыла са мной па-

---

[1] Запісана ў Галандыі.

[2] Максім Танк і башкірскі пісьменнік Анвер Бікчэнтаеў (нар. у 1913).

нямецку, спыталася пра маю прафесію. Пачуўшы адказ — здзівілася: «А я думала, што вы селянін!..» Добра, што і касцюм інтэлігента не змяніў мяне за дзесяць год. Яшчэ лепш было б да смерці застацца ў душы чалавекам працы, сумленным і простым.

* * *

Вечны Рым.

Здабыткі чалавечага генія, сабраныя тут на працягу стагоддзяў, ашаламляюць сваёй магутнасцю.

Думалася тут і пра нядаўні лёс нашых скульптараў, творчы палёт якіх быў зведзены да фігуры ў вялізных ботах. Думалася і пра Гогаля, які не прамяняў усю раскошную сілу Рыма на «печаль русских полей», адгэтуль тужыў, смяяўся горкім словам з роднай беднасці, праз слёзы і смех бачыў вялікі шлях, вялікую будучыню роднага народа, для якога і мы працуем па меры сваіх сіл.

* * *

Неапаль.

Каля марскога акварыума рабочыя папрасілі ў мяне значкі з партрэтам Леніна. Даў усім пяці чалавекам. Тады ад латка з нейкім пячэннем і сігарэтамі падбег стары ў белым халаце, разгарнуў хустачку, паказаў кніжыцу з надпісам, дзе было слова «комуністо»,— папрасіў даць і яму.

## *1957*

Нядрэнна было б самому даглядзець за выпускам свайго пасмяротнага поўнага збору твораў, самому скласці яго, прачытаць карэктуру...

Калісьці, як быў малы, калі маці налупіць, думаў, што добра было б памерці,— будуць нябось шкадаваць! Пасля, падлеткам, думаў такім чынам праверыць пачуцці любімай дзяўчыны...

А цяпер мне няма яшчэ сарака, а я ўжо думаю пра смерць, асабліва цяпер, хварэючы. І неяк на дзіва спакойна, нібы нават любуючыся. Відаць, таму, што

добра яшчэ не прыціснула. А найгорш — тое, што адчуваеш сябе чалавекам, які напрацаваўся, нешта зрабіў і можа закругляцца...

Хто нас так размагніціў?..

* * *

Чытаючы К. Тыпельскірха, «Гісторыю другой сусветнай вайны».

Так піша гэты памочнік Гітлера, адзін з кіраўнікоў вермахта, нібы Германія, разбіўшы Францыю, ашчаслівіла яе. А вось Савецкі Саюз не захацеў, дзівак, такога шчасця...

Сумна стала, душа разбалелася, і пакінуў чытаць.

* * *

Учора кончыў «Жана-Крыстофа», пачатага зімой, калі хварэў. Думка на думцы, усе яны напоены крывёю сэрца. А якая глыбіня пачуцця! Рашуча замала аднаго жыцця, каб паспець прачытаць хоць бы найлепшае, а тут жа прыходзіцца часамі чытаць шмат такога, што не дае ніякае карысці.

Апошнімі днямі пачаў патрошку адчуваць тут [1] сум, нуду шчаслівай, ідылічнай адзіноты, і таму вось ахвотна ўчапіўся за такую раланаўскую думку:

«Часовая самотнасць карысная для розуму, яна прымушае яго засяродзіцца, толькі пры ўмове, што гэта працягваецца нядоўга. Адзінота — высакародная, але яна можа аказацца смяротнай для мастака, у якога не хопіць сілы вырвацца з яе. Трэба жыць жыццём свайго часу, няхай нават шумным і брудным, трэба бесперапынна даваць і атрымліваць, даваць, даваць і зноў атрымліваць» [2].

У мяне тут — не так адзінота, як адарванасць ад жыцця (не магу паехаць, куды хочацца), адыход ад сучаснага ў кнігі, у дачнае сузіранне і роздум... Словам, пішу вельмі мала, таму вось і сумна, і брыдкавата.

---

[1] Запісана ў вёсцы Купа над Нараччу.

[2] Рамэн Ралан, «Жан-Крыстоф», кніга дзесятая, частка першая.

* * *

Чытаючы «Зачараваную душу».

Тое, што напрыкрыла ў «Жане-Крыстофе»,— дружба-любоў, саладжавыя, сентыментальныя адносіны паміж Крыстофам і Ота,— паўтарылася ў «Зачараванай душы»: адносіны паміж Жарменам, Францам і Аннетай, яшчэ больш сентыментальныя і прыкрыя. Асабліва Франц. За што яго любіць?

* * *

Знаёмства, пачатак дружбы з кнігамі — усё больш ды больш хвалюе як тэма. Калі гэта — «толькі для сябе», дык і то варта і трэба напісаць.

* * *

Вяртаючыся з лясное фіззарадкі, бачыў, як на суседнім двары «бабка спіць і гусі пасе». Старая, як свет, глухая бабуля распласталася на траве каля сваіх гусянят, нібы прыліпла да зямлі, нібы слухае, што ж там чуваць — там, куды ёй хутка прыйдзецца ісці...

Падумаў, што ў свой час, дажыўшы да такога ўзросту, не страшна будзе і памерці. А ўсё ж чамусьці хочацца больш напісаць добрага, на радасць людзям, а ўсё ж прыемна было ў нядзелю сустрэцца на кабыльніцкім кірмашы са славутым Ролічам [1], які ў свае 85 гадоў пехатою прыйшоў сюды за дванаццаць кіламетраў, у цяжкіх рыбацкіх ботах, з добрым клункам за спіной... Вось так бы доўга і бадзёра, працавіта жыць!

* * *

За гэтыя два тыдні напісаў «Асколачак вясёлкі», перапісаў-апрацаваў раздзел «Атрымалася глупства» [1], паслаў больш дзесятка пісьмаў, многа чытаў...

Галоўнае з прачытанага — «Идиот» Дастаеўскага.

---

[1] Роліч Міхаіл — нарачанскі рыбак, удзельнік паўстання рыбакоў у 1935 годзе. Прататып дзеда Вячэры ў апавяданні «Надпіс на зрубе».

[1] Першая назва аповесці «Апошняя сустрэча».

Такую кніжышчу вытрымаць у такой дынаміцы, што хочацца часамі закрываць далонню ніз старонкі, так цягне наперад,— дзеля гэтага трэба быць геніем. Колькі глыбіні, псіхалогіі — у жыцці нават такіх пустых людзей-паразітаў! Так зацікавіць іх лёсам можа, зноў жа, толькі геній.

Адна дробязь. Чытаючы пра лгуна генерала Івалгіна, успамінаў, што ў Гогаля недзе сказана пра генерала, які слова не мог сказаць, не салгаўшы. Ці не развіў Дастаеўскі гэты гогалеўскі зародак?

* * *

Мне, як студэнту перад экзаменам, не хапіла аднаго дня, каб схадзіць у Пасынкі, да Субача, які ўзнальваў нарачанскае паўстанне... Праўда, апавяданне «Мой тата» («Надпіс на сцяне»)[1] не клеіцца: спахапіўся, што варыянт з Ролічам і сасной будзе падобны да хемінгуэеўскага старога... Праўда, аднак, і тое, што я мог не толькі схадзіць у Пасынкі, але і пахадзіць па іншых навакольных вёсках, паглядзець сапраўднае жыццё. Мы не толькі «ленивы и нелюбопытны» — мы... я жыву нібы не жывучы, а толькі рыхтуючыся жыць. Нібы трошкі прыглушаныя, а трохі перакормленыя ўсе мы, слабыя пісьменнікі нашай вялікай эпохі.

* * *

У дзень ад'езду з Нарачы туды прыехаў Валодзя Калеснік. Адправіўшы маіх сямейнікаў у Мінск, мы пабылі яшчэ на возеры два дні.

Паход у Пасынкі, да Субача, якога мы... не засталі. Утульная вёсачка з буйнымі слівамі. Неспакойная Нарач і сонца. І цэлая плёнка на ўзаемныя здымкі.

Развітанне з Кручкоўскім у Максімавай хаце[2]. Падвыпіўшы, стары разжаліўся:

«Ад вас — як з дому еду ў сваю каламуту...»

---

[1] Першая назва апавядання «Надпіс на зрубе».

[2] Польскі пісьменнік Леан Кручкоўскі (1900—1962) — улетку 1957 года адпачываў на Нарачы. «Максімава хата» — дача М. Танка.

Знячэўку, амаль нечакана для самога сябе згадзіўся перакласці яго «Паўлінава пер'е».

* * *

Каля станцыі вузкакалейкі — паляна, даволі вялікі лужок, далей лес. Набліжаецца дажджавая хмара. Баба, жонка начальніка гэтай станцыі, як мага завіхаецца, копіць сена, і дзіка верашчыць на сваіх хлапчукоў, каб ішлі памагаць.

Аматару цішыні і красы варта падумаць, слухаючы гэты крык, што бабу гадоў ужо з пятнаццаць лупцуе п'яніца муж, а дзяцей, чатырох хлапчукоў, карміць неяк трэба...

## *1958*

З гэтых трох месяцаў найбольш задаволены студзенем, праведзеным у ціхай, шчаслівай, плённай працы ў Каралішчавічах. Закончыў «Надпіс на зрубе», напісаў чатыры раздзелы «Атрымалася глупства», пераклада Кручкоўскага, чытаў карэктуры Галавача і Карпюка. Многа хадзіў. Чытаў Маравію, «Рымскія апавяданні», «Начало» Прыляжаевай. Мала іграў у карты. Толькі пад канец сарваўся: прымаў удзел у пустых спрэчках, абураўся на брудную помслівасць, дробязнасць некаторых нашых хлопцаў...

Як здорава я адышоў за гэты год хваробы і поўнай цвярозасці ад нашага асяроддзя, як нядрэнна адпачыў ад яго!..

* * *

Ну што ж, сяду і буду скардзіцца? А на каго? Што такое са мною, чаму не пішу?.. Замест гэтага, з пагардай і агідай да сябе, кожную раніцу сядзеў апошнія тыдні над Кручкоўскім. Цяжка ад думкі, што ён там недзе піша сваё, новае, а я ўзяў на сябе ролю «почтовой лошади просвещения». Замест таго каб таксама пісаць!

* * *

Учора — вельмі цяжкі дзень, асабліва вечар. Вялюгін («Не для подсиживания», а па-сяброўску) пазваніў, што ён мае рацыю: у Даўжэнкі ёсць апавяданне, вельмі падобнае па сітуацыі да мае «Маці». Яно друкавалася ў лютым сорак трэцяга года. Я пайшоў у Ленінскую бібліятэку, знайшоў той нумар «Известий» і прачытаў. І толькі сёння ўранні супакоіўся.

Праўда, для маіх дурных нерваў дзень быў учора нялёгкі: зранку чытаў бэндаўскую карэктуру з мноствам дурной рэдактарскай праўкі [1], засядаў на рэдсавеце, на секцыі прозы, і там, і там выступаў, увечары — выступаў у школе...

Апавяданне Даўжэнкі не толькі называецца «Маці», але і сын жанчыны — Васіль таксама. Жанчына хавае ў сваёй хаце двух лётчыкаў, потым прызнае іх перад немцамі сваімі сынамі, за што і гіне... Ну, а мама мая хавала раненага Ціхана [2], ведаючы, што за гэта робяць. Ці многа трэба, каб уявіць, што з ёю было б?.. Увосені сорак першага года я бачыў у Стоўбцах, як гналі на расстрэл старую, босую сялянку і чатырох байцоў. Яна малілася, склаўшы рукі...

Чаго ж я так хваляваўся,— няўжо мала быць сумленным перад самім сабою, перад сапраўднымі сябрамі? Няўжо я так баюся N. з ягонай злоснай «пільнасцю»? Ці гэта проста нервы?..

* * *

Неяк днямі, гуляючы з Мішам па лесе, пасля дажджу, скардзіўся яму на сваю стомленасць, апустошанасць, слабасць. Гаварылі і пра тое, што гэта, можа, крызіс, пасля якога я пачну пісаць лепш. Каб жа так!..

Пакуль што ёсць хоць тое сур'ёзнае, мужнае задавальненне, што не халтуру, не саджуся за стол і не пляту абы-што.

---

[1] Л. Бэнда быў рэдактарам кнігі Я. Брыля «Рассказы и повести» (Гослитиздат, 1958 г.).

[2] Дуднікаў Ціхан Георгіевіч (нар. у 1914) — інжынер, тады камандзір партызанскай групы.

Нацешыўся, здаецца, на нейкі час горадам майго маленства [1]. Заходзіў, нарэшце, у нашу былую кватэру. Тры пакоі, нават пакойчыкі, і кухня, калідор з агульным балконам. Гутарка з людзьмі, якія былі калісьці нашымі суседзямі, памятаюць мяне малым. Стала ледзь што не страшна — колькі часу прайшло з тых дзён, цэлых трыццаць сем год!..

І тут жа думкі: мала, ой, мала напісана... Што слаба напісана — чамусьці думаю менш...

З вакзальнай плошчы глядзеў на вялізныя, нібы надзьмутыя, сакавіта зялёныя купалы Панцялейманаўскага сабора, што напамінаюць спакуслівую для жыхара поўначы прывозаўскую цыбулю, успамінаў, як мама вадзіла мяне тут у царкву. Можа, і ў гэты сабор? Глядзеў пасля Куяльніцкі ліман, дзе яна, мама, лячыла ногі. Наогул, многа думаў пра бацькоў, братоў. Ажно сумнавата стала. Колькі тут па-сапраўднаму, па-пісьменніцку цікавага, а колькі проста прыватнага, толькі майго, нашага сямейнага, як у тых сумных альбомах, дзе людзі людзям пісалі «на вечную памяць», а памяць гэтая пра іх даўно зацерлася.

Думкі такія з'явіліся, відаць, не без уплыву добрых нататак Бергольц «Поход за Невскую заставу». Там многа не толькі цікавага, але і значнага, патрэбнага для людзей.

Добра і трэба вучыцца сціпласці, думаць, што не ты робіш ласку чалавецтву, радзіме тым, што жывеш, а зусім наадварот.

* * *

«Расчараванне» [2] — найменшая аповесць, а прынесла мне найбольш клопату, непрыемнасцей.

Ленінградская «Звезда» адмовілася... [3]

---

[1] Запісана ў Адэсе.

[2] Назва аповесці «Апошняя сустрэча» ў часопіснай публікацыі.

[3] Аповесць пад назвай «Смятение» была надрукавана ў «Дружбе народов», № 5, 1960.



У кулуарах мінскага Дома літаратара. *Справа налева:*
Алесь Якімовіч, Ніл Гілевіч, Васіль Вітка,
Алесь Пальчэўскі, Янка Брыль. *1978 г.*

Не каюся, што напісаў гэтую рэч, аднак ёсць, відаць, многа праўды і ў тым (сам думаў пра гэта, хварэючы ў верасні), што мне трэба лепш ведаць жыццё і пачаць пісаць, нарэшце, на ўсю сілу. Няўжо гэта прыйдзе само? Няўжо трэба ездзіць у камандзіроўкі, хадзіць на паляванне (як Вішня, нічога не забіваючы), плюнуць улетку на машыну і ўзяцца за рукзак?

Міша кліча ў свой міжкалгасбуд, рабіць другую кнігу «Забалоцця», Валодзя цягне ў «Граніцу», Ніна чакае дзіцячых апавяданняў... Сам я ледзь не плакаў ад радасці, калі пісаў свайго Чэхава... [1]

Прычына мае бяды ляжыць, здаецца, не на самай паверхні, яе не вылечыць сучасніцкім назіраннем...

Многа чытаў. Нарэшце, Драйзер, «Геній». Нуднавата аднастайны Рэмарк («Тры таварышы», «Трыумфальная арка»). Фолкнер з яго жудасным «Сховішчам». Сімпатычны Зарэцкі («Сцежкі-дарожкі»). Добрая, новая для Шамякіна аповесць «Агонь і снег» і вельмі слабая, са старымі штучкамі, «Пошукі сустрэчы». Радасныя, свежыя — «Братья и сестры» Абрамава, бакланаўская «Пядь земли» і «Последние залпы» Бондарава.

Цяпер чытаю Гандзі, «Моя жизнь», з тым самым... лепш — з такім самым, вельмі падобным пачуццём, з якім чытаў калісьці Герцэна.

## *1960*

Глядзелі з Мішам выстаўку «Советская Россия» [2]. Нямала добрага. Але і замучылі бясконцыя групы мужчын ды жанчын, што пазіраюць на цябе з усіх сцен,— такія аднастайныя, так наганяюць на душу нуду і прыкрую стомленасць!..

* * *

Выступаем у клубе запольскага калгаса [3]. Людзей поўна настолькі, што ўсе праходы забіты.

---

[1] Маецца на ўвазе «Мой Чэхаў».
[2] Запісана ў Маскве.
[3] Запісана ў вёсцы Заполле Карэліцкага раёна.

Стрыжаныя хлопчыкі з аблавушкамі ў руках. Пацалаваў бы яго, і гэтыя ручкі,— як сваё далёкае, пастушына-школьнае маленства.

* * *

Чытаю ўспаміны Маршака («В начале жизни»), як перад гэтым чытаў Сіманава («Живые и мертвые»), як чыталася ў юнацтве,— забыўшыся пра ўсе абавязкі, не думаючы, што жыццё праходзіць, а зроблена так мала.

У тым жа «Новом мире» прачытаў «Записи для себя» Верасаева. Добра! Зраблю і я такую кнігу. Міша неяк нядаўна казаў, што гэта будзе самым значным з усяго, што я зраблю.

* * *

Цітавіч і Палінка[1] былі (скажу як скептык) трохі выпіўшы ў гасцях, і таму такім бурным было наша нечаканае спатканне ў Міры, калі яны выбеглі з нейчага двара і крыкам спынілі маю машыну. А ўсё ж як прыемна было абняцца з добрымі людзьмі!

«Давай пацалуемся, Янушка!.. А памятаеш, як я вам, разведчыкам, варыла суп?..»

Вывад — як па Малініну з Бурэніным — усім нам хочацца, каб нас любілі.

* * *

Дзевяты дзень у Канадзе.

Запомніўся разумны твар ветэрынара-хірурга, які з любоўю і сціплай, заслужанай гордасцю паказваў нам на ферме ветэрынарнага вучылішча поні, кароў, сабак, якіх ён павылечваў, і, з асаблівай гордасцю, кабыліцу, якой ён вельмі ўдала зрабіў кесарава сячэнне.

Развітваючыся, я сказаў яму (цераз перакладчыка), што ён — харошы чалавек. На гэта містэр у сінім

---

[1] Міхаіл Цітавіч і Паліна Паўлаўна Маскалёвы, былыя партызаны, ён начальнік штаба брыгады «Камсамолец» Баранавіцкага злучэння, яна — падрыўніца.

камбінезоне, які ён неяк збянтэжана раз-пораз зашпільваў на грудзях, засмяяўся і прамыкаў штосьці пра сваіх студэнтаў, якім ён «таксама падабаецца»...

* * *

У вестыбюлі гатэля, як толькі мы прыехалі з Чыкага ў Вашынгтон, сустрэлі нас работнікі «Вашынгтон пост» і ўсё дапытваліся — тройчы, на тры лады,— наколькі змянілася наша думка пра Амерыку пасля таго, як мы яе ўбачылі. І адказы нашы (Пімена [1] і мае) яўна іх не цікавілі. Аднак нататка аб прыездзе нашай групы выйшла назаўтра памяркоўная.

Зялёны, ціхі, велічны Вашынгтон,— з яго помнікамі, палацамі, цудоўнай галерэяй і бібліятэкай, у якой я не змог, з ласкі гідаў, паглядзець каталог савецкіх, беларускіх і, магчыма, сваіх кніг. Вашынгтон быў для нас адпачынкам пасля шумліва-небаскробнага Чыкага. Толькі спёка, духмень замучылі, нават ноччу, калі мы, пад цырканне цыкадаў, хадзілі па ціхіх вуліцах з сімпатычным прафесарам N., удосталь і весела парушаючы правілы вулічнага руху.

Балтымор, Уілінстон — кароста каміноў на нізка і густа пабудаваных доміках рабочых кварталаў. Магутная індустрыя. Філадэльфія — таксама. Плюс — квакеры, пра якіх мы гаварылі з Піменам, што мне напомніла юнацтва, калі я чытаў іхнія выданні.

Скрозь буйная расліннасць. Шмат вады.

Самая высокая паэзія — паэзія маленства. Думаў так, гледзячы з вагоннага акна на касцёл у рабочым, небагатым квартале Балтымора, уявіўшы мясцовага Андрэйку [2], якога тут яшчэ ўсё, як мама мяне калісьці ў Адэсе, водзяць маліцца... Колькі яе, гэтай паэзіі, думалася цёпла, гледзячы на мноства вокан і комінаў. Як кветак і матылёў на лузе.

Нью-Йорк спачатку, калі мы пад'язджалі ад Нью-Джэрсі, здаўся нецікавым: балотная нізіна, каравыя трушчобы, старыя небаскробы... А потым новыя кварталы напомнілі мне адну фразу з «Литературной га-

---

[1] Пімен Панчанка.

[2] Тут і скрозь далей Андрэй, Андрэйка — сын пісьменніка (нар. у 1956).

зеты», з верасня мінулага года: «Чудовищно красивый город».

Асабліва выразна адчуваеш гэта на 86-м (адкрыты балкон) і на 102-м (праз шкло) паверхах «Эмпайр стэйт білдынга». Пасля Ніягары гэта, бадай, найбольш яркае ўражанне з ЗША.

Права на абагульненні ў мяне, здаецца, няма.

* * *

Усё больш ды больш спакойна думаю пра немінучасць канца і ўсё больш натуральна пра самога сябе — збоку. За гэты позірк варта аддаць куды больш, чым ты аддаў за магчымасць прыехаць сюды, «на край свету». Хочацца працаваць і жыць куды больш разумна і плённа, чым працаваў і жыў дагэтуль.

Няхай жа прыйдуць яны — свежыя сілы, новыя радасці, новая праца!

* * *

Дома [1].

Як дома — зусім нечакана — адчулі мы сябе ўжо ў Парыжы. Місье з «Эр Франс» аказаліся таварышамі, французскімі камуністамі. Далі нам проста каралеўскія пакоі ў гатэлі «Палас Дарсель» над Сенай. Паказалі Парыж з аўтобуса і з кацера, зверху — з манмартрскай гары, і знізу — у вінным сутарэнні «Пячоры Эйфелевай вежы». Былі наладжаны два прыёмы: абед у рэстаране «Калізей» на Елісейскіх палях і вячэра ў кафэ на экзатычным, шумна вясёлым, нейкім народным і радасна шматфарбным Манмартры.

Днём, у «Калізеі», увішны, сухашчавы эльзасец здымаў нас, у перапынках выпіваючы бакал кюрасо, спяваў са мною «Інтэрнацыянал» на эсперанта (трохі памятаю з 1934 года). А ўвечары нам былі раздадзены вялікія фота яго работы, прычым на падораных мне — стаіць радок: «Jen la fina batalo» [2]. А потым і сам ён прыйшоў, зусім спазніўшыся. Гаспадар сустрэчы, мілы, вусаценькі камарад, былы макі, заказаў яму

---

[1] Запісана ў Маскве.

[2] Гэта бой наш апошні.

і яго гола- і востракаленнай, вясёлай бялянанчцы піва і бутэрброды. Булка — яны паказвалі — была цвёрдая, як стол, аднак і ім, і нам з імі было весела. Найбольш неабходныя, важныя, нават урачыстыя фразы перакладала нам старая парыжанка («з прагрэсіўных»), а з астатнім мы спраўляліся пры дапамозе некалькіх нямецкіх фраз (і ён, фатограф, быў у палоне), яшчэ менш — пры дапамозе эсперанта, а найбольш — дзякуючы жэстам, вачам і ўсмешкам. Маэстра змайстраваў нават карабочкі запалак з нашымі фота... Але галоўнае не ў гэтых сувенірах, не ў віне, што лілося ракой, а ў той цудоўнай атмасферы, якой так добра было закончана наша падарожжа, у тым радасным акордзе, што зняў з душы амерыканскі, гідаўскі халадок развітання, неяк па-новаму наблізіўшы да душы ледзь што не па-дамашняму ціхі пасля Нью-Йорка, раскошны, паэтычны Парыж.

* * *

Днямі, калі я зранку ныў над пісьмовым сталом, зайшла Ніна і паказала такое вось месца ў артыкуле пра Талстога:

«Вечная тревога, труд, борьба, лишения — это необходимые условия, из которых не должен сметь думать выйти хоть на секунду ни один человек... Чтобы жить честно, надо рваться, путаться, биться, ошибаться, начинать и бросать, и опять начинать и опять бросать, и вечно бороться и лишаться. А спокойствие — душевная подлость» [1].

Гэтае месца са свайго пісьма стары Леў Мікалаевіч, за некалькі месяцаў да смерці, «читал с умилением» і гаварыў: «Теперь ничего не сказал бы другого».

* * *

І яшчэ адно выказванне вялікіх і любімых,— Чэхаў:

«Отсюда, издали люди кажутся очень хорошими, и это естественно, потому что, уходя в деревню, мы прячемся не от людей, а от своего самолюбия, которое в

[1] З пісьма Л. М. Талстога — А. А. Талстой, 18—20.X. 1857 г.

городе, около людей бывает несправедливо и работает не в меру»[1].

Таму, што я прачытаў увесь дваццацітомнік Антона Паўлавіча, магу лічыць, што словы гэтыя ўжо траплялiся мне на вочы. Аднак цяпер яны прыйшліся вельмі па настроі. Самалюбства маё працуе і сапраўды «не в меру», і варта было б уцячы з асяроддзя, якое робіць яго «несправедливым». Уцячы або тут абмяжоўваць яго працай і роздумам.

* * *

А добра ўсё-такі жыць, і многа, многа ў жыцці маім было светлага, і будзе яшчэ яно — праца, дружба, радасць, пакуты, шуканне, так, як бывала калісьці і яшчэ куды лепш!

...Мусіць, я не ў Каралішчавічы паеду шукаць натхнення і спакойнага кутка, а да Мішы — глыбей у народ, у самога сябе, у нашу цудоўную даўнюю дружбу.

З прыемнасцю чытаў апавяданні Сенчанкі[2] («Дыяген», «Рубін на Саламянцы»), і радасна было, што пазнаёміўся з гэтым удумлівым, чыстым пісьменнікам.

* * *

Купіў «За далью даль», першае асобнае выданне, і ахвотна сеў перачытваць яе поўнасцю. І не зрабіла ўражання. Думалася нават і так:

Няўжо ў літаратуры нашай такі застой, што і такая глыбіня — мімаходная — лічыцца глыбокай, і такая смеласць — заднім чыслом — называецца мужнасцю?..

Гэта — пры ўсёй маёй павазе да Твардоўскага.

## *1961*

Чамусьці няёмка, брыдка, нават балюча думаць пра прафесію, працу «свабоднага мастака», якому

---

[1] З пісьма А. В. Суворыну, 17 сакавіка 1892 года.
[2] Сенчанка Іван (1901—1975) — украінскі пісьменнік.

яшчэ цяжэй, чым сумленнаму старшыні калгаса, адчуваць сябе, як той N. казаў, «паміж молатам і кавадлам». Пісаць па-народнаму вельмі нялёгка. І не лішне трэба крыўдзіцца, што людзям цяжкай працы і няшчодрага хлеба не падабаюцца гладкія морды. Чытаў тут, у вёсцы, нарыс Сцепняка-Краўчынскага пра Халтурына, і тое месца, дзе аўтар з любоўю гаворыць, што герой яго лічыў сваім абавязкам працаю рук зарабляць кавалак хлеба, уразіла мяне як суровы дакор. Ох, і далёка ж я адышоўся ад самога сябе — таго, што за плугам ды за вясковым сталом вечарамі! А што я больш умею рабіць, апроч пісання і рэдагавання?.. Добра яшчэ, калі пішацца, ды нядрэнна. А без гэтага не на жарты бывае страшна,— блытацца недзе збоку ад сапраўднага жыцця...

* * *

Учора дзень прасядзеў на сесіі райсавета. Цікавага мала, хоць і добра, патрэбна для поўнага ўяўлення пра жыццё раёна.

Пішу таму, што радасна было зусім нечакана паглядзець у новым, яшчэ незнаёмым карэліцкім кінатэатры «Воскресение». Таксама, як у снежні «Власть тьмы» ў рускім тэатры, глядзелі ўдвух з Мішам і кінакарціну — па-святочнаму ўрачыста, вельмі патрэбна, важна і, галоўнае, да хвалявання цікава.

Калісьці мне здавалася дзіўным, чаму ён, Леў Мікалаевіч,— пры яго адмаўленні папоўшчыны,— для кульмінацыі ў чыстым каханні Няхлюдава і Кацюшы выбраў іменна вялікдзень. Навошта такі кампраміс, думалася мне, маладому, беззапаветна закаханаму ў Талстога, цэласнага ды непадзельнага. А ўчора ажно заплакаў, калі на фоне прадвяснянай разводзістай ночы раптам грымнула з дзвярэй асветленай царквы: «Христос воскресе!..» Ведаў стары, што робіць. Тут і вясна, яе нараджэнне, тут і Кацюша са свечкай — чыстая, з агеньчыкам у закаханых вачах, тут і паэзія хоць мімалётнай роўнасці людзей — пацалункі бедных з багатымі, тут і пацалункі іхнія, Кацюшы і Дзмітрыя, два плюс паўза, якой няма цаны, і трэці — не такі, як тыя два, перад паўзай...

* * *

Цяпер, прыехаўшы з горада ў вёску, нікога нічым не здзівіш. Радыё, кіно, газета настолькі ўвайшлі ў побыт, што, пішучы, мы павінны адчуваць сябе з народам-чытачом з вока на вока. І фальш тут адчуваецца вастрэй.

* * *

Усё гэта добра,— што мы робім, думаем, адчуваем,— але ж на заднім плане дзесьці збіраюцца чорныя, жахлівыя хмары вайны, якія могуць, нарэшце, выйсці на план пярэдні, стаць рэчаіснасцю... І ўсё паляціць да чорта, застанецца толькі паядынак са сваім сумленнем, адзін выбар — жыццё за родную справу.

Ох, як не хочацца, як непатрэбна, як страшна!..

* * *

Прачытаў у «Советской Белоруссии» гутарку карэспандэнта з Танкам. «Член редколлегии нашего журнала [1] Янка Брыль уже выехал в один из районов для встречи с героями семилетки». Іронія гэта ці праўда, што я тут з імі сустракаюся? Праўда. Шырэйшая за пракрустаў ложак газетнай штампованай сухасці. Хто ведае, што я напішу пасля, але ж бясспрэчна напішу, як напісаў ужо «Сцежку-дарожку», якую, відаць, павінен быў напісаць іменна тут, у вёсцы, гледзячы праз акно на аснежанае голле яблыняў.

Ды дзе ж ён, зрэшты, запаведнік герояў сямігодкі? Чаму яны не тут таксама — у Маласельцах, у Загоры, у нашым Карэліцкім раёне?

* * *

Каля гумна, дзе церлі лён,— раптам Лаўрын Лічко [2]. Прыселі на яго развалах з лёнам і, пад гул агрэгата, у смак нагаварыліся, пакуль не падышоў трэці, лішні і п'яны.

— «Галю» тваю слухаў па радзіве,— сказаў Лаў-

---

[1] Часопіс «Полымя».

[2] Калгаснік, сябар Я. Брыля.

рын, па-свойму пакручаста.— Хораша распасцёр ты там крылля жызняннай праўды.

Што ні кажы, а прыемна такое, і жыць памагае, і працаваць.

— Зверху ўсё, як паслухаеш ды падумаеш, спраўна,— гаварыў мне Лаўрын.— А вось што робіцца ўнізе — ніхто з «вашага брата» не ведае. Панадзяваюць капелюшы, пабяруць апараты, блакноты, пасядуць у машыны і едуць у калгас. Хто ж табе такому праўду скажа?..

Мне расказваць не баяцца. Толькі часамі просяць: «Гэта, браце, як табе». Але што гаварыць пра іх, залежных не толькі ад старшыні, але і ад брыгадзіра, калі і сам я, задумаўшы паказаць сённяшні і ўчарашні дзень нашага N., таксама падумаў: а ці варта? То ж там, у Мінску, надрукуюць, перададуць па радыё, а тут прачытаюць, пачуюць і, зразумела, разнясуць...

* * *

Ехаў і я па гразі мінулага, вёз свой цяжкі і нечага варты груз і пырскаў з-пад колаў «публіцыстыкай», за якую цяпер сорамна. Як жа хацелася б не паўтараць такога!..

* * *

Пачаў «Апошні з удэгэ». Ад сумоты так і цягне ў добрую кнігу. Як у сон, каб супакоіцца? Ды не,— проста таму, што там вельмі добра.

Дапаўняецца вобраз пісьменніка, да якога я не меў чамусьці асаблівага рэспекту. Чамусьці? Бо лічыў яго аўтарам калі не толькі, дык у першую чаргу «Разгрома» і — «дорога ложка к обеду» — «Молодой гвардии», пачатай раманам, а закончанай нарысам. Не ведаў яго яшчэ і як цудоўнага жывапісца далёкаўсходняга партызанскага жыцця, як чалавека шырокай душы і вялікай пісьменніцкай культуры. Нарэшце, ясным стала сцверджанне, што ён многа і плённа вучыўся ў Талстога. З грунтоўнасцю сапраўднага мастака не абыходзіў, а ішоў напралом, паказваў усё і — дамагаўся перамогі. І не прыгладжваў так, як мы, не «сціраў натуралізму», а *пісаў жыццё,* так, як і я калісьці марыў пісаць...

* * *

Горка, балюча, глыбока і шчыра адчуў учора, што мне ўжо сорак чатыры, а я яшчэ не напісаў «Вайны і міру»... Скрыган вельмі хваліць Мележаў новы раман [1]. Я пазайздросціў — таксама горка. І таму, пасля добрай гутаркі з Нінай у вячэрнім парку, сказаў сёння Танку, што іду з рэдакцыі.

Паеду да Мішы. Можа, студзень паўторыцца ў чэрвені? О, каб жа так!.. Зноў адчуваю, што мне — апроч усяго іншага — неабходна адысціся ад свайго асяроддзя, палячыцца зямлёю, адпачыць ад дробненькага, шкоднага і неадчэпнага, як кароста, тузання нерваў, стаць вышэй, стаць самім сабою.

«Апроч усяго іншага...» А «ўсё іншае» ў тым і заключаецца, што мне трэба, неабходна працаваць.

* * *

Перад сном чытаў цудоўныя «Снягі Кіліманджара» [2]. А потым сасніў, што трэба было зрабіць чорную, але неабходную работу — забіць дрэннага чалавека. Хтосьці, мой памагаты, не мог з ім справіцца, і я, каб быць паслядоўным, узяўся сам. Лупіў таго чалавека гірай па галаве, а ён — моўчкі — паволі ператвараўся ў майго адзінага... Прачнуўся з думкай, што мне ўжо ніколі не перастаць быць такім, як я ёсць. І ці трэба пераставаць?

* * *

Учора пачаў «Зялёныя ўзгоркі Афрыкі» і радасна ўчапіўся за адно выказванне, па-хемінгуэеўску моцнае: «Сапраўдны пісьменнік піша, пакуль ён можа пісаць, пакуль ёсць алоўкі, папера, чарніла і пакуль у яго ёсць што пісаць,— інакш ён дурань, і сам гэта ведае».

У мяне — ёсць усё, дык няўжо ж мне няма пра што пісаць? Няўжо для здаровага чалавека няма больш прычын? А калі яны ў мяне ёсць, дык няўжо я хворы ці нямоглы? Ці проста гультай?

---

[1] «Людзі на балоце», рукапіс якога чытаўся тады ў аддзеле прозы «Полымя».

[2] Аповесць Э. Хемінгуэя.

* * *

Была добрая праца над артыкулам для «Литературной газеты», сонечная паездка ў Коласаў родны кут. А ўчора дык радасць проста каскадам абрынулася на мяне. Бываюць жа такія дні! Зранку сядзеў над новым апавяданнем і, раскалыхаўшыся на блакнотных запісах, узышоў на свежае, натхнёнае. Тады званок з «Литгазеты», што артыкул мой нават «блестящий», што яго толькі трошкі паправяць і зменяць назву — з майго дазволу. Варта было напісаць туды, пасылаючы рукапіс, што мне «не хацелася б, каб гісторыя паўтаралася: спачатку доўгі каранцін, пасля скарачэнне напалавіну і, нарэшце, водгук з месяца». Варта было і намякнуць пра культуру дружбы. Потым пошта: доўгачаканае пісьмо ад Валодзі Калесніка з цудоўнымі палескімі і нёманскімі здымкамі; трошкі менш чаканы пераклад ад Астроўскага; увечары — запросіны на святкаванне 300-годдзя Львоўскага універсітэта... А на закуску — вестка пра тое, што сёння пачынаюць здымаць карціну па маёй «Зорцы на спражцы».

Запісваю пра гэты дзень ад радасці, бо не часта такое здараецца, бо ў хвіліны ныцця (яны будуць!) добра будзе ўспомніць для пацехі.

* * *

На рыбацкія апавяданні [1] была нечакана жорсткая крытыка (Калеснік, Янкоўскі, Адамовіч, Скрыган, Ніна), на якую адказаў упартай, злоснай, а потым і натхнёнай працай. І, здаецца, штосьці выйшла.

* * *

Чытаю Буніна, «Жизнь Арсеньева». Нельга памногу адразу, як есці мёд,— перагусціў майстэрства. А ўсё ж не толькі радасна, але і вучыцца трэба ў яго.

* * *

Над магілай Васілька хацелася пагаварыць з ім. Хоць ты пішы гэтую размову. Усё часовае — і пада-

[1] «Пад гоман вогнішча».

зрэнні, і паклёпы, і яго рэагаванне чаркай і слязьмі — усё пайшло ў нябыт, а на паверхні засталося тое, што складае нечасовую сутнасць: яго вершы, якіх, на жаль, вельмі мала. І нельга не думаць, што іх было б, відаць, куды больш, і яны былі б куды лепшыя....

Сумна, Міхась!..

Упершыню і з нейкім дзіўным, прыемным адчуваннем рэальнасці наведаў там і магілу Элізы Ажэшка. Яна тут жыла, яна была наша, мы павінны дружыць і ў імя яшчэ адной цудоўнай... не — проста жыццёва прыгожай з'явы.

* * *

Прачытаў, нарэшце, «Па кім б'е звон» [1]. Па-польску.

Думка такая, чытаючы: стой за праўду, мастак, і не пакаешся! У нас гэты раман яшчэ ўсё не выдадзены, а некаторыя старонкі яго гучаць так, нібы яны напісаны пасля XXII з'езда КПСС.

«Вучобай» ды паслухмянствам прыпсаваўся быў і я (пра што нават N. пісаў, падсвядома), і цяпер трэба назад адвучвацца. Мала таго — шкадаваць трэба горка, колькі дарма напсаваў і дзён, і паперы!..

* * *

Будзеш блытацца, лезці пад рукі, зудзець у памяці: «Трэба, трэба пусціць мяне да людзей!..» А потым пойдзеш са мной у нябыт? Можа, не — не трэба так, можа, расказаць усё-такі пра тое, што я ведаю толькі адзін?..

З гэтымі думкамі трэба ўзяцца за «Дзе твой народ» [2]. Не даціскаючы больш у новы зборнік [3],— хай ідзе такі, недацягнуты да планавага памеру.

...Менш кампрамісаў, чым іх было ў маёй творчасці дагэтуль! Не растрасаць таго, што іншыя не растрасалі, што пасля аказалася адкрыццём, узбагачала іх — на маю невясёлую, хоць і добрую, як гаворыцца, зайздрасць.

---

[1] Раман Э. Хемінгуэя.

[2] Першая назва рамана «Птушкі і гнёзды».

[3] «Працяг размовы».

* * *

Чытаючы дзённік Корчака [1], пісаны ў гета.

Колькі разоў ні чытаў-перачытваў чэхаўскае «Спать хочется» — канец апавядання заўсёды здаваўся мне надуманым, фальшывым.

*1962*

Мэндэлэ Мойхер-Сфорым. Адтуль часткова і пачаўся Шолам-Алейхем, трохі больш балбатлівы за свайго настаўніка. Дый абодва яны — пры ўсіх мастацкіх, дый высокіх, якасцях — залішне многа прастарэкуюць. Можа хіба гэта — нацыянальная асаблівасць?

«Открытие мира» Смірнова. Добра, але ж занадта, як на мяне, грунтоўна.

Тое, што ён пахваліў мяне за артыкул пра «Звездный билет», не так ужо і спадабалася. У нейкую старасць адзета яго абурэнне выбрыкамі маладых літаратараў, змешана з нечым старым — адтуль, што мы цяпер асуджаем.

...Здаецца, так многа чытаю, і так жа многа яшчэ непрачытанага. Асабліва — сучасных прагрэсіўных пісьменнікаў свету.

* * *

Пісаць раман [2] пра самога сябе — не! Пісаць яго пра народ, пра наш час, дзе меў і маю сваё месца і я.

* * *

Чытаючы ў Луначарскага пра тое, што Талстой свядома, працай дамагаўся «каравасці фразы», думаў:

А ці не залішне я зайшоў у «сваім стылі», у тым, што называецца паэтычнасцю прозы, калі мне ўжо і заяву ў літфонд хочацца пісаць гэтым «уласным стылем», калі я не магу не апрацоўваць па-сапраўднаму нават звычайную нататку для газеты ці радыё?

---

[1] Корчак Януш (1878—1942) — польскі пісьменнік і педагог.

[2] Тут і скрозь далей, дзе згадваецца раман,— «Птушкі і гнёзды».

І адказваю сам сабе: абы гэта было натуральна, не прытарна. Бо што ж тады проза Лермантава, Чэхава, Буніна — проза ў найвышэйшай ступені паэтычная і натуральна-жыццёвая?

* * *

«Апетыт прыходзіць у час яды». А ў мяне вельмі часта думанне пачынаецца над паперай.

Вучуся пісаць, як калісьці пісаў,— для сябе.

* * *

Залез у «Воскресение», дзе кніга разгарнулася, і ўспамінаю даклад Твардоўскага пра Пушкіна: «Мы не ўмеем *расказваць*». І сапраўды, Леў Мікалаевіч не ўсё паказвае дыялагам. Вось ён расказвае — густа, дакладна, каротка — пра двух рэвалюцыянераў, Набатава і Кандрацьева, у адным кароткім раздзеле, а мне так цікава, я так многа тут бачу!..

Ну што ж, калі я чаго не раблю ў гэтым сэнсе адразу, дык пастараюся дацягнуць перапісваючы.

* * *

Па інерцыі махнуў яшчэ раздзельчык і адчуў, што ўсё — стаміўся, разбаleліся галава і сэрца. Пайшоў у Турэц (дзень быў цудоўны), а ногі неяк дзіўна ныюць, і ўвесь разбіты.

Сёння, пасля двух дзён адпачынку, хацеў ірвануць зноў, але адчуў, што інерцыі ўжо няма, што трэба зноў настройвацца. Ужо, відаць, не проста стомленасць, але і «гук» страчаны трохі,— збіваюся на нейкую вялую, празаічную аўтабіяграфічнасць [1], паўстае нават пытанне: а каму гэта, што я пішу, патрэбна?..

Так, тут, больш чым дзе-небудзь у мяне, аўтара не выручаць падзеі,— трэба псіхалагічная насычанасць і думкі, якія зноў не ідуць у галаву.

---

[1] Маецца на ўвазе раздзел «Нам трэба воля!» («Птушкі і гнёзды»).

* * *

Не памятаю, у каго чытаў,— здаецца, у Талстога,— што аберагаць сябе, шанаваць сваё здароўе трэба так, як разумны работнік аберагае, шануе прыладу працы. Ну, можа не так ужо аскетычна! А ўсё ж, калі такое шанаванне ды абераганнеператвараецца ў самамэту — смешна і прыкра. Для каго і для чаго так старанненька аберагае сябе N., чалавек бяздарны, самаздаволены мешчанін з халоднай, абыякавай душой? Для таго, каб даўжэй працягнуць?..

* * *

Сеў дачытваць «О тех, кто выстоял» Яругіна [1]. Лічыў і лічу гэта працягам мае працы над раманам.

Мне неабходна, і я хачу напісаць свой раман так, каб ён меў права, каб ён мог сумленна стаяць побач з такою кнігай — вельмі простай, высакароднай па сваёй народнай сціпласці. Каб і такім людзям, як аўтар яе, як яго сябры і ім падобныя, было цікава чытаць.

І яшчэ думаў, запісваў, чытаючы:

Позірк на немца, які *прыйшоў на нашу зямлю*, і позірк на яго ў яго краіне, *у яго дома* — розныя. Там я бачыў і нямецкі народ, тут нашы людзі бачылі толькі захопніка, карніка-фашыста. У Германіі, калі пачалася вайна з СССР, я не бачыў яшчэ таго, *хто там да нас прыйшоў*.

Тут, у Каралішчавічах, з ходу працягваць пісаць я не мог і не магу пакуль што. Трэба новы якасны скачок. І ён, здаецца, пачынаецца, чаму памагла і гутарка з Яругіным, вочная стаўка з сумленнасцю простага, радавога абаронцы радзімы, жыцця ад фашызму.

* * *

Ці сваё, ці чужое, але добра сказаў нядаўна Куляшоў, праслухаўшы верш Караткевіча: «Гэта вельмі асабістае, гэта — здарова!»

---

[1] Яругін Мікалай Паўлавіч (нар. у 1907) — матэматык, удзельнік абароны Ленінграда.

Успомніў гэта, плануючы трэцюю частку. Павінна быць вельмі арыгінальна, вельмі асабіста, каб змагло быць здорава.

* * *

У такім становішчы, на мяжы магчымай вайны, нельга займацца не вечным, не разумным. А з другога боку — нельга не жыць звычайным жыццём.

Зноў і зноў вяртаюся да думкі, што ў маіх запісах,— каб яны загучалі па-сапраўднаму,— не хапае сувязі з жахамі часу, з вялікай мудрасцю жыцця, што робіць нас аптымістамі.

«Так он писал, *темно и вяло...*» [1]

* * *

«Синяя тетрадь» Казакевіча.

Добрая проза, сур'ёзная, урачыста строгая, са стрыманым захапленнем у падтэксце, што месцамі моцна перадаецца мне, чытачу.

* * *

У Івацэвічах я ледзь знайшоў вуліцу, дзе жыве цяпер ціхі і музыкальны па душы Павел Дзенісюк, калісьці, у палоне, прыгожы хлопец, добры таварыш, а цяпер кульгавы, пастарэлы слесар, якога я знайшоў на рабоце. Пагаварылі, а пасля ў мяне быў нейкі сум: каб не адчуў ён хаця штосьці падобнае да таго, што адчуваюць «тонкія» да «тоўстых»?..

У Ганчарах каля Ліды, у незнаёмай прыгожай вёсцы, дзе бушуе бэзавы цвет, знайшоў я Сцёпку Даўлюда, ціхага, па-беларуску, па-даваеннаму трошкі культурнага сябра па лагерных бараках.

Дзіўна неяк, з усмешкай думалася: каб не праца над раманам, дык прайшло б яшчэ многа год без гэтых прыемных сустрэч... Кожнаму, кажуць, сваё, ды з нашага мінулага «свайго» — мая задача — неабходна ўзяць штосьці для ўсіх, для жыцця.

---

[1] «Евгений Онегин», раздзел шосты, страфа XXIII.

* * *

Хутка поўнач. Выйшаў на балкон,— такая духата,— заглядзеўся на міргание бязлікіх агеньчыкаў, заслухаўся ў адвечны і такі нязвычна дзіўны гоман жаб — у цэнтры горада...

Усё бушуе, наліваецца, спяшаецца расці. Ці не таму мне не пішацца? Тры раніцы браўся за раман і — ні з месца.

Ды не пра гэта думаў запісваць, пакуль хадзіў па вуліцы. І ўчора думаў, што варта спытацца ў самога сябе:

Чаму я магу — і даўно ўжо — холадна, спакойна, збоку думаць пра магчымую смерць маіх блізкіх, жыва ўяўляючы гэтую смерць і не ўздрыгваючы ад жаху? Ці гэта я такі вырадак, ці гэта — уласцівасць кожнага мастака? Толькі цяпер вось, пішучы, успомніў Кацюбінскага — смерць дачушкі і бацькавы словы: «Прабач, што і цяпер я не магу не быць мастаком» [1].

* * *

Днямі думаў, што вельмі ж хутка яно прайшло — маё жыццё... ну, мае сорак пяць гадоў. А цяпер вельмі жыва ўспомніў маленства, пашу, тупы, шчаслівы летні сум, гарачыню над абгрызеным куп'ем... Ах, як жа шмат было часу, як ён паволі цягнуўся!..

* * *

У дні вайны, калі я ўвосені сорак чацвёртага года прыходзіў з Міра [2], страшна было глядзець на хаты, страшна было — жывому, здароваму — сустракацца з бабамі, старымі мужчынамі і дзецьмі...

* * *

Світае. Адчыніў акно. Шчабеча птушкамі, свеціць рэдкімі агнямі, гудзе першымі машынамі і перагук-

---

[1] Маецца на ўвазе апавяданне М. Кацюбінскага «Цвіт яблуні». Цытата — толькі па сэнсу.

[2] Я. Брыль працаваў тады ў рэдакцыі Мірскай раённай газеты «Сцяг свабоды».

ваецца, таямніча і зразумела, бяссоннымі галасамі з нястрымным, неасцярожным дзявочым смехам Хабараўск — горад «на тым канцы свету»...

Якой маленькай адгэтуль здаецца наша Беларусь,— са мной, з маім жыццём, з маім пісьменніцкім лёсам, з маім раманам!.. Так думаецца, і тут ёсць свая праўда. Аднак і няпраўда гэта,— малое і вялікае не ў гэтым. Мне толькі трэба так пісаць свой раман, каб ён быў зразумелы, патрэбны і тут, і ўсюды, каб ён заняў сваё месца ў нашым свеце, у нашым часе, каб ён пайшоў па Зямлі і з дому майго, і адгэтуль — з нашага часу, з нашага жыцця.

...Сонца яшчэ не ўзышло. І мне ўспамінаюцца такія раніцы, такія хвіліны ў мінулым. Скажам, у войску, калі я таксама ўсё «уяснял» сам сабе жыццё і сваё ў ім месца. Як я хачу быць патрэбным у гэтым высокім, цудоўным жыцці! І як многа я страціў, яшчэ ўсё трачу і буду траціць сіл і часу напуста! І як яго мала — жыцця, некалькі «быстрацечных» гадоў захаплення, адчаю, натхнёнай працы і паўзучага бруду на стыку дзвюх вечнасцей — да майго нараджэння і пасля маёй смерці... Смерць — нават і слова гэтага пісаць не хочацца...

...Чытаю вершы Смуула («Дружба народов», № 6), звязваю іх міжвольна з яго «Лёдавай кнігай», і добра яны кладуцца на валакіту па свеце, якою і я люблю дыхаць, вось як цяпер. Трэба бываць далёка ад дому. Трэба быць дома ўсюды.

* * *

У каюце манітора, ператворанага ў плывучы дом адпачынку, седзячы з дырэктарам «Амурсталі» за зусім непатрэбнай мне шклянкай віна, позна ноччу, слухаючы яго пацешную рыбацкую ману, гледзячы на яго рыбацкія боты з фанабэрыста закасанымі халявамі, вельмі прыемна было думаць, што гэта, відаць, рыса толькі савецкага чалавека — такая вось прастата. Дырэктар магутнага прадпрыемства, лаўрэат, дэпутат, часты госць у Маскве, на самым версе, у мінулым выдатны работнік на іншых заводах краіны, і вось — такі просты, сціплы чалавек, ад зямлі, ад вады, ад працы.

Трэба, добра быць і самому такім.

Пра другую рысу новага чалавека, што ўжо надзейна ўмацавалася ў нашай рэчаіснасці. Ціхі, сціплы рабацяга Хлебнікаў [1]. Расказвае мне пра нанайцаў. «Вось спадчына праклятага мінулага — усякія хваробы, з якімі так цяжка справіцца...» З болем гаворыць, а потым — цёпла, зусім натуральна: «У меня среди нанайцев есть хорошие друзья». І новую аповесць піша ён пра беларусаў, мужа і жонку Мартыненкаў, фельчара і настаўніцу, якія аддалі жыццё нанайцам, самааддана працуючы ў адной з нанайскіх вёсак усё сваё жыццё.

* * *

Выступалі з Грахоўскім у гаражы, перад шафёрамі будаўнічай аўтакалоны [2]. Чалавек з пяцьдзесят брудных і стомленых пасля работы людзей, перад якімі было спачатку няёмка, з якімі было потым, як ніколі з рабочымі, добра. Цудоўнае, неабходнае як паветра і хлеб, адчуванне абавязку быць праўдзівым, патрэбным. Развіталіся і выйшлі адтуль у радасным настроі, і таму праз нейкія паўгадзіны пасля, у клубе суднарамонтнікаў, я выступаў перад вялікай аўдыторыяй — як у лепшыя мае «аратарскія» часы, цікава і патрэбна.

У гасцініцы, да позняй ночы, сабраўшыся ўсёй нашай групай у адзін пакой, гутарылі-спрачаліся пра пустыя галовы, нячыстыя сэрцы і брудныя рукі ў нашым літаратурным асяроддзі.

Цяпер баліць ад нядосыпу галава, аднак — добра. Едзем да рыбакоў.

* * *

Гаворачы з N. пра тое, што трэба будзе многім, з кім сустракаліся, паслаць свае кнігі, напісаць пісьмы, падумаў:

Дапаможам наладжваць па ўсёй краіне цыркуляцыю добрых пачуццяў. Як цыркуляцыю здаровай, маладой крыві.

---

[1] Хлебнікаў Генадзій Мікалаевіч (нар. у 1915) — першабудаўнік Камсамольска-на-Амуры, журналіст і празаік.

[2] Запісана ў Мікалаеўску-на-Амуры.

* * *

У краязнаўчым музеі [1], дзе адчуваецца дух і культ Арсеньева, запісаў выдатныя словы, заўважаныя пад партрэтам гэтага, відаць, цудоўнага і так ганебна для мяне невядомага пісьменніка і чалавека:

«Обследуйте родную землю... Вы наполните свою душу большим чувством любви к родине, волей к действию, вниманием к человеку, вы созреете для того, чтобы служить своему краю...»

* * *

У лагеры над Бірой піянеры падаравалі нам за выступленне па кнізе. Мне прыйшлася проза Пушкіна.

Зачапіўся за «Арапа Пятра Вялікага» ды так і не адстаў,— зноў выпіў яго як свежае. «Проза патрабуе думак» — як гэта здорава перш за ўсё ў яго самога!

* * *

Цудоўны стэп — зялёнае мора пад спякотным небам, Маньчжурыя за магутнай ракой, а ў смузе далягляду — і нашага, і кітайскага — сопкі.

У сціплай з надворку мазанцы мілая палтаўчанка Галя з трэцім сыночкам на руках карміла нас выдатнай юшкай з амураў, а здаравенны старшыня калгаса грымеў пасля чаркі на сонечным ганку:

— А мне, хлопцы, не падабаецца такая ваша язда. Дзень, два пабылі б, а так — што ж гэта за работа?!

* * *

У Арцёме, калі мы глядзелі фабрыку піяніна, падумаў, ідучы па двары, пра аднаго юнца з барадой: «І тут піжоны...» А потым хлопцы, што заставаліся на двары, сказалі мне, што юнак гэты, «каб не забыцца роднай мовы», прывёз сюды з Полацка... мой двухтомнік.

Толькі харч для самалюбства ці, калі трымаць сябе за морду, чагосьці больш у гэтай маёй радасці?

---

[1] Запісана ва Уладзівастоку.

* * *

Раздроблены на ўсё новыя ды новыя дзесяткі і адзінкі канкрэтна пазнаваемых людзей, рускі народ вырастае ў маіх вачах сам сабою,— жыва, у цэлым — вялікі. Далейшае сведчанне таго майго ўяўлення, якое мне змалку пачала даваць вялікая руская літаратура, перш за ўсё Талстой з яго верай у гэты вялікі народ.

* * *

Ненаежная прага на новае? Проста зусім маладая, блазенская радасць, з якой пішу пасля даты назву новага «пупа зямлі» — Омск?

Што ж, гэта — добра!

Прачнуўся ў вялізным, чыстым нумары гасцініцы, дзе мы, нарэшце, выспаліся пасля ўсіх непаладак учарашняга дваццацігадзіннага лётнага дня, успомніў маю паездку 1937 года ў Скідэль і Беласток,— запіс у блакноце, яшчэ на Наваградскім вузкакалейным вакзальчыку, за сорак кіламетраў ад дому: «Як я люблю цябе, падарожжа!..» Думаў нават тады, што гэтая фраза — пачатак новага твора (колькі было іх, розных пачаткаў!), але ж глыбокі ды хвалюючы змест яе так і застаўся ў падтэксце. А хваляванне пераклікаецца з сённяшнім, сігналячы, што мы душой не вельмі ўжо і пастарэлі.

За акном прыгожая ранняя цішыня, ледзь-ледзь прыкметна, як для радаснай размінкі, паварушваецца ў сонцы лісце на кронах дрэў, па-летняму сыта чырыкаюць вераб'і. А далей — навокал — той зялёны, засеяны і ў вялікую клетку разрысаваны ляснымі паласамі прастор, якім я ўчора любаваўся з самалёта,— прастор дагэтуль загадкавай для мяне, неабдымнай Сібіры... Пакуль стаялі ў аэрапорце, я, гуляючы па патрэсканым ад сонца чарназёме, лежачы ў сухой траве, глядзеў з цікавасцю на вялікі горад на даляглядзе,— з дымнымі комінамі заводаў, з тэлевізійнай вышкай, з залітай сонцам белай градою дамоў. І цяпер ён, Омск, яшчэ ўсё загадкавы, бо ўчора мы, пасля дарогі, а перад гэтым пасля «начлегу» на скверы хабараўскага аэрапорта, прагна кінуліся тут на чысценькую па-

сцель. Загадка — паэтычная, з радасным зместам: які ты вялікі, наш родны свет!

І адчуванне... нават няёмкасці,— як шмат усё-такі ў мяне незаслужанай радасці, як брыдка валачыцца без работы!..

У гэтай сувязі мой раман здаваўся ўчора амаль што непатрэбным, у лепшым выпадку дзіўным, незразумелым па сваёй канцэпцыі. Што, любавацца тым, як я ўрастаў у савецкае жыццё, у патрыятызм,— у той час, калі гэтым жыла такая вялізная зямля, калі героямі былі жанчыны і нават дзеці? Любавацца тым, што апісваеш, толькі таму, што гэта — тваё жыццё? Шырэй, глыбей, ясней — вось што неабходна, вось што павінна нарадзіцца ў новых творчых і проста так, чалавечых пакутах. І не даводзіць да такой банальнасці, што вось ён, мой Алесь Руневіч, паблытаўся трохі ў «талстоўстве» і стаў, як усе, савецкім чалавекам. Спалучыць тое «вельмі асабістае», непаўторнае, што даецца кожнаму, што дадзена было і мне, спалучыць і тым, што застаецца і застанецца для людзей — усюды ў нашай краіне і ўсюды на свеце, дзе хочуць жыць, дзе адчуваюць і думаюць па-чалавечы. І захаваць сваё, і ўпісаць гэта сваё ў агульнае наша, народнае. І выхад тут толькі адзін — пішы, цэлься ў мішэнь, паглядзім пасля, ці пацэліў.

* * *

«Век жыві — век вучыся...» Вось жа не бачыў дагэтуль такога горада [1] на зялёнай градзе высокіх узгоркаў, над шырокай Прыпяццю. Не быў і ў Юравічах, дзе з высокага замчышча — арліны агляд на зялёназалацістыя надрэчныя далі, на вялікае сяло з драўлянымі домікамі...

Ад Калінкавіч дарога сюды пясчаная, цяжкая і сумная, у нізкарослым лесе,— ажно думалася, ці не вярнуцца. А потым — такі падарунак. І новыя людзі: дырэктар школы і загадчык школьнага музея, энтузіяст, адзін з тых «маленькіх», на якіх выязджае прагрэс.

Добра пісаць добрыя кнігі! «Людзей на балоце» тут

---

[1] Запісана ў Мазыры.

ужо ведаюць. І мы ў дарозе разважалі пра герояў рамана як пра рэальных людзей, якія тут жылі, бывалі ў Юравічах на кірмашы, жалі такое вось жыта і сумавалі (не ў «Волзе») на гэтай дарозе...

Мне неабходна больш ведаць Беларусь — нашу, маю цудоўную стартавую пляцоўку. Апроч новых падарожжаў, якія будуць — як гэта радасна! — вабіць мяне і далей, трэба мне больш чытаць, вучыцца.

* * *

Валодзя Калеснік, гартаючы маю новую кнігу, гаварыў між іншым і пра тое, што я ў творчасці трохі сентыментальны.

— І захмялелы, і ў натхненні чалавек заўсёды трохі сентыментальны,— бараніўся я.

Успомніў гэта цяпер, слухаючы першыя паведамленні пра касманаўта-4, бытавыя падрабязнасці. Слёзы просяцца, і хочацца... захацелася на момант гнаць іх прэч. Заўсёды, як праяўленне слабасці.

А захапленне?

* * *

Бачыцца ўжо і канец майго «другога выраю» — два апошнія раздзелы рамана, якія сёння спланаваў. Цяпер толькі свежых сіл, свежага запалу для новай атакі. Абы чарнавік, а там — усё маё, нікуды не дзенецца.

Ездзяць на качак, на глушца, а я паеду, мусіць, да Мішы — *на чарнавік.*

## *1963*

«Миг вожделенный настал...» [1] Толькі што закончыў пераглядаць, правіць белавік маіх «Птушак і гнёздаў», падрыхтаваны да перадруку.

Дзве папкі — многа гэта ці мала? Здаецца часамі, што вельмі многа і добра, глыбока і шчыра, а потым — думкі, што павярхоўна, што нельга так: усе свае пер-

---

[1] А. С. Пушкін. «Труд».

шыя дваццаць пяць год заключыць у дзве аповесці з пралогам і эпіложыкам, што нельга наогул за год напісаць добрую кнігу!..

Выпрабоўваю сябе стрыманасцю: друкаваць буду ў канцы года. А пакуль што адчыняю дзверы ў сваю таямніцу спачатку сябрам, падстаўлю галаву пад цёплую і пад халодную ваду іх крытыкі.

Сваю паспешлівасць у напісанні апраўдваю толькі тым, што з гэтых блізу дваццаці аркушаў добрая чвэртка была даўно напісана, што ўсё было за дваццаць год належна вынашана, прадумана і напоена ўласнай крывёю. Я добра-такі папрацаваў, я перад гэтым здорава згаладаўся па сапраўднай працы, па шчырасці, па вялікаму творчаму шчасцю. Яно ў мяне было,— былі цудоўныя раннія раніцы, дні ў Маласельцах, тут, у Каралішчавічах, былі хваляванні, не да адчаю толькі, былі напружанасць, гарэнне, песня!..

Усё пакуль ідзе па плану. Ажно боязна часамі: ці не зашмат яго, шчасця?..

* * *

У мяне многа цікавых запісаў. І вось я часта думаю цяпер пра іх: ці вас адразу аддаць чытачу, ці яшчэ ўсё захоўваць, як матэрыял? Прыклад і поспех адных, што апублікавалі такое (хоць бы «Былицы» Сакалова-Мікітова), спакушае мяне. Узрост мой — кажа пачакаць. Прыклад другіх, што дачакаліся старасці, права на публікацыю запісаў, пачалі рыхтаваць іх да друку і... не закончылі,— палохае.

* * *

Кампанія антыабстракцыянізму — у нашым правінцыяльным варыянце — прыгнятае сваёй павярхоўнасцю, грубасцю, парадfestival шуміхай, дробненькім рэваншызмам... Старэйшым таварышам варта было б памятаць, што ўзрост абавязвае іх быць разумнейшымі за маладых — у іхніх памылках, а некаторым літаратурным кіраўнікам не варта было б залішне браць на сябе там, дзе яны разбіраюцца не надта...

Вытрываць, захаваць чалавечую годнасць, думаць пра тое, што не праходзіць, а застаецца! Гэта — не

проста мой лозунг часу, а тое, чаго я трымаюся, памятаючы пра галоўнае.

* * *

З раманам цуду не адбылося. Многа горкіх заўваг, многа думаю сам. Трэба грунтоўна дапрацоўваць. А тут яшчэ небывалы ці даўно незнаёмы страх, што рухнуць мае марныя фінансы... Былі б грошы, як іх няма, як іх вельмі мала, не чапаў бы я свайго рамана да самай восені.

* * *

Вясной 1946 года я напісаў «Казачка». Ленінградцы не пусцілі яго ў зборнік беларускіх апавяданняў — «з-за прамога перайманне Бабеля»... Так я пачуў гэтае імя, здаецца, упершыню.

Цяпер N., прачытаўшы «Птушкі і гнёзды», хвалячы, піша: «...Там уважліва прачытаны Дзю Гар, Пруст, усё, што падрыхтавала тэорыю «патоку жыцця», Экзюперы і іншае». Да «іншых» ніжэй падвёрстваецца Жуль Рамэн з «Людзьмі добрай волі»...

Толькі што, пасля некалькіх дзён вясёлага недаўмення і прыкрасці (тонка ён ядавіты, чорт, ці што?) палез, я ў энцыклапедыю, каб прачытаць *пра тых*, каго я як быццам уважліва прачытаў. (Выключэнне для Экзюперы, якога я сапраўды і з прыемнасцю чытаў у канцы работы над сваёй кнігай.)

Што гэта ў N.— проста тое, што ў адносінах да яго называецца эрудыцыяй, ці проста кніжнасць, якая настройвае яго на падазрэнні?..

Стаміўся. А трэба канчаць. І, як ніколі, баюся, што буду залішне прыслухоўвацца да заўваг і — напсую.

Рад быў сустрэць у Паўстоўскага: «Повествование должно быть совершенно свободным, дерзким... единственный закон для него — это воля автора».

* * *

Міжвольна думаю тут, у вёсцы, пра свой раман. Цяпер — ад паху бульбянішча. Уцёкі. Пах бульбы — не проста пах, а пах жыцця. Такая *даацэнка* вартасці

адбывалася на грані жыцця і смерці, калі ён, Руневіч, быў адарваны ад роднага, у няволі, мог кожны дзень загінуць.

* * *

Чытаючы ўспаміны адмірала Ісакава пра апошнія дні Я. Пятрова, падумаў:

Вось у адмірала гэта — не прафесія, а напісаў ён так, што зайздросна. Нават здаюся сам сабе вартым жалю з усім маім толькі пісьменніцтвам.

* * *

Хадзіў уранні па сонечным лесе і ўпарта, напружана думаў, што ж мне рабіць з раздзелам пра маленства. Успамінаўся N., у якога «рука не паднімаецца» скарачаць самога сябе, Гогаль — сцэна з «Рэвізора», «замедляющая действие», цудоўны раздзел, выкінуты Львом Мікалаевічам з «Хаджы-Мурата» па той жа прычыне...

І вось толькі што справіўся — падкараціў на трацяк. І шкада было, і прыемна.

Многа і добра, здаецца, правіў «дробязі» пасля палымянцаў. Абараняцца — трэба, але і прыслухоўвацца, прадумваць кожную заўвагу — таксама.

* * *

У Граніна сустрэў. Падумалася, што пра мой раман:

«У него все достоверно, ему нечего выдумывать. *Это не автобиография, а биография одной души»*.

* * *

«Чалавек — гэта гучыць горда».

У Маякоўскага: «Единица — вздор, единица — ноль...»

А сам ён? Чаму закончыў *як адзінка*?..

* * *

Днямі прачытаў дзве добрыя кнігі, Стоўна пра Лондана і Райт-Кавалёвай пра Бёрнса. Чытаў не проста з захапленнем, але і адчуваючы нейкае сваяцтва душ, некаторае падабенства лёсаў. Добра, што сціпласцю не трэба было ўзбройвацца — сам натуральна адчуваў дыстанцыю. Ды справа, можа, і не ў гэтым. Успамінаецца старое: «у бога няма вялікага і малога, а толькі простае і крывое».

* * *

Між іншым, прачытаў з вялікім намаганнем волі «Працэс» і «Замак» Кафкі, прынёс «Дзённік», палез у яго і — не змог. Чаму я павінен перамагаць нуду, прабівацца ў яго «глыбіні», каб там не знайсці патрэбнага? Змагаючыся з гэтай сваёй «нясціпласцю», беручы сябе па сталай і даўняй прывычцы ў рукі, учора ўвесь дзень пераглядаў «Дзённік» і, праўду кажучы, так нічога і не знайшоў. Навошта мне ягоны песімізм?.. Хоць у «Працэсе» і ў «Замку» штосьці ўсё-такі бачыцца, штосьці ёсць.

Палякі, дзякуючы якім знаёмлюся з гэтым, так там, на Захадзе, высока ўзнятым «амаль Дастаеўскім», самі не любяць чытаць тое, што не любяць чытаць, а мне чамусьці трэба прымушаць сябе...

## *1964*

Можна быць толькі моцным — інакш будзе вельмі балюча. Можа бывае і горш у такіх сітуацыях, але ж і мне баліць.

Толькі не разгубіцца, не замітусіцца: «А яшчэ як, яшчэ як паправіць?..» Хопіць, што я ўжо калісьці направіўся («Быстранка», «Расчараванне»). Калі б зусім дрэнна было — усе сказалі б гэта. А так жа колькі харошых хлопцаў гаворыць інакш.

Цярпі казак,— калі і не будзеш атаманам, дык застанешся казаком.

* * *

Зноў гайданка. З аднаго боку — зусім нечаканае пісьмо ад Быкава, артыкул Калесніка, пісьмо ад N., эсэ Вылчава [1]... З другога боку — у «ЛіМе» з вылчаўскага эсэ шмат выкрэсліваецца пра мяне... Проста нечае самадзейнае хамства?..

Застыць і слухаць, чакаць — і цяжка, і непатрэбна. А што, калі і наогул зарэжуць маіх «Птушак» — не толькі тут, але і ў Маскве? А што, калі гэтае рэзанне расцягнецца на цэлы год? Здохнуць можна, чакаючы... Так думаў сёння, прачнуўшыся.

Сеў пісаць пра Шаўчэнку. Ды вось пачаў з «малітвы».

* * *

Прыемна было, што з пяці чалавек, якія прачыталі ў рэдакцыі «Рамонкавы россып» [2], чатыром мае запісы спадабаліся. (Зрэшты, і пятаму «таксама».) А я думаў, што перш за ўсё лячуся ад тугі, прыводзячы іх у парадак, што проста збіраюся ўзяць за іх сумленны кавалак хлеба. А гэта, аказваецца, добра, патрэбна!

* * *

Здаецца, пачынаю яшчэ раз, зноў па-новаму разумець, што такое пакуты слова. Злосць на самога сябе, што «не выйшла», цяжка бывае аддзяліць ад злосці на ворагаў тваёй шчырасці, тваёй думкі. А трэба засяродзіцца на адным — на творы, які патрэбна зрабіць лепшым.

* * *

Чытаю дзённік Прышвіна. Думаў радасна, прыйшоўшы з праходкі па першым марозіку са сняжком, што і чытаць — вялікае шчасце, што гэтага шчасця было ў маім жыцці многа! Гэта і работа жыцця. Бо для чаго ж тады і пішуць людзі добрыя, калі не для

[1] Вылчаў Георгій (нар. у 1926) — балгарскі літаратуразнаўца.

[2] Гаворка пра рукапіс лірычных запісаў, што ўпершыню з'явіліся ў «Маладосці», № 6, 1964.

таго, каб іншыя чыталі? І для чаго мы чытаем, апроч асалоды? Каб самім пісаць добра — для шчасця іншых.

Няясна, мусіць, гавару. А думалася вельмі ясна і прыемна.

* * *

Для майго таленту — лірычнага — патрэбна была б, відаць, і біяграфія адпаведная: белы саван праведніка, а не палаплены рызман чалавека з памылкамі?..

На іронію збіўся. А думаю ж пра гэта даволі часта. І тады бывае не да смеху.

* * *

Аддаў Прышвіна, не запісаўшы... не выпісаўшы з яго адной думкі. Запісваю яе па памяці, бо часта да гэтай думкі вяртаюся. Здаецца, так:

Думаючы пра самога сябе, чалавек (ці пісьменнік, чалавек таленавіты) перабольшвае як свае станоўчыя якасці, так і недахопы, бывае несправядлівы і ў адзін, і ў другі бок.

## *1965*

Чытаю. Апавяданні Марыі Дамброўскай «Людзі адтуль» — як сапраўднае. Запісы Даўжэнкі — таксама з хваляваннем. «Солдатами не рождаются» Сіманава — без хвалявання.

Думаў, чытаючы апошняга, пра свой раман, супастаўляючы яго з нянавісцю да немцаў, да фашызму, заключанай у сіманаўскай рэчы, багатай па матэрыялу. Успомніў тых, што паўсталі на мяне... А потым і тых, што за яго, за мой раман — франтавікоў, партызан, палонных. Нянавісць да фашызму яны ведалі не менш, а больш за крыкуноў.

Ды што я — апраўдваю адрэзаную лусту? Сёння ўжо, відаць, пісаў бы інакш, але ж пісаў яго ў тым настроі, які дай божа каб прыйшоў?

А за акном — цудоўная зіма, якая мне не памагае. Што ж, будзем чытаць.

* * *

Перапісваю з блакнота запісанае ў розны час, бо гэта не проста цытаты, але і сведчанні майго настрою, перажыванняў за мінулую восень і... ужо мінулую зіму.

Тувім: «Крытык — як аўтамабіль: чым горшы, тым больш наробіць шоламу».

Экзюперы (вярнуўшыся з палёту): «Цяпер я сустракаў на вуліцах дворнікаў, якія падмяталі сваю частку зямнога шара».

Прышвін (з «Дзённіка апошніх гадоў»): «Аўтар піша, як адзіны, і пра тое, чаго для ўсіх не было, а крытык судзіць яго з пункту гледжання таго, што бывае ва ўсіх, і тады, калі яму падабаецца, кажа: «Так бывае!» А калі не падабаецца, кажа: «Так не бывае!..»

* * *

А можа не варта мне крамсаць на фрагменты свой «Польскі дзённік»? Даць яму лепш прадмову,— пра наіўнасць ужо немаладога тады чалавека, які, нарэшце, вырваўся ў даўно знаёмы свет з культаўскай загарадзі і падбрыкнуў сям-там, як застоены конь? І друкаваць, трохі, вядома, падкараціўшы.

* * *

Пасля чатырох вялікіх раманаў пацягнула на малыя формы... Не так. Проста ўзяў Гётэ, каб прачытаць, нарэшце, «Фаўста», аднак пачаў з «Изречений в прозе» (том дарэвалюцыйнага выдання) і захапіўся. Нават падумаў цяпер, ці не адкласці «Фаўста», каб прачытаць яго пасля, у добрым, як хлопцы кажуць, перакладзе Сёмухі.

Прыемна думаецца, што мае мініяцюры могуць быць своеасаблівай «кнігай майго жыцця»,— калі яе папаўняць увесь час, адбіраць лепшае, больш значнае.

Успамінаецца Рэнар [1]: «Я сам хацеў бы падрыхтаваць для людзей тыя радкі, што ацалеюць пасля мяне». А падбіраць іх нялёгка і рызыкоўна.

---

[1] Рэнар Жуль (1864—1910) — французскі пісьменнік. Маецца на ўвазе яго «Дневник». Цытата толькі па сэнсу.

* * *

У доме Грына і ў доме Валошына [1], у першым зранку, у другім пад вечар, слухаў дзвюх бабуляў — пра двух цікавых, таленавітых людзей.

За Грынавым акном, калі глядзець з беленькай мазанкі на двор, амаль на ўзроўні падваконня цвіце рамонак. І, гледзячы на сціплы рабочы стол аўтара «Алых ветразяў», успамінаецца, што «ў гэтай кашулі калісьці нядрэнна пісалася»...

Пра Валошына — захоплены расказ яго, таксама звыш васьмідзесяцігадовай жонкі. З цікавасцю аглядаў яго кабінеты, сталы, кнігі, малюнкі, ракавіны, слухаў даўжэзныя вершы і... думкі пра гэтага чалавека асабліва не змяніў. І не вельмі дзіўна мне, што ў 1949 годзе за месяц прабывання тут я так і не сабраўся падняцца на другі паверх дома, у якім жыў. З-за таго прыкрага шуму, які ўздымалі пра Валошына сябры і прыжывалкі, якімі быў перапоўнены дом. Хоць бы такое: «Вунь на абрыве скалы — профіль. Адны кажуць, што Пушкіна, другія — Маркса, аднак мы лічым, што гэта — Валошын». Ні больш, ні менш...

* * *

Прачытаў у «Литературной газете», пад рубрыкай «Художник, воспитай ученика», словы N. пра вельмі далёкага ад яго, зусім арыгінальнага і значна мацнейшага NN., і стала смешна і прыкра... Лепш, каб вучні гаварылі пра сваіх настаўнікаў,— гэта больш верна, чым шукаць сабе вучня, называць ім кагосьці публічна.

* * *

Толькі чытаю. Колькі цудоўных кніг! Купіў пазаўчора «Ни дня без строчки» Алешы і «спраўляю урачыстасць» чытання.

Ён здаецца мне блізкім, як перад гэтым Рэнар, ён гаворыць пра такое прыватнае, нязначнае, толькі сваё,

---

[1] Дом-музей А. Грына — у Старым Крыме, М. Валошына — у Кактэбелі.

а мне цікава, радасна, я адчуваю сябе на вяршыні жыцця.

Як ён піша пра самога сябе: «Я был не воин, не мужчина, трус, мыслитель, добряк, старик, дерьмо...» Колькі тут шчырасці, а колькі позы? Зрэшты, да такой самахарактарыстыкі трэба дайсці і даходзяць праз сталасць і смеласць.

Здаецца, што і я крыху падобны да яго, падобныя рысы ёсць і ў маім характары.

* * *

Выйшлі мініяцюры. Выйшла маскоўская кніга. Мілы дзікун N. казаў аднойчы, што вельмі любіць свае кнігі. Люблю, вядома, і я свае, але ж і не сыты я гэтым, чагосьці ўсё не хапае... І гэта — добра.

* * *

Ёсць у жыцці шчаслівыя моманты азарэння, калі ты бываеш найбольш — з даступнага табе — чысты, разумны, натхнёны, відушчы. Прымаеш нейкае рашэнне і запісваеш яго. Потым, раней ці пазней, рашэнне гэтае трэба выконваць. Перад судом свайго сумлення, пад яго кантролем.

Вось я і выконваю сваё рашэнне з лютага 1962 года — наконт дапрацоўкі цыкла «Ты мой найлепшы друг». І добра мне слухацца самога сябе. У кожным выпадку лепш, чым пагарджаць самім сабою і кіснуць без работы.

* * *

Няўжо я буду старэць няздзейсненым пісьменнікам, які — мне верыцца — быў «задуманы на большае» [1], няўжо будзе і зайздрасць і ...коўскае бурчанне, і падстаўлянне ножкі іншым? Страшна...

---

[1] Словы Аляксандра Даўжэнкі пра самога сябе. (А. Довженко, «Зачарованная Десна. Рассказы. Из записных книжек», «Советский писатель», 1964).



З чэшскім сябрам, пісьменнікам
Вацлавам Жыдліцкім.
*Прага, 1979 г.*



Каля магілы Пятраса Цвіркі
з літоўскімі, рускімі, латышскімі пісьменнікамі і роднымі паэта.
*Вільнюс, 1979 г.*

## 1966

З самага ранку, толькі прачнуўшыся,— зноў пакутліва пра свае новыя задумы. Дакладней — пра форму ад першай асобы... Яшчэ дакладней — пра тое, колькі ж ужо мне смактаць-высмоктваць свой бедны партызанскі вопыт?.. Доўга маўчаць, каб не сказаць пасля нічога новага? Новага па-сапраўднаму — глыбокага і шырокага па думцы, па пачуццях — для ўсіх людзей.

У гэтым сэнсе найбліжэйшая да патрэбнага можа быць дзяўчынка на хутары [1].

Можа наогул усе тры рэчы пісаць не ад першай асобы?

* * *

Уранні пісаў «Памяць» [2]. Сілай, перамагаючы страх стала. Здаецца, мелка і расцягнута... Абы толькі крануўся лёд!

* * *

Чытаючы дзённік Льва Мікалаевіча, раптам успомніў, як браў у «Вясёлцы» паперу і гаварылі мы, Вітка, Грахоўскі, Пальчэўскі і я, пра «злобу» тых дзён — смерць сімпатычнага хлопчыка Ігара Хадановіча. Страшная смерць: два маладыя чалавекі забіваюць трэцяга, шэсць праломаў у маладой, разумнай галаве ціхага, чыстага хлопца і... тупік. Будзем дамагацца смяротнай кары для тых, што забілі, для тых, што могуць забіваць? І гэта вырашыць праблему такога азвярэння, такога ўпадку нораваў?..

Адзін таварыш супакойваў абурэнне абаронцаў Ігаравай памяці: «Не паднімайце панікі. У нас, у Мінску, з гэтым якраз выглядае найлепш. У параўнанні з іншымі гарадамі...» Ці сказаў бы ён гэта маці забітага? А можа, і там знайшоў бы форму?..

Даючы мне паперу, Грахоўскі сказаў: «Бяры, брат, і напішы пра ўсё гэта «Не могу молчать». Я з ходу адказаў: «Хутчэй напішаш «Не магу крычаць»... Усе

---

[1] Задума апавядання «Апоўначы».
[2] Першая назва апавядання «Глядзіце на траву».

міжволі засмяяліся. І сапраўды, мы так навучыліся закрываць поспехамі свае балячкі, што закрычаць пра іх — не закрычыш.

І гэта яшчэ не найгоршае. Найгоршае ў тым, што мы і лічым: няма як, дык і не будзем...

* * *

Леў Мікалаевіч на сваім шостым дзесятку гасціў у сябра юнацтва Урусава і хадзіў з яго маёнтка ў вёску, заходзіў у мужыцкія хаты, гутарыў з сялянамі.

Граф, арыстакрат. А мы? А я? Колькі разоў я, скажам, быў тут, у Каралішчавічах, за пятнаццаць год іх існавання, а ці зайшоў хоць раз у бліжэйшыя вёскі, у хату калгасніка?.. Калі і ходзіць хто, дык толькі ў сельмаг... Учора мы пасля абеду пайшлі па дарозе да рэчкі, і я пачаў гаворку пра гэта. Згаджаюцца амаль усе, калі лічыць і тых, хто маўчыць, што гэта — штосьці сумна, горка характэрнае. Гаворым нават пра тое, што нам няма чаго яму, калгасніку, сказаць, бо нас ён чуе па радыё, бачыць па тэлевізары, з яго нашай праўды хапае і так...

* * *

N., штосьці дзіўна паласкавелы са мною, прапанаваў для кнігі пра Мінск, які ён вельмі любіць, напісаць «штосьці лірычнае пра праспект». Тэма для творчасці!.. Падумаў потым, што трэба было адказаць таксама расчулена, што я — паколькі не эпік, а малафарміст — апішу не ўвесь праспект, а толькі адзін бок квартала, ад рэстарана «Нёман» да вугла, на якім тоўстая, рыжая баба ў белым халаце і летам і зімой прадае марожанае...

* * *

Пашкадуй мяне, скажы мне ласкавае слова, і я зноў буду добры, зноў буду працаваць. Няўжо гэта — незаконнае жаданне, незаконная слабасць?

* * *

Над дзённікам Льва Мікалаевіча, наткнуўшыся на яго думкі пра малалецтва, прыемна адчуў успамін пра

сваю вясковую, даваенную маладосць. Як нечаканым, непрадбачаным ветрыкам, павеяла чыстым, прыгожым.

Араў я ўсю раніцу, з любоўю выводзячы баразны, а цяпер коні хрупаюць над возам канюшыну, а я пад'еў і чытаю, лежачы, падкурчаны ў палукашку. Іменна «Что такое искусство?» чытаю, вучачыся пісаць, рыхтуючы сябе да жыццёвага подзвігу.

Амаль трыццаць гадоў прайшло. Ёсць ужо і дыстанцыя, і права паглядзець на самога сябе, і — чаго ж! — палюбавацца тым, што варта любавання.

* * *

Кажучы словамі Льва Мікалаевіча, «сделал над собой усилие», сеў і закончыў «У белай бездані» [1]...

Цяпер можна і пачытаць. Бо ўчора, чакана і нечакана, узяў па падпісцы дваццаты том Талстога, працяг яго дзённіка. Каб жа ён ведаў, як гэта добра нам, як патрэбна, што ёсць гэты дзённік!..

Прыемная сувязь [illegible] далёкім, вялікім, блізкім — пісьмо ад Булгакава. Як заўсёды — на паштоўцы з відам чаго-небудзь яснапалянскага. І не драбніца гэта, а яго любоў, як ён пісаў калісьці, «да святла маёй душы».

І радасць тая для мяне, што мініяцюры, якія стары чытаў у «Октябре», здаюцца яму месцамі... «блестящими».

* * *

У дзённіку Льва Мікалаевіча запісана (5.IV.07) няздзейсненая задума: пра двух ворагаў, заваленых у шахце. Чытаючы гэта, успомніў апавяданне Быкава «Адна ноч», на якое ўчора чытаў рэцэнзію несмяротнага N. Спецыяліст па Караткевічу, па Быкаву, па нас грэшных. Бачыш, напісана трохі глыбей ды сумленней, шчырэй, чым — на яго думку — належыць. «Пацыфізм!.. Абстрактны гуманізм!..» Кладзезь ідыятызму і татальнай подласці.

* * *

У сваіх успамінах пра Талстога Горкі, тады яшчэ малады, трохі развязна, сям-там зверху пасмейваўся

---

[1] Першая назва апавядання «Апоўначы».

са старога. А сам, стаўшы старым, быў часамі куды больш смешны, варты жалю. Хоць бы тое, што родны горад быў названы яго імем пры яго жыцці...

Пішу — не дакараючы Горкага, не радуючыся, што і ён... Гэта было б і нізка, і несправядліва. Пішу, бо відно, як гэта нялёгка — было і застаецца — змагацца за сапраўднага *сябе.*

* * *

I зноў, і яшчэ раз зноў думаю, што трэба выганяць з маіх твораў рыторыку і сентыментальнасць. Няхай будзе найбольш строгай дакладнасці, без клічнікаў ды шматкроп'я.

* * *

Калі дапоўню і падчышчу ад слабога і лішняга свае мініяцюры, можа, найлепш назваць усё гэта «Лірычнымі нататкамі» — без усякіх «рамонкаў» ды «промняў»?

* * *

Такі высокакультурны, з такой душою — Ралан падае нам жыццё ва ўсёй яго непрыкрашанай прыгажосці — з голымі задамі малых, з каровіным г...— і мне добра. А нас усё прывучаюць да гладкапісу.

...«Прыгожае ўсё навокал — здаецца, з'еў бы яго!» Адчуванне гэтае даўно знаёмае і мне. Яно не толькі маё — вось сустракаю яго і ў Ралана.

* * *

Кончыў «Кала Бруньёна».

Не памятаю ўжо, колькі разоў я чытаў яго — раз ці два...

У снежні 1944 года, калі мяне пасля месячнага пражывання ў гасцініцы выставілі з чамаданам на вуліцу, а з Саюза пісьменнікаў накіравалі ў часова пусты пакойчык на Падлеснай. Пустая была ўся халодная кватэра. Галодны, я не стаў яшчэ і мерзнуць — наламаў на пустым двары штакет (зверху, да жэрдкі, якраз

як палена дроў), грубка мая загула, а я сеў на падлозе (мэблі ніякай не было) і пачаў чытаць у святле і цяпле ад вясёлага полымя «Кала Бруньёна», пазычанага ў кагосьці з сяброў па рэдакцыі.

Перапыняўся толькі, каб зняць кашулю і пашаламіць вошай, што заварушыліся на мне пасля зацішша днём, у холадзе ды ў руху. І франтавыя, і партызанскія, якімі так багата была перапоўненая гасцініца.

Колькі я насмяяўся ў тую ноч! І як дарэчы быў ён, гэты смех!..

Калі ж за дваццаць два гады я чытаў гэтую кнігу двойчы, дык другі раз, відаць, улетку 1957 года, калі я, амаль нічога не робячы пасля хваробы, жыў Раланам, вынырнуўшы з яго цудоўнага свету толькі пасля дзевятага тома.

А мо і не чытаў, не перачытваў тады Бруньёна? Справа не ў гэтым. А ў тым, што цяпер я зноў чытаў яго як штосьці новае, а ў душы была даўняя музыка, музыка гэтага твора. І верыцца, што я яшчэ буду калісьці чытаць яго — зноў як новае, нібы забыўшы многае, аднак выдатна памятаючы галоўнае — яго высокі, несмяротны «гук», яго чароўную, жыццярадасную музыку чалавечнасці.

(Толькі раздзел «Мяцеж» здаўся слабаватым. Рэдкім, без мядовай густаты Раланавай мудрасці, весялосці — народных і агульналюдскіх.)

* * *

Перапісваючы з чарнавіка, праўлю працяг фразы — спачатку ў думках. А тады гляджу — яна была іменна так і напісана. Неяк дзіўна прыемна, што і раней я не намнога быў дурнейшы.

* * *

З асалодай чытаю ў «Вопросах литературы» пісьмы Пастарнака і думаю:

Дакуль жа мы будзем не ведаць, што побач з намі *жылі* такія харошыя людзі! Іменна *жылі*, бо пакуль яны *жывуць*, толькі нямногім дадзена заглянуць у іх сапраўдную сутнасць.

З пісьма Тыцыяну Табідзе (1936):

«Не обращайтесь к общественной благотворительности, друг мой, надейтесь только на себя. Забирайте глубже земляным буравом без страха и пощады, но в себе, в себе. И если Вы там не найдете народа, земли и неба, то бросьте поиски, тогда негде и искать».

* * *

Вартасць маіх мініяцюр вельмі ў многім залежыць ад іх незаданасці, шчырасці, сціпласці і прастаты. Я мала думаў пра тое, што сам калісьці дам іх на суд чытачу, рашэнне гэтае прыйшло пасля. Я буду дапаўняць, дасканаліць гэтую кнігу. І мне *трэба баяцца*, што можна і напсаваць, запісваючы для гэтай кнігі, з *думкай пра яе*.

* * *

Нашы нацыянальныя скарбы ў лагойскіх палацах Тышкевічаў, у радзівілаўскім Нясвіжы — усё прапала. Не толькі там. І не аднойчы... Бог мой, пакуль другія народы збіралі — у нас усё рабавалася ці знішчалася. Упарта, настойліва, увесь час. «Дзе б з долі чалавечай пасмяяліся, як тут!..»

Што за дзіч у чалавеку — знішчаць набыткі другога народа, яго гісторыю? Не забраў, дык знішчу. Немцы... Не толькі, зрэшты, яны. Чытаў недзе, што многа нашай гісторыі (дакументы, каштоўнасці) асела... у Швецыі. І не дзіўна, калі ўспомніць іх «візіты» і здраду аднаго з Радзівілаў.

* * *

Ці гэта «сэрца закрамянела»?.. Ці гэта кашчунства, што я пішу, магу пісаць цяпер?..

Ноч. Ён [1] ляжыць за перагародкай, як хворы Някрасаў, пад белай прасцінай, на вялікай падушцы, яшчэ не адзеты, бо заўтра будуць ускрываць... Ужо адсутны, ужо *не тут*, хоць на твары яго — высокая значнасць і нібы нават усмешка мудрасці...

Я ужо — уранні — плакаў. Я яшчэ буду плакаць. А цяпер не плачу.

---

[1] Брат пісьменніка Міхаіл памёр 9.III.1966 г.

Што засталося пасля яго? Няхай ён не стаў мастаком, хоць бы такім, як я пісьменнікам, аднак пакінуў пасля сябе нямала. І ва мне было і засталося многа ад яго, і я павінен гэта аддаць, панесці далей.

Віну маю перад ім,— што так доўга не бачыліся, што не пісаў яму, што разышліся мы апошнім часам дзіўна,— я панясу таксама. У яго ўжо няма яе, хоць палавіны, братняй віны, бо ён ужо да маленства раздзеты з усяго зямнога, вызвалены ад усіх він і грахоў. А я яшчэ жыву, іду, пайду і — панясу яшчэ адну віну.

Новага друга такога я ўжо мець не буду.

А жыццё — гэта не тое, як мы *рыхтуемся жыць*, спадзяемся, плануем, а як мы *жывем*. Рыхтаваўся, рыхтаваўся, а з гэтага рыхтавання яно і атрымалася — тваё жыццё.

* * *

Як звычайная справа — хтосьці некуды ідзе, штосьці рабіць, ідзе па нейкай справе... Так вялі на расстрэл чатырох байцоў і старую сялянку-маці. У Стоўбцах, увосень сорак першага.

Як перадаць гэтае сціхоцце?..[1]

* * *

Галодны стэп, саўгас «Пахта-арал». Седзячы ў прэзідыуме [2].

Дзяўчынка, што павязала мне піянерскі гальштук, якой я даў значок і якую пацалаваў у акуратна прычасаную галоўку, усміхаецца мне з першага рада. Стараецца не захіхікаць. Смяшлівая. І зноў, і зноў. Усмешка ў нядаўняй пустыні. Паміж намі ўжо моцны кантакт.

Здаровы да няёмкасці прасцяк, старшыня суседняга калгаса, расказвае з трыбуны, як ён вызваляў Беларусь. «Только развалин и плачущих детей. Но все это, понимаешь, позади...»

Моцныя рукі апладзіруюць мазалямі.

---

[1] Яшчэ раз — да тэмы апавядання «Маці», напісанага ў 1957 г.

[2] У дні Дэкады беларускай літаратуры і мастацтва ва Узбекістане.

* * *

На світанні прачнуліся ад землятрусу[1]. Без асаблівай панікі выйшлі з Валодзем у паніку на дварэ.

Пішу, можа, не таму, што пераджыў такое ўпершыню, а каб запомніць сваю — не ведаю, ці мудрую, ці проста ўжо старэчую ад стомы, ад дэкаднай нуды і фальшу — абыякавасць да таго, што магло здарыцца.

Дахаты трэба, да працы.

Яркая зорка на ранішнім небе, у прасвеце паміж алеі высокіх дрэў.

Няўжо так ён выглядае — смутак па блізкіх? У самы разгар панікі я ўспомніў міжволі пра Мішу, якому цяпер — усё роўна.

* * *

Чытаў «Камароўскую хроніку».

У асобе Гарэцкага страчаны добры, таленавіты і вельмі беларускі пісьменнік.

Недарма я адчуваў і адчуваю да яго сімпатыю даўно, спачатку — проста інтуітыўна.

* * *

Адзінаццацікласніца Крыстына, з якой я, даведаўшыся ад настаўніцы, што дзяўчына — полька, з прыемнасцю пагаварыў па-польску. Перад гэтым яна дала мне «персанальны» букет, дзве півоні ў цэлафане, прынесеныя з дому, папрасіла падпісаць ёй кнігу, а трошкі пазней, калі мы здымаліся са старшакласнікамі, здавалася ўжо нібы нават роднай.

Многа, аднак, ва мне і ў мяне польскага, і гэта ўжо назаўсёды, і нікуды я ад яго не дзенуся ў сваёй творчасці, і нікуды мне — гэта ясна і нават радасна — не трэба дзявацца[2].

* * *

На ўсіх паваротах школьнай лесвіцы, пакуль мы спускаліся ў спартыўную залу, стаялі ў ганаровай вар-

---

[1] Запісана ў Ташкенце.
[2] Гэты і наступны запісы зроблены ў Шчучыне.

це хлопчыкі-піянеры і салютавалі нам. Гэтага яшчэ не бывала на ніводнай школьнай сустрэчы. Тое, што было мноства дзяцей, многа кветак, узнёсласць прывітальных прамоў, хваляванне, з якім нас віталі нават настаўнікі,— знаёма. І яшчэ адно, чаго не бывала,— школьны духавы аркестр, які нечакана, калі мы ішлі праз воплескі ў прэзідыум, рэзнуў нейкі парадны марш, занесены сюды з палёў далёкіх, даўніх перамог.

Потым паездка на Нёман, за васемнаццаць кіламетраў, багатая юшка ў старых дубах, шырокая гасціннасць, тосты, а калі захмялелі — абдымкі і споведзі на хаду. Новыя людзі, харошыя.

І галоўнае, дзеля чаго запісваю,— вельмі няёмка, што ўсё гэта робіцца з-за цябе, з-за нас (каб я быў тут адзін — было б тое самае). І добра, што ёсць яна, гэтая няёмкасць, дзякуючы якой і жывём, трымаемся на ўзроўні.

* * *

На цвярозых ды культурных хлопцаў, літаратараў, у нашым асяроддзі менш звяртаюць увагі, менш гавораць, што яны таленавітыя. А пойдзе гаворка пра нейкага выпівоху ды лайдака, што вось ён зноў недзе праславіўся, нахуліганіў ды насвінячыў,— адразу выстаўляецца абаронны шчыт — ён, бачыце, таленавіты! Цвярозых талентаў не бывае...

* * *

Чытаю «Язэпа Крушынскага». Пачаў даўно, ад сораму, што не чытаў дагэтуль, потым перапыніўся, а вось чытаю зноў.

Рэдзенькая, мнагаслоўная, месцамі проста наіўная белетрыстыка. Аж не чытаецца. А тут яшчэ наперадзе цэлы другі том...

Трэба было б, нарэшце, і «Салаўя» прачытаць, і «У дрымучых лясах». Пачну, відаць, з апошняга, бо «Салаўя» ўжо разоў некалькі пачынаў і — не пайшло. Прыкрае манернічанне: «Чытачу дазваляецца маляваць вясну па свайму густу...» А пісьменнік навошта?

Хоць і сімпатычны ён мне, гэты дзіўны беларускі яўрэй, амаль з маленства, ад хрэстаматыйнай «Маліт-

вы малога Габрусіка» і «Абразкоў», якія я палюбіў увосень 1932 года, калі «пасля навукі» пайшоў у працу. Нават верш тады напісаў пераймальны, паводле імпрэсіі «Бяссоннасць».

* * *

Дзе б гэта і як бы гэта спыніцца і падумаць пра найвышэйшае ў жыцці — апусціцца да таго пункта апоры, з якога можна зрушыць Зямлю?.. Ну, не зрушыць, вядома, а проста зрабіць сваё, аддаць людзям усё, што магу, што павінен аддаць?..

* * *

Зеляніна цёмная і светлая — спрадвечныя дубы, клёны і ліпы, і залітая ранішнім сонцам трава. Блакітная імгла пранізвае цудоўныя куткі, як быццам для высокай, боскай красы.

Прастадушнае карканне варон, у якім прападае самавіта-гуллівая гаманлівасць шпакоў.

Урачыстая цішыня.

І вечнай красе гэтай аніякай цікавасці да таго, што сёння — 24 ліпеня 1966 года.

Парк зрыты акопамі [1]. Ці яны скацінай былі, вільгельмаўскія салдаты, ці і царскім пляваць было на Міцкевіча з яго Марыляй і з яе «альтанкай»? Здзек з чужое нацыянальнае святыні ці наогул звычайнае варварства вайны?..

І ў іншых месцах, самых святых,— каля Калдычэўскай брацкай магілы,— наша пустая кансервавая бляшанка.

* * *

Учора — лясны, напружаны, радасны дзень [2]. Нарыхтоўвалі драўніну. Чатырнаццаць соснаў спушчаны, абцярэблены, пагружаны на машыну. Голле сцягнута і спалена на дзвюх палянах.

Для хлопцаў гэта — звычайны рабочы дзень, а для

---

[1] Запісана ў Туганавічах на Навагрудчыне.
[2] Запісана ў Маласельцах.

мяне тым часам нейкае свята адпачынку, сузіранне красы прыроды, адчуванне вялікага сэнсу і вялікай прыгажосці працы, далучэння да народнай грубай прастаты, мудрасці, несмяротнасці.

А перад сном — як пасля грыбоў, як пасля сенавання ў раннім юнацтве — уяўляліся бярвенні, што ляцяць на людзей, на мяне...

* * *

Пра сціпласць.

Маладога празаіка просяць выступіць пры ўскладанні вянка на магілу Коласа. «Не магу».— «Як гэта?» — «Працую над раманам. Не хочацца перарываць думку». Гаворыць па тэлефоне, не ад пісьмовага стала, а са службы ў рэдакцыі.

* * *

Выступае піянерскі квартэт хлопчыкаў. Сяджу ў прэзідыуме — трохі збоку і ззаду. Гляджу на іх чысценькія стрыжаныя патыліцы, ружовыя вушы. Адзін з хлопчыкаў яўрэй. Падумалася пра сорак першы год. Сябра забралі ў гета!.. Як адчулі б, успрынялі б гэтую жахлівую дзікасць іншыя хлопчыкі — гэтыя трое?..

* * *

З баладаў Міцкевіча найбольш прыймальнай, найцяплейшай заўсёды была для мяне «Тры Будрысы». Палюбіць гэтую рэч дапамагаў яшчэ і Пушкін са сваім «весела, как котенок у печки». Цяпер вось, ходзячы па пакоі, чытаў «Лілеі» ў добрым Танкавым перакладзе, нават уголас месцамі чытаў, і ўсё ж — не ліпне да мяне ўся гэтая рамантыка так моцна і назаўсёды, як Гогаль з усімі жахамі ды чарамі яго Дзіканькі.

* * *

Учарашняе хараство — сонца і шэрань — дало мне шчаслівую раніцу. Напісаў пра яе [1], а тады, адчуваю-

[1] Мініяцюра «Шэрань». Гэты і два наступных запісы зроблены ў Нясвіжы.

чы патрэбны настрой, пачаў пра маці — «Ты жива еще, моя старушка...» Пісалася так лёгка, шчасліва, як не бывала даўно, ажно не верылася, што гэта — сапраўдная работа. А сёння канчаў недаканчанае. Па інерцыі, туга і цьмяна, проста няўпэўнены, ці тое гэта.

* * *

Учора быў у N., дзе — адзін у пакоі, пакуль гаспадар хадзіў, як потым стала ясна, у магазін,— пераглядаў першае выданне Купалавай «Жалейкі». Дзіўнае, радаснае адчуванне,— як сапраўды вялікі талент прабіўся праз тагачасную, наіўную і кранальную, карасць нашай літаратурнай мовы і — узяў сваё. Пра Марысю і паніча прачытаў з сапраўднай асалодай,— вось дзе народнасць!.. Сёе-тое яшчэ перачытаў, прыпомніў і убачыў неяк па-іншаму. І самога Купалу ўбачыў яшчэ раз па-іншаму. І добра стала на душы, што ён у нас ёсць, што ёсць мы самі — стваральнікі беднай беларускай літаратуры.

* * *

Учора, засынаючы пазней, чым заўсёды тут, успомніў, што трэба запісаць адну думку, дакладней — адно адчуванне. Паленаваўся і падумаў: а потым і забудуся, як забываю ўжо часамі сёе-тое... А цяпер, прачнуўшыся, адразу ўспомніў учарашняе, незапісанае. Вось яно:

Няўжо жыць, паводзіць сябе прыстойна, хоць і не пісаць, а толькі чытаць,— няўжо гэтага так ужо мала для таго, каб лічыць сябе чалавекам, а жыццё сваё нармальным і змястоўным?..

## *1967*

Гарбатая васьмідзесяцігадовая бабулька. Вясёлая і добрая. Расказвае пра сваіх любімых галубоў, якіх потым з'елі суседзі («Даравацъ магу, а забыцца — не»), паказала мне з акна чацвёртага паверха добра знаёмую суку на двары («У яе былі дужэ гарныя цуцэнята»), расказала, як цяжка самой рабіць лункі для паліванння пад вішнямі каля гасцініцы («Напісала дырэкта-

ру бліжэйшай школы, каб піянеры дапамаглі»...). Тая мілая Антаніна Антонаўна[1], што піша мне ўжо дзесяць год пра мае творы — з належным разуменнем і прыязнасцю добрага друга. Многа кніг, на сценах — фота: Талстой, Пірагоў, Дастаеўскі і... мы з Андрэйкам, калі я чытаў яму на канапе казкі. Жыве бабуля самотна, у былой манастырскай гасцініцы, на былой вуліцы Трох свяціцеляў...

Сядзеў я ў яе, і няёмка было, што яна ад беднасці сваё — ну, колькі там можа быць пенсіі! — слала майму малому падарункі. Яшчэ і пакрыўдзілася аднойчы, калі я напісаў, каб не мяшала ў нашы адносіны грошай. Па калецтву відно, што няшмат было шчасця ў яе працавітым жыцці, а яна вось пранесла праз яго сваю захопленую дабрату, сваё святое дзівацтва.

* * *

Чытаю вершы Бранеўскага пра Віслу, дачку, горыч трагічнай страты[2] і... жыва, ярка ўявіў, як тая Вісла плыве — няспынна і вечна, як Зямлю нашу маршчынамі жывога, свежага срэбра густа парэзалі несмяротныя рэкі...

* * *

Народ стварае мастацтва *між іншым*, робячы вялікую справу здабывання працай хлеба. І робіць ён мастацтва лепш за нас, прафесіяналаў.

* * *

Учора чытаў карэктуру рамана і думалася, што добра вось так, нібы святочна, як паміж мэндлямі ў нядзелю, хадзіць вачыма па старонках былых чарнавікоў.

* * *

Часта думаю, што падрабязнасцямі мясцовага значэння не варта злоўжываць,— калі думаць пра тры-

---

[1] А. А. Грыгор'ева — педыятр. Запісана ў Кіеве.

[2] Дачка Уладзіслава Бранеўскага, Анка, кінарэжысёр, трагічна загінула пры загадкавых абставінах.

валасць і інтэрнацыяналізм твайго твора. Але ж і ў гэтай ашчаднасці трэба быць пільным.

* * *

Дзве рэчы хочацца запісаць.

Што ў кожным, з кім я тут[1] сустракаюся, мне хочацца бачыць *чалавека*, з усімі яго асаблівасцямі, слабасцямі, асабістым жыццём, сціпласцю, годнасцю — у цэлым як патэнцыяльнага *чалавека будучыні*.

І другое. Як здорава гэта гучыць: *рыс, пшаніца* — у сусветным, глыбокім значэнні слова, паняцця *хлеб*, які павінен калісьці ляжаць у дастатку на кожным стале.

## *1968*

Канчаў, пачаты ўвечары, «Мой Дагестан» Гамзатава. Рэч трохі залішне балбатлівая і, пад покрывам нейкай залішне «народнай» наіўнасці, прытарна нясціплая.

А потым сеў за Танкавы «Листки календаря», у тым жа нумары «Нового мира», і, перачытваючы іх, прасядзеў увесь ранак. Добра!

* * *

«Я бачыў, чуў штосьці значнае. І вось перадаю гэта вам. Каб жыло». Так трэба гаварыць. А не так вось: «Я не забудуся гэтага ніколі».

Падумаў — амаль раздражнёна — сустрэўшы такое «не забудуся» каторы ўжо раз,— яшчэ і ў Буніна.

* * *

Чытаю Нэру. «Замест таго, каб пісаць?..» Каб пісаць! Бо, убачыўшы гэтую рэч, адчуў, што, не прачытаўшы,— не змагу сваё напісаць як след[2].

Таксама было, калі пісаў і іншыя нарысы: многа чытаў дапаможнага, вучыўся. Дый так гэта не прапа-

---

[1] Запісана ў Індыі.

[2] Маецца на ўвазе «Душа — не падарожніца».

дае. Тым больш — такая добрая інфармацыя пра Індыю, сутыкненне з такім разумным, высакародным чалавекам.

* * *

Чытаю ўкраінскі рукапіс «Птушак і гнёздаў». Ужо ажно прыкра — так добра відно, што пачатак трэба дапрацаваць, каб лепш, лягчэй чыталася. Калі я зраблю гэта? Няўжо тады, калі пачну пісаць другую кнігу? Пачну?.. Пакуль што ясна адно — трэба дапрацоўваць. Заданне самому сабе.

* * *

Неяк мяне папрасілі напісаць канферанс, з якім калгаснаму ансамблю не брыдка будзе паехаць у Балгарыю. А пазаўчора кіраўнік ансамбля прыехаў сюды [1] за васемнаццаць кіламетраў, больш дзвюх гадзін чакаў, не застаўшы нас, пакуль мы з Нінай вернемся з далёкай праходкі, і мы з ім думалі, што ж тут і як напісаць.

Потым я па-сапраўднаму хваляваўся, нават баяўся, што нічога людскага не атрымаецца... А сёння напісаў, вядома.

Што — хвалюся сам сабе сваёй сур'ёзнасцю? Не, проста рад, што так аднашуся і да найменшай, як здаецца, тэмы.

* * *

Зусім выпадкова, гартаючы «Науку и жизнь», прачытаў, як гаўкалі, сустракаючы Чычыкава, каробаччыны сабакі, як адзін з іх, «забросивши вверх голову, выводил так протяжно и с таким старанием, как будто за это получал бог знает какое жалование»... І раптам горка стала, што гэтае «жалование» я прыпісаў чэхаўскай птушцы ў гушчары... Відаць, той івалзе,— калі зазірнуў у «Дом с мезонином»,— што ў старым садзе спявала нехаця, слабым голасам, «відаць, таксама старэнькая».

---

[1] Запісана ў калгасным доме адпачынку «Рэчанька» Дзятлаўскага раёна.

Хоць і падумаў адразу, што Чэхаў так не паўтарыў бы Гогаля, пачаў напружана прыпамінаць, шукаць чагосьці блізкага і, не прыпомніўшы, не знайшоўшы нічога, апроч івалгі,— паправіў у карэктуры чацвёртага тома [1].

Брыдка! Вось што такое верыць памяці...

* * *

Можа, варта напісаць пра адзіноту,— як гэта не толькі не пішуць табе, як паштовая скрынка маўчыць, але ж і не адказваюць на пісьмы, не шлюць абяцаных кніг, а за пасланыя табою дзякуюць толькі пры выпадковай сустрэчы?..

* * *

Усеабдымны і незамянімы. Раскалоць бы яго на чатыры часткі, як у Заходняй калолі ад беднасці запалкі,— хапіла б тады яго на ўсе пасады, на ўсе выступленні.

* * *

Чытаючы «Плотницкие рассказы» Бялова.

Пасляваенны хлопчык пакутаваў, як пакутавалі да яго і разам з ім мільёны, і ніхто не думаў, што потым ён вынырне і раскажа пра ўсе пакуты, узброены талентам і культурай.

У нас гэта здараецца часцей, чым з Лонданам або з Горкім.

* * *

Мама мая была непісьменная, а я яшчэ і сёння часта думаю пра тое, *што і як* яна гаварыла.

* * *

Сустрэўся з N., якому некалькі дзён перад гэтым споўнілася шэсцьдзесят гадоў, павіншаваў яго яшчэ

[1] Папраўка зроблена ў апавяданні «Мой Чэхаў».

раз, пасля званка і пісьма ў папярэдні прыезд [1], пачаў гаварыць пра маё, і не толькі маё, захапленне яго светлай, цёплай, шматфарбнай творчасцю для дзяцей... А ён — у адказ — пачаў ныць, што «ордэна вось не далі»... І стала так прыкра, так... нават крыўдна!.. Да чортавай матары яе, такую «складанасць чалавечай прыроды»!..

## *1969*

Чытаў у «Полымі» артыкул пра пошукі беларускай нафты (пятнаццаць год пошукаў!). І проста цікава, і таму яшчэ прыемна было, што неяк... нібы нават творча адчуў, што людзі, якія так цяжка працавалі, змагаліся з кансерватызмам, шукаючы гэтую самую нафту, так свята верылі, што людзі гэтыя хадзілі і ходзяць побач з табой, не раз, можа, міналіся ў дзвярах магазіна, тоўпіліся ў тралейбусе, мералі адзін аднаго на вуліцы мімалётным позіркам... І ва ўяўленні гэтым, і ў нечым блізкім да адчування віны, што не пішу пра такіх (не пра нафту, а пра людзей), бачыцца мне, адчуваецца набліжэнне даўно чаканага настрою. Каб жа так!

* * *

Ні разу яшчэ, збіраючыся ў далёкую ці блізкую краіну, я не думаў, як буду пісаць пра яе. Цяпер, чытаючы апавяданні Акутагавы, нават яшчэ раней, калі я, не здолеўшы ўжыцца ў дзённік Дастаеўскага, хацеў узяцца за штосьці японскае, міжволі падумалася, як я буду, вярнуўшыся з Японіі, пісаць пра яе.

Мне ўжо давялося сутыкнуцца з адным з двух народаў, калісьці заражаных найбольшай антычалавечнасцю,— я бачыў Германію ў апагеі яе фашысцкіх перамог. Я ўбачу (калі ўбачу) другі такі народ, другую краіну, якая зведала такую заразу, і мне *будзе пра што гаварыць*.

Можа, нават вось гэтая нататка будзе пачаткам майго расказа пра Японію?..

---

[1] Запісана ў Маскве.

* * *

Два найвышэйшыя званні — пісьменнік і чалавек. Адно мне вельмі хочацца набыць, другое — яшчэ больш — не страціць.

* * *

Яшчэ раз забыўся пра ўсё — з-за Тургенева. Учора па тэлевізары давалі «Первую любовь» — заінтрыгавала. Узапар прачытаў, а потым яшчэ і «Асю», а ўранні — «Затишье», бязвольна пачаўшы гэтым свой рабочы дзень. Не перачытаў усё гэта, а прачытаў упершыню, здзіўляючыся часта, як жа гэта я так дажыў дагэтуль, а кніга стаяла за шклом і цярпліва чакала, і дачакалася яшчэ аднаго захаплення.

А мне як быццам і не брыдка, што не чытаў гэтага раней. І не брыдка прызнацца. Гэта, відаць, і добра.

* * *

Прачытаў тут[1] нюрнбергскі дзённік Палявога, «Блакаду» Чакоўскага, урэзаўся ў эпічную масу Залыгіна («Соленая падь»), але пакінуў яе ўчора, падумаўшы: а чаму мне абавязкова трэба гэта чытаць?.. Не тое, што было ■ маленькай ды ўдаленькай аповесцю «Над Иртышом».

Успамінаецца мая (ці ж толькі мая!) думка пра тое, што на тоўсты раман кожнай літаратуры, нават самай вялікай, трэба выдаваць дазвол адзін-два разы на стагоддзе. І другая думка: пісаць расцягнута — першая адзнака адсталасці, несучаснасці. Гэта не атрымліваецца нават у людзей таленавітых, і не варта ім у гэтай гігантаманіі пераймаць пасрэднасцей і графаманаў.

Палявога прачытаў ■ прыемнасцю і карысцю, удзячна прыняўшы талковую інфармацыю.

За Чакоўскага ўзяўся, успомніўшы, што палякі хвалілі яго за «новую трактоўку вобраза Сталіна». Трактоўка ёсць, няма толькі патрэбнай глыбіні, якая адпавядала б значнасці матэрыялу і часу.

Вядомых пісьменнікаў тут вельмі нямнога. Яшчэ і

---

[1] Запісана ў Ялце.

яшчэ раз вучуся мудрасці шанаваць нашага брата не па афіцыйнай гучнасці імя, пазнаваць, знаходзіць у кожным штосьці цікавае, патрэбнае, значнае для справы, якой мы служым, кожны па меры сваіх сіл.

Сумна толькі ад бяздарнасці актыўнай, нахабнай, якую не вельмі, не надоўга збянтэжыш праўдай вострай крытыкі. Была ўжо і тут такая сустрэча. N. запрасіў нас паслухаць яго новыя апавяданні, якіх па сутнасці няма, а я яшчэ здуру папрасіў даць мне яго сатырычную кніжыцу, і чытаў учора, стагнаў і лаяўся, і рады быў, што ён пасля не вельмі распытваў пра ўражанне...

Жорсткасць? Талстой быў у такіх выпадках жорсткі. Права на гэта даюць святыя адносіны да справы, чысціня тваіх рук і пакут.

* * *

Злуюцца тыя, чые творы я назваў з трыбуны[1] слабымі. Коратка? Галаслоўна? Не робячы навуковага аналізу, як гаварыў N.? А што — калі б шырэй абгрунтаваў — яны паверылі б, прызналі б, што я маю рацыю? Проста злавалі б яшчэ больш. Бо справа тут не ў логіцы.

* * *

Чытаю Пушкіна, пісьмы з Кішынёва і Адэсы. Перад гэтым чытаў, перагортваў крытычныя нататкі і іншую «немастацкую» прозу. Успомнілася, што я чытаў гэта... сорак год таму назад! Як многа я не разумеў тады і як шчасліва адчуваў у гэтым сапраўднае, вялікае!..

* * *

Учора ўвечары пачаў і сёння чытаю «Записки из мертвого дома». Якая раскошная проза! Якая глыбокая чалавечнасць!..

---

[1] На пленуме Саюза пісьменнікаў БССР. Тэкст даклада «Жыццё і літаратура» надрукаваны ў чацвёртым томе гэтага Збору твораў.

Цвёрдыя знакі і яці як быццам нават набліжаюць цябе да аўтара, да таго часу.

Пачаўшы чытаць, падумаў, што «Введение» з прыдуманым Аляксандрам Пятровічам, хоць яно і патрэбна было, выглядае сёння як лішняя ўпакоўка, трохі нават прыкрая. Ведаем жа мы, што за тым Пятровічам хаваецца сам аўтар, чалавек і пісьменнік трагічнага, прыгожага лёсу. Сёння зноў думаў пра гэта. Успомніў Рудога Панька, Івана Пятровіча Белкіна. І прыемна падумалася, што і з усёй гэтай умоўнасцю, зусім не лішняй, згаданыя рэчы цудоўна ідуць з намі ўсё жыццё, за імі стаяць іх аўтары, бачныя і любімыя заўсёды найлепшым чынам.

* * *

Званок: «Ты казаў, што нікога не віншаваў з Першамаем, хацеў праверыць, ці любяць цябе. Я не пісала табе, але вось званю і віншую з днём Перамогі. Няхай нашы сыны вайны не ведаюць!..»

Сустрэў на вуліцы маладога, прыгожага, дужага хлопца. І зноў успомніў даўні расказ, як дзве групы такіх юнакоў, нашы і немцы, сустрэліся недзе на полі другой сусветнай вайны і счапіліся — на нажы...

Успомніў пра свайго, што будзе таксама высокі, дужы і прыгожы — не толькі для мяне. Няўжо мы гадуем іх для такой жа страшнай неабходнасці?..

* * *

Мілы, чысценькі, сціплы музей Чорнага ў Цімкавічах. Першыя кнігі, фота і фотакопіі рукапісаў. Усё гэта паглыбляе сімпатыю да пісьменніка, паглыбляе разуменне яго не выяўленай як след, абрабаванай жорсткім часам творчасці.

Мілыя, добрыя людзі — настаўнікі, асабліва іх дырэктарка, намаганнямі якіх створаны гэты музей, за сродкі, сабраныя школьнай самадзейнасцю.

* * *

Прыкра гэта і страшна — ведаць, што і сёння, і заўтра, і паслязаўтра ў цябе свабодныя для працы раніцы, што ты павінен працаваць, а ты — не можаш!..

* * *

Тата ў бальніцы. Мама хадзіла да яго напярэдадні восьмага сакавіка, і ён там павіншаваў яе, падарыў ёй цукеркі. А ўранні восьмага мама застала на сваім століку паштоўку ад сына і пакуначак. У пакунку — бутэлечка парфумы, а на паштоўцы (са шчаслівай парай над морам) віншаванне, напісанае рукою першакласніка і падпісанае ім з памылкай — залатым ключыкам гэтай навелы: *«Твой муш Барыс»*.

Я быў бы рады напісаць такое апавяданне. Колькі ж усмешак успыхнула ад пяці або шасці (не ведаю) мільёнаў старонак газеты, што надрукавала гэты маленькі «жыццёвы факт»!..

* * *

Прачытаў (у рукапісе) «Сястру» Чорнага. Няроўна, молада, але ж на многіх старонках радасна сустракаеш адзнакі... можа, нават і геніяльнасці.

Тры пісьменнікі не змаглі ў нас па-сапраўднаму разгарнуць свае крылы, не сталі тым, чым стаць маглі б,— Багдановіч, Гарэцкі і Чорны. Колькі яны сказалі б пра свой народ, колькі далі б і народу і чалавецтву!..

Пішу гэта пры ўключаным прыёмнічку, які стаіць побач. Нямецкія дзеці спяваюць па-свойму пра тое, каб заўсёды было і сонца, і «муцці», і я. А потым уключыліся дзеці польскія. З-за іх і запісваю, з-за двух простых, нават просценькіх, але — хоць ты іх у эпіграф — мудрых радкоў.

Za górami, za lasami —
Wszędzie ludzie tacy sami...[1]

* * *

Хвалюе сутыкненне юных, малых з рэчаіснасцю. Іх чысціня, уяўленне пра тое, як павінна быць, і параўнанне з тым, што ёсць. Іх бяда і наша віна, што яны часамі горка расчароўваюцца... Цудоўная тэма!

Мы павінны адносіцца да іх з вялікай павагай за гэтую свежасць успрымання, гэтую чысціню, з вялі-

---

[1] За гарамі, за лясамі — усюды людзі такія самыя...

кай удзячнасцю за гэта. Наша выхаваўчая работа павінна вельмі ўважліва ўлічваць гэтую чысціню.

* * *

«Лішніх» коней калгас здаў на бойню. Дарослых і з жарабятамі. Адно жарабя ўцякло. Яшчэ раз адправілі — зноў уцякло. Людзі ўзбунтаваліся — больш не далі. Стала яно любімцам усёй вёскі, нават назвалі Пестуном.

«Абаяльнасць мінулага»? Любоў да жывое істоты? Проста жаласць?

Тэма для безыдэйнага апавядання.

* * *

У пакоі, дзе жыў Вальтэр [1], весела падумалася: як жа ён мог філасофстваваць у такой раскошы? Маючы на ўвазе, што яго папярэднікі нараджалі мудрасць, скажам, у бочцы...

* * *

Сімпатычныя і культурныя немцы, дырэктар і галоўны рэдактар ростацкага выдавецтва, меліся прыйсці і не прыйшлі на сустрэчу з намі ў клуб інтэлігенцыі, куды мы прыехалі за семдзесят кіламетраў, прыбраўшыся як на свята. Не прыйшлі і іншыя замежныя дэлегаты «остзеевохе» [2] — фіны, датчанка і швед. Яны як быццам сустракаліся недзе з кіраўнікамі выдавецтва, тымі немцамі, што здаліся нам сімпатычнымі і культурнымі... Што ж, Ларні сябруе з Шолахавым, што яму мы. Што ж, сімпатычным немцам нецікава з намі... Нам было, зрэшты, цікава і з тымі, з кім мы сядзелі і добра, змястоўна і весела гутарылі. Справа не ў гэтым.

Я проста хачу зразумець, нарэшце, ці добра гэта, ці правільна, ці культурна — рабіць толькі тое, што табе падабаецца, што табе выгадна?

---

[1] Запісана ў Патсдаме, у палацы Сан-Сусі.

[2] «Балтыйскі тыдзень» штогадовых міжнародных літаратурных сустрэч у горадзе Ростаку, ГДР.

* * *

Успамінаецца туга па жанры дарожнага нарыса. Туга падсвядомая, першабытная, народжаная і сумам разлукі, і радасцю першага вялікага, найбольшага ў цябе падарожжа, радасцю пазнавання свету. У дні мае маладосці некаторыя навабранцы не спалі ў вагоне, запісваючы назвы ўсіх дазвання чыгуначных станцый ды паўстанкаў на сваім шляху, а потым пісалі дадому, колькі іх было...

* * *

За вялікім сямейным сталом, на якім раскошная садавіна, сядзяць дзве глухія армянскія бабулі — Марыета Шагінян, пісьменніца, перад якою брыдка за сваю ляноту і невуцтва, і стогадовая ўдава Туманяна [1]. Увайшоўшы ў гэты пакой, паміж бабулямі я ўбачыў, нібы дзяўчынку, Бэлу Ахмадуліну, пра якую чуў так многа рознага.. Убачыў, як яна прыняла пахвалу такога суддзі, як Шагінян, збянтэжана шаптала старой у самы твар сваё «спасибо», як яна пацалавала руку бабулі Туманяніхі — з паўзай, не ад розуму, відаць, але ад пачуцця. У гэтай запалцы ёсць боскі агонь. У гэты момант я... ледзь не падышоў ды не сказаў, што ўчора, пачуўшы пахвалу Шагінян з трыбуны, словы яе пра тое, што пераклады вершаў Туманяна, зробленыя Ахмадулінай,— геніяльныя, я ноччу чытаў іх у гасцініцы, шчыра здзіўляючыся іх культуры.

* * *

Не будзьце смешнымі, хлопцы!..

Так хочацца сказаць некаторым літаратурным чыноўнікам, успамінаючы, як яны паводзяць сябе ў людзях, за мяжой ці нават у чужой рэспубліцы — ціха, сціпла, таўкачавата,— і як паводзяць сябе дома: фанабэрыста, напышліва, нібы помсцячы сваім гасцям за тую сваю сціпласць, пазіруючы перад тымі, у каго былі звычайнымі, радавымі гасцямі.

---

[1] Запісана ў Ерэване



На нейкім адным пасяджэнні нашага прэзідыума адзін з «вядучых» закрактаў: «Не пішам мы цяпер, таварышы, пра вёску...». Голас з месца: «У саракавых гадах усё сказалі!..»

Многа сказаў тады і я... Цяпер вось падумаў пра задуманае «Пасля дажджу» [1], і страшна, халаднавата, каб не выйшла чаго накшталт «У снезе журацца бярозы»... Успамінаю час, калі пісаў тое апавяданне. У Мішы, у цудоўных творчых умовах, у добрым настроі, пасля «Сцежкі-дарожкі», якое ніколі, відаць, не буду саромецца, пасля добрых гутарак з Мішам, чалавекам тонкага густу і светлага розуму, з добрым адчуваннем штучнага і смешнага. А выйшла ў мяне няўдача. Чаму? Як застрахавацца ад гэтага? І ці застрахуешся, цягнучы на няпоўнай праўдзе, сёе-тое замоўчваючы, з меркаванняў для сапраўднага літаратара непрыгодных?..

Ох, гэтыя меркаванні!.. Перачытваў днямі «Млечны Шлях» Чорнага. Спачатку і ўсярэдзіне — проста здорава, паэтычна і глыбока, а канец, «на патрэбу дня», сапсаваны...



Сеў да стала, выбраў з майго «тэмніка» пяць — як быццам вынашаных ды вылежаных — тэм апавяданняў і... адчуў, што сёння не пойдзе, сілай не возьмеш. І ўспомнілася народнае: «Хапай з-за пагоды». Пішы, рабі найбольш чарнавікоў, накідаў тады, калі пішацца.



Сустрэча з Ружэвічам [2]. Пасля майго званка яму напярэдадні і нашага знаёмства ўранні. Я быў настойлівы, ледзь не да назойлівасці... Ці, можа, мне дарма так здавалася? Я яго разбудзіў стукам у дзверы, але ж пра стук гэты ў 22.00 у нас была дамоўленасць. Была

---

[1] Апавяданне не напісана.

[2] Ружэвіч Тадэвуш (нар. у 1921) — польскі паэт, празаік і драматург. Сустрэча адбылася ў Вільнюсе.

ў мяне і насцярожанасць, што вось ён маю шчырую пісьменніцкую зацікаўленасць яго прозай прыме за зацікаўленасць перакладчыка. І таму быў «зрыўчык»: пасля таго, як ён сказаў, што ў яго некалькі дзесяткаў кніг на пятнаццаці мовах, я не вытрываў і пахваліўся (не думай, што я табе перакладчык!), што ў мяне іх каля дзевяноста і на дваццаці мовах... А ў іншым было цікава. Калі ж ён пачаў, натуральна і шчыра, пра тое, што мы, пісьменнікі, павінны ваяваць супраць ненавісці, за дружбу паміж людзьмі — было і радасна.

* * *

Нарада наша — міжрэспубліканская [1].

І як нам не сорамна яшчэ ўсё знаёміцца адным з аднымі... дваццаць пяць год пасля вайны, як нікчэмна мы адны адных не ведаем! А ёсць жа што пазнаваць і што ведаць. Перш за ўсё — у нашых сённяшніх гаспадароў, літоўцаў, найбліжэйшых нам і ўсё яшчэ далёкіх.

Так я і выступіў. Коратка.

* * *

Учора вячэралі з N., і ён сказаў, што я павінен пісаць белетрыстыку («два гістарычныя апавяданні»), бо лірычна-мемуарныя запісы — гэта «вторичное», што як быццам між іншым.

Ён, магчыма, мае рацыю ў тым сэнсе, што гэтай кнігі мне не трэба рабіць *спецыяльна*, нават у найменшай ступені прыдумваючы думкі і пачуцці, не трэба думаць, што яна — маё адзінае.

А з другога боку — ён не мае рацыі, бо я — перш за ўсё — *павінен* рабіць тое, што я павінен зрабіць, у чым я сам адчуваю патрэбу, у чым я бачу свой абавязак. Чаму гэта ён мае лепш за мяне ведаць, што мне трэба рабіць? Дрэнна было б, калі б я ведаў гэта, пра сябе самога, горш, чым ведае ён пра мяне.

* * *

Перачытваю «Ніколі не забудзем».

Відно, як тыя расказы дапрацоўваліся, з усімі «бе-

[1] Запісана ў Вільнюсе, на нарадзе па дзіцячай літаратуры.

летрыстычнымі» напластаваннямі. А потым бліснe штосьці непаўторна, таленавіта дзіцячае — ажно за сэрца возьме. «Я чатыры дні нічога не ела, толькі ваду піла». «Назаўтра нас дапытвалі — спачатку маму, а потым мяне». «Нямецкія дзеці на нас плявалі, а мы сціскалі кулакі ў сваіх рукавах»... З якой ахвотай прачытаў бы я чарнавік гэтай кнігі!.. А яшчэ лепш — паслухаў расказы тых дзяцей!.. Рэдактары-апрацоўшчыкі нашпігавалі жывыя, каравыя, з залацінкамі жыцця (таленавітасць праўды!) расказы дзяцей, што не зусім яшчэ былі паадыходзілі ад жахаў вайны,— нашпігавалі са шчодрасцю слабога адчування мастацтва рознымі словамі, моднымі ў той час, адзелі тую шчырасць у літаратурны шырпатрэб...

* * *

Як гэта злавіць і перадаць,— што жывуць людзі, кожны на сваім месцы, ведаюць толькі сваю мову, не ведаюць другой і лічаць, што гэта — ненармальна? Як адчувае гэта просты, добры чалавек — вось што асабліва важна. «Як жа гэта так — такі харошы, свой, а нельга зразумець яго, нельга з ім пагаварыць!..» Навошта гэтая — хоць і зусім натуральная — перашкода? У перамаганні яе — шчасце, будучыня, тое адзінае, дзеля чаго варта жыць.

Думаў пра гэта, стукаўся ў гэта пачуццямі ўжо неаднойчы. І сёння, цяпер, позна ўвечары, чытаючы кнігу пра Кольвіц [1], таксама падумаў, адчуў...

* * *

Няўжо я першы праяўляю такое нахабства — друкую тое, чаму лепш было б з'явіцца пасля маёй смерці?

Думаў так некалькі дзён таму назад. Тое ж падумалася зноў, цяпер,— чытаючы запісы Пры шві на.

## *1970*

Чытаю Гарэцкага, «Гісторыю беларускай літаратуры». Якая жахлівая прыгажосць: «Матухно, зезулихно, утухно, панюшко, сподарыня, солнце, месяц, звез-

[1] Кольвіц Кетэ (1867—1945) — нямецкая мастачка.

духно, дай крошку хлеба!» «А колі варіва просілі, тыя словы мовілі: сподарыня, перепелочко, зорухно, зернетко, солнушко, дай ложечку дітятку варівца сырого!»

А я ў той час, у той страшэнны голад 1602 года, міжволі пераношу свайго сына, і ўсё становіцца яшчэ больш зразумелым і жахлівым.

* * *

Юбіляр, выступаючы са «словам удзячнасці», качаўся сырам у масле, з незразумелай сумессю наіўнасці і нахабства любаваўся сам сабою ўсенародна. Хтосьці калісьці сказаў яму, што няведанне яго, юбіляравай, творчасці «равно невежеству», і вось ён гэта «працытаваў»...[1]

А я ўспомніў, як летась, у Ерэване, сённяшні імяніннік выкульгаў са сваёй славутай кульбачкай на чужую юбілейную трыбуну, непараўнана вышэйшую за ягоную, і са сваёй нахабнай, перакормленай наіўнасцю або наіўным нахабствам, з-пад акадэмічнай шапачкі, з усмешкай заявіў усяму свету, ад Швецыі да Сірыі, што ён, вы бачыце, нічога Туманянавага не чытаў, аднак вось прыехаў таксама...

* * *

Стары Гаўрук, якога я ў Маскве павіншаваў з поспехам, прынёс перакладзенага ім «Гамлета» і выбранае Гейнэ, дзе таксама ёсць яго пераклады. Пазаўчора ўвечары, чытаючы «Германію», нейк па-новаму, па-сталаму ды мудраму, як сказаў бы пра кагосьці іншага, думаў пра нашу сапраўдную радасць слова — роднага мастацкага слова. Адзінае, што трэба і мне, што дае сэнс і майму існаванню.

* * *

Пакуль будуць мае недахопы — ты будзеш павучаць мяне, а як толькі я вазьму сябе ў рукі — мне з табой... проста не будзе пра што гаварыць.

---

[1] Запісана ў Алма-Аце.



У польскіх газетах чамусьці ахвотна чытаю паведамленні міліцыі: пошукі злачынцаў або загінуўшых, з партрэцікамі, на якія хочацца паглядзець, падумаць пра гэтага чалавека.



Чытаю рукапіс перакладу свайго польскага зборніка. Выданне яго — падзея для мяне не проста прыемная. Такім вось чынам і маё мінулае, з маім удзелам у польскім жыцці, з польскай тэматыкай маіх твораў, уваходзіць у цэласць майго пісьменніцкага шляху, дапаўняе яго належным чынам, абагачае, паглыбляе яго сэнс, прыдае яму — так патрэбную сёння — інтэрнацыянальнасць.



Вядома ж, гэта — не праца, аднак і не марнаванне часу, гэта вялікае шчасце, ці што... Учора позна ўвечары чытаў «Мёртвыя душы». Спачатку ў арыгінале, а потым у польскім перакладзе. І добра было, і насмяяўся яшчэ раз, з падвойнай прыемнасцю, з нейкім шырэйшым шчасцем, чым бывала над Гогалем раней. І таму, што гэта — Гогаль, якога я так даўно люблю, і таму, што перакладчык — Бранеўскі, што тут і Польшча, паэт і краіна, якіх я ведаю, да якіх я не абыякавы. І нейкі шырэйшы сэнс і падтэкст. Як тады, калі я заплакаў, чытаючы «За что?» Талстога ў выданні для польскіх школ, з польскай прадмовай да арыгінала, з каментарыямі прафесара N., беларускага хлопца на польскай навуковай службе.



Пішу, адарваўшыся ад новых Танкавых вершаў. Не такія ўжо яны на гэты раз выдатныя, проста ягоныя вершы. Радасна ўжо і тое, што паэтычную, вясёлую душу не завалілі хлудам абавязкаў і чыноў, не надта звязаных з паэзіяй. Гэта відно і ў слове, і ў сме-

ху. Гэта адчуў я ў нашай пазаўчарашняй паездцы па Наваградчыне з Мальком [1]. Цудоўны верасень!.. Хутчэй бы ўжо мне з Максімам пазбыцца нялёгкіх службовых узаемаадносін, а застацца ў думках адзін пра аднаго, у гутарках адзін пра аднаго і між сабою — толькі паэтамі!..



Узбіраючыся ўгару па свентакшыскім серпанціне [2], па асфальце, на лёгкім «Фіяце», думаў пра тое, як тут калісьці хадзілі пад канвоем... Успамінаў і N. Адпакутаваць тут, у гэтым кульмінацыйным месцы пакут, быць змагаром, а потым ператварыцца ў старога, пошлага сельсавецкага п'яніцу... Ці толькі ён у гэтым вінават? Але ж і ён — таксама. Думалася і пра тое, што і тут, і на Салаўках блізкае суседства катаргі не перашкаджала калісьці сентыментальнай набожнасці, гаворкам пра нейкую любоў да бліжняга.

## *1971*

У пошуках рабочага настрою, прывёўшы ў парадак адну мініяцюру, пачаў гартаць свае нататкі і наткнуўся на словы Ван-Гога: «Нет ничего более художественного, как любить людей». Успомніў словы Паўла Жалезняковіча над дамавінай яго Сусанны: «Яна любіла людзей, любіла кветкі... Нізкі паклон вам, людзі, што вы прыйшлі праводзіць яе...»

«Ён — гуманіст»,— з гордасцю за нашага друга гаварыў мне N. Аднак не даў мне ўголас, шырэй сказаць пра тое «яна любіла людзей». Каб не падумаў хтосьці, чаго добрага, што гуманізм у беднага, мужнага, мудрага Паўла — абстрактны?..

---

[1] Малько Самуіл (нар. у 1905) — дзеяч камуністычнага падполля ў Заходняй Беларусі, затым генерал Войска Польскага.

[2] Запісана ў Кельцах, пасля наведання ў Свентакшыскіх гарах былога кляштара «Святы Крыж»; пры буржуазнай Польшчы там была катаржная турма.



«Шведскі домік», дзе была напісана «Золотая роза», замкнёны на рамонт [1]. І нельга пагрэцца каля таго агню, што палаў у каміне яму, Паўстоўскаму. Я пагля-дзеў праз шыбу дзвярэй і ў цемры заўважыў нейкія матрацы, старчаком... І падумалася пад соснамі, сёння таксама ціхімі, што трэба і мне «отрешиться» ад мае дурное службы і ездзіць ды пісаць. Сказалася нават самому сабе: «Да шасцідзесяці. Калі дасць бог дажыць...»



З прыемнасцю пазнаёміўся ўчора з Зосяй, жонкай Марцінаса [2]. Глядзелі яе ілюстрацыі да дзіцячых кніжак. Добра. Яшчэ больш прыемна было ад таго, што гэта яна, як я толькі тут даведаўся, рабіла вокладку да мае літоўскай «Зялёнай школы». Нібы сваяцтва. А чаму і не?..

Штосьці падобнае адчуў днямі, убачыўшы на Ванагавай [3] кніжнай паліцы, сярод перакладзеных ім кніг, і мой раман.



Чытаю дзённік Налкоўскай [4] — нечакана, але як быццам прадбачана, *добрую* кнігу.

Дзіўная таямніца, загадка таго, што пісалася *для сябе*, а засталося *для ўсіх*, у тым ліку і для мяне, у той час, калі гэта пісалася, маладога, таксама *са сваім светам* вясковага хлопца. Асаблівая... калі не радасць, дык прыемнасць яшчэ і ў тым, што я ўжо быў тады вельмі дарослы, і па думках, пачуццях, і па жыццёвай нагрузцы, што я быў удзельнікам тых падзей, якія былі горкім лёсам і гераізмам яе народа.

---

[1] Запісана ў Дубултах.

[2] Соф'я Васіленкайтэ, літоўскі графік, жонка паэта Марцінаса Вайнілайціса (нар. у 1933).

[3] Ванаг Юлій (нар. у 1903) — латышскі паэт, празаік і перакладчык.

[4] Налкоўская Зофія (1884—1954) — польская пісьменніца. На ўвазе маецца яе дзённік 1939—1945 гг.

Нехта можа сказаць, падумаць, што ў той час, калі на свеце адбываліся падзеі вырашальнай важнасці — яна была занята толькі сваім асабістым... А гэта асабістае так хвалюе, здаецца такім патрэбным, бачыцца такім чалавечным, праўдзівым.

Месцамі гэта, нават у апісанні прыроды або якога-небудзь запрагання каня, гучыць на ўсю мастацкую сілу.

* * *

Віліта ляжала яшчэ не ў труне, а на тапчане сярод хаты. Мая пакутніца сястра, такая ж старэнькая, высахлая, як калісьці мама ў свой апошні час. За акном быў светлы сакавіцкі дзень. Там недзе, на гасцінцы, выйшаўшы з аўтобуса, я пачуў першага жаваранка. А тут на стале гарыць вялікая грамніца, уваткнутая ў шклянку з жытам. Пад няўмелае чытанне псалтыра, насупраць светлага акна, ціха і несмяротна, з асобым прызначэннем, палае агеньчык.

Прысеўшы побач з Ганнай, найстарэйшай і апошняй з усіх нас, сямі братоў і сясцёр, зусім ужо слабой, глухой і амаль здзяцінелай, ледзь не весела абыякавай да ўсяго,— я не плакаў. Што ж — і пажыла яна, наша Віліта, калісьці галасістая, бравая, молада аўдавелая, у вайну партызанская маці, а потым і лекарка зёлкамі і, як цяпер падумаеш, разумная, па-народнаму нястомная ў вітанні жыцця і ў провадах яго носьбітаў «на той свет»,— што ж і старая ўжо яна, і напакутавалася, асабліва апошнім часам, ад рака, і толькі ўжо ў смерці магло прыйсці да яе вызваленне... І я — не плакаў.

Датуль, пакуль у хату з кухні не ўвайшла наша ціхая, мілая Ліда, з якой я разам прыехаў. Унесла белую кветку калы, якую, аказваецца, прывезла ў сваёй цяжкай сумцы, расхутала яе з цэлафану і — як другі агеньчык несмяротнасці — палажыла яе, цяпер асабліва жывую, свежую кветку, на белай падушцы, побач з высушаным хваробай тварам цёткі, якую яна памятае заўсёды толькі старой, пачынаючы з партызанскай зямлянкі...

Зноў прыгадаўся Кацюбінскі: заўсёды заставацца мастаком — няўжо за гэта трэба прасіць прабачэння?..

* * *

Ад простага, звычайнага, будзённага — да гістарычнага, да месца твайго гарадка і яго аколіцаў у гісторыі краіны, Еўропы і, як у выпадку з Дамейкам [1],— усяго свету. Як прыемна гэта пазнаваць! І зноў хвалююча хочацца напісаць штосьці звязанае з роднымі мясцінамі.

Чытаю дыпломную работу земляка пра Мір.

* * *

Цуд кнігі адчуваю, чытаючы Шчадрына, якога я так мала ведаю і які так па-сучаснаму гучыць у многім сёння.

* * *

Мініяцюры Штрытматара [2].

Чытаючы, бачу, што тут найважнейшае — сам аўтар: як ён бачыць тое, пра што гаворыць.

Няўжо ў мяне — таксама? Іншым, збоку гэта лепш відно. А наша справа — адчуваць унутраную патрэбу гаварыць іменна так, не інакш.

* * *

Калі пісаў пра нашу дзіцячую літаратуру для ўкраінскага зборніка, узяў Танкаў першы том, каб праверыць памяць для цытаты з «Казкі пра мядзведзя», разгарнуў яго і — нібы вулей адчыніў,— так дыхнула сапраўдная паэзія.

* * *

Такая прыземленасць, такая панылась, як быццам аўтар пісаў гэты раман не седзячы, а стоячы ракам.

---

[1] Дамейка Ігнацы (1802—1889) — польскі вучоны, геолаг, друг Адама Міцкевіча, нарадзіўся ў Мядзвядцы на Міршчыне. Другая палавіна яго жыцця прайшла ў Чылі, дзе Дамейка вельмі шмат зрабіў для развіцця чылійскай навукі і прамысловасці.

[2] Штрытматар Эрвін (нар. у 1912) — нямецкі пісьменнік.

* * *

Дзённік Чорнага. Семнаццаць старонак машынапісу, а як жа многа сказана, як глыбока, як чалавечна!

Яму было б... толькі семдзесят. Як гэта добра было б — зайсці да яго або хоць сустрэцца на вуліцы!..

* * *

З таго, што людзі ведаюць пра саміх сябе, толькі нязначная частка застанецца ў гісторыі, у літаратуры, у музыцы. А іншае — разам з кожным з іх — ідзе ў зямлю.

* * *

Ездзіў з маладымі ўдзельнікамі семінара ў Маскву [1] ўпершыню паглядзець кабінет і кватэру Леніна.

Раздражняе пытанне: «Ну як, спадабалася?» Недарэчы яно ў такіх месцах, дзе адчуваеш высокае хваляванне, канструктыўна думаеш пра жыццё, дзе ёсць на што прымяраць і сябе, і тое, што навокал...

Карты франтоў, тэлефоны, кнігі ў кабінеце. Зала пасяджэнняў. Цюрупа, любімец Леніна, нарком харчавання, якому тут стала дрэнна і ўрач убачыў, сцвердзіў, што... з голаду. Куханька, у якой яны, маленькая сям'я, елі, «калі не бывала гасцей», у якой Уладзімір Ільіч, позна вярнуўшыся з якога-небудзь гістарычнага пасяджэння, перакусваў агульнанароднай галечай.

У зале пасяджэнняў, акая дзейнічала да 1958 года, думалася пра тое, што́ яна бачыла пасля Леніна, а ў пакоях жанчын, жонкі і сястры яго,— як адгукалася іх жаночая кволасць, пяшчотнасць на тыя суровыя, мужныя рашэнні, якія яму даводзілася прымаць. У Надзеі Канстанцінаўны як быццам менш гэтай пяшчотнасці — строгасць ва ўсім, а ў Маняшы, Марыі Ільінічны, нават наіўныя макатачкі на белай, у палатняным чахле, канапе.

Дарожныя куфры, асабліва той, што пабываў у Шушанскім.

Партрэты над Маняшыным сталом,— мужнасць старэйшай сястры, высакародства іх маці.

---

[1] Запісана ў падмаскоўным доме творчасці Перадзелкіна.



Трохі хварэючы, многа чытаў. І ўспомніў словы нарвежскай прыбіральшчыцы, перачытаў іх у блакноце:

«Единственное, что приятно в этой жизни,— это сознание, что есть люди, которым приходят в голову те же мысли, что и тебе, и которые переживают то же, что переживаешь ты. Они пережили тот же страх, убедились в бессмысленности страданий и уничтожения. И тогда ты не чувствуешь страданий и одиночества. Благодаря литературе — Душе мира...» [1]

Пра дзве прычыны, з-за якіх запісаў гэта:

Першая — пісьмы людзей, якім патрэбны мае кнігі, а пісьмаў такіх я атрымаў апошнімі днямі некалькі.

Другая — не працуецца... Начытаўся наогул, а сёння ўжо і свайго, атрымаўшы, нарэшце, польскую кнігу. І хочацца хоць што-небудзь рабіць.

## *1972*

Учора павінен быў запісаць.

Унучка спала, а побач з яе светлай галоўкай, на вялікай бабулінай падушцы, ляжалі далонькамі дзве рукі. Падумалася, што з гэтым шчасцем, шчасцем дзіцячага свету, я добра знаёмы, і тут мяне добрая доля не абмінула. Свае, а перад гэтым братнія, што натхнілі не толькі на «У сям'і»...

Няўжо яшчэ буду пісаць для малых і пра іх? Як гэта добра было б!



...А за акном, у сонцы — ціхі лес, сосны і яліны, вершаліны якіх абтрэсліся ад снегу, а з большай палавіны ўніз — у снезе. І ціхія, нібы зацiхлі свядома. Шпакоўня пад белай шапкай снегу — казачны домік, каля якога днямі ўвіхалася вавёрка.

Унучка ўспамінаецца, і старасць, што ад горычы

---

[1] Майя Экерлёф, «Записки уборщицы», «Иностранная литература», № 11, 1971.

памылак, бруду жыцця так ахвотна вяртаецца да чыстага, паэтычнага свету маленства.

* * *

Запісаць свой рэдкі настрой, ясны і ўзнёслы, як у «Яшчэ раз першы снег», або настрой некалькіх дзён, як у «Тройчы пра адзіноту»,— няўжо гэта не мастацтва?

* * *

«Усе мы паласатыя»... Гэтую паласатасць бачу недобра і ў найбліжэйшых, у сяброў. І хочацца, каб нехта з іх сказаў і мне пра маю паласатасць. Вось каб Валодзя быў тут цяпер — так бы, здаецца, і папрасіў: «Мо пагаворым пра мае недахопы?..»

* * *

Ён яшчэ сарамліва лашчыцца да мяне, а прачытаў ужо «Вайну і мір», «Анну Карэніну» і, зусім нядаўна, «Злачынства і кару». Параўноўваючы Льва Мікалаевіча [illegible] Дастаеўскім, кажа: «У Талстога такая самая глыбіня, толькі вада цяплейшая». Прыемна быць бацькам дарослага сына.

* * *

Чытаючы ў даваеннай літаратурнай энцыклапедыі пра гумар Шолам-Алейхема, адчуў, што гумар такі, здаровы, мог бы пісаць і я. А потым, з асалодай чытаючы «Чэрава Парыжа», адчуў штосьці накшталт эпічнага голаду. Бо ўжо задоўга, відаць, я сноўдаюся па вуліцах голы, «свецячы» сваім «я»...

* * *

...И не свои друзья-подружки,
А доносясь издалека,
Трубило радио частушки
Насчет надоев молока...

Чытаючы гэта ў Твардоўскага [1], успомніў тое, што бачыў на Серабранцы вясною, што сумна думаў тады.

Полька, старая, прымітыўная, але патрэбная — полька ўжо не там, дзе яна нарадзілася і жыла ў сваёй незалежнай, самаздаволенай марноце, не на вясковай пыльнай вуліцы, не ў душнай хаце, нават не ў сельскім клубе, а тут — у мікрараёне мільённага горада, на нешырокім асфальце паміж домам і дзіцячай пляцоўкай. І танцуюць яе, пашахонскую польку, на гарадскім вяселлі, разам з моладдзю, якая праз школу, завод ці інстытут «выйшла ў людзі», танцуюць дзядзькі і цёткі, якія ані сняць пра тое, што трэба мацаваць калгасы, сціраць мяжу паміж вёскай і горадам, седзячы ў вёсцы. Сваю мяжу яны сцерлі, пераехаўшы сюды, і маюць, на свой век і на свой кругагляд, дастаткова грунтоўнае апраўданне: «І я, як усе людзі, жыву адзін раз, і тут жа, у горадзе, таксама савецкая ўлада»...

* * *

Адзін пашляк зняты з вялікай пасады за самае звычайнае — лазіў у народную кішэню, афармляючы сабе ганарар за чужыя «высокаідэйныя» артыкулы. Другога дурня будуць днямі здымаць, таксама з вымовай... А ты ўспамінай, як гэты *другі* дамагаўся, каб перад *першым* пакаяўся ў сваіх «памылках» чысты, разумны, таленавіты *трэці*... Успамінай і радуйся, што ты не паслухаў *другога,* не сагнуўся перад *першым,* а застаўся з *трэцім* — застаўся тым, чым трэба быць.

* * *

Не паехаў на маскоўскі пленум, а цяпер зайздрошчу Адамовічу, які быў сярод тых нямногіх, што ўскладалі вянок на магілу Твардоўскага. Зайздрошчу таксама, што ў яго, у Алеся, ёсць фота Аляксандра Трыфанавіча з адным толькі словам: «Спасибо».

У мяне — толькі кніга яго жыцця, усё, што ім напісана. А кветкі пад яго імя і я кладу так часта...

---

[1] «На новостройках в эти годы...»

* * *

Слухаючы ціхую музыку песні «Вечер на рейде», успомніў, як яе ў партызанскай зямлянцы спяваў стары Іван Кірылавіч, як на лагерных нарах, у палоне, Міхась Васілёк любіў спяваць без агню «Извела меня кручина» і «Выхожу один я на дорогу»... Успомніў і падумаў, ці не напісаць пра гэта... А днямі зноў успамінаў яго, Міхася, нашы з ім любімыя песні, калі слухаў па радыё перадачу «Паўстоўскі і музыка», дзе таксама была і наша «Выхожу...».

* * *

Чытаў Твардоўскага (пра Ісакоўскага і Маршака), і думаў, што ўжо ніколі не скажу яму пра сваю любоў ды пашану, што ён ад нашай любові ды пашаны меў вельмі мала, такі мізэрны працэнт належнага.

Так было днямі. А цяпер вось, ноччу, успомніў, як летась, з Дубултаў, пісаў Траяпольскаму, пытаючыся, а ці ведае ён, Аляксандр Трыфанавіч, колькі нас любіць яго?..

* * *

Навошта гэта — пад старасць ярка, востра бачыць у мінулым усё, што зроблена было табой *не так?* Каму патрэбен гэты боль? Сам былога не вернеш, не паправіш нічога, а іншыя — кожны жыве і будзе жыць па-свойму, са сваімі памылкамі спачатку і сваім болем пасля.

* * *

Ты выпакутаваў, выняньчыў новую кнігу, з пакутамі выдаў яе, а яны, рэцэнзенты — маўчаць, як быццам ты зрабіў штосьці непрыстойнае, а яны, як людзі культурныя, робяць выгляд, што пры іх нічога не адбылося... Ну хіба ж гэта лёгка?..

* * *

У таджыкскіх пісьменнікаў, асабліва ў старэйшых, адносіны да свайго абавязку традыцыйна чыстыя, вы-

сокія,— служэнне. Устод, муалім[1] — гэтыя няпісаныя званні, такія звароты да іх яны ўспрымаюць як назалежнае, хоць і пішуць некаторыя не надта моцна. Затое ўжо калі добра, дык добра.

Штосьці такое я адчуў, чытаючы «В лачугах кустарей» Хасана Ірфона, пра якога тут[2] даведаўся, што ён сляпы, і якому, відаць, трэба будзе з дому напісаць у Самарканд.

* * *

Малады, таленавіты эрудыт пачаў даводзіць горача, што найвышэйшай ступенню развіцця чалавецтва была... эпоха грэчаскага рабаўласніцтва. Яго аспрэчвалі, таксама маладою эрудыцыяй. А я спытаўся толькі, на якім баку ён хацеў бы ў той благаславёны час знаходзіцца?..

* * *

Ты не рабі нічога, год за годам, і чакай, што цябе яшчэ і хваліць — за гэта? — будуць...

Самалюбства, пустая слава — пошасць, горшая нават за юр: яна застаецца і ў немачы, да самай смерці, чым далей, тым больш агідная, капрызная, сляпая.

* * *

Учора падумаў, што маю права быць задаволеным сабою за тое, што ў адносінах да Мележа няма ў мяне ані крышку брыдкай зайздрасці: я — з тымі, хто шчыра рады за яго і, як гаворыцца, за нашу літаратуру.

* * *

Набалгарваючыся як мага больш, чытаў учора вершы Найдана Вылчава, выбіраючы пераклады Барадуліна (талент — усё-такі талент), чытаў трохі іншых паэтаў; выбраў з замежнай шафы мае бібліятэ-

---

[1] Майстар, настаўнік.

[2] Запісана ў Душанбе.

кі ўсё балгарскае, якога вельмі няшмат, каб прачытаць пасля; глядзеў у «Всемирной истории» пра вайну 1877—1878 гг. і перачытаў «Чатыры дні» (не, нездарма я іх калісьці палюбіў!); чытаў біяграфіі Боцева, Леўскага, Еліна-Пеліна... А потым, амаль выпадкова, набыў у магазіне «Дружба», як быццам авансам для ўнучкі, якой купляў сёе-тое з малюнкамі, «Сказочный мир» Ангела Каралійчава і... хораша зачытаўся.

Колькі нявыкарыстаных магчымасцей! — міжвольна думалася пра сябе самога. Мог бы і я, «не мудрствуя лукаво», пісаць такія сонечныя, вельмі патрэбныя рэчы.

* * *

Едзем полем, лугам, лесам, у сонцы і ў пыле,— каб зноў знайсці што-небудзь з таго, што не павінна загінуць [1].

...Такі прыгожы свет, а мы клічам з мінулага змрочнае.

Возера Нешчарда. Нібы кіжаўскія зялёныя завоіны, толькі не сонца, як там у нас было, а шэры дзень. З поўначы — хмара. Гамак унуку зроблены з парванай рыбацкай сеткі. А ў старых кацерах так здорава гуляць, пра запас нагульваць светлыя дзіцячыя ўспаміны.

...Трэба вучыцца ў народа спакою ў працы. Зноў засела наша машына, і праваднік спакойна пайшоў у вёску па трактар.

Пішу ў адвячоркавым сонцы, на ўскраіне невядомай вёскі, у траве лясной даліны. Мясціну гэтую бачу першы і, мусіць, адзіны раз у жыцці. Пачуўся драч. Першы раз сёлета ўступае ён у мой пачатак лета. Прыгожая зямля. Чаму ж ты, браце, хто дзесьці адгэтуль, так суха пішаш пра яе красу?..

...З новай сілай адчуў, уявіў прыход немцаў,— гледзячы на расонскіх юнакоў і дзяўчат, што гулялі па вуліцы ў сонечным адвячоркавым шчасці. Такімі былі і тыя, якім улетку сорак першага давялося рабіцца героямі, гінуць, цярпець нахабны здзек захопнікаў.

---

[1] Запісана на Віцебшчыне. Гаворка — пра збор матэрыялаў для кнігі «Я з вогненнай вёскі...»

...Лясная вёсачка, да якое мы дабіраліся па бездарожжы. Яшчэ адно жахлівае адкрыццё, яшчэ адзін ачаг супраціўлення і юдоль пакут, якія мы ўваскрашаем — для трывогі людзям.

Запісваем на кухні, а над намі на сцяне партрэты — Пушкін і Лермантаў. Жах мераю па іх — нібы яны слухаюць гэта ў мудрым зняменні.

«У вас нехта вучыцца?» Слязлівая, бойкая бабка: «Не, гэта мой стары ўсё чытае».

Стары (пасля, калі прыйшоў) расказаў, што ў тую вайну быў у нямецкім палоне, а ў гэтую браў Берлін. Стрымана пахваліўся медалём.

...Ва ўступе да нашай кнігі:

Гэта — далёка не ўсё, пра што трэба расказаць, гэта наша першая спроба, першае слова пра веліч трагедыі народа, пра антычалавечнасць фашызму.

Штосьці так.

...Не дзіва, што потым, аседзеўшыся дома, бывае сумна: мала новага. А тут яно мяняецца і мяняецца — кожны дзень, кожную мінуту... І яшчэ ўсё жывая прага пазнавання, прага новых адкрыццяў. Адну толькі сваю Беларусь пазнаваць трэба ды пазнаваць, каб уведаць, убачыць, адчуць, усвядоміць, дзе ты знаходзішся, што табе трэба рабіць.

...Сустрэчы з народным горам тых дзён, з мноствам сапраўдных подзвігаў, якія трэба выводзіць з невядомасці, мучаць суровымі дакорамі, як мала ты зрабіў, і вучаць сціпласці, адчуванню абавязку.

...Дай нам, божа, зрабіць нашу кнігу добра!.. За частку сваю вазьмуся, здаецца, па-сапраўднаму, не ашчаджаючы туды нічога. Зрабіць кнігу не сумна-дакументальнай, а жывой, поўнай нашага сэрца і вопыту.

* * *

Стаміліся за чэрвень [1]. Не самі па сабе, а — у першую чаргу — для справы стаміліся, і Міншчыну адкладзем усё-такі на той год. Трэба нам новая свежасць успрымання, бо абыякавасць — грэх, злачынства ў гэтай справе, нельга з прытупленым адчуваннем падыходзіць да процьмы пакут, парослых травой, пакры-

[1] Запісана ў Магілёве.

тых больш ці менш удалымі помнікамі, і тых пакут, якія яшчэ ўсё жывуць у словах і ў вачах такога множства нашых людзей.

Спланавалі нашу кнігу, падзялілі работу. Многа будзе яе, вельмі многа, і трэба рабіць яе з поўнай аддачай. Ужо на Віцебшчыне я адчуў, што кнігу нашу пачынаю бачыць.

* * *

Сум палёў і раўненне на вечнасць. Гэта — глыбіннае, што адчуваю тут, у Палужжы[1]. Асабліва востра адчуваў учора ўвечары, калі пры нізкім месяцы вярталіся з Маласельцаў.

А зверху, верхнія адчуванні — пахі і колеры летняга росквіту, спатканні з блізкімі людзьмі, абавязковыя пачастункі. Найлепш — з дзецьмі і «меньшими братьями», якія тут так блізка да чалавека.

Трэба раней уставаць і працаваць больш.

* * *

У прадмове да маіх мініяцюр:

Пераважная большасць іх напісана без думкі пра тое, што ўсё гэта будзе друкавацца ў такім выглядзе. Пасля ўжо я змагаўся за непасрэднасць, яшчэ ўсё здаецца, што ў асноўным — паспяхова.

* * *

Енісей.

На палубе, з кнігай Дзікенса — Галя, інжынер-лесатэхнік. Худзенькая, з прыемным тварам дзяўчына, равесніца маёй малодшай. Нічога не трэба, апроч прыемнасці чыстага «общения». І гэта так добра. Усім нам з ёю цікава.

...Шукаю і хачу злавіць адпраўны пункт у тэме, што даўно наклёўваецца,— агульнасць людзей, праяўленая ў мімалётных, выпадковых сустрэчах, якія не паўтараюцца. Чыстата адносін, дакрананне найлепшым, што ў нас ёсць, момант, час найвышэйшага напружання душы.

---

[1] Палужжа — вёска ў Карэліцкім раёне.

А можа так вось і пісаць — ад гэтай рускай Галі з яе Дзікенсам?..

Гаварылі мы пра гэта з Сашам [1], а тут раптам Аўрамчык гукнуў:

— А вунь грузавоз Галінага брата!

Яна гаварыла нам учора, што брат яе тут плавае, назву і нумар таго грузавоза сказала.

Што ж, і яшчэ адзін з нас, цяпер Мікола,— «як маленькі».

* * *

Капітан нашага цеплахода, сівы і сціплы, ледзь не сарамлівы Мікалай Мікалаевіч. На літаратурнай сустрэчы ў салоне нас з Адамовічам папрасілі расказаць пра нашу кнігу [2], а ён, наш гаспадар, узяўшы слова, пачаў пра былыя тут «перавозкі»...

Мы ўжо за палярным кругам. Тая самая вялікая, сур'ёзная вада, чыстае неба і тундра замест тайгі. Бераг — «тэрасамі»: ад паводак.

І ўспамінаецца, як учора капітан, зайшоўшы ў нашу каюту, гаварыў пра красу паўночнага ззяння: «Стоишь, окоченеешь, а глаз оторвать не можешь...»

Гэта яму — за чыстае сэрца, такое бачанне красы.

* * *

Учора — дзень без радка, нават такога, як пазаўчора. Можна толькі глядзець на бясконцую ваду, ахвотна жмурыцца і нават парушаць рэжым — спаць днём. Зрэшты, такі адпачынак патрэбен, відаць, і мне, і мне належыцца.

Знаёмства з краем, нават з самім Краснаярскам — вельмі прыблізнае. Толькі ГЭС, якую нам добра паказвала талковая, прыемная сакратар Дзіўнагорскага гаркома. Магутнасць і краса, што праявіліся з густой імглы (ноччу быў дождж) пагодлівым ранкам.

Пра Сібір яшчэ не напісана — адпаведна яе грандыёзнасці...

---

[1] Алесь Адамовіч.

[2] «Я з вогненнай вёскі...»

* * *

Над драбналессем сям-там тырчаць лістоўніцы. Відаць і без бінокля і ў бінокль. Лесатундра, яркая зеляніна.

Дзеці — і за палярным кругам дзеці.

Чайкамі я захапляўся і на Чорным, і на іншых марах. Аднак цяпер успомніліся чарнаморскія.

І енісейскія, запалярныя радуюць таксама молада.

* * *

Дудзінка.

Як гэта пісаць пра Беларусь, аднак — для ўсіх?

Так думаеш здалёк ад дому, заўсёды і добра. Хоць часамі і сумна.

* * *

У верталёце над тундрай.

Глабальнасць — банальна ўжо, але правільна. Бо вось я тут думаю пра маю красавіцкую Балгарыю — паўней адчуваю і чую яе.

* * *

Якой агромністай кнігай — цэлым сусветам яна здавалася мне ў маленстве, а цяпер паглядзеў і здзівіўся — нейкіх шаснаццаць аўтарскіх аркушаў!.. «Детские годы Багрова-внука».

* * *

Малады вучоны-аленявод, які суправаджаў нас у тундру і быў там зусім на сваім месцы, увечары зайшоў да нас у гасцініцу [1] і, сярод паэтаў ды бутэлек віна, быў жалю варты са сваімі прэтэнзіямі на паэзію. Слухаючы яго, я стомлена, радасна думаў: «Як гэта добра, што я не пішу вершаў!..»

---

[1] Запісана ў Нарыльску.



У самалёце. Яшчэ пра глабальнасць.

Наша Зямля, ахутаная такімі чыстымі аблокамі, здалёк магла б здавацца белай ружай.

Пад намі яшчэ ўсё Енісей.



У вагоне, едучы ў Светлагорск [1].

Цана простых рэчаў, сіла любові да зямлі,— з яе красой і хлебам, і працай, якое яна, зямля, патрабуе ад чалавека,— гэта я вывучаў і ўцякаючы першы раз з палону... Не так вывучаў, як адчуваў тады — вельмі моцна. І гэта не прайшло бясследна.

Тут, у былой Усходняй Прусіі, у тую самую пару года, успамінаецца гэта ярка і да самай глыбіні.



Калі мы падышлі да свежай яшчэ магілы апошняй з маіх сясцёр [2], N., паказаўшы на вянкі, што стаялі над магілай буданчыкам, сказаў: «Во наша баба як пабудавалася»...

Што павінна было адбыцца,— адбылося. У такіх выпадках па-народнаму боль суцішаюць развагай: «Дай нам бог дажыць да такога веку». Яна пражыла семдзесят восем. Відаць, і ў яе гадах не захочацца паміраць, але збоку, аб'ектыўна ўспрымаецца гэта спакойна.

І гэтае «пабудавалася» запісваю як нейкае штосьці непераможна народнае. Як толькі пачуў яго,— так і «цікнула» адразу, як заўсёды бывала,— сігнал.



Думаў пра ўменне карыстацца паўзамі. Не толькі на бяседах вясёлых, але і на сумных бываюць такія паўзы, перш за ўсё перад пачаткам жалобнага абавязку, калі мужчыны пасядуць на двары, хто на чым,

---

[1] Горад у Калінінградскай вобласці.
[2] Запісана ў Палужжы.

і пачынаецца вельмі цікавая гутарка, калі з больш стрыманай вастрынёй ды весялосцю, а калі дык і зусім свабодна, нібы не на пахаванне сабраліся.

«Каб не пацешыўся, дык павесіўся б». У гэтым — векавая мудрасць, нейкае падсвядомае вяртанне да маленства: да яго бесклапотнай шчырасці.

* * *

Глядзелі з сынам алімпіяду, і цяжкаатлеты напомнілі нам гогалеўскае акрэсленне Сабакевіча: «средней величины медведь». Уся справа ў гэтай «средней величине» — у гэтай няўлоўнай дакладнасці майстэрства, амаль таямнічай, неразгаданай, а такой прывабнай, «заразительной», жывучай, што вось рагочам, а імя нам — легіён. Які зарад здароўя пушчаны ў жыццё — усюды і надоўга!

* * *

Талстой — вялікі *для нас*, а *для самога сябе*, каб жыць, працаваць па-сапраўднаму, яму неабходна была сціпласць — перадумова хады наперад. Каб ён так думаў пра сваю веліч сам, як думаем пра гэта мы — што было б?..

З меншымі пісьменнікамі, што атрымалі прызнанне чытача і афіцыйную пахвалу, з некаторымі з гэтых меншых адбываюцца рэчы... не вельмі духмяныя. За аднаго з іх мне было днямі прыкра. Яшчэ раз успомнілася трапнае: пчала сама наносіць мёду і сама ў ім топіцца...

Чорт вазьмі — няўжо гэта заканамерна, натуральна? Ці тут мае рацыю той, з каго пачаўся гэты запіс? Ён аднойчы пісаў, што спакусы (соблазны) існуюць для таго, каб з імі змагацца: тады будзе раўнавага, патрэбная для больш-менш правільнага, нармальнага жыцця.

* * *

Слухаючы наіўную песню калгаснага самадзейнага хору. Падумалася, што можна не быць Шаляпіным ці Паганіні, аднак любіць песню і музыку, быць спеваком ці музыкантам, быць патрэбным, неабходным

для людзей, даваць ім радасць, быць чымсьці незамянімым,— там, дзе няма лепшага.

Што ж тут гаварыць пра дылетанцтва? Няўжо яго калі-небудзь не будзе?

* * *

Чытаю пра Рэрыха. І думаецца, што, можа, гэта ўжо і не так — адносна — мала, чаго я дамогся самаадукацыяй, аднак, як жа гэта мізэрна мала ў параўнанні з адукацыяй сапраўднай, з сапраўднай культурай, якую мелі, з самага малку не трацячы часу, такія, як Рэрых! Праўда, і самі яны працавалі — на сорам нам, як падзвіжнікі.

Люблю такія кнігі, і даўно.

* * *

...Не апускаўся да думкі, што каб пачаць жыццё ад пачатку, дык у многіх выпадках паводзіў бы сябе інакш. Так не бывае, каб паўтараць усё з вопытам, з мудрасцю сталага веку. Адно ў нашай уладзе — не ўпадаць у адчай, а — узброіўшыся яшчэ большай сціпласцю — жыць як мага разумна далей.

* * *

Выбраў і пераклаў зранку для «Маладосці» афарызмы Скаварады (даніна добрым пачуццям, якія я меў да яго ў маім вясковым юнацтве), напісаў пісьмо маёй балгарскай спадарожніцы і, ад страху перад «добраахвотным беспрацоўем», пачаў чытаць рукапісы радыёпастановак, якія мне далі, каб заахвоціць, работнікі той рэдакцыі, дзе я дыктую вечарамі з магнітафона...[1]

Адно магу сказаць — чалавек, якому не працуецца, «тэхніка якога недаравальна прастойвае», як гаварыў калісьці Адамовіч, спасылаючыся на такую ж думку і іншых добрых людзей,— адно магу сказаць у сваё апраўданне: і ў такім цяжкім стане я навучыўся паводзіць сябе дастойна.

---

[1] Запісы расказаў для кнігі «Я з вогненнай вёскі...».



Прачытаўшы «Хама» Ажэшка.

Колькі яшчэ здзіўляцца і саромецца? Што вось і гэтай рэчы не чытаў. Сораму, праўда, няма. Затое ціха радасна — ад думкі пра яшчэ аднаго сапраўднага пісьменніка, голас якога пачуў і я, душу якога ўдзячна адчуў.

І не *якога*, а *якое*. Бо ўвесь час памятаеш, што гэта — жанчына, высакародная, пяшчотная, разумная, хоць часамі залішне гаварлівая і сентыментальная. Але і гэта зразумела, натуральна.

Як жа так, каб дагэтуль не выдаць у нас таго, што напісана ёю пра Беларусь, пра беларусаў?..

А як прыгожа гэта — іхняя дружба: пані Элізы, Шчадрына, Франка, Багушэвіча. І тое, як яна разумела Талстога.

Успамінаўся Нёман тых, ажэшкаўскіх, мясцін, як я, у розны час, бачыў яго каля Мастоў, у Луннай, у Княжаводцах...

Дарэчы, у кнізе нашай трэба знайсці слова і пра Ажэшка. Бо і ляжаць яны з Васільком недалёка адно ад аднаго...



Калі адрываю на штосьці лісток перакіднога календара, міжволі думаю пра дні, якія пройдзены. Каляндар — будзе новы...

Успомнілася і маладое адчуванне, пра якое і верш быў — аптымістычны («Ах, дай мне жыць, бясконца жыць!..»), які больш за ўсе мае вершы падабаўся цвярозаму аматару Багдановіча Данілу[1], верш, які я і сам у маім горкім верасні 1936 года лічыў «пачаткам літаратурнай творчасці».

Цяпер ужо такіх далёкіх спадзяванняў няма, але ж і спадзявацца, планаваць — не перастанем.

---

[1] Скварнюк Даніла (1903—1943) — друг Я. Брыля, пячнік са скідальскай вёскі Пузевічы, спалены карнікамі разам з жыхарамі. Смерць яго падказала пісьменніку тэму апавядання «Memento mori».



Цень Пілсудскага [1] напомніў мне пра аднаго з тых, хто пачынаў свядомае жыццё з крывавай службы «пад яго штандарамі». Бранеўскі. Якія ў яго бывалі ўспаміны пасля, калі ён на ўсю глыбіню ўбачыў, што гэта было — не тое? Ці не таму і плакаў ён у Навагрудку [2], слухаючы польскі гімн у выкананні беларускіх хлопцаў?..

Патрыятызм і агульналюдскае, інтэрнацыянальнае. Для «філосафа» гэта куды лягчэй — здалёк разводзіць пальцамі на паперы. А як таму, у каго толькі адно жыццё, якое вось і рашаецца? Як тым амерыканскім хлопцам, якіх гоняць у В'етнам?

Думкі пра Бранеўскага пачаліся з адной: грахі гістарычныя — «спіша» гісторыя?..



Кожны з нас тое самае чытае ў той ці іншай меры па-свойму: у залежнасці ад свае здольнасці ўяўляць з чужых слоў і ў залежнасці ад агульнай падрыхтоўкі, бываласці, ведання жыцця. Бо і прыроду, і людзей, чытаючы, звычайна параўноўваюць міжвольна з бачаным, вядомым.

Падумаў так, перайшоўшы ад нафтавікоў Каспія да рыбакоў Эстоніі [3].

Якая дакладнасць скупога мазка ў гэтай вясёлай эстонкі Лілі Промет, колькі паветра і глыбока затоенай любові да роднага і справядлівага. Са стрыманым гумарам, без усякай сентыментальнасці. А праз амаль мужчынскую іронію часамі, скупа і дарэчы, высвечваецца жаночая пяшчотнасць. Асцярожная, напагатове з іроніяй — сродкам самаабароны, які, магчыма, спатрэбіцца.

---

[1] Запісана ў Друскеніках, дзе ў свой час любіў адпачываць Юзаф Пілсудскі.

[2] Ул. Бранеўскі быў у Навагрудку ў снежні 1955 года, на святкаванні стагоддзя з дня смерці Адама Міцкевіча.

[3] У двухтомнай анталогіі савецкага апавядання «В семье единой» («Художественная литература», 1972).

* * *

Як прыкра, што і я, па прыкладу шавіністаў, мог часамі глядзець... зверху на літаратуру іншых, нядаўна адсталых, народаў — проста *не ведаючы яе.*

* * *

Учора быў дзень Швейцара [1] і Чурлёніса [2].

У Чурлёніса — два яго драўляныя домікі, малы пакой-майстэрня, з мальбертам і палітрай, дзе я зноў міжвольна прыцэльваўся да століка каля акна, амаль зусім над зямлёю,— як бы тут працавалася. І была яго музыка, пад якую мы ціха сядзелі...

Швейцар памог мне разабрацца ў тым, да якой ступені мы павінны адкрывацца сябрам.

«Знать друг друга не значит знать о друге все; это значит относиться друг к другу с симпатией и доверием, верить друг другу.

Существенно лишь стремление зажечь в себе внутренний свет... когда в людях зажжется этот свет, он будет виден. Только тогда мы узнаем друг друга, идя в темноте, и ни к чему будет шарить рукой по чужому лицу или вторгаться в чужое сердце».

* * *

Я старамодны ў сваёй творчасці і стаю збоку ад тых, каму, відаць, мог бы быць карысным. Моладзі.

* * *

Думаю сяды-тады, як бы гэта з карысцю высмеяць крэда некаторых нашых «маладых»,— *любым спосабам* дамагацца «дайсці да чытача»,— не думаючы перш за ўсё пра тое, што праз такія *любыя* спосабы, у рэшце рэшт, да чытача можна дайсці з апустошанай душой, растраціўшы нават тое нязначнае, што ў ёй было пры ўступленні ў літаратуру.

---

[1] Швейцар Альберт (1875—1965) — нямецка-французскі мысліцель, лекар і музыказнаўца.

[2] Чурлёніс Мікалоюс (1875—1911) — літоўскі мастак і кампазітар.

* * *

Нешта адразу пасля вайны, дома, у Загоры, узяў я веласіпед і паехаў у дальнюю вёску, да сябра, з якім даўно не бачыўся. Знайшоў яго ў полі, на сяўбе. Думаў, што пагаворым, а ён, мінут праз пяць: «Прабач, брат, сеяць трэба». І я паехаў дахаты, «як змыцканы»...

А мне сяўбу перабівалі хто хацеў, калі і як хацелі,— прыходамі, званкамі, прапановамі, выклікамі... Толькі нядаўна пачаў сяк-так адваёўваць рабочыя раніцы ад розных нечаканых перашкод. Ды строгасці нейкай няма і дагэтуль.

Нядаўна ў Кіеве, калі быў на нарадзе, хацеў уранні прайсціся з N. над Дняпром, пагаварыць, сказаў яму пра гэтае жаданне напярэдадні вечарам, а ён не пасаромеўся адказаць, што хоча пахадзіць адзін, што гэта яму — трэба.

І мне трэба сеяць, і мне патрэбна цішыня на творчы роздум, і не трэба баяцца адстойваць яе.

* * *

Гартаючы том «Литературной энциклопедии», наткнуўся на Гашака і — захацелася заглянуць у «Швейка»: так, як часамі раптам захочацца, добра захочацца чагосьці смачнага. Узяўся перачытваць (пакуты сімулянтаў), пачаў рагатаць даўно чаканым рогатам і раптам адчуў, усвядоміў, што рагачу — як Міша, яго смехам... Ён ува мне яшчэ і так?..

А «Швейка» чытаць з аднолькавым смакам доўга, як і смяяцца доўга, нельга.

* * *

Залежнасць аднаго пісьменніка ад другога, папярэдняга, літаратуразнаўцу лёгка «ўстанаўліваць» *за пісьмовым сталом* — скарачаюцца адлегласць, час, тое, што падзяляла аб'екты даследавання, здалёк не так заўважаецца, што той ці іншы аб'ект другога аб'екта наогул не ведаў... Важна па датах параўнаць, хто з іх першы сказаў сваё «э!». А для зручнасці можна сёе-тое і абмінуць, пакінуць па-за вучонай увагай.

Наступны даследчык знойдзе гэтую сякеру пад лавай — будзе яшчэ адна навуковая праца...

* * *

Напісаў Цітову[1] — за апавяданне ў «Юности», за радасць, што ён — не толькі няшчасны і мужны чалавек, але, як па гэтым апавяданні відно, па-сапраўднаму здольны літаратар.

Напісаў Бакланаву — за рэцэнзію на «Хатынскую аповесць», хоць і не вельмі згодзен з ім, што датычыцца дакументальных запісаў (пра «публіцыстычнасць» сказаў ён правільна).

Ад Шушкевіча — зборнік яго ўспамінаў. Добра пра Мікуліча, якога трохі ведаю, пра Хадыку, якога, да сораму, ведаю мала, і пра Грамыку...

Ажно ў блакноты палез: ці не запісаў у верасні 1967 года, як мы, Аўрамчык, Бічэль, Гілевіч і я, наведалі старога ў Хімках і ад наведання таго было радасна на душы.

Ціхая радасць добрых адносін з людзьмі.

* * *

Стаміўся, напісаўшы за снежань, падрыхтаваўшы сем «кавалкаў» (навелы гэта ці нарысы?) для нашай кнігі, і сёння адчуў, што трэба ў гэтай справе зрабіць перапынак. Бо нельга ж рабіць абы-як, бо галоўнае тут — у падачы матэрыялу, у тым, каб знайсці найлепшы паварот і найдакладнейшыя, найкарацейшыя словы.

* * *

У польскай газеце дасціпны малюнак: сабака ў мяккім крэсле, з тэлефоннай трубкай каля адвіслага вуха, і пытаецца ў таго нябачнага, каму пазваніў: «А вось і не здагадаешся, хто звоніць!»

Паклікаў сына, разам пасмяяліся: «Каб гэта наш Жуль так пазваніў Данусі?..» Можна сказаць: і наво-

---

[1] Цітоў Уладзіслаў Андрэевіч (нар. у 1934) — рускі пісьменнік.

шта так паэтычна дзяцінець, асабліва дзеду? І можна адказаць: а як жа яно ў казках ды ў мультфільмах? Чаму нам такое так падабаецца?

* * *

Увечары, чытаючы «Путь Абая»[1] — не ведаю, ці зусім незалежна ад апісання ночы, якую бачыць закаханы герой рамана,— успомніў, што ўранні я глядзеў на барвовы ўсход сонца і хораша, сумна і ярка, згадалася даўняе... Так, ужо даўняе, хоць і здаецца, што гэта было ледзь не ўчора. А прайшло ўжо амаль дванаццаць гадоў з той марознай раніцы, калі я ў Карэлічах з акна Мішавага кабінета ў зялёным фінскім доміку доўга глядзеў на таксама барвовы, сумны і радасны ўзыход...

І тады глядзеў, як і цяпер гляджу,— ідучы па жыцці, у імкненні наперад. Аднак цяпер той дзень мне бачыцца як рэчаіснасць, якая *была*, як тое адзінае, што ніколі такім, як *было*, не паўторыцца.

Была... Было... А яшчэ ж і *ёсць*, і *будзе* яно, імкненне наперад, з вечна прывабнай загадкавасцю і надзеяй!..

## *1973*

Падлетак любіць дачушку старэйшай сястры, маціадзіночкі, маленькую пацешную дзяўчынку. Як яму чуць такое грубае, дзікае: «Гэта ж байструк»? Супастаўленне чыстага, святога з брудам хамства.

Падумаў пра гэта, калі здымаў з магнітафона нашы запісы ў Борках. Жыва згадалася хата, бабуля з маленькай унучкай на каленях, і загарэлы хлопец, голы да пояса, што, лежачы на негарачай па-летняму печы, слухаў мамін страшны расказ пра канец свету ў іхняй вёсцы...

Прыгадаліся дзядзька з пляменніцай — мой сын і ўнучка, іхняя дружба,— жывая натура да новага апавядання[2].

---

[1] Раман Мухтара Аўэзава.
[2] Да задумы аповесці «Золак, убачаны здалёк».



У апошняй перад Новым годам перадачы «Клуб кінападарожжаў» сімпатычны стары Шнэйдараў [1] пасвойму прыемна развітаўся з намі — да новай сустрэчы, пажадаўшы ўсяго добрага без пафасу, але з харошай чалавечай усмешкай... І смерць яго, менш як праз тыдзень, кранула мяне блізкім болем, навяла на высокія думкі пра вечнае, да якога мы можам або не можам прычыніцца сваёй працай, сваім жыццём. Ён — мог, і ён прыгожа бачыцца мне на фоне ўсіх тых краін і земляў, якія паказваў нам, сам застаючыся заўсёды сціпла збоку, прыкметны настолькі, наколькі патрэбны, пагодліва чалавечны, упэўнены ў тым, што робіць.

Пачуцці такія і думкі паўтарыліся ў кінатэатры, калі мы глядзелі цудоўную кінакарціну «Успаміны пра будучыню». Не трэба і рэлігіяй лічыць яе — светлую, паэтычную мару людзей пра сваё паўнапраўнае месца ў Сусвеце, мару пра крылы,— яна ажыццяўляецца цераз навуку, неразлучная з найвышэйшай паэзіяй нашай чалавечай агульнасці, з патрэбай нашага братэрства, да якога яшчэ — так далёка.

Гэты роздум, пачуцці такія, адчуванне прасторы Сусвету і свайго месца ў ім добра дапамагаюць думаць пра задачы нашай літаратуры, вельмі выразна паказваюць усю нялёгкасць, непатрэбную дробязнасць нашай «мышынай валтузні», блізарукае, на карачках поўзанне па побыце, няўменне ці нежаданне ўзняць галаву і паглядзець на ўсё з сучаснага чалавечага палёту.



Вяртаўся днямі да сваіх думак пра несучаснасць «эпапеяў».

Кожны народ, кожная літаратура мае права на эпапею (ужо без двухкосся) раз, два разы на стагоддзе. У рускай гэта «Вайна і мір» у дзевятнаццатым і «Ціхі Дон» у дваццатым. Да іх набліжаюцца па значнасці ў першым выпадку «Былое і думы», а ў другім —

[1] Шнэйдараў Уладзімір Адольфавіч (1900—1973) — кінарэжысёр.

«Блуканне па пакутах». Усё іншае або раздражняе сваім, не па сілах, «размахам», або зануджвае мнагаслоўем.

У беларускай літаратуры наша права на эпапею маглі б выкарыстаць Чорны і Гарэцкі. Маглі б... Колас у поўнай меры не выкарыстаў. Наблізіўся Мележ. Усё іншае — або прыблізнае, або прэтэнцыёзнае. А манія маштабнасці — застаецца...

Мае, бясспрэчна, права на эпапею і казахскі народ, тым больш, што і ён так доўга маўчаў. Даўно ўжо збіраўся я прачытаць «Шлях Абая», двойчы жаданне гэтае ўзмацнялася,— калі быў у Алма-Аце, і зусім нядаўна, калі чытаў слова Ганчара [1] пра Аўэзава. Пачаў, заглыбіўся ў гэты васьмідзесяціаркушны абшар, і вось, пры ўсёй павазе да аўтара і яго народа, ледзь увабраў палавіну першага тома. Тое ж было калісьці, пасля «Зямлі зялёнай», і «Прасветам у хмарах» — таксама пры ўсёй павазе да Упіта і Латвіі, якіх я ведаю трохі больш, чым Аўэзава і Казахстан.

Кароткасць, сціслаець трэба ўжо лічыць не толькі сястрой таленту, але і меркай сучаснасці.

* * *

Умець карыстацца часам, сённяшнім днём, умець належна паводзіць сябе з людзьмі і не адкладваць на заўтра тое, што трэба зрабіць цяпер,— як гэта важна, і як мы мала гэтым карыстаемся.

* * *

Яшчэ, здаецца, ніколі не адчуваў так востра, так страшна, да адчаю крыўдную недарэчнасць жыцця. Усё найдаражэйшае для нас, усе нашы найбліжэйшыя ад самага нараджэння... загадзя асуджаны на смерць. Яны ёсць, іх не будзе, яны з'явіліся толькі, каб было так страшна, так балюча?.. І навошта чалавеку адчуваць гэта?.. Каб быў слабейшы, дык хоць напіся.

А сёння зноў вось сонечны дзень нашай, яшчэ ўсё недаразвітай, зімы, і праца — патрэбная для вялікай

[1] Олесь Гончар, «Про наше письменство» («Радянський письменник», 1972).

мэты. Нібы службу нясеш, волю выконваеш нейкую — найвышэйшую.

Што ж, трохі збіўся з дарогі, а потым узышоў на яе?

Бо інакш — вельмі страшна.

* * *

Калі я пражыву нават семдзесят пяць, дзве трэція майго жыцця — з Мішам. Працяжнікам я замяніў слова «былі», бо ён жа са мною, ён ёсць. Як быццам *не толькі* маімі ўспамінамі пра яго, як быццам ён жыве ва мне і *сёння актыўна*, памагаючы мне ў маім жаданні быць лепшым і рабіць *маё* лепш. Што ж, не бяссмерце гэта, але жыццё, эстафета дабра, маленькае сцверджанне таго, што нішто не прападае.

* * *

Амаль усе партызаны, ва ўсякім выпадку пераважная большасць іх,— добраахвотнікі, якія, ідучы змагацца, ахвяроўвалі вельмі многім, часта — усім, не толькі самімі сабою. Гэта праўда. Аднак праўда і тое, што ў параўнанні з франтавікамі яны... ну, некаторыя, а то і многія з іх, хваляцца сваім геройствам значна больш.

Таму так прыемна было сустракаць партызан-гвардзейцаў, асабліва на Магілёўшчыне, якія выйшлі на барацьбу найраней, зрабілі многа, многа страцілі, а лічаць сябе проста салдатамі, якія выконвалі свой абавязак перад Радзімай.

* * *

Смерць найбліжэйшых найлепш, найбліжэй паказвае нам, што так ужо магло б і кожную мінуту можа быць з намі, і калі не сталася так, дык мы павінны памятаць, што нам трэба яшчэ пільней рабіць тое, што трэба.

* * *

Гэта ж так добра, і так нямала, што ёсць недзе разумная, высакародная руская жанчына, з якою я ко-

ратка сустракаўся двойчы на людзях, больш за чатыры гады таму назад, і выгляду якое добра не памятаю, а яна там, у сваім далёкім горадзе, «чытае-перачытвае» мае мініяцюры і шчыра піша мне пра гэта, без усякай карыслівай мэты і позы. Гэта — хораша, а мне здаецца — от, між іншым...

* * *

Самому цяжка бывае ў холадзе, у няўтульнасці адзіноты, а пра іншых, хто варты дабраты, думаеш мала. Вось захацелася пазваніць у бальніцу хвораму Мележу, уведаў у яго хатніх нумар бальнічнага тэлефона, але дазваніцца ніяк не змог. І ён мне сам патэлефанаваў — званіў, пачуўшы ад сваіх пра мой да іх званок. Мы пагаварылі, і нам абодвум было добра.

* * *

Апошнія два дні былі фактычна адпачынкам[1]. Апроч ранішняй, пасляабедзеннай і начной праходкі па белым, ціхім, месцамі і часамі — проста чароўным лесе, дазваляў сабе не толькі зранку чытаць, але і спаў у сваім сонечным пакоі, кампенсуючы начную частковую бяссонніцу. Можна было б ужо і дома быць, на два дні раней, але застаўся тут з-за Валодзі і цішыні, якою я апошнім часам, пачаўшы ў Друскеніках, паспяхова вучуся карыстацца і даражыць. У надзеі, што стану-такі на патрэбным грунце, знайду тое сваё, што будзе і другім патрэбна. Цішыня гэтая дае магчымасць успамінаць, вязаць у адно тое найлепшае, што было ў маім жыцці, дае магчымасць гэтаму найлепшаму паўтарыцца. Тут, між іншым, і ранейшае, юначае, чыстае ўспрыманне красы прыроды, паэзіі з дзіўным, шчаслівым ці адчуваннем, ці разуменнем агульналюдскасці гэтай паэзіі — сапраўднай, вялікай.

А то і смешна было, калі прачнуўся днём і сказаў сам сабе: а дзеля чаго ж такі я так гадую сябе і што ўжо такое выгадую?..

---

[1] Запісана ў Каралішчавічах.

* * *

Няўжо я ажно такі размазня або ўжо так па-графаманску задаволены сваім пяром, што вось чытаю ў рукапісе польскі пераклад «Сірочага хлеба» і... міжвольна плачу? Ці, можа, гэта таму, што я цяпер тут [1], што справа майго жыцця працягваецца добра, што слова маё ідзе па прызначэнню?

Пераклад — як новае.

* * *

Слухаючы другі даклад, пасля польскага — бельгійскі.

Пад гукі французскай мовы з трыбуны і польскай з навушнікаў думаецца пра тое, як гэта ў мяне было ў жыцці ўсяго патрошку. У тым ліку — і ведання бельгійцаў: з палону. А мог бы ведаць значна больш! І мовы чужыя таксама. Ішоў я заўсёды па нізах, па зямлі. Гэта і дрэнна — ведаю мала, гэта і добра — што ведаю, тое ведаю ад самага карэння.

Ішоў я не толькі па нізах — цёрся і каля вярхоў, і дома, і ў іншых краінах, заўсёды адчуваючы сябе недавучкам, хоць і са сваімі перавагамі. І добра, што хвалююся, памятаю пра сціпласць, адчуваю свой грунт пад нагамі, застаючыся — часцей за ўсё — дастаткова самакрытычным.

Прыемна тут, у Польшчы, памятаць, што я раблю сваё і ў гэтай краіне, і ў іншых трохі таксама. Такое адчуванне і ў Балгарыі было, і ў ГДР.

* * *

Калісьці сядзеў я за адным бяседным сталом з індыйскай магарані (сапраўднай), а ўчора — з польскай княжной (былой), і там і тут адчуваючы амаль тое самае: здзіўленне нейкае, няёмкасць, адчужанасць, безнадзейнасць старызны, што заўважаецца так — толькі намі.

---

[1] Запісана ў Варшаве.

* * *

Старэчае гэта, ці што?.. Чытаю карэктуру перавыдання, першыя мае апавяданні, і лаўлю сябе на любаванні «Марыляй», «Маім земляком»...

А няўжо, скажам, цесля ці сталяр, праз многа год сустрэўшыся са сваёй работай, не рад, калі яна зроблена добра?

* * *

Чытаючы Мальдзіса[1], успамінаю са здзіўленнем і агідай, што калісьці літаратурай нашай займаліся не такія вось падрыхтаваныя, сумленныя хлопцы, а якія-небудзь бэнды...

* * *

Многае з таго, што ты перажываеш, праходзіць міма, не схопленае як след. І так, здаецца, на працягу ўсяго жыцця — так многа ідзе ў нябыт бескарысна. Толькі Талстыя, Дастаеўскія маглі дабірацца, на здзіўленне мільёнам, да большай ці меншай глыбіні, нават і пры шчаслівай наяўнасці такіх, як яны,— невычэрпнай.

* * *

Асцярожнасць у ацэнках людзей.

Мы на яго злуем, што недзе бадзяецца, пакуль яго чакаюць ды шукаюць, а ён, аказваецца, былы лётчык, акалечаны ў баі, і ён пабег — упершыню за трыццаць два гады! — хоць трохі паглядзець на горад, за які ў сорак першым гарэў у самалёце...[2]

Пазнаёміўшыся з ім, зноў — здаецца, што яшчэ глыбей,— думаў пра тых, што на самых цяжкіх участках рабілі нашу перамогу, і пра тых, чые чарапы многімі, многімі сотнямі — неглыбока, навалам, неаплакана і назаўсёды забыта — закапаны на тых бязлікіх рубяжах, пра якія ведаюць і трохі, нібы мімаходам, пішуць былыя франтавікі...

---

[1] Адам Мальдзіс, «Падарожжа ў XIX стагоддзе».
[2] Запісана ў Ленінградзе.

* * *

Ідзем да Тарвальдсена [1], а думаю пра Андэрсенаў, больш — пра першага. Вось яна — літаратура, асабліва вядомая з маленства. Жыва ўспомніў, як калісьці, падлеткам, чытаў «Салаўя», не ведаючы, што з ім рабіць ад захаплення.

Нанізванне на адну нітку майго жыцця ўсяго таго, што ў ім галоўнае.

* * *

Слухаючы прывітальны марш на прыстані [2], з палубы гледзячы на першых нарвежскіх дзяўчат і хлопцаў, успомніў, як учора ў Капенгагене, калі ў нас быў блаславёны «вольны час», вельмі жыва ўявіў сустрэчнага дацкага юнака ворагам нашых юнакоў і падумаў, як гэта — пры ўсёй яго патрыятычнай шчырасці — недарэчна.

Як яно ўсё не прападае — зробленае калісьці правільна. Нарвік — удзел палякаў у абароне гэтай краіны суровай красы і мужнай культуры, дзе хлеб здабываюць з каменя. І як яно назаўсёды застаецца — здрада Гамсуна, якому цяпер... нібы даравалі — па народнаму высакародству.

* * *

«Раней суседзі жылі вельмі блізка, а сёння суседзямі сталі мільёны. Фактычна межаў суседству сёння няма». Гэта — пачатак выступлення нарвежца — рэктара універсітэта, хіміка.

З намі сюды прыплыла з Капенгагена маладая датчанка Ула, ледзь не вышэйшая за мяне, з маленькай сімпатычнай галавой. Стройная і вясёлая. Муж напалавіну рускі, сваякі жывуць на Алтаі. Яна вучылася год у Маскве, дзе была разам з шасцігадовай дачушкай. Ездзілі да бабулі на пельмені. Вёска тая над Об'ю. Сама Ула нарадзілася тут, у Нарвегіі... Так вось яно і распаўзаецца па свеце — тое магчымае і неабходнае, што можна, услед за дакладчыкам, назваць суседствам.

---

[1] Запісана ў Капенгагене.
[2] Гэты і пяць наступных запісаў зроблены ў Осла.

Заключнае пажаданне рэктара-дакладчыка: «Няхай наша канферэнцыя[1] звяжа адну пятлю да той сеткі дружбы, якая павінна аплесці ўвесь глобус». Старшыня пасяджэння, прафесар-фізік Р.: «Рэктар не можа далей прысутнічаць тут, аднак і там, куды ён ідзе, ён будзе займацца тым самым». Сівы і лысаваты чалавек з партфелем выходзіць з залы пад міжнародныя апладысменты, збянтэжана кланяецца на бакі.

Вось і я буду трохі ведаць, што такое яна — Скандынавія.

* * *

Відаць, няёмка нам падкрэслена, а то і назойліва паўтараць, што ў нас так многа ваенных знішчэнняў. Мы былі мацнейшыя за немцаў і маглі перамагчы іх са значна меншымі стратамі...

* * *

Пра логіку красы:

Хмарны ранак, іртутна-шэрая, ціхая вада і мітушэнне чаек — бела-шэрых, чорнагаловых і ціхіх... Чаму ж якраз так?

Парк са скульптурамі Вігелана. Шэрае, ціхае неба, шэры, мяккі спакой, што памагае ўспрымаць багацце гэтай красы, насычанай думкай, багаццем жыцця. Найлепшае: «Дзеці чакаюць прылёту дзікіх гусей», «Дзед і ўнукі», «Маладая пара пасля таінства кахання»...

Колькі можа зрабіць адзін чалавек! Колькі б магла забраць у нас, людзей, і тут вайна!..

Культура, шчасце культуры пад адкрытым небам.

* * *

Каля замка XIII стагоддзя, дзе старадаўнія гарматы, цацэрукі-гвардзейцы і многа, сёння сонечнай, травы на валах, пагутарылі на сякой-такой нямецкай мове са

---

[1] «Дні міру паўночных краін у Осла» 25—28 мая 1973 г.

студэнткай мастацкага вучылішча (ці інстытута). Дачка рыбака з поўначы, была ўжо ў Афінах і ў Парыжы, чытала Талстога («ад якога я і сама трохі вегетарыянка»), мае ў сваёй бібліятэцы Дастаеўскага, не ведае Чэхава і Горкага, не чула прозвішчаў Рэпіна, Урубеля, Брулова... Падумаў пасля: як жа многа трэба яшчэ, каб хоць людзі з вышэйшай асветай ведалі трохі больш!.. А цяпер дадаю: каб хоць пісьменнік ведаў, калі гаварыць пра Нарвегію, апроч Гамсуна, Ібсена, Грыга, Амундсена, яшчэ і такіх каго-небудзь, як сам, і многіх значна большых...

Добра ўжо тое, што забываешся ў такіх выпадках пахваліцца, што і ты таксама пісьменнік, а калі хто пра гэта скажа — амаль зусім натуральна адчуваеш няёмкасць, збянтэжанасць.

* * *

Узяў з сабою кнігу скандынаўскіх апавяданняў, аднак чытаць пачаў не па чарзе, а з Нексе і Лакснеса [1]. Нічога не зробіш — усё пачынаецца з вялікіх. А ўсё ж — колькі б нас, меншых, не расло каля магутных дубоў, мы таксама павінны расці. І няўжо гэта добра — не хацець быць магутным дубам? Колькі тут стомы, розуму і адчаю? Пра першае і другое сказаць цяжэй, а вось апошняга ў мяне няма, магу сказаць, зусім. Хоць і хочацца напісаць што-небудзь добрае. Ажно не верыцца ў такое шчасце.

* * *

Я напісаў бы семнаццацігадовую гісторыю жыцця майго хлопца, але... там было б многа таго, што называецца неаб'ектыўнасцю, а што па сутнасці — любоў. Бацькоўская — і не толькі, бо штосьці вельмі падобнае я адчуваю і да іншых дзяцей.

Запісваю гэта, слухаючы расказ бывалага журналіста пра В'етнам, пра мужнасць і розум в'етнамскіх юнакоў і дзяўчат.

---

[1] Гэты і наступны запісы зроблены ў моры на цеплаходзе.



«Народ, да якога я належу і які люблю, гэта нямецкі народ, і маёй нацыяй з'яўляецца нямецкая нацыя, якою я высока ганаруся».

Тэльман, з музея якога я вынес гэтыя словы [1].

Цяжка яму было ганарыцца сваёй нацыяй (згадаем Асвенцімы і Хатыні), разумным немцам цяжка гэта і сёння, і ў ГДР, і тут — яшчэ больш.



У чалавека ёсць недзе дом, сям'я, і чалавеку вельмі прыемна адчуць гэта далёка ад іх, пасля процьмы ўражанняў, дзякуючы якім здаецца, што ён так жа даўно паехаў з дому... Словам, я атрымаў першую тэлеграму.



Ніколі не спадзяваўся я, ды ніхто з нас не спадзяваўся, відаць, што провады з Гамбурга будуць такія.

Хтосьці з немцаў ці немак казаў на адным з вечароў, што сустрэча 30 мая была на прыстані не вельмі людная, бо ўсе былі на працы. «А вось у суботу паглядзіце!..» І сапраўды — у суботу прыйшлі. Хто прарваўся на пірс, а каго паліцыя не адразу пусціла з другога боку канала. Спачатку госці былі на нашых палубах, і мы гаварылі, смяяліся, абменьваліся сувенірамі, здымаліся. І было ў гэтым не толькі турысцкае ды службовае (з іхняга боку) «цялячае захапленне». Увесь час гэтым людзям, камуністам і абаронцам міру, верылася. Няхай сабе ў моладзі, якой сярод нашых прыхільнікаў найбольш, ёсць і наіўнасць, і нейкі сектанцкі запал, няхай сабе і нямецкая «страсть к послушанию» [2], але ж і шчырасць таксама відаць. І гэта ж там, дзе камуністам быць не выгадна, а небяспечна і цяжка, дзе і прыхільнікам міру трэба змагацца з рэваншыстамі і нацыстамі, якія, вядома ж, таксама — у моцнай нацыі — праяўляюць сваю сілу...

Калі нашых гасцей папрасілі пакінуць цеплаход,

---

[1] Запісана ў Гамбургу.

[2] Словы А. І. Герцэна.

і ўсе яны пайшлі, я з ніжняй палубы, каб быць як найбліжэй, глядзеў у твары людзей на пірсе.

«Камуністычны аркестр». Народныя духавыя інструменты. Мужчыны, жанчыны, маладзенькія дзяўчаты — усе ў белым, лёгка апранутыя, хоць потым, пад канец іх амаль двухгадзіннай ігры, было холадна. Стары ў марацкай шапцы, які рабіў сваю працу ўдарніка вельмі сур'ёзна. Ён, чаго добрага, як і многія са старэйшых, быў у канцлагеры, і падтэксту ў гэтай яго сур'ёзнасці — на цэлы раман. Бабуля сівая, энергічная, працавала на вялікім бубне, а потым, у даволі кароткіх перапынках, да яе падбягала маленькая ўнучка, якая, пакуль аркестр іграў, або стаяла хорошанька збоку, або — у белай сукенцы — падскаквала ды мітусілася, нібы капусны матыль, перад усімі трубамі ды бубнамі.

Рабочы, які перад гэтым прыходзіў да нашых ленінградцаў, а я быў тады «перакладчыкам», стаяў у натоўпе з жонкай і сынам. На палубе бацька казаў нам, што сын гэты разносіў газеты, стаміўся, прылёг адпачыць, таму вось і прыйшоў трохі пазней за бацькоў. Валасаты, з першымі вусікамі, прыгожы юнак (як і мой) спяваў, крычаў і ўсміхаўся. Як і тата з мамай, маленькай і, здаецца, працавітай. У гэтым сямейным адзінстве відаць была часціна ўсеагульнай шчырасці.

Белы трубач у перапынку браў на рукі малое, што было з мамай тут, сярод першых у натоўпе, і гэта таксама па-свойму гаварыла пра ўсю сур'ёзнасць адносін гэтых людзей да справы міру і дружбы з намі. (Тут і «плакатныя словы» лажацца нармальна.)

Закончылася «Інтэрнацыяналам» — на пірсе і на палубах. А потым кацер, перапоўнены людзьмі, доўга ішоў побач з намі па неспакойнай Эльбе, немцы спявалі, крычалі «гох!», махалі рукамі, трымалі ўзнятыя кулакі, а мы адказвалі ім. На канчатковае развітанне іх «Тыгер II» тройчы прагудзеў, яму адказаў басавіта наш белы «Калінін», і мы пайшлі далей адны.

Яшчэ ясней, здаецца, убачыў адгэтуль, здалёк, з патэнцыяльнага ачага вайны, як яна патрэбна людзям і якая яна разумная — палітыка міру.

Калі стаяў на шлюпачнай палубе, сярод нямногіх, што выйшлі сюды з густое таўкатні на палубе ніжняй, у большым спакоі ясна падумалася, што і Германія, як

і Польшча,— нейкая частка мае біяграфіі, работы майго жыцця.

А цяпер вось, запісваючы пазаўчарашняе, успомніў, як Караткевіч з грубаватай шчырасцю казаў мне нядаўна, што я свой раман дапрацоўкай пасля часопіса зрабіў горшым. Пакуль што не бачу гэтага.

...Мы ездзім, плаваем, а жыта тым часам расце... Думаў, едучы з Любека, што Коля[1] умеў і любіў яго, жыта, вырошчваць...

* * *

Пра кнігу нашу думаў і так, што мае паездкі, у Польшчу і цяпер,— хоць патроху, але ажно ў сямі краінах,— дапамогуць і мне, і нам траім зрабіць наша абвінавачанне фашызму на дыханні агульналюдскім.

* * *

«Что такое профессор Академии художеств по сравнению с теми высокими целями, которые человек ставит себе, когда он еще только мечтает о будущем? Мечтаешь ведь не о положении и титуле, а о том всемирно-историческом, что тебе предстоит совершить, об океане творческой жизни...» (Карын Байе, «Человек больших возможностей».)

Успомніў, чытаючы гэта, як мне калісьці, так ужо даўно, спадабалася было ў Далэнгі Мастовіча[2]: «Трэба быць нечым, няхай невялікім, але патрэбным». Што ж, радавацца за сябе, што і на самым пачатку думаў не пра славу, а пра галоўнае? А ці зусім гэта так? Тады я быў, відаць, шчырэйшы, як цяпер?..

І што гэта — дэпрэсія, што я амаль усё заганяю ў запісы, у той час, калі гэта павінна быць негалоўным? Міжвольнасць гэтых запісаў я парушаю і тым, што частку з іх друкую,— у чым, зрэшты, пакуль што не каюся.

---

[1] Брат пісьменніка Мікалай (1910—1970) — калгасны брыгадзір.

[2] Далэнга Мастовіч Тадэвуш (1898—1939) — польскі пісьменнік.

* * *

Два няпрослыя, тоўстыя немцы, члены нашай савецка-польска-нямецкай групы, курацъ на палубе, схаваўшыся ад сваіх, таксама старых ужо, фраў, ад іхніх клопатаў пра здароўе мужоў. Стаім утрох на карме. Свеціць апошняе сонца, ціха гайдаецца вада.

— Herrlich! [1] — гаворыць адзін. А другі расшыфроўвае гэтую радасць:

— Яны, фашысты, хацелі нас, камуністаў, панішчыць, а мы вось стаім, цыгары пакурваем, глядзім на такую красу!..

Харошыя людзі. А знешне як быццам пацешныя.

* * *

Доўгавалосая, простая абаяльнасць фінскіх дзяўчат у джынсах і хлопцаў — таксама проста, знарок памята апранутых, і з доўгавалоссем ажно калевалаўскім [2]. Квартэт, які двойчы ўдзельнічаў у берлінскім фестывалі палітычнай песні, а цяпер едзе ў Чылі. Песня пра Наталлю, украінку, што ў дні вайны, разам з фінамі, сядзела ў фінскай турме. Песня карэльская, пад музыку Сібеліуса. Песня на словы Еўтушэнкі. Перадаючы яе змест, перакладчык заблытаўся і скарачаецца: «В общем — радость работать». Радасць — добра знаёмая і гэтаму народу. Чужое слова з музыкай чуецца лепш. Нямецкую песню па-фінску разам з квартэтам спявае і зала. Пляскаючы рукамі. І ў гэтым цудоўным шоламе чмялём гудзе акампаніятар на піяніна. Музыка фіна Ояра на словы Хо Шы Міна «Хорошая погода». Птушыная непасрэднасць песні. А непасрэднасць спевакоў — як у тых гамбургскіх маладых камуністаў.

* * *

«Я не хожу в никакую кирху, но я очень люблю сделать человеку что-нибудь хорошее. Мне это приятно. Но не будем философии, а лучше говорить шутки».

---

[1] Цудоўна!
[2] Гэты і два наступныя запісы зроблены ў Хельсінках.

Так наша гід, пажылая, вясёлая фінка, адказала на пустое пытанне, якога яна веравызнання. Слабое веданне мовы не перашкодзіла ёй сказаць пра галоўнае.

* * *

Сям-там пачынаю разумець абстрактнае мастацтва. Не толькі як прыкладное, але часамі і як музыку фарбаў і формаў. Зноў штосьці ад дзіцячага бачання свету.

* * *

У простых людзей, як у дзяцей, у няправільнасці мовы час ад часу праблісквае глыбейшы сэнс.

Наша Дануся блытае значэнне слоў «ужо» і «яшчэ»: «Ты пад стол не палезеш, і гаўкаць не будзеш, бо ты яшчэ, дзед, вялікі». Не дарос да кампаніі.

У ленінградскім доме Камітэта абароны міру бабуля-гардэробшчыца, у якой я спытаўся, як знайсці мне таварыша N.: «Идите на второй этаж, в комитет *мира и защиты*». Дзяржаўны погляд на рэчы.

* * *

У мокрай пасля дажджу ярыне — мокры помнічак у ржавай абгароджы[1]. Шэсцьдзесят пяць жанчын і дзяцей, расстраляных у сіласнай яме, і два салдаты, пахаваныя тут пазней, у дні вызвалення. А надпіс на помнічку: «Вечная слава воінам-героям...» І толькі.

* * *

Дзеду за дзевяноста. Глухі, нямоглы. Прыгаворка дарэчы і недарэчы: «Ну, добра». «Хату спалілі, людзей пабілі. Ну, добра...» Спакойным, эпічным голасам расказвае: «Адзін дурань быў тут у нас старшынёю калгаса. Ну, добра...» І трэба стрымліватца, каб не гыкнуць смехам, якога ў нас гэтымі днямі так мала...

---

[1] Гэты і наступны запіс зроблены на Лагойшчыне.

* * *

Успомніў N., маладога пісьменніка, ваеннага сірату, які бачыў у маленстве, як жанчыны аралі на сабе, сам галадаў нялюдска, а вось напісаў пра гэта *трошкі* — такое ж нясмелае трошкі! — і... запіў у сталіцы, у раскошы... нават не рэстаранаў, а ларкоў. Сумота...

* * *

Чытаў двухтомнік Гарэцкага, пачаўшы з нататак «На імперыялістычнай вайне». Кінуў тады ў блакнот: «Гарэцкі — смак праўдзівасці». Гаварыў потым з N., што ён, Гарэцкі, мацнейшы за Чорнага, шырэйшы, глыбейшы, больш «еўрапеец», агульналюдскі, застаючыся — разам з тым — вельмі нашым.

Купіў тры камплекты, паслаў Няўважнаму[1] і Жыдліцкаму[2], а потым Гаўрыла Іванавіч[3] прыслаў двухтомнік з аўтографам, прыемна ўразіўшы гэтым падарункам, і я пачаў думаць, каму ж харошаму падарыць свой...

Які раман можна было б напісаць пра братоў Гарэцкіх! Пісьменнік і вучоны. Два лёсы, цяжкія і прыгожыя.

...Да запісу гэтага прыйшоў ад думкі — ці занатаваў дзе-небудзь тое, што мне расказвала старэнькая жонка географа С. Як у 1917 годзе яна пачула ад свайго жаніха на спатканні, што памёр Максім Багдановіч, і як яны пайшлі, заказалі ды адстаялі ўдваіх паніхіду па ім... Таксама тэма! Калі хто здолее даць належную канцэнтрацыю ўсяго, што тут патрэбна, каб твор быў сапраўдны.

* * *

Парандоўскі[4], «Алхімія слова».

Пушкіну значна лягчэй было ведаць антычную і

---

[1] Няўважны Флёрыян (нар. у 1929) — польскі крытык і папулярызатар беларускай літаратуры ў ПНР.

[2] Жыдліцкі Вацлаў (нар. у 1931) — чэшскі літаратуразнаўца і перакладчык беларускай літаратуры.

[3] Гарэцкі Гаўрыла (нар. у 1900) — геолаг. Брат Максіма Гарэцкага.

[4] Парандоўскі Ян (1895—1978) — польскі пісьменнік, гісторык культуры.

заходнееўрапейскую класіку, а нам гэта — цяжэй, бо пасля Пушкіна створана каласальная літаратура, якую трэба ведаць, каб лічыць сябе адукаваным літаратарам. А нам жа даводзіцца яшчэ і жаваць, і глытаць столькі «неабходнай» непатрэбшчыны... І ўсё ж трэба ведаць многа, як найбольш. І зайздросна, што іншыя, як Парандоўскі, ведаюць. І смешна і сумна, як некаторыя нашы кандыдаты, дактары ды акадэмікі, надзімаюцца, лічачы, што яны ўжо ведаюць усё.

* * *

Прыстойненькія ўспаміны N. пра Твардоўскага, дзе ён лепіць яго «по образу своему и подобию», абмінаючы ўсё «ценявое». Балазе, што ў багатай натуры можна злёгку натузаць і аднаго лебядзінага пуху...

* * *

Сузор'е блізкіх людзей у мяне невялікае, аднак яно ёсць. А некаторых зорак ды зорачак я і не ведаю,— чытачоў. Толькі часамі хто-небудзь з іх «здрадзіць» свае пачуцці да майго слова, пісьмом ці праз кагосьці трэцяга.

* * *

У лірычнай прозе, асабліва ў запісах, апроч усіх іншых, станоўчых і адмоўных, якасцей, ёсць яшчэ адна, нават ці не галоўная,— ты сам, твая асоба. А гэтага ж якраз табе самому і не відно — збоку, а не з сярэдзіны. І судзіць не табе.

* * *

І ўсё-такі ў сваіх мініяцюрах я адчуваюся найбольш самім сабою. І вось чакаю кнігі з імі, сабранымі і прасеянымі, як чагосьці новага і найважнейшага ва ўсім, што я рабіў і раблю. Нейкае нават невытлумачальнае пачуццё да гэтых запісаў, якое вельмі па-свойму гаворыць мне, што я яшчэ штосьці добрае буду рабіць, што пра *такое* іменна я і марыў з самага свайго пачатку.

* * *

Успомніў чамусьці... Не «чамусьці», а таму, відаць, што нядаўна мы многа гаварылі з Калеснікам пра Таўлая, успомніў, што ён, Валянцін, пры ўсім сваім знешнім негераізме і некаторых слабасцях быў сапраўдным чалавекам. Пра гэта, між іншым, гаварыў і медперсанал бальніцы, у якой ён паміраў,— як мужна ён пераносіў пакуты, які быў добры, людскі з людзьмі — у свой найважнейшы, найцяжэйшы час. І тое, што сёй-той называе «негераізмам» — яго «не жалезная лінія» на паліцэйскіх допытах, «толькі сувязны» ў гады акупацыі — тое таксама патрабуе *глыбейшага разумення.*

* * *

Чытаю «Лев Толстой о войне и милитаризме» С. Чубакова, і ўвесь час у падтэксце яе — аўтар, які, відаць, не выпадкова ўзяў іменна такую тэму. Віцебскі ваенны хлапчук, адзін з тых соцень і тысяч беларускіх хлопчыкаў, якія гінулі або гібелі ў балотах і лясах, хаваючыся ад гітлераўскіх карнікаў, што вельмі многа знаходзілі, расстрэльвалі і спальвалі, а гэтага — выпадкова не знайшлі.

* * *

На час вайны народы змаўкалі — кожны змаўкаў для чалавецтва. І толькі потым, калі аціхала бура, пісьменнікі таго ці іншага народа расказвалі ўсім народам, што за хмарай нянавісці і гора — жывуць, жылі таксама людзі.

Падумаў так, чытаючы «Стогн гары» Кавабаты [1].

* * *

Парваў свае чарнавікі для нашай кнігі і думаю пра трэскі, нарэшце згрэбеныя і прыбраныя з-пад гатовага зруба. Прыемнае адчуванне, і паўтараецца яно час ад часу вось ужо два дні, дакучаючы, каб запісаў.

---

[1] Кавабата Ясунары (1899—1972) — японскі пісьменнік.

* * *

Ад пачатку і да канца будзем азірацца, здзіўляцца, цікавіцца, захапляцца, недаўмяваць — хто ты? дзе ты? чаго ты? — і нічога не ўведаем канчаткова.

* * *

Пасля 1931-га і, здаецца, 1933-га перачытваю «Дон-Кіхота». Першы раз чытаў яго па-польску, калі Міша прыехаў з Наваградка на зімовыя канікулы (цудоўны ўспамін!..) і прывёз некалькі невялікіх томікаў з пацешнымі ілюстрацыямі. Тады я, пры Мішавай дапамозе, выбіраў толькі смешныя месцы. Другі раз чытаў гэтую кнігу па-руску, але чытання таго чамусьці не памятаю.

Чытаючы цяпер, часта лаўлю сябе на думцы, што сумна і расцягнута. Але здзіўляе культура слова ў той час — у самым пачатку XVII стагоддзя. І праглядае ўжо нясмешнае ў гэтым агульначалавечым вобразе.

Дачытаю, як Мана, як Галсуорсі[1] калісьці дачытваў.

* * *

Як жа часта мне ўспамінаецца лермантаўскае: «А между тем из них едва ли есть один, тяжелой пыткой неизмятый...» Міжволі, неяк механічна ўспамінаецца, калі стомлены лажышся або ад горкіх дум пераходзіш да горшых... Словам — на нейкіх паваротах. А то і так сабе.

Калісьці, у 1935-м ці ў 1936-м, я паслаў свае вершы Данілу[2], і цяпер разумею, колькі нарабіў яму гэтым клопату. А ў яго, інтэлігентнага хлопца, хапіла такту. Відаць, робячы печ або грубку, абдумваў, што тут мне напісаць у адказ. І напісаў, што любіць вершы Багдановіча, перапісаў мне сваім мужным почыркам «Ведай, брат малады», «Рушымся, брацці, хутчэй!» і яшчэ, здаецца, штосьці больш, а таксама параіў прачытаць у Лермантава «Не верь себе»...

---

[1] «Иосиф и его братья» і «Сага о Форсайтах».
[2] Скварнюк Даніла. Гл. заўвагу на стар. 495.

Бадай, ніводзін верш Міхаіла Юр'евіча не зрабіў на мяне такога цяжкага ўражання... Хіба толькі «И скушно, и грустно», па-сапраўднаму заўважаны, узяты пад асаблівую ўвагу ў трактаце Талстога «О жизни», які я чытаў, здаецца, увосень 1933 года.

Прыемна, што тую пробу самаадмаўлення я вытрымаў, бо ўжо неўзабаве напісаў «Як маленькі», а потым, у тым жа годзе, пачаў «Марылю».

* * *

«Награжденных на войне гораздо меньше, чем погибших».

«Справедливой мести вообще не существует».

«За все взятки, которые вымогает жена судьи, в день Страшного суда ответит ее муж».

«Пусть слезы бедняка вызовут в тебе при одинаково сильном чувстве справедливости больше сострадания, чем жалобы богача».

«Если тебе когда-нибудь случится разбирать тяжбу недруга твоего, то гони от себя всякую мысль о причиненной тебе обиде и думай лишь о том, на чьей стороне правда».

Калі першыя тры вытрымкі запісаў нібы так сабе, дык у «настаўленнях» Дон-Кіхота Санча Пансу — мудрасць вечная, прыгодная, жывая і цяпер. На дзіва! — больш за тры з палавінай стагоддзі таму назад была ўжо такая літаратура.

А не сорам так позна рабіць такія адкрыцці? Не, чамусьці не сорам.

* * *

Пасля «Дон-Кіхота» перачытваю «Былое и думы», ужо таксама больш як праз трыццаць год пасля першага чытання.

Сёння, чытаючы, як ён пераязджаў з ссылкі ў ссылку, з Вяткі ва Уладзімір,— ад яго марозных начэй на бясконцай дарозе пад месяцам, ад нашай тут [1], таксама шчодра снежнай раніцы ў соснах, успомнілася, як я зімой 1938 года вяртаўся з Беластока. Смеш-

¹ Запісана ў Друскеніках.

ны цяпер маршрут: Беласток — Баранавічы, тады Баранавічы — Наваельня, «калена» ў другім цягніку, і яшчэ Наваельня — Навагрудак вузкакалейкай. Ну, а тады тое, пра што і гутарка,— Навагрудак — Палужжа, дваццаць пяць кіламетраў пехатой, з цяжкім клункам кніг за плячыма. Помню, як выходзіў з заснежанага горада, з яго электрасвятлом і званочкамі возчыкаў, і тое, як я ў Ганны[1] зваліўся з ног і ледзь не суткі, здаецца, праспаў... А былі ж і лес, і поле, і начная сцішнаватасць, і бадзёрая стома, радасць жыцця!..

Можна сказаць, што для сённяшняй літаратурнай біяграфіі мне трэба было б несці тады падпольную літаратуру, [redacted] я нёс Чэхава, Талстога, Ралана, Рэмарка... І нёс нібы толькі для самога сябе, *вучыць толькі сябе самога...* І сумна бывае, амаль да адчаю, калі падлічваеш, што зроблена, калі бачыш, як гэта мала, як не спраўдзіліся мары, якія *завысокі* быў у цябе прыцэл... Зрэшты, хто ведае, якім ён павінен быў быць, той прыцэл? Браў бы ніжэй, дык і пападанняў было б яшчэ менш?..

Але галоўнае сёння — прыемны, радасны ўспамін тых дзён, і не толькі таму, што гэта была маладосць, але і таму, што і яна, і мая мела сваё разумнае, прыгожае, што не прайшло і для мяне, і для агульнае справы бясследна.

Чаму мяне тады не затрымалі з тым вялікім клункам?.. Было б за што караць,— кнігі былі і савецкага выдання. І наогул — чаго ты швэндаешся, хаме, замест таго, каб скрэбці бульбу ды гной накідаць?.. Так жа яны гаварылі тады многім і сярод тых, з кім я быў знаёмы ці сябраваў.

* * *

Колькі я браў ад Герцана ў 1942 годзе, чытаючы яго ўпершыню, а колькі бяру цяпер, таксама пражыўшы многа і перажыўшы нямала?..

Многа дае ён, і ў гэтым сутнасць вялікіх, сапраўдных пісьменнікаў і людзей. Чытаючы такіх, адчуваеш законную ўрачыстасць працы.

---

[1] Сястра пісьменніка Ганна (1894—1972).

* * *

Такая белая зіма, такія ціхія сосны, такое бясконцае церушэнне, што трэба мне пісаць не словамі, а музыкай.

Так на ранішняй, трохі спозненай, праходцы «адрэдагавалася» ўчарашняя ўрачыстасць любавання. І ўспомніўся стары Маўр, як ён сказаў калісьці, прачытаўшы «Ліпку і клёнік»: «Такой верзила и такая нежность».

* * *

Х. аднойчы казаў: «Дайце У. за яго вершы які хочаце ордэн, і я назаўтра абгрунтую ў друку, што ён, пры ўсёй сваёй бяздарнасці, поўнасцю варты такой узнагароды». Не афіцыйна казаў, па-сяброўску. І задаволена смяяўся.

А мы яшчэ думалі, што тыя, хто перажыў ліхалецце, павінны былі б шчыра напісаць пра яго...

* * *

Чытаць спыніўся на Бальзаку. Не прывабіў ён апавяданнямі, прыйшлося здаць двухтомнік і набраць часопісаў з апавяданнямі Шукшына і «Весенними перевертышами» Цендракова. Гэтыя рэчы ўвялі мяне ў вясёлы настрой, а Еўтушэнка сваімі японскімі вершамі не крануў. А я ж яго, як і Шукшына, бяруся чытаць, убачыўшы штосьці новае, амаль адразу. Што ж, публіцыстыка павінна быць глыбокай. Аднымі рыфмамі не натрасеш...

* * *

Учора перад сном уявіў, што худзенькую, па-свойму прыгожую дзяўчыну, якая прыехала сюды, відаць, не адпачыць, а сапраўды палячыцца, хуліганы згвалцілі. Не мярзотнасць тую ўявіў, а плач яе, адчай... Успомніўся і японскі фільм, дзе такая ж, пасля згвалтавання, тапілася ў моры...

А сёння дзяўчыны той у сталовай не ўбачыў: паехала дахаты, у сваё, невядомае мне *кудысьці*, безымянная, бо незнаёмая.

«Прыпадкі жаласці?..»

У касацыйнай скарзе пасля асуджэння на расстрэл гэты камандзір спачатку ўзвода, пасля роты і, нарэшце, батальёна карнікаў, адзначаны шасцю нямецкімі ўзнагародамі, гэты адукаваны, у мінулым савецкі юнак, пісаў, што і «в стане врагов я был солдатом, а не извергом, палачом», і такім прасіў яго не лічыць, згаджаўся, што заслугоўвае на пакаранне смерцю, але ж «почему с конфискацией имущества», чаму ў яго «красивой и благородной жены» забяруць «Волгу» і гараж?..

Відаць, у добрым чалавек не можа ўзняцца так высока, як нізка можа ён упасці, апусціцца ў зло.

...Чорнарабочыя смерці.

«Накануне копал яму под наблюдением немца Франца, а назавтра произвел два выстрела»,— па нядаўна сваіх, па савецкіх людзях, асуджаных фашыстамі. Калі асуджвалася група, тады забівіаць іх ішлі кампаніяй, а старога нямоглага яўрэя вазіў за горад адзін «наш» з адным немцам. Стралялі ўдвух, а закопваў зноў жа адзін, «под наблюдением»...

У Чэрыкаве маладая прыбіральшчыца Аня Кустрыева, якая «добра гаварыла па-нямецку», украла ў «сакратара знешняй групы» ГФП [1] аўтамат і пайшла ў партызаны. Злавілі дзяўчыну,— напаролася на ўзлеску на групу немцаў,— дапытвалі, а позна ўвечары павялі ў сад — расстрэльваць. Тут ужо «кампаніяй»: адзін немец ішоў спераду з ліхтаром, другі з паліцэйскім вялі Аню за рукі, а тры паліцаі ішлі ззаду.

Вось «гефсіманскі сад!..» [2]

* * *

Два тыдні дома, пасля адпачынку, а сёння ўжо... прачнуўся без пары. Прыснілася паша, коні, людзі, слівы ў кошыку і цыганы. Яны спыніліся табарам воддаль ад нас, а потым адна старая падышла і бруднымі рукамі, нібы каўшамі нейкага парнага экскаватара,

---

[1] Geheimfeldpolizei — гітлераўская тайная палявая паліцыя.
[2] Запісана пры чытанні архіўных матэрыялаў.

зачэрпала нашых сліў. Як быццам нас і няма. Я ўсхапіўся і дубчыкам пачаў сцябаць яе па руках. А на мяне глядзеў спакойна нейкі хлапчук, з нашай кампаніі. Нічога больш не памятаю — толькі яго. Дый не яго, а вочы... Ад гэтага позірку і прачнуўся.

Ноч... Да болю востра ўявілася тая яма, у якую немцы і нашы з ГФП загналі старых цыганоў. Паспеў пачуць той жудасны апошні крык...

А столькі ж яшчэ і нашай кнігай работы! Праца з рэдактарамі, у выдавецтве, «Маладосці», «Немане», аўтарызацыя перакладу. А яшчэ і гэтае чытанне судовых спраў у архіве...

Калі ж я буду пісаць штосьці вясёлае? Такое, вядома, што і пасля нашай кнігі можна, не сорамна будзе пісаць.

* * *

Чытаючы ў Гусева [1], як салдаты перад Барадзінскім боем адмаўляліся ад гарэлкі, успомніў і сваё, франтавое. «Гарэлка Бачэўскага», дарагая, у плоскай бутэльцы. Плютановы, які спачатку здаваўся героем, а пасля дэзерціраваў, пачаў усімналіваць. І вельмі здзівіўся, што я — не буду.

«Чаму ж гэта?!»

«Хачу памерці цвярозым».

* * *

Просека. На абочынах глыбокай супрацьпажарнай баразны, яшчэ напоўненай снегам, ён пацярушаны ігліцай ды прымурзаны, прамоклы ды прымёрзлы, зледзянелы, прыляпіўся валавам. Колер такі. Снег з пралешынамі былой і будучай травы. І паблісквае цьмяна ад сонца, якое ўзышло праз рэдкія воблакі.

Першыя птушкі новай вясны. Радуюцца яны ці працуюць, ці разам гэта — шчасце абавязку?

Жыццё ў вечным абнаўленні. А несмяротнасць — гэта тое, што адчувалася, калі я чытаў афарызмы Сухамлінскага [2], гэтым пачаўшы дзень.

[1] Гусеў Мікалай Іванавіч (1882—1967) — сакратар Л. М. Талстога, даследчык яго жыцця і творчасці.

[2] Сухамлінскі Васіль (1918—1970) — украінскі педагог і пісьменнік.

* * *

У тым, што хоць ты і не надта высока вырас, але вырас дома, у роднай мясціне, дзе цябе ўсе ведаюць, дзе цябе паважаюць,— радасць асаблівая.

* * *

На калідоры вагона — чую з прыадчыненага купэ — ідуць, гаворачы, дзве маладыя латышкі.

Што такое чужая мова, якое я не ведаю? Музыка будучай дружбы. Не маёй яшчэ, але я ўжо яе адчуваю.

* * *

Была непрыкметная радасць вызвалення ад нашай кнігі, і ёсць не поўнае, відаць, разуменне таго, што мы зрабілі.

А цяпер перайсці б да лёгкага, светлага, якое ў мяне цяпер больш, чым калі-небудзь раней, не мае права быць пустым. І лавіць, лавіць сябе на *тым*, ведаць і ведаць *тое*, што трэба рабіць найлепш.

* * *

Шаўчэнка ў сваім кажусе і калматай шапцы — такі незвычайны — у нейкай хрэстаматыі. І том пісьменніцкіх біяграфій, да Горкага ўключна, вялікі, тоўсты том, які нам, пад вялікую ласку, даваў пагартаць дзед Лойка, царкоўны стараста ў Турцы.

Учора ўспомніў, як мама, устаўшы з-за прасніцы, ішла ў каморку і выносіла мне адтуль цукерку з каровай на паперцы. І тое, як я свістаў на скрыжаванні позна ўвечары, вяртаючыся з Маласельцаў, каб паказаць, што не баюся чарцей. Свістаў, а потым ужо не ішоў, а бег у вёску...

Успамінаў — чытаючы Астаф'ева «Последний поклон».

І пра такое ўсё трэба пісаць? Абы ад душы, як пісаў «Гуртавое» і «Тройчы пра адзіноту».

...І не толькі маленства ўспомнілася, а і пазнейшае. Тое, як мы за Крынкамі сядзелі позна вечарам

на ўзгорку, каля дарогі,— Міша, Валодзя, Зося [1], для нас яшчэ такая новая, і я. Зорачны, ціхі жнівеньскі вечар. І мы спявалі «Выхожу один я на дорогу». І не думалася, што гэта быў адзін знайпрыгажэйшых момантаў нашага жыцця.

* * *

Паглядзеўшы «Любить человека» С. Герасімава дзве каляровыя, шырокафарматныя серыі з прыдуманым жыццём, прыдуманымі людзьмі, паводзінамі, пачуццямі... Навошта гэта ўрываецца ў маё жыццё, у мой настрой? І ў адпачынку [2], дзе душа, няхай сабе на малых абаротах, але працуе.

Хоць бы так вось, што ты заўважаеш па-новаму, які ён прыгожы, узвышана, чыста прыгожы на фоне ранішняга блакіту — стройны кіпарыс, на які я гляджу з-пад парэнчы нашай лоджыі, дзе ў буйных лісцях вінаграду — гронкі завязі, што калісьці паспее...

* * *

Чытаю пра Гарсія Лорку і нібы ўжо з Іспаніі гляджу на самога сябе, на сваё месца ў жыцці, у літаратуры.

«Кантэ хонда» — глыбокі, глыбінны спеў. Так бы і спяваць!..

* * *

...«Он не хотел умирать. С трудом удалось оторвать его от борта машины; *он плакал.* Его хрупкое тело упорно сопротивлялось смерти, и после нескольких пуль он все еще пытался встать. Тогда один из фалангистов ногой придавил его к земле и выстрелил в лицо» [3].

«Он плакал» я падкрэсліў таму, што ў нас... дакладней — пра нашага героя так не напісалі б. Адкінулі б гэтую слабасць...

---

[1] Жонка У. Калесніка, педагог.

[2] Гэты і сем наступных запісаў зроблены ў Ялце.

[3] Смерць Федэрыка Гарсія Лоркі. З прадмовы А. Гелескула да кнігі «Гарсія Лорка» («Художественная литература», 1965).

У выніку такіх падчыстак і ствараецца нудота некаторых мемуараў.

* * *

«Пятрарка» Парандоўскага.

Смак эрудыцыі і таленту, а калі пра самога Пятрарку — шчасце «общения» з яшчэ адной вялікай душою.

Сапраўдны цуд сапраўднай літаратуры — праз шэсцьсот гадоў, з Італіі да нас, і так разумна, так хвалюючы!

* * *

Чытаючы Людвіга пра Гётэ, думаю час ад часу: ці не апрыкрыў я свайму (нават свайму) чытачу маім бясконцым самаспавяданнем? Замест жыцця — даю яму сябе, часамі такое, што, можа, і не нова, і нікому не патрэбна.

А заадно — запішу і пра тое, што гэтымі днямі цёпла думалася пра свае даўнія, «курортныя» запісы «Ахалі-Гагра». Як пра сваё сапраўднае думаў, запісанае амаль зусім для самога сябе, амаль зусім між іншым.

* * *

Пасля Лоркі, Пятраркі, Гётэ — Неруда, пра яго і ён. Большае адкрыццё. А меншае — верталёт над узбярэжжам, які, аказваецца, не так сабе стракаціць. Газетная нататачка пад рубрыкай «Происшествия» расказала, што з яго, калі трэба, калі недзе пачнецца ў лесе пажар, могуць выскачыць з парашутамі малайцы-пажарнікі і накрыць яго...

Чытаю «Оды простым рэчам». Ох, якім жа няпростым! Калі глядзець на іх відушчымі вачыма.

Хочется мне,
чтобы меня окликали
с одной звезды —
коровьим мычаньем...

І тут ён, мой чырвоны верталёт, зноў вось ляціць, працавіта грукоча над спякотнай Ялтай, многа якое —

ніжэй нашай лоджыі, кіпарысаў і бярозак. І я ўжо гляджу на яго з веданнем справы, уяўляю тых, што ў кожную хвіліну гатовы тушыць, ратаваць, зусім проста апусціўшыся туды з даўно не боскага неба...

Паэзія рэчаў звычайных.

* * *

Як многа недабачанага, недачутага, неадчутага, недаробленага!.. Учора над ціхім морам стаяў поўны месяц («Луна... над Белой Церковью сияет...»)[1], ляжала ў бясконцае шырокая месячная дарожка, а я там не быў, ні на беразе, ні ў кацеры,— толькі глядзеў з балкона, з-паміж стромай сумоты кіпарысаў... Сёння мы будзем на Ай-Петры — у поўдзень, у спёку, аўтобусным гуртам, а не так, як нам у сорак восьмым годзе хваліўся былы дырэктар гэтага дома: «З Малышкіным калісьці сонца там сустракалі...» І сам я тады, у першы мой прыезд, купаўся тут і раненька, і ўдзень, і ноччу. І на глісеры хадзіў, амаль у адкрытае мора, дзе мы ныралі з борта...

Была і будзе яна — такая недастатковасць, такі недабор? Трэба было б і плаваць добра, і пісаць больш, і быць заўсёды на належным узроўні паслядоўнасці... Многа, многа чаго трэба было б!..

* * *

Мардоўскі рэдактар часопіса, пісьменнік маленькага народа, яшчэ аднаго астраўка на моўнай карце РСФСР. І неяк шкада яго трохі за невядомасць, і паважаць яго хочацца...

Пажылы, кульгавы нелітаратар пытаецца ў таксама, нават на тую самую нагу кульгавага паэта, што з Каўказа:

— Хто ж там у вас з вядомых жыве?

Гэта — каб разабрацца, адкуль гэты паэт, з якой рэспублікі, з якой літаратуры.

— Энэн у нас.

— Ага!..

---

[1] З «Палтавы» А. С. Пушкіна.

І нават у галаву, відаць, не прыйдзе таму вялікаму чытачу, што Неэнэну ад такога пытання магло і забалець.

* * *

Даволі часта лаўлю сябе на трывозе, што мала ў маіх рэчах патрэбнай недагаворанасці.

* * *

Недзе ў жлобінскім Прыдняпроўі.

Праз акно цёмнага купэ гляджу на ўсход. Цёмналіловыя плямы хмараў. Заранка. Спакваля пунсавее зара. Зямля, зеляніна — у церпкай сырасці, у цьмянай імглістай шэрасці світання.

Гэтай парой прачынаўся ў капе чужога сена Лупсякоў...

Мост пад разлітым Дняпром. Іскарка бакена. Зноў ён — Мікола...

Учора, гледзячы на салдацкія цяплушкі, думаў: як многа цяжкага я не перажыў, у параўнанні з маімі аднагодкамі. Цяпер гэта глядзіцца праз яго, Міколу [1]...

* * *

Чытаю пра Ажэшка.

Пішучы пра станоўчае ў арыстакратаў, некаторыя з польскіх даследчыкаў так жа старанна пазбягаюць нават намёкаў, здаецца, нават такога падтэксту, што гэтым станоўчым — адукаванасцю, культурнасцю, інтэлігентнасцю — свабодна маглі б вызначацца і тыя, за чый кошт яны, арыстакраты, жылі і расцвіталі.

* * *

Зноў Ажэшка.

І яна мне сведчыць, як царызм душыў усё польскае. Намёкамі толькі гаворачы сям-там (а можа тут і аўтар кнігі вінават) і пра іншых прыгнечаных.

---

[1] Цяжка паранены на фронце, М. Лупсякоў пакутаваў ад прыступаў душэўнага недамагання.

А чытаючы з самага ранку, на свежую галаву (праца?), успамінаю сваё. Як мы чыталі з Мішам пісьмо Рубакіна[1] нейкаму хлопцу з Валыні. Прозвішча яго, здаецца, Брыч. Нават Булгакаў у 1952 годзе зблытаў мяне ў Яснай Паляне з тым Брычам. Рубакін паслаў таму хлопцу кнігі Караленкі, і яны былі канфіскаваны паліцыяй. «Неужели польская полиция народ настолькі невежественный и не знает, что Короленко сам полуполяк?.. На днях буду видеться с Яном Пилсудским[2] и скажу ему, до чего дошла его родина...»

Мы пасля таксама пісалі Рубакіну, але ні кніг, ні адказу не дачакаліся...

Пані Эліза прасіла дазволу на літаратурны вечар у губернатара. А мы прасілі (я прасіў) дазволу на спектаклі толькі ў павятовага рэферэнта бяспекі. Аднак — падобна ўсё гэта.

...Сустрэча Сэмпалоўскай[3] з Багушэвічам. Ці ведаюць пра гэта нашы паланісты? А таксама ж старонка з жыцця Багушэвіча, з гісторыі нашых народаў, з рускім і ўкраінскім уключна, старонка, якая богведама ці будзе калі напісана.

Гэта, відаць, найбольш карысна, калі ўжо не больш справядліва — абвінавачваць саміх сябе. У слабасці, у неакрэсленасці, у адсутнасці нацыянальнай свядомасці. Сучаснай, прагрэсіўнай, у межах нашай савецкай краіны, нашага ладу.

* * *

Пісьмы сына Максіма Гарэцкага[4], над якімі наплакаўся. І вобраз бацькі — з такою падсветкай, і вобраз самога гэтага святога хлопца, і тое, на што Твардоўскі так дакладна намякнуў сваім «а все же, все же, все же...».

Расшыфраваць жахлівую лічбу — дваццаць мільёнаў — звыш чалавечых сіл, да гэтага можна толькі

---

[1] Рубакін Мікалай Аляксандравіч (1862—1946) — рускі бібліёграф і пісьменнік. Жыў у Швейцарыі.

[2] Брат Юзафа Пілсудскага.

[3] Сэмпалоўская Стафанія (1870—1944) — польская пісьменніца, педагог і прагрэсіўны грамадскі дзеяч.

[4] «На дваццаць другой вясне... Пісьмы Леаніда Гарэцкага з фронту». «Маладосць», № 9, 1974.

дакранупца, зразумеўшы такога вось Лёню хоць трохі, дзякуючы таму, што сам ён дапамог сябе ўбачыць. Праўда, дапамог — у спалучэнні з вобразамі двух выдатных людзей, бацькі і дзядзькі... Яшчэ раз — што за сям'я!..

* * *

Ажэшка, «Мэір Эзафовіч».

З цяжкасцю перабрыўшы цераз уступ, прачытаў амаль залпам. Стомлены гэтым чытацкім напружаннем, раблю такі «несур'ёзны» запіс:

Кніга высакародная, рамантычная, але... У беднай гераіні ёсць каза, амаль як анёлак беленькая, каза доіцца, значыцца, у яе было казяня, у яе вельмі проста можа быць і другое, дзеля гэтага ёсць у мястэчку казлы. Аднак герой, прыгожы целам і душой юнак з багатай сям'і, у парыве чыстай закаханасці, абяцае гераіні купіць казянятка, а паколькі стрэльба павінна стрэліць — у канцы кнігі гэтае казянятка куплена, з'яўляецца.

Бедная пані Эліза. Такая празаічная драбніца сама лезе ў маю галаву, падбівае па-сялянску засмяяцца...

* * *

Хлопец захацеў ісці ў партызаны і па наіўнасці, зусім зразумелай, сказаў пра гэта бацьку. А бацька спалохаўся, заявіў «куды трэба», думаючы, што смаркача папалохаюць, і — усё. А сына — павесілі. Тады вяршыцелі народнай справядлівасці, аўтар гэтых «мастацкіх успамінаў» і яшчэ адзін, пайшлі забіць бацьку...

Тры чалавекі, разумныя, былыя ўдзельнікі вайны, калі я расказаў ім гэты эпізод з прачытанага рукапісу, адразу ж — кожны па сабе, у розны час — сказалі: «Бацька і так пакараны!..»

Далей. У вёску тую якраз сунуліся немцы ці паліцаі, і два «народныя мсціўцы» паспяшаліся зрабіць сваю справу так, што ў хату таму бацьку ўкінулі гранату. Хто там быў, у той хаце, апроч бацькі — гэта ўжо застаецца ў падтэксце...

А трохі вышэй ідуць аўтарскія сэплі наконт жончыных надзвычайных вачэй, любові да іх дачушкі

цудоўнай ночы ў стозе... Літаратура, божа мой! I апломб, як у маршала...

Да гэтых якасцей у аўтара — яшчэ і дзікая сумесь дакументальнага з «мастацкім», ад якое хочацца завыць.

* * *

Жахнуўся, пачуўшы пра смерць Шукшына.

Амаль адразу ўспомніў, а потым зноў і зноў успамінаў яго з фільма «Калина красная». Там, дзе ён ідзе на смерць... не, перад гэтым,— як ён пакорна, да жалю пакорна ідзе перад тымі, што вядуць яго біць. Былы муж яго каханай са сваімі сябрамі.

Як Мішу ўспамінаў,— як ён ідзе ў старым, вялікаватым для яго маім паліто,— успамін жывы, адразу пасля пахавання, успамін, ад якога я тады, нарэшце, па-сапраўднаму заплакаў...

* * *

Магнітам задумы выцягваю са шматгадовых запісаў дробязі, патрэбныя для «Вясёлага зямляцтва» [1].

* * *

Лезе і лезе дурная думка пра тое, што ніхто з нас, пяці братоў, не дажыў да шасцідзесяці... Гэта яны ўжо, чатырох, не дажылі, чарга за мною. I сёння прачнуўся з такою думкай. Запісваю — каб адагнаць яе, каб не накаркаць, або, яшчэ дурней, каб потым хтосьці паверыў у мае прадчуванні.

Нават і ў «Вясёлым зямляцтве» ўчора цягнула да таго, чым кожны з тых веселуноў канчаў, і гэта сумна збівала мяне з задумы.

* * *

Рэдактару: «Я не думаю фільтравацца праз ваш інтэлект». А ўсё ж даводзіцца. I абурэнне тое — не праяўлена.

---

[1] Першая назва аповесці «Ніжнія Байдуны».

* * *

Добра мець дома штосьці вельмі сваё і быць далёка ў людзях сціплым,— мець, скажам, клініку, у якой ты добры хірург, каскад электрастанцыяў, збудаваных па твайму праекту, кукурузнае поле, на якім цяпер недзе буяе табой дагледжаная кукуруза, палічку кніжак, табою напісаных...

Такія мы ў нашай дружнай іспанскай групе [1].

* * *

Ад мора, лагодна-халоднага, цяжка ідзем па пяску і па гальцы, трохі ззаду за ўсімі, нібы стаміўшыся больш за ўсіх. Я пажартаваў, што, можа, паднясу яе, такую малую, ціхую армяначку, і яна ўпершыню ўзяла мяне пад руку. І расказала, што калі нараджаецца маладзік, па іхняму народнаму павер'ю трэба зірнуць у твар добраму чалавеку, каб цэлы месяц быць потым шчаслівым. І вось яна — настаўніца роднай літаратуры, маці дарослай дачкі, хоць і сама спачатку здаецца яшчэ маладой — яна без какецтва сказала, што цяпер, як толькі ўбачыла над іспанскім бокам Міжземнага мора светлы агульналюдскі сярпок,— падумала пра мяне. І я пацалаваў яе маленькую, цёплую руку.

Збянтэжаная ўдзячнасць, пажаданне шчасця.

Тым больш, што маладосці так ужо няшмат, як там ні «маладая душа», ад чаго часамі можна быць гадкім самому сабе і смешным для іншых.

* * *

Маладыя венгры з іхняга прадстаўніцтва прыехалі сюды, у Сагунту, з Мадрыда, сустрэць Наташу Залка, каб заўтра, у Валенсіі, пайсці з ёю на магілу яе славутага бацькі. Адзін з іх, прыгажун Андраш,— унук і сын інтэрбрыгадаўцаў. Во дзе сямейная гордасць!..

...Валенсія. Чырвоныя гваздзікі на магілу Лукача. Наталля Мацвееўна, наша вясёлая, прыязная Наташа, сёння ў жалобе. Нас не хочуць з ёю пусціць. Пры да-

[1] Гэты і сем наступных запісаў зроблены ў Іспаніі.

памозе венграў дамагаемся: яна — дачка, а мы яе сябры. Арыенцір — магіла Бласка Ібаньеса. Лукач умураваны ў сцяну наўскасяк ад яго, правей і ніжэй. Нават смецце прыйшлося вымесці з нішы, каб палажыць нашы кветкі. Ніякай эпітафіі, ні імя, ні даты...

Прыйдзе час і на гэта [1].

* * *

Дарога Гранада — Севілля.

Раскошная даліна. Людзі. Сонца. І ўспамінаецца: «Гранадская волость в Испании есть...» Асенні дым, паляць сухое пустазелле. С'ера Невада — голыя, шэрацагляныя горы. Гаёчкі тонкіх тапаляў. Сады. Сухі кукурузнік. Капуста. І недзе тут кусты, дзе была страшная, чалавечая смерць Гарсія Лоркі...

Не толькі Святлоў,— успаміналася і ўспамінаецца Таўлаева:

Толькі ты, старая матуля,
І не бачачы, век любі...

І Пірэнеі ўспамінаюцца. Пад намі і ніжэй, пад белымі, рэдкімі аблокамі. Таксама ў сувязі з «Таварышам»:

Ён ляжыць на нары халоднай,
малады — як ніколі раней.
Яго сэрцу ў вятрах паходняй
з пірынейскіх скал палымнець.

* * *

Ралля, ралля... Такая ж, як і ў нас, такая, якую рабіў калісьці і я. Бліжэйшы, ніжэйшы горны хрыбет, пастракачаны аліўкавымі дрэвамі.

Аблокі... І ўсе мы — грузін, армянін, літовец, беларус — успамінаем уголас, як у маленстве любілі распазнаваць у аблоках розныя морды...

Даражэй за ўсё — адчуванне агульнасці. Вельмі сучаснае. З адбракоўкаю грузу традыцый, якія шкодзяць гэтай еднасці.

* * *

Таледа.

Сабор Гансалес. Каштоўнасці, замарожаныя ў ме-

---

[1] У красавіку 1979 года прах пісьменніка Матэ Залкі, легендарнага генерала Лукача, перанесены з Валенсіі ў Будапешт.

тале і каменнях. Змрок, цішыня. І семсот пяцьдзесят вокан-вітражоў... Лепка, разьба па чорнаму дубу. «Санкта Марыя Бланка» — «адзіная ў Іспаніі мадонна, што ўсміхаецца». Ашаламляе велічны алтар.

Ад такога багацця няцяжка ўявіць, як яны нас, «бязбожнікаў», ненавідзяць. А колькі ж за гэта праліта поту і крыві ў калоніях і дома!..

Музей сабора. Суіснаванне геніяў — Эль Грэка, Тыцыян, Ван Дэйк, Караваджа...

Багатая турыстка з персанальным гідам. Норкавая накідка. Касметычныя намаганні для захавання хоць бы сярэдняга ўзросту. Ад такое красы і злога позірку з усмешачкай аж зябка зрабілася.

* * *

Начны Мадрыд з дыпламатычнай машыны таго самага Андраша.

Сервантэс са сваімі — Дон-Кіхотам і Санча Панса. Рэшткі старадаўняга Асуана — калонны на плошчы, з падсветкай. Французскі мост, дзе ў трыццаць шостым былі жорсткія баі.

Наташа, Наталля Мацвееўна: «Тут загінула многа венграў». Сваё...

Рэстаранчык з мноствам прыстойна п'яных. Пад столлю вісяць пляцёнкі часнаку, збаны, свецяцца вочы свіной галавы...

* * *

Прада.

Нельга чытаць адразу бібліятэку.

Гойя, Веласкес, Эль Грэка... У першага — асабліва «Расстрэл» і «Паніка». Вяртаўся зноў глядзець. У трэцяга — галовы Хрыста...

І ўспаміналася дарога. Пасля Таледа, дзе прырода, як у раптоўным экстазе, нагарадзіла скал, абрываў, глыбокіх далін, пайшла раўніна, проста як Гомельшчына.

* * *

Дарога Лісабон — Каімбра.

Можа гэта і ёсць штоўчае, што запісы свае я заўсёды рабіў і раблю, не прымушаючы сябе, а толькі з

ахвоты. *Амаль заўсёды*, калі гаварыць асцярожна. Таму і не ўсё, што бачыў, мог зрабіць у запісах прыгодным для чытача.

Лес і вёскі — чаго не бачылі ў Іспаніі. Вінаграднікі (у чырвонай даліне — дымок), аліўкі, коркавыя дрэвы, эўкаліпты, пініі. Белыя домікі пад чырвонай чарапіцай.

У Лісабоне, каля акведука, трушчобы не захацелася здымаць — з павагі да гэтай краіны. Можа, мы зблізімся літаратурамі? Тым больш, калі жартам, што я ўчора казаў, на сустрэчы ў толькі што створаным таварыстве Партугалія — СССР, што і іх, як і нас, беларусаў, дзесяць мільёнаў, і сталіцы нашы па мільёну...

Камоэнс[1], які памёр у страшэннай галечы, цяпер — у страшэннай раскошы.

Сонца, сонца!.. Белыя ветракі, ■ палатнянымі крыламі, як у нас на косах бывала. Размах далін! (Так і хочацца — з клічнікам.) Як у Малдавіі, толькі што горы там ніжэйшыя і яшчэ больш зялёныя. Можна зразумець бога, які, стварыўшы такое, сказаў сваё «добра»!..

Калодзеж з вагой. Да гэтага ўсім і ўсюды няцяжка было дадумацца.

А над пясчаным адкосам — верас.

* * *

Дарога Порту — Лісабон, па ўзмор'і.

Пасля пrастораў — лясны інтым, амаль беларускі, з соснамі, верасам, папараццю. Гной вывозяць, у горбах ён ляжыць, і гэта робіць усё тутэйшае бліжэйшым. Як вінаграднікі каля соснаў, бульба побач з бананамі. Аслы, валы, каровы — усё гэта вязе. На галовах носяць усё, як у Індыі...

Па памяці лацініцай запісаныя лозунгі: «Мортэ ао фашызмо!», «Фашызмо нао пассара!», «Віва о соцыялізмо!» я паказаў на прывале гаспадару турысцкай фірмы, што абслугоўвае нас, і ён, энергічны, вясёлы Альбіна, мала паправіў у маім напісанні.

---

[1] Камоэнс Луіш ды (1524 ці 1525—1580) — партугальскі паэт.

* * *

Запісы гэтыя шчасліва перамяжаюцца ў мяне з накідамі таго, што будзе, магчыма, вясёлай аповесцю [1]. Толькі верыць сабе, рабіць — для самога сябе!

* * *

Каторы ўжо раз, чытаючы карэктуры свайго рамана, спыняюся на імені і прозвішчы Зысалэ Бом. Прозвішча і спалучэнне яго з імем цёпла хвалююць мяне. Яны прыдуманы, а за імі стаіць сапраўдны хлопец, яўрэйчык з Клецка, «Ігнат», што стрыг-галіў і мяне, хлопец, якога я часта ўспамінаю, фота якога хаваю і якое, відаць, варта было б паказаць каму-небудзь у яго гарадку.

* * *

Новадзевічыя могілкі. Ветэраны. Тыя, што імі становяцца. І новы — як свежая рана — Шукшын.

Яшчэ прыплашчаная да зямлі, не ўзнятая над ёю помнікам магіла... маладога Твардоўскага, які даўно ўжо — хочацца думаць — ведаў, што ён працуе для вечнасці, а цяпер гэта, усё ясней ды ясней, становіцца зразумелым і для іншых... А можа так сказаць: стала ў вечнасць, набыло сваё сапраўднае, паўнавартаснае гучанне тое, што тады, калі яно з'яўлялася ў друку, такім у поўнай меры не здавалася.

«Каплічка» Чэхава, што, дзякуй богу, не заменена, як у Гогаля...

Потым — у акадэміі — Рэрых-бацька. Паэзія прасторы, вечнасці.

Святаслаў быў раней, у Траццякоўцы, перад наведаннем могілкаў. Злавіў сябе на тым, што ўражання такога, як у Індыі, тут на мяне карціны Рэрыха-сына не зрабілі. Толькі Неру спыніў па-ранейшаму. Часамі больш ярка, але ўсюды, ва ўсім менш глыбока, чым у бацькі. І добра, і цяжка быць сынам пры такім бацьку, спаборнічаць з ім...

---

[1] «Ніжнія Байдуны».

* * *

Нейкі позірк на ўсё сваё жыццё, жыццё асобы, чалавека, які прыйшоў і пойдзе, аднекуль і кудысьці, і — бязмежна-касмічнае недаўменне: няўжо на гэтым усё і закончыцца?..

Цяжар таго, што застаецца толькі тваім, да болю ясны позірк на самога сябе збоку, нездавальненне сабой наогул і апошняй работай у прыватнасці. Няўжо гэта — «у парадку рэчаў», нармальна?

Трэба дзяўбсціся наперад, а тое, што застаецца ззаду, што ўжо зроблена — не памагае. Як быццам нічога добрага і не было... Хоць ты бяры ды пытайся: «А што ты думаеш пра мяне? Толькі шчыра!» Спытацца ў друга, у сына, у дачкі...

* * *

Кнігарня. Сумота ад процьмы дробненькіх вершаваных зборнічкаў, у якіх той паэзіі трэба яшчэ шукаць ды шукаць...

*1975*

Пісаў, пісаў — забалела рука. Палажыў ручку, выпрастаўся ў крэсле перад раскошным сталом і вялізным, чыстым акном, за якім верхавіны соснаў і вежа былое кірхі, і спачатку толькі падумаў:

Як гэта добра, што я не паехаў нікуды, ні ў Маскву, ні ў Лодзь, ні ў Кіеў, а прыслухаўся да свайго галоўнага і вось — пішу [1]. Як ніколі яшчэ, здаецца, не пісаў. Так многа, нястомна, радасна і трывожна...

Падумаў проста так, ад паўнаты душы, а потым і спытаўся сам у сябе: а чаму такое не запісаць?..

* * *

Чытаючы пяцірадкоўі Ісікавы Такубоку, думаў, што мініяцюры мне трэба пісаць. Толькі потым ужо, рыхтуючы іх да друку, рабіць строгі адбор. Вось у японца яны і праз таўшчыню дзвюх, такіх розных, моў — даходзяць.

[1] Гэты і чатыры наступныя запісы зроблены ў Дубултах.



Чаго так даўно не было — за два месяцы напісаў аповесць [1]. Відаць, закончана, бо як толькі той трэці варыянт (для машыністкі) лёг у папку, мне — вось ужо чацвёрты дзень — не хочацца яго чапаць.

З разгону, па інерцыі накідаў два маленькія апавяданні, [illegible] даўніх ужо задум. Сёння дадаў, устаўшы зноў у шэсць, яшчэ адно, пачаў нервова тыцкаць чацвёртае і пятае і... пакінуў. Лічу іх «строгімі» гэтыя апавяданні [2], хачу рабіць іх стрымана, не чакаць больш адпаведнага «натхнення». Але ж і такое бывала ў мяне, што з ходу не браў на добрым узроўні, за ўдалым ішло не вельмі.



Як добра чужое таленавітае дапамагае думаць пра сваё. Гэта цудоўна — такая сувязь паміж тымі, што робяць літаратуру, якая павінна зближаць людзей, у гэтым выпадку — людзей розных нацыянальнасцей.

Так я чытаю сучасныя англійскія навелы, раз-пораз адрываючыся ад свайго.



Такі цудоўны дзень адзіноты з першым інеем і снегам за акном быў у мяне — як ні дзіўна — у пачатку 1941 года, калі я захварэў на арбайтскамандзе. Хлопцаў пагналі на работу, а я сядзеў каля нізенькага над снегам, закратаванага акна баварскай карчмы-гасцініцы для лыжнікаў, у сутарэнні якое начавала наша каманда, што чысціла там на дарогах снег. Краса за кратамі і адзінота, з хвалюючым прадчуваннем будучага шчасця — пісаць, вера ў гэткую будучыню ў тых умовах...

Я, здаецца, пісаў ужо пра гэта, але вось успомнілася і пацягнула запісаць. Перад вялікім акном, праз якое бачу верхавіны соснаў у імгле ды ў інеі, над добрай кнігай ды з адчуваннем, што ў шуфлядзе стала

---

[1] «Ніжнія Байдуны».
[2] «Полымя», «Іваны», «Снеданне», «Калыска».

ляжаць і ўжо нікуды не дзенуцца новая аповесць і накіды новых апавяданняў... Як добра, ціха, цёпла на душы, узняўшыся куды трэба.

* * *

Можа я нічога і не зрабіў, але ж заўсёды адчуваў, бачыў мяжу, за якую мне не ўдалося або не дадзена ступіць.

* * *

І дагэтуль ніхто не выявіў, што ў маёй «Галі» каўпак, закінуты на гарышча, нагадвае бацькава старое крэсла ў «Душечке»... А мне гэта муляе пры кожным перачытванні свайго апавядання.

* * *

Маё юнацкае захапленне Талстым прывучыла мяне да пэўнай самастойнасці, да ўмення не баяцца быць «не такім, як усе». Гэтая якасць сяды-тады абуджаецца ў маёй натуры і дае сілы быць самім сабой, не вельмі баяцца самоты, абыйдзенасці, няласкі.

* * *

Як дзіўна, што і ў старасці, зусім ужо на парозе, мы яшчэ можам разважаць пра смерць аптымістычна, як быццам упэўненыя, што... на гэтым яшчэ не канец.

* * *

Дробязь якая. Гады, падзеі... А тут — праз цэлыя дзесяцігоддзі — возьме ды ўспомніцца бусел на нашым гумне: як ён, стоячы на адной назе, кіпцюрыкам другое вельмі засяроджана пачэсвае пад вокам. Тонкая работа!..

* * *

Зверху, з высокага берага, гледзячы на зарэчныя лугі, на прастору — аж да лесу на даляглядзе, на зялёную прастору, дзе пятляе Нёман і сям-там стаілася

прахалода кустоў і паддуб'я,— успомніў ліпень сорак чацвёртага года. Той ясны дзень, калі пасля ўсіх хваляванняў сустрэчы з Савецкай Арміяй мы, не памятаю ўжо, колькі чалавек з нашай разведкі, заехалі вунь туды, пад Ціхова, у тое зялёнае бязмежжа, рассядлалі і пусцілі коней, а самі паснулі ў цяньку. Дома, у поўнай ужо свабодзе і бяспецы.

А луг тады быў у самай квецені, а ўздым душэўны — вельмі высокі.

Цудоўны ўспамін.

* * *

Павонзкі — народнае, суровае memento mori [1]. І — божа мой! — якая складанасць, пераблытанасць лёсаў, імкненняў, поглядаў — тое, што называецца гісторыяй Польшчы.

Адзіны выхад — датыкацца толькі тым, што нас яднае, мудра не абражаючы пачуццяў, традыцый адзін аднаго.

Такое ў нас цяпер з Бартэльскім [2], які, паказваючы мне гэтую народную святыню, у многім, калі не ва ўсім — па-сяброўску шчыры.

* * *

Як добра было, прыемна, калі пачуў, што ў кнігах маіх адчуваецца: гэта — не ўсё, на што я здольны. І сам адчуваю такое.

Толькі ж і паказваць, на што ты здольны, трэба не адкладваючы. Ці не зашмат я спакойны, ці не зашмат свабоды даю сам сабе?..

* * *

У доме Каспровіча [3] добрая гутарка з кусташам — дырэктарам дома-музея Штайхам. На верандзе, па парэнчах аблямаванай настурцыямі, пад горны шум

---

[1] Павонзкі — могілкі ў Варшаве. Memento mori — помні пра смерць *(лац.)*.

[2] Бартэльскі Леслаў (нар. у 1920) — польскі празаік і публіцыст.

[3] Каспровіч Ян (1860—1926) — польскі паэт, драматург і перакладчык. Дом-музей яго знаходзіцца ў вёсцы Гарэнда каля Пароніна ў Заходніх Татрах.

ракі і, цішэйшы, дажджу па лістоце, за хісткім сталом, за якім сядзеў калісьці і ён, Каспровіч, яшчэ адзін мала вядомы, значны паляк, звязаны з такімі людзьмі, як Ленін [1], Іван Франко і, цераз «пані Марусю», з Буніным [2].

Прыкра было спачатку, пакуль пан кусташ быў заняты з экскурсантамі,— прыкра ад сямейнага «маўзалея», дзе ляжыць гаспадар, двухпавярхова, з жонкай, пахаваны так, як быццам па ўласнаму жаданню. А зрабілі гэта, як мы пазней даведаліся, сябры, і ад гэтага справа трохі мяняецца.

У Яшчуруўцы, прыпёрты да яловага гушчару пад гарою, малы касцёл Віткевіча [3] — песня і вышыўка ў дрэве, сонца вітражоў і вязь жалеза. Раскошная віла «Пад Едлямі», на «камандным» узвышшы, таксама збудаваная па праекту творцы «закапанскага стылю».

Яшчэ раз паездка ў Татшаньскую Букавіцу, дзе ўлетку жыў Мацей [4]. Хата ягонага газды, з прастатой ды наіўнасцю (матка боская корміць Езусіка цыцкай, а над ложкам вышыўка на палатне: «Ja nie kocham chłopcòw żadnych, ani brzydkich, ani ładnych») [5], з вясковымі пахамі кухні, дзе вараць і сабе і жывёле. Чарка ў карчме, «пад следзіка», і наша рашэнне — паехаць усё-такі ў Касцеліска, да Нэндзы-Кубіньца [6].

Газда ў кажушнай, вышытай камізэлі, мажны дзядок з катарактай (бачыць трохі адным вокам), рукі трасуцца. Селянін-паэт, зусім не адарваны ад роднай зямлі, ад сваіх людзей, ад свае «гвары» [7]. «Зямлю папашет, попишет стихи...»? Толькі без іроніі. Газда сказаў, што чытаў Талстога ў арыгінале, а я сказаў яму, што ён жыве тым жыццём, пра якое ў старасці марыў для сябе Леў Мікалаевіч.

---

[1] У 1914 годзе Каспровіч прымаў удзел у хадайніцтве перад аўстра-венгерскімі ўладамі аб вызваленні У. І. Леніна з-пад арышту ў горадзе Новы Тарг.

[2] Жонка Каспровіча — сваячка І. А. Буніна.

[3] Віткевіч Станіслаў (1851—1912) — польскі мастак і пісьменнік.

[4] Канановіч Мацей Юзаф (нар. у 1912) — польскі паэт, празаік, перакладчык беларускай літаратуры.

[5] «Не люблю я хлопцаў ніякіх, ні брыдкіх, ні прыгожых».

[6] Нэндза-Кубінец Станіслаў (1897—1976) — польскі паэт і празаік. Селянін, пісаў пераважна на гуральскім дыялекце.

[7] Gwara — дыялект.

Пані Зося, дачка Кубіньца, простая, шчырая жанчына, якой я з асаблівай павагай пацалаваў непанскую руку, чытала нам бацькавы вершы. Той, які добра, з агеньчыкам, чытаў нам па памяці на Каспровічавай верандзе энтузіяст Падгалля Штайх,— верш пра родную мову, якую ён, паэт Кубінец, нясе ў далонях па роднай зямлі, як ваду спакутаванаму ад смагі, як насенне на хлеб. Потым пані Зося, стоячы каля непісьмовага стала, вакол якога мы сядзелі, чытала верш бацькі пра роднае Касцеліска. І, нарэшце, урывак, дзе бацька гаворыць да маці яе, да сваёй старэнькай сяброўкі, пра жыццё, разам пражытае ў нягодах і дружбе. Яна, пані Зося, так хараша хвалявалася, а рукі старога, за якім яна стаяла, так дрыжалі... Дачка і бацька!..

Перад сном я прачытаў у падараваным томе слова да чытачоў, даведаўся, што ў нас ён быў, пра што намякнуў, не [redacted] войскамі Пілсудскага, як мне тады падумалася, [redacted] прымаў, як піша, «сціплы ўдзел у Кастрычніцкай рэвалюцыі», і ад гэтага стала яшчэ лепш.

І Танка мы ўспомнілі ў той хаце, як і ён быў там («з нейкім сівым грузінам»), як і фрагмент з «Яносіка» пераклаў («а кнігі не прыслаў»).

Тая жывая сувязь паміж народамі — цераз людзей, за якую хочацца, дзе толькі можна, хапацца, падтрымліваць яе, раздзьмухваць, як агонь з малое іскры.

Палавіна шостай. Пачынаю Кубіньца.

...Свабода, а не слабасць,— дзе рыфма, а дзе і няма, у тым самым вершы, а ўсё роўна — паэзія, сапраўдная.

...А што было б з мяне, калі б і я не абгараджаніўся? Колькі я набыў, а колькі страціў? Бо сіла толькі там і была, і засталася, дзе я застаўся самім сабою — так сказаць, мужыком, чалавекам з народа. Дарэчы, такім я сябе і адчуваю, калі стамляюся: нібы ўсё набытае ў кнігах ды ў свеце адвальваецца, абсыпаецца і застаецца той, што на цяжкую, простую, грубую працу толькі і здольны. На ўсё жыццё дылетант — усяго пакрысе, як ты, здаецца, ні стараешся... Самім сабою быць — галоўнае.

Кубінец, як гаварыў учора Мацей, цягне за некалькі прафесіяналаў. Такім мог бы стаць наш Засім. Каб стаў. Гэтае ў ім, як ні мала яго, любіў Твардоўскі, любіць Калеснік.

...Хутка сустрэнемся за ранішнім сталом, і я скажу Мацею: «Ты не ўяўляеш, як я ўдзячны табе за гэтае знаёмства!..»

Чарговае захапленне? Ёсць чым. Бачу, нарэшце, найбольшы сэнс мае паездкі.

Пішу гэта, прачытаўшы ўрывак, які нам чытала дачка старога, закаханая ў бацьку і ў маці, сама ў гэтай любові таленавітая. Шкада, што і ў той хаце, як і ўсюды, усё жыццё, мы кудысьці спяшаліся. Хоць і няёмка было заставацца даўжэй, гледзячы, як трасуцца рукі старога. А быў жа ён моцны, зубр не «крэсовы», а «татшаньскі» [1], што і па выглядзе відно, і [redacted] вершаў — яшчэ больш.

...У 1975-м чытаю тое, што ён пісаў у 1936-м. Успамінаецца, што гаварыў пра Герцана Талстой: ад таго, што Расія, дзякуючы царызму, своечасова не адчула на сабе ўздзеянне Герцана, развіццё яе прытармазілася на сорак год... Нэндза-Кубінец — не Герцан, але ж як добра было б ведаць яго, чытаць, захапляцца ім у свой час. Ну, а цяпер ён што — страціў сваё значэнне? Добра ж мне з ім і цяпер, сіла ягонага слова памагае і сёння.

...Вось і прыдаўся ён, просты закапанскі стол у нашым з Андрэем «гасцявым» пакоі. Моцны слаісты стол, засланы вясковай саматканай сурвэткай, нізкі і зручны стол, на які я адразу, як на штосьці вельмі далёкае, паглядзеў, калі мы ўвайшлі сюды, у сонечную радасць кваціcтых фіранак і авечы пах шорсткіх, яскравых кілімаў.

...Зараз пакрэслю ўсю кнігу сваім захапленнем. Хоць ты — будзе — бяры ды сам перакладай, пакуль хто лепшы злітуецца.

...За акном — плакучая вярба, вышэй — чырвоная чарапіца, яшчэ вышэй — амаль зусім цёмны Гевант [2] з прыкметным крыжам, а потым — хмары, з якіх, каля самай травы пад вярбою, шамаціць дожджык...

Шчаслівае адчуванне зямлі.

---

[1] «Крэсовымі зубрамі» калісьці называлі польскіх магнатаў, маёнткі якіх былі ў Беларусі і на Украіне; «зубр татшаньскі» — у сэнсе асілак з Татраў, слаўны духоўным багаццем.

[2] Пік у Заходніх Татрах паблізу ад Закапанэ.



Учора трохі Гданьска, потым удала трапілі на канцэрт у аліўскім касцёле, дзе я быў рад за Андрэя і так сабе, яшчэ раз тут, не ўпершыню. А пад узнёслыя гукі арганаў, пасля «Ойчэ наш за покуй мендзы народамі», успамінаў пазаўчарашняга зайца...

Тады, на вячэрняй праходцы, мы прыселі на ўзлеску, дзе стол і лаўкі, глядзелі на возера, з якога чуваць былі нядаўна бачаныя качкі, глядзелі на ўтульныя агеньчыкі кашубскага гарадка [1], трохі гаварылі, а потым — ціха паказаўся заяц. Бег у капусту ў даліне, бліжэй да акуратных домікаў у самым канцы доўгай вуліцы...

І ён мне ўспомніўся пад гукі тых незвычайных арганаў, і свет дзіцячай, казачнай паэзіі па-свойму хораша спалучаўся ў адно і са спрадвечнасцю святыні, і з малітвай за мір паміж народамі, і з усім галоўным. Прыемна было падумаць, што я ўжо дакранаўся да гэтай светлай казачнасці: «Ліпа і клёнік», а цяпер падумалася і пра «Яшчэ раз першы снег»...

Блаславёнае імя Ганса Хрысціяна Андэрсена — сусветнай і вечнай любові дзяцей!..



...Над велічным Ісык-Кулем, на фоне бязмежнай вады і снегавых вяршыняў за ім — белая ружа на кусце. Адна.

І дзе ж успомнілася,— у «Кашубскай Швейцарыі», праз дзесяць год, сонечным раннем на ціхім букавым узлессі, каля возера.



У юнацтве маім, з яго бясконцай працай, калі не ў полі, дык у гумне, у хлявах, у хаце, выездам у вялікі свет, у людзі былі паездкі ў млын ці ў кузню.

Помніцца радасць яшчэ і такая: на пошце атрымаў «Беларускі летапіс» [2], які мне прысылалі чамусьці бяс-

---

[1] Запісана ў Картузах каля Гданьска.

[2] Заходнебеларускі прагрэсіўны часопіс, орган ТБШ (Таварыства беларускай школы).

платна, што паднімала мяне ў сваіх вачах, і я чытаў яго на возе, чакаючы свае чаргі малоць. І сітніцы яшчэ купляў. Смак ніжняй скарынкі, з мукой на губах. А як жа тады ўспрымалася паэзія, з якой непаўторнай свежасцю!..

У кузні цікавым, нават нейкім святочным было далучэнне да ўмельства, майстэрства. Хоць я і не мог як след біць молатам. Іван Апанасавіч, выдатны каваль, які і ў горадзе да рэвалюцыі бываў, круціў галавой ды прыгаворваў: «Здароў, Іванка, дзякуй богу, як мядзведзь!..» І не канчаў мацней, бо і так відно было, як ад майго размаху молатам з майстравых рук паляцела зубіла і ледзь не клешчы.

Пераабутыя коні, у аглаблях і збоку, беглі весела, і было так прыемна — іхняй прыемнасцю. Як і машыну заправіўшы прыемна здаецца, што сам ты ад смагі напіўся.

* * *

Жалязова Воля.

Залатая цудоўная восень. Ад ветру падалі з вялізных дрэў каштаны. Панцырная шкарлупіна развальвалася, і адтуль выкочваўся маленькі, добра выпечаны боханчык хлеба, якога толькі што есці нельга, хоць і хацелася б. А потым вецер аціх і зусім стала ціха — толькі Шапэна і слухаць.

Сцяна белага дома густа пакрыта плюшчам, з якога весела, чыста глядзяць вялікія вокны з белымі рамамі. Ашклёныя дзверы адчынены. Адтуль на воплескі выходзіла з усмешкай мілая пані ў светла-ліловай канцэртнай сукні. Потым вярталася, і з дому зноў мы чулі тую музыку (вось мая мерка), якую найвышэй цаніў Талстой.

Два пажылыя немцы-турысты стаялі перада мной і свабодна (як быццам гэта не яны вінаваты за ўсе жахі яшчэ не забытай вайны) гаварылі сабе, ледзь не зусім уголас... Не вытрываў, шапнуў ім, абдумаўшы нескладную фразу пра тое, чаго мы тут сабраліся. Сціхлі.

А потым, у доме,— наш зямлячок. Чамусьці адзін, але хаміў ужо не за двух, а за многіх. З пакоя ў пакой мы хадзілі групамі, кожная група зачыняючыся ў

«сваім» пакоі, каб не перашкаджаць адны адным. І ціха ўсё. Далікатна гаворыць экскурсавод, прыкметна закаханы ў сваю справу. Можна сказаць: усё тут хораша па-шапэнаўску. І вось тады — ён, наш. Мядзведзем валіць з пакоя ў пакой, любога, а то і любую, адводзіць рукой ад сцяны, каб падысці туды самому, паглядзець зблізку, што там напісана «пад карцінай». Грэм-брэм — падаўся ў наступны пакой... А пры ім маўклівы праваднік.

Цікава: хто ж гэта, з якога стагоддзя, чаму ў такіх выключных умовах? І не падыдзеш, не скажаш яму, што хоць вы, паважаны, ужо і пажылы, але ж так нельга,— проста боязна, што ён яшчэ і абурыцца,— таксама грэм-брэм...

## *1976*

Як нараджаўся — учора і сёння — дзень. Асабліва сёння, з новым снегам, з яго чысцінёй побач з алавяным морам [1] і пад яшчэ цямнейшым небам. Як хутка, ціха і насцярожана ён нараджаўся.

Акно маё — на ўзроўні сасновых вяршалінаў. Пазаўчора іх люта гайдала, а цяпер, калі той дзень, што ціха, урачыста нараджаўся, таксама ціха і ўрачыста канчаецца,— цяпер на лапах соснаў снег, і ў гэтым хочацца бачыць не толькі проста красу, але і глыбокі сэнс.

Успамінаецца ў Талстога: «Нет, не напрасно это...» Той дзённікавы запіс, які ў сваім слове пра Буніна цытаваў Твардоўскі.

* * *

Учора зноў успомнілася сустрэча з індыйскім студэнцкім зямляцтвам, сустрэча, што была чыстым, узвышаным святам пазнавання, агульнасці, дружбы,— праз выступленні, гутаркі, песні нашы і іхнія, нават праз позіркі і ўсмешкі.

Добра так адпачыць, узняцца над будзённасцю.

Асабліва хораша было на душы, калі сустрэліся песні: наша, у пяшчотным дзявочым выкананні са-

[1] Запісана ў Дубултах.

лісткі, і іхняя — поўная той ціхай задумы, што зачароўвала мяне ў Індыі. Наша: «Дубочак зялёненькі», а пра іхнюю выканаўца сказаў, што яна пра тое, як хлопец убачыў дзяўчыну і «адразу стаў паэтам». Ён сказаў, а мы ўсе засмяяліся.

* * *

«Я заваяваў сабе права не мець права пісаць дрэнна. І я ані крышку не зайздрошчу тым, хто заваяваў сабе права пісаць дрэнна. Колькі ў мяне хопіць сіл, я буду старацца не трапіць у іх шматлюднае воінства».

Словы Святлова [1]. Назваць іх сваімі — таксама трэба мець права. І я хачу яго мець.

* * *

Учора ўвечары, седзячы над Нёманам, я адчуў яго ціхую, быструю, чыстую плынь на ўсю яе беларуска-літоўскую працягласць,— так, як калісьці адчуў быў аднойчы Віслу. У якую быў закаханы Бранеўскі.

* * *

Хто збірае ў адно, у свае «Людзі на балоце», а хто трэ распырсквае, як я, каб потым сабралася ў адно. Трэба і гэтым займацца, асабліва калі не пішацца большае, як мне цяпер. Можа, бог дасць, пакуль што.

* * *

Глухі васьмідзесяцідвухгадовы Пятрусь, прататып майго Асечкі, апошні [redacted] тых, чыйму аптымізму я ў «Байдунах» прапеў адыходную [2].

Можна было б і на могілках прачытаць аповесць сваё вёскі, якую я пісаў і ў «Гуртавым», і ў іншых рэчах, і ўсё яшчэ не дапісаў.

Куды я ўсё спяшаюся? Вось і сюды ехаў [redacted] добрым намерам — падантэіцца, а ўжо вось думаю, што вяр-

---

[1] Цытуецца па кнізе Л. Лібядзінскай «Зялёная лямпа».

[2] Гэты і тры наступныя запісы зроблены ў родным Загоры, на Міршчыне.

нуцца, як меркаваў у першым варыянце, трэба не дваццаць трэцяга, а дваццатага. А трэба спакою і пранікнення, як учора трохі было, калі і ў жыта заходзіў з могілак, і сядзеў на камені пры травяной дарозе з могілак на гасцінец, зверху гледзячы на даліну. Як тут у нас прыгожа, калі на ўсё, хоць і добра знаёмае, глядзець свежым вокам!..

Два адчуванні:

Яшчэ ўсё не адвыкну ад нейкай тут няёмкасці, што я і сапраўды пісьменнік.

І другое:

Няўжо і перад самім сабою можна пазіраваць?

* * *

Скідаючы з воза на чысты закутак двара недасохлае сена, Цімох, якому, як мы з ім прыкінулі, якраз сёлета семдзесят, бяззуба рагоча з таго, што ўжо тым часам трэба збірацца дахаты. А яго ціхая, мілая Алеся, наша найлепшая даваенная артыстка [1], якой ужо таксама не намнога менш за мужа, з народнай шчырасцю прызнаецца мне:

— Я, Ваня, вельмі ж баюся...

Успамінаецца яе маці, быстрая баба Параска, што перажыла ўсіх, апроч Алесі, дзяцей. Успамінаю братоў Алесіных, адзін з якіх загінуў у сорак чацвёртым, а другі ў сорак пятым. Успамінаю пляменніка Лёню. Добры хлопец стаў без віны вінаватым: вяртаўся на сваім грузавіку з работы, а тут з двара на вуліцу вылецеў хлапчук, якому маці давала за штосьці лупцоўкі,— сам трапіў пад заднія колы. Лёню апраўдалі, але ён, і так не вельмі здаровы, пасох, пасох пасля гэтага і памёр.

Я толькі што быў на нашых могілках, бачыў там помнік з пералікам іхняй радні: баба Параска, абодва сыны, бабін унук, гэты самы Лёня, і яшчэ не ўсё — і Лёнеў сын, ужо незнаёмы мне, што памёр на дзесятым годзе. Помнік паставіла Алеся — каму дачка, сястра, цётка, а каму і бабка — за раз. Не з-за ашчаднасці па ўсіх адзін, а ўжо няхай усёй сямейкай...

---

[1] Удзельніца мастацкай самадзейнасці.

Няўжо, Алеся, і я вельмі ж баюся?..
Ці мне трэба думаць яшчэ больш па-народнаму: туды збірайся, а жыта сей?

* * *

Ранак не дажджлівы, а імглісты пасля ўчарашняга дажджу. Пад нагамі чорная гразь, а навокал і зверху — буйная, мокрая зяляніна.
У душы абуджаюцца нейкія ўрыўкі народнасці, адчуванне яе ілюструецца словамі тых, што сапраўды народныя.
Выходзячы з хаты, успомніў, па-новаму адчуў яе, нашу народнасць, у Коласавых, так жа даўно вядомых радках:

А старацца будзеш,
Да навукі здатны —
Я прадам кароўку
І кажух астатні...

А потым, гледзячы на вуллі, з якіх яшчэ з-за сырасці не выляталі пчолы, успомніў Пушкіна: «Как весенней теплою порою, из-под утренней белой зорюшки...» — цудоўнае, што так хвалявала мяне ў юнацтве.

* * *

Палявая дарога на загуменні. Ільнянішчы, лужыны і гразь пасля дажджу. Седзячы ў калясцы матацыкла, нізенька над зямлёю, свежа адчуў, як гэта мне калісьці — ад зямлі, ад працы добра было ўзяць у памытыя рукі кнігу.

* * *

Цяжкае ўражанне з залы суда. Можа, не «дастаеўскае» яно, хутчэй «талстоўскае» — калі на той працэс глядзець вачыма па-акіянску прасторнага і глыбокага рэалізму.
На лаве падсудных — адзін былы паліцай, ужо даўно, даўно паліцай, што трыццаць два гады баяўся свае крывавае маладосці, раскрыцця яго таямніцы і расплаты, суда, які вось і прыйшоў...
Відаць, толькі адзін старшыня суда сяк-так памя-

тае той час, бо два яго маўклівыя памочнікі — маладзейшыя. І пракурор яшчэ адтуль, з ваенных дзён, нават з франтавымі ці партызанскімі планкамі. Адвакат — пасляваенная... ужо не дзяўчынка і не дзяўчына, а маладзіца. А салдаты-канвойныя — калі яшчэ не ўнукі па ўзросту, дык маладзейшыя дзеці падсуднага. Публіка — адзін я.

І ўся гэта трагедыя такая сумная і сцішная...

Потым у залу зайшла і села пажылая жанчына і, праслухаўшы паказанні аднаго са сведкаў, таксама паліцая, ціха сказала мне: «Яго ж не судзіць, а трэба адразу застрэліць!..» Сведка гэты, калі яго ўвялі канвойныя, здзівіў мяне сваім «благообразием» — саліднай лысінай, сівізною на скронях, прыстойным гарнітурам.. А пачаў гаварыць, дык — у адрозненне ад падсуднага і першага сведкі, саўгаснага рабацягі — зусім не прыглушана, а бойка і смела. Ад тону яго гаворкі сцішна стала па-іншаму: ад думкі, якія людзі яшчэ жывуць паміж нас... Ён жа рабочы, майстар, «гегемон», выгляд якога і язычок маглі расчуліць не аднаго энтузіяста вытворчай тэмы...

Падсудны — сын актывіста, забітага кулакамі, і настаўніцы, закончыў восем класаў, быў камсамольцам. Першы сведка — прасцяк з трыма класамі, а гэты, другі, сын забітага партызанамі паліцая, і за тры дзесяцігоддзі не бачыць свае віны. Яму было тады семнаццаць, падсуднаму і першаму сведку па дзевятнаццаць, яны ўдзельнічалі ў аблавах на жанчын, у якіх забіралі дзяцей, каб браць у іх кроў для параненых немцаў, пасля ліквідавалі Трасцянецкі лагер...

Якая бездань складанасці, калі ўжо брацца разблытваць ды паказваць прыроду здрады так, як рабілі гэта вялікія!..

* * *

Дзеці хочуць... нават не толькі хочуць, а проста бачаць усіх, хто акружае іх, добрымі, ласкавымі, а хто не такі — той у іх «нехарошы».

Хворыя — як дзеці: не толькі сваёй бездапаможнасцю, але нават, хочацца сказаць, і нявіннасцю. Чакаеш клопату, ласкі, і як жа добра сустракаць такое ў няні, у сястры, у доктара, асабліва ж — у тых, што

робяць пры табе найгоршую работу. Успамінаецца Герасім са «Смерці Івана Ільіча». А ўдзячнасць мая сканцэнтравалася на нянечцы Галі, мілай дзяўчыне з апаленым тварам, равесніцы майго Андрэя: яна так старанна і мыцца мне памагае, і папраўляе пасцель... І ўсё гэта, божа мой, за нейкіх шэсцьдзесят рублёў у месяц!.. Ва ўдзячнасці такой, як у малых, ідзе на спад няёмкасць дарослага [1].

* * *

За пяць дзён мяне наведалі трынаццаць чалавек, з іх дзесяць не па сваяцтву. І думалася пра тое, як мала ўважлівы быў я да маіх сяброў, калі хварэлі яны. А самому ж як добра адчуваць увагу, спагаду, сімпатыю да цябе!.. Лежачы *вышэй над сваёй будзённасцю.*

* * *

Чытаю «Росповідь про неспокій» Юрыя Смоліча, і добра ўспамінаецца, як мы з ім сустрэліся на з'ездзе ў чэрвені і надзвычай цёпла, светла пагаварылі — нібы прадчуваючы... Глупства: не прадчувалі мы, што гэта ў нас апошні раз, а проста адчулі патрэбу павітацца, пагутарыць, пачуць цяпло душы адзін у адным. І гэта важна. Таму вось і ўспамінаецца добра.

* * *

Днямі, думаючы пра магчымае заканчэнне, адчуў, што вось я і не шкадую, што так і не стаў... ну, скажам, Дастаеўскім, пра якога тады, дарэчы, чытаў, і які, яшчэ раз дарэчы, памёр на шасцідзесятым годзе.

А цяпер вось не магу ўспомніць, ці была ў мяне калі-небудзь ажно такая амбіцыя, ці толькі хацелася быць проста добрым пісьменнікам.

Колькі тут шчырасці, колькі стомы і колькі самазадаволенасці?..

А стол пісьмовы бачыцца, хоць ён і вельмі далёка...

---

[1] Гэты і дзевятнаццаць наступных запісаў зроблены ў бальніцы.

* * *

Упершыню мне сумна. З самага ранку. Недзе на нейкім краечку страху... Калі і выплыву, дык не зусім шчаслівa, трэба ўжо будзе няньчыцца, баяцца да канца. Ва ўсякім выпадку, штосьці ўжо закончылася, а штосьці пачнецца. Як эпілог. Абы толькі ціха ды працавіта. Усё яшчэ не верыцца, што трэба *пакінуць, распарадзіцца* тым, што пакідаю. Можа, гэта і добрае адчуванне...

* * *

Былі ў маім жыцці казарма, лагер, бальніца (месяц улетку 1945 года), цяпер вось зноў прымусовае прабыванне з людзьмі, на доўгі час тымі самымі. Зноў пазнаванне, і такое вось вывучэнне жыцця.

Са жніўня сорак пятага прыемна помняцца ўпершыню прачытаныя «Том Соер» і «Гекльберы Фін», і на бальнічным ложку алоўкам у блакноце напісаны «Мой зямляк»... Горш за ўсё, што цяпер не пішу. Хоць і менш, як тады было, людзей у палаце, хоць і патрэба ёсць.

Няўжо жадання менш?

Лавіў сябе нават на тым, што нібы і абыякавы быў да магчымага канца, а цяпер, калі значна больш праяснілася на лепшае, таксама вяла-спакойны, як быццам так ужо многа ўсяго наперадзе — і часу, і магчымасцей...

Зрэшты, зачаста вялым, леным, непладавітым быў я заўсёды, рабіў значна менш, чым можна і трэба было.

* * *

Дзіўна і, відаць, няправільна, што я не запісваю пры свежым жаданні адразу ўсё, што трэба, поўнасцю, а толькі занатоўваю сам сабе заданне на потым, нібы ўпэўнены такім чынам, што час на ўсё гэта — будзе.

* * *

Хочучы быць вельмі таленавітым, у сэнсе — вельмі слаўным, колькі мы думаем пра тую сціпласць, якою вызначаліся найлепшыя з таленавітых?..



Крашэўскі [1], «Chata za wsią».

З маленства ішла за мною назва гэтай кнігі, паэтычна прывабная. Нарэшце прачытаў, і не хочацца думаць пра недахопы аповесці, бо добра на душы ад яе ўзнёслай чалавечнасці.

(А недахопы такія: сям-там сентыментальнасць, часам нацыянальная ці класавая абмежаванасць аўтара, нейкі казачны «хэпі энд», што, зрэшты, разумеў і сам Крашэўскі.)

Што я ведаў з яго трохсот (ці яшчэ больш) тамоў? Цьмяны ўспамін пра «Starą basn» [2] і яшчэ больш цьмяны пра гістарычныя аповесці, чытаныя падлеткам. А тут мне згадваўся і зямляк Сыракомля, і нават маляўнічы Дрэздэн, дзе пісалася гэтая рэч, і сам яе аўтар, як быццам вядомы, і добра думалася пра тое, што вось больш за стагоддзе прайшло, а сутнасць гэтага твора, аўтарава любоў да беднага, простага чалавека, любоў да здаровай красы жыцця, сіла ягонага слова жывуць амаль ва ўсёй сваёй свежасці і сёння робяць сваю вялікую справу.

І такая драбніца. Недзе Леў Мікалаевіч гаварыў, што многія творы дарма шчасліва канчаюцца вяселлем галоўных герояў, што канчаць гэтым — усё роўна што канчаць тым, як на герояў напалі ў лесе разбойнікі... І вось у Крашэўскага гэтая ж думка, спачатку выказана шырэй: «Толькі ў кнігах вяселлем усё канчаецца: у жыцці — з яго толькі і пачынаецца гісторыя людзей: пасля яго ідуць першыя радасці, пакуты, надзеі, расчараванні, праца і цэлы шэраг, раней вядомых толькі з назваў, пачуццяў і выпадкаў...» А ў самым канцы аповесці думка паўторана так: «Бо ў казках толькі ўсё канчаецца вяселлем, на свеце ад яго пачынаецца». Крашэўскі напісаў гэта ў 1852 годзе, Талстой пазней, але ж напэўна па-свойму, не прачытаўшы чужога.

Вось і так сутыкаюцца здаровыя, цікавыя думкі.



Учора доктар сказаў, што паляжаць давядзецца яшчэ два месяцы.

---

[1] Крашэўскі Юзаф Ігнацы (1812—1887) — польскі пісьменнік.
[2] «Старадаўняе паданне».

Трэба вучыцца тут працаваць, тым больш, што і сапалатнікі людзі прыстойныя. На чарзе — закончыць перапісванне Лынькова [1] і, можа, напісаць пра таго паралізаванага падлетка, вершы якога давялося калісьці забракаваць... [2] Пісаць — «як бог на душу палажыць» — не баючыся, што адстайная лірычная бессюжэтнасць, бо гэта ж у мяне, здаецца, не ад ленасці, не ад дэпрэсіі, як сцвярджае таварыш N.

Патроху думаю, як буду рабіць пяцітомнік. Прыходзіць сяды-тады думка: «Забалоцце» перагледзець і даць,— можа, змагу ўжо без агіды і нават болю дакрануцца да яго. А ці варта, столькі пацярпеўшы за тое, што не ўключыў аповесць у чатырохтомнік?.. І зноў жа другое — гэты, новы, збор твораў трэба рабіць шчадрэйшым, больш поўным, можа, апошнім.

Архіў таксама прывяду ў парадак, пакінуўшы толькі найважнейшае, каму-небудзь патрэбнае.

* * *

Зноў успомніліся два байстручкі — Казак і Немец, адзін ад арэнбургскага казака, другі ад немца, сыны дваюрадных сясцёр. Бедныя, няшчасныя хлапчукі. Як іх зводзілі біцца, нібы пеўняў, і мне тады шкада іх было і не смешна. Толькі адчуваючы тое, што цяпер думаецца свядома.

Тэма [3].

* * *

Па радыё «Ты ждешь, Лизавета», а мне зноў успомніўся канец цудоўнага лета 1944 года, калі мы з N. вярталіся з Мінска ў Мір, пад'язджалі на ваенным «студабэкеры», дзе ў кузаве былі на лаўках дзяўчаты ў летняй афіцэрскай форме. Выпускніцы свярдлоўскага медінстытута — на фронт. І мы спявалі, у тым ліку і «Лізавету». І помняцца мне тыя мілыя спявачкі, цяпер ужо яны здаюцца не маладзейшымі сёстрамі, а дочкамі,— помняцца з сумным адчуваннем віны...

---

[1] Нарыс «Працаваць, сумаваць, смяяцца».
[2] Мініяцюра «На раздарожжы».
[3] Да задумы аповесці «Золак, убачаны здалёк».



Сюды-туды, і зноў у душы маёй свята, светлы настрой... Вось і цяпер, чытаючы маладога таджыка, Цімура Зульфіякарава [1], успомніў мілую, добрую Гульчахру [2], нашу даўнюю дружбу і перадапошнюю маскоўскую сустрэчу, у выніку якое ў Душанбе выходзіць мая кніга. Маленькая — «Сірочы хлеб» і «Адзін дзень» [3]. А ці ж абавязкова, каб вялікая? Важна і найважней, што свята.



На даляглядзе горы — можа, Гісары, можа, Памір. І як бы яны ні клікалі цябе ў шчаслівую і журботную даль — незвычайнае, найвялікшае не там, а тут, адкуль ты бачыш яго, адкуль ты выходзіш, дзе твая ціхая крынічанька, твой чысты пачатак.

А чаму горы? Я толькі думкаю там, дзе бываў, пра што цяпер вось чытаю, а справа ўся ў даляглядзе, туды нам так хацелася і хочацца, і ў той мясціне, з якой мы выйшлі і куды мы так часта вяртаемся ўдзячнай памяццю.

З тае мясціны я і пачну свае слова. У новай рэчы, пра якую многа думаю гэтымі днямі [4].



У рабоце М. Касвінава пра Мікалая II («Двадцать три ступени вниз»), там, дзе гаворыцца пра ахову дарог, калі па краіне ехаў цар, найбольш уразіў лёс плытагонаў.

Плывучы сабе па рацэ, яны не ведалі, не чыталі ў аб'явах, не чулі, што ў тыя дні было сурова забаронена набліжацца і да чыгуначных мастоў на аўгусцейшым шляху,— плылі, падплывалі і жандары расстрэльвалі іх з моста ва ўпор...

Які тупік, якая страшная тэма!..

---

[1] Аповесць «Первая любовь Ходжи Насреддина».

[2] Сулейманава Гульчахра — таджыкская паэтэса.

[3] У кнігу пад назвай «Сірочы хлеб» уключаны аднайменная аповесць і апавяданні «Адзін дзень» і «Апоўначы».

[4] Да задумы аповесці «Золак, убачаны здалёк».

«Не будь аиста да жаворонка, пожалуй, бедному землепашцу и головы незачем было бы ввысь поднимать».

Гэта — у Ядвігіна Ш., з артыкула «Не убивайте их!!.», сказана па-руску і нібы між іншым. А просіцца на эпіграф.

Чытаючы яго «Золата», якога не пасаромеўся б і Чорны, думаў спачатку: «Як жа я, невук, не ведаў такога дагэтуль?», а потым убачыў у каментарыі, што гэты, на жаль, не закончаны раман, друкаваўся толькі ў газеце, пяцьдзесят пяць год таму назад!..

* * *

Юрый Куранаў («Голос ветра») здаецца трохі перасалоджаным, залішне паэтычным. Ажно думалася, каб і самому не напрыкрыць гэтым чытачу... Юрый Бондараў у сваіх «Мгновениях» як быццам лепшы. Думалася, чытаючы яго, што жанр гэты — хоць і кажуць некаторыя: «пасля смерці» — усё больш ды больш «уваходзіць у моду».

* * *

Калі ўжо старасць, дык няхай не такая, як у таго былога начальніка, што тут, у бальнічным холе, бурчэў нядаўна на экран тэлевізара, нават і пальцам нямоглым тыцкаў: «Трус! Он трус! Если бы все мы так бегали!..» І гэта — на цудоўнага юнака з «Балады пра салдата», якую я ці не чацвёрты ўжо раз глядзеў з высокім хваляваннем.

І мемуары яшчэ шкрэбае, каб зацвердзіцца ў вяках са сваім гіпертрафіраваным самалюбствам. Піша, хоць ужо і пытаецца ў другога такога ж: «Слушай, а кем я работал в Бресте перед войной, ты не помнишь?..»

* * *

Чытаючы Мейлера [1] «Нагие и мертвые».

Калі ваюють староннія,— у гэтым выпадку амерыканцы з японцамі,— калі адсутнічае, як сказаў бы

[1] Мейлер Норман (нар. у 1923) — амерыканскі пісьменнік.

Л. М. Талстой, «дурман патрыятызму» — яшчэ ясней відаць злачыннасць, нялюдскасць вайны, найбольшай бяды чалавецтва.

* * *

Мала знаёмы таварыш, якога я даўно не бачыў і якога памятаю стройным і энергічным, увайшоў у нашу палату пры дапамозе жонкі. Твар бледны, спакутаваны, падобны да апошняга выгляду.

Пачаў — усё пры дапамозе жонкі — мяняць бялізну. Спакойная, спраўная, пажылая жанчына, яна распрастала складзеную, пругкую, як ■ марозу, белаcнежную кашулю, склееную ад крухмалу. Ён скінуў кашулю хатнюю, агаліў свой раздзьмуты жывот з вялікай мецінай ад нядаўняй аперацыі.

— У Бараўлянах рабілі,— сказаў мне, умасціўшыся пад коўдру.— Цяпер вось жывот вельмі пучыць. А болю няма...

Мне сцішнавата, няёмка ад назвы шпіталя, за якім стаіць да жудасці моднае слова: рак...

Жонка моўчкі, дзелавіта ўладжвае яго гаспадарку: сёе-тое пераклала з сумкі ў тумбачку, пагаварыла з ім, паправіла коўдру, потым сказала:

— Ну, я пайду.

Як прабачэння просячы. Нагнулася над ім, пацалавала, і ўжо тады, ідучы да парога, нарэшце заплакала.

І тут я ўбачыў на месцы яе і яго — сваю і сябе, і найвышэйшая мудрасць кахання, дружбы дакранулася да душы.

* * *

Добры чалавек, але слабы літаратар дорыць табе сваю кнігу, часткова, па публікацыях у прэсе, ужо знаёмую табе, і так няёмка, што нельга будзе сказаць яму пра гэтую кнігу штосьці добрае — калі не лгаць...

* * *

Дзіма [1], відаць, асуджаны. Так Тоня [2] званіла Ніне, што я пачуў увечары [3]. Кола звужаецца... І што гэта —

---

[1] Кавалёў Дзмітрый Міхайлавіч.
[2] Кавалёва Антаніна Андрэеўна — жонка Д. М. Кавалёва.
[3] Запісана ў санаторыі «Аксакаўшчына» каля Ракава.

чаму я ўжо нібы гатовы пісаць слова пра яго, пра тое, кім ён... быў для нашых братніх літаратур, для многіх з нас, і хто ён для мяне?.. Што гэта — чэрствасць мая ці тое найбольшае, што я магу зрабіць, не могучы нічым дапамагчы ні яму, ні Тоні?..

І што гэта, няўжо толькі «слабыя нервы», што я вось толькі што плакаў, слухаючы па тэлевізары песні, і даўно, і нядаўна вядомыя, любімыя? Не! — тут ужо быў і Дзіма, і многае, што перажылося...

І што гэта яшчэ, што я хапаюся часамі запісваць адразу, як толькі з'явіцца нейкая думка ці нейкае адчуванне, не даўшы думцы той аформіцца, не баючыся адчуванне спалохаць заўчасным дотыкам?..

* * *

Нечакана і, здаецца, добра дапрацаваў «Забалоцце», нічога не дапісваючы, а па праву дыстанцыі, адноснай спеласці вылузаўшы галоўную сутнасць з таго, што рабіла аповесць горшай, чым яна ёсць.

Перачытваю, чытаючы пасля перадруку, і ў хваляванні вяртаецца думка:

Калі гэта зусім дрэнна, дык чаму ж я хвалююся, за многім тут бачу і перажытае, і людзей, без якіх я быў бы значна бяднейшы?..

* * *

Чытаю кнігу В. Прышвіна «Наш дом» і думаю: а колькі ж ён, Міхаіл Міхайлавіч, паўплываў на мяне сваім малафармізмам?

Свядома ці несвядома я прыняў яго прыклад служэння?.. Упершыню я ўзяў у рукі яго кнігу («Жэньшэнь» і запісы) у 1942 годзе, а сам запісваў з 1932-га. Думалася нават, што з гэтым я толькі ў нашай літаратуры «первый парень на деревне», а ва ўсесаюзнай — пераймальнік, як нехта можа сказаць. Глупства, хай кажа!..

* * *

Калі «ўсё на свеце паўтараецца», дык кожны з нас усё-такі, і я ў тым ліку, непаўторны. І, пішучы, трэба быць шчырым, самім сабою — галоўная ўмова.

Падумалася так, як толькі выйшаў да мора [1], на адвячоркавую праходку, падумалася, як быццам нечакана. А гэта ж усё — вакол маіх «Казака і Немца» [2], што не «вытанцоўваюцца»: не магу знайсці адпраўнога пункта, скампанаваць матэрыял, якога сабралася, можа, не менш, чым будзе тэксту.

* * *

Дзён некалькі таму назад узнікла і зноў вось, ужо не першы раз, паўтарылася думка, якою я нібы хачу пацешыць сябе ў беспрацоўі,— думка пра тое, што апавяданні мае — не падобны адно на адно? Хацеў заняцца параўнаннем, але... паленаваўся, ці што: «Хто захоча, няхай параўноўвае». Але не толькі з ляноты (спіцца тут добра) не параўноўваў я тыя «арыгінальныя апавяданні», а баронячыся ад нясціпласці. Хаця таго, што памагае мне аберагаць сціпласць, часамі бывае, здаецца, зашмат. Вось жа і з «Ніжнімі Байдунамі» цуду не адбылося: паўтара года прайшло пасля рускай публікацыі і... нідзе ані слова. Нават пра беларускую публікацыю, амаль за два гады, прыстойнай рэцэнзіі не было. А ў гутарках хваляць, і добрыя хлопцы, разумныя, і шчыра. Такая ўжо відаць, планіда — працуй, не чакаючы добрага слова.

* * *

Старамоднае вызначэнне зместу ў пачатку кожнага раздзела, практычна непатрэбнае, бо не чытаецца, калісьці, яшчэ ў школьным маленстве, так спадабалася, так хвалявала мяне, што ў нейкай аўтабіяграфічнай прозе, якую я тады «планаваў», а можа і пачаў... здаецца, што пачаў, быў такі пералік, а ў ім «Wuj Naum» — усё той жа дзядзька Навум, з якога выйшаў і кравец Лапінка, у «Праведніках і зладзеях», і дзядзька Адам у рамане, і хросны ў «Байдунах»...

* * *

Учора, калі праходжваліся з Ніліным пасля абеду па зялёных Дубултах, я ўспамінаў (дарэчы) пра мой

[1] Гэты і сем наступных запісаў зроблены ў Дубултах.
[2] Першая назва аповесці «Золак, убачаны здалёк».

страх смерці ў 1933 годзе. Як я, пакінуўшы коней у плузе, пайшоў на маласельскія могілкі пад старымі рэдкімі соснамі і, толькі перабраўшыся цераз спрадвечны зарослы равок, спыніўся — жыва адчуў пад сабой мноства даўніх і яшчэ ў многа пластоў даўнейшых шкілетаў...

«А вы талантливый,— сказаў мне Павел Піліпавіч.— Это волнение есть и в ваших книгах. Иногда его даже слишком много».

Чытаў ён, відаць, «Витражи», а можа і яшчэ штонебудзь, бо кнігі я яму пасылаў. Не верыцца, што чытаў? Крыўдна, што не чытаў?.. А што я ведаю з ягоных твораў? «Жестокость»(!), «Испытательный срок» і некалькі апавяданняў. Мала. А можа і нямала, каб ведаць, які ён па-сапраўднаму таленавіты.

* * *

Цудоўная сцэна са старым самотнікам-кітайцам, які, расказаўшы Арсеньеву сваё жыццё, глыбока і надоўга задумаўся каля вогнішча, што паволі і надоўга расцягнута гасла.

«Не надо, капитан»,— сказаў Дэрсу Узала.

І сапраўды, калі чалавек успамінае сваё жыццё, яго не можна непакоіць. Хочацца дадаць: для гэтага яму патрэбна цішыня.

Маё новае будзе, відаць, зноў жа такі ад першай асобы. Хоць і з мастацкім домыслам і свабадней. Як у «Байдунах».

* * *

Арсеньеў — пасля насычанай значным зместам і нялёгкім вопытам гутаркі грунтоўна падрыхтаванага першаадкрывальніка — раптам дае высокае мастацтва. Усё той жа дзевяты раздзел са старым кітайцам. А гэтае «раптам» — толькі маё, бо я толькі цяпер адкрываю яго, Арсеньева, для сябе, хоць пастанова наконт гэтага была прынята яшчэ ў 1962 годзе, у яго музеі.

* * *

Мора, нарэшце, аціхла і пацяплела. Каля берага лёгенька, як папяровыя, плаваюць чайкі. Па дзве, па

тры, чародкамі. На воллях, какетліва паўзнімаўшы галоўкі і вострыя хвасты. Папяровыя пілоткі.

Спяваецца ад такое свежасці і красы. Ходзіцца па такім сыраватым і цвёрдым пяску.

З пяску такога добра лепяцца каля вады розныя «гарэльефы». Бачыў учора ўвечары, як адзін падлетак займаўся гэтым. Ды зацікавіў не ён, не яго работа, а тое, што ўбачыў раней, на пустым ужо беразе.

Галава русалкі. З кучаравай раскошнай прычоскай, з бусамі з каменьчыкаў, з кветкамі з карычнева-зялёнай ціны — вяночак над ілбом. І ўсмешка — жывая і мілая.

Падумалася цяпер: выпадковасць гэта ці талент? А колькі ў таленту выпадковых знаходак?.. Бо я знайшоў тую русалачку, прайшоўшы даволі далёка па беразе. Сляды курортнікаў абмінулі яе, аднак усмешкі ўчарашняй ужо не было: за ноч зняло яе толькі сырасцю ці, можа, і дожджык які раскляваў. Ужо таго «чуть-чуть» няма, «выпадковасць» прапала.

* * *

Закончыў другую аповесць Тамсаарэ[1] («Избранное» пачаў з апавяданняў і мініяцюр) і выраіпыў запісаць пра пашану і ўдзячнасць да гэтага чалавека, магіла якога пад соснамі, без помніка, толькі з прозвішчам і датамі на чырвонай гранітнай плітцы — у зялёнай траве, на спадзе магільнага грудка — бачыцца мне з лета 1962 года.

* * *

У лесніка дзве замужнія дачкі-блізнячкі, па дваццаць пяць гадоў, але адна здаецца старэйшай, бо дзіця ў яе большае. Голас прыгожы. Калі мы спявалі ўвечары каля вогнішча, яна хораша прытулілася да мужа, спакойнага хлопца, і, ведаючы сабе цану, усё настойвала ў песні «Мой костер в тумане светит» на яшчэ адной страфе:

Ты да я — нас будет двое,
Ты вздохнешь, я повторю,
Сердце скажет поневоле:
Одного тебя люблю.

---

[1] Тамсаарэ Антон (1878—1940) — эстонскі пісьменнік.

За год пасля таго вечара некалькі разоў успамінаўся мне яе голас, і думалася, што страфа гэтая — фальклор, дадатак. Сёння нарэшце праверыў у Палонскага: так, гэтага няма. І раптам, у каментарыі, новае «адкрыццё»: музыка тут — Чайкоўскага!..

Успомнілася хваляванне, якое адчуў калісьці на вясковым сваяцкім вяселлі, пачуўшы гэтую песню, яе цудоўную мелодыю з баяна і скрыпкі, у пустой яшчэ хаце, ужо з накрытымі сталамі, але яшчэ без вясельнікаў. Нейкі час гэта нават здавалася тэмай, як тое «кукурыку» на кларнеце, што не вымучылася ў самастойнае, а ўвайшло ў «Ніжнія Байдуны».

І яшчэ адно прыгадалася, яшчэ даўнейшае: як мы з Шырмай сядзелі побач на занятках універсітэта марксізма-ленінізма, слухалі нуднага дакладчыка, а ў памяці маёй не змаўкала царкоўная песня «Не рыдай мене, мати»... Шапнуў пра гэта Рыгору Раманавічу, а стары ўсміхнуўся:

— Галубчык, дык гэто ж Глінка!..

* * *

Учора гуляў з унучкай у парку, дзе дзіцячыя атракцыёны. Проста расчульвала радасць малечы. І зноў думалася, як пра тэму,— стары, што катае малых на поні. Вясёлы жарэбчык, вазок на ціхім гумавым хаду, званочак пад дугой і цяністыя алейкі вялікага, вясёлага квадрата іх дарогі... Нядрэнна і старасць такая — пры чыстым сумленні.

* * *

Абмежаваны «сваёй кодлай» сталічны крытык не ведае нічога па-за гарадской рысай сталіцы, апрача некаторых, больш модных у дадзены час, правінцыялаў. Як конь з торбай сечкі на храпе — жуе толькі тое, што ў торбе, што далі.

А наш «адзін з лепшых» такі ўжо нуднік, што, чытаючы калісьці яго артыкул пра мой раман, я ў сумоце падумаў: каб гэтае вучонае абгрунтаванне можна было прачытаць нейкім цудам раней, чым пачынаць той раман, дык не захацелася б і пісаць яго... Гэта я ўжо, здаецца, калісьці запісваў. Ды вось днямі зноў прыгадаў, убачыўшы яго новы нудны артыкул — мна-

гаслоўную пахвалу таму, што ў гутарках высмейвае. Да нудоты — яшчэ і крывадушнасць. Ужо і зусім занадта.

* * *

...У Маркеса [1], пры ўсім яго жыццёвым, не штучным славутым «сэксе», лаянкі, грубасці, смярдзючага натуралізма няма. А я, чытач, усё бачу, і мне «на ўсю губу» дастаткова, прыемна ад гэтай яго паўнакроўнай жыццёвасці.

А якое мудрае, глыбока эшаланіраванае буйства свабоднай і яркай фантазіі ў гэтых яго «Ста гадах адзіноты», якая свежая, нястомная ігра кантрастаў!.. А стыль, насычанасць фразы, ударная сіла слова якія! Хоць вось гэта, што так і хацелася пазначыць на полі і пазначыў бы, каб не чужая кніга: «Остальные ветераны — самые достойные, все еще ждали извещения о пенсии в темных углах общественной благотворительности, одни из них умирали от голода, другие, питаемые кипевшей в них яростью, продолжали жить и медленно гнили от ярости в отборном дерьме славы». Такое — не адзінае, не рэдкае ў яго і, можа, нават не найлепшае,— такі ён увесь.

* * *

Чытаю Людэндорфа [2] «Мои воспоминания о войне 1914—1918 гг.».

У справах масавага забівання створана вялікая, складаная навука. Усё гэта можа быць прабіта і знутры выкрывальна асветлена толькі здаровым, народным сэнсам.

Як чалавеку і літаратару, мне застаецца толькі позірк «знізу» — народны.

* * *

Тое, што будзе,— усё-такі не ўспамін [3]. Усё часцей пра гэта думаю. Колькі ўжо мне разоў — пасля рама-

---

[1] Гарсія Маркес Габрыэль (нар. у 1928) — калумбійскі пісьменнік.

[2] Людэндорф Эрых (1865—1937) — кайзераўскі генерал, пасля адзін з кіраўнікоў, разам з Гітлерам, фашысцкага путчу ў 1923 годзе.

[3] Да задумы аповесці «Золак, убачаны здалёк».

на, «Дум у дарозе», «Майго Чэхава» і іншага — паўтарацць сваё «двайное маленства»?.. Хочацца адпачыць, адсапціся ад першай асобы, што не ўдалося мне ў «Байдунах», аднак ёсць у «Сірочым хлебе», у рамане,— сякі-такі позірк на самога сябе збоку.

* * *

Запісныя кніжкі Валянціна Авечкіна. Як гэта добра чытаецца! І дзіўна, чаму гэта — не самастойны, не паўнапраўны жанр, чаму іх трэба абавязкова чытаць пасля аўтаравай смерці. Многія з запісаў, калі б ён паспеў уманціраваць іх у нейкі твор, напэўна ж паблякалі б.

* * *

Калісьці Мележ казаў, што ў Сяргеева-Цэнскага не было чарнавікоў. Можа, гэта датычылася толькі «Севастопольской страды», рукапісу гэтай рэчы, а можа і большага — не памятаю. Успомніў гэта цяпер, чытаючы расцягнутыя разважанні без патрэбнай канцэнтрацыі,— відаць, і сапраўды без усякага скарачэння пры перапісванні. Цягучая грунтоўнасць «Преображения человека», «Свидания», самазададзеная ілюстрацыйнасць, ажно далей — «Искать, всегда искать!» — чытаць не хочацца.

* * *

Столькі ўжо я апублікаваў пра самога сябе, да дзённікавых запісаў уключна, што не схавацца мне за нікіх Януляў ды Ясюляў [1], тым больш што і не надта я на гэта здольны. Ды ўжо і ўзрост дазваляе на непасрэдную гутарку з чытачом. Можа, трохі і пад уплывам успамінаў Гіляроўскага пра Блока, Горкага, Чэхава падумалася, што пісаць трэба ўсё-такі як успаміны, з усёй свабодай адступленняў, заглядвання ў пазнейшае, да сённяшніх дзён уключна. Не абавязкова з усімі падрабязнасцямі аўтабіяграфічнага характару, беручы з усёй строгасцю толькі патрэбнае. «Гавары пра тое, пра што гаворыш».

---

[1] Да задумы аповесці «Золак, убачаны здалёк».

Не ўпершыню адчуў у гэтым смак свабоды, якую, дарэчы, так люблю ў іншых. Не ведаю толькі, не зусім упэўнены, што рашэнне маё, нарэшце, канчатковае.

* * *

Як пробліск чалавечнасці, маленькі і мімаходзь аддадзены, зноў — праз паўстагоддзя — успомнілася дзяўчына на мірскім кірмашным возе, што ела нешта «з кулака», а як праходзіў міма незнаёмы чалавек — перастала, нібы ад сораму. А ён, відаць, і добры, і ўнутрана культурны чалавек, сказаў: «Еш, мілая, еш».

* * *

Вершы я пісаў дрэнныя, аднак і тады ўжо адчуваў тое *штосьці*, што і выказваю вось ужо сорак гадоў.

* * *

Мележ сам падрыхтаваў сваё пасмяротнае («Першая кніга»), і цяпер відаць, што так і трэба было, што ён меў рацыю.

* * *

Ішоў з бібліятэкі, стомлены чытаннем, перагортваннем дарэвалюцыйных часопісаў, і ад стомы гэтай як быццам упершыню адчуў смак мастацкага слова — такога, дзе «ни убавить, ни прибавить», як у Чэхава. Уявіў яго кнігі, з апошняга збору твораў, дый многія з папярэдніх,— з усёй непарушнай адточанасцю і сілай слова. Назаўсёды.

* * *

У рэцэнзіі на варшаўскае выданне ваенных нататкаў Капіева [1] польскі крытык піша: публікацыя пасмяротная, такому больш верыш, бо яно пісалася без усякага какецтва.

Як быццам нельга какетнічаць перад будучым чытачом, а то і проста перад самім сабою.

---

[1] Капіеў Эфэндзі (1909—1944) — дагестанскі пісьменнік.

## *1978*

Усё маё — па сутнасці дзённік. *Мая* частка Зямлі, жыццё на ёй, гэтай частцы, я пазнаваў *маё*, стараўся зразумець яго і расказаць пра гэта іншым. І гэтага *майго* так мала і так многа! І я, расказваючы пра маё — у рамане, аповесцях, апавяданнях, нарысах, артыкулах і лірычных запісах,— часамі паўтараюся, аднак, у асноўным, здаецца, іду па спіралі.

* * *

«Гэта лепш было б апублікаваць пасля аўтаравай смерці».

Гаворыцца так амаль з абсалютнай упэўненасцю: вось тады мы і пачытаем яго...

* * *

З кожнай, калісьці прачытанай, кнігай звязаны ўспамін пра час і месца, калі і дзе яна прачытана.

Цяпер, чытаючы ў японца Оэ [1], дзе ён з пашанай гаворыць пра Дастаеўскага, успамінаю, як я чытаў «Карамазавых» і «Злачынства і кару». Першы раман у 1937 годзе, па-польску, другі ў 1943, у арыгінале. У першым выпадку была вясна, сяўба — святая работа, у другім — пасля жніва касілі «гуртавое», якому я аддаў даніну памяці ў апавяданні. Тут мне адразу ўспамінаецца кіславаты пах хвашчу, воз сена і пакоша пад босымі нагамі...

* * *

Перапісваючы ўчарашняе з блакнота, успомніў Алешу — «Ни дня без строчки». Як быццам ён, можна сказаць, не мог тады пісаць якія-небудзь эпапеі... Дзякуючы Драчу [2] даведаўся (а можа ўвагу звярнуў), што Стафанік [3], пасля добрага дэбюта, маўчаў... аж пятнаццаць гадоў. Нават праверыў я гэта ў энцыклапедыі.

І Твардоўскі згадаўся, які недзе пісаў (прыблізна

---

[1] Оэ Кэндзабура (нар. у 1935) — японскі пісьменнік. Маецца на ўвазе яго раман «Абнялі мяне воды да душы маёй...».

[2] Драч Іван (нар. у 1936) — украінскі паэт.

[3] Стафанік Васіль (1871—1936) — украінскі пісьменнік.

так): несправядліва, жорстка папракаць пісьменніка, што той не піша, бо ад гэтага сам ён якраз найбольш і пакутуе.

Добра асвяжаць душу сустрэчай з такімі людзьмі, як Драч. І месца сваё бачыцца ў свеце ясней, цяплей... Учора раніцай я чытаў яго вершы. Чамусьці па-руску, другую, украінскую, кнігу ўзяўшы сюды, у вёску. А трэцяя — пра Сухамлінскага, якую я раней прачытаў, па рэкамендацыі Віткі, пасля яго прыезду з Літвы, адкуль ён прывёз мне Іванава прывітанне.

Паэт дае тое, што мае,— Іван падарыў мне тры свае кнігі адразу. Так і трэба, так раблю і я, часамі, можа, залішне сумняваючыся: а ці трэба, а ці ёмка...

* * *

Што за карысць каму з мае шчырасці, калі яна не на ўсю глыбіню? Горка думаць такое... Шукаю ў вялікіх. Міцкевіч: «Ёсць праўда, якую мудрэц нікому не адкрывае». Талстой: «Пісаць трэба так (пра самога сябе), каб брыдка было дыктаваць». Аднак жа толькі ў «Воспоминаниях» збіраўся ён расказаць пра сябе ўсё, ды так і не завяршыў гэтай апошняй споведзі. І так яшчэ падумалася, ад чаго і да запісу павяло: калі я раскажу другім пра ўсе свае недахопы — гэта таксама будзе *не ўсё* да канца, бо не змагу я быць да канца аб'ектыўны. Як у Прышвіна: чалавеку таленавітаму ўласціва перабольшваць і станоўчае ў самім сабе, і адмоўнае.

* * *

Чытаю Бебеля, «Из моей жизни», з асалодай успамінаючы параду класікаў: тут чым больш падрабязнасцей, тым цікавей. Ён, відаць, таксама трохі рызыкаваў (а месцамі і не трохі), любуючыся сваім мінулым, пісаў «для сябе», а мне вось цікава — разам з вельмі многімі.

* * *

Сённяшні дзень пачаў з перагортвання «Буквара», «Роднага слова» для першага класа, «Календара прыроды і працы». Усё гэтае дабро ляжыць яшчэ побач з

лялькамі будучай першакласніцы. Добрую справу зрабілі Клышка і Вітка! А мне сумнавата, што ў «Родным слове» майго нічога няма. І так прыемна ўспамінаецца, як Шкраба задаволена паказваў мне сваё «Роднае слова» для чацвёртага класа, а я быў рад, што там і «Лазунок», «Зялёная школа», патрэбна скарочаная, і «Дзічка» ў маёй апошняй рэдакцыі. Гэты падручнік мне захацелася мець у сваёй бібліятэцы. І недарма яно — дапрацоўванне!

* * *

Раман — за раманам... Зноў не свята, не асалода, як было з перачытваннем Купрына, а работа сумная, з перамаганнем цяжкасцей,— шматмоўнай неахайнасці, месцамі ледзь не чарнавіковай нуды. Адна «канстатацыя» і ніякіх адкрыццяў, ніякага хвалявання...

А ўранні, пад шум абложнага дажджу, які, як па вялікай палатцы, лупіў па густым і пругкім бульбоўніку, у прыцемку ад нізкай хмарнасці за акном, думалася, даволі горка, што я, мажа, і праўда бываю залішне рэзкі ў ацэнках... «Ревность по доме моем снедает меня...»? Інакш, відаць, і нельга. Толькі ўжо і самому не ныць, калі балюча, хоць і не заслужана.

* * *

Успомнілася інтэрв'ю Маркеса польскай «Kulturze»: — тое ў ім, што і мне здаецца блізкім:

«Усе мае кнігі я напісаў, грунтуючыся на міфах і сюжэтах маленства».

* * *

«Хто нас чытаў бы, каб менш было графаманаў?» — весела, але і разумна пытаўся днямі у часопісе «Poezja» адзін паляк.

І сапраўды, каму гэта шкодзіць, што той ці іншы не толькі чытае, але і сам штосьці піша? Ад любасці да літаратуры, у якой некаторыя з іх вельмі нядрэнна разбіраюцца, ім не хапае аднаго толькі чытання. І той, з іх, хто не паводзіць сябе нахабна,—добрыя нашы сябры. Ажно да Пушкінскага: «И славен буду я, доколь

в подлунном мире...» У свеце «подлунном», начамі, калі закаханыя ў слова чытаюць і пішуць, хто як можа.

Ёсць такія сябры і ў мяне, і кожны адзін такі цягне больш, чым за сябе аднаго.

* * *

У тым беларускім выданні Гашака — Ванака, якое я чытаў у вайну, не было пятага тома. Цяпер узяў яго тут, прачытаў. Як слаба! Не варта шкадаваць, што «Швейк» цяпер друкуецца незакончаны: і «Мёртвыя душы» таксама ж калісьці «дапісвалі»...

* * *

У добрай прозе Маміна-Сібірака сустрэлася ўчора («В худых душах») фраза: «Воздух, весь пропитанный каким-то специфическим ароматом». Успомніў Чэхава, які, перапісваючы «Стэп», выкідаў такое. Нядаўна, перачытваючы аповесць, нанава захапляўся яго чароўнай прастатой.

А перачытваў — пасля фільма, які амаль два месяцы не даваў спакою, усё карцела «Стэп» перачытаць.

* * *

Сумленныя — значыцца, сапраўдныя — пісьменнікі *праўдай убачанага ў жыцці* рыхтавалі прыход рэвалюцыі. Ацэнка багатых і бедных — гэтаму і ў Маміна-Сібірака верыш, і верыш неяк свежа, па-новаму пасля многіх ісцін, часамі нібы спалавелых на транспарантах.

* * *

Блакнот узяты на ўсякі выпадак, а каб пісаць захацелася — трэба штосьці знайсці.

Ідучы падлескам, што сонечна ажыў пасля дажджлівых халадоў, адчуваючы ранішнюю, сонечную святочнасць, падумаў, што Мележ не бачыць гэтага вось ужо два гады. А Міша — трынаццаты год... Ужо і верас зацвітае. І шмат маладзенькіх бярозак. І вось, як толькі дайшоў да аўсянага поля, здаецца, так жа даў-

но не бачанага, як толькі залюбаваўся ім — вачыма і далоньмі,— успомніўся даўні Машараў радок: «аўсяным золатам званю» і прыказка: «пугі старому, аўса маладому»,— захацелася выняць блакнот.

...Графаманія гэта, пазіраванне перад будучым чытачом, перад самім сабою, што я вось пішу, стоячы ў нізкіх сасновых пасадках, каля вялікага, спелага поля аўса, які і затрымаў мяне?

Хочацца — і пішу. Так жа ўсё робіцца [1].

* * *

У «Литературной России», дзе заўсёды ёсць што чытаць, чытаў днямі навелы Марка Кастрова. Імя, якое, відаць, запомніцца. А ў навелах — падтэкст: на яго Наўгародчыне хаты пусцеюць яшчэ больш масава, чым у нас,— можна купіць за дзвесце, за сто рублёў!.. І гэта ўжо так звычайна для нас, што ніякая рэдактура не заўважае за лічбамі падтэксту.

* * *

Учора ўпершыню ўбачыў перапёлку ў траве,— як яна нейкі момант нават глядзела на нас, пакуль не юркнула са сцежкі ў траву.

Цяпер праз светла-зялёнае, ледзь шэраватае лісце «дурніцаў» рэдка прасвечваюць буйныя шэра-сінія ягады.

І гэта радуе, як і перапёлка. І прытармажваюся нядаўна вычытаным у Твардоўскага пра Прышвіна: «няма чалавека, пантэізм», і пра Паўстоўскага ў яго ж: «чуваць адэкалон»...

* * *

Як сімвалічна — спелае калоссе важка хіліцца долу, а над ім, карыстаючыся гэтай сціплай важкасцю, па ўсім полі вытыркнуўся асот, ужо таксама спелы, пухова-белагаловы.

---

[1] Гэты і пяць наступных запісаў зроблены ў пасёлку Крынічнае на Міршчыне.



Як і заўсёды ў апошні дзень, перад дарогай, устаў раней і выйшаў развітацца з Нёманам, жытам, дубамі.

Учора ўвечары суседка, мая вясёлая равесніца, найлепшая ў вёсцы рыбачка, адзіноту якое цяпер акрашваюць мілыя гарадскія ўнучкі, пыталася, запрасіўшы да іхняга цяпельца каля саду: «А вы гэта, Антонавіч, стаўшы ў жыце, усё сціхе, відаць, састаўляеце?» І трэба было тлумачыць, што гэта нам пасля горада ўсё тут так люба ды хораша. Такое для яе звычайнае,— як сонца, яшчэ са сну барвовае, нізка, нягорача стаіць над лугам, як туман на рацэ бяжыць за плынню, здаецца, трошкі апярэджваючы яе, як пеўні пераклікаюцца з рэдкіх двароў пасёлка, як вераб'і яшчэ не жыруюць на цяжкіх каласах і не гамоняць, сытыя, на тэлеграфных дратах, падпускаючы чалавека смялей, чым іншыя птушкі.

Многа расы на траве, многа спакою і сілы ў дубах,— проста не ведаеш, як пра гэта сказаць...

Успамінаў днямі і сёння Астаф'ева з яго Енісеем, Распуціна з яго Агарой, і думалася, што і наша наднёманская краса яшчэ не ўся пададзена на сусветны чытацкі стол, хоць і ўдзячна згадваюцца тут Міцкевіч і Колас.



Сябры адыходзяць, кола звужаецца... І мне часамі думаецца, што я павінен спяшацца штосьці сваё рабіць, каб паспець як найбольш. А я вось устаў раненька і буду далей чытаць («Освещенные окна» Каверына), а ў апраўданне самому сабе ўспамінаю і «служенье муз не терпит суеты», і навейшае, ад Твардоўскага, пра «запас покоя», патрэбны для працы, і народнае: вышэй пупа не падскочыш.



У «Полымі» Адамчык цытуе Дастаеўскага:

«Каб напісаць раман, трэба запасціся перш за ўсё адным або некалькімі моцнымі ўражаннямі, перажытымі сэрцам аўтара сапраўды».

Чытаючы гэта, міжволі, радасна падумаў пра свой «Золак» — пра тое перажытае сэрцам, на чым аповесць і трымаецца.

* * *

Трэці раз — калі цалкам — «Вайна і мір».

Чытаючы, думалася: як жа я гэта ўспрымаў, разумеў у 1935-м, у 1945-м? Многае цяпер успрымаецца як новае, многае ўспамінаецца,— нават драбніцы, як муха з яе «и пити, пити, и-ти-ти...» — у многіх мясцінах прыгадвалася сіла першага... хочацца сказаць — азарэння.

Цяпер здзіўляюць прастата, дзелавітасць, месцамі нават скупасць і тыя міжвольныя ўзлёты вялікай паэзіі, што загараліся на гэтай прастаце, дзелавітасці, скупасці, лепш сказаць — стрыманасці, пранізваючы захапленнем аж да слёз.

Не памятаю, як я, васемнаццаці і дваццацівасьмігадовы, успрымаў другую частку эпілога. Цяпер чытаў яго толькі з павагі да аўтара. Дый першая частка здаецца не вельмі абавязковай. Заспакаенне *звычайнай* чытацкай цікаўнасці, сцягванне нітак у вузел; нават і не цікава ўсё гэта,— не абыякавасць да лёсу герояў, але адсутнасць цікавасці ў вышэйшым, глыбейшым значэнні. Памятаю, што да першай часткі эпілога нешта сьці падобнае адчуваў я і пры першым чытанні, нешта нават і грубае гаварыў Мішу пра двухпарнае, шчаслівае «деторождение». А ўчора, калі гаварылі з Якубам пра гэта, сказалася нават, ім і мною, што за такой ідыліяй дзвюх графскіх сем'яў быў жа і другі бок медаля — прыгон, гора і цемра большасці...

У гэтай сувязі думалася і пра старога Льва Мікалаевіча — як ён бачыў недахопы і ў гэтай сваёй рэчы. І не таму, што і геніі таксама растуць, а таму, што недахопы ёсць і ў шэдэўрах, і не такі ўжо гэта вялікі грэх ды брыдкае зазнайства, калі ты іх сям-там заўважаеш.

Дзесяць дзён шчасця працы, высакароднага адпачынку — «Вайна і мір».

* * *

Словы Талстога, вынесеныя Бандарчуком у эпіграф да фільма «Вайна і мір» (на фоне магутнай, сонечнай рускай прыроды): «Ежели люди порочные связаны ме-

жду собой и составляют силу, то людям честным надо сделать только то же самое». І тое яшчэ, чаго ў тым незвычайным цітры не было: «Ведь как просто». Думаў калісьці, пасля першай серыі Бандарчуковай абэржы (толькі тры серыі змог паглядзець, больш не захацелася), калі ўзнікла было, як звычайна пасля экранізацыі, жаданне перачытаць раман: дзе ж я знайду тыя словы ў акіяне «Вайны і міра»?.. А тут яно — і сапраўды «ведь так просто!» — у П'ера ў эпілогу, і магло б нават здацца нечым зусім звычайным, а не вынашанай і глыбокай, і так жа простай мудрасцю.

Запісаць тыя П'еравы словы захацелася, чытаючы ў Мана («Доктар Фаўстус»), таксама вельмі простае: «Ему было предназначено из долины чистоты подняться до высот пустынных и страшных». Упершыню так пра маленства і сталасць, а так жа проста і нібы між іншым, у густым рабочым падтэксце, не выдзеленае ні курсівам, ні абзацам.

...І яшчэ ў Мана:

«Художник всю свою жизнь остается ближе к своему детству, чтобы не сказать — более верным ему, чем человек, понаторевший в практической деятельности».

* * *

У войску і ў палоне — хлопцы з розных куткоў Заходняй, ад якіх я ахвотна і радасна вучыўся пазнаваць Беларусь, нашу родную мову.

* * *

«Книга его вполне заслуживает прочтения»,— піша Нэру [1] падлетку Індзіры пра кнігу Марка Аўрэлія.

Пры такой, як сёння, паводкавай, проста патопнай колькасці кніг, словы такія, калі падумаць,— вельмі змястоўная пахвала.

* * *

Чыстага маленства, не змешанага з пазнейшымі ўспамінамі, у мяне няма. Я намагаюся дастаць яго з глыбіняў памяці, і, як дастану, мне вельмі добра.

---

[1] Джавахарлал Неру, «Взгляд на всемирную историю».

* * *

Словы *memento mori* ўпершыню зрабілі на мяне ўражанне, здаецца, яшчэ ў школе. Помніцца подпіс пад малюнкам, дзе стары чалавек капае яму...

* * *

Паляпшаць вобраз свае маці — не грэх. Абы гэта дапамагала нам самім стаць лепшымі.

## *1979*

Не адкрыццё гэта, нават і для самога сябе, а толькі яшчэ раз адчутае, можа, мацней, чым бывала.

Лёгшы пазней, чым заўсёды, прачнуўся ўсё-такі рана, як і штодня, глядзеў на госцю-ўнучку, што спала побач. Ясна і цёпла падумалася, што дзеці — вялікая *праўда і радасць*.

Спазнаўшы столькі горкага, бруднага, колькі мы спазнаем на доўгай дарозе жыцця, разумееш, якое гэта шчасце — дакрануцца да найчысцейшага.

* * *

У першыя дні палону, па сваёй наіўнасці, я думаў, што з вайной для нас, беларусаў, усё кончылася,— будзе мірнае, новае жыццё на новай радзіме, куды я вярнуся... І таму я быў добры і светлы — у чаканні свята.

Успомніў тое, чытаючы сучасныя апавяданні Рэдзінга [1], дзе таксама шмат дабраты і святла. Няўжо таксама наіўных?

* * *

У падтрымку таго, што я апошнім часам старанна чышчу сваю бібліятэку, успамінаю прачытанае ў Нэру пра Спінозу:

«У бібліятэцы яго было толькі шэсцьсот кніг, але затое якіх!..»

---

[1] Рэдзінг Ёзаф (нар. у 1929) — нямецкі пісьменнік. Маецца на ўвазе кніга яго апавяданняў «Одиночество в Вавилоне».



Добрая кніга. Дзесяць апавяданняў, дваццаць, трыццаць... Таленавітыя, свежыя, чалавечныя.

Я іх з часам забуду. Застанецца добрае ўражанне, будзе помніцца (калі будзе) вобраз, імя іх аўтара, чалавека. Калі ж забуду яго, канкрэтнага, дык застанецца — ужо назаўсёды са мною — перакананне, упэўненасць, што ўсюды, на ўсіх кантынентах ёсць людзі, якім галоўнае бачыцца таксама, як і мне.

Няўжо такога мала?



Як многа добрых, сапраўдных паэтаў (у паэзіі і ў прозе), якіх ніколі ўсіх не ўведаю, у пазнаванні якіх — шчасце. І суму няма ад усведамлення гэтага «ніколі», як няма яго ад ведання, што не толькі сусвету, але ж і нашай Зямлі, і нашай Савецкай краіны, і Беларусі — не ўведаю на ўсю веліч, на ўсю глыбіню — ніколі.

Чылі мне не ўдалося пабачыць... Цяпер, чытаючы польскае выданне ўспамінаў Нэруды, цудоўную кнігу «Прызнаюся, што жыў», успомніў май 1973 года, белы чылійскі паруснік у Варнэмюндэ, які мы, савецкія турысты, аглядалі, пераўсміхаючыся з элегантнымі юнакамі, афіцэрамі і матросамі таго вучэбнага судна.

У тую ж раніцу яно — белае, чыстае, паэтычнае — памалу знікла за даляглядам — пайшло туды, дзе фашысцкі замок на дзвярах, раструшчаныя рукі Віктара Хары і смерць — якраз тады, як пратэст — смерць Нэруды, які вось і са мной як з вельмі многімі, на ўсёй Зямлі.

Вось ён:

«Паэт, які не апіраецца на рэчаіснасць, мёртвы. Аднак паэт, які апіраецца выключна на рэчаіснасць, таксама мёртвы.

...Гэта праўда, што свет не ачышчаецца ад войнаў, не адмываецца ад крыві, не вызваляецца ад нянавісці. Гэта праўда.

Разам з тым, гэта праўда, што мы набліжаемся да выразнага сцвярджэння: тых, што хапаюцца за насілле, адбівае, паказвае люстра свету, і воблік іх непрыгожы нават для іх саміх.

Я ўсё яшчэ веру ў сілу любові. І я ўпэўнены, што чалавечыя істоты здолеюць дамагчыся ўзаемнага разумення, узняўшыся над пакутамі, над крывёю і над патрушчаным шклом.

...Паэзія — заўсёды дзеянне мірнае. Паэт нараджаецца са спакою, як хлеб з мукі» [1].

* * *

Сяды-тады вяртаецца адчуванне, што я скажу штосьці новае, хоць бы для самога сябе,— скажу пра тыя пачуцці, якія часта даюць мне старонкі добрай кнігі.

Нібы поле з безліччу хлебных барознаў, не шэрае, свежа ўзаранае, а белае, у чым яшчэ і такая, ціха, глыбока хвалюючая краса.

На ім, з тых чарадзейных барознаў-радкоў, расце жыццё нечых думак, пачуццяў.

* * *

Несумленна ўсё-такі ацэньваць чалавека, пісьменніка, маючы на ўвазе толькі ці перш за ўсё тое, наколькі ён быў *цікавы і карысны для мяне*, аднак — жывыя, грэшныя — мы, відаць, так і пачынаем пра кагосьці думаць, даведаўшыся, што ён закончыў свой шлях.

* * *

Каб напоўніць сэнсам нашы апошнія два з палавінай марозна-снежна-сонечныя дні, узяў свежы нумар «Октября»,— з-за ўспамінаў Цвятаевай і, прачытаўшы іх, зачапіўся за ўспаміны Палявога. Цікава — перш за ўсё. Успамінаецца: «Прожил жизнь — расскажи». Потым падумалася: як добра было б найраней ведаць пра пісьменніка тое, што ён ведае сам пра сябе... Можа, гэта і не зусім адносіцца да Палявога, якога я, дарэчы, ведаю мала. «Повесть о настоящем человеке», нататкі пра нюрнбергскі працэс... А іншае або не ўзяло, яго белетрыстыка, або прайшло, як праходзіць з памяці нават і добрая публіцыстыка.

«Настоящий газетный материал пишется только для

---

[1] Гэты і сем наступных запісаў зроблены ў Дубултах.

газеты и полнокровно вне ее не живет». Сказаў ён гэта добра. Успамінаюцца ваенныя фельетоны Эрэнбурга ў газетах, кожны паасобку, і сабраныя ў кнігу, што ўбачылася мне сумнай.

Прыемна ўспомнілася, што я не цягнуў сваю «журналістыку» ў кнігі,— проста не змог, хоць і мерыўся разоў колькі, бо ад намеру такога рабілася прыкра...

* * *

Каб пасмяяцца з кім-небудзь блізкім, мог бы сказаць, што днямі было ў мяне «видение»... Ясней, чым заўсёды (а можа толькі так здаецца?), адчуў, убачыў, як гэта я, як і безліч іншых, невядома адкуль з'явіўся і невядома куды пайду, адлюстраваўшы вобраз свету ў сваёй свядомасці. Яшчэ больш (што ўжо не толькі бывала, але і пісаў я пра гэта),— задрамаў за сталом, над кнігай, соладка прахапіўся, і вельмі дзіўна стала, што ў гэтым сонечна-снежна-сасновым свеце *ёсць і я*... Як быццам нават позірк на самога сябе збоку...

* * *

«Старажытных кніг значна больш знішчана, чым захавалася»,— піша Дэнікэн[1] і, называючы колькасць кніг у знішчаных бібліятэках (кнігазбор Пталамея Сатэра — 500 000 тамоў, у Пергамоне — 200 000...), дадае, што кніг тады было не па тысячы, не па сто тысяч экземпляраў, як сёння, а *кожная ў адным экземпляры*, і ад гэтага страты — яшчэ страшнейшыя.

Слухаючы «шорах стагоддзяў» (Нэру), усведамляючы, колькі чаго было і што вось я пішу, думаючы... пра вечнасць, а гэта ж варта жалю і смеху... Ды не пра вечнасць слова свайго (гэта было б вар'яцтвам), а пра тое мы думаем, каб быць у згодзе з тым, што вечнае, найбольш трывалае ў сваёй разумнасці — пра мір і дружбу людзей, для чаго варта пісаць і жыць.

І разуменне сучаснасці не трэба атаясамліваць з газетнай злабадзённасцю, і папулярнасць некаторых «сюжэтнікаў» не варта глыбокага, няхай сабе колькасна меншага, разумення нашай патрэбнасці.

[1] Erich Däniken, «Wspomnienia z przyszłości». PIW, Warszawa, 1974.

* * *

Нэруда аднёс Урал да Байкала, а ў 1949 годзе адзначыў стагоддзе з дня смерці Пушкіна...

Пра дакладнасць трэба дбаць, а то я, чытач, магу падумаць, што і ў іншым, чаго я сам не ведаю, маэстра (без іроніі) косіць дугою...

* * *

Гэта не кампраметацыя, калі хто не разумее Эйнштэйна; адзін з навукоўцаў назваў Эйнштэйна «вялікім самотнікам», таму што ён мог гутарыць на тэму свае тэорыі толькі з некалькімі асобамі.

Чытаючы гэта ў Дэнікэна, успомніў сваю юнацкую самаадукацыю, калі я тужыўся зразумець Эйнштэйнаў «Mój obraz świata», выпісаўшы яго з Варшавы, калі не памыляюся, за цэлых пяць злотых.

Зробленая ў пасляслоўі заўвага польскага кансультанта: «Эйнштэйн мог, вядома, дыскутаваць з тысячамі дастаткова адукаваных людзей» — справы наконт мяне не мяняе.

* * *

Пакуль чытаў трохтомнік Нэру, на працягу амаль трох месяцаў, час ад часу вярталася тое самае:

Трынаццаці — шаснаццацігадовая дзяўчынка, якой адрасаваны гэтыя незвычайныя пісьмы з турмы,— мая равесніца. Успамінаючы той час у маім жыцці, я зайздросціў, што ў яе быў такі бацька, друг і настаўнік.

І другое:

Перадапошняе пісьмо да свае найдаражэйшае (carissima — як гэта хараша гучыць!), ён канчае такімі словамі:

«Такі дзень сённяшні. Якім будзе заўтрашні, залежыць ад цябе і твайго пакалення, ад мільёнаў дзяўчынак і хлопчыкаў, якія растуць ва ўсім свеце і рыхтуюцца прыняць удзел у гэтым Заўтра».

Яго дзяўчынка прыняла такі ўдзел, і няўдачы яе, і ачэрніванне — не ведаючы справы хоць бы больш-менш дакладна,— успрымаюцца... нават балюча. Памятаючы бацьку яе, іх настаўніка — Махатму Гандзі, іх цудоўную Індыю...



Днямі, прачытаўшы «Пошукі імя» Генадзя Кісялёва, хацеў запісаць, што кожны раз, чытаючы даследаванні гэтага сумленнага, працавітага, добра падрыхтаванага і здольнага работніка, і ў самога мяне адчуванне такое, што я працую. І чытаюцца кнігі яго цікавей за іншую белетрыстыку.

Цёпла помніцца ўражанне ад «Пачынальнікаў».



«Дзённік Ганны Франк».

Калісьці пачаў і не стаў чытаць гэтую кнігу. І цяпер, чытаючы, не мог — з аднаго боку — пазбыцца адчування, што гэта ўсё-такі *літаратура*, даведзеная да такога выгляду рэдагаваннем, а з другога боку — у памяці ажыў расказ П. (у партызанах Ш.) пра тое, як ён, чатырнаццацігадовы яўрэйскі хлапчук, з маленькай сястрычкай хаваўся... проста ў лесе, усю суровую зіму 1941—1942 гадоў...

Сёння дакараў сябе ўспамінам пра тое, як Б., прачытаўшы мой раман, не верыў, што Алесь і Толя (чытай: я і Міша) маглі *так* разважаць і *тым* займацца ў глухой заходнебеларускай вёсцы. І яшчэ — як абрушыліся былі, сёй-той, на мой паказ палону ў рамане, спрабуючы абвінаваціць мяне нават... у жаданні «абяліць фашызм»... Учора С. расказваў мне пра свой палон, палон чырвонаармейцаў, этапны марш па зімовай Смаленшчыне, пра голад, холад, расстрэлы, расстрэлы... Не так жа было ў маіх абодвух шталагах.

Дзяўчынка Ганна Франк хавалася не ў зімовых кустах, не з адным толькі ацалелым, амаль таксама бездапаможным брацікам, а разам з усёй сям'ёй, у культурным горадзе, карыстаючыся дапамогай добрых людзей. Дзяўчынка была адукаваная і здольная, можа, нават таленавітая. Гора было яе горам, і напісаць пра гэта яна магла так, як гэта і напісана... Прыблізна так? Не ведаю. Адчуванне няяснасці застаецца.

Штосьці падобнае... Ну, не падобнае, але таксама няяснае, адчуваў пасля нашумелых палотнаў Савіцкага. Штосьці перашкаджала, перашкаджае мне сказаць, што гэта — па-сапраўднаму добра: гэтак паказаць ду-

хоўную вышэйшасць ахвяр над катамі: падкрэсленай фізічнай прыгажосцю цела і трупаў... Зусім добра — аўтапартрэт, дзе якраз прыгажосці фізічнай няма, а сіла духу — адчуваецца.

* * *

А каб гэта ўзяў, не чакаючы, пакуль тое будзе, сам на сцяне свайго дома павесіў дошку: «Тут, пачынаючы з 19.. года, жыве выдатны беларускі пісьменнік...»?

Такое падумалася ўчора перад яшчэ адной вялізнай дошкай, з яшчэ адным «выдатны» ды «вядомы»...

* * *

Я не магу напісаць успамінаў пра Паўла Тычыну, бо мала ведаў яго, аднак не забываецца такая вось драбніца, трошачкі ад багацця, ад цеплыні яго душы. У ліфце адной маскоўскай гасцініцы мы выпадкова пабылі некалькі хвілін толькі ўдвух, і ён, на шмат старэйшы за мяне, таксама ўжо не маладога і тады, сказаў з дабрадушна-наіўнай усмешкай: «А шапка ў вас, Янка, яка хороша!» І шапка была звычайная, трусіная, толькі што новая, і сказаць яму можна было штосьці іншае, але і ад гэтага мы тады цёпла пасмяяліся, і «добрай ночы» сказалі адзін аднаму — нібы пасля значна даўжэйшай ды сур'ёзнай гутаркі.

У гэтай сувязі мне прыгадалася ўсмешка другога добрага чалавека — Мікалая Мікалаевіча Ушакова, кіяўляніна рускага, таксама намнога старэйшага за мяне. У Ерэване, сустрэўшыся на вуліцы, ён спытаўся, дзе гэта я так добра начысціў туфлі. «Ды там вунь дзед сядзіць за вуглом». А неўзабаве, калі мы ўжо ўсёй дэлегацыяй сабраліся перад гасцініцай, кудысьці ехаць, я зірнуў на ногі Мікалая Мікалаевіча, і мы з ім, як змоўшчыкі, весела пераўсміхнуліся. Больш таго: стары чалавек, выдатны паэт, што нямала зрабіў, атрымаўшы за гэта значна менш, чым яму належыцца, чалавек культурна ціхі, сціплы — ён сказаў тады, кіўнуўшы на свае туфлі: «Даже неприлично, так блестят!» І так жа молада, весела ўсміхнуўся!

Вясной 1967 года студэнты адэскага універсітэта

падарылі мне (з мноствам аўтографаў) кніжку выбраных вершаў Тычыны. Прыемны ўспамін — і пра тую «зямляцкую» сустрэчу, і пра светлы вобраз аднаго з сучасных украінскіх класікаў, з якім я сустракаўся вельмі рэдка, але значэнне якога ведаў.

У Брэсце, ужо не пры жыцці Ушакова, я з добрым пачуццём купіў яго выбранае. Няма ў мяне аўтографа на гэтай кнізе, як няма таксама ніводнага аўтографа Коласа, Тычыны, аднак павага і любоў да іх, ужо і з Ушаковым, і з іншымі сапраўднымі, ад гэтага не меншыя. Кніга Мікалая Мікалаевіча цёпла нагадвае мне і тую ўсмешку яго ў асенне-сонечным Ерэване, і светлую, красавіцкую раніцу ў Кіеве, калі мы з Міхасём Стральцовым ішлі сабе, проста шчасліва ішлі па вуліцы і, нібы ў давяршэнне нашай «беспрычыннай» радасці, сустрэлі Ушакова. Я павітаўся з ім, сказаў яму некалькі шчыра прыязных слоў, пазнаёміў з Міхасём, і ўсе мы — кожны па-свойму — прынялі тую радасць звычайнай ды выпадковай сустрэчы.

І вось я іх памятаю, тыя ўсмешкі старэйшых, і мне нават гэтага мала, бо захацелася запісаць.

* * *

Кончыў чытаць, пачаты ў Вільнюсе, другі раман Пятраса Цвіркі, «Майстар і сыны». Яшчэ толькі пачаўшы, смяяўся Аскоцкаму [1]:

— Ён маіх «Байдуноў» не чытаў, я яго «Майстра» таксама, а вось жа падобнае ёсць!..

А цяпер дадам: асабліва падобна вобразамі яго Крызаса, краўца-веселуна, «Шпачка», і маіх краўцоў, таксама гарбатых і мудрых, па-народнаму вясёлых, спісаных з аднаго майго дзядзькі Навума, праўда, праяўленых менш інтэлігентна, рэвалюцыйна, чым Крызас.

Сонца на могілках Роса, кветкі, людзі, з'яднаныя адным адчуваннем. Сустрэча з сябрамі старымі (Жукаўскас [2], Ванаг) і знаёмствы з новымі. Выступленне — ад задумы, што выспела дома, праз хваляванне — да поспеху.

«Юрыдычнае абгрунтаванне». Раман «Майстар і

---

[1] Аскоцкі Валянцін Дзмітрыевіч (нар. у 1931) — рускі літаратуразнаўца і крытык.

[2] Жукаўскас Альбінас (нар. у 1912) — літоўскі пісьменнік.

сыны» ўпершыню перакладзены на рускую мову і выдадзены ў 1968 годзе, калі ўжо я напісаў большасць усяго пра маіх Крызасаў. А Цвірку, аказваецца, пракалі ў перайманні «Кала Бруньёна»... Агульная любоў, агульная мэта, на агульны наш чалавечы стол.

Што ж, дахварэем Цвіркам да канца,— учора сын прынёс мне з бібліятэкі «Франка Крука». Нехта сказаў бы: для двух выступленняў — у Вільнюсе і ў Маскве — такая падрыхтоўка? Я сам у сябе пытаюся: гэтай прывычнай вучобай сваёй, пажыццёвай — да чаго ты рыхтуешся? Ды проста інакш не ўмею, не магу. І ўжо грунтоўна, неаднойчы пераконваўся, што гэта прыдасца, што гэта — патрэбна.

* * *

Здаецца, хутка закончу слова пра Мележа, хоць бы ў першапачатковым выглядзе. Дайшоў да дзвюх пасмяротных публікацый, з'ездаўскай прамовы і «Парсючка» і спыніўся: трэба прадумаць, настроіцца.

З запісаў больш як трохмесячнай даўнасці, калі перачытваў «Мінскі напрамак»:

1. Відаць прафесійнасць, вопытная рука, але ж і ажыўляць сям-там схему нанава — вельмі нялёгка.

2. Не ўсё тое, што *трэба аўтару і раману*, чытаецца цікава, хоць бы з нейкім трохі хваляваннем, а калі ўжо што чытаецца — значыць, яно *патрэбна* ў сапраўдным значэнні гэтага слова.

3. Працавіты, упарты, аднак, каб не знайшоў *свайго* — нічога не памагло б. А з «Людзьмі на балоце» — шчаслівае спалучэнне: свая, запаветная тэма плюс працавітасць, упартасць, культура.

4. Тое, што мы, маладыя пісьменнікі, калісьці, у саракавых—пяцідзесятых гадах, чыталі адзін аднаго ў рукапісах, а потым абмяркоўвалі калектыўна, было і добра, і дрэнна. Добра — дапамагай сябру, а дрэнна — падгонкай яшчэ адной рэчы пад тагачасны стандарт.

* * *

Перад смерцю, хварэючы, ён лёгка плакаў, калі прыходзілі сябры. Не гаварыў, не мог, а плакаў. Слязьмі выходзіла не выказаная ў жыцці — у нялёгкім жыцці — дабрата.

Успамінаючы Пальчэўскага.

...«Грошай студэнтам, бедным вясковым хлопцам, я не даваў. Казаў такому: «Ідзі, браток, да мяне, там цябе мая мама накорміць». Яна звычайна варыла многа баршчу. Дзеля гэтага».

Успамінаючы Малышку. Перад тэлевізарам. Канцэрт прысвечаны Майбарадзе, многа твораў якога — на Андрэевы словы. Асабліва «Рушнічок» у выкананні Гнацюка, якога я — іменна з гэтай песняй — першы раз бачыў і чуў дваццаць гадоў таму назад, у Кіеве, дзе таксама, калі ўступілі скрыпкі, адчуў высокае хваляванне.

...«Смех зрителей для меня ничто: каждый дурак может рассмешить. Я хочу видеть сквозь этот смех слезы.

...Меня никогда не впечатляла отвага укротителя львов — ведь, войдя в клетку льва, укротитель, по крайней мере, находится в безопасности от людей. А хорошо накормленный лев куда как более безвреден, чем люди. У него нет ни идеалов, ни религиозной, ни партийной, ни национальной, ни классовой принадлежности; нет, короче говоря, никакой причины, чтобы раздирать в клочья то, чего он не собирается съесть».

Чытаючы Шоў.

Усё гэта — у адзін позні вечар.

* * *

Лепш за ўсіх ведаючы, што з ім было і да чаго дайшло, ён павінен быў бы жахліва закрычаць, а ён маўчыць — і мы зноў нічога не ведаем.

Успамінаючы, як выносілі ў апошні шлях — двух за тыдзень — Міколу і Алеся [1].

* * *

Днямі, чытаючы яшчэ адно напышліва-недалёкае інтэрв'ю, дзіўна, у ціхім шчасці жыццядайнай сціпласці, адчуў сусветны *калектыў* сумленных работнікаў *сапраўднай* літаратуры.

---

[1] Мікола Ткачоў і Алесь Пальчэўскі.



Чытаючы А. П. Сяргеенку («Рассказы о Л. Н. Толстом»), яшчэ раз — каторы ўжо?! — успомніў з растрапанага другога тома «Анны Карениной», які трапіўся мне ў 1932 годзе, як Левін выходзіў раненька з Ласкай на паляванне, а на небе быў месяц — «кусок ртути»...

Уздзеянне прастаты [1].



Учора, калі мы вярнуліся з Мінска (я — пасля пяці дзён у горадзе), сена каля адрынкі запахла так незвычайна, што падумалася: ці сказаў я пра гэта ў «Тройчы пра адзіноту»? Маленства прыгадалася — цераз пах сена. Мы ж тады прыехалі з Адэсы якраз перад сенаваннем, і гэты пах абрынуўся на мяне, пяцігадовага, усёй сваёй гарачай сілай.



У аўтобусе, слухаючы гаману мужчын (некаторыя пасля чаркі), успамінаў прачытанае перад ад'ездам у Макавіцкага [2], як Леў Мікалаевіч, у гутарцы з Сямёнавым [3], гаварыў, што ў параўнанні з народам, з яго працай, ён — нават Ён! — «гавно, дрянь»... А мы? А я?.. Адчайвацца? Ці проста лепш працаваць?



Пані пісьменніцы няма чаго сказаць, і ў зборніку сваіх «навел» яна як быццам шкрэбаецца моднымі кіпцікамі па шкле, па нейкай тэматычна дробнай ды прыблізнай блытаніне. З какетлівай, прэтэнцыёзнай усмешачкай вышэйшасці, з надзеяй, з разлікам на нейкі глыбакадумны падтэкст.

---

[1] Гэты і восем наступных запісаў зроблены ў пасёлку Крынічнае.

[2] Маюцца на ўвазе «Яснополянские записки» Д. П. Макавіцкага (1866—1921) — лекара і друга Л. М. Талстога.

[3] Сямёнаў Сяргей Цярэнцьевіч (1868—1922) — рускі пісьменнік.

* * *

Гільен [1] (з верша «Прозвішча»):

«Бо я ўнук, праўнук і прапраўнук нявольніка (сарамецца павінен іхні пан)».

Фідэль Кастра (з пісьма Карпенцьеру [2]):

«Шмат узнагарод можа змясціцца на грудзях аднаго чалавека. Аднак, калі ён адчувае, што сапраўдная веліч не можа існаваць у адрыве ад грамадства, калектыву, часткай якога ён з'яўляецца (...), тады ён варты найвышэйшай, найбольш вартаснай адзнакі: здзіўлення, прыхільнасці і пашаны свайго народа [3]».

* * *

Карціць запісаць пра Лужу, лясную, хутарскую вёсачку, не бачаную ад самай партызаншчыны. Ужо і ўспомніць не магу, і не пазнаў, днямі ходзячы там, у якую гэта хату мы, разведчыкі, спраўляючы выходны, прыязджалі са сваёй музыкай. Толькі адна танцорка помніцца добра, яшчэ падлетак, наймалодшая з трох дзевак у хаце, як яна — у цяжкіх ботах і ў самаробнай вязанай сукенцы — уставала ад прасніцы і танцавала з партызанам полечку «Галку», пад нашы мандаліну і гітару. Старанна, шчыра вытанцоўвала, руплівіца і ў гэтым.

У светлай хаце маёй траюраднай пляменніцы — яе амаль зусім сляпая свякроў з кіёчкам. Прыйшла са сваёй хаты, што побач з новай, сынавай,— з парога сказала не «добры дзень», бо ўжо раней, на двары павіталіся, а такое:

— Людскія галасы паслухаць хочацца.

У гэтым ужо адчулася нешта народна-эпічнае, а яшчэ больш тады, калі яна ў мяне, як пра кагосьці мне чужога, спыталася:

— А як жа там Віліта Грыбіха жыве?

І не здзівілася, што гэта — мая сястра, што яе ўжо, таксама старое, дзевяты год няма, а спыталася:

— Ці ж яна ў сваю хату вярнулася? Бо як хадзі-

[1] Гільен Нікалас (нар. у 1902) — кубінскі паэт.

[2] Карпенцьер Алеха (1904—1980) — кубінскі пісьменнік.

[3] Цытаты — з польскага часопіса «Literatura na świecie», № 2, 1979.

ла тут, бедная, пры тых нямцох, дык гаварыла мне: «Ой, Жучыха, ці хоць я калі ў сваю хату вярнуся?..»

І дзіўна мне, ледзь не сцішна было ад гэтай ужо *гістарычнасці* перажытага намі, і добра, што і мы, наша сям'я, радня, прымалі ў народным жыцці такі як след удзел.

* * *

Алесь Дудараў, «Святая птушка».

Недахопамі (гыганне, сюсюканне) нагадвае сёе-тое ў Рылька, а лепшым — Шукшына: энергія думкі, гумар.

І ёсць сваё ў яго апавяданнях: наша вёска, нашы людзі, сардэчная павага да чалавека.

* * *

Каб кветкі ляталі, яны былі б матылямі,— пісаў я. А ў Андэрсена («Кветкі маленькай Іды») так пра матылёў: «Яны зусім як кветкі і калісьці былі кветкамі».

Многа ў мяне падобных «адкрыццяў»?

Што ж, адкрытае іншымі ўсё не ўведаеш, не ўлічыш, пачуцці паўтараюцца, і бывае, што іх нельга не выказаць.

* * *

Светлы, росны, велічны спакой. Сонца ўжо ніштавата паднялося. З-за вялікага поля бульбы, з-за лясного кліна, з «вомшара» чуваць сардэчнае, шчымлівае курлыканне жорава (не аднаго ж!), а на тэлеантэну насела ластавак, якім цяпер, падхадзіўшыся з дзецьмі, ёсць як з самага рання пагаманіць па-суседску.

Гаспадар завёў за Нёман каня (сам у лодцы, а конь убрад) і, з аброццю, у мокрых рыбацкіх ботах, усміхаецца ў адказ на маю радасць, і пра жорава, і пра ластавак, і пра ўсю раніцу гаворачы: «Якая, Антонавіч, красата!..»

Цяпер я, спыніўшыся на грэбельцы, абапёршыся «сярэдзінай» на абамшэлую парэнчу, чую яшчэ і дзятлава пастукванне, і безымяннае цвірынькканне нейкай птушынай малечы, і ўспамінаю, як толькі што, ідучы

каля Нёмана, на хаду любаваўся качкамі ў завоіне, чуючы іх плюсканне вадой праз дзюбы.

...На ўзлеску каля «вомшара», дзе спадзяваўся пачуць жорава бліжэй. Няма іх тут, не чутно. Толькі два ціхія буслы, нібы апошнія, бо нашых, вясковых, дзён ужо некалькі не відно.

Зноў, як і летась у гэты час, шкада, што так мала я карыстаўся красой наваколля, так многа сядзеў у хаце над кнігамі... Недабор? Хай паўтараецца — хоць на сто год!

...А перад сном, у ложку, уздрыгануўся, ярка ўявіўшы сябе ў даўжэзнай труне... Потым адразу, амаль таксама ярка, успомніліся тыя палякі (многа чытаў і чуў пра гэта), якім, пасля гестапаўскіх катаванняў, перад расстрэлам вусны забівалі гіпсам...

Што ж, «куды ноч — туды й сон».

І для мяне вось прыйшла яна — светлая раніца.

Аднак жа не трэба і забывацца, што́ нас, магчыма, чакае, што́ нам рыхтуюць,— і такое на ўсю чалавечую сілу...

Згадалася і сёе-тое з таго, што пішацца пра вайну, тымі, хто ведае яе (скажам, Быкаў),— не проста лепшая або горшая літаратура, а памяць, жывая, крывавая памяць...

...Учора з цікавасцю прачытаў энергічную кніжку пра Леніна-чытача і, дакрануўшыся да той энергіі, нібы і сам памаладзеў — для працы, для жыцця.

* * *

Э. Капіеў, «Фронтовые записки».

А каб ён не загінуў,— няўжо не друкаваў бы сваіх нататкаў? Няўжо яны тады былі б менш шчырыя? Ці «дапрацоўваў» бы ён іх, ці друкаваў бы так?

...Усё-такі ён *пісаў* гэта, думаў надрукаваць, не думаў, што сам абавязкова загіне. Пісаў, бо не мог не пісаць.

...То выдатнае, сапраўднае *між іншым*, а то часамі і *літаратура*,— значна горш.

...«В записную книжку надо записывать не факты и не пейзажи, а мысли. Мысли приходят и уходят бесследно, а факты остаются, их можно, наконец, вы-

думать,— мысли же неповторимы, и то, что вчера волновало, ныне забыто и потеряно навсегда.

...Искренность — это бог честных натур, и молиться і обращаться к нему есть іх насущная потребность, хотя они и грешили на людях сознательно или по нужде.

...Идешь, идешь — о, хоть бы в конце пути был Великий океан, в который можно бы нырнуть, очиститься от скверны, от лжи, от боли, от горя!..»

Чыталася гэтымі днямі прыемна. Спачатку Энгельс, «Происхождение семьи, частной собственности и государства», а потым Капіеў. Усмак чыталася, як быццам не начытаўся за век.

* * *

У новых апавяданнях — адарвацца ад самога сябе, ад свае біяграфіі, ад тых «памятаю», «успамінаю», у чым мяне, перакладаючы «Байдуны», справядліва папракаў Дзіма [1].

* * *

У тым, што памяць слабее з гадамі, таксама ёсць станоўчае: даўнія пісьмы і запісы чытаюцца з большай цікавасцю.

* * *

Перагортваючы «На каждый день».

Я гэта ў свой час чытаў, як і «Круг чтения» і «Путь жизни» [2]. І падумалася цяпер, што некаторыя мае думкі (у запісах), магчыма, ідуць і адтуль...

А як разабрацца, што гэта — *толькі тваё?*

...«Личное — субъективное хорошо только тогда, когда оно полно жизни и страсти» [3].

---

[1] Дзмітрый Кавалёў.

[2] Кнігі Л. М. Талстога.

[3] Леў Талстой. З пісьма А. Фету. 7.X.1865 г.

# ЗМЕСТ

## УСЕ, ШТО ЎРАЖАЕ



## СЦЕЖКІ, ДАРОГІ, ПРАСТОР

**Брыль Я.**

Б89 Збор твораў: У 5-ці т. Т. 5. Лірычныя запісы і мініяцюры.— Мн.: Маст. літ., 1981.— 591 с., 4 л. іл.

У пер.: 2 р.

Пяты том склалі лірычныя запісы і мініяцюры.

Б $\frac{70303-135}{М\ 302(05)-81}$ падпіснoе ББК 84 Бел 7

Бел 2

*Брыль Иван Антонович*

*Собрание сочинений в пяти томах*

ТОМ ПЯТЫЙ

Лирические записи и миниатюры

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар А. А. Сляпцова. Мастак Л. Я. Прагін. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктары Трубач Т. В., Харко Я. Ф.

ІБ № 938

Здадзена ў набор 14.11.80. Падп. да друку 10.09.81. АТ 07635. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 31,10+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 33,2. Ул.-выд. арк. 26,69. Тыраж 13 000 экз. Зак. 1140. Цана 2 р. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23.